

Уладзімір Караткевіч,
Валянціна Браніславаўна (жонка)
і Валянціна Шчадрына. 1977 г.



Уладзімір Караткевіч з супрацоўнікамі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. *Злева направа:* Адам Мальдзіс, Уладзімір Караткевіч, Анатоль Верабей, Васіль Жураўлёў. 1979 г.



Уладзімір Караткевіч у Тураве.
1980 г.



Уладзімір Караткевіч
са сваім дзядзькам Ігарам Васільевічам Грынкевічам.
Рагачоў, 1981 г.



Уладзімір Караткевіч з арнітолагам Прыпецкага дзяржаўнага запаведніка Вадзімам Пятровічам Клакоцкім. Тураў, 1980 г.



Уладзімір Караткевіч.
1981 г.



Уладзімір Караткевіч на Прыпяці.
16 ліпеня 1984 г. *(апошні здымак).*

# Уладзімір Караткевіч

## ЗБОР ТВОРАЎ У ВАСЬМІ ТАМАХ

*Рэдакцыйная калегія:*
С. А. АНДРАЮК, Р. І. БАРАДУЛІН, І. А. БРЫЛЬ, В. У. БЫКАЎ, В. В. ЗУЁНАК, Г. В. КІСЯЛЁЎ, Н. С. КУЧКОЎСКАЯ, А. І. МАЛЬДЗІС

*Рэдактар тома*
В. В. ЗУЁНАК

*Укладанне, падрыхтоўка тэкстаў і каментарыі*
Л. М. МАЗАНІК

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ

## СМЕРЦЬ І НЕЎМІРУЧАСЦЬ

*Трагедыя ў трох актах,*
*трынаццаці карцінах*



## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

СЕЙБІТЫ:

Беларусь.
Кастусь Каліноўскі.
Арсень Станевіч — сябра Кастуся.
Караліна Яцына.
Вастравух — камандзір атрада інсургентаў.
Юзэфа Яневіч.
Пан Заруба.
Бронюс Марцявічус — кінжальшчык.

АРАТЫЯ:

Пархвен Бабаед
па мянушцы Чортаў Бацька.
Яўхім Барданос.
Яўхіміха.
Чорная плакальшчыца.
Агей Блажэнны — юрод.
Баба Гарэліха — удава.
Ігнась Шосцік.
Нямы Ян.

КРУМКАЧЫ:

Граф Міхаіл Мікалаевіч Мураўёў.
Імператар Аляксандр II.
Жандарскі палкоўнік Лосеў.
Палкоўнік Цаплін.
Капітан фон Юнген.
Паручнік Гогель — член следчай камісіі.

ІНШЫЯ:

П а с л а н е ц б е л а г а ж о н д у.
В і т а ў т П а р а ф і я н о в і ч.
М а р ы я Г р э г а т о в і ч.
С т о ц к і.
М а д а м д э С а л ь е.
П а л к о ў н і к Ш а л г у н о ў — старшыня следчай камісіі.
П а л к о ў н і к б а р о н Т ы з е н г а ў з е н.

Сяляне, прахожыя, салдаты, натоўп, госці на бале, члены следчай камісіі і трыбунала.

*Дзея пачынаецца ў маі 1863 — канчаецца ў сакавіку 1864 года.*

# АКТ ПЕРШЫ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Яшчэ перад тым як падымаецца генеральная заслона, чуваць далёкія, жудасныя па сіле і журбе, гукі старадаўняй песні. Гэта «Дарота»... На саматканым чынаватым палатне заслоны скачуць адбіткі далёкага агню. І вось перад заслонай узнікае ж а н ч ы н а ў ч о р н ы м. У яе журботнае аблічча з прадоннямі чорных вачэй. Вялізны цень жанчыны рухаецца ва ўспышках зарыва, то ападаючы, то вырастаючы амаль да столі.

Ж а н ч ы н а.

Я — Беларусь... Я — чорная зямля...
Я — маці ўсіх дзяцей маіх.
І ўсіх гасцей, што прыйдуць з добрым словам
На берагі маіх празрыстых рэк.
Нямнога, пэўна, знойдзецца такіх,
Што злом мяне успомняць. Толькі тыя,
Што смерць прыносілі ў мае палі
І зараз спяць на дне маіх курганаў.
Я — перад вамі... Паглядзіце... Рукі...
Стагоддзі працы — шрамамі на іх.

Я — ў чорным. Але быць бы мне ў барвяным
Ад рэк крыві, што працяклі па мне...
Якой была я светлаю дзяўчынай!
Ў каралах арабін, ва ўборы ясным
З зялёнага атласу і ў сапфірах
Маіх азёр бязмежных і крыніц.
І цар прыслаў — мяне ў рабыні сватаць —
Сваіх паноў з мячом, свінцом, агнём...
І вось я скінула свае уборы
І чорны плашч усклала. Ў соты раз.
Але ў бясконцых, страшных гэтых бедах
Не апусціла я сваіх вачэй...
Вы, што глядзіце зараз мне ў зяніцы,
Вы, светлыя, вы, добрыя, вы, дзеці
Вялікія мае, павінны ведаць
Паданні краю.
Вось, вазьміце крылы,
Якія Вас туды перанясуць...
І уявіце, што якраз сягоння
Рассыпаліся вёскі і палацы
Чырвоным жарам. Шыбеніцы страшна
На раздарожжах стогнуць па начах...
Па жылах рук маіх ідуць салдаты,
І валяць родны лес наўсцяж дарог,
І паляць пушчы, каб ніхто не здолеў
Схавацца там са зброяй і страляць
Па карніках. Яны ж паўсталі, дзеці,
Не вытрымалі рабства і цяпер
Ляжаць, забітыя рукой варожай,
Між зрынутых калон маіх лясоў.
Не будзе дрэваў — і мяне не будзе...
Паслухайце... Вось... Вось яшчэ... Яшчэ.

Здалёк, глухія і нерэальныя, далятаюць, мацнеюць, гучаць, гучаць удары сякер.

І уявіце, што сягоння, зараз,
Выходзяць лепшыя сыны змагацца.
І рог гучыць. І раўкаюць гарматы.
І мужыкі, што верылі спачатку
Ў цара, цяпер за лепшымі ідуць.
Узняўшы вілы ў зарыва... І гэта
Зрабіў адзін з сыноў маіх... Кастусь.
Сын той зямлі, што несла крыж пакуты...

І тут узмывае страшная, на мяжы голасу і адчаю, песня-лямант «Дарота».

А Дарота крыж нясе
Па сцюдзёнай па расе,
Па папёлах стылых,
Па пажарах дымных
Нясе...
Нясе...
За ўсіх бедных людзей
Па палёх яна ідзе...
Ідзе... ідзе...

Беларусь. Глядзіце! Успомніце! Прыходзіць час!..

Уздымаецца заслона.

Закінуты вадзяны млын пад Бахарэвічамі. Грэбля парасла дрэўцамі, лес прысунуўся амаль да самых сцен... Чортаў Бацька і баба Гарэліха глядзяць у глыбіню сцэны, адкуль чуцен далёкі шум натоўпу.

Гарэліха. Куды гэта народ сыпануў? Га, Чортаў Бацька?

Чортаў Бацька. Паўстанца ловяць... Паныча... Ішоў нібыта па дарозе сюды.

Гарэліха. А Яўхім наш... Сокал-мужык!..

Чортаў Бацька. Над пешым арлом і варона з калом... Але ніштo — сокал...

З'яўляецца падарожны вандроўнік у лапленай сялянскай світцы, з торбай за плячыма, з трохгранным кіем у руках. Бахматая галава, густыя бровы, доўгія вусы.

Падарожны. Дзень добры на славу божую.

Чортаў Бацька. Ветлівы... Па-нашаму... Здароў, вандроўнік.

Падарожны сядае побач з імі.

Хто будзеш?

Падарожны. Павей-вецер, дзядзька. Хаджу, зямлю нагамі штурхаю.

Чортаў Бацька. Я і гляджу, лёгкі ты на хаду. Як ляціш...

Падарожны. Што, сябры, ці не было тут хлопца, светлавалосага такога, высокага?..

Чортаў Бацька. А табе чаго?

Падарожны. Ды так... Таварыша павінен быў тут сустрэць.

Гарэліха (*бурчыць*). Сустрэнецеся ў ката на дыбе... Носіць тут...

Чортаў Бацька. Змоўч ты, Гарэліха... Гэта наш чалавек... Мужык.

Падарожны. Дзякуй, добры чалавек... Ну, як тут у вас жыццё?

Чортаў Бацька. Не жыццё, а выццё...

Падарожны. Паўсюль так. Сам бачыў. А мураў ёўцаў не чуваць?

Чортаў Бацька. Каго?

Падарожны. Новага намесніка цар прызначыў. Мураўёва. То яго салдаты.

Чортаў Бацька. Не чуваць. А ў наваколлі паляць-такі вёскі.

Падарожны. А што народ?

Чортаў Бацька. А што народ! Народ паноў б'е...

Падарожны. Якіх паноў?

Чортаў Бацька. І вінаватых, што паўсталі, і невінаватых.

Падарожны. Ды нашто?

Чортаў Бацька. Невінаватых пад шумок. Усё лягчэй мужыку. Тым больш — разбірацца не будуць. Унь мужыкі сёння пана Зарубу на хутары вырашылі памацаць. А вінаватых, злачынцаў царскіх, тых, што ў лясах са зброяй,— тых цар загадаў.

Падарожны. Як цар?

Чортаў Бацька. Поп казаў у нядзелю, што, маўляў, гэта паны, што прыгон вярнуць хочуць. Цар вызваліў, дык яны паўставаць. З амбона казаў — не брэша.

Падарожны. Дык гэта ж няпраўда...

Чортаў Бацька. А ты хто такі, што лепей за папа праўду ведаеш?

Падарожны. Поп нават пра дзяцей сваіх усёй праўды не ведае. Пра тую праўду спытай у пападдзі ды ў паповага найміта.

Чортаў Бацька. Гэ... Наконт нашага папа — як у ваду глядзеў...

Падарожны. То што ўсё ж вашы мужыкі рабіць збіраюцца?

Гарэліха. Скора ўбачыш.

Падарожны відавочна непакоіцца.

Падарожны. Чаго-то вы тут седзіцё? Як пры-

клееныя, як госці... «Надвор'е якое цёплае. Каб быў госцем — даўно б дахаты пайшоў».

Чортаў Бацька. Ды тут зараз народу будзе — поўна... О! Спаймалі-такі... Вядуць...

Здалёк чуваць гоман натоўпу.

Падарожны. Хто вядзе? Каго?

Чортаў Бацька. Царскага злачынца. Яўхім, мужык наш, аблаву на яго збіў... Хто за цара і бога — бі паноў.

З-за дрэў сыпануў на прагаліну віруючы сялянскі натоўп: бабы, мужыкі, дзяды. У руках цапы, доўбні, сякеры. Вядзе натоўп Яўхім Барданос, сталы, страшнаватага выгляду мужык. З ім ягоная жонка з аглаблёй. Пярэднія мужыкі цягнуць Вастравуха. Яму, відаць, давялося паспытаць кухталёў. За імі другія цягнуць звязанага Зарубу. Народ кіпіць.

Яўхім. Цягні іх, хлопцы! Бі! Сячы галовы!

Яўхіміха. Бач ты, з іхніх зажывошчаў нам хаты спаляць. Зброю ім! Прыгон!

З Вастравуха зрываюць перавязь.

Галасы. Злодзей нясыты! Чамарка панская! Давай тапор! На пень яго! На пень!

Падарожны, рассоўваючы людзей, ідзе да пня.

Падарожны *(ціха)*. Вастравух... Бог ты мой, што з табой зрабілі?!

Вастравух *(спакойна)*. Хрыста таксама распялі людзі, для якіх ён жыў.

Перад ім стае Яўхіміха.

Яўхіміха. А ты галодны рот печкі бачыў, Хрыстос?

Вастравух. Баба бедная, гэта ж мы за вас... Супраць бацькоў сваіх... за вас!..

Яўхіміха. Пан мужыку тлумачыў: «Гэта, мужык, атлас». А мужык яму: «Ад нас, паночку, ад нас». *(Са страшнай іроніяй.)* Ты — пан. Ты «за нас», як воўк за авечую шкуру.

Маўчанне.
Вастравух зразумеў. Стае на калені перад пнём.

Вастравух. Што ж, вазьміце жыццё. Яно — ваша.

Яўхім бярэцца за сякеру. Падарожны праціснуўся да яго. Якраз у гэты момант з'явіліся на грэблі Арсень Станевіч і Караліна.

Арсень. Вядзі хутчэй да ваяводы. Тэрміновыя весткі з Вільні, панна Караліна.

Караліна. Ды Вастравух якраз тут, ля млына, павінен быў сустрэцца з кімсьці...

Арсень. З ім якраз...

Караліна *(убачыла людзей)*. Божа!.. Арсень, глядзіце!

Уражаныя, яны застылі.
Потым Арсень адштурхнуў Караліну за дрэвы.

Яўхім *(Вастравуху)*. Ты хто такі?

Вастравух. Камандзір атрада паўстанцаў.

Яўхім. Маліся... Замольвай апошні грэх.

Падарожны. Які грэх?

Яўхім. А ты хто?

Чортаў Бацька. Ды наш... Мужык ад чобатаў да гаворкі... Вандруе...

Яўхім. Сляпы... Мужык галадае, мужык памірае. Цар мужыку долю даў. І знайшлася сабачая парода, што супраць загаду цара... Каб прыгон вярнуць, стайні, каб маці ад дзяцей асобна прадавалі... *(Узняў сякеру.)*

Падарожны *(з пагрозай)*. Стой! Што робіш?! Ты яму жыццё даў, каб адбіраць? Ты, відаць, з дзяцінства такі: тварык бяленькі, ды на вуме мяленька. Яны за цябе воляй, шчасцем, жыццём рызыкуюць... А ты... багаты дужа... Скарбы табе такія кожны дзень пад ногі сыпалі... Зірні яму ў вочы, ты, чакуха драўляная... Могуць быць такія вочы ў гада?..

Паўза.

Арсень. Самасуд. Схопяць.

Караліна. Такога адважнага? Не-е. Хто гэта?

Арсень шэпча ёй на вуха.

Што будзем рабіць?

Арсень. Пачакаем... *(Выцягнуў пісталеты і паклаў іх перад сабой на пень.)*

Яўхім. Ды цябе чаго яшчэ слухаць? Ты хто такі, кіслая шэрсць, каб парады даваць?

Падарожны стаў на пень. Зрывае парык і вусы, адкрываючы вельмі малады твар з гарачымі вачыма. Скідае світку. Пад ёй

чамарка падпяразаная срэбным поясам. За поясам два пісталеты з залатой насечкай, вялізныя, старыя.

Падарожны. Я — вярхоўны ваявода паўстанцаў Гродзенскай губерні, Кастусь Каліноўскі.

Адхіснуўшыся, ахнуў натоўп.

Вастравух. Кастусь... Ты бачыш... Вось як яны... З сякерамі... Доўбнямі... Ловяць паўстанцаў. Аддаюць іх уладам... Нашто мне жыць?.. *(Рыданне раздзерла глотку Вастравуха.)* Нашто-о, калі я за іх?!

Яўхім. Слёзы табе выцерці?

Кастусь. І выцеры. Яны гэтага вартыя, такія слёзы. Табе такімі до-оўга яшчэ не плакаць. Слязьмі крыўды на свой народ... Ах-х, якая ж вы яшчэ цемра, якая слепата, калі — свае! — сваім галовы сячэце!

Гарэліха. Якія яны да халеры свае! Яблыкі з панскага дрэва.

Кастусь. Яны свае, баба. Яны ўпалі са сваёй яблыні і адкаціліся на мужыцкую ніву. Чаму ты пайшоў у лес, Вастравух?

Вастравух. Бацька абразіў маю маці... Ён мяне пракляў, калі я пайшоў у лес. А я не мог не ісці. Бо гэта такія, як мой бацька, запраўляюць у воласці, царкве, судзе, турме. У павеце, губерні, сенаце, на...

Кастусь. Стой, Вастравух, далей не трэба... З часам... *(Да мужыкоў.)* Самі бачыце... Людзей з хворым сумленнем, дзяцей, якія зразумелі падман бацькоў, вы — сякерай. А падман **будзе**, калі яны не перамогуць. На вас будзе вісець! На дзецях вашых! *(Паказаў на маладзіцу, якая гадуе грудзямі дзіця.)* Ну вось ты... Сын гэта?

Маладзіца. Сын.

Кастусь. Мужык. Падман чыноўнікаў будзе вісець і над ім. Будзе ён расці, твой сын, Яўхімаў, мой, цароў брат. Будзеш ты яго макам паіць, каб не вякаў, не перашкаджаў жаць чужое поле... Стане хлопчыкам, вучыць трэба. А школа ёсць?

Чортаў Бацька. Раней на стайні была. Цяпер — у воласці. Порткі ў руках трымае.

Кастусь. А ўрад адно скубе з вас падаткі. А між

тым не вы для ўрада. Урад для вас. Без вас яны, няробы, з голаду здохнуць.

Маладзіца. Што ж з ім далей будзе, дзядзька?

Кастусь. А далей пачне яго ўрад вучыць, як жыць. Затлуміць галаву, навучыць пляваць на розум, на цябе, маці. А захоча праўды — павязуць туды, дзе бабы бялізну мыюць, а пранікі на неба кладуць. Маці прымусяць забыць, сумленне, свой народ.

Сям-там пачынаюць усхліпваць бабы.

А потым за ўсю працу — крыж струхнелы. І канец.

Караліна. Іншыя — гавораць. Гэты — як душу аддае.

Арсень. І якую душу...

Кастусь. Не. Ён, і я, і ўсе іншыя такія пакляліся апошняй клятвай жыццё аддаць, каб твой сын быў шчаслівы... Ты, Вастравух, жыццё сваё аддаў бы за яго?

Вастравух *(проста)*. Я аддаваў.

Кастусь. Мы ўсе аддаём. Мы часам знемагаем. І я прашу вас, мужыкі Бахарэвічаў, калі не хочаце самі паўставаць — хаця не перашкаджайце, не дапамагайце свайму і нашаму ворагу.

Чортаў Бацька. Што ж мы, за чужой спіною сядзець будзем?

Кастусь. Сядзіце, калі хочаце. Чыноўнікі, каб вы нас не падтрымалі, глядзіш, яшчэ і зямлі вам прырэжуць. Узнагародзяць за дурасць... А колькі мужыкоў ідзе з намі! І тут, і на Магілёўшчыне, і паўсюль. І паўсюль, дзе перамагае іхняя сіла,— у мужыкоў зямля, воля, мова, слава. І няма над імі ніякай улады, акрамя іхняй справядлівасці. Няма ўжо ні чыноўніка, ні пана, ні хама. Ёсць — Людзі.

Яўхіміха падыходзіць да Кастуся.

Яўхіміха. Пакажы вочы. Адкуль жа гэта ты такі адчайны? Ты што, бессмяротны? Маці не шкадуеш?

Кастусь. Я не памятаю маці. Рана памёрла. Няма каго шкадаваць. У мяне, жанчына, адна маці.

Яўхіміха. Хто?

Кастусь. Наша зямля.

Паўза. Яўхім раптам з сілаю ўвагнаў лязо ў пень ля ног Кастуся. Кастусь непарушны. І тут завірылі людзі вакол Вастравуха, вызваляючы яго.

Вастравух. Што ты хацеў перадаць маім хлопцам, Кастусь?

Кастусь. Тое і хацеў. Усуперак кіраўніцтву паўстання — трэба абапірацца на мужыка.

Вастравух. Бачыў? Галовы сякуць.

Кастусь. І няхай. І менавіта таму — ідзі насустрач. Пераконвай. Без іх — канец.

Арсень з Каралінай праціснуліся да Кастуся.

Ты, Арсень?

Арсень. Я. *(Амаль шэпча.)* Слухай мяне, Кастусь. Белы віленскі ўрад распаўся. Спалохаліся мураўёўскіх шыбеніц. Галава ўрада знік з Вільні ў невядомым кірунку.

Кастусь. На рэвалюцыях таксама робяць кар'еру.

Караліна. Я глядзела на вас. Мяркую, вам гэта будзе па плячы... Трэба ехаць туды, ратаваць.

Яны стаяць і глядзяць адно на аднаго. Потым Кастусь працягвае руку.

Кастусь. Кастусь Каліноўскі.

Караліна. Караліна Яцы́на...

Кастусь. Даўно з намі?

Караліна. З лютага.

Кастусь *(з пашчотай).* Паўстанка.

Караліна. Што вы! Я баюся навальніц.

Арсень. Нічога яна не баіцца. Сувязная — якіх мала.

Кастусь. А чаму мяркуеце, што мне трэба ў Вільню?

Караліна. Вы ж такі, што самі не ўседзіце...

Кастусь. Кінуць нельга. А вы хіба застанецеся?

Караліна. Не... Бадай, таксама пайду.

Арсень. Ты нядрэнна трымаўся, чалавеча.

Кастусь. Вось да чаго дайшло, да чаго давялі, да якой цемры, дзікунства! Якая прорва між намі! Як жа нам не ўмяшацца?

Яўхім. Бабы нашы тут... разрумзаліся... А я табе не да канца паверыў, атаман. Быў тут адзін з вашых, напрадвесні. То ён казаў: «Зямлю — не чапаць! Паноў бессардэчных — не чапаць». Як гэта так?

Кастусь. Паўстанцы таксама розныя. Тыя, што вучылі вас пакоры, раілі вам не чапаць зямлі,— гэта

людзі Белага жонду, а па-нашаму — урада. Яны толькі што ўцяклі з Вільні, спалохаліся.

Чортаў Бацька. А вы хто?

Кастусь. А мы не спалохаемся. Мы, чырвоны ўрад, гаворым: зямлю — браць. Паноў лютых — вешаць. І благаслаўляем вас на гэта. Белыя здрадзілі — выспятка ім. Затое мы — за вас. Да канца.

Натоўп між тым выштурхнуў да пня звязанага пана Зарубу. Заруба стаіць, па-маладзецку выпнуўшы жывот.

Яўхіміха. А вось яшчэ адзін... З гэтым што рабіць?

Кастусь. Ён хто?

Гарэліха. Ён не з лесу. Ён проста пан.

Кастусь. Вы разбярыцеся справядліва, людзі!

Заруба глядзіць яму ў вочы і з пагардаю варушыць вусамі.

Хадзем, Арсень.

Караліна. Я цяпер не хачу сустрэч са сваімі людзьмі. Таму што за кожнага новага... знаёмага даводзіцца баяцца. Вось цяпер... за вас...

Кастусь. Вы так не хочаце ўраганаў?

Караліна. Я люблю сонца, Кастусь.

За іхняй спіною загуў натоўп.

Што там такое?

Кастусь. Адвядзі яе, Арсень. Баюся, для таго пана справа скончыцца дрэнна.

Караліна. І нічога нельга?.. Ах, гэта... страшна...

Кастусь. Я не ведаю, што гэта за чалавек. Але я пастараюся не даць ім яго. *(Ідзе да натоўпу.)*

Яўхім. Адзін ці два — цару напляваць. А нам лягчэй... Адным над намі — меней!

Зарубу заламілі за спіну рукі.

Чортаў Бацька. Ражна з'ясі. Мне цяжка нават і курку.

Яўхіміха *(вырываючы з рук мужа сякеру)*. Дай мне... Я пакажу гэтаму панку.

Яўхім *(зноў вырываючы сякеру)*. Пабойся бога, баба, як з табою мне пасля такога спаць?

Яўхіміха. Не наспаўся? Васьмёх дзяцей прыжыў, а тут будзе чувырла вараціць. Сякеру давай!

Я ў х і м. Адкасніся... Што, ніхто не хоча? Відаць, што мне трэба. *(Паплявау на рукі.)* Маліся, пан.

З а р у б а *(насмешліва).* На каго маліцца? На цябе, басурман ты мардасты? Бачыце, дарваўся. Хоча звязанага Зарубу зарубіць. Каб з цябе на тым свеце чэрці ўвесь час капусту шаткавалі.

Смяшок у натоўпе.

Каб яны з цябе калоду драбілі дровы секчы, каб з цябе ўжо. Каб твая жонка замест дзевятага вырадка ахапак крапівы нарадзіла.

Ч о р т а ў  Б а ц ь к а. Справа не з цяжкіх. Народзіць.

З а р у б а. Дзевятага дурня... У бацьку пойдзе. Прысніся такі Барданос — памрэш у сне ад жаху.

Рогат.

Гэй вы, мякінныя галовы, гродзенскія гракі, бручкаеды, бульбаглоты, глядзіце, як памірае беларускі дваранін, тысячу д'яблаў і пудовую свечку кожнаму з вас...

Рогат.

Г а р э л і х а. Чаго ж ты лаіссі, чаго?!

З а р у б а. З вамі іначай — як? Вы ж, халеры, і памерці, як я, не сумееце.

Я ў х і м. Заторкніся!

З а р у б а. Гэта часам не ты, Яўхім, сваю варону ў Вільні пазнаў?

Я ў х і м і х а. Не руш мужыка!

З а р у б а. Гэта часам не ты па бабскім сваім разуменні свінню за губернатара палічыла?

Рогат.

І ці не ты гэта, Гарэліха, на ўвесь вялікі пост пеўня ад курэй адсаджвала, каб не грашыў, а потым здзіўлялася, чаго гэта пад квактухай адны баўтуны?

Г а р э л і х а. Цьху!

Я ў х і м. Досыць.

Зарубу цягнуць да пня.

З а р у б а. І ці не вы гэта ўсе, скупеча ненажэрная, тэльбушына прагная, караля не еўшы спаць паклалі?.. *(Перад плахай.)* Стой. Пусціце рукі. Глядзі,

Беларусь, як паміраюць твае фанфароны-рыцары! Пляваць ім на гэтыя пасконныя пузы. Не баяліся каралёў — не збаімося кароў... Гэй, божа ласкавы, падрыхтуй там для свайго Зарубы кварту мёду ды пару грэшніц з пекла выпусці... Га? Як для пакутніка...

Сеў, абхапіў пень нагамі. Мужыкі з нейкім нават спачуваннем ляпаюць яго па спіне. Чуваць выгукі: «Нічога, хлопча»; «Не палохайся»; «Гэта ў нас хутка». Паспрабавалі нахіліць яму галаву.

Прэч! Я на калені не стаў. То і пню сам пакланюся. Лепей дубоваму пню, чым вам, пням стаяросавым.

Кастусь. Чакайце, мужыкі... Чортаў Бацька, я вам гэтага чалавека не дам...

Чортаў Бацька. Гэ-эх... *(Голасна.)* Гэй, Гарэліха!

Гарэліха. Чаго ты яшчэ, чаго ты лопаіссі, п'янюга?

Чортаў Бацька. Можа б, і ты з ім?

Гарэліха. Чаго гэта?

Чортаў Бацька. Хоць з панам разам паляжыш. Унукі ганарыцца будуць.

Рогат.

Во, маўляў, у нас бабця была.

Галасы. Давай, Гарэліха! Карыстайся! А можа, даць ім часу да раніцы?

Заруба *(узняў галаву).* З гэтай? Свят-свят-свят! *(Паклаў галаву.)* Сячыце лепей адразу, чым такую пакуту мецць.

Дабрадушны рогат.

Рагочуць. У дурня і песня дурная.

Яўхім. Чаго гэта мы — дурні?

Заруба. А то разумныя?.. Сядзеў я на вас задам, а сячэце вы мне чамусьці галаву.

Галасы. Га-га-га, го-го-го, гык-гык-гык!

І тут разрагатаўся ўжо і Яўхім. Рагоча, кінуўшы сякеру.

Чортаў Бацька. Кастусь, га Кастусь! Ну што з ім, чортам, рабіць?

Кастусь. Ды ён жа, па ўсім відаць, не можа быць жорсткі...

Яўхім. Не.

Кастусь. Астатніх як хочаце. А гэтага... гэтага я ў атрад узяў бы. Ма-лай-чы-на! Нашага духу чалавек! Смехам віруе, як кацёл... Ну што, громакіпячая бочка, пайшоў бы з намі?

Заруба. Ты — смелы. Сабой прыемны. Але якога гэта я д'ябла бяспятага з вамі пайду?

Кастусь. А таму, што ты смяешся. Нават сярод пакут... Ты — месца апошняга ўспакаення курэй, гарэлкі і бульбы. Таму што любіш Беларусь.

Заруба. А вы за што?

Кастусь. За тое, каб паўсюль смяяліся і жартавалі.

Заруба. Недзе хіба не жартуюць?

Кастусь. На троне не жартуюць. Трон, ці ведаеш, неяк не хіліць да нястрымнай весялосці.

Заруба. Дык вы вось куды?.. Ф'ю-ю...

Кастусь. Што, страшна?

Заруба. Ды не... *(Паважна.)* Што ж... *(Падае Кастусю руку.)* Дав-вай пасмяёмся.

Рогат.

Чортаў Бацька. Што, брат Заруба, трошачкі... таго... перапалохаўся?

Арсень. А тут яшчэ той Яўхім... Злез з печкі. Узрадаваўся.

Чортаў Бацька. Ён у нас такі. З'есць бульбы такую патэльню, што сучка мая не пераскочыць, а потым... сядзіць на печы, а б'е, як з горада.

Магутны рогат пакаціўся натоўпам.

Яўхім. Ото ж бо лэйбус.

Гарэліха. От дзе ж бо ўжо-ткі хіба такі!

Гоман. Цяпер убаку Арсень, Караліна, Кастусь.

Кастусь. Збірайцеся. І ты, Арсень?.. Не хапае там людзей.

Арсень. І я.

Чортаў Бацька *(зусім нечакана).* І я.

Кастусь. Чаго?

Чортаў Бацька. Мне губляць няма чаго... Ані вобраза памаліцца, ані вяроўкі задушыцца.

Кастусь. З намі пойдзеш, то што ўжо што, а вяроўку дадуць.

Чортаў Бацька. І тое набытак... Дыхаць, праўда, нельга, але затое відаць далёка...

Кастусь абняў старога.
І тут на грэблю вырываецца мужык.

Мужык. Яў-хі-ім!.. Тры роты салдат ідуць... Толькі што Вавёрыцы і Пнюхі спалілі... На нас ідуць. Пустыню робяць... Палкоўнік Цаплін ідзе...

Страшная паўза. Потым Кастусь узнімае рукі.

Кастусь. Карнікі ідуць. Без вашай віны — проста страшаць народ. І справа зараз не ў спрэчках. Зараз справа ідзе аб тым, што ў вас хаты спаляць... *(Вельмі ціха.)* Мы не спяшаліся. Не дапамагаеце цяпер — потым зразумееце, дапаможаце. Але тут... Але сёння... Драпежны звер ідзе... Без сэрца, без розуму, без сумлення. Ён разбірацца не будзе... Не нас шкадуйце. Пашкадуйце свае хаты, пашкадуйце дзяцей... Спрэчкі потым дагаворым.

Мужыкі стаяць, не рухаючыся з месца.

Д-добра... Вастравух — за сваімі людзьмі!

Караліна. Іх добра ля Сцюдзёнага Яра абкласці... Вастравух — коннікаў ля выхаду з яго. У гаі...

Кастусь. Паляўнічых — на хвоі. Са штуцэрамі... Да вёсак — не дапусціць... Хадзем.

Ідуць. У маўчанні, у цішыні — тупат ног.

Яўхім. Хлопцы, у вілы!!!

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Залпы. Далёкія залпы. Бязладнае з аднаго боку і магутнае з другога гучыць «Ура!». Поле бітвы, над якім пасмамі плыве парахавы дым. Ляжаць трупы паўстанцаў, мужыкоў, салдат. Далёкае гігатанне параненага каня. Кінутая зброя. Дым... Праз сцэну, ратуючыся, прабягаюць некалькі салдат. За імі Заруба з двума пісталетамі ў руках.

Заруба. Святы Юры і Белая Русь!.. Стой, кажу, званіцу святога Яна вам у пашчы! Стой!

Страляе. Знікае следам за салдатамі... Дым, дым над полем. Здалёк гучыць «Ура!». Між трупамі, напалову сагнуўшыся, прабіраецца палкоўнік Цаплін.

Ц а п л і н. Чорт... Чорт... Ах, чорт бы іх падраў... Чорт... Апамятацца не паспелі... Чорт.

Ён сядае і пачынае ліхаманкава сцягваць з сябе палявую афіцэрскую кашулю. Ціхі жаласны стогн. Цаплін насцеражыўся. Адна з нерухомых фігур прыўзнялася на рукі і, бяссіла пераканіўшыся, упала на спіну.

С а л д а т *(стогне)*. Брат! Брат! Дапамажы!

І, нібы ў адказ яму, аднекуль чуваць: «Братка! Братка! Ратуй!» Некаторы час, з інтэрваламі, ідзе нібы пераклічка стогнаў: «Брат! — Братка!» «Брат! — Братка!» Цаплін, нібы падумаўшы нешта, ідзе да салдата.

Пан палкоўнік?.. вы?

Ц а п л і н. Я... я... Дай здыму кашулю. Пагляджу, што і як.

С а л д а т. О-о, смертухна... Ратуй... Ты вёў — ты ратуй цяпер, калі ласка.

Цаплін здымае з салдата кашулю. На сарочцы кроў.

О-о... Дзякуйце за дабрыню, ваша...

Ц а п л і н. Кажы «ты»... Мы — салдаты... Адкуль?

С а л д а т. Казанскія мы... Мужыкі...

Ц а п л і н. І я казанскі...

С а л д а т *(задыхаючыся)*. Ваша высакароддзе... Няправедная гэта справа... Няправедная... Мужыкі, як нашы... Піць-есць хочуць... Гадаваць бы галодных, а мы страляем...

Цаплін, не звяртаючы ўвагі, нацягвае на сябе салдацкую кашулю. Сваю кідае побач з паміраючым. Салдат заўважае гэта.

Брат! Брат!

Цаплін ударае салдата нагой.

Ц а п л і н. Маўчы, чарналапатны.

Салдат траціць прытомнасць. Цаплін зусім быў сабраўся бегчы, але тут на поле рынуў узброены натоўп мужыкоў і інсургентаў. Сярод іх усе людзі з мінулай карціны.

З а р у б а. Стой! Стой, салдат, зарад карцечы і палікандзіла табе...

Цаплін падымае рукі.
Мужыкі заўважаюць ля параненага палкоўніцкую кашулю.

Г а л а с ы. Палкоўнік! Падмануць, пераапранушча хацеў! Кат! Віламі яго!

Кастусь. Не смець параненых! Стой! *(Да Цапліна.)* Хто такі?

Цаплін. Салдат... Крутаў Сідар... Цвярскія мы...

Кастусь. Што ж ты, салдат? Хіба гэта салдацкая слава, хаты паліць?..

Цаплін. З-загадана нам... Шпіцрутэны зноў жа... Дахаты б... Конь зноў жа...

Арсень. Пусціце яго, мужыкі...

Вастравух. Каго? Яго? А можа, гэта ён паходню пад страху першы ткнуў?

Яўхім *(змрочна)*. Мужык ён. Няма чаго нам з ім дзяліць.

Яўхіміха. Простыя людзі... Томна і ім...

Арсень. Няхай гэты ідзе. Досыць крыві. Няхай раскажа, што робім з тымі, хто прыносіць вялікі агонь.

Паранены захрыпеў і падняў галаву.
З хвіліну глядзіць Цапліну ў вочы.

Цаплін. Палкоўнік! Бачыш, супраць каго вёў? Пускаюць мяне. Высакароднасць якая! А ты, сволач! *(Ударыў параненага)*. Ты... На каго вёў? На братоў?!

Салдат. Браты!

Траціць прытомнасць. Цапліна закалаціла.

Яўхім. Бачыце? Хай ідзе... Ідзі...

Цаплін пайшоў. Наўздагон яму — вясёлы свіст. Пабег.

Баяцца нас, хлопцы.

У гэты момант з'яўляецца Чортаў Бацька, літаральна згінаючыся пад цяжарам ахапка кайданоў.

Караліна. Што гэта ён?

Чортаў Бацька. Гатовенькія везлі, паненачка... Каб на цёпленькіх надзяваць. Ці не возьмеце часам, пан Кастусь? Ці не возьмеце, пан Яўхім?

Людзі разбіраюць кайданы. Яўхім бярэ адны, як змяю, кладзе на рукі, важыць. На яго твары грымаса страшнай гідлівасці.

Яўхім. Гэта як жа... Мне?

Гарэліха. Што? Не хочаш?

Яўхім. Вось як... *(Кідае кайданы ўбок.)* Вось яно як...

Кастусь. Вось так... І штамп... «Імператарскі Пятроўскі завод»... В-вось так.

Кідае кайданы. Кідаюць яшчэ. Ляск... Ляск...

Вось так, людзі... Вось так, браты-мужыкі... Вось так, народ...

Гарэліха *(бярэ адну «змяю»).* Ланцуг зрабіць для калодзежа, ці што?

Чортаў Бацька. Л-ланцуг? Баба ты, курыныя твае мазгі, дурацкія, пакуль з лавы ляціш — сем дум перадумаюць... Досыць ланцугоў! У Нёман іх, хай глытае!.. Досыць...

Топча звінячую кучу. У гэты момант з крыкам «Ура!» увальваецца натоўп.

Мужык. Яў-хі-ім! Вастравух! Гарматы ў палон узялі! Аж чатыры!

Кастусь ідзе да Караліны, якая схілілася над параненым.

Кастусь. Што ты?

Караліна. Ранены — гэта проста ранены. Яго трэба лячыць.

Кастусь. І тут твая праўда... Як у вас рукі лётаюць... Як стрыжы над ракой...

Караліна. А вашы грубаватыя, гожыя, яны надзейна кладуць бінт.

Яўхім *(да Вастравуха).* Даруй... І ведай: цяжка нам дасталіся нашы хаты. Мужык дарэмна ніколі не бунтуе. Але вашых больш хапаць не будзем... братка.

Кастусь. Я раней не разумеў, чаго гэта хворыя, ачуняўшы, часта жэняцца з сядзелкамі.

Караліна. А цяпер?

Кастусь. Пачынаю разумець... Бо гэта — як добры лёс над табой... Часам, відаць, прыемна адчуваць сябе слабым.

Салдат падымае галаву.

Салдат. Каго адпусцілі, браты, каго?

Кастусь. Салдата.

Салдат. Цаплін гэта... Кашулю зняў... Палкоўнік... Апошні паход з намі быў... На Магілёўшчыну потым яго... пераводзіць... хацелі... Дзе пажар найбольш зыркі... Вешальнік... Вешаюць жа вас у Вільні... Вешаюць... Шкада...

Памірае. Кастусь і Караліна, разгубленыя, стаяць над ім, узяўшыся за рукі. А над імі зноў узлятае «Ура!».

Галасы. Ура ваяводзе! Ура атаману! Ура! Ура-а-а!!!

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Пакоі ў кватэры Юзэфы Яневіч. Куток прыхожай, у якой сядзіць Чортаў Бацька, і гасцінная. У гасцінай Кастусь, Караліна, Арсень, Пасланец Белага жонду. Гаспадыня кватэры сядзіць у крэсле, такая ўладная, што здаецца — пад ёю не крэсла, а трон. Кульмінацыя спрэчкі.

Кастусь. Мы з вамі не будзем, панове белыя. Не!

Пасланец. Як хочаце. Але варшаўскі Белы жонд забараняе вам рабіць стаўку на хамаў...

Арсень. Вашай забаронай мы...

Яневіч. Арсень, ты што, дзетухна, у карчме?

Арсень. Прабачце, цётка Юзэфа... Але яны — лішнія. Стаўленікі іхнія кінулі нас, а яны цяпер «забараняюць».

Яневіч. А яны, дзетухна, не кінулі. Яны проста ў разгар бунту ўспомнілі, што ў Парыжы не бывалі. Дай, думаюць, з'ездзім.

Пасланец. Ваш мужык — хам, здраднік. Яго радзіма там, дзе ён кучу гною растрасе. Пляваць ён на астатняе хацеў.

Кастусь. Гэта стагоддзі вашага панавання зрабілі яго такім.

Яневіч. Адсталыя, любчык, людзі. Немудрагелістыя, як барана. Пытаюся я нядаўна ў вясковага хлопчыка, чым яны пысы выціраюць, як памыюцца. А ён мне: «Татка рукавом, мамка — падалом, а я — сам сохну». Вось і растлумач ім, што ўсе яны цяпер вольныя, як старапольская шляхта.

Кастусь. Але ён устае, мужык радзімы. І калі вы не будзеце з ім — ён вас выкіне.

Пасланец. Такое паўстанне нам непатрэбна. Мужык лезе ў яго бруднымі лапамі, а не лезе, дык прадае.

Яневіч. Дзіўна. Тысячу год камандавалі — і не абрыдла ім!

Пасланец. Дваране ўмеюць ваяваць.

Чортаў Бацька (*голасна*). Яшчэ б, усе продкі разбойнічалі.

Пасланец. Яны ваююць лепш за мужыкоў.

Кастусь. Правільна. Сядзяць у лесе чалавек сорак. Хваляцца: «Я, бывала, як налячу на сотню казакоў з шабляй, дык усё палавінкі-палавінкі-палавін-

кі». Аж тут прыбягае вартавы: «Панове, казакі!» — «Колькі?» — «Пяць».— «Уця-кай-ма!»

Пасланец. Дваране! Чуеце, што ён кажа, гэты пёс? Героі, пакутнікі, чуеце? Дзе ваша мужная безнадзейнасць?!

Яневіч. Прыгожа як! Маткам іхнім радасць якая!

Арсень. Досыць істэрык.

Пасланец *(амаль суха).* Мы не дазволім вам ставіць вашы беларускія інтарэсы вышэй інтарэсаў вялікай Польшчы: да Смаленска і Кіева... Толькі з намі — іначай мы вам...

Чортаў Бацька. З кулька ў дзяружку.

Пасланец. І не смейце нават заікацца аб нейкай аўтаноміі.

Кастусь. Мы не заікаемся. Мы крычым аб правах і можам нават ударыць за іх. Бо абуджаецца свабодны народ.

Пасланец. Замест радзімы — трыумфуючы хам.

Кастусь. У нас свая радзіма.

Пасланец. Замест легенды — валока зямлі, замест рыцара — беларускі смерд, замест залатога сцяга нашага — ануча.

Кастусь. Гэта што, вельмі жахліва?

Пасланец. Нездарма, відаць, адзін з бясконцых вашых псеўданімаў — Хамовіч.

І тут раптам устае Караліна.

Караліна *(ціха).* А які псеўданім прыдумаць вам? Бізуновіч? Цемрашал? Посцілка-Здрадовіч?.. Не смейце нават глядзець на гэтых людзей, бо за іх любіш зямлю. А зямлю любіш за тое, што яны ёсць на ёй...

Яневіч глядзіць на яе.

Пасланец. Ах, якія крылатыя!

Караліна. І ў вас крылы. Толькі вы імі савіху ў цёплым гняздзе прыкрываеце. А ім яны — для палёту. Яны — суровыя. Што ім пяшчота і ўсмешкі, калі яны ўсё аддалі другой?

Арсень. І досыць жартаў! Малахоўскі меў рацыю. Няхай такія, як вы, хрыпяць на шыбеніцы перад ранейшымі сваімі неграмі.

Яневіч *(устае, ціха).* Вы тут крычалі аб Польшчы. Я — полька. І я ганаруся гэтым. *(На Кастуся.)*

А ён тутэйшы. *(На Караліну.)* І яна. І яны, разам з палякам Серакоўскім, бліжэй мне, чым вы. *(Цяпер яна велічная, амаль страшная.)* Польшча павінна быць вялікай. Але яна такой не будзе, пакуль вы не зразумееце, што яны не смерды, не рабы, а сябры, суседзі, якія маюць права на шчасце. Не зразумееце — будуць вас нішчыць, як нішчылі сто разоў. Не захочаце зразумець... Пархвен!

Чортаў Бацька *(з'яўляючыся).* Га!

Яневіч. Не захочаце зразумець — загадаю Бабаеду выкінуць вас у акно. Ідзі, Пархвен... Ён не будзе.

Пасланец *(цішэй).* Вас будуць біць.

Кастусь. Пакуль — мы б'ём.

У прыхожай званок. Чортаў Бацька прапускае двaіх людзей, захутаных у плашчы.

Чортаў Бацька. Каго любіш?

Марцявічус. Люблю Беларусь.

Чортаў Бацька. То ўзаемна. Што перадаць?

Марцявічус шэпча яму нешта на вуха. Чортаў Бацька ідзе ў гасцiную.

Чортаў Бацька. Пані Яневіч... Кастусь... Там нейкі Парафіяновіч.

Пасланец. Хто?

Арсень *(ціха).* Вітаўт Парафіяновіч.

Чортаў Бацька. І з ім яшчэ чалавек. Амаль за рукаў яго цягне... Кажуць, «над-звычайныя» вясткі.

Яневіч. Вядзі.

Чортаў Бацька выходзіць у прыхожую.

Чортаў Бацька *(Вітаўту).* Здымі плашч.

Вітаўт. Ты мне не загадвай — здымаць ці не здымаць.

Марцявічус *(глуха з-пад капюшона).* Пакінь яго. Там, відаць, паненкі, а ён ведае, што ў плашчы ён больш эфектны... Крылаты серафім...

Вітаўт. Памаўчаў бы. *(Глядзіць на Чортавага Бацьку.)* Мужык. Людзьмі аскудзелі, ці што?

Чортаў Бацька. Ты, здаецца, казаў, што Беларусь любіш?

Вітаўт. Ну...

Чортаў Бацька (*амаль сурова*). То і я... паныч... яе люблю. Давеку.

Заводзіць абодвух у пакой.

Кастусь. Вітаўт, ты? Здорава як!

Вітаўт. Вечар добры, Кастусь... Да ручак, пані Яневіч... Шчасліва, Арсень... Добрага сонца... дзяўчынка...

Паўза.

Кастусь. Вітаўт, што здарылася?.. Адказвай...

Вітаўт. Даношу аб разгроме. Паўстання на Магілёўшчыне больш не існуе.

Караліна. Што?.. Як?..

Вітаўт. Не ведаю. Пярэдняму краю цяжка...

Караліна. Цяпер паўсюль пярэдні край.

Кастусь. А дзе атрады Раўбіча, Грынкевіча, Загорскага?

Вітаўт. Бадзяюцца недзе, але арміі няма.

Паўза.

Вы, спадзяюся, не сумняваецеся ў маёй смеласці?

Арсень. Хлапецтва! Пры чым твая смеласць?.. Разгро-ом.

Пасланец. Нясцерпна. Але што я вам казаў?

Арсень. Знойдзеш сілу хвіліну памаўчаць?

Пасланец. Непрыемна? Закруціліся?

І тут нечакана аддзяляецца ад сцяны Марцявічус.

Марцявічус. Хлюсты паўстаннем кіруюць. Белая сволач. Вы ад іх чаго, перамог хацелі?

Караліна (*амаль з жахам, бо чалавек — страшны*). Хто гэта?

Марцявічус. Я Бронюс Марцявічус, жмудзін. Сын... аднаго чалавека з горада Сухадола... Люблю Беларусь!

Кастусь. Люблю Жмудзь!

Марцявічус. Я прыйшоў з ім, каб паслухаць, як ён раскажа аб усім.

Кастусь. Кажы, Вітаўт.

Вітаўт. Мы гналі іх тры тыдні. І вось, калі мы ўсёй сілай ішлі з Сухадола на Гадарочы... Тысяча дваран... Дзве тысячы мужыкоў... На ўз'яднанне з атрадамі Загорскага і Грынкевіча — гэта яшчэ чатыры тысячы...

Кастусь. Ведаем...

Вітаўт. Нас спыніла войска...

Марцявічус. Мы гэтаму войску маглі б духам вязы скруціць.

Вітаўт. Я не спадзяваўся на мужыкоў. Як часта яны кідалі косы.

Пасланец. Я казаў.

Марцявічус. Ні пікні... Супраць гарматы — кінеш.

Вітаўт. І тут нас прыціснулі да Дняпра. Пачалося знішчэнне... Гэта было страшна! Людзі з кручы падалі... Коні... Гігаталі так жахліва, як людзі. Мяшанка... Агонь...

Марцявічус. Ты скажы, чаму так атрымалася...

Вітаўт. Не папракай! Я сабраў кучку людзей. Мы па іх ударылі, прарваліся! Я не апошні, я першы з пісталетам ішоў... На конных!

Марцявічус *(горка)*. Што мне ў тваёй мужнасці? Ты пагубіў людзей. А мужнасць — твая асабістая справа... Шчанюк ты... Шляхта, вось хто...

Вітаўт. Я табе зараз язык твой заб'ю ў тваю паганую глотку разам з зубамі.

Марцявічус. Ану!!!

Кастусь. Ціха! Кажы далей, Вітаўт.

Вітаўт. Мы беглі. Падалі людзі. Ад'ютанты ўвесь час, на хаду, зараджалі, падавалі мне пісталеты... Я смерці прасіў... А пáдалі яны. Пяць ад'ютантаў...

З грудзей Кастуся вырваўся цяжкі, страшны ўздых.

Марцявічус. Ён сказаў... Цяпер я. Пра тое ж... Адзін... чалавек з Сухадола *(голас жмудзіна сарваўся)* благаславіў на паўстанне мужыкоў. Тыя прыйшлі вось да яго. І ён... ён не даў ім зброі. Мужыкі ўсё ж пайшлі, з віламі, без зброі. А ён іхнюю зброю — шляхцюкам Хаданскага.

Пасланец. Правільна, сынок.

Марцявічус. І тыя памірыліся з палкоўнікам, што вёў салдат. У баі пад Доўгай Кручай — кінулі нас, адышлі... Мужыкі біліся тым, што пад руку трапіла. Цяпер яны ляжаць на дне Дняпра.

Кастусь. Гэта так?

Марцявічус *(за Вітаўта, глуха)*. Так. Што мне ў яго мужнасці, калі ён сам аддаў край ворагу? Вешалі на ўсіх варотах.

Кастусь. Гэта праўда, Вітаўт?

Вітаўт. Так. Яны неабвучаныя.

Арсень. А людзі Хаданскага абвучаныя... Чаму? Здрадзе?

Вітаўт. Я не мог ім верыць. Мужыкі дапамагалі карнікам знішчаць батальёны Серакоўскага пад Дынабургам.

Марцявічус. Мужыкі дапамагалі Каліноўскаму знішчыць карнікаў пад Бахарэвічамі.

Вітаўт. Мужыкі — здраднікі.

Марцявічус. Мужыкі — героі.

Яневіч. Гэй, пане пасланец, ану глянь на мяне...

Паўза.

Кастусь. Не верыў народу...

Караліна. Сябры... браты... таварышы...

Кастусь. Гэта страшна. Але яшчэ страшней, што не верыў... Будзеш плаціць, Вітаўт... Жыццём...

Вітаўт. Я гатовы.

Кастусь. Не нам... Бацькаўшчыне... *(Да пасланца.)* Так. Вось вам і канец нашай спрэчкі. Перадайце Беламу жонду, што мы забараняем ім нават нос торкаць у справы паўстання. А торкнуць — будзем расстрэльваць... як здраднікаў.

Паўза.

Пасланец. Я маўчу. Але вы забіваеце веліч нашу. Горка заплача над гэтым радзіма.

Кастусь. Добра... Ведаючы вашу схільнасць да няправільнага вырашэння практычных пытанняў, я прапаную вам прыемную прагулку... Пархвен!

Чортаў Бацька. Га!

Кастусь. Калі ласка, Пархвен, вось тут пан хоча прагуляцца. То ты ж месяц у горадзе. Ведаеш яго... Будзь другам, пакажы пану Ніжні замак, дзе Беларусь з Літвою магнатам прадалі... Пакажы месца, дзе па віне магнатаў у мінулае паўстанне суайчынніка ягонага, святога паляка Канарскага, расстралялі...

Пасланец. Хама мне ў гіды?

Кастусь. А калі не хоча, то пакажы яму, Пархвен, недалёкае месца... Наш задні двор. Дзе выграбныя ямы.

Чортаў Бацька. З асаблівым задавальненнем.

Пасланец. Што ж... Пашкадуеце... *(Пайшоў.)*

Кастусь. Духам не трэба падаць, браты... Не трэба. Мы жывыя. І пакуль мы жывыя — агонь не згасне.

Марцявічус. Гэта не ўсё. У мяне просьба, Кастусь.

Кастусь. Чаго просіш?

Марцявічус. Права на стрэл.

Кастусь. У каго?

Марцявічус. Я прыехаў за гэтым чалавекам з Магілёўшчыны. Гэта той, хто задушыў там паўстанне. Цяпер ён будзе правай рукой Мураўёва тут, у Вільні. Але няхай ён не думае, што мінулае забудуць.

Кастусь. У чым абвінавачваеш?

Марцявічус. Абвінавачваю ў здзеках, катаваннях, расстрэлах. Абвінавачваю ў сотнях шыбеніц.

Кастусь. Ты нешта скрываеш, брат.

Марцявічус. Той... чалавек з Сухадола, які благаславіў мужыкоў на паўстанне, быў ксёндз Малявічус... Галава карнікаў павесіў яго.

Караліна. Ты раней казаў, што ты... сын аднаго чалавека з Сухадола... брат.

Яневіч. Караліна... Як можна?! Ксёндз...

Караліна. Што ж з таго? *(Яна ласкава дакранаецца да скроні Марцявічуса.)* Хіба перад сапраўдным пачуццём бываюць перашкоды? Ды яшчэ і такія дурныя... нявартыя.

Марцявічус *(на яго страшна глядзець)*. Дзякуй, сястрычка... Добрая мая... *(Нячутна прыклаў вусны да яе рукі.)* Праўда. Я тое, што людзі завуць «байструком». Ксёндз Малявічус — мой бацька.

Яневіч. Ну і дзякуй богу. Падумаеш, бяда вялікая!

Марцявічус. «У бога быў сын, а чаму мне нельга?» — казаў бацька. Ён любіў мяне. І вось ён вісіць.

Кастусь. Хто гэты чалавек?

Марцявічус. Палкоўнік Цаплін...

Кастусь. Ах, бестыя!

Паўза.

*(Караліне ціха).* Памятаеш?

Караліна *(вельмі ціха)*. Памятаю.

Паўза.

Кастусь. Чаго патрабуеш?

Марцявічус. Жыцця Цапліна... Прашу помсты.

Кастусь. Права на суд маеш не ты адзін.

Паўза.

І таму мы заўтра будзем сачыць за ім. І мы выкрадзем яго на вуліцы ці яшчэ дзе. І павязём у адно месца, дзе ён таксама нарабіў гора. І будзем там судзіць яго мужыцкім судом. І за ксяндза Малявічуса таксама.

Арсень. Ты атрымаеш сваё... друг.

Кастусь. А я табе дапамагу... Бывайце, сябры, да заўтра.

Усе выходзяць.

Арсень. Ай-я-яй. Які ж вы дрэнны патрыёт, пані Юзэфа. Як жа вы абыдзецеся без Кіева?

Яневіч. Змоўч, шалапут. Я каталічка. Я на багамолле і ў Чэнстахову магу паехаць.

Усе пайшлі. Засталіся Яневіч, Караліна, Кастусь. Яневіч глядзіць на маладых людзей. Доўгая цяжкая паўза. Потым пані Юзэфа здымае невялікі партрэт.

Вось... Жаніх мой.

Караліна. Якое гордае аблічча!

Яневіч. Ох, ён быў горды! Ён быў тутэйшы. Любіў радзіму.

Кастусь. І што?

Яневіч. Мы лічылі — няўчасна. У трыццаць першым было паўстанне. Ён пайшоў і не вярнуўся... І ўсё... І вось баба-сухадрэвіна, а вакол ані парастка... акрамя вас... Якое можа быць суцяшэнне? Памерці? Сустрэцца там? Растаць у ім, як зорка ў ранішнім усходзе? А што, калі няма ўсходу, што, калі там нічога няма?

Паўза.

Ой, што гэта я. Трэба ж хаця кавай вас напаіць... Пачакайце, я зараз. *(Пайшла.)*

*Паўза.*

Кастусь *(глуха)*. Страшны яго лёс.

Караліна. Страшны яе лёс.

Кастусь. І вырастала ў іх садзе дрэва. Вялікае-вялікае дрэва кахання. І дарасло аж да сонца.

Караліна. Пакуль вырастала — жах. І як вырасла — жах. Хіба можна глядзець на сонца? Аслепнеш.

Кастусь. І якая гэта была пакута... Як насланнё.

Караліна *(нібы спалохана).* Нам жа не так, праўда?

Кастусь. Канечне. Ты — нейкі вялікі-вялікі, магутны, добры дух. Ты сама яшчэ не ведаеш, хто ты.

Глядзяць у вочы адно аднаму.

Як дзіўна. У цябе задрыжэлі веі. Якія доўгія, чорныя! Апусціліся... «як ворана пяро на снег».

Караліна. І над хлопцамі вораны...

Кастусь. Толькі не над табой... Толькі, калі ласка, не над табой.

Караліна. Не ідзі заўтра... Не ідзі...

Кастусь. Ты бывай... Бывай... Іначай — не пайду. *(Амаль у адчаі працягвае руку.)* Каго любіш?

Караліна. Люблю... Беларусь.

Кастусь. То ўзаемна... Навекі... Навекі...

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Вуліца. Краты саду. Слуп ліхтара. Конус святла гойдаецца над маленькай фігуркай. Гэта Чортаў Бацька.

Чортаў Бацька. Горад... Вялікі... Касцёлы гудуць. А паноў! А екіпажаў!

1-шы прахожы. Каго любіш?

Чортаў Бацька. Люблю Беларусь.

1-шы прахожы. Цаплін прыехаў у тэатр к пачатку трэцяга акта. *(Ідзе далей.)*

Чортаў Бацька. Перадам... Тут ужо на вуліцы п'яны не паспіш, як у нас у вёсцы.

2-гі прахожы. Каго любіш?

Чортаў Бацька. Люблю Беларусь.

2-гі прахожы. Ландо не падалі. Значыць, з тэатра пойдзе пешы... Значыць, на вуліцы.

Чортаў Бацька. Паглядзім.

Пайшоў 2-гі прахожы.

На вуліцы тую чаплю лавіць, вядо-ома, куды б лепей было.

Падыходзіць Караліна.

Караліна. Што чуваць, Чортаў Бацька?

Чортаў Бацька. Загадана, каб перадала, што палкоўнік той у тэатр спазніўся — грошай яму, відаць, не шкада, што пад канец прыязджае. Але прыехаў-такі: уганорыў той тэатр сваёй прысутнасцю... А на баль пойдзе пехатою — для мацыёну і яшчэ таму, што гэтую... ну... ланду яму не падалі.

Караліна. Добра... Зараз пайду перадам.

Набліжаецца Вітаўт Парафіяновіч.

Чортаў Бацька. Паненачка, шляхцюк той ідзе...

Караліна. Бог ты мой. Вось яшчэ.

Вітаўт. Караліна... Пастой...

Караліна. Я спяшаюся, Вітаўт, слова гонару, вельмі спяшаюся.

Вітаўт. Два дні ты... спяшаешся. А ты ж ведаеш, што ўжо год...

Караліна. Я сапраўды спяшаюся.

Вітаўт *(з глыбокай узрушанасцю, амаль груба).* Гэтыя твае крокі... могуць каштаваць жыцця. Чуеш? Аддай мне пяць хвілін. Нічога, пачакаюць.

Караліна. Я слухаю цябе, Вітаўт.

Вітаўт. Слухай, дзяўчынка. Я стаяў на фарпосце, і зямля мая была за мной. *Ты* была за мной. І калі я хаця трошкі хацеў жыць у тыя страшныя часы — я хацеў гэтага таму, што была ты.

Караліна. Вітаўт, мілы, ты ведаеш: гэта ўсё дарэмна.

Вітаўт. Я ведаю. Але пасля майго вяртання ты горшая са мной.

Караліна. Не. Мне шкада цябе, Вітаўт.

Вітаўт. Сябры сталі горшыя са мной. І ты... Я разумею вас.

Караліна. Не.

Вітаўт. Але я ішоў бараніць цябе. І не мая віна, што яны задушылі нас сілай.

Караліна *(ціха).* Ты не ведаў, што яны мацнейшыя? Нашто тады ішоў у паўстанне?

Паўза.
Падыходзіць Каліноўскі ў чорным плашчы.

Вітаўт. Ты не спяшаешся?

Караліна. Мне цяпер няма куды спяшацца.

Крутнуўся, усё хутчэй і хутчэй пайшоў у цемру Вітаўт.

Кастусь...

Кастусь. Што чуваць?

Караліна. Ён у тэатры. Да губернатарскага палаца пойдзе пешшу.

Кастусь. Значыць — па дарозе будзем браць. Пархвен, папярэдзь Марцявічуса.

Пархвен зусім быў сабраўся ісці, але тут з'яўляецца 1-шы прахожы.

1-шы прахожы. Люблю Беларусь...

Кастусь. Узаемна...

1-шы прахожы. Выйшлі з тэатра. Ён ідзе не адзін. З ім Мураўёў, дэ Салье, яшчэ людзі. Яны ідуць пад аховай салдат...

Чортаў Бацька. Гэ-эх... Сарвалася.

Паўза.

Кастусь. Не... На вуліцы яго вартуюць салдаты...

Чортаў Бацька. Ну.

Кастусь. Але ж на бале яны, пэўна, не будуць яго вартаваць... Уявіце сабе, кружыцца ў вальсе Цаплін, а вакол вальсуюць шэсць салдат... З прымкнёнымі штыкамі...

Караліна *(у нейкім дзіўным, пакутным лікаванні).* І гэта азначае?..

Кастусь. І гэта азначае, што мы выкрадзем яго на балі. *(Ляпнуў Чортавага Бацьку па плячы.)* Бяжы да Марцявічуса. Хай ідзе туды. Скажы — баль... *(Да прахожага.)* Ты — апрануты. Бяры другога і ідзі на дапамогу жмудзіну... Караліна...

Караліна. Але...

Кастусь. Ідзі дадому, сланечнік... Ідзі да Яневіч... Вазьмі там найлепшы бальны ўбор... І адразу, на рамізніку, да палаца... У мяне будзе на гэтым балі дама... Найлепшая прыгажуня зямлі... На цэлы вечар... *(Вочы ў яго гарэзлівыя і адначасова страшныя.)* Скажы, ты ніколі не бачыш у сне, што танцуеш?

Караліна. Часта... Кастусь. І гэта такое шчасце!

Кастусь. І мы будзем танцаваць. Мы натанцуемся на сто год наперад сланечнік... Мы будзем танцаваць... Ідзі.

Караліна. Ах-х... Кастусь.

Пайшла. Кастусь глядзіць ёй услед.

Кастусь

Натоўп кіпіць. Гудзе, віруе горад,
А ты, прыкуты да яго цяснін,
З трывогаю няўлоўнай адчуваеш
Няўмольны лёс, што абступіў цябе.
І побач светлая мая, святая,
Якой не смерць — сусвет бы падарыў...
Прыслухайся да шуму: горад спіць.
Прыслухайся да шуму: спіць Зямля.
Спіць воля ў турмах, праўда — ў катавальнях,
І людзі спяць, абпіўшыся хлуснёй...
Нічога... Ёсць такія, што не дрэмлюць.
Такія не даюць сабе дазволу
Любіць што-небудзь, акрамя свабоды.
Няшчасна закаханыя ў яе,
Адрынутыя ёю ў смерць і ў турмы,
Яны пажнуць найлепшых закаханых
Праз трыста год. У новы вольны час,
Калі прамовіць нейкая дзяўчына:
«Чаму я не жыла тады, матуля?
Чаму не йшла на бітву сярод іх?»
Ты будзеш жыць і танцаваць, дзяўчына,
Кахаць... А ў нас крык гневу рвецца з вуснаў...
Сланечнік мой, прамень мой светлы, добры...
Гляджу услед, і ад пяшчоты сэрца
Спыняецца. А ты, мая зямля,
Глядзіш мне ў вочы змрочнымі вачыма,
І нема замірае мой язык.

Паўза.

Ідзе... З Дамініканскага завулка,
Дзе мураўёўскі, чорны той засценак,
Святло касое падае пяшчотна
На плечы, твар і золата касы...
О, як ты будзеш танцаваць сягоння,
Якім жывым і цёплым захапленнем
Заззяюць вочы мілыя. І руку
Адчую я ў сваёй руцэ. І вочы
Ніжэй сваіх вачэй убачу я.
І вусны мне раскрыюцца насустрач,
Як кветка цёплая насустрач сонцу...

А потым... Што казаць аб тым, што потым...
Дадому з балю разам не паедзеш...
І я ў святле бягучых ліхтароў
Не буду цалаваць тваіх вачэй...
Ідзі далей, маленькая вясёлка,
Свяці над добрай, змучанай зямлёй,
Што ў нетрах цёплых парасткі раджае.
Жывую рунь апошніх нашых дум.

Паўза.

Ідзі далей, маленькая вясёлка,
Гары над светам. Я не пазаву.

Большае людзей на вуліцы. Паўз Кастуся прабег, звонячы вярыгамі, гарадскі юрод Агей Блажэнны.

Агей *(Кастусю).* Дай што-небудзь Блажэннаму Агею... Не... Не грошы... Душу дай...

Кастусь *(сумна).* Аддам, Агей.

Юрод. Дай каму трэба. *(Робіць пальцамі вілы.)* У-у... Ані дня, ані часу... Ястрабы над табой. Крылатыя.

Кастусь. Бог з табою, Агей.

Юрод. З табою, з табою... *(Адбег убок і сеў на кукішкі, як ідал.)*
Вось. Лятуць.

Выходзіць варта. За ёю Мураўёў, Цаплін, дэ Салье, Тызенгаўзен.

Кастусь. Дык вось ён, Цаплін... З Мурашом побач.

Дэ Салье. Б'яніні проста выключны Атэла. Такі раўнівы! Як гляне на мяне — сэрца падае... Як гэта можна так душыць?!

Мураўёў *(змрачнавата).* Калі патрэбна, дык усё можна.

Цаплін. Гэта не так складана, як мадам думае.

Дэ Салье. Уявіце, які жах! Чытаю сёння раніцай французскі часопіс — і там пра вас, граф, такія словы... «Рыцар пяньковай вяроўкі...»

Усім няёмка.

Мураўёў *(з усмешкай).* Нядрэнна! Яна абдымае моцна... І рэзультаты някепскія. Лепш, чым у Атэла.

Юрод. Міхал! Міхал! Мі-ха-ха-хал!

Спыніліся.

Мураўёў. Чаго табе?

У руцэ юрода вялізны кавалак сырога мяса.

Юрод. На. З'еш. На.

Паўза.

На вуснах Мураўёва з'яўляецца нацягнутая ўсмешка.

Мураўёў. Сёння пост. Серада. Я мяса не ем.

Юрод амаль пяшчотна ўсміхаецца.

Юрод. А кроў п'еш? Не, ты вазьмі... Вазьмі...
Цаплін. М-гух!

Ён кінуўся быў на юрода з палашом. Мураўёў спыняе яго. Юрод, усміхаючыся, трымае звісаючае мяса. Доўгая страшная паўза.

Мураўёў. Улада з вар'ятамі не ваюе.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Задні фасад мураўёўскага палаца. Святло падае з дзвярэй і люстраных акон на балюстраду, на шырокія белыя сходы, што спускаюцца ў парк. На адзін бок сходаў, злева, агароджа з лаўкай. Правей фасада — арка, частка аркадаў, што акружаюць парк. За ёю зорнае неба... Урачыстыя гукі паланеза. За цэльным шклом акон плывуць пáры. Па сходах ідзе Каліноўскі, апрануты ў бездакорны фрак. Насустрач яму Арсень.

Кастусь (*ціха*). Ну што?
Арсень. Марцявічус п'е з ім.
Кастусь. Бедны... І лёгка ідзе?
Арсень. Цаплін пасля сустрэчы з намі шмат п'е... Можаш ісці спакойна.

Кастусь ідзе далей. У гэты момант з'явілася ля балюстрады Марыя Грэгатовіч. Сустрэліся позіркамі.

Марыя. Пан Макарэвіч, добры вечар.

Кастусь аглянуўся, і на хвіліну нешта дрогнула ў яго вачах.

Кастусь. Прабачце, не маю гонару.
Марыя. Вы жылі ў флігелі дома маёй маці, у Зарэччы. Я — Марыя Грэгатовіч.
Кастусь. Запэўніваю вас, вы памыляецеся. Я — князь Мсціслаўскі. Але я хацеў бы быць гэтым невядомым Макарэвічам, каб мець шчасце хаця зрэдку бачыць вас...

Марыя. І Вітаўта Парафіяновіча не памятаеце? І як мы ўтраіх сядзелі ў нашым садзе... Вы... так нечакана з'ехалі ад нас у сакавіку.

Кастусь. Вы абазналіся... Прабачце.

Ідзе далей. Насустрач яму ідзе Караліна.

Караліна. Ідуць. Заўважыў мяне і захапіўся. Такая брыда!

Кастусь. Стой непадалёку, калі... ласка...

Змрочны, маўклівы і доўгі, як Мефістофель, Марцявічус вядзе Цапліна. Цаплін не хістаецца, але ён цяжка, трагічна п'яны.

Цаплін *(жмудзіну)*. Сядзіш тут сярод дам і кветак... як самая непатрэбная радзіме кветка. А ці быў ты на полі, дзе дабіваюць... Я таго мужыка з віламі... не забуду... Аблічча бледнае... як пры ўсплёску бліскавіцы... Хочаш, падару на шчасце вяроўку павешанага?

Марцявічус. Не.

Цаплін. Тады — мармуровы бюст імператара. Я люблю бюсты імператара.

Да Каліноўскага падыходзіць дэ Салье.

Дэ Салье. Вымушана была пакінуць вас, князь. *(Угледзеўшыся.)* З вамі нешта здарылася?

Каліноўскі. Пачаў губляць галаву, мадам. *(На Караліну.)* Мая стрыечная сястра, княжна Надзея Загорская... Я прашу вашай апекі над ёй.

Дэ Салье. Якая мілая... На выданні?

Кастусь. Самая багатая нявеста Прыдняпроўя.

Караліна *(з дакорам)*. Юры...

Дэ Салье. Пры такіх вачах пасаг — зусім лішняя справа. Мяркую, часам вы шкадуеце, што яна — сястра вам.

Кастусь. Часам... вельмі шкадую.

Караліна. Юры...

Кастусь. Вядома, калі вас няма побач.

Дэ Салье. Я схільна палюбіць вашу кузіну... Дарэчы, вось князь Стоцкі... Мілы...

Кастусь. Паляк? Яны так сур'ёзна паўстаюць, палякі...

Дэ Салье. Сто-оцкі...

Кастусь. Ф-фу... Мне здалося — Друцкі... Гэта

яшчэ горш, чым палякі... Гэта нашы радзінныя ворагі... Забабоны мацней за нас. Мне давялося б, не адчуваючы ніякай варожасці да беднага маладога чалавека, справацыраваць яго на сварку... Так недарэчна!...

Мураўёў падышоў да балюстрады. Пакуль дэ Салье знаёміць Караліну са Стоцкім, змрочны, як Мефістофель, Марцявічус торгае Цапліна.

Марцявічус. Хадзем.

Цаплін. Не, я да графа. Я люблю графа. Мы з графам — два чаравікі — пара. Мы з графам і з табой — тры чаравікі пара. *(Ідзе да графа.)*

Дэ Салье зноў з Кастусём, які адавочна кампліментуе з ёю. Караліна кідае на Кастуся ўмольны позірк. Кастусь непрыкметна паказвае ёй язык. Караліна ўсміхаецца. Стоцкі відавочна ў захапленні.

Дэ Салье *(Кастусю, нібы ведучы далей размову).* І вам не шкада райскіх птушак?

Кастусь. Ім мяне не шкада.

Дэ Салье. Бедны. Няўжо зусім?

Кастусь. Адной.

Цаплін. Ваша сіяцельства. Тут адзін сказаў, што вы сякі і такі. Я не веру. Мы з вамі — тры чаравікі пара. Я вам падару гіпсавы бюст Каліноўскага.

Кастусь *(дэ Салье).* І, з-за адсутнасці мадэлі, закажа бюст з мяне.

Дэ Салье смяецца.

Цаплін. І вы будзеце ўспамінаць нябожчыкаў Каліноўскага і Цапліна.

Мураўёў. Калі вы будзеце так піць, вы станеце нябожчыкам хутчэй, чым трэба... Ідзіце дамоў...

Змрочны жмудзін вядзе Цапліна па сходах паўз Каліноўскага. Цаплін спыніўся.

Цаплін. А я вас... пазнаю.

Кастусь. Мне прыемна, што вы ў такім стане яшчэ здольны пазнаць кагосьці.

Цаплін. Дык ты... у модных панталонах?

Збіраюцца да іх людзі.

Кастусь *(Стоцкаму).* Малады чалавек, адвядзіце яе    Яна... спалохаецца...

Караліна. Не!

Кастусь *(да Цапліна)*. Я не нашу спадніцы. Я не шатландзец. Хаця з ахвотаю стаў бы ім на хвіліну, каб вы з задавальненнем канстатавалі гэта і пайшлі дамоў.

Цаплін. Дзе твае пісталеты?

Кастусь. Яны дома. Па іх лёгка паслаць.

Марыя глядзіць на сварку пашыранымі вачыма. Цаплін хапае Каліноўскага за плечы.

Цаплін. Мяцежнік!

Кастусь. Працягніце ўздоўж тулава вашы рукі, калі не хочаце працягнуць ногі.

Арсень. Па-мойму, яму зараз стане дрэнна.

Цаплін *(да Арсеня)*. І ты мяцежнік... *(Да Караліны.)* І вы. Уся зала ў мяцежніках... як пры ўсплёску бліскавіцы.

Махнуў рукою, пайшоў да садовай лаўкі Мураўёў.

Кастусь. Не навучыліся суразмерваць сілы з колькасцю віна на стале... Мяркую, і не паспееце.

Дэ Салье. Выдаліце яго хто-небудзь!

Ля Цапліна выраслі 1-шы і 2-гі прахожыя.

Марцявічус. Хадзем, галубчык. Дапамажыце мне, панове.

Цаплін. Выдаляюць цвярозага!

Кастусь. Цвярозыя маюць дастаткова здаровага розуму, каб разумець, што ва ўсякім іншым месцы ім будзе зручней.

Павялі Цапліна.

Цаплін. Панове, мяне выносяць!

Голас. Бачым.

Цаплін. Мы яшчэ сустрэнемся... пры святле маланкі!

Кастусь. І пры секундантах... *(Падае картку Марцявічусу.)* Перадайце яму маю візітную картку... калі ён, вядома, мае звычай хоць калі-небудзь выходзіць з такога вось стану.

Вывелі Цапліна.

Марыя *(ціха)*. Князь Мсціслаўскі?

Кастусь. Уф-ф! *(Да Караліны.)* Раю вам, ся-

стрычка, запасціся верай, што не ўсе мужчыны падобныя да палкоўніка. Зрэдку трапляюцца і іншыя.

Караліна. Веру.

Смяшок. Людзі разыходзяцца.

Дэ Салье. Мілы князь, граф хоча пазнаёміцца з вамі... Вас я вазьму з сабой, дарагая княжна. Вы ўбачыце графа, а тады я аддам яе вам, князь Стоцкі.

Падыходзяць да Мураўёва. Дэ Салье рэкамендуе Кастуся і Караліну.

Мураўёў *(Караліне).* У вас адухоўленыя вочы, княжна. Вы непадобная на большасць свецкіх паненак.

Караліна. Мне прыемна чуць гэта, граф.

Дэ Салье. Хадземце, дарагая... *(Мураўёву.)* Спадзяюся, вы будзеце ў захапленні ад князя... як я...

Мураўёў. Мне часта даводзіцца захапляцца вось так... Аддаюць перавагу маладому Нуліну, які толькі што прыехаў з Парыжа, а не мне, які «в сраженьях изувечен».

Кастусь. «И вас за то ласкает двор».

Караліна і дэ Салье пайшлі.

Мураўёў. Ласкі двара не ласкі жанчын... Мсціслаўскі... Я ведаў аднаго па Магілёўшчыне.

Кастусь. Наш радзінны край, граф.

Мураўёў. Н-нулін... *Непрыемны* выпадак, га?

Кастусь. Відаць, вам дрэнна, калі сярод гэтых жырандоляў і калон людзям блюзняцца цені паўстанцаў.

Паўза. І раптам Каліноўскі рассмяяўся.

Цікавая ідэя. Уявіце сабе, што я сапраўды паўстанец. І сустракаюся з чалавекам, які мяне ведае... Бр-р...

Мураўёў. А вы пайшлі б у паўстанцы, князь?

Кастусь. Пайшоў бы. Каб імператару прыйшла ў галаву ідэя адмяніць гасудараў радасловец.

Мураўёў. Дзікая ідэя. Хіба ён можа?

Кастусь. Радасловец — небяспечная кніга.

Мураўёў. Чаму?

Кастусь. З яго вынікае, што першыя — мы, а Раманавы — мелката.

Мураўёў. Сказалі б гэта ў вочы?

Кастусь. Прывілей арыстакратаў — праўда.

Мураўёў. Нават на эшафоце?

Кастусь. Э-э! Столькі сапраўдных дваран за апошнія гады мужна стаялі на ім. Я не горшы. Толькі мне хацелася б ведаць... навошта вам усе гэтыя страты, граф? Якая *вам* патрэба знішчаць?

Мураўёў. Таму што толькі на імперыю, на ўцёс у збаламучаным моры спадзяюцца сёння высакародныя людзі ўсёй зямлі.

Кастусь. А нашто нам апраўдваць іх спадзяванні, ратаваць іх?

Мураўёў. Для сябе. Бунт мужыка — заканамерны. Ён воўк і глядзіць у лес. Калі ж дваранін стае на бок мужыка, здраджвае саслоўю, хоча ў свінапасы — такога нельга літаваць.

Кастусь. А такія ёсць?

Мураўёў. Ёсць.

Кастусь. Хто яны?

Мураўёў. Ну вось, напрыклад, Каліноўскі...

Кастусь. Хто ён?

Мураўёў. Самы небяспечны і самы дастойны мой вораг.

Кастусь. Тады гэта, відаць, фігура. Хацелася б мне ўбачыць яго. Я з цікавасцю пацісну бы яму руку. Гэта, ці ведаеце, сустрэча не з тых, якія забываюць.

Мураўёў. Я не магу забыць аб ім ужо некалькі месяцаў.

Кастусь. Цікава, які ён?

Мураўёў. Кажуць, русыя, вельмі пышныя, хвалістыя валасы.

Кастусь. Гэта не прыкмета. На жаль, мода псуе валасы мужчын памадай.

Мураўёў. І вялікія выразныя вочы.

Кастусь. У беларусаў наогул выразныя вочы. Нямнога... Чакайце, чакайце, як, вы сказалі, прозвішча?

Мураўёў. Каліноўскі.

Кастусь. Я ведаў аднаго па Пецярбургу. Як яго зваць?

Мураўёў. Канстанцін.

Кастусь. Н-не. Таго звалі Віктар... Сядзеў у Публічнай бібліятэцы днямі і начамі.

Мураўёў. Гэта яго старэйшы брат. Ідэйны

выхаваўца. Кажуць, быў яшчэ горшы якабінец. На шчасце, не дачакаўся перамогі ўлюбёнага брацiка. Здох ад сухотаў.

Паўза. Кастусь устае.

Кастусь. Я вымушаны адвiтацца, граф.

Мураўёў. У чым справа?

Кастусь. Мне няма аб чым размаўляць з вамi. I не хочацца.

Мураўёў. Князь, вы няветлiвы!

Кастусь. Магчыма. Але затое — прамы. I выхаваны ў правiлах дваранскага ганаровага кодэкса. А ў прыдняпроўцаў, у мяне... ёсць цвёрдае перакананне ў тым, што павiнен i чаго не павiнен рабiць дваранiн... чалавек. Што ён павiнен мець.

Мураўёў *(з жудаснай iронiяй).* Прасвяцiце старога. Што?

Кастусь. Толькi душу для праўды, жыццё — для сапраўдных людзей, сэрца — для жанчыны... I яшчэ гонар. Чуеце? Гонар... для самога сябе i нi для каго на свеце больш.

Мураўёў. У чым жа ён, калi не сакрэт?

Кастусь. У тым, каб быць незалежным з моцнымi, роўным з роўнымi, памяркоўным для нiжэйшых. У тым, каб быць добрым для жанчын, дзяцей, слабых, пераможаных. У тым, каб быць лiтасцiвым да звяроў... I яшчэ ў тым, каб *нiколi* не лаяць мёртвых, якiя не могуць адказваць: нi дрэнныя, нi высакародныя.

Паўза.

Калi мой субяседнiк не трымаецца такога — я ў праве пайсцi ад яго. Калi так робяць многiя — тады няхай хутчэй ставяць гiльяцiны на ўсiх плошчах... Такому панству — туды i дарога.

Мураўёў. Сядайце, князь... *Сур'ёзна...* Я не думаў, што ў свеце ёсць хаця адзiн чалавек з iншымi паняццямi. Цiкава. Небяспечна.

Кастусь. Чаму небяспечна?

Мураўёў. Таму што такiя людзi — дзейныя людзi. А свет непадобны на космас iхняй душы. I яны ў гардынi пачынаюць думаць, што пераробяць вялiкi свет па вобразу i падабенству свайго... малога. А адсюль — адзiн крок да фронды... бунту... эшафота.

Кастусь. Вы мяркуеце?

Мураўёў. Я *ведаю*... Я ведаў у маладосці шмат такіх... У-у, якая ў іх была сатанінская гардыня! І смеласць пры няправільным шляху.

Кастусь. Хто яны былі?

Мураўёў. Ну хаця б... Сяргей Мураўёў-Апостал.

Кастусь. Той, каго павесілі?

Мураўёў. Ну вядома ж не той, хто вешаў... А пайшлі б да нас?

Кастусь. Не.

Падыходзіць дэ Салье.

Мураўёў. Чаму?

Кастусь. Вешаць дваран, як піратаў! Фу!

Мураўёў. З усіх людзей — *вы* першы, хто сказаў мне аб гэтым у вочы. І вы не думалі, што дзяржава — вышэйшая праўда і таму несправядліва знішчаных няма?

Кастусь. Ваша сіяцельства, вы маеце на ўвазе Хрыста?

Мураўёў. Дайце мне зірнуць у вашы вочы.

Ён кладзе руку на плячо Кастуся. Рука ўспаўзае на шыю. Гэта так страшна, што дэ Салье ўскрыквае.

Дэ Салье. Граф!

Кастусь *(з адценнем насмешкі).* Супакойцеся, гэта інтымны жэст. Граф прыдатны мне ў бацькі.

І тут у голасе Мураўёва загучала незвычайная, страшная, вострая пяшчота.

Мураўёў. Сынок... Смелы... Не любіш старога... Не баішся... Першы з усіх.

Дэ Салье. Не выключаючы гасудара?

Мураўёў. Не выключаючы і яго... Смела... Люблю... Не хацеў бы я сустрэчы з табой на страшнай сцежцы.

Бярэ Кастуся за скроні і цалуе ў лоб. Пайшоў з дэ Салье. Хвіліну Кастусь стаіць моўчкі. Потым Стоцкі падводзіць да яго Караліну.

Стоцкі. На жаль, мяне патрабуе служба, князь... Вось... Я прывёў... Нешта здарылася... Шукаюць некалькіх афіцэраў. І Цапліна шукаюць. Я спадзяюся, я вельмі спадзяюся.

Адкланяўся. Пайшоў. Караліна ўздыхнула.

Караліна. Вызвалі майго князіньку...

Кастусь. Сумуеш, бедная сястрычка. Пойдзеш, можа, у княгіні?

Караліна. Бог з ім, з княствам і з князем. Фігурай — нажніцы, розумам — сушаная траска.

Да Каліноўскага падыходзіць афіцэр.

Афіцэр. Цапліна не бачылі? Тэрмінова выклікае камендант.

Кастусь. Яго адправілі дамоў.

Госць. Ён набадаўся, як сорак тысяч пустэльнікаў.

Афіцэр. Ды няма яго дома.

Арсень. Значыць, не давезлі.

Збіраецца натоўп. Непаразумелыя выгукі.

Афіцэр. І дома няма.

Кастусь. І дома няма? Ну, панове, тады застаецца выказаць адно меркаванне.

Госць. Якое?

Кастусь. Яго ўкралі. Ён выкрадзены.

Госць. Кім?

Кастусь. А вось тут самае шырокае поле для вашых меркаванняў: ад паўстанцаў і нячыстай сілы да спакусніц нізкага гатунку і тайнай паліцыі.

Смех.

Асабіста я схільны падазраваць цыганоў.

Арсень. Хіба ён дзіця ў пяшчотным узросце?

Кастусь. У самым пяшчотным, панове. Настолькі пяшчотным, што я не ведаю, ці можа ён сказаць слова «мама».

Зайграла музыка.

*(Гучна.)* Вось мы і танцуем свой танец, сланечнік... Гэты вальс — наш.

# АКТ ДРУГІ

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Заслона з чынаватага палатна. Перад ёй булькоча крынічка. Спачатку здалёк, а потым усё мацней і мацней чуюцца гукі ліры: струны гудуць, як чмялі. Гучыць «Дарота».

А Дарота крыж нясе
Па сцюдзёнай па расе,
Па папёлах стылых,
Па пажарах дымных
Нясе...
Нясе...

З'яўляецца жабрачка-плакальшчыца ў распатланай чорнай вопратцы. З ёй нямы Ян, хлопчык год чатырнаццаці, ва ўсім белым. У яго дзіўнай тонкасці прыгажосць... Ён торгае жанчыну за прыпол.

Плакальшчыца. Скора, дзетка, скора нашы Бахарэвічы. Горачка маё нямое. Ніхто цябе не разумее. Адна я.

Булькоча, звініць з перападамі крынічка.

Блякочаш нешта, як тая крынічка, а людзі сабе ідуць...

Ян. Мм-м...

Плакальшчыца. Ну, прысядзем.

Сядаюць.

Я з-за цябе на ўсіх, хто адвеку маўчыць, як на знямелых, глядзець стала. Нібы ўсё ведаюць, а не могуць сказаць. Камень. А раптам і ён? Сабака пярхае «пхла, пхла» — ясна, на блох скардзіцца.

Ян дзікавата засмяяўся.

Другі раз ты смяешся з таго самага часу.

Зазвінела крынічка.

Што табе, маленькая крынічка?

Звон.

Ведаць хочаш? Пра хлопчыка? І ведаць няма чаго. Жабравалі. Залез дурнічка ў магнацкі сад. Залатога яблычка захацелася. А там на яго хортых спусцілі: цюга яго! Цю-га! І хто з іх за гэта спытае?

Мыкае Ян.

Правільна. Сабакі. Страшныя сабакі. З перапуду завязала яму язык. Так шэсць год ходзім. Цяпер вось дамоў.

Мяккі звон. Жабрачка ўстае.

Ну добра, добра, крынічка. Ты заставайся, мы пойдзем.

Ідуць. Жужжаць струны ліры.

За ўсіх бедных людзей
Па палёх яна ідзе...
Ідзе...
Ідзе...

Знікаюць.
Уздымаецца заслона.

Бахарэвічы. Густы сад пры хаце Яўхіма. Апошнія дні жніўня. Пад дрэвамі, на лавах, проста на зямлі сядзяць людзі. Тут Кастусь, які гладзіць па галаве нямога Яна, Яўхім з жонкай, Гарэліха, Марцявічус, Чортаў Бацька, Арсень, Вастравух, Заруба, Караліна ў сялянскім адзенні. Трохі ўбаку — Чорная плакальшчыца. Вочы людзей глядзяць на адну постаць, наводшыбе ад усіх. Гэта Цаплін.

Арсень. Імем нашага народа я, старшынствуючы Арсень Станевіч, абвінавачваю палкоўніка царскай арміі Цапліна ў незлічоных ліхадзействах, якія ён чыніў тут і на магілёўскай зямлі, як супраць мірнага народа, так і супраць людзей, якія законна паўсталі за сваю волю, веру, бацькаўшчыну.

Вастравух. То праўда.

Арсень. Мы выкралі яго і прывезлі сюды, каб людзі наваколля ўбачылі самі, хто ім вораг... Цаплін, устань, адказвай.

Цаплін *(з гонарам)*. Не ваша справа мяне судзіць, бандыты. Я сумленна выконваў загады майго цара.

Яўхім *(уздымаецца)*. Ца-ра?!

Яўхіміха. Нясе немаведама што.

Гарэліха. Цыганская твая праўда, пане. Мілуе цар, ды не мілуе псар.

Цаплін *(Арсеню)*. Мне здаецца, вы адукаваны чалавек. Скажыце гэтым тубыльцам, што калі рука ўздымае палаш, то абавязкова павінна быць галава, якая загадала ёй зрабіць гэта.

Заруба. Ясна. А мы ж вам казалі...

Крык. Арсень ударае малатком па стале. Цішыня.

Арсень. Яны паўсюль такія. Слугі аднаго пана...

У чым вінавацiць гэтых слуг тваё наваколле, Яўхім?

Яўхім. Яны не далі нам зямлю. Калі народ пачаў шумець — чатыры вёскі выселілі ў Сібір ды ў Туркестан, у пустэчу. З немаўлятамі. Сэрца наша ад крыўды запяклося крывёй.

Яўхіміха. Вінавачу ў пажары Ганова.

Гарэліха. Дзетачак шкада. На гнаішчы ляжалі...

Арсень. Ты, Вастравух.

Вастравух. Тапілі паўстанцаў у балотах. Вешалі за ногі.

Плакальшчыца. Грушы бачыла... Грушы на вербах... Доўгія... На вяроўках... Гайдаюцца...

Арсень. Ты, Заруба.

Заруба. Ды халера на іх. Усё б нічога, але нашто яны нас абылгалі перад народам. Мы, бачыце, пры-гон вярнуць хацелі.

Арсень. Ты, Пархвен Бабаед па мянушцы Чортаў Бацька.

Чортаў Бацька. Язык яшчэ мазаліць аб падла тое... Спытайце замест мяне лукішскія шыбеніцы. Колькі соцень людзей яны зжэрлі.

Арсень. Ты, Караліна.

Караліна. Што я магу сказаць? Зямля плача.

Плакальшчыца.

Нівы патаптаныя,
Дрэвы пассяканыя.
Гнёзды раскатаныя,
Свінец...
Свінец...
А дзеці без хлеба,
А пажары — у неба,
Шыбеніцы ў неба.
Канец...
Канец...

Арсень. Ты слухаеш, Цаплін?

Цаплін *(з гонарам).* Я паўтараю. Ваша быдла яшчэ мала вучылі.

Паўза.

Арсень. Устань... Кажы...

Устае Марцявічус, на якога страшна глядзець.

Марцявічус. Я вінавачу яго ад імя магілёўскай

зямлі. На ёй цяпер сапраўды адны магілы. На дне Дняпра, безыменныя, ляжаць браты... Усё...

Кастусь. Ён вам, палкоўнік, нічога не сказаў пра свайго бацьку, якога вы павесілі...

Арсень *(да нямога Яна).* Гавары.

Кастусь. Я скажу... За яго...

Паўза.

*(Устае і кладзе руку на галаву Яна.)* Я нямы, як мая зямля і як народ яе... Як кожны, народжаны ў свет, я хацеў шчасця. Я хацеў плесці вянкі, біць нагамі ваду на мелкаводдзі, вучыць літары ў школе, спяваць песні, араць нівы, пакрыкваць на коней. Хацеў абгаворваць з жонкай, ці не пара касіць. Хацеў благаславіць перад канчынай дзяцей на сваёй мове.

Ян хоча сказаць нешта.

Адна раніца адняла ў мяне ўсё гэта. Яблык свяціўся над агароджай, як маленькае сонца. Я пацягнуўся за ім, забыўшыся, што сонца таксама не для мяне... Я ўцякаў, адчуваючы спіною гарачае дыханне сабак. Я хацеў крыкнуць — крыку не было...

Ян мыкае, хітаючы галавой.

Я нямы, як мая зямля і як народ яе... І калі за мяне хацелі ўступіцца — з'явіліся людзі ў мундзірах і пачалі страляць...

Цаплін. Досыць! Даволі ўжо! Даволі!

Нямы цалуе руку Кастуся. Кастусь адказвае пацалункам у галаву.

Кастусь. Ты як мой сын. І для цябе я клянуся: ніколі ў жыцці ў мяне не будзе іншых сыноў, акрамя такіх, як ты. Я чалавек, я люблю, але пакуль я за адзін твой язык не вырву языкоў ва ўсіх тых, што цкуюць людзей сабакамі,— да таго часу я не буду ведаць ні сну, ні спакою, ні любові.

Уздымае нямога. Паўза.

Арсень. Што хочаце сказаць?

Цаплін *(глуха).* Я нічога не хачу сказаць.

У цішыні Арсень кладзе на стол пісталет. Марцявічус бярэ яго.

Марцявічус. Ідзі.

Выходзіць следам за палкоўнікам. Паўза. І тут з-за хаты выбягае задыханы хлопчык.

Хлопчык. Дзядзька Яўхім! Салдаты з Ганова! Абходам!

Яўхім. Дзе?

Хлопчык. У вёску заходзяць! З капітанам.

Яўхім. У яшчура загуляліся, вартаўнікі!

Паўза.

А збірацца больш трох... цар забараніў.

Паўза. І тут раптам Яўхім махнуў рукою.

Жаніцца і быдлу можна... Хлопцы, борзда!

Натоўп завіраваў. Людзі ўскочылі з месца, кінуліся ў розныя бакі. Нехта ўзмахнуў у паветры абрусам, і вось, нібы гэты абрус — абрус-самабранка, на сталах пачалі з'яўляцца ежа і «пітво». Бразгаюць боханы хлеба, цвёрдыя тараны, коцяцца яблыкі, нехта высыпае рэшата вогненных ракаў. Людзі цягнуць пустыя сулеі, і Заруба, хэхэкаючы, налівае іх вадою з цэбра ля студні.

Заруба. А вось крынічнай... каб ад п'янства аж вочы вылезлі!

Сталы нагадваюць ужо галандскі нацюрморт, а людзі цягнуць і цягнуць «пітво» і ежу. Здалёк далятаюць крокі і песня.

Вастравух. Сто-ой! Што ж гэта за стол, каб вы спруцянелі! *(Бярэ ракаў і растрасае іх па стале, ламаючы. Бярэ суляю з вадой і кропіць стол.)* Дзе п'юць, там і льюць...

Крокі зусім блізка. І тут Яўхім ляпае далонню па лбе.

Яўхім. А жаніх?

Заруба. На вяселле паехалі, а жаніха ў гумне забылі. Малоціць!

Вастравух. Людцы! Абы выпіць!

Яўхім *(глядзіць на Пархвена).* Вось яно... Знайшліся... *(Хапае за рукі Пархвена і Гарэліху.)* Марш у галаву стала!

Чортаў Бацька. Што ты!.. Што ты!.. Ды я? Ды з ёю? То Зарубу, то мяне! Жар-тач-кі?!

Арсень. Трэ было не высоўвацца!

Вастравух. Пацягнулі бычка.

Гарэліха. Каб я, сумленная ўдава?! Ды з гэтым эфіёпам?!

Крокі ўжо зусім блізка. Пархвена і Гарэліху пасадзілі сілком, змайстравалі вэлюм, вянок з галінкі. Пархвену паклалі за вуха кветку. Выгляд у «пары» надта смешны.

Заруба. Семярых прыжыла, а ўсё дзеўкай была.

Людзі размясціліся ў маляўнічых паставах. І вось ужо гэта сапраўды вяселле. Яўхіміха падае Кастусю кол.

Яўхіміха *(Кастусю)*. А ты вастры кол!

Кастусь вострыць. І тут з-за хаты з'яўляецца капітан фон Юнген з салдатамі. Натоўп за сталом прыйшоў у рух. Людзі п'юць і відавочна «п'янеюць».

Яўхім. Бяседа ніш-то сабе!

Арсень. Ты цёшчу на другі дзень набі, чым пад руку трапіць.

Чортаў Бацька. Дзеля чаго?

Арсень. Так... Каб ведала.

Яўхіміха *(да Гарэліхі)*. Плач, кажу табе. Плач.

Гарэліха *(галосіць)*. А-а родная ж мая матачка! А-а сама ж ты йшла за роднага татачку! А-а мяне ж ты аддаеш за чужога мужыка!

Гамонка робіцца бязладнай, твары — чырвонымі. Ідзе геніяльная містыфікацыя. Гульны, п'яны, шалёны натоўп не звяртае аніякай увагі на афіцэра і салдат.

Яўхіміха. Горка!

«Маладыя», вагаючыся, цалуюцца. Гарэліха непрыкметна сплёўвае. Шум сціхае.

Арсень. Пі, кажу, пі, каб ты дзёгцю ўжо дзе была напілася!

Яўхіміха. Вой, упілася!

Вастравух. Пі!

Заруба. Білі мяне... малацілі... Вось вам і свята.

Арсень *(суцяшае)*. Ну і чорт з ім, што набілі. Свята без мучаніка не бывае.

Юнген. Ці-ха!

Шум сціхае.

Чаму зборышча? Якая прычына? Чаму з сякерай?

Чортаў Бацька. Жанюся, паночак, выпі, не пагрэбуй. *(Падносіць Юнгену чарку.)*

Вастравух *(шэптам)*. Здурэў, ёмашнік стары... Вада ж...

Юнген *(жорстка ўсміхаецца)*. Каму прапануеш, хам? Стайню забыў? П'яныя напіліся, халеры.

Чортаў Бацька далікатна дыхае ўбок.

Хто чалавек з сякерай? Што робіць?

Гарэліха *(падкаціўшыся да яго)*. Госць... Аднадворац! Калок вострыць!

Юнген. Нашто?

Гарэліха. А л-любенькі. Вядома нашто... *(I засаромелася.)*

Яўхіміха. Забіваць ля хаты жаніха будзем. Каб трымаўся моцна, як кол,— усё жыццё, аж пакуль не спарахнее.

Юнген. Дзікуны.

І тут успыхвае сумная, прыгожая песня.

Яўхіміха.

Прывяжу я свайго коня
Да ліповага кола,

Яўхім.

А сам пайду да каханай
У вясёлае кола.

Яўхіміха.

Прывяжу я свайго коня
Да адрыннай плятушкі,

Вастравух.

А сам пайду да каханай
На белы падушкі.

Юнген. Ціха! Што за тлум? Які кол, мужыцкія морды? Як забіваць?

Каліноўскі падносіць кол блізка да салдат, торкае ў зямлю — у вачах ягоных небяспечная гарэзлівасць — і абухам пачынае заганяць яго глыбей.

Кастусь. Вось як!

У вачах у Яўхіма злосць змянілася чымсьці чартоўскім, помслівавясёлым. Ён падыходзіць, нахіляе кол.

Яўхім. Не лезе! Вады падліць.

Яўхім хапае цэбар і вылівае пад кол. Цяпер яны б'юць з Кастусём у дзве сякеры. Пасля першага ж удару пырскае гразь. Удары мацнеюць. І раптам страшэнны струмень гразі ляціць на салдат і афіцэра.

Юнген. Но!

Толькі хвіліну людзі стаяць страшна і сурова. Потым натоўп завірыў. А гразь пырскае і пырскае.

Чортаў Бацька. Жыве-е! Каб вам, бабачкі, Барданос сасніўся.

Закруцілася кола. Вяршыцца язычаскі страсны абрад «калка». Урэшце ўсё змяшалася. Хто скача, хто коціцца па зямлі. Вось ужо ўтварылася «куча малая». І грукаюць, грукаюць сякеры, пырскае гразь. І старонящца, старонящца салдаты і Юнген. І раптам, у той момант, калі салдаты ўжо зусім збіраліся пайсці,— глухі далёкі стрэл перарваў і вяселле, і музыку, і ўсё. Людзі застылі хто як быў.

Юнген. Што гэта?

Паўза.

Салдаты, у ружжо!

Салдаты выбеглі.

Яўхім. Ну, хлопцы, іншай дарогі нам цяпер няма... У ружжо!!!

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Кабінет Аляксандра ў Зімнім палацы. За вокнамі пахмурая асенняя Нява. Гарыць камін. Мякка прабіў недзе англійскі гадзіннік. У кабінеце граф Мураўёў і жандарскі палкоўнік Лосеў... І раптам варухнуўся, зрабіў крок наперад чалавек на партрэце цара. Толькі тады, толькі ў гэты момант мы разумеем, што перад намі не партрэт, а дзверы і жывы імператар, які заходзіць у пакой.

Аляксандр. Сядайце, панове. *(У яго завучаны ветліва-абыякавы тон і сляпуча халодная ўсмешка.)* Я задаволены разведкай і не задаволены ўладай. Я задаволены вамі, палкоўнік Лосеў, і не задаволены вамі, граф.

Лосеў. Я раблю сваю справу для вас, ваша вялікасць.

Мураўёў *(паморшчыўся)*. А я раблю сваю справу не для вас, ваша вялікасць. Я раблю яе для ідэі імператарскай улады, якая — увесь ваш род і, адначасова, ніхто з вас... Магчыма, палкоўніку будзе няёмка чуць такое, але яна вышэй, бо яна — сімвал, ідэя.

Лосеў пачаў пакручвацца на месцы.

І таму я, напэўна, дрэнна раблю сваю справу для вас, але для яе — добра.

Аляксандр. Ідэйны чалавек... Прадстаўнік дзяржаўнай ідэі ў Заходнім краі... І ён кажа: «Хацелі неба на зямлі. Цяпер палова з іх у зямлі, а палова — паміж небам і зямлёй».

Мураўёў. Кажыце далей, ваша вялікасць. Сказаў жа Пётр Валуеў, што бедным беларускім балотам дастаўся ва ўладары не бусел і не цурбан, а помесь таго і другога.

Аляксандр. Што гэта?

Мураўёў *(пакасіўся на Лосева)*. Па-мойму, гэта

дыскрэдытацыя той улады, якая прызначае намеснікам такую помесь... Па-мойму, гэта распуста...

Паўза. Лосеў глядзіць на Мураўёва з жахам і здзіўленнем.

Аляксандр. Міністр Валуеў сваё атрымае. Але караць можна і без вашых цынічных выхадак. Я зрабіўся прытчай ва языцах усёй Еўропы... Дзякуючы вам... Я, цараванне якога называюць добрым, які вызваліў народ... І вы... вы шуміце пра шыбеніцы ва ўсіх газетах... Я, урэшце, за-ба-ра-няю вам гэта.

Мураўёў. Шыбеніцы? Тады заадно забараніце паўстанцаў.

Лосеў шумна пацягнуў ротам паветра.

Ваша вялікасць, вы, за якога я сто разоў рызыкаваў жыццём, зганьбіў сваё імя, зразумейце, мы на краі прорвы. Папярэдняе жорсткае цараванне павесіла пяць чалавек. Наша, добрае, распачало трэцюю тысячу... І правільна робіць... Таму што паўстанне на Беларусі і Літве робіцца *мужыцкім* паўстаннем. Каб не я, каб не памылкі іхняга ранейшага камітэта — сёння існавала б ужо літоўска-беларуская *рэспубліка.*

Аляксандр. Я не дзіця, якое палохаюць букай.

Мураўёў. Гэта не бука... Гэта пажар...

Аляксандр (*тонам загаду*). І мне хацелася б, каб мае слугі ўсё ж не злоўжывалі пятлёй. Існуе Сібір.

Мураўёў. Я выселіў туды трыццаць тысяч чалавек, я сяку лясы, я выпальваю заразу. Але гэтага цяпер ма-ла. Бо гэта ўжо не дваране, а народ! І калі Валуеву, Пятру-малому, малому нават у жорсткасці, не хочацца помесі бусла і цурбана — хай ведае: гаспадаром у гэтых балотах стане *леў...* Імя яго — Кастусь Каліноўскі...

Аляксандр. Мяне не абыходзяць вашы папяровыя львы... Мяне засмучае ваша палітыка. Разгул катаў! Даносяць! Падкідаюць зброю з мэтай правакацыі!

Лосеў устае і на дыбачках адыходзіць трохі далей.

Мураўёў (*сумна*). Куды вы? Мяркую, вы, Лосеў, не будзеце падобныя да тых, што перанеслі мой жарт гасудару?

Лосеў. Пастараюся...

Мураўёў. Пастарайцеся. Тым больш, гэта не зусім смешны жарт.

Аляксандр. Гуляць маім імем сапраўды не зусім смешны жарт...

Мураўёў. Я прывык за доўгае жыццё разграбаць гразь, каб рукі іншых былі чыстыя. Я нічога не саромлюся. Сілу апраўдваюць. Вучоныя, паэты — уся гэтая сволач. Вас — абеляць. Мяне — ніхто. Я не баяўся гэтага. Але цяпер мне кажуць, каб пальчаткі для гразі былі белыя. Я стары чалавек, і мне позна пераvучвацца... Я патрабую адстаўкі.

Паўза.

Аляксандр. Вы не смееце нічога патрабаваць. Гэта я патрабаваў у вас. Аднаго. Менш публічнасці.

Мураўёў. Тады не трэба вешаць. Усе пяць з паловай мільёнаў павінны ведаць: вось што чакае таго, хто паўстае... Перадайце гэта, калі ласка, майму намесніку...

Аляксандр (*менш рашуча*). Гэта кажа хрысціянін.

Мураўёў. Хрысціянін не той, хто плача, чытаючы евангелле. Хрысціянін — гэта воін той арматы, што завецца *ваяўнічай царквой*... Ён павінен сячы галовы, іначай — беларусы пачалі ўжо клапаціцца аб гэтым — не будзе ні хрысціян, ні вас, гасудар.

Паўза. У голасе графа іронія.

Цяпер я стану хрысціянінам у *вашым* разуменні. Усе стануць мяне хваліць. Нехта мяне замяніць. А можа, самі згодзіцеся запэцкаць рукі ў крыві?

Лосеў. Граф!..

Мураўёў. Што, Лосеў... Я не саромлюся маіх слоў. І запамятайце іх... для сябе... Я нічога не баюся, гасудар, акрамя бога і сустрэчы з вашым святым бацькам на тым свеце. Ён з мяне спагоніць. Ён спагоніць і з вас. За вашы ўчынкі. За царства... Дагаворым там, гасудар.

Паўза.

Аляксандр. Як, вы казалі, прозвішча таго чалавека?

Мураўёў. Кастусь Каліноўскі.
Аляксандр. Паляк?
Мураўёў. Беларус, ваша вялікасць. Ён паставіў пад ружжо сто тысяч мяцежнікаў. Хай мой намеснік помніць, што дзяржава, вы — нічога не можаце яму зрабіць, а ён хістае імперыю, як хоча.
Аляксандр. Хто ён... Лосеў?
Лосеў. Амаль нічога не ведаем. Але ў кожным стрэле — яго рука.
Мураўёў. Гэта ўтрапёны фанатык, чалавек каменнай волі, вялікага розуму, таленту...
Аляксандр. Розум, талент... Колькі іх было?!
Мураўёў. Былі і да яго, але гэта асоба нечалавечай нянавісці да вас...
Аляксандр. І што?
Мураўёў. Ён таленавіты арганізатар, ваявода, публіцыст. Ён любіць сваю ідэю... Перадайце гэта майму намесніку, прызначце пенсію яго дзецям і развітайцеся з ім. Бо, калі так пойдзе, намеснік праз месяц будзе вісець пад Вострай Брамай.
Аляксандр. Ён хто?
Мураўёў. Мой намеснік? Не магу ведаць.
Аляксандр (*глуха*). Не жартуйце... Я пытаю пра Каліноўскага.
Лосеў. Выхаванец Пецярбургскага універсітэта... Дваранін... Паэт...
Аляксандр. І Пушкін пісаў вершы. Гэта — як хвароба.
Лосеў. Ён піша, вядома, куды горш.
Мураўёў. Але кожны нумар яго газеты — выбух. Перадайце гэта...
Аляксандр (*ціха*). Вы амаль давяршылі свой подзвіг... Што б вы ні рабілі — вы павялічваеце гэтым маю нязменную прыхільнасць да вас.
Мураўёў. Дзякуй вам... гасудар!
Аляксандр. І славіце, славіце гэтага чалавека... Знішчыце гэты зброд... Павялічце ўдвая штат Лосева.
Мураўёў. Я — зраблю.
Лосеў. Вы зробіце, ваша сіяцельства.
Мураўёў. Іх мала знішчыць. Іх трэба яшчэ і прынізіць. Мёртвыя — жывуць.
Лосеў. Віленскі камендант скардзіўся: на полі, дзе хаваюць пакараных смерцю,— маўклівыя маніфестацыі... Магілы мы раўняем. І ўсё адно, кожны

дзень стаяць людзі ў чорным. Моўчкі стаяць. Не плачуць... Страляць?

Мураўёў. Нашто? Проста зрабіце ім фізічна немагчымымі гэтыя наведванні.

Лосеў. Як?

Мураўёў. Ну... хаця б ачысціце за ноч усе прыбіральні Вільні і заліце гэтыя магілы слоем... Дастаткова чвэрць сажня... Прабачце, ваша вялікасць.

Лосеў. Ваша вялікасць...

Мураўёў. Нявіннасць не дазваляе? А гэта лепш чым кулі. Статак не хоча быць смешным.

Аляксандр. Ён ведае людзей, Лосеў. Трэба ўгноіць Заходні край для будучага пасеву.

Паўза.

Задайце... задайце ім.

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Яшчэ да падняцця заслоны чуваць гарматныя стрэлы, залпы, воклічы. Калі заслона паднялася — мы бачым скарэжаную зямлю, на ёй сям-там трупы, кінутыя косы, апракінутыя гарматы і — далёка! — вёску ў агні. Гараць Бахарэвічы. На першым плане абгарэлы шкілет дрэва, на другім — некалькі салдат капаюць чарговую яму. Пад дрэвам сядзіць капітан фон Юнген, піша.

Салдат. Дзевятую капаем.

Юнген. Пэўна, досыць, па дваццаць шэсць на яму. Капец. *(Апусціў Note bene ў скураной вокладцы.)* Ну што данясеш? Разбілі пераможна палком — пагана ўзброены атрад.

Салдат. Вядуць.

З левага боку салдаты выганяюць на сцэну невялікі натоўп жыхароў спаленай вёскі. Пераважна і старыя і жанчыны. Сярод апошніх — Яўхіміха, баба Гарэліха.

Юнген. Ну што, мужыкі. Дастукаліся... Давядзецца замест сваіх бяроз чужыя піхты пілаваць... А замест торфу — біць кіркой у рудніках руду чужому дзядзьку.

Натоўп маўчыць. І раптам вокліч. З правага боку канвой выводзіць пана Зарубу, Вастравуха і Яўхіма Барданоса. Вастравух паранены ў галаву: праз павязку выступае кроў. Заруба і Барданос вядуць яго. Палонных паставілі перад Юнгенам. Левая рука Яўхіма бязвольна звісае.

Юнген. Ну?.. Што?..
Яўхім. Нічога, пагулялі ладна.
Юнген. А як наконт расплаты?
Яўхім. Мы людзі з гонарам. Карчму разнеслі, то неяк і за чарапкі заплоцім.

Злавесная цішыня.
Парушае яе салдат, звяртаючыся да фон Юнгена.

Салдат. Мы зносім трупы.
Юнген.
Паглыбей
Забітых закапайце, каб ваўкі
Касцей не расцягнулі.
Вастравух *(злосна)*.
Воўк нічога.
Прынамсі, ён хлуслівым чорным словам
Не пэцкае імён герояў.
Ўсё гэта людзі зробяць... Зробіш ты,
Халуй.
Юнген *(іранічна)*.
Зараз упадзе,
А брэша, недабіты, гнойны пёс.

Вастравух адштурхоўвае сяброў.

Вастравух. Пусціце!.. Сам...
*(Пахіснуўшыся трохі, ён умацаваўся і стаў цвёрда.)*
А то яшчэ ён збрэша,
Што я, калі мяне на смерць вялі,
Пручаўся і нагамі дзве дарожкі
Да месца праараў.
Юнген.
Ты, Вастравух,
Падумай: варта заплаціць жыццём
За слова вострае, за жарт дурны?
Вастравух.
Хай будзе слова, як няма кінжала.
Юнген.
Мне ад цябе не вельмі многа трэба.
Скажы адно: хто вамі кіраваў,
Хто прысылаў для вас наказы з Вільні,
Хто ўгаварыў вас падтрымаць мяцеж?
Яўхім.
Да сэрца дабіраюцца — маўчы.
Юнген.
Адно імя... І я тады палонных

І ўсіх сялян адразу адпушчу.

Яўхім.

Да сэрца дабіраюцца — маўчы!

Яўхіміха.

Угаварыла беднасць. А наказы
Нам голад прысылаў.

Вастравух.

А кіравала
Усімі намі ярасць. Вось і ўсё.

Юнген *(да Яўхіміхі).*

У беднасці вы самі вінаваты.
Народзіце дзяцей — а потым лямант:
«Зямлі няма!», «Галеча!», «Усё паны!»
Як быццам вам паны дапамагалі
У гэтай справе.

Яўхіміха.

Гэ-эх, панок... панок...
Бог любіць нас і дорыць нашы хаты
Дзіцячым крыкам і дзіцячым смехам.
І ганарыцца вам прычын няма.
Усё жыццё вы плавалі ў крыві,
А бог вас пакараў за грэх ваш цяжкі.
Таму яны й пустыя, вашы хаты,
І рэдка ў іх гучыць дзіцячы смех.

Салдат *(Юнгену).* Ваша высакароддзе сказалі па дваццаць шэсць...

Юнген. Ну.

Салдат. Памылачка атрымалася. Выкапалі лішнюю магілу.

Юнген. Чакай, колькі забітых?

Салдат. Іхніх — восемдзесят. Нашых — сто дваццаць восем.

Заруба. Дрэнная прапорцыя.

Юнген. Што?

Заруба. Ваюем дрэнна. Шэлег нам цана. Нас на Гродзеншчыне не больш дзвюх тысяч са зброяй. Вас — дзесяць.

Юнген. Апошні раз пытаю: хто?

Вастравух. Голад! Рабства!

Паўза.

Юнген. Салдаты, слухай маю каманду!

Паўза.

Магіла пустой не застанецца. Гэтых трох — туды.

Агульны ўздых.

Салдат. Ваша высакароддзе...

Юнген. Шпіцрутэнаў захацелі... Вядзіце.

Заруба. Нашто весці? Мы — самі. Мы скакаць будзем, туды ідучы.

З асуджанай рашучасцю ўзяліся за плечы. Павольна закруцілася, пачало рухацца да ямы страшнае кола. Ногі намацваюць такт. Знайшлі. І толькі тады прыходзіць музыка, хуткая, але грозная, падобная і не падобная на звычайныя гукі «Мяцеліцы».

Курыць, вее мяцеліца,
Чаму стары не жэніцца.
— Як жа яму жаніціся?
Усе будуць дзівіціся.
Ух, ух, уха-ху!
Янкі галава ў снягу.
— А як гэта дый не снег,
Тады людзям будзе смех!

Яны на краі ямы. Яўхім скокнуў у яе сам. Цяпер відаць толькі іхнія плечы. Ім цесна, але яны рухаюцца, але галасы спяваюць.

Ух, ух, уха-ху!
Гэта ж быў я на таку.
— А як гэта дый не пыл,
Дык ад дзеўкі будзе тыл.
— А хоць стары — не паганы,
Яшчэ дужы і румяны.
А што каму да таго?
Можа, я пайду ды за яго.

Голас з натоўпу. Даволі!

Спыніўся танец.

Яўхім.
Сапраўды даволі, браце...
Занадта... Не паверацъ... Стой, Заруба.
Мацуйся, любы браце Вастравух.

Яўхіміха.
Трымайцеся спакойна, мужыкі!
Хрыстос над вамі. Ён, пакутных, вас
Каля сябе пасадзіць.

Яўхім.
Ціху табе
З тваім Хрыстом. Не мог падмогі даць
На памагатых д'ябла.

Яўхіміха.
Не блюзнер!

Яўхім.
Чаго блюзнерыць? Я яшчэ не знаю.
Ці ёсць ён, бог?

Юнген.
А што ты, хаме, зведаў?

Я ў х і м.

А тое! Краем правіць Сатана.
Ты, капітан, і твой Мураш паскудны,
І ваша банда, і царок ваш снулы.
Ты пачакай, яму яшчэ за нас
Павытаргаюць ногі са...спіны.

В а с т р а в у х. То спраўдзіцца.

Ю н г е н. Салдаты! Закапаць!

Паступова сыплецца з-пад рыдлёўкі зямля. Загаласілі бабы.

Я ў х і м.

Цыц, бабы, не рвіце наша сэрца.
Спакойна дайце нам сустрэць канец
І весела...

Г а р э л і х а. Змоўч, людзі... з імі бог...

Я ў х і м і х а.

А гэтым — гонару занадта многа,
Каб перад імі плакаць... Змоўч, народ.

Цяпер цішыня вісіць над галовамі людзей. Зямля дастае смяротнікам амаль да плячэй.

В а с т р а в у х *(Яўхіму)*. Бачыш, а ты мяне засячы хацеў... «Пан, пан...» У адной зямлі... стаяць будзем.

Я ў х і м. А можа, табе і лягчэй было б?

В а с т р а в у х. Ну не. Памерці растаптаным, як я тады? Так я хаця чосу ім даў...

Заруба вышэй за ўсіх, астатнім зямля дастае да рота.

Я ў х і м. Гэй, Заруба, ты й тут выгадаў... каб я табе прысніўся.

З а р у б а. Прысніся, брат, я тады адразу ўваскрэсну. Ад жаху.

Зямля падае Зарубу на галаву. Ён адплёўваецца.

Гэй, афіцэр, каўбаса гарохавая... Можа быць у смяротніка апошняе жаданне?

Ю н г е н. Ну?

З а р у б а. Я служыў паручнікам. Ты — капітан. Ці нельга саступіць сваё месца старэйшаму па чыну?

І ўсё. Замест людзей — капец зямлі.

Ю н г е н *(да натоўпу)*. Ну як?

Маўчанне.

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

Задні пакой за модным магазінам, які належыць Юзэфе Яневіч. Пад манекенамі доўгія рагожныя цюкі са зброяй. Тут жа сядзіць Арсень, узброены лупай; рэжа на гуме штамп, робячы пробныя водціскі. Кастусь сядзіць за сталом, гамонячы з Каралінай, Чортавым Бацькам, Марцявічусам. Кастусь скандуе.

Кастусь. Сачыніцель папулярных баек, з камітэта адказны таварыш, паважаны Арсенька Станевіч...

Арсень. Чаго табе?

Кастусь. Маніфест аб зямлі, які вы адрэдагавалі, на-дру-ка-ва-ны... вось... Трыста экземпляраў на Міншчыну...

Чортаў Бацька *(уздыхае).* Зямля-зямля...

Арсень. Добра.

Кастусь. Як пячаць?

Арсень. Зараз скажу. Будзе — хоць падарожныя фельд'егерам адмячай.

Кастусь *(скандуе).* Паважаны фальшывамонетчык і падробнік дзяржаўных пячацяў. Да чаго ж ты, браток, дакаціўся?!

Арсень. Змоўч, чапяла.

Чортаў Бацька. Сапраўды, як дзіця малое.

Караліна *(з дакорам).* Хлопцы... Вы ж ведаеце, *калі* ён вершы піша, вершамі гамоніць...

Яневіч. Вершамі жартуе.

Арсень. Знайшоў час жартаваць...

Кастусь. Лягчэй вам стане, калі я плакаць буду? Жартуйце, хлопцы, жартуйце... Каб не вершы, не жарты — ета ж проста нам усім перавешацца трэба было б... самім... не чакаючы мураўёўскай ласкі... От, пэўна, узрадаваўся б! *(Цытуе.)* «З-за адсутнасці здаровага смеху ўрад паўстання перавешаўся ў поўным складзе».

Караліна. Каліна, не трэба...

Кастусь. Сонца з месяцам ззяе на небе. На зямлі — адно толькі сонца. Каралінай яно завецца... Подлых змоўшчыкаў святлом саграваае.

Яневіч *(ціха).* Сэрца збалелася, на цябе гледзячы... Не забыў жа... Не...

Паўза.

Кастусь. Я, матулечка, усё помню... Я — не з тых, што забываюць...

Паўза.

Рыгнецца ім яшчэ за жыўцом закапаных, за дзярмо на святых магілах... Адальюцца кошцы мышчыны слёзкі... І не дзярмом — крывёю. Вось яно як.

Паўза.

І таму працаваць, хлопцы, працаваць.

Званочак. Яневіч выйшла. Кастусь выняў з цюка штуцэр, прыцэліўся.

Дзіва штуцэры. Адвязём на Слонімшчыну.

Марцявічус. Згода.

Кастусь. А тыя няхай зэльвенцы возьмуць.

Заходзіць Яневіч.

Яневіч. Ф-фу-у. Удружыў ты мне, Кастусь, дружок, гэтым магазінам... Бабы прыходзяць дурныя, як курыцы.

Кастусь. Гаспадыня моднага салона, найяснейшая пані Яневіч, пацярпіце дзянёк, калі ласка, накіруем мы вас у Варшаву: аднаўляць з «чырвонымі» сувязь.

Яневіч. Праўда?

Кастусь. І «чырвоныя» ў Варшаве — праўда. І паездка — праўда... Караліна!

Караліна. Што?

Кастусь. Добра ты гукі вымаўляеш. *(Хітнуў галавою.)* Справа для цябе.

Караліна. Ну...

Кастусь. Імператар Аляксандр Другі, вялікі князь Самагіцкі, гасудар і вялікі князь Абдорскі і Кандзійскі, наследнік Нарвежскі, Дзітмарсенскі і прочая і прочая зволілі прыняць катэгарычны імператыў графа Мураўёва, вялікага князя Самаедскага, гасудара Шыбеніцкай зямлі, Лобных месцаў і прочая — аб разгроме і рэпрэсіях. *(Ідзе да непрыкметных дзверцаў і дастае адтуль два чамаданы.)* У адказ на гэта найбольш небяспечная з калматых нігілістак беларускіх, Караліна, па мянушцы Крывавы Кінжал, павязе ў горад Мінск гэтыя шрыфты.

Караліна. Нашто?

**Кастусь.** Каб падкласці іх пад трон начальніка мінскага акцыза.

**Чортаў Бацька.** Хай узрываецца.

**Марцявічус.** О, выбуховая моц беларускага вольнага слова!.. Гекзаметрам загаварыў.

**Караліна.** Сур'ёзна.

**Кастусь.** Дрэнна... *(Голас ягоны сеў.)* Рэпрэсіі. Сярод калег — слабіна... Трэба зноў звязваць людзей... як сноп... дарагое маё перавясла...

Званок ля дзвярэй магазіна.

**Яневіч.** Зноў... Адны гускі ды аслы ходзяць... *(Выйшла.)*

**Караліна.** Я зраблю.

**Кастусь.** Ведаю... *(Да Арсеня.)* Падрыхтуй, Арсень, загад. На кожнага павешанага паўстанца падпольны ўрад адкажа ўдарам кінжала... Няўхільна... Няўмольна... Адразу...

**Марцявічус.** Даўно пара...

**Яневіч** *(у дзвярах).* Кажу, нельга.

У дзвярах Вітаўт і Марыя Грэгатовіч.

**Вітаўт.** Свае. Трэба.

Зайшлі. Паўза.

**Кастусь.** Ах-х, вось яшчэ не было... Вітаўт!.. *(Ціха.)* Нашто прывёў староннягa?

**Вітаўт.** Ну-у!.. В-ведаеш! Табе ўнаравіць... як графскаму сабаку... Табе што, жыццё сваё — капейка?.. Я прый-шоў, каб вы-ра-та-ваць яго... Мала гэтага?.. Зразумеў? І ўсё! І досыць!

**Кастусь.** Зразумеў... Але гэта канспіратыўная кватэра. Я магу памерці — камітэт павінен жыць...

**Вітаўт.** То і памрэш...

**Марыя.** Пан Макарэвіч... Не трэба яго... Я ўадчай прыйшла, пакуль яго адшукала... Горад аббегала...

**Кастусь.** Спакойна, Марыя. Што такое?

**Марыя.** Надвячоркам зайшла суседка... Прасіла не выдаваць... Па сакрэту сказала, што ўжо ва ўсіх на тым баку вуліцы правяралі дамавыя кнігі, што заўтра будуць у астатніх... У нас... Я пайшла да мадам Сальe... *(У адчаі.)* Выявілася, што ўлады шукаюць слядоў Макарэвіча... Яны ведаюць, што ён і Каліноўскі — адно...

Чортаў Бацька. М-маем.

Арсень. Значыць, табе нельга вяртацца на Антокаль, Кастусь.

Паўза.

Марыя *(зусім ціха)*. Вы на Антокалі? І не маглі знайсці... Што ж, я зрабіла ўсё, што магла: заліла чарнілам ліст у дамавой кнізе маці.

Арсень. Чортаў Бацька, давай бланк.

Чортаў Бацька дастае з-пад маснічыны нейкія паперы.

Чортаў Бацька. На.

Караліна падышла яшчэ бліжэй да Кастуся і Марыі.

Марыя. Я ненавіджу гэтую вашу... справу. Але я зрабіла гэта.

Кастусь. За што ненавідзіце?

Марыя. Яна адбірае вас ад мяне. Якраз у той дзень, калі я зразумела, што... кахаю вас...— вы зніклі з флігеля на Антокалі: пайшлі, відаць, у гэтую сваю... справу... Яна і цяпер адбірае вас, дае мне замест шчасця штодзённае гора.

Кастусь. Марыя...

Марыя. Бо я кахаю вас. І я слабейшая за яе, праклятую. Што яна зрабіла з горадам, з краінай, са шчасцем, ваша справа?! А я — слабейшая. Я не магу змагацца супраць яе... Гора маё! Бяда мая! *(Плача.)*

Караліна. Сочаць... Падбіраюцца. Як пальцы да горла.

Марцявічус *(змрочна)*. Не лезь, Мураш, да горла мяцяжу, бо атрымаеш ты... па пысе... Не, я не Пушкін... Але па пысе ён атрымае.

Вітаўт. Не ўсё ж каб шанцавала ды шанцавала. Паўсюль. Ва ўсім. У вайне, выкраданнях, каханні... у картах... чорце, д'ябле.

Арсень са здзіўленнем азірнуўся.

Арсень. У якіх картах?

Вітаўт. Скажам, «у стратэгічных картах».

Марцявічус. З імі некаторым, прама скажам, не шанцуе...

Арсень *(нудна)*. Ты, Вітаўт, нуда японская... Астабрыд ты мне. *(Думае над бланкам пашпарта.)* Якое б табе прозвішча, Кастусь?

Вітаўт (*сам сабе, вельмі змрочна*). Банапарт нядрэннае прозвішча... Пугачоў.

Чортаў Бацька. Відны...

Арсень. Нешчаслівае для нашага брата прозвішча... Гм... Не, там людзі дрэнныя, поскудзь дробная, а не людзі... Спасаіконапрэабражэнскі? Пузам для такога прозвішча не выйшаў... А што, калі тваё, Пархвен, прозвішча? Ды не, які ён Бабаед... Унь бабы *яго*, гаротнага, поедам ядуць... Ага, ад лацінскага «віта» — жыццё... Шчаслівае прозвішча — Ві-та-жэ-нец.

Яневіч. А жыць яму, святому дурню, у святым месцы. У Свентаянскіх мурах.

Чортаў Бацька. Праўдачка. Да Мурашоўскага палаца адтуль — д-даплюнуць можна. Хто стане шукаць?

Кастусь (*да Марыі*). Але я не ўводзіў вас у зман.

Марыя. Але я кахаю.

Кастусь (*мякка*). Мне шкада, Марыя. Вельмі шкада.

Паўза.

Але я не магу быць побач. Не думайце, што прычына таму — вы. Проста мы ўсе тут — жаніхі радзімы, свабоды... Калі гэта цябе супакоіць — супакойся.

Караліна апускае галаву.

Калі можаш дараваць — даруй.

Караліна. Досыць... Не трэба слоў... Яна ж — ну проста... (*Робіць жэст адчаю.*) Маўчы. (*Бярэ Марыю за плечы, адводзіць.*)

Марыя. Ты таксама кахаеш... (*Дапытліва глядзіць на Караліну.*) Нічога. Я цябе не баюся. Я баюся — *той*... Бывай, Кастусь.

Кастусь. Бывай.

Марыя (*ціха*). Да сустрэчы... як прыйдзе «свабода». (*Горка.*) Не думала, што буду яе чакаць.

Чортаў Бацька. Чакай, дзетухна, чакай светлую нашу.

Пайшла Марыя.

Караліна (*ціха*). Нясцерпна ёй.

Яневіч. Ты ўжо маўчы!.. Ты ўжо маўчы!.. Як аперазаю, не гледзячы.

Арсень бярэ стары пашпарт Кастуся, паліць на запалках. Падае яму новы.

Арсень. Усё. Вітаю з хрышчэннем, пан Вітажэнец, прыватны настаўнік.

Марцявічус. Пан настаўнік, пан настаўнік, у вас бяда!

Кастусь *(змрочна)*. Што?! Кабан здох?

Марцявічус. Горш... інспектар прыехаў.

Усе засмяяліся, не вельмі весела.

Вітаўт *(голасна)*. Жарцікі... А ты на полі страчаных быў, а-та-ман?

Арсень. А ты лічыў, гінуць са сцягам? Так і гінуць.

Вітаўт. Ты быў, што жартуеш?

Яневіч. Змоўч, псіх... Выгляд твой пахмуры — свята светлае побач з ягонымі... жартамі, імяніны сэрца...

Кастусь. Не трэба яго крыўдзіць... Вітаўт, я ж не таму сказаў табе папрок, што ў мяне дрэнны характар, што я дрэнна стаўлюся да цябе. Проста, нават калі справа ідзе аб жыцці аднаго з нас — на канспіратыўную кватэру нельга весці староніх. Ты гэта — запомні.

Вітаўт. Яна ж твая кватэрная гаспадыня. Ты ж з ёю ды са мною аб зорах гаварыў.

Кастусь. Зоры — справа іншая. На іх яшчэ мураўёўскія сышчыкі не паспелі залезці.

Вітаўт. Я ж думаў, у яе толькі справа. Я ж не ведаў, што яна яшчэ і куры з табой строіць.

Кастусь. Не буду я з табой біцца, Вітаўт мілы.

Вітаўт *(непрытомна)*. Ух-х, да чаго ж цябе пашанцаванне любіць!

Кастусь. Скончу, значыць, дрэнна.

Чортаў Бацька. Тых бунтаўшчыкоў, якім шанцуе, улады асабліва не любяць.

Вітаўт *(у ціхай раз'юшанасці)*. І ваявода ты, і трасца, і хвароба... і паэт... «І акадэмік, і герой...»

Кастусь. Разнастайны чалавек... І цесля... Калок аднойчы зачасаў. І скончылася — страшна. Хіба што не мараплаўца... Вітаўт, што з табой?

Вітаўт. Мараплаўца... І каламутнае яно, тое мора, у якім плаваеш. Плывец ты — нічога. Толькі замест залатога ветразя ў цябе — ануча. Чужым зрабіў нам мора. Не ведаю, з якой прычыны. Са славалюбства?

Кастусь. Я не адмірал. Я грабу дзень і ноч, ратуючы карабель. У мяне ад напругі — кроў з-пад пазногцяў. Ты гэтага хочаш?

Вітаўт. Адмірал... хамаў...

Кастусь. За сябе я не крыўдую... хаця я любіў цябе... *(Грозна.)* Але гэтага, але людзей, братоў маіх,— ты мне не чапай... Мы за гэта за-ка-панымі заплацілі... Іх... жывымі... а ты мне тут... тэарэтычныя антраша выробляеш, змієў шып папалам з істэрыкай.

Доўгая паўза.

Досыць аб гэтым.

Вітаўт. Не, не досыць... Ты чаму мяне да вялікай справы не дапускаеш?! Чаму?

Кастусь. Ты ўдзельнічаў. У многіх.

Вітаўт. Ах, справы... Тэрарыст, экспрапрыятар, трасца, хвароба... А мне змыць, змыць з сябе трэба...

Кастусь *(пасля паўзы)*. Добра... Караліна не паедзе на Міншчыну...

Караліна. А хто?

Кастусь. Ён...

Вітаўт. Туды? Дзе развал?

Кастусь. Больш цяжкай працы няма... Не ўпэўнены — не едзь.

Вітаўт. Вось... Вось яе... толькі яе...

Кастусь. І ўлічы, там сапраўды цяжка.

Вітаўт. Зробім... Не ўсё ж ты ды другія... Мы таксама не шапкай боршч ямо, не ў нерат узімку хутаемся, не нагою нос выбіваем...

Паўза.

Кастусь. Едзь. Марыш аб славе? Законна для тваіх год. Хочаш небяспекі? Таксама. Працаваць хочаш? Працуй. Вось табе Міншчына. Рабі там што хочаш. Але каб праз месяц быў стальны парадак. Не зробіш — адкажаш. Будзем ведаць: крыкі твае — шчанюкоў віск. Зробіш — вось табе твая слава і памяць у пакаленнях.

І тут раптам устае пані Юзэфа.

Яневіч. Не! Агойтайся, Кастусь! Нельга!

Кастусь. Чаму?

Яневіч. Панства яго! Сённяшняя яго выхадка...

Кастусь. Ён заўсёды быў смелы... І ён зразумее

сваю няслушнасць. Усім нам іншай дарогі няма: або перамога, або пятля... Мяне ён не абразіць, Юзэфа. І потым, ён хлопец з хворым сумленнем, яму сапраўды трэба верыць у сябе...

Я н е в і ч. Нішто сабе гусь! Ну і ну! Яму дзевятнаццаць, табе — дваццаць пяць, а ты за яго не разумнейшы...

К а с т у с ь. Чаго гэта я гусь, цётка Юзэфа?

Я н е в і ч. А тое... Не любоў галоўнае ў ім. Зайздрасць!

К а с т у с ь. Рэўнасць, цётка... Рэўнасць да катаржнай працы... Хай працуе.

Я н е в і ч. Не вер!

К а с т у с ь. Ён — чалавек. Я не магу не верыць чалавеку.

Паўза.

*(Кастусь паказвае на чамаданы.)* Бяры. Чакай на кватэры інструкцый.

В і т а ў т. Дзякуй... Кастусь.

Пайшоў В і т а ў т.

А р с е н ь. Позна ўжо. Нам — час.

Я н е в і ч. Ідзіце... Я вас — выведу.

Усе пайшлі. Толькі Караліна трохі затрымалася.

К а р а л і н а. Ты добра падумаў?

К а с т у с ь. Трэба ратаваць чалавека... Як яно радзее, кола сяброў... Але *г э т а г а* я адчаю і злосці — не дам.

Караліна збіраецца ісці.

Скажы мне, сланечнік... Ты мне з самага таго дня не гаварыла.

К а р а л і н а. Што?

К а с т у с ь. Ты ведаеш, што...

І тады Караліна традыцыйным жэстам прыкладае кулачок сагнутай левай рукі да сэрца.

К а р а л і н а. Люблю... Беларусь...

К а с т у с ь. То ўзаемна... узаемна...

## КАРЦІНА ДЗЕСЯТАЯ

Канцылярыя ў мінскай жандармерыі. Ноч. Гарыць толькі адна свечка. Стол падзяляе дзве фігуры. Гэта Лосеў і Парафіяновіч. Ідзе допыт.

Вітаўт. Вы нічога ў мяне не знайшлі... Я пратэстую супраць арышту!

Лосеў. *Усе* гэта патроху робяць.

Вітаўт. Я — гэта не *ўсе*.

Лосеў. У вас — як ва ўсіх — дзве нагі... Цалкам прыдатныя, каб мераць камеру... *Усе* — мераюць. То чым гэта вы такі адметны перад дзяржавай?

Вітаўт. Без здзекаў!.. Я вам — не хлоп-чык!

Паўза. Лосеў раптам усміхаецца... Усмешка страшнаватая.

Лосеў. Гм... Магчыма... А я вось здзіўляўся, нашто арыштавалі такое дзіця?.. Дурасць!.. Што яно магло небяспечнага нарабіць у сваім узросце?

Вітаўт *(з гневам)*. То чаму арыштавалі?

Лосеў. Таму што, калі ідзе звычайная праверка, невінаваты не шукае чорнага ходу з кафэ. Чаму б гэта?

Вітаўт. У вас жа прынцып: вінаватага і дурань пакарае. Ты невінаватага пакарай — вось у чым сапраўдная дзяржаўная веліч.

Лосеў. І тое праўда... Прымітыўна — па ўзросту,— але ўмееце думаць. Глядзіце вы! Можа, вы сапраўды большая асоба, чыя я меркаваў?

Вітаўт. І што?

Лосеў. А тут яшчэ пашпарт на ваша імя знайшлі сярод папер забітага паўстанца Далеўскага. Чаму б гэта?

Вітаўт. Адзін Гаўрыла ў Полацку... Аднафамілец.

Лосеў. І тое... Другі аднафамілец, па чутках, Магілёўшчынай кіраваў.

Вітаўт. Парафіяновіч — распаўсюджанае прозвішча.

Лосеў. Канечне. Хіба мог юнец кіраваць такой махінай? Вам колькі?

Вітаўт *(праз зубы.)* Дзевятнаццаць.

Лосеў. Небяспечныя бываюць цёзкі... хлопчык... Вы — не з тых. Вам, дзіця маё, трэба славу любіць...

жанчын... Карыстацца іх узаемнасцю. Вы — прыгожы... хлопчык.

Вітаўт. Я магу вас папрасіць адмовіцца ад гэтага ідыёцкага звароту?

Лосеў. *Так...* Канечне... мой юны друг...

Паўза.

Дык вось, я наконт пашпарта магу вам паверыць... Але сістэма — не. Трэба зрабіць лянівай яе бязлітасную памяць. Можа, ведаеце хаця што-небудзь?

Вітаўт. Адкуль?

Лосеў. Ну, не ведаеце — не трэба... Я гэта пра дробязь... Каб улады маглі праявіць звычайную мяккую паблажлівасць і аддаць вас на парукі бацькам... малады чалавек.

Вітаўт. Лічыце, што маладосць перашкаджае рабіць вялікія... *(Асекся.)*

Лосеў глядзіць на яго.

Лосеў. *Т-так...* То бок — не... Я проста лічу, што вашаму ўзросту не вялікія справы, а каханне... Жанчыны, што праўда, любяць моцных, нязломных мужчын, але і ваша тонкая... тандэтная прыгажосць павінна ім падабацца...

Вітаўт *(гледзячы ва ўпор).* Гэта да чаго?

Лосеў *(усміхаючыся).* Ні да чаго. *(Канфідэнцыяльна.)* Шукайце жанчыну — кажа мая сістэма. І вось я, стары сыскны сабака, не ведаю, як гэта дастасаваць да вас... Якія вакол вас могуць быць жанчыны? Так, паненкі. Яны пішуць у альбомах, мараць аб прынцах і таму... павінны любіць вас.

Вітаўт. Канечне. Што я, пачвара?

Лосеў. *Та-ак...* Вельмі павінны. *(Скоса глядзіць на Вітаўта, які нервуецца.)* Шкада мне! Хаця б трошачкі ведалі... Хаця глупства... Ад сістэмы адчапіцца.

Вітаўт. Я нікога не ведаю.

Лосеў. Шкада... Таму што гульня скончана, хлопчык... А ўлады ў такіх выпадках не жартуюць. На Магілёўшчыне — правал, пад Бахарэвічамі — правал, Белы жонд ад... вас адхіснуўся. Разумныя... Не з хамамі ж ім блакіравацца?.. Хаця б нехта... Сказаць аб ім — і ўсё...

Вітаўт. Я нікога не выдам.

Лосеў. Стоп! Як так не выдам? Вы ж толькі што сказалі, што нікога не ведаеце... Га?

Паўза.

Вітаўт. Я гэта... у тым сэнсе, што... не ведаю.

Лосеў *(са знішчальнай пагардай).* Фінціць пачынаеце... шчанюк? Выкручваецеся, баязлівец... Трус! Насцеражылі свае маленькія, мякенькія вушкі... мужчына, які так і не адбыўся? Лічылі, пэўна, што велічыны. А вам сапраўды паненкам у альбомы пісаць.

Паўза.

Вітаўт *(з гонарам).* Досыць, вы!.. Даўно мне хочацца кінуць у вашу... пысу пару сапраўдных слоў. Але зарубіце на сваім фіскальным носе, што я... я адзін буду адказваць... Што я ні-ко-га не прадам, бо я не з бітых кантаністаў, як вы, і не з хамскіх падпявал, як іншыя...

Лосеў *(ціха).* Хм...

Вітаўт. Я дваранін, я рыцар, і ў мяне свой саслоўны гонар... Так што можаце не нюхаць далей мяне. Дарэмна стараецеся.

Паўза.

«Мой юны друг...» «Хлопчык». Вас у мае дзевятнаццаць год розгамі хвасталі... Вы тады для фельдфебеляў па піва бегалі... хам... А я батальёны, палкі вашы, як трусікаў, ганяў... Я... Трус... Я — Парафіяновіч, камісар Магілёўскай губерні.

Лосеў *(з удаванай уражанасцю).* То гэта — вы?

Вітаўт. Я!

Паўза.

Лосеў. Каледа старая... То гэ-та, значыць, вы?.. Сапраўды рыцар. Муж... І гэта пры такой маладосці.

За тонам бязмернай павагі ў яго словах гучыць страшны, бадай непрыкметны здзек, але Вітаўт яго не заўважае. Вочы яго гараць, твар амаль прыўкрасны.

Я памыліўся з альбомнымі паненкамі. *Такога* вас і Жанна д'Арк пакахала б...

Паўза.

Чым жа вы маглі стаць, калі ўжо зараз?!

Вітаўт (*глуха, горда і спакойна*). Цяпер ужо нічым.

Лосеў. Талент дзяржаўнага мужа. У яго дзевятнаццаць год?

Вітаўт. Мы — усе маладыя.

Лосеў. *Т-так*... І пры такіх здольнасцях увогуле — другарадная роля. Інспектар малаважнай губерні. Нейчы папіхайла... Паштальён чужых загадаў.

Вітаўт. Я паштальён, і я... ганаруся гэтым.

Лосеў (*пільна гледзячы на яго*). *Т-так*... Другі раз у самыя небяспечныя месцы. Фарпост Магілёўшчыны. Асуджаны на смерць Мінск... Як знарок...

Вітаўт. Значыць, верацъ: магу.

Лосеў (*узважваючы словы*). Ой не-е... Нешта не тое. Вы што, не ведалі, едучы, што тут — усё... што ехаць сюды можа толькі смяротнік?

Вітаўт. Не.

Лосеў. Скажыце, а ў кіраўніцтве — я не пытаюся пра імёны — не было нікога, з кім у вас былі старыя звады?

Вітаўт. У мяне няма ворагаў.

Лосеў. У кожнага ёсць ворагі... Толькі высакародны іх не заўважае. Няўжо вы думаеце, што я, напрыклад, аддаў бы заваяванае мною месца без барацьбы?.. Нават больш вартаму яго...

Вітаўт. То — вы...

Лосеў. О-ой, друг... Па-адумайце над прычынай, чаму вас піхаюць у небяспечныя месцы, як цар Давід — Урыю... Ну, там зразумела, жонка Урыі спадабалася цару... А вы?

Вітаўт здрыгануўся, і Лосеў заўважыў гэта.

А можа, і сапраўды жанчына. Вы ж малады, прыгожы, адважны... словам, небяспечны.

Вітаўт (*з ноткай хістання*). Не.

Лосеў. *Т-та-ак*... Жанчын вы не дзя-лі-лі... А як наконт славы?

Вітаўт. Мы не кар'ерысты.

Лосеў. Рэвалюцыя — адна з самых хуткіх кар'ер. Няхай за кошт рызыкі... І раптам — побач мацнейшая фігура...

Вітаўт. Н-не...

Лосеў (*з узрастаючай упэўненасцю*). Ён мог заў-

важыць, што пешка стала прахадною і можа зрабіцца ферзём паўстання.

Вітаўт. Не хлусіце на высакародных людзей.

Лосеў. Крый божа. Я ж і не пытаюся імён... Не скажаце. Не з тых... Скончым допыт... Толькі ў пратакол запішу. *(Піша.)*

На Вітаўта з кожнай хвілінай страшней глядзець.

*(Развយжліва.)* Подла... Адкупіліся вашай галавой... Прахадная пешка. Ведалі, што не прадасцё, загінеце адзін... І загінеце адзін... І загінеце... Слаўны, мужны вы чалавек. *(Піша.)* Стары метад гнюсных палітыкаў. Урыю — пад стрэлы, лаўры ягоныя — на чало, жанчыну — да сябе ў ложак... *(Амаль пад нос.)* Магчыма, якраз цяпер... Такія гэта ўмеюць...

Вітаўт. Не! Не! Не!

І тут Лосеў устае, нагінаецца, у вачніцах яго цені.

Лосеў. І-мя?!

Вітаўт. Я ненавіджу! Я заўсёды ненавідзеў яго!

Лосеў. І-мя-а!

Вітаўт. Жыў пад прозвішчам Макарэвіча. Цяпер? Здаецца.. Ві-та-жэ-нец.

Лосеў. Імя!

Вітаўт. Жыве ў Свентаянскіх мурах.

Лосеў. Імя.

Вітаўт. Кастусь Каліноўскі.

# АКТ ТРЭЦІ

## КАРЦІНА АДЗІНАЦЦАТАЯ

Абсерваторыя ў Свентаянскіх мурах. Старадаўнія зорныя сферы, бронзавы секстант, тэлескопы. У цёмных кутах таямніча пабліскваюць сімвалы знакаў задыяка. На ўсім пячаць занядбанасці. За вокнамі начны заснежаны дворык Пачобута. Сходы вядуць на падмосткі да двух тэлескопаў у невялічкіх вежах з купаламі. Створкі аднаго купала трошкі рассунутыя, і ў шчыліну відаць зімовае зорнае неба. Вызарыла буйна. На мароз... У абсерваторыі Каліноўскі, Чортаў Бацька і Марцявічус. Пархвен гадуе жмудзіна.

Кастусь. Ціха ў цябе. А я за два крокі, а шум.

Марцявічус. Чаму сапраўды ціха?

Кастусь. Былы універсітэт. Мікалай яго закрыў. І абсерваторыя пасля пажару не працуе.

Марцявічус. Такая безліч залаў — і на замку...

Кастусь. То і добра. Табе тут бяспечна, хоць «Бітву» танцуй.

Марцявічус. Не кажы... Быццам людзі вымерлі на зямлі... Нават зоры — непатрэбны... Нібы паўсюль пустыня, адзін я жывы.

Кастусь. Яны гэтага і хочуць, пустыні... Дай ім волю — яны нас назаўжды ад зор адвадзяць.

Паўза.

Маеш рацыю: пустыня... Адвучылі на зоры глядзець... Час такі...

Чортаў Бацька. А будзе іншы час?

Кастусь. Павінен быць.

Марцявічус *(лёг на спіну).* А я ўсімі начамі гляджу на зоры... Тысячы светаў... Часам гляджу ў тую трубу: Стажары, Батыеў Шлях... А месяц такі васпаваты.

Чортаў Бацька. Ёсць там людзі?

Кастусь. Ніхто не ведае. Можа, і ёсць.

Марцявічус. Цікава, ці так дрэнна яны жывуць, як мы тут, на зямлі.

Кастусь. Напэўна, не. Так дрэнна, як мы, людзі жыць не павінны... Караліна нешта спазняецца...

Аднекуль знадворку, як воўчае выццё, чуюцца галасы. Першы да спуду блізка, іншыя — далей і далей. «Слухай! Слу-хай! Слу-ха-а-й!» Вакол палаца пераклічка.

Вось пачнеш ты храпці, а Мураш пачуе. Ты, Бронюс, не храпі... Баюся за яе...

Марцявічус. Вакол яны, сволачы. Абклалі.

Кастусь. Нічога. Будзе час: яны будуць усярэдзіне, а мы — вакол.

Марцявічус. А пакуль нам як выйсця няма.

Кастусь. Ёсць. *(Паказвае на неба.)* Гэтага яны ў нас не адбяруць.

Марцявічус. А калі ў падвал?

Кастусь. І над падвалам — неба...

Марцявічус. Чорт ведае чым людзі займаюцца: стрэлы, шыбеніцы, подласць. А тут... такое дзіва...

І ці думаў я, што мой апошні дом будзе такі прыўкрасны, што апынуся сам-насам з небам.

Кастусь. Як то там Вітаўт?

Марцявічус. У такую хвіліну ўсе павінны глядзець на зоры. Пархвен! А ты глядзіш?

Чортаў Бацька. Гляджу. Унь Зорны Воз. Сем зорак — сем кабылак. Адна ажарабілася. Унь ля яе мале-нечкая зорка. І ўсе кабылкі спакойна стаяць, толькі ўздрыгваюць часамі ад зайздрасці да той... *(Глуха.)* Як ты, Кастусёк, калі часам на скверы дзяцей бачыш.

Кастусь *(амаль груба).* Ты змоўч... паэт.

Чортаў Бацька. Гэта вы... паэты... Са зброяй спіцё... Без жонак, без дзяцей, без грошай. Так, за народнае дзякуй.

Марцявічус. Вось прыйдзе светлае заўтра — яно цябе здзівіць.

Чортаў Бацька. Чым?

Марцявічус. А тым, што грошай зусім не будзе.

Чортаў Бацька. І там не будзе? Варта было паўставаць.

Паўза.

А я, каб мне плацілі, усякую работу рабіў бы. Сказаў бы мне той... «Работа твая, Чортаў Бацька, будзе брахаць. За кожнага абрэханага прахожага — рубель». Калі ласачка... Сеў бы сабе, як пан, з газеткай ля варот, на траўку, і як толькі нехта пройдзе, то я на яго: «Гаў... Гаў» — і ні разу больш.

Кастусь. Чаму?

Чортаў Бацька. Голас бярог бы. «Гаў» — і рубель. «Гаў» — і рубель.

Кастусь. Гэта, брат, за цябе журналісты робяць. З таго часу, як газеты з'явіліся. Не адбівай чужога хлеба.

Паўза.

Чортаў Бацька *(раптам).* Не хачу я гаўкаць. Сорамна нібы тут... перад нечым.

Кастусь. Правільна.

Чортаў Бацька. Во каб у кожнай хаце такія дахі.

Марцявічус. Нашто?

Чортаў Бацька. Нельга сварыцца, калі над

табой такое. Не можа быць забойстваў, злосці, несправядлівасці... Ледзь нехта закіпае няpraведна — рассунь дах.

Паўза.

Кастусь. Пераможам — узбагацеем — зробім.

Стрэл пракаціўся рэхам у далёкіх завулках.

Чортаў Бацька. Што такое?

Кастусь. Пэўна, вартавому здалося... І чаму не ідзе?

Паўза.

Чортаў Бацька. Кажуць, зорка падае — душа падае.

Кастусь. То што?

Чортаў Бацька. У-у, які гэтай восенню быў зарапад... Падалі, падалі, канца не відно.

Марцявічус. З людзьмі пра такое нельга... Пархвен.

Чортаў Бацька. Ведаю. Гэта я — з вамі.

Паўза.

Марцявічус. І вось я ляжаў і думаў. А зоры кружыліся ў вечным абегу. І праходзілі перада мной пакаленні. У-у, якая далячынь... Што людзі будучага перад намі? Нікога не здзівіць чалавек сярод людзей. А вось чалавек сярод ваўкоў, свіней, гіен — вось што варта здзіўлення. А нараджаецца, жыве чалавекам сярод поскудзі. Значыць, ад прыроды — харошы... А я раней не бачыў неба... як многія...

Уваходзіць Караліна ў футранай шапачцы з вэлюмам.

Караліна. Кастусь.

Кастусь. Нарэшце... Божа мой... У-ух...

Караліна. Вось. Трыццаць два пашпарты для ўцекачоў... У Лібаву іх адразу, на караблі і — шукай іх за мяжой.

Кастусь. Нарэшце.

Караліна. Кастусь, мне трэба пагаварыць сам-насам.

Марцявічус. То я ў дворык выйду... Пад зоры... *(Выйшаў.)*

Чортаў Бацька адышоў у далёкі кут, за вялізны зорны глобус. Сеў там.

Караліна. Ішла сюды паўз губернатарскі палац... Там некалькі рот пад ружжом. Такія сілы яны выводзяць толькі супраць небяспечных атрадаў.

Кастусь. Даведаемся. Што яшчэ?

Караліна. Трывожна мне. Ты жывеш тут так доўга... Пакінь Вільню... Прашу.

Кастусь. Вільня — сэрца. Мне нельга ад яго.

Караліна. Вазьмі пашпарт.

Кастусь. Не.

Караліна. Чаму?

Кастусь. У мяне — надзейны. Я вазьму, а ў другога не будзе.

Караліна. Цяжка мне... Як ду́шыць мяне ўсё гэта... Вежкі... Знакі...

Кастусь. Супакойся. Я змяню кватэру, хаця гэта — надзейная. Хочаш зараз? Ты не думай, мне трэба берагчы сябе. Дзесятага сакавіка зноў пачнём.

Караліна. То я — па рамізніка.

Кастусь. Пачакай... Не ідзі... Тут пераклікалі́ся... Стрэл быў... За гэты час нібы крывёй сэрца сплыло.

Караліна. І ў мяне за цябе.

Кастусь. Жывём, як на вастрыі маланкі. Вось блісне аб скалу...

Караліна. Цемра для цябе.

Кастусь. Што я? Я і жыву толькі таму, што для іншых.

Караліна. Толькі?

Кастусь. А для каго яшчэ?

Караліна. Для Яневіч... мяне...

Кастусь. Было б у мяне сто жыццяў — усе аддаў бы вам. Ты дзяўчынкай хадзіла босая?

Караліна. І цяпер хацела б.

Кастусь. То я іх аддаў бы... каб пылок ад кветак асядаў на твае ногі...

Караліна. Сто? Хаця адно жыццё сабе пакінь.

Кастусь. Хіба гэта здрада, калі я ведаю на другім канцы горада, што табе дрэнна? Калі я падумаю — і ты пабач? І сілы мае так узрастаюць, што я магу ўсё. І ты ж таксама?

Караліна. Але.

Кастусь. І няхай нехта палічыць здрадай... І чорт з імі...

Крок. Яшчэ крок у глухой цішыні. Засталося чатыры... тры... два...

Караліна! *(Голас яго гучыць так, быццам ён заклінае.)* Не думай ні аб чым... Кінь усё... Толькі не адштурхні дзеля нейкіх там меркаванняў, бо я ўжо больш — не ма-гу... *(І тут ён кінуўся да яе, абняў і, як непрытомны, як смяротэльна паранены, споўз да яе ног, абняў іх, прынік галавою. Глыбокі, вызвалены, страшны ўздых вырваўся з яго грудзей.)*

Ты мне — дождж яснавокі над полем і борам,
Без цябе я ні дыхаць, ні жыць не магу.
Ты мне сонца і зоры,
Ты мне — цёплае мора,
Ты мне ветрык, што з майскай лістотай гаворыць,
Ты мне — зорныя іскры на мурагу.

Караліна. Устань, хлопчык мой. Устань, яркае сонца маё. *(Заплюшчыўшы вочы, яна гладзіць яго валасы.)* Залатая павуціна. Веі апушчаны... *(Глуха.)* Слёзы? Ты?!

Кастусь. Стрымаць... не магу... Я пятнаццаць год не плакаў...

Караліна. Рвуцца, як дождж вясной? Бедны...

Кастусь. Буду з табой вельмі верны, вельмі пяшчотны.

Караліна. Ведаю... Нашто ты так мучыўся?.. Нашто, калі няма нічога на свеце, чаго б я не зрабіла, каб табе было светла жыць? Калі ўся твая пакута — вось яна. Знішчы. Адкінь з дарогі... Застанься... Спі ціха...

Паўза.

Нашто, калі ўсё адно ахвяраваць? Учора. Сёння. Заўтра. Заўсёды.

Паўза.

*(Глуха.)* Ты мне скажы, *як* ты мяне любіш...Скажы нарэшце.

Кастусь. Паўсюль — ты. Спявае жаўрук — і гэта твой смех... Стронг б'е ў патоку — і гэта твой гнеў. Вясёлка гарыць у расе — і гэта калі ты смяешся праз слёзы. Уся ты, з усім, стала нада мной — як святло нябёс... як радзіма.

Караліна. Кажы.

Кастусь. Я блытаю вашы імёны. Успомню —

радзіма — і прад вачыма *ты* на квітнеючым поплаве, *ты* спіш у пушчы на сонечнай заечай капусце, ты пад ліпай у мокрай сукенцы, а вакол залатыя завесы дажджу... Ты... ты... ты...

Караліна. Вельмі буду цябе кахаць.

Кастусь. Усё жыццё... як рака, над якой ніколі не бывае сонца. І вось... Мне здаецца, я ўліваюся ў цябе. З усіх пустынь, праз якія я працякаў... Нарэшце... Як рака ў акіян... *(Прыціснуў яе да сябе. Вусны сустрэліся ў не вельмі ўмелым, але моцным-моцным, нібы ад адчаю, пацалунку.)* Няма дарогі.

Караліна. Не хачу...

Заплюшчыўшы вочы, прыпаўшы адно да аднаго, яны стаяць. Неразлітна. Вызвалена. Адно... Увайшла Яневіч. Спынілася. Да Пархвена, які пахмура круціць пальцам зорны глобус.

Яневіч. Яны?

Чортаў Бацька. Але...

Яневіч. Матка боска... Дзякуй табе, божа... Ёсць ты на зямлі.

Кастусь. Хто там?

Яневіч. Я... я рада за вас... за сябе...

Кастусь. Калі думаеш, што больш узрадавана, чым я, то памыляешся. *(Абхапіў за плечы Яневіч і Караліну, закружыў па пакоі.)*

Чортаў Бацька. То, можа, ужо разам і мяне?

Кастусь. Давай і ты... Дав-вай, стары, любы...

Яневіч. Хлапчына...

Кастусь. А што, грэх? Мне на дзесяць год менш. Мне шаснаццаць. Я кахаю!

Караліна *(мякка)*. Кастусь, любы... Ты не адмовіўся ад думкі пайсці адсюль?

Кастусь. *Ты* кажаш. То як я магу?

Яневіч. Кватэра ёсць. На Георгіеўскім. Хадзем па рамізніка, Караліна.

Кастусь. Стой... Ты не знікнеш?

Караліна. Я вярнуся праз гадзіну. І нікуды, ніколі больш не пайду.

Кастусь. І тады я скажу... Я тады ўсё, усё табе скажу. *Як* я люблю.

Караліна. І я... я табе скажу потым.

Пайшлі разам з Чортавым Бацькам. Кастусь агледзеўся вакол, глыбока ўздыхнуў і раптам пайшоў па абсерваторыі, выпрабляючы нейкія прыгожыя, надзвычай пластычныя рухі. Дарогаю накіраваў секстант у другі бок.

Кастусь. Ты, брат, у той бок глядзець не смей. *(Раскруціў глобус.)* Круціся, пузан, круціся, як загадана, хутчэй, хутчэй. *(Шчасна засмяяўся, кінуўся на рыштаванні і з грукатам шырока рассунуў створкі абодвух купалоў. Бязмежнае неба ўварвалася ў запылены пакой. І чалавек стаў на фоне зор і ўзняў рукі, як крылы.)*

Пусціце зоры ў мой пакой шырокі!
Пусці ў пакой сузор'і, чалавек!
Нічога не палохайся. Пад сонцам
Ёсць толькі ты і светлыя сузор'і.
Нічога, акрамя цябе і іх.
Каханне, зорка чыстая, ў глыбінях
Бязмежнага сусвету ты гарыш
Святлом далёкім, цёплым, нездрадлівым.
О колькі год я да цябе ляцеў,
Раскрыліўшы свае слабыя рукі,
І сек сваім мячом мячы камет!
Я знемагаў, я паміраў у муках,
І ты пачула мой апошні крык.
Сама прыйшла, наблізілася, ўпала
Ў маю далонь. І стала ўсім на свеце.
Ўсё — ты. Маё чаканне — гэта ты,
Маё змаганне, і душа, і вочы,
Любоў, нянавісць, вера і сумненне —
Ўсё гэта ты. І праўда, і дыханне,
І... нават смерць. Нічога не баюся.
Бо космас неўміручы ў гэтым сэрцы,
Бо космас не заб'еш. І я лячу,
Лячу ў сусвет.

Зоры паплылі назад, і чалавечая фігура нібы сапраўды ляціць між іх.

Мінаюць ночы, дні.
Гады мінаюць. Дзе зямное гора?
Дзе кроў, пажары, смерць? Адна свабода
Пануе на зямлі, пабраўшы ў жонкі
Багіню шчасця. І зямныя людзі
Звярнулі вочы да далёкіх зор.
Я вас люблю, браты! Люблю! Люблю!
Лячу ў сусвет. І сотні мангальф'ераў,
І караваны зорных караблёў,
Пад ветразямі сінімі, ў сусвет
Лятуць за мною. Гэта ты, планета

Любові запаветнай? Божа! Божа!
Якое шчасце ўсім, якая мара,
Які гарачы, радасны, вясёлы,
І залацісты, і бязмежны свет!!!

Цяпер у цемры толькі дзве плямы святла: чалавек на фоне зор і скупа асветлены пераход да адной з лесвіц, што вядзе на падмосткі. У ніжняй пляме з'яўляюцца постаці. Гэта капітан з салдатамі. Глухія, неразборлівыя, бы ў студні, гучаць галасы.

Капітан. Акружылі квартал?
Салдат. Але.

Цемра і крокі. Кастусь на пляцоўцы чуе іх.

Кастусь. Яна... Вяртаецца. Трэба сустрэць са святлом. *(Запальвае свечку.)* Якая шчаслівая ноч!

Цемра і крокі. Маленькі, як іскрынка, агеньчык: чалавек ідзе са свечкай. Ціхі голас спявае, вядзе без слоў нейкую ясную і радасную мелодыю. Спускаецца ўніз, робіцца ўсё больш яркім агеньчык свечкі. Цемра маўчыць.

Капітан. Гэй, хто са святлом?

У цемры асвятляецца твар Кастуся.

Кастусь. Я са святлом.

Блік ад ягонай свечкі ўпаў на твар капітана.

Капітан. Ваша прозвішча?
Кастусь *(проста).* Вітажэнец.

У той жа момант яго схапілі за рукі. Свечка ўпала на прыступкі і пакацілася па іх. Меркне агеньчык. Коціцца свечка. Прыступка... другая... трэцяя... Згасла. Насунуўся змрок.

## КАРЦІНА ДВАНАЦЦАТАЯ

Пакой, у якім засядае асобая следчая камісія. Цяпер яна ў поўным складзе: шэсць чалавек. Старшыня, палкоўнік Шалгуноў, гартае справы. Астатнія моўчкі глядзяць у акно, за якім падае снег. Сядзяць па старшынству: штабс-капітан, два паручнікі, обер-аўдытар. Адзін з паручнікаў, у артылерыйскай форме, Гогель.

Гогель. Я часам шкадую, пан палкоўнік, што катаванні выйшлі з моды.

Шалгуноў. А тое, што мы робім,— не катаванне?.. Ён не спіць ужо некалькі начэй.

Гогель. І ён не будзе спаць столькі, колькі спатрэбіцца.

Шалгуноў. Пры такіх метадах людзі гавораць на сябе невядома што.

Гогель. Гэты? З ягонай закаранеласцю?

Шалгуноў. Добра. Прывядзіце арыштаванага... Было б значна прасцей, каб Парафіяновіч апазнаў, ён ці не ён.

Гогель. Парафіяновіч заявіў, што на вочных стаўках *нікога* апазнаваць у твар не будзе.

Шалгуноў. Баіцца сустрэчы, заяц.

Гогель. У нас фактычна нічога няма ў руках. Лосеў — спрытняга, але на яго месцы я жыва выбіў бы з Парафіяновіча ўсё, што трэба.

Шалгуноў. На яго месцы вы і ў сто год не дабіліся б прызнання. Маўчыце ўжо...

Салдаты прыводзяць Кастуся. Ён змарнеў, але вочы ўсё яшчэ свецяцца ранейшым цёплым агнём.

Вы не надумалі?

Паўза.

Хто вы?

Гогель. Камісар Літвы...

Кастусь. Я Вітажэнец, настаўнік. Займаўся распрацоўкай матэрыялаў гістарычнага характару. Гэта ўсё.

Гогель. І гэта ўсё?

Кастусь. Усё.

Шалгуноў. Шоціка сюды.

Салдаты прыводзяць Ігнася Шоціка.

Ігнась Шоцік, сорак год, каталік, з казённых сялян Віленскага павета, пяць год як дворнік пры гімназіі. Так?

Шоцік. Какурат так.

Шалгуноў. Ведаеце гэтага чалавека?

Шоцік. Ды я яму... сумяшчальна, значыцца, прыслугоўваў, кватэру прыбіраў. За два рублі штомесяц. Гро-ошы!

Гогель. Што падазронага заўважылі?

Шоцік *(хітрue)*. Ды яно, як жа ж бо яно і сказаць... Калі б нешта такое, то яно, можа б, і так, а каб гэткае нешта, то яно і, дальбог, нічога. *(Падумаў.)*

Пан харошы. Добры. Грошы заўсёды наперад плаціў. Я ж кажу, каб нешта тут такое, то, дальбог, не тое, што паны думаюць.

Вочы Кастуся смяюцца.

Гогель. Не паяснічай!

Шоцік. Ды ў мяне, пане, паяса і няма. Людзі простыя, матузком абыходзімся.

Гогель. Што рабіў арыштаваны, мужыцкая морда? Ён што, купіў цябе?

Шоцік. Не. Ён мэблю купляў. У гандляроўяўрэяў. Ніштаватая мэбля. Купляў вось чалавек, спадзяваўся. А яго замест канапы на турэмны тапчан. Так вось і не ведаеш, дзе цябе па кабаку грукне.

Гогель. Што рабіў?

Шоцік. Уставалі яны каля дзевяцёх, кушалі чаю ў ахвотку, у сваю насалоду, ды ішлі сабе ў горад. У дванаццаць прыходзілі ды абедалі. Любілі строганага быка. *(Хітруе і выкручваецца як можа.)*

Шалгуноў. Якога строганага быка?

Шоцік. Ну, мяса такое настраганае. З бульбай. Каровіна мяса. Словам, хаця строганы, але ўсё адно бык.

Гогель *(здагадаўся)*. Беф-строганаў.

Шоцік. Потым зноў гулялі. У шэсць амаль заўсёды дома. Зноў чай пілі... Дасхочу.

Гогель. У сваю насалоду?

Шоцік. У сваю, паночак, насалоду. Чай — справа сур'ёзная. Потым зноў ішоў. А ключоў ён мне, галубочкі вы мае, ніколі не пакідаў.

Гогель *(прагна)*. Чаму?

Шоцік. Мы ж людзі не высакародныя. Ці мала гэта выпадкаў, што дворнікі рабуюць? Унь у нас нават будачнік адзін, проша пана, праходжага абдзёр. Зняў паліто і гадзіннік. Дык нам і бог загадаў.

Гогель. Або ты здзекуешся са следства, або ты дурань.

Шоцік. А нашто нам разумнымі быць? Мы не паны. Хамуйлы, проша, вароны.

Паўза. Шалгуноў схіліўся да суседа. Шэпча.

Шалгуноў. Нічога, відаць, не зробім.

Гогель. Т-так...

Паўза.

Я думаю, трэба вочную стаўку з тымі... домаўласнікамі. Памятаеце, затрымалі ўсіх тых, у каго папсуцці ў кнігах домаўласнікаў за сакавік мінулага года?.. Калі Макарэвіч жыў у Вільні.

Шалгуноў. Лухта. Я яшчэ тады казаў — гэта беззаконне... І тут будзе — без-за-конне.

Гогель. Але зразумейце, гэта адзін... бадай што адзін шанс... Дазвольце мне.

Шалгуноў. Гм... Колькі затрыманых домаўласнікаў?

Гогель. Тры... І яшчэ дачка адной домаўласніцы... Бо тая — хворая... Яны — тут.

Гогель. Ну хаця б тую. Усё ж жанчына.

Шалгуноў. Каб вы былі ў маім узросце — вы б ведалі, што з жанчынамі цяжэй... Нязмерна... Вядзіце...

Гогель ідзе да дзвярэй, шэпча нешта салдату і вяртаецца на сваё месца.

Гогель. Слухай, Шоцік. Слухай і паспрабуй толькі падманваць. Гаспадар кватэры Жэброўскі казаў, што бачыў аднойчы, як у кватэру пана прыходзіла дзяўчына.

Шоцік *(няўпэўнена)*. Ды яно... было...

Салдаты прыводзяць Марыю. І тады Гогель рэзка нахіляецца да Шоціка і амаль крычыць.

Гогель. Гэтая?!

Шоцік. Што?

Гогель. Яна?! Яна, я пытаю, ці не яна? Яна наведвала падследнага?!

Шоцік *(заўважае позірк, якім абмяняліся Марыя і Кастусь, і зноў пачынае круціць)*. Крый божа, пане. Гэтая не хадзіла. Другая хадзіла. Ну, можа, больш, чым некалькі разоў.

Гогель *(да Марыі)*. Вы ведаеце гэтага чалавека? Вітажэнца?

Марыя. Не.

Гогель. Ну не Вітажэнца, дык Макарэвіча?

Марыя. Не.

Гогель. Глядзіце на яе, Шоцік! Яшчэ раз: яна?!

Шоцік. Не, тая была іншая.

Гогель. Якая?

Шоцік. Светлая такая. Ці Янінай яе зваць, ці, можа, Марынай... ці... Нешта так.

Марыя *(сама сабе).* Караліна...

Гогель. Нашто гэтая ваша... «Іна» хадзіла да падследнага?

Шоціку пакутліва шкада пана. Ён муляецца, думаючы, як лепей яго выгарадзіць. Знайшоў, як яму здаецца, выйсце.

Шоцік. Справы.

Гогель. Па мяцяжу?

Шоцік. Што вы? Якая мяцежніца? Светлая такая дзяўчынка? Дваранка.

Гогель. То якія справы?

Шоцік *(вочы яго неспакойныя).* М-м... Справы... маладыя. Маладая, значыцца, справа, вось што. *(І натхнёна брэша.)* Каханне ў іх было.

Рукі Марыі ўчапіліся ў стол. З гэтага моманту глядач павінен глядзець толькі на яе і Кастуся, на маўклівую дуэль іхніх вачэй.

Гогель. Вы гэта ведаеце ці толькі мяркуеце?

Шоцік. Хто гэта можа ведаць?.. Але ён вельмі ласкавы быў да яе. Мяккі. Мяркую так... Канечне, каханне...

Паўза. І тут Марыя ўстае, занадта прама трымаючыся на нагах.

Марыя. Я ведаю гэтага чалавека. Ён жыў у доме маёй маці пад прозвішчам Макарэвіча. Яго імя — Кастусь Каліноўскі... Ён...

Гогель. ... вярхоўны ваявода Беларусі і Літвы.

Страшная паўза. Потым Шалгуноў гаворыць ціха.

Шалгуноў. Вы не шкадуеце маці?

Марыя. Я не шкадую сябе.

Шалгуноў. Ён — мой вораг. Вораг маёй вялікай імперыі, цара, маёй радзімы. Я шчаслівы, што ён тут. Але ці ведаеце вы, што падпісалі яму і вашай маці смяротны прысуд?.. Мая справа падрыхтаваць для яго шыбеніцу. Але як вы маглі дапамагчы мне ў гэтым, нізкая вы жанчына? *(Салдатам.)* Адвядзіце яе. Такія вартыя толькі нашай святой мужчынскай пагарды... Га́дзіна! *(Гогелю.)* І такія сцервы дастаюцца большасці сапраўдных, чыстых мужчын.

Салдаты вядуць Марыю. Ля дзвярэй яна спынілася.

Марыя. Кастусь...

Кастусь. Што табе, жанчына?

Марыя. Кастусь... Кастусь. *(Нечакана яна падае на калені.)* Даруй мне, Кастусь!

Кастусь. Ідзі з богам.

Шоцік *(у ярасці).* Пабойся бога! Такую гадаўку?!

Шалгуноў. Святы ідыёт.

Кастусь. Ідзі з богам. Каб табе было лягчэй — ведай: я сапраўды любіў, люблю і буду любіць яе да канца. Недалёкага канца. Але я не казаў ёй аб гэтым... Да мінулай ночы... Магчыма, гэта для цябе занадта жорсткая аплявуха. Але з ёю табе будзе лягчэй.

Гэтыя словы як надламілі нешта ў жанчыне. Яна паўзе да яго на каленях.

Марыя. Даруй мне, даруй!

Салдаты выводзяць яе. За дзвярыма чуцен немы крык: «Кастусь!» І цішыня.

Шалгуноў. Адвядзіце і гэтага.

Шоціка цягнуць.

Шоцік. Даруйце, пан... Каліноўскі. Я не хацеў.

Кастусь. Жыві шчасліва, Ігнась.

Паўза.

Гогель *(амаль крычыць).* Цяпер вы будзеце гаварыць. Іначай я не дам і шэлега за вашу шкуру. Дзе тая дзяўчына?

Кастусь. Як вам не сорамна, паручнік?

Гогель. Ці не хочаце вы сказаць, што дзейнічалі адзін?

Кастусь. Чаму адзін? У мяне былі сябры. Лянгевіч, Тышка, Стасякевіч, Далеўскі, Серакоўскі... і іншыя.

Гогель. Менавіта «былі». Ніводнага з гэтых людзей не засталося ў жывых.

Кастусь *(з усмешкай).* Для вас у мяне няма жывых сяброў. Я ж сам мёртвы... Ужо дзесяць хвілін. Аб мёртвых я магу напісаць вам усё.

Шалгуноў. Жадаеце пакінуць след? Не дапаможа. Архіў — гэта магіла. Шмат вы ведаеце пра Пугачова?

Кастусь. Скора адкрыюцца ўсе магілы. Нават магілы папер.

Шалгуноў. Я... загадаю даць вам паперу.

Кастусь. Вось і ўсё. Мёртвы аб мёртвых — не больш.

Шалгуноў. Паспрабуйце ўсё ж не стаць мёртвым. Гэта лёгка.

Кастусь. Мяне выхоўвалі ў тых правілах, што грамадзянская адкрытасць з'яўляецца дабрачыннасцю, а шпіёнства апаганьвае чалавека.

Шалгуноў. Я вас... паважаю. Пашкадуйце сябе.

Гогель. Вы тупы, вузкі артадокс. Фанатык, які лічыць, што ягоныя мужыкі дараслі да парламента са сваімі мазніцамі, нераспрацаванай гаворкай і бруднымі, як каровы, бабамі. Сярод усіх колераў вы адрозніваеце толькі чорны і белы. Пакінь вам зямлю — вы заб'яце і блакітны, і аранжавы...

Кастусь. Вы дрэнна ведаеце фізіку, паручнік. Каб вы скончылі... хаця чатыры класы гімназіі — вы б ведалі, што ўсю радасць, усю шматкаляровасць свету складае адзін колер, белы. І гэта мы. А вы, чорны колер, вы нават не колер. Вы — проста адсутнасць святла, смярдзючая чорная яма і гразь.

Паўза.

Шалгуноў *(ціха)*. Вы ўяўляеце, чым усё гэта вам пагражае?

Кастусь. Уяўляю.

Шалгуноў *(зусім ціха)*. Трыбуналам.

Кастусь. Ведаю. І мне страшна. Але пачуццё ўласнай годнасці і месца, якое я займаў, не дазваляюць мне рабіць іначай.

## КАРЦІНА ТРЫНАЦЦАТАЯ

Цемра. Асветлены толькі невялічкі кавалак сцэны. Гэта камера ў «Дамініканах». За вокнамі ноч. Куты камеры хаваюцца ў цемры... На ложку сядзіць Кастусь. Ля стала з аркушам паперы ў руцэ стаіць Тызенгаўзен.

Тызенгаўзен. Вы мяне слухаць?

Кастусь. Нашто? Я і так усё ведаю... Барабаньце хутчэй вашу екценню, калі без гэтага нельга, пан загадчык над ка́тамі, і пасля плывіце адсюль. Дальбог, у мяне ёсць больш важныя заняткі, чым сузіраць вашу остзейскую парсуну.

Тызенгаўзен (*чытае далей*). ...прыгаворвае дваранiна Канстанцiна Калiноўскага... дваццацi шасцi год, за здраду дзяржаве на падставе ваеннакрымiнальнага ўстава...

У цемры, у куце, нешта варухнулася. Прамень святла ўпаў на мёртвыя, нiбы ў медузы, вочы. Граф Мураўёў выступiў з цемры i нячутна прысеў на табурэт ля сценкi.

*пакараць смяротнай карай — расстралянне м... (Склаў паперу.)* Гэта было другога сакавiка падпiсана. Дзевятага сёння. Вы словы аб магчымасць абскарджання не схапiць?

Кастусь. Гэта дарэмна. I не мне прасiць даравання ў рознай сволачы.

Мураўёў робiць знак выйсцi. Тызенгаўзен пацiснуў плячыма, выйшаў. Бразнуў замок. Кастусь не бачыць Мураўёва. Задумаўся. Цiшыня. За акном густым вэлюмам пачаў падаць снег.

Мураўёў (*цiха*). Падымi свае вочы i слухай мяне.

Кастусь здрыгануўся ад нечаканасцi, павярнуўся на голас. Глядзiць.

Кастусь. А-а, вось хто. Другi раз спадобiўся лiцэзрэць.

Мураўёў. Другi... Князь Мсцiслаўскi.

Уся размова, да самага канца, iдзе цiха i спакойна.

Я прыйшоў пагаварыць... Дзiўна, але так.

Кастусь (*мiжвольна адкiнуў прастату i гаворыць цяпер сапраўды як князь*). Я слухаю вас, граф.

Мураўёў. Цi думалi вы, супраць чаго паўстаяце? Цi думалi, што тысячу год кожны разбiваў аб нас галаву? Былi бунты, рэвалюцыi — а мы заставалiся, i зноў аб нас разбiвалi галаву. Таму што мы — парадак, дзяржава, таму што за нас вера, забабоны, фiласофiя, культура. Таму, што за нас — жах. Людзi не могуць жыць свабоднымi сярод руiн. Яны ўзрываюць дом, кiдаюцца трошкi сярод камення са сваiмi добрымi намерамi, а потым будуюць новы, яшчэ горшы. I кожны раз льецца кроў. I гiнуць лепшыя, а не горшыя. I пасля кожнага такога эксперымента сярод жывых застаецца больш i больш мярзотнiкаў.

Кастусь. Я думаў над гэтым. Чаго вы хочаце?

Мураўёў. Бачыш муры? Ты можаш з iх выйсцi. Зараз. *Я* хачу гэтага. Ведаеш, каб людзi жылi —

трэба, каб лепшыя з лепшых не бунтавалі, а ішлі да паборнікаў парадку і магутнасці айчыны... Я абяцаю вам словам двараніна волю і месца пры мне... Я вам абяцаю. Не Аляксандр — *я*.

Кастусь. Гэта важыць больш. Ведаю... Чаму прапаноўваеце?

Мураўёў. Хачу, каб вы сталі членам дзяржаўнага савета ў пяцьдзесят год.

Кастусь. У дваццаць пяць я быў вярхоўны ваявода Беларусі і Літвы.

Мураўёў. А ў дваццаць шэсць можаш не быць нікім.

Кастусь. Ведаю.

Мураўёў. А паслухаеш — можаш жыць, кахаць...

Абліччa Каліноўскага нібы засвяцілася ў змроку.

Кастусь. Кахаць...

Мураўёў. Так... Бачыш?

За акном густым вэлюмам падае снег.

Гэта падае апошні снег у тваім жыцці. Я памятаю адзін такі, калі я кахаў...

Кастусь (*спахмурнеўшы*). Гэта забаронены ўдар, граф. Я адкажу такім самым: невядома яшчэ, колькі снегападаў засталося ўбачыць вам.

Мураўёў. Я пажыў...

Кастусь. *Як* пажылі?.. І чаму прапаноўваеце гэта *мне?*

Мураўёў. Сынок... Ты не ведаеш. Вакол мяне адны нягоднікі і дурні...

Кастусь. Сімптаматычна.

Мураўёў. У вас блакітная сонечная кроў. Вы — сапраўдны дваранін, рыцар — не тое што гэтыя вырадкі. І вы са сволаччу.

Кастусь. Калі за вас парадак, то чаму сярод вас столькі нягоднікаў? Чаму з пакалення ў пакаленне лепшае — гіне, а ўсё адно ідзе да нас, да «сволачы»?

Паўза.

Я вам скажу, чаму. Кожны раз чалавецтва бліжэй да шчасця... на вышыню нашых магіл. З крывёю, са зрывамі на дно прорвы, яно, здыхаючы, паўзе да праўды.

Мураўёў. Гэта фатальная, жахлівая памылка маладосці. А маладосць праходзіць. Я ведаю гэта... сынок. Ты, магчыма, не ведаеш, які быў я, пакуль не зразумеў.

Кастусь. Вы заўсёды былі такі.

Мураўёў. А я быў такі, як ты.

Паўза.

Такі, а магчыма, і горшы бунтар. Я быў адзін з самых першых дзекабрыстаў. Нас было чацвёра.

Маўчанне.

Гэта я прыняў у тайнае таварыства Івана Пушчына... Так, таго самага, лепшага сябра забітага паэта.

Маўчанне.

Потым я зразумеў — у гэтым няма праўды. Праўда не там. Я выпадкова не трапіў на шыбеніцу, хаця не скардзіўся б, нават трапіўшы. І вось я служу айчыне. І хачу зрабіць для маладога, чыстага, бліскуча таленавітага чалавека тое, што калісь зрабіў для мяне выпадковы лёс.

І раптам Кастусь засмяяўся ціхім, горкім смехам.

Кастусь. Вы? *Мой* лёс? Жывы, з крыві і плоці, з дзвесце сарака васьмю касцямі і некалькімі аршынамі кішак... Ох, як доўга гэта яшчэ будзе!.. Любіць гэта чалавек: захапіць уладу над жыццём і смерцю, назваць сябе лёсам, богам, з усёй сваёй вузасцю, тупасцю, капрызамі.

Мураўёў. Не смейся з мудрасці... сыне.

Кастусь устае і адыходзіць далей ад Мураўёва.

Кастусь *(ціха)*. Я зразумеў вас. У вас дагэтуль смыліць і пячэ ў сэрцы, калі вы параўноўваеце сваё жыццё з чужой чыстай смерцю... Вы... нібы хочаце перавешаць пакаленне, што бачыла ўсю вашу непрыглядную галізну... Бачыла пяць пакутнікаў на верках Петрапаўлаўкі і вас... вось такога... жывога... Праўда?.. Праўда.

Мураўёў устае і ўдарае ў дзверы. На яго страшна глядзець.

Я думаў, вы больш мужны... Я разумею, я проста першы, хто зразумеў вас да самага нутра. Да таго, у

чым вы самі, можа, толькі аднойчы, у дрымоце, калі воля ўжо спіць, прызналіся сабе.

Паўза.

Рэнегат. Вам трэба для заспакаення рабіць другіх падобнымі да сябе... Але я гэтага... апошняга... вам не падару... *граф-вешальнік.*

У камеру заходзіць Тызенгаўзен.

Мураўёў. Скажыце членам часовага палявога аўдытарыята, што я прапаную ім *замяніць расстрэл — павешаннем.*

Згасае святло. Калі яно загарасцца зноў — Кастусь адзін. Сядзіць за сталом. Піша.

Кастусь. «Браты мае родныя, мужыкі! З-пад... шыбеніцы прыходзіцца мне вам пісаць. І, можа, у апошні раз. Горка пакінуць родную зямельку і цябе, дарагі мой народзе. Застогнуць грудзі, забаліць сэрца, але не шкада загінуць за тваю праўду.

Бывай здаровы, мужыцкі народзе!
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што згінуў за праўду для дабра твайго.
І калі слова пяройдзе ў дзела,
Тагды за праўду станавіся смела...

Ты, аднак, народзе, не чакай і з чым можаш ідзі ваяваць за свайго бога, за сваё права, за сваю славу, за сваю бацькаўшчыну». Усё... Усё?.. Так, усё.. *(Устае і ідзе да акна, за якім няспынна варушыцца снег і бязвольна схіляецца заснежаная галіна яблыні.)* У мяне былі тры каханыя ў адной: ты, Караліна... Ты, радзіма... Ты, воля... Я амаль нічога не паспеў...

Падае, падае снег. Ніжэй згінаецца галіна.

Снег... Снег... Варушыцца. Падае. Апошні снег гэтай зімы.

Апускаецца на ложак. Засынае. Цьмянее над ім святло. І ў змроку з шолахам, адчаем і маленнем пралятаюць галасы: «Воля... Во-о-о-ля!.. Радзіма!.. Караліна!.. Вас клічуць! Мы клічам! Клічам!» Паступова святлее. Ля ложка Кастуся стаіць жанчына ў чорным. Толькі цень, які паступова набірае рэальнасць.

Цень. Уставай, Кастусь. Уставай, сынок. Пагаворым. У нас мала часу.

Кастусь. Гэта ты... маці? Чаму я пазнаю тваe вочы? Ты так рана памерла. Я ж ніколі ў жыцці не бачыў цябе.

Жанчына скідае з галавы шаль. Гэта Беларусь.

Ніколі не бачыў, а пазнаю... адразу. Ты ж мая маці?

Беларусь. Але.

Кастусь. Якое шчасце, што ты прыйшла.

Беларусь. Я не магла не прыйсці.

Кастусь. Чаму ж ты раней ні разу не прыходзіла? За ўсе дваццаць шэсць... год... і два месяцы?!

Яна маўчыць. І ён зразумеў маўчанне. На імгненне ў яго перахапіла дыханне, ён правёў тылам далоні па вачах.

Так... Разумею... Не кажы нічога. Якое шчасце, што ты ўсё ж прыйшла, мама.

Беларусь. Ты маўчы. Ты не кажы нічога, не думай ні аб чым. Ты проста пакладзі мне галаву на калені і паплач... Ну. *(Бярэ яго галаву і кладзе на калені, гладзіць валасы.)* Супакойся... супакойся... Пакуль ты жывы — я з табою. З усімі лясамі, рэкамі, людзьмі. З небам і вясёлкамі, з начнымі зарніцамі. Спі.

Голас заводзіць калыханку.

Люлі-люлі-люленькі,
Зашумелі лазнякі,
Гнуткія трысцінкі,
Тонкія націнкі.
Спі-і, спі.

Кастусь спіць. Яна гладзіць яго валасы. І раптам, праз калыханку, з вуснаў яе прарываюцца гнеўныя, смутныя, жалобныя словы.

Зямля маўчыць. Яна ў пажары ўся.
Парваліся на ліры сонца струны,
Застрашлівай не даспяваўшы руны
Пра смерць і неўміручасць Кастуся...
*(Яна не можа стрымаць сябе. Яна тужыць, яна вяшчае.)*
О, мой народ, зачаты для бяссмерця
Так, як і ўсе народы на зямлі.
Мужайся, ў кулаку зацісні сэрца
І рабства ў ім навекі спапялі.

Варухнуўся Кастусь. І тады яна, глушачы словы і рыданні, вядзе калыханку далей.

Над зямлёй-балесніцай
Тонкі чоўнік месяца.
Ў хвалях месячык скакаў,
З плаўняў чоўнік выплываў,
З плаўняў чоўнік выплываў,
Князя ціха калыхаў...
Натаміўся жывучы,
Нахадзіўся уначы,
Столькі стрэл параскідаў,
Столькі нівак заараў.
*(І зноў вырваліся глухія словы.)*
Бо сонца шчасця немінуча ўстане,
Калі яго чакаць і зваць, як мы,
Сярод цямноцця і сярод рыданняў,
Сярод бязлітаснай, як смерць, зімы.

Заснежаная галіна яблыні, вырастаючы, пранікла ў камеру, працягнулася над ложкам, сіняя, зорная ад іскраў. Кастусь застагнаў у сне.

Люлі-люлі-люленькі,
Не шуміце лазнякі,
Божыя націнкі,
Моцныя трысцінкі...

Яна ўстае і цалуе яго ў лоб. Ён усміхаецца ў сне. Святло цьмянее паўсюль, акрамя сіняга-сіняга ззяння на заснежанай галіне.

Спі... Сярод бязлітаснай, як смерць, зімы...

Спіць Кастусь. Постаць знікла, але недзе вядуць і вядуць напеў калыханкі скрыпкі. Цяпер ужо не змрочна, а з праніклівым, палкім сумам... І вось на галіне ўжо не снег, вось ужо ўся яна ўсыпана, заліта не сінім снегам, а ружова-белай, магутнай квеценню. І над ёю, у празрыстым сяйве, па чарзе з'яўляюцца постаці людзей... Кастусь прыўстае, гледзячы на іх.

Караліна. Бачыш, яблыні цвітуць... Я ніколі не думала, што я так не магу без цябе... Уначы блішчыць раса на пялёстках, як зоры.

Кастусь. То хадзем туды...

Караліна. Я ніяк не магу дацягнуцца, падаць табе руку.

Кастусь. Нічога... Усё адно дзякуй. Бо я блытаю імя тваё і радзімы. Бо я працякаў праз пустыні. Бо толькі з табой я паверыў у вясну.

Караліна. Сэрца згарае ад любові... Я не магу без цябе... Каб ты толькі ведаў, *як* я не магу без цябе.

Кастусь. Яблыня, яблыня... Абсып яе пялёсткамі... Бяжым, сланечнік... Глядзі, якая цвецень.

Знікае Караліна. З'яўляецца Яневіч.

Яневіч. Я дапамагу вам. Вось месяц-чоўнік дрыжыць ля берага. За ракой зорны сад. Ён чакае. Плыві-це. А тых, хто асуджае такіх, як ты,— заўсёды будуць глытаць чорныя воды... Бывай, сынок... А рукі мае сумавалі-такі па тваім сыне... Бывай... Плыві.

На месцы яе Чортаў Бацька.

Чортаў Бацька (*на твары ягоным слёзы*). Я табе такое вясельца выстругаю... хаця... каркадзілаў ганяй. Я, сынок, для цябе — усё. Толькі і святла, разумееш, убачыў, што з табою... Бывай...

Устаў Марцявічус.

Марцявічус. Трымайся, светлы мой... Было б магчыма — я б за цябе... Тым, хто катуе такіх, як ты, ніколі ў вяках не заззяе сонца. Ну вось... Бывай...

Узнік Арсень.

Арсень. Мужчыны маўклівы народ. Але я... вельмі люблю цябе... Сёння дзесятае сакавіка. Пачнём... Бывай... І няхай для ворагаў волі не існуе вялікага жыцця.

Знік. І тут, трохі наводдаль, устала постаць Вітаўта.

Вітаўт. А для... такіх... як я, не існуе вялікай смерці...

Кастусь. І ты тут?

Вітаўт. І я... Хаця мне гэта ўжо непатрэбна.

Кастусь. Ты памёр?

Вітаўт. Я ўсё адно што памёр. Я горш чым памёр... Я не прашу «даруй», не зайздрошчу табе... Я зайздрошчу забітым. Тут над табой стаяў мужык. Яны засталіся вернымі. Яны. Хто б падумаў?.. Калі ты хацеў гэтага — ты перамог...

Кастусь. Як было б добра, каб ты раней гэта зразумеў.

Вітаўт. Позна... Бывай...

Знік. Караліна ўстае.

Караліна. Вось... Я зноў... Цяпер толькі два словы... Мала часу... Разумееш, гэта *для мяне* мала часу... Бо ты — вечны. Такіх, як ты, нельга не

любіць... Я спяшаюся сказаць. Што сказаць? Ага... Для ўсіх тых жанчын, што калі-небудзь, аж да канца дзён людскіх, будуць з нейкіх там меркаванняў... кроіць сэрца такім, як ты... не жадаць іх адпусціць і баяцца забыць дзеля іх усё... з-за спакою, з-за вартых жалю даброт...— для ўсіх тых жанчын ніколі не будуць цвісці яблыні... Гэта мой праклён. Праклён сапраўднай жанчыны, якая... стала ўдавою, не пабачыўшы жаніха...

Кастусь. Ты — бессмяротная... Лепшая... Сапраўдная... Ты — зямля мая...

Караліна. Што яшчэ? Ага. Ва ўсіх найлепшых мужчынах, аж пакуль не згасне сонца, будзе частка цябе. Гэта — запавет жанчыны. Яны будуць... вось такія. Як прамень. Хто не разумее — тым горш для іх. Я шчаслівая, што ты быў у маім жыцці... Бывай... цвецень мая!..

Знікае. Сінеюць кветкі яблыні. І вось гэта ўжо снег. І цьмянее святло... Потым яно ўспыхвае, нібы ад таго, што недзе — вельмі далёка — пачалі ракатаць барабаны. Успыхвае, асвяціўшы пустую, бязлюдную камеру, чатыры сценкі і пусты ложак... І — цемра. Цьмяныя сілуэты дрэў. Гола, страшна, трывожна шумяць дрэвы, і ў пошум уплятаюцца жудасны матыў «Дароты» і далёкі барабанны пошчак... Слаба асветленыя толькі некалькі постацей: юрод, плакальшчыца, нямы Ян.

Голас з цемры. Прыгавор! Па ўказу яго Імператарскай Вялікасці ваенны суд, заснаваны пры Віленскім ардананс-гаўзе... прыгаворвае двараніна Каліноўскага...

Голас Кастуся. У нас няма дваран. У нас усе роўныя.

Цемра. Пошчак. Шум дрэў.

Плакальшчыца. Зямля наша, беспрытульная наша... Рукі нашы, як зямля, у вачах змрок... Не хацеў ты гэтага, белы наш коннік, Юры наш, пераможны наш... Вось яны цябе і скруцілі падманам... Глядзіце ж толькі, ка́ты, глядзіце... Лятуць між хмар рыцары... Мячы іхнія — маланкі, вочы іх — стрэлы смертаносныя... Белыя коні... Залатыя коні... Гоняцца за ноччу...

Голас з цемры. А маёмасць яго — канфіскаваць.

Юрод. Был-ла хата ў арла.. Был-ла шата ў арла... Галгофа! Адзенне дзеляць!..

Расце барабанны пошчак. Плакальшчыца заламіла над галавой рукі.

Плакальшчыца. А і гало-о-вачка наша... Па-а-сівела ж яна за нас, бедных... Ра-а-са на ве-ечкі пала, як слёзы... Яне, Яне мой... Скардзіся... Цяпер няма каму за цябе... Скардзіся.

Нямы крычыць. Лямант страшэннага абурэння і злосці ляціць над людзьмі. Аблічча Яна — нібы аблічча анёла гневу. Крычыць нямы. І раптам з рота яго...

Нямы. Не-е-е... усё яшчэ... Не-е ўсё! Не-е ўсё!!!

Гукі «Дароты» цяпер пагрозлівыя і магутныя. Ракочуць барабаны. Мацней. Мацней. Нясцерпна. І на самай вышэйшай мяжы пошчаку з яго вырываецца, адсекшы ўсё астатняе,— страшны жаночы лямант...

Голас. А-а-а!

Змрок. У цемры гола і трывожна шумяць дрэвы.

Голас Беларусі *(ясны і нечакана спакойны).* Не!.. Не!.. Не!.. Вы — гэта я. Хіба я магу памерці? Устаньце з зямлі. Той, хто памёр, як вы,— не памірае.

Яснее святло. Некалькі вялізных, на ўсю сцэну, кратаў. За апошнімі ўсё яснее постаць. Гэта Кастусь. Яснее срэбнае святло, і ўрэшце ўся фігура Каліноўскага прамяніцца срэбрам — нібы знутры. Ён ідзе проста на краты, і краты бяссіла падымаюцца перад ім...

Адны... другія... трэція. Паступова мацнеюць барвяныя адбіткі зарыва на постаці Кастуся.

Кастусь

Вялікі мой народ, зямля мая.
Гняздо пакут, змагання і свабоды,
Зямля маіх нябёс, маёй каханай,
Маіх сяброў, маёй спявучай мовы...
Я толькі што памёр. І ў гэты час
Аддаў табе, зямля, сябе самога,
Каб ведала, як я цябе люблю.
Аддаў азёрам — вочы, чуб — ільнам,
Смех — ручаінам, песні — цёмным пушчам,
Закатам — кроў, мужыцкім бунтам — гнеў.
А душу — кожнаму з братоў сапраўдных,
Каб кожны меў хоць трохі ад мяне.

Што бачу я ўдалечыні? Пажары,
Паўстанні, сечы, зарыва, нашэсці.
Меч ворага амаль ля сэрца пройдзе,
Ты будзеш паміраць. Ды толькі ведай,
Бяссмертны ты, як фенікс, мой народ...

Κратаў няма. І, нібы ў адказ на словы, вырастаюць з зямлі, побач з постаццю Каліноўскага, іншыя постаці. Стаяць, абняўшыся, як стаялі ў яме, Заруба, Яўхім, Вастравух. Барвяны пажар залівае іх аблiччы. Яшчэ, і яшчэ, і яшчэ постаці. Арсень, Яневіч, Марцявічус з кінжалам. Побач з Кастусём вырасла постаць Караліны. Устаюць нямы Ян, плакальшчыца, Гарэліха, Яўхіміха, Агей... Народ!.. Яны збліжаюцца моўчкі, сурова. І вось яны — адно. Адна маса, адлітая з расплаўленай медзі... Яны вырастаюць, яны высяцца над зямлёй...

Чырвонае зарыва скача па іх абліччах.

*Заслона*

*1963 г.*

# ЗВАНЫ ВІЦЕБСКА

*Хроніка з XVII стагоддзя*
*ў трох дзеях, шасці карцінах*



## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Сцяпан Пасіёра — завадатар паўстання 1623 года ў Віцебску.

Марцыян Ропат — цэхавы збраяроў-мечнікаў.

Антоні-Лар Вольха — залатых спраў майстра.

Багуслава (Багуся) Данель — дзяўчына, дачка аднаго з віцебскіх радцаў.

Прузына Трапашкава — яе «мамка».

Еўга Бабук — былая павітуха, напаўюродка.

Баба Абдзярыха — гандлярка калдунамі.

Навум Воўк, Сымон Неша — бурмістры вольнага места Віцебскага.

Іля — свавольны поп.

Неўсця Ярамяшэвіч-Скверша, Васка Матыс — гараджане, сябры Вольхі і Ропата.

Янка Гужнішчаў — званар.

Ладысь — аршанец, Пятро — палачанін, Васіль — яго сын, Вінусь — вільнянін — галавары загонаў, прысланых на дапамогу Віцебску.

Зуліся, Вальгіна — сяброўкі.

Іасафат (Ізахват) Кунцэвіч — уніяцкі арцыбіскуп Полацкі і Віцебскі.

Архідыякан Дарафей — давераная асоба Кунцэвіча.

Леў Сапега — вялікі канцлер Вялікага княства.

Палікар Абрагімовіч — тысячнік, галава біскупскай «гвардыі».

Станіслаў Касінскі — езуіт, духоўнік Кунцэвіча.

Аляксандр Корвін-Гансеўскі — рэферэндарый і дзяржаўны сакратар Вялікага княства, Веліжскі, Пуньскі, Купінскі і іншы староста.

Член камісарскага суда.

1-шы вартавы.

2-гі вартавы.

3-ці вартавы.

Мяшчане, гвардзейцы, члены трыбунала,
варта, муляры, служкі, кат.

*I і II дзеі адбываюцца ў Віцебску*
*ў жніўні — лістападзе 1623 года,*
*III — у лютым 1624 года, там жа.*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Цьмяныя контуры дамоў і вежаў. Ляцяць над імі і клубяцца чорныя страшныя хмары. Амаль поўная цемра. Хаос. І з гэтага хаосу — Голас.

Голас. Гэта было роўна 350 год таму. Чалавецтва змучылася ў рэлігійных войнах XVI стагоддзя. Многім людзям здавалася, што нават змрок Сярэднявечча — лепшы, бо ў ім была раўнавага духоўная.

І Рым, папа ўзнамерыліся «даць гэтую раўнавагу, даць спакой душам». Нават агнём і мячом, не думаючы, ці варта плаціць за парадак гвалтам і разбоем.

На беларускія землі быў дасланы для вайны з ерасямі, увядзення уніі, саюзу з Рымам і знішчэння іншаверцаў — біскуп Іасафат Кунцэвіч.

Хто не згодзен — плаха, хто гаворыць і думае па-свойму — меч. І таму XVII стагоддзе было асабліва страшнае для Беларусі, якая ніколі яшчэ не стаяла так блізка да загібелі.

І ў тым, што так не здарылася,— заслуга і гонар многіх. Але адным з першых узнялі свой голас супраць знішчэння і смерці — Віцебскія Званы.

Паступова святлее. Ясны, залаты асенні дзень. Плошча перад царквой Успення маці божай (прачыстай) на Узгорскім пасадзе,

пры ўпадзенні Віцьбы ў Дзвіну. Галоўны ўваход у царкву — справа, а перад намі — бакавы. Злева ад царквы, за садам, з якога звісаюць чырвоныя арабіны,— аркады гасцінага двара, далей — сілуэт ратушы, а правей ад аркадаў — задні мур двара арцыбіскупа.

Правей, за плошчаю, халодна сінеюць хвалі Віцьбы і Дзвіны, відаць каменныя, крыху пабітыя часам замкавыя вежы.

На плошчы натоўп. У многіх у руках пучкі каласоў з гронкамі арабіны: прыйшлі свяціць. Ціша і спакой. І раптам гул абураных галасоў.

Галасы. А людзейкі, а добрыя! А што ж гэта робіцца?! Біскупскія людзі нас з каласамі ад царквы гоняць.

Вальгіна. На прачыстую, у імя якой храм! На ўспенне маці божай.

Зуліся. Проста па гарбузах кіямі да крыві б'юць.

Навум Воўк. Здохні, біскуп Іасафат!

Матыс. Здохні, кунцэвічаўскае адроддзе! Не Марына... было... імя тваёй маці, а сука!

Абдзярыха. Антыхрыста спарадзіла!

Зуліся. Не Гаўрыла-шавец яе за падол хапаў, а чорт!

Вальгіна. Божухна! Гэта ж цяпер, якраз перад сяўбою і каласочкі пасвяціць недзе! Не ўзыдуць зярняткі!

Плач.

Гэта ж ён, падла уніцкае, на арабіну, на кроў сына яе, святой вадою пырснуць не хоча.

Зуліся. Бацька ягоны боты псаваў, а гэты псуе душы.

Абдзярыха *(накрываючы дзежку з калдунамі).* Каб табе, піндзюр, не толькі маіх, на свеце лепшых, калдуноў не паспытаць, каб табе — ніякіх.

Іля. Ідзіце адсюль, людзі, ідзіце да мяне ў шалаш, у Задзвінне. А гэтымі — няхай іхнія ж дзеці ў голад давяцца.

Абдзярыха. Каб табе, гнідзе, у Дзвіне захлынуцца! Каб табе столькі язваў было, як гронак на арабінках гэтых!

Еўга. Язваў, як гронак! Язваў, як гронак! А там яго прыпякуць, прыпякуць! Галава рассядзецца, на азадак будзе падобная!

Ланцуг служак, так званая біскупская «гвардыя», цясніць народ. Наперадзе тысячнік Палікарп Абрагімовіч, здаравенны змрочны грак у варанёных даспехах.

Палікар. Кідай каласы! Кідай арабіну гэтую паганскую!

Зуліся. Палікар Абрагімовіч! Крумкач ты!

Іля. Татарын тваю прабабку таптаў, а і ты — «за хра-ам».

Вальгіна. Б'юцца! У імя бога б'юць!

І тут на дарозе «гвардыі» паўстае другі ланцуг: Марцыян Ропат, поп Іля, Навум Воўк, Сымон Неша, Неўсця Ярамяшэвіч-Скверша, Васка Матыс, іншыя. Спынілі.

Навум Воўк. Ану, хто супраць бога і Віцебска?!

Неўсця (*тысячніку*). Адыдзі, галубачка, адыдзі, ластавачка ты наша. Ты што ж гэта віцьбічаў зачапіў? Гэта ты — дарэмна... Ану, гэць з дарогі, маць тваю не займаць, бацькі не чапаць!

Матыс. Яно... Што ж гэта... людзі... Яно... хаця і ў скарботным падпіцці, бо — успенне, а... крыўдна...

Неша. Хай скажа Сцяпан Пасёра! Лепей не скажаш.

Пасёра. Ціха, людзі. Не трэба пакуль. Час яшчэ не прыйшоў. Патрывайце.

Галасы. Не-не. Сцяпана на рукі!

Сцяпана Пасёру падымаюць на рукі, даюць яму жардзіну, каб ёю абапіраўся на зямлю. Пасля людзі ставяць яго сабе на плечы.

Зуліся. Бач ты, пышны які! А гожы. Галоўка — проста як макаўка... пустая.

Вальгіна. Ды што ты яго вечна зневажаеш?

Зуліся. А так, балбатун. Адно словы гаворыць.

Пасёра. Людзі слаўнага места Віцебскага! Каменем мураванага! Дубам чорным апаясанага! Упрыгожанага безліччу званіц і палацаў! Багатага разумнымі дзядамі, магутнымі мужамі, жонкамі, што як вясёлкі. Чыстага водамі, зялёнага садамі, працавітага і кніжнага... Ды не. Раней багатага, раней кніжнага. Уніты прыйшлі. Хай рассыпецца слава наша — жарам. Ім — усё адно.

З'яўляецца Багуся Данель з Прузынай Трапашкавай, сваёй «мамкай».

Мамка. Хадзем, сонейка, хадзем, пяшчотка, у царкву. Сам арцыбіскуп там. Ён — святы. Ён нават спавядае часам проста так, на вуліцы.

Багуся. І п'яных таксама?

Мамка. Ну, гэтага не ведаю. Можа, часам і п'я-

ных. Ды што п'яны? Не ўвесь жа час п'яны? Затое ж гаворыць!
Багуся. Па мне дык гэты лепей гаворыць. Унь вочы якія! І побач... унь Антоні Вольха.
Пасіёра. Плач коціцца ад Узгорскага пасада і да Задунаўскага, і ўсёй вуліцай Вялікай, ад канца да канца. Воўк драпежны прыйшоў у Віцебск. Біскуп уніцкі Ізахват. Школы зачыненыя, цэрквы запечатленыя. Якія уніты не аднялі, і ў тых — корчмы і дамы́ распусты.
Іля. І нужнікі ў алтарах.
Пасіёра. Каб мір зберагчы, мы згадзіліся былі і на унію. Хай будуць два народы, польскі брат ды наш, пад адным началам па́пы. Хай бы пакінулі нам абрады нашы і мову...
Палікар. Уга! Мы — па-лацінску. Вы — па-славянску! І тое, і тое незразумелае.
Пасіёра. ...І родную нам мову ў ка́занях. Тую, з якой нас бог у свет пусціў. Але пастыры-ваўкі загадваюць адарваць сэрца ад родных нам крыніц і мову сваю — забыць, стаўшы лацінянамі. А ў першым пасланні карынфянам сказана: «Бо калі я малюся на незнаёмай мове, то хаця дух мой і моліцца, але розум мой застаецца без плода». Што ты на гэта, убоіска бязмозглае? Што нам з каталікамі дзяліць? Людзі як людзі.
Галасы. За вунію роўных мы стаялі б.
Зуліся. А тое за вушы цягнуць! Хто да папы, хто да іншых чужынцаў? Як ні назаві ярмо, яно — ярмо.
Пасіёра. Цяпер яны, сыраядцы, захацелі пазбавіць нас апошняга, беднага, але нашага свята. Спакон вякоў на прачыстую свяцілі нашы людзі каласы. І вось яны захацелі, каб Маці, паміраючы, не благаславіла іх на ўваскрасенне.
Галасы. На кавалкі іх раздзерці! У Дзвіну іх!
Іля. Ды кіньце вы іх. Хай сваім смуродам дыхаюць. Бо яны ні палякі, ні русіны.
Зуліся. Ні мужчыны, ні жанчыны. Так, невядома хто. Пасярэдзіне.
Пасіёра. Ну чаго ты ўстраеш? Чаго?
Зуліся. А не лезь ты на ражон перад усімі. Ды хоць бы справай, а то... Гаворыш добра. Дзеўкі аж млеюць.

Пасіёра. Толькі ўжо я й на словах?

Зуліся. Не да той ты, сокал, са справай лезеш.

Бярозанька пасячона,
Добра дзеўка пазычона.
Ой, няпраўда твая,
Заўжды лепшая свая.

Пасіёра. Чаго ты чэпішся, чаго чэпішся, язва?

Вальгіна *(з дакорам).* Зуліся!

Зуліся. А, хадзем! Бабздыр! *(Палікару.)* Чаго вылупіўся?

Палікар. Я такіх, як ты, сто бачыў.

Зуліся.

Ой, хойна, хойна,
З сотняй дзевак война.
Сотня дзевак ялавіцы,
Адна толькі дойна.

Палікар Абрагімовіч махнуў рукою і пайшоў, на чале сваіх, прэч. Да Вольхі падыходзіць Пасіёра са сваімі людзьмі.

Пасіёра. Здароў, Антоні.

Вольха. Здароў. Здароў, браце Ропат, Матыс, Навум, Неўсця, Сымон, здаровы былі.

Ропат. Мы — здаровыя. А вось ты, Антоні-Лар Вольха, ці здаровы?

Матыс. Ён, гэта, падковы ломіць, а... ён галавою нездаровы...

Вольха. Чаму гэта галавою?!

Ропат. А таму, што толькі торбаю стукнуты можа ў такі час убаку стаяць.

Пасіёра. Разлічвае сваю макітру зберагчы, на выпадак, калі нашы з плячэй паляцяць.

Вольха. Ты мне сябра, Ропат? Мы сябры?

Неўсця. Яшчэ якія сябры, каток! Такія сябры, што сарочку няма калі перамяніць, ваўкі вас еш.

Вольха. Дык вось, першы сябра Марцыян Ропат, і вы, сябры. Я... не веру ў праўдзівасць нашае справы. Дарэмна смуту заводзіце.

Ропат. Ты... ты гэта што?

Вольха. Вунія — гэта мір з Польшчай, мір з каралём, мір з Рымам. Яны хрысціяне і людзі, як мы. Няўжо вам войны не абрыдлі? Няўжо ты, Ропат, не хочаш, каб скутая табою зброя мірна драмала, аж пакуль не нападуць на твой дом? Каб са шкуры, якую ты, Васка, вырабіў, не рабілі ножны, а рабілі воклад-

кі для кніг? А ты, Неўсця, няўжо хочаш, каб у тваіх катлах варылі ваякі апошнюю карову абяздоленага селяніна? І ты ж, Сцяпан, хочаш, каб у скрынях, што ты робіш, не вецер свістаў, а ляжала багацце, што людзі сабралі работай і сумленным гандлем? Чаго вы лезеце? Няўжо вы не прагнеце пасля войнаў, паўстанняў, плах — спакою?!

Ропат. Так. Але не спакою магілы.

Вольха. Якая магіла? Аксціся!

Пасіёра. А вось якая. Так, яны хрысціяне. І яны хар-рошыя людзі. Можа, лепшыя за нас. Але хіба яны кіруюць? Кіруюць намі і імі, братамі,— ваўкі! І ў ваўкоў права жыцця і смерці, нашай і іхняй. Васкавы шкуры? Ён скора з Васкі і ўсіх нас шкуры здзярэ і нацягне на кнігі. Свае.

Матыс. Шкуру... яно... неяк у дрыжыкі кідае.

Пасіёра. Зброяй нашай ваўкі нашы храмы, нашы ратушы адбіваюць. У катлах нашых вараць нязгодных.

Неша. Та-ак.

Пасіёра. Адзін Кунцэвіч замест усяго права. То нашто нам такое права?

Вольха. Але ж мір. Мі-ір! Ну змірыцеся з уладай папы, і ўсё.

Навум Воўк. Ды мірыліся мы. Мірыліся і з яго ганаровай уладай, чорт з ім і ёю, калі толькі яна. Але не памірыліся мы з прыніжэннем.

Неўсця. Мовы нас пазбаўляе, як жывёл якіх. Няўжо гэтага твая галоўка светлая не разумее, каб ты здаровы быў?!

Матыс. Гэна... У паныласці... людзі.

Пасіёра. Ну так, мы ганарымся, што ў нас цярпенне першых хрысціян. Яны на вялікдзень праз прытвор удзіраюцца ў алтар...

Іля. Быдлам беларускім нас завуць. Смяюцца да гробу Панскага, плашчаніцу шарпаюць. Шкаляры ўрываюцца, па́няў, каб вішчэлі, шпількамі колюць. Пад купалам стоячы, непрыстойныя гукі робяць.

Пасіёра. Але ёсць мера і ў нашым цярпенні. Часам нават вельмі невялічкая. Калі такія асцервяненні вуніі робяцца там, дзе людзі не звыклі да пакут і ярма. А мы, віцьбічы, не звыклі.

Прыходзіць Багуся з «мамкай».

Мамка. А, дзень добры, каточкі. Хай вам добранька п'ецца ва ўдоў.

Матыс. Чаму... ува-ўва... удоў?

Мамка. А што, хіба ўдовам так і хадзіць без суцяшэння? Яны што, ні грудзей, ані ног не маюць?

Неўсця. Ды, на цябе гледзячы, ма-аюць.

Вольха. Змоўчце вы! Дзяўчына побач. Дзень добры, Багусенька.

Багуся. І табе добры дзень... *(да Вольхі)* мілы Антосю.

Ропат *(агледзеўшы іх, жорстка)*. Ага, ясна, чаму ты так да спакою прыкіпеў. З гэтай прычыны, можа, і я больш пра галаву думаў бы, а не пра...

Вольха. А не пра што?

Ропат. А не пра шчасце горада, не пра Белую Русь.

Вольха. Ропат!

Ропат. Што Ропат! Я спрадвеку Ропат. А вось ты не вольха, а асіна. Толькі ты памятай і пра таго, хто на асіне павесіўся.

Усе адыходзяць ад Вольхі. Ропат ідзе за жанчынамі.

Багуся. Ну што табе, Марцыяне?

Ропат. Ты мне так і не адказала, дзяўчынанька.

Мамка. Но-но. Ты што гэта? Забыўся, што я да яе прыстаўлена, каб вакол розныя каты́ не марцавалі?

Ропат. Ты, мамка, і сама б памарцавала, хаця на дварэ і жнівень.

Мамка. Гэта на гэтым дварэ — жнівень. А на маім яшчэ толькі на май кідаецца.

Багуся. Прузы-ына! Якая ж ты нямілая...

Мамка. Ну-ну. Тады мамка была міла, як нешта мыла.

Ропат дае ёй нешта ў руку.

Ага, куку ў руку? Ды ты што думаеш? Ды ты думаеш, што я?! Ды я — у вочы!

Ропат *(адступае)*. Ну-ну-ну, ну-ну-ну.

Мамка. Ды я вочы кожнаму за яе шчасце выдзеру. Хіба я не разумею? Маладым — як галубам. Усё буркатаць бы. Дык ты не пойдзеш у храм, Багусенька?

Багуся. Не. Архідыякан, навушнік гэты, шпег, кат гэты, Дарафей. І САМ страшны.

Р о п а т. Ідзі ты, Трапашкава, калі ласка, ідзі.

М а м к а. Я на хвіліначку толькі. Не бойся тут гэтую хвільку, Багуська. *(Пайшла.)*

Р о п а т. Угм. Тут з табою баяцца трэба, а не без цябе.

Б а г у с я. Што з табою, Ропат?

Р о п а т. Ты ведаеш. Няма спакою на зямлі, няма і ў маёй душы.

Ідуць да іх праз натоўп Вольха і Палікар.

Б а г у с я. Я табе казала — не трэба. Нічога з таго не будзе, акрамя маёй ды тваёй загібелі й пакуты.

Р о п а т. Можа, я і хачу загібелі.

Б а г у с я. Ды што вы як пашалелі ўсе? Што, свет на мне сышоўся? Не!

Р о п а т. Што ж. Для мяне галоўнае — справа. Унь Зуліся да мяне нават чэпіцца, што лезу на нож. Але раз такое — тады проста пакладу галаву раней за ўсіх.

Б а г у с я. Што? Што?!

Р о п а т. Нічога... Горад хоча абраць чалавека, які расправіўся б з ваўком. У іншых жонкі, дзеці. А я адзін.

В о л ь х а. Ропат, ты дурань. *(Схапіў яго, шэпча.)* Ты што ж, з-за бабы хочаш галаву пакласці? Я адыду, адступлюся. Пагавары з ёю. *(Уголас.)* Багуся, ды ты што, не бачыш, што ён ашалеў? Скажы нешта, бо ён з-за боязі цябе...

Р о п а т. Я не баюся. Раз Масальскаму ў Мсціслаўлі не ўдалося застрэліць яго, раз застрэліў раней Масальскага падчас замаху Палікар Абрагімовіч — значыць, камусьці трэба. Чаму і не мне?

П а л і к а р. Хто гэта тут Масальскага ўспамінаў? Самае імя гэтай сволачы пад праклёнам, а ты... Ану, рушылі ў палац.

Р о п а т. Слухай, Палікар, адкасніся. Мы — народ мірны, мы — нікуды не лезем. Але кіпцем за жывое не чапляй.

Б а г у с я. Адстань ад яго.

П а л і к а р. Я б і адстаў, ясачка, каб ты мяне вельмі папрасіла.

Б а г у с я. Пачакай яшчэ крыху.

П а л і к а р. Ну, а калі не папросіш — што ж, вас такіх сотні, але галава ў Ропата адна. Бацька твой

памёр, заступіцца за цябе няма каму. А я — тысячнік. Я — гэта гвардыя біскупа.

Багуся. Герой ты, як я гляджу. Сокал. Сокал дзеўкам праходу не даваць. Толькі не на тую ты напаў. Я табе не каханка, і не для цябе ў мяне смаляныя лаўкі... Вольха, я здагадалася, пра што вы. Ропат, я падумаю. Пачакай.

Палікар. Ды ты... Ды ён... Ды я яго... Як вяроўку скручу. За ногі перад ратушай павешу.

І тут Вольха схапіў яго за плячук, крутануў.

Вольха. Ты што — войт, каб над намі суд-расправу чыніць? Ты што, права віцебскае ламаць будзеш, лашак ты, мерын?!

Зуліся.

Жаўнер малюценькі
Падраў кашуленьку
Ад пят да калена,
Шукаючы прытуленя.
Прытуленя не знайшоў.
Ды заплакаў і пайшоў.

Вальгіна. Сорам дзе твой? Чаго ты як з ланцуга сарвалася?

Палікар. Варта! Бі іх у маю галаву!

Невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, але ў гэты момант у суправаджэнні служак і архідыякана Дарафея выходзіць Кунцэвіч.

Кунцэвіч. Стой, народ!!!

Паўза.

Што за рокат? Хто парушыў спакой? Вы, мяшчане? Ты, Палікар? Адыдзі ад іх. Мір, людзі! Мір!

Галасы. Ізахват! Ізахват!

Зуліся. Не Ізахват ён, а душахват.

Кунцэвіч *(да Палікара)*. Па-дурному дражніш народ. Накладу эпіцім'ю.

Палікар. За што? За тое, што ў іхнія свінячыя галовы кіем убіць хачу братнюю любоў цэркваў?

Пасіёра. Бачылі мы тую любоў, смярдзюк ты.

Іля. Лайцеся. Цяпер такія часы прыйшлі, што ўсё можна. Гэта не раней, што за карчомнае слова фунтам воску штрафавалі ці на званіцу садзілі сядзець.

Палікар. Дарма крыўдзіш мяне, арцыбіскуп. Няма маёй правіны.

Кунцэвіч. А прагнасць нясытая, а рабункі людзей.

Ропат. Нібы сам лепшы.

Кунцэвіч. А любастрасце, да той дзяўчыны.

Палікар. Я сумленна хачу, каб яна прыйшла ў мой дом.

Ропат. Глядзі, тысячнік, язык заб'ю ў глотку.

Кунцэвіч *(са страшнай пагрозай).* Малады ты яшчэ, Ропат, малады. Глядзі, як бы самому без глоткі не застацца... Супраць міру, па якім народ памірае, ты ўстаў.

Зуліся. Бач, яшчэ і пагражае...

Вальгіна. Кінь, хай ён задавіцца.

Зуліся.

А што ў таго папа знаці,
Ды сінія порткі садраці,
Будзем хлопцам шапкі латаці,
Будуць хлопцы шапкі насіці,
За дзяўчаты бога прасіці.

Вальгіна. Зуліся, мужыкі вакол.

Зуліся. А-а! Такія мужыкі!

Страшнае выццё, якое адразу нібы адсекла. Гэта выйшла ў кола страшная, з юродскімі вачыма, Еўга Бабук.

Еўга. Ды вы ўсе тут без галоў, людзі! Ходзяць, рукамі махаюць. І ўсе без галоў. Адзін Вольха ды Багуся з галовамі. Нерухомыя толькі. Каменныя. Нямы горад. Нямыя званы. І ўсе без галоў. І ты, і ты... Бачу, бачу! Сын нараджэннем забіў бацьку, а бацька, у той жа час, сына. Я ведаю. Я ў Вільні дзяцей бабіла.

Кунцэвіч. Хто такая?

Палікар. Павітуха. Еўга Бабук. Яна і сапраўды дваццаць год як з Вільні прыйшла, дзяцей віцебскіх прымала. Аж пакуль чагосьці з розуму не скочыла.

Кунцэвіч. Ну то і на ланцуг бы яе. Ілжэпрароцтва.

Еўга. Жар. Гарачы. Жар памятаю, Іване. У маленькай хатцы ў Вільні, у вуліцы ля святадухаўскай царквы. Крык! Яна мела ў чэраве і крычала. Жанчына, адзетая ў сонца. Апакаліпсіс забыў, Іване?

Вольха. Ізахвата мірскае імя было Іван.

Еўга. Яна мела ў чэраве і крычала ад боляў і пакут нараджэння. Памятаеш, ты з ксяндзом Ельяшэвічам на страсную суботу на храм напаў. Дваццаць

тры гады таму. Помсту, помсту нарадзіў ты тады... Без галоў усе. Ходзяць... І ты.

Кунцэвіч. Ты што? Ты што гэта гародзіш?

Еўга. У-га, у-га. Каб не адказваць за антыхрыста перад богам — усе, усе скрыліся, схаваліся, уцяклі. Крык, боль на руках неслі. А Еўга жанчыну з зоркамі адшукала. З адной-адзінай зорачкай у свеце. Помсту, помсту нарадзілі вы з ксяндзом, безгаловыя.

Кунцэвіч. Варта, ды што ж гэта такое?

Еўга. А я вось на вушка. На вушка нештачка табе шапяну, пакуль вушы маеш.

Біскуп, нібы бязвольна падпарадкоўваючыся вышэйшай сіле, не хочучы, схіляе галаву, і павітуха-юродка шэпча нешта яму на вуха.

Вось так, Іване. Вось так, Ізахват.

Кунцэвіч (*спалатнеўшы*). Не... Цур табе! Цур, вар'ятка. Не можа быці! Не можа быці!

Чалавек у цёмным падыходзіць да яго. Гэта езуіт Станіслаў Касінскі.

Езуіт. Ідзіце, біскуп. Вам нельга, вы зараз зваліцеся.

Кунцэвіч. Не. Не.

Езуіт (*шэптам*). Імем настаўнікаў вашых, а маіх братоў па ордэну Ісуса, Валенцыя Фабрыцыя і Гаўрыіла Грушэўскага,— ідзіце. Вазьміце сябе ў рукі.

Палікар. Варта. Узяць юродку і гэтых.

Кунцэвіч (*амаль хістаецца*). Пакіньце іх. (*Нібы падстрэлены, ідзе прэч.*)

Ропат. Што ты сказала яму, Еўга?

Еўга. Зведаеш, як людзі без галоў будуць хадзіць.

Дарафей (*штурхае Еўгу*). Ды я адным голасам цябе, старая шлюндра, да зямлі прыб'ю.

Ропат. Не руш старую. Не руш, кажу.

Дарафей (*б'ецца*). Я вас за абразу святому!

На яго навалiлiся. Бойка ідзе шалёная.

У жалезы вас усіх. На ланцуг. Кляшчамі мяса рваць!

Яго выкінулі прэч.

Вольха. Шалёныя. Апантаныя. Ідзі адсюль, Багуся, ідзі, сонца маё залатое-святое. Яшчэ затопчуць, ірады.

Багуся. Пойдзем, Антоні. Пойдзем, любы.

Пасіёра. А заўтра мы пойдзем прасіць у яго на-

шых правоў. Прасіць міру. Пакуль што па-добраму прасіць. Я, Ропат, Іля і... ты, Вольха.

Ропат. І хай толькі паспрабуе стаць у нас на дарозе нейкі Палікар. Не будзе права — лезем на ражон.

Багуся. Ропат! Ропат! Вы ж на смерць ідзяце! Вы ж і яго на смерць ведзяце. На агонь. Я не вынесу, калі яму... калі вам — смерць! Злітуйцеся ж вы нада мною!

Палікар *(сам сабе)*. Ну, Ропат, чакай. Сапраўды без галавы пойдзеш. Меч. Меч вам да апошняга.

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Пакой у доме арцыбіскупа. Скляпенні распісаныя фрэскамі, але на іх, пісаных «па-старому», вісяць ужо сям-там «новыя», італьянскія іконы. Стол, завалены рукапісамі і фаліянтамі, крэслы (адно біскупскае). Двое дзвярэй і тры шкляныя акны. За імі перазвон званоў. У пакоі Іасафат Кунцэвіч, езуіт Станіслаў Касінскі і, у крэсле ля дзвярэй, Палікар Абрагімовіч.

Палікар. Яны нават не падумалі пра тое, каб прывесці да ладу ваш палац.

Езуіт. Ну то што?

Палікар. Скупечы. Усё адно як... цара не еўшы спаць пакласці.

Кунцэвіч. Я не збіраюся тут жыць вечна.

Езуіт. Біскуп не збіраецца жыць тут вечна. А скруціць іхнім ерасям галовы — хопіць і месяца.

Кунцэвіч. Што там круціць? Амаль усё ўжо рукою ўлады ўзяў. Замест цэркваў у іх два шалашы. Адзін на Задунаўскім Заручаўі, ля валатовак.

Палікар. А другі — унь ён, за Дзвіною, насупраць прачыстай і гэтага дома.

Езуіт. Яно і добра, што на вачах.

Кунцэвіч. Астатняе ўсё запечатлелі і ўзялі. Так і адпішы. Ты што, Палікар?

Палікар. Страшна.

Кунцэвіч. А падыхаць у ерасі ім не страшна? А жаніцца пад плотам, як, не раўнуючы, псам? А балбатаць, што няма і не трэба ніякай улады Адамавага сына над такім жа сынам Адамавым, што і не трэба

лепшых і горшых у дзяржаве, царкве і касцёле? І што не трэба розніцы ў законе, і павінна быць усё дзеля ўсіх, а веруй, як хто хоча — гэта ім сцвярджаць не страшна? Маўляў, мы «асуджаныя праўдай вечнай». Вось хай і выбіраюць. Або падпарадкоўвайся, або смярдзі ў гнаі, як тое падла. Або ніякіх мараў аб былой славе і што самі яны нешта азначаюць, або... як і раней, будзем вывозіць гэты здохлы смурод толькі праз тую браму, праз якую сапраўдны смурод вывозяць. Той, што ў бочках.

Езуіт. Рацыя. Бо сіла ў адзінстве, пан Палікар, і за тое адзінства ён і ваюе. Каб усім іншым верам, якія хлусня, зламаць хрыбет.

Кунцэвіч. І да гэтага ўжо блізка. Гэта яны крычаць толькі, а на справе пікнуць ніхто не насмеліцца.

У гэты момант за вокнамі, у тупаце капытоў, грымнула песня.

Гэй, казачэйку, пане ж мой, далёк жа маеш домік свой?
За Дзвіною пры Дунаю там я сваю хату маю.
Ліст зялёны, аздаблёны красным світам, густым лістам,—
То мой дом, то пакой, Куліна.
Гэй, казачэйку, пане ж мой, на чым жа будзе паязд мой?
Пасаджу ця за бядрамі, прывяжу ця таракамі.
Бог над намі, конь пад намі, ты са мною, я з табою.
Пабяжым, пасяшым, Куліна[1].

Кунцэвіч. А гэта яшчэ што?

Палікар. Атрады казацкія ідуць некуды пад Оршу, да панцырных баяр, на Маскоўскі рубеж.

Езуіт. Вялікі грэх наш перад богам, што карыстаемся іхнімі паслугамі.

Палікар. Гульцяі, галота. Ні бога, ні чорта, ні караля, ані нас не баяцца. Ой, грэх!

І тут раптам узвіўся Кунцэвіч.

Кунцэвіч. Грэх? Я гэтага не баюся. Я іншага баюся. Я начальных людзей баюся, якія сабе ж шкодзяць, сякуць сук, на якім сядзяць. *(Хапае скрутак і кідае яго езуіту.)*

Езуіт. Гэта што?

Кунцэвіч. Ліст заступнічка. Канцлера Вялікага княства. Льва, а цяпер Леона Сапегі. Свежанькага каталічка, такога свежанькага, што яшчэ і засмярдзець не паспеў. І ён мяне ганьбіць і піша такое, што

[1] Беларуская песня са зборніка 1604 года.

валасы ўстаюць дыбарам. І шкодзіць святой маёй справе. Горшы за іудзея ці татарына вораг Хрыста!

Езуіт. Ну-ну, ужо і Хрыста.

Кунцэвіч. Вось, вось што піша, ушчуваючы мяне... *(Чытае.)* «...і я клапаціўся аб уніі... але мне... і на розум не прыходзіла, што ваша правялебнасць вырашылі прыводзіць людзей да яе столь гвалтоўнымі сродкамі... чуваць галасы, што яны лепей жадаюць быці ў турэцкім падданстве, абы не цярпець гэткі ўціск...» Туркаў канцлеру зажадалася!

Езуіт. Ён проста кліча да большай мяккасці.

Кунцэвіч. Але вы, вы, духоўнік мой, вы як лічыце?

Езуіт. Лічу, што ён гаворыць глупства.

Кунцэвіч. Ага!

Езуіт. А вы робіце глупства, крычачы на ўвесь свет аб агні і мячы.

Кунцэвіч. Як жа глупства?! Як... глупства?! Вось... далей: «...злоўжываннем уладай... запалілі тыя небяспечныя іскры, якія ўсім нам пагражаюць згубным і ўсёзнішчальным пажарам...» Ён, паршывец, лічыць, што ўрад не толькі дзеля палітыкі робіць выгляд, што звяртае на беларусаў увагу. «Што датычыцца небяспек, якія пагражаюць вашаму жыццю, на гэта можна сказаць: кожны сам прычынаю бяды сваёй». А я ж прасіў аб падмозе, хаця б духоўнай.

Езуіт. Дарэмна. Ён не дапаможа. *(Сам сабе.)* І ніхто не дапаможа. Мэта не тая.

Кунцэвіч. «У вас поўныя земскія суды, поўныя трыбуналы, поўныя біскупскія канцылярыі... даносамі...» Ды як жа нашай дзяржаве без даносаў? І ён мяне яшчэ дакарае за мае словы, што вера ёсць дар божы, але каталіцкая, а не адшчапенцаў. Маўляў, апостал Павел не дадаў гэтага слова — «каталіцкая», і хто ведае пра сябе, варты ён любові ці нянавісці. І што Хрыстос, маючы для сваёй абароны легіёны анёлаў, маліўся за ворагаў сваіх, і што і мне трэба так рабіць... Ясна, які ты каталік. Зверху ты толькі каталік, а пад гэтым ты — схізма. Таму ты й цярпімы такі, братачка, чортава мяса на смярдзючых касцях.

Палікар. Пра такое данесці б трэба.

Кунцэвіч. Дано-ос. І данос на яго нічога не зробіць. «Хрыстос маліўся за ворагаў». Я не Хрыстос!

Я — меч, я — воўк ягоны! І за *свайго* Хрыста я кроў піць буду, мяса рваць. Вось...

Паўза. Званы.

Ах ты, маленькі дурында, ах ты, заступнічак народны: «Вы абыходзіліся без нас: а калі трэба ўтаймоўваць смуты, што вы ўзбуджаеце ў народзе вашым бяспуцтвам, тады намі дзіры заторкваць... Калі, крый бог, айчына наша патрасецца (а вы сваёй суровасцю пракладаеце да таго торную дарогу), што́ тады будзе з вашай уніяй?..» Лепш няхай патрасецца. Лепш няхай згіне. Пад дыхала б'е... «Іудзеям і татарам дазволена ў каралеўстве мець свае сінагогі і мячэці, а вы пячатаеце хрысціянскія цэрквы! Ад таго і ходзіць паўсюль пагалоска, што яны згаджаюцца лепей быці ў туркаў, чым цярпець такі гвалт... Паўсюль ужо грымяць пагалоскі, што яны назаўсёды жадаюць разарваць усякі з намі саюз».

Паўза.

Хай разарвуць. Хай гінуць. Хай мы загінем. Хай! *(Разрывае грамату.)*

Палікар. Гэныя... пасланцы ад віцебскага магістрата просяць прыняць.

Кунцэвіч *(ярасна)*. Яшчэ яны! Хто?! *(Пасля кожнага наступнага імя ён сячэ рабром далоні па сталешніцы.)*

Палікар. Сымон Неша, бурмістр, Сцяпан Пасіёра, бурмістр.

Езуіт. Зачыншчык усяму.

Палікар. Поп Іля з задзвінскай царквы-шалаша.

Езуіт. Свавольны поп.

Палікар. Марцыян Ропат, цэхавы збраяроўмечнікаў.

Паўза. Рука Кунцэвіча замерла ў паветры.

Антоні-Лар Вольха, залатых спраў майстра.

Езуіт. І прыдумшчык ерэтычных песенек.

Палікар. То што?

Езуіт. Хай пачакаюць.

Палікар. Горад патрабуе вашай парукі, што яны выйдуць адсюль цэлыя.

Езуіт. Горад... патрабуе? Нахабства, вартае гэтага гадзючніка, усёй гэтай віцебскай сваты.

Кунцэвіч *(нібы асеўшы).* Дай слова. Нікога не чапай.

Палікар. А я думаў... Даць слова, ды... хай бы пара галоў зляцела. Асабліва каб галовы Ропата з Вольхай. Твая правялебнасць, вялікі святы. Ты загадай толькі, загадай. Не трэба табе рук пэцкаць. Я буду сячы. Я хачу адгарадзіць цябе. Каб ты гэтым не займаўся. Каб рукі чыстыя. *(Упаў перад ім на калені, ловіць рукі.)*

Кунцэвіч. Зробіш — няма чым будзе табе думаць. Калі паляціць хаця адзіны волас — тады твая галава паляціць.

Палікар. Слухаю... Крыўдзіш адданага пса.

Кунцэвіч. Ропат — збраяр. Віцебск — памежная крэпасць. Ёй, як паветра, патрэбна зброя.

Палікар. Ну то... А Вольха?

Кунцэвіч. Ён паэта. *(Кунцэвіч пакутна шукае слоў.)* Можа, другі на Беларусі пасля вялікага Міколы з Гусава. Чуў сёння «Куліну»?

Езуіт. Адкуль такая павага да Беларусі і яе паэтаў?

Кунцэвіч. Я шкадую, што ўсё адкрыў вам на споведзі. Адна справа — узняць руку нават на знатнага. Такіх хоць і заўтра наробяць. Зброя пры сабе. А такіх, як ён, стагоддзямі трэба чакаць.

Езуіт. Ого, ды вы маглі б быць хаця й вялікім князем Літвы.

Кунцэвіч. Я мог бы быць усім... Вы заразілі мяне смерцю... Я ведаю, што памру ад уласных... духоўных... сыноў. Усё так. Але гэтых... сёння... я вам... не аддам. *(Выходзіць.)*

Палікар. І што яму іхнія галовы? Пра сваю думаў бы.

Езуіт. Яны яго дзеці.

Палікар. Гэта... гэта як? Дачка архірэя... сын арцыбіскупа. Не разумею.

Езуіт. Што ты за дурны чалавек, Палікар? Ён жа сам пісаў «аб чыстаце іерэйскай, жэ лепей быці бязжэннымі». Яны яго духоўныя дзеці.

Палікар. Ага-а.

Езуіт. Вось табе і «ага». А ў цябе адразу дрэнныя думкі. Грэшнік ты, Палікар. Яму не пра жанчын, яму пра смерць думаць трэба.

Палікар. Ды ён і так увесь час пра смерць. Як

ехалі сюды, то ён пры нас, гвардыі, з такім смакам пра тую сваю смерць увесь час казаў, што мы яго слёзна прасілі, каб ён хаця за абедам пра гэта не гаварыў.

Уваходзіць Кунцэвіч. Ён прыбраўся. Паклікаў Палікара ўбок.

Кунцэвіч. Слухай, тысячнік. Распёк я цябе за тое, што вока кідаеш на дачку нябожчыка радцы Данеля.

Палікар. Ды ёй гэтая быдляціна Ропат даспадобы. Так што я ўжо і не...

Кунцэвіч *(сумеўся)*. А што ён мне? Яму самая рацыя з войтавай дачкою ажаніцца. Багатыры. Увесь горад у кулаку. І прыблізіць праз іх — горад.

Палікар *(усхліпнуў)*. Залатая вы галава, ваша правялебнасць. А Данель той і памёр, як схізмат. Як папраўдзе, то трэба было б выкапаць з магілы дый...

Кунцэвіч. Ну-ну... рана... Вядзі сюды пасланцоў.

Палікар прыводзіць Сцяпана Пасіёру, Сымона Нешу, папа Ілю, Ропата і Вольху.

Здароў, сыны.

Маўчанне.

Ропат. Сыны мы табе альбо не — гэта стане ясна пры канцы размовы, ваша правялебнасць. Мы — простыя людзі. Прыйшлі прасіць вольнасці і правоў.

Кунцэвіч. Э-эх, сыны. І я ж чалавек, просты паходжаннем. Як вы ўсе. Бацька мой — шавец. Хрысцілі мяне ў беднай царкве святой Параскевы.

Ілля. Якую цяпер твае хаўруснікі адабралі ды вуніі перадалі. Добра ты пачаў. Са здрады правай веры і мовы.

Пасіёра. Якой там «правай»? Проста «сваёй». Мова «правай» не бывае. Яна — свая. Адна. Гэта прыказка, біскуп. Глядзі, як бы канец твой не быў ад рук з цярпення выведзенага, разлютаванага народа.

Кунцэвіч. Што ж, пакінеце мяне ў памяці людской.

Ропат. Права на месца ў гэтай памяці заваёўваюць не колькасцю ахвяр, не дымам пажараў, а дабрадзействамі, колькасцю дабра, паслуг, ласкі, што ты зрабіў людзям. Простым людзям.

Кунцэвіч. І я просты, сыны.

Ропат. Прадаў ты, святы айцец, просты народ.

Неша. Вольха, падай яму.

Вольха. Можа, гэта да чагосьці і прывядзе... Мы молім цябе выслухаць нас. Выслухаеш — згодныя быці з табою... Не — глядзі.

Кунцэвіч. Нешта ў цябе, паэта... язык заплятаецца.

Вольха. Тое, што я паэта,— справа дзесятая. *(Падае ліст.)* Нá.

Кунцэвіч *(чытае).* «Не хочаш нас трымаць пры правах нашых... дазваляеш гвалты рабіць і праліваць кроў тых, хто не хоча ісці... у адступніцтва. Зараз ніхто ўжо не забяспечаны ў сваім праве і вольнасці, і ў кароткі час настане вялікая смута... крыві забітых на страшным судзе божым шукаць стану».

Усе. Так ёсць.

Кунцэвіч. Але ж адзінства ўсіх?! Спакой?!

Неша. Калі і зараз адмовіш — вымусіш нас разам з прарокам крыкнуць: «Судзі мя, божа, і рассудзі спрэчку маю».

Вольха. Чытай далей, біскуп.

Кунцэвіч *(чытае).* «Вы ад казацтва і ад нас, беларусаў, большую частку ратнікаў патрабуеце. Як мы можам выступіць у абарону вашай дзяржавы і міру яе, калі ў сваім доме міру не маем? Як будзем гасіць крывёю ваш пажар, калі полымя ў нашай хаце не гасяць? Хто ж — о божа жывы! — ясна гэтага не бачыць, якія вялікія ўцясненні церпіць наш старажытны народ? Няўжо гэта не самому богу крыўда?» *(Мякка.)* І вы, сыны, лíчыце, што вашы пастыры хочуць крыўды богу?

Вольха. Ну, досыць. Маўчаў я. Ведаем мы, якія вы. Унь хелмскі ўладыка ёсць, сведчу богам жывым, і гэта ўсім вядома, нейкі па мянушцы Пакост, бо ён аднойчы, у бурсацтве, пакостам кашу заправіў і з'еў, і ён віленскага купца сын і ў аднаго бурмістра сцягнуў сукно і, ратуючыся, пайшоў у манахі.

І, каб не ўратаваў яго манашаскі клабук,
Даўно бы ён пайшоў ужо на шыбенічны крук.

Кунцэвіч. Глядзі-і, паэта!

Ропат. Дый ты сам! Нашы торбы хапаеш, з нашых торбаў сала жарэш. Бо ставяць на высокія сáны ўлад духоўных — выскачак, якія матку зарэзаць здатныя, ад мовы, веры, радзімы адрачыся.

Кунцэвіч. Сынок... Сыны-ы... Якую радасць вы б прынеслі богу і мне, каб ты... каб вы са мной.

Ропат. Каб з табою, айцец святы, здзекавацца нават з трупаў нашых аднапляменнікаў. У Вільні, у Полацку ці не вялікі ўціск? Пахаваць чалавека трэба. А вы брамы, якімі нікому не забараняецца хадзіць, якія для ўсіх людзей, немцы яны, яўрэі ці татары,— вы тыя брамы запіраеце, і вымушаны мы продкаў выносіць у тую браму, якой смрад і адну толькі нечыстоту гарадскую вывозяць. Быў бы ў цябе сын, біскуп, хацеў бы ты, каб ён вось так цябе вынес?

Кунцэвіч. О божа! Няўжо не разумееце, што я, хай сілаю, вяду вас да спакою, да адзінства? Каб не рэзалі адзін аднаго з-за догматаў, з-за таго, колькі пальцаў складаць для крыжа!

Ропат. Значыць, усім іншым народам набіць морду і пазбавіць усяго, каб была, значыцца, поўная ўжо еднасць.

Кунцэвіч. Адзінства-а, разумееце вы? Справа, аб якой людства марыць.

Пасіёра. Гэта харошая справа! Ў ногі пакланіўся б таму, хто праводзіць такую добрую справу...

Кунцэвіч (*стомлена*). Ну вось.

Пасіёра. ...каб толькі гэтая справа не была аддадзена ў брудныя рукі.

Вольха. Мы згаджаліся з уніяй. Мы лічылі, што задумай сваёй гэта — вялікая, святая справа, і таму тры гады падпарадкоўваліся табе, Ізахват.

Ропат. Аж пакуль не зразумелі, што ты, айцец святы, і іншыя такія... айцы святую справу зрабілі падманам, брыдотай, забойствам нашай зямлі, нашых людзей і свабоды, пакуль не ўбачылі, што ты — святы воўк, Ізахват.

Пасіёра. І гэта апошняе папярэджанне табе Віцебска. Парушыш спакой і закон — крыўдуй на сябе.

Паўза. Пасля выбухнуў Палікар.

Палікар. Нахабы, віцебскія свінні! Ды... галовы з іх дзерці! Ды аддай жа загад! Гвардыю сюды!

Ропат. Ну, калі ён хоча быці не толькі айчымам, але і сыназабойцам і парушальнікам слова,— клічце служак.

Кунцэвіч (*дрыжачы ад гневу*). Я даў слова. Хай ідуць.

Е з у і т. Чакай. Слова? Трымаць? Перад такімі?

К у н ц э в і ч. Адкасніся. Хай ідуць.

Е з у і т. Дрэнна цябе вучылі.

К у н ц э в і ч. Хай дзякуюць лёсу. Хай ідуць.

Пасланцы ідуць да дзвярэй. І зноў за вокнамі песня.
Гэй, казачэйку, пане ж мой, ці далёка ж будзе домік твой?
Ці бары, ці Запарогі — канец нашае дарогі?
Тут казакі ўсе юнакі. Здабываюць. Прапіваюць.
Што маюць — прайграюць, Куліна.

Р о п а т. Чуеш? Тваю песню спяваюць, Вольха.

В о л ь х а. Яшчэ адзін атрад.

Н е ш а. А чаго гэта ты не спяваў: «Што маюць — прайграюць, Багуся»? Куліна нейкая.

Р о п а т. Змоўч!

І л я *(ціха)*. Чаму ён вось так адпусціў нас? Ані пагрозы?

Р о п а т. Не ведаю.

Пайшлі.

Е з у і т. Сорам табе, Кунцэвіч. Не толькі я — уся царква ад цябе адварочвае твар.

П а л і к а р. Загадай, загадай — і я напушчу на іх варту! Адарві ім галовы, каб не адарвалі табе!

Е з у і т. Нейкія няясныя твае падазрэнні, нейкія здагадкі, домыслы — і вось ужо няма ранейшага воўка божага, а ёсць ануча.

К у н ц э в і ч. На мяне хочаш навесці смерць гэтых людзей! Не! Яны не панясуць свае галовы пад пахай.

Е з у і т. То панясеш ты. *(Мякка, але з прытоенай пагрозай.)* Ды зразумей, няма ўжо табе шляху назад. Дазволь нагадаць, як ты да нас у Полацк прыйшоў?

К у н ц э в і ч. Памятаю. Студзень. Дзевятага. Снег сляпучы. Званы.

Е з у і т. А хто цябе сустракаў ля самай заставы места?

К у н ц э в і ч. Усё рымскае духавенства. І на чале вы, езуіты.

Е з у і т. Правільна. А калі мы да гэтага бывалі на сустрэчы праваслаўнага біскупа? Ніколі. Ergo — народ адразу зразумеў, чыя аброць цябе вядзе. Падазрэнне было спадарожнікам першага твайго кроку. А спадарожнікам другога была агіда. Бо звараціў ты масу народу.

Кунцэвіч. І мянушка мне за гэта стала «душахват».

Езуіт. Так. А не паспеў памерці Гедэон Полацкі, як ты адкрыта пачаў «паўсюль усё знішчаць, а нясхільных катаваць пакутамі і прыўлашчываць манастыры воўчым правам». І спадарожнікам трэцяга твайго кроку была нянавісць. Нават многія уніяты заразіліся ёю і адышлі. Але цябе не абразуміла і нянавісць. Аршанцы цябе ў Дняпры ўтапіць хацелі. Магілёўцы гарматы навялі, а пасля ім галовы секлі і прымусілі заплаціць дваццаць тысяч злотых. Інакі цябе ў Кіеве забілі б, каб не ўцёк. Так, уцёк ад пакутніцкага вянца. Ведаеш, што ён азначаў бы?

Кунцэвіч. Ведаю. Цяпер іду насустрач яму, не апускаючы вачэй. Мне ўсё адно — міне або не міне вуснаў маіх чаша сія... Да нядаўняга часу было ўсё адно... І таму я не аддам табе іхніх галоў.

Езуіт. Няўжо ты яшчэ не бачыш, што спадарожнікам чацвёртага твайго кроку стала ўсеагульная ярасць? І ты не сцяў ёй галавы, адпусціў яе.

Кунцэвіч *(злавесна)*. Змоўч, Станіслаў Касінскі. Іначай я загадаю раздзерці цябе на кавалкі.

*Заслона*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Царква-шалаш у Задзвінні. Над ёю і пералескам пахмурнае лістападаўскае неба. З шалаша далятаюць спевы, але там цесна, і таму частка народу стаіць звонку. Тут, уласна, усе гараджане, што ўдзельнічаюць у дзеянні. Чуваць гамонка, але нейкая прыглушаная, нібы яе гняце самое неба. Крыху ў баку ад усіх, за дрэвамі, Ропат і Багуся.

Ропат. Мамка Прузына дзе?

Багуся. У царкве, дзе ж яшчэ? Гэтая заўсёды наперад ушчэміцца. Нават табе не давялося — я ж заўважыла тады — ёй у лапу даць.

Ропат. Я, каб цябе бачыць, не тое, што ў лапу — я ўсё аддаў бы. Нават лепшую маю шаблю, імем «Багуся». Нават лепшую сваю сякеру — гізаўру імем «Данель» — для бацькі твайго нябожчыка куў у падарунак. Нават сябе самога з бессмяротнай душою разам.

Багуся. Я не вінаватая, Ропат. Думала я. Аж тры месяцы. Далей мучыць цябе не магу... Не.

Ропат. Я цябе не вінавачу. Я дзеля цябе і зараз бы галаву сабе адсек і яшчэ паспеў бы на той бок Віцьбы перакінуць, анёл мой белы.

Багуся. Дорага б я дала, каб ты быў здаровы і спакойны, каб не казаць гэтага табе... Але што я зраблю? Прачнуся ўначы і яшчэ не разумею — адкуль раптам радасць, а потым: «Ён ёсць на свеце, проста ёсць».

Ропат. О божа! Рэжаш ты мяне тупым нажом... Антоні Вольха?

Багуся. Так.

Ропат. Ненавіджу яго.

Багуся. Я цябе прашу, не трэба. Будзь нам братам.

Ропат. Як быццам нехта конча мае патрэбу ў лішнім браце або сястры.

Багуся. Гэта ты праз мяне. Не йдзі туды. Не ахвяруй жыццём.

Ропат. Ды я не ахвярую. Проста жэрабя мне выпала. Ты не бойся. Я ні ад мяча, ні ад кахання не памру. *(У глотцы ў яго камяк.)* Суцешуся. Бывай... І вось што... Дай напаследак вусны. *(Цалуе яе і хуткім крокам ідзе прэч.)*

Падыходзіць з-за дрэў Антоні Вольха.

Вольха. Ого! Я да яе, а яна тут іншаму раток падстаўляе.

Багуся. Кінь. Не магла я адмовіць яму яшчэ і ў гэтым апошнім.

Вольха. Апошнім? *(Сеў на пень, нібы яго не трымаюць ногі.)* Апошнім. Т-так. Ніколі мне не было яшчэ так кепска.

Паўза.

Багуся. Ён іншага можа забіць.

Вольха. Тады трэба ісці разам з ім. Хаця часам гляджу на цябе і думаю: «Ды спрахні ты, ды праваліся ты хаця і ў апраметную, горад».

Багуся *(сядаючы побач)*. Гэта хай нехта іншы думае, што вось няхай свет праваліцца і нічога вакол не будзе, акрамя маёй печкі... Слухай, я, напэўна, бессаромная дзеўка, але... абдымі мяне.

Вольха. Бессаромная. Я, відаць, таксама бессаромны, але... пацалуй мяне.

Паўза.

Не трэба мне нічога. Ні зямлі, ні горада, ні веры, што нас толькі псуе, ні крумкача Ізахвата. Нічога. Абы толькі ты. І яшчэ вось гэтыя мае рукі. Яны могуць і з золата, і са срэбра, і з дыямантаў рабіць. Але я іх не за тое люблю. Я іх за тое люблю, што яны могуць песціць цябе... вось так, расплятаць твае валасы, дакранацца да тваіх плячэй, да рук, да ўсяго... Ты не думай, я цябе ў дождж, бегма, як да Заручаўя на руках нёс бы, абы ты не змокла, не захварэла.

Багуся. Скажы мне тую песню, што ты за мяне прыдумаў. Яна — праўда.

Вольха.

Я за цябе, мой каханы, і сама пайду.
Цераз поле, мой каханы, шырокае,
Цераз мора, мой каханы, глыбокае,
У двор твой, мой каханы, весняй хмараю,
У сенцы твае, мой каханы, дробным дажджом,
У хату тваю, мой каханы, ясным сонейкам.
За стол твой, мой каханы, паненкаю,
У ложу тваю, мой каханы, маленькаю.

Багуся. Маленькаю.

Вольха. Ну, схавайся ў мяне на руках, маленькая. Яны табе ўсё зробяць. Золата-срэбра чужое будзе. Затое будзе хата з залатой сасны, дах — са срэбнай асіны. Цёпла будзе ад печкі і ад цябе. Бог ты мой, ты ўся — як пух. Дзеці ў нас будуць.

Багуся. Многа.

Вольха. Хай многа. І ўсе майстры і добрыя людзі.

Багуся. Набі мяне, можа, я цябе тады менш любіць буду!

Паўза.

Толькі... нічога гэтага не будзе.

Вольха. Як нічога?!

Багуся. А так, нічога. Нічога, пакуль горад наш — як авечка сярод ваўкоў, а пастухі — далёка. Хату — адбяруць, у студню — наплююць, храм — чужынцы загадзяць. Дзяцей — за чужую зямлю біцца пагоняць. На мяне які-небудзь Палікар вокам кіне.

Вольха. Я яго доўбняй тады.

Багуся. Тады позна будзе... Бачыш, што робіцца?

Вольха. Не бойся. Я цябе нікому ў крыўду не дам. Я за цябе... Я калі і вазьму доўбню, то толькі за цябе.

Выбух галасоў ля шалаша.

Пасіёра. Людзі некалі слаўнага места Віцебскага! Бедныя! У шалашы загнаныя, у норы, як звеæры! Думаеце, адны вы так? Вось з'явіліся з загонамі людзі. Пятро Васільевіч, палачанін, з сынам Васілем, Ладысь — аршанец, Васіль — магілевец, ды Авянір, а прасцей Вінусь — вільнянін. Прыйшлі раіцца, як далей быць, як жыць, як дыхаць.

Палачанін. Наконт нас і казаць няма чаго. Усе ведаюць, як ён нас прыціснуў. Ведаючы, якія беды нас чакаюць, проста хоць дзяцей не раджай.

Васіль. Што ты, бацька, чым мы вінаватыя? Што ты нас назад буслу аддасі?

Аршанец. У нас за тое, што мы яго тапіць хацелі, усе грамадскія лазні на Дняпры зачыніў перад праваслаўным вялікаднем. І ў каго сваёй не было — тыя да суседзяў хадзілі і набіваліся, як салоная рыба ў бочку.

Матыс. Гэна... ведаем... У нас крамніцы і каморы зачыніў, яткі мясныя, пастрыгальню, перавозы на Дзвіне і на Лучосе... Хай яму... бручкай па мордзе.

Абдзярыха. Латок з маімі калдунамі найлепшымі тройчы перакідаў, каб яго самога так апракінула! Бачыце, у царкву яго, анахцамскую, не хаджу, каб па ім так тыя анахцамы давеку хадзілі.

Вільнянін. Вільня кіпіць. Вялікая грамада. У замках і па слабодах і дамах шляхецкіх хоча паўторна бунтавацца.

Палачанін. Яны яшчэ раз хочуць свой каляндар рымскі ўвесці. Каб было на дзесяць дзён наперад ад нашага. Дзесяць дзён жыцця кожнага з нас украсці. Каб перад богам не ведалі, як сказаць, што мы ў іх рабілі. Забылі, як мы, палачане, ужо хрысцілі іх за гэтыя дзесяць дзён доўбнямі.

Навум Воўк. Кіньце вы пра калдуны ды календары. Справу кажыце.

Мамка (*выйшаўшы з шалаша*). А ў храме, а пане

мой божа. Я пабыла на прачыстую, то закаялася. Пань і паннаў голкамі колюць і за паню з падкручаннем шчыкаюць.

Іля. Ну, гэта табе не вялікая бяда.

Мамка. Змоўч, поп, нахабная твая пыса. Хто, як не брат твой, у Заручаўі, напіўшыся, вакол уваскрасенскай царквы на казле са спяваннем сто другога псалма ездзіў?! Вось за такіх і зваліўся на нас Ізахват.

Іля. Што ты, што ты, баба?

Абдзярыха. Ты папа Ілю катаеш, каб цябе да нагі выкаціла? Ты святога чалавека, каб цябе так па спіне свянціла.

Учапіліся адна адной у валасы.

Неўсця. Ну вось, галубочкі мае, і вайне пачатак, каб вам, даражэнькія мае сёстры, скулу на язык.

Абдзярыха. А табе столькі туды скулляў з муллем, колькі твая маці з цыганамі грашыла. Ды вялікіх скулляў, з мае калдуны.

Мамка. Каб табе такую вайну кожны дзень у хаце.

Неўсця. Дальбог, каб ведаў, не звязваўся б. Не бабы, а татарская навала.

Пасіёра. Ціха, бабы! Слухай, народ! Не да бабскіх спрэчак. Не за валасы, за душу ўхапілі.

Мамка. А божа ж мой, ну, чысты анёл.

Пасіёра. Ад Вільні да Магілёва куюць людзей у жалезы, кідаюць у цямніцы. Людзі ў Барысаглебскім манастыры адзінаццаць дзён трывалі асаду. Толькі полацкая замкавая варта агнём іх узяла.

Ропат. Вось гэта людзі!

Пасіёра. То што мы будзем? Цярпець? Магнацтва, акрамя нямногіх, здрадзіла, запляміўшы наш гонар. Яны цяпер па-чужынску цвэнкаюць, усе гэтыя тышкевічы, агінскія, валовічы, сангушкі, сапегі, браніцкія, аскеркі, храпбтовічы і іншыя, імя іх— легіён. Ім ужо мова Кірылы з Турава, Скарыны і Цяпінскага — грубая, як калі ў жываце бурчыць. Псы. Ледзь не адны мы засталіся, мы, просты народ. Што рабіць?

Вольха. Мы, мяшчане, у законе выраслі, звыклі паважаць закон. Мо напішам каралю ды пацерпім крыху яшчэ. Вы ведаеце, я не з зайцоў...

І тут кінуўся да яго Ропат з бердышом-гізаўраю ў руцэ.

Р о п а т. Змоўч ты, смоўж! Церпім, як у часы ранніх хрысціян. Толькі нас не львам, нас сабакам-падлажэрам кідаюць. А мы маўчым! Досыць маўчаць, Віцебск, досыць, зямля!

В о л ь х а. Галосіш занадта гучна. Парадзіхаю. Ды крыкам нічога не народзіш.

Р о п а т. Бачыш? Гэта гізаўра.

П а с л а н ц ы. Ды разбараніце іх. Зброю ўзнялі. Не ведаюць — на каго.

В о л ь х а. Калі ўзняў зброю — трэба апускаць. Ну!

Р о п а т *(усадзіўшы гізаўру ў зямлю ля ног Вольхі)*. Не пойдзеш — галаву развалю. До цярпець! Воўк перарэжа ўвесь статак...

У гэты момант з'яўляецца на чале гвардыі П а л і к а р і ўзброены доўбняй зверападобны Д а р а ф е й.

Н е ў с ц я. Раўніцелі веры з'явіліся. Ну дакладна як у юнацкіх снах нявінныя атракавіцы, каб ім, галубочкам, здохнуць без пакаяння.

М а т ы с. Ідуць... Аж... засмярдзела.

І л я. Бязлепіцу і грубасць сказаў. На такіх трэба казаць: «Пачэ калу смярдзяй».

Д а р а ф е й. Што, айцы, зноў незаконнае зборышча? Давай, давай адсюль. А то ўздасца вам па грахах вашых. Шкуру гарачымі бізунамі дзерці буду.

Н а в у м В о ў к. Глядзі, гэты табе унію ніжэй спіны прапіша.

П а л і к а р. Не звягай на унію, чарвяк.

П а л а ч а н і н. Хочаце, каб мы глагол, у якім нарадзіліся, змянілі на чужы.

А р ш а н е ц. Каб віцебскія ды аршанскія званы на лаціне спявалі.

В і л ь н я н і н. Хай пяюць... Абы на іх адпяванні.

І л я. Толькі як ты з чортам дамовішся на чужой мове?

Д а р а ф е й. А можа, звыклі б. А, братачкі?

П а с і ё р а. Можа. Можа, нават і лепей, каб звыклі. Каб толькі не стаяў над намі Рым. І ніхто ў свеце. Досыць. Абрыдла.

Д а р а ф е й. Ух ты, як ён на каралёў брэша. Начытаны. А што, хіба Ягелоны не раўнялі ўсіх у правах?

Р о п а т. Раўнялі. Бо разумелі — гвалтам з намі нічога не зробіш.

Абдзярыха. А цяперашнія, відаць, розум страцілі. «Цёсечка-цёсечка, а потым — стой, воўк цябе рэж».

Мамка. Лабідуды нейкія, хай бы вам гарэць.

Палікар. Змоўч, бабы.

Дарафей. Куражацца. Цану сабе набіваюць перад намі..

Абдзярыха. Цана нам такая, што ты з усім сваім майном толькі й купіш тую ваду, у якой мы ногі мылі.

Мамка. Для піццяя.

Неўсця. Бедныя яны, няшчасныя вашы каралі. Скудныя розумам.

Ропат. Нас пагубіце, але тады і дзяржава веры загіне. Канец! Не быці ёй ужо сярод першых у храме сусвету.

Матыс. Мякінныя... вы... галовы.

Дарафей. Гэта вашы папы мякінныя галовы. Схлапелі, амужычыліся. У распусту ўпалі. Жэняцца. Халера на іх!

Іля. Твая тут праўда, браток. *(Тон яго слоў прынізлівы.)* Гэта ясна. Ты ведаеш, хто за ўсіх разумней, хто за ўсіх весялей і хто за ўсіх дурней?

Палікар. Ну?

Іля. Вялікія вы і мудрыя людзі. Разумней за ўсіх, сапраўды, ксёндз.

Дарафей. О, урэшце. А чаму?

Іля. Бо ніколі не жэніцца. А весялей за ўсіх поп... Вось як я. Ён рана ўстае і, не еўшы, пяе. Малебен трэба служыць нашча.

Дарафей. Ну, а дурней за ўсіх хто?

У гэты момант адзін са служак, пракраўшыся за спінамі, кінуў у шалаш паходню. За рогатам гэтага не заўважыў ніхто, акрамя Багусі. Яна кінулася да падпальшчыка, схапіла яго за глотку. Дарафей моцна штурхнуў яе, і яна ўпала.

Дарафей *(узняў доўбню)*. Ды што там?! Душы схізму ў імя бога. Бі!

Але тут, нібы скінуўшы здранцвенне, адным скачком дагнаў яго Вольха. Выдзер доўбню, аперазаў па спіне, узняў грамілу ў паветра.

Вольха. Не! Гэта мы вас — бі! Дзяўчат нашых ганьбіць? Людзі — на іх!

Віцьбічы рынулі наперад. У святле палаючага шалаша закіпела лютая бойка.

*(Вольха, усё яшчэ матляючы Дарафея, крычыць.)* Каб мірам, любоўую прыйшлі — ніхто б, ніколі нас ад вас не адвёў... На́ табе!.. Хіба шыбеніцай, плахай!.. На!.. Але сілай віцьбічаў, але сілай нас — хрэн возьмеш! Зубы зломіш, поп! *(Шваркнуў ім аб зямлю.)*

Дарафей ляжыць, аглушаны.

*(Вольха кінуўся да Багусі, узняў.)* Птушачка мая белая. Як ён цябе? Дзе ён цябе? Божа мой, божа, руку на кабету! Што з табой? Дзе баліць?

Багуся. Нічога. Цяпер ужо нічога. Ён не прыбіў цябе?

Варту між тым пагналі. Народ збіраецца на паляну.

Пасіёра *(ціха)*. Ну, усё. Усе сродкі ўжылі. Адзін выхад — забіць.

Вольха. За веру забіць чалавека? Быці — як яны?

Іля. Думаеце, толькі вера? Каб гэта, то яшчэ палова бяды. Унь Сцяпан часцей царкву мінае, чым карчму. Не толькі вера. Праўдзівей, не столькі вера. Справа на тое пайшла, ці быць, ці заставацца нам у векі вякоў — і давеку — тым, чым мы ёсць. І пра гэта вы і думайце перш за ўсё.

Пасіёра. І ў знак роты, прысягі, што будзем стаяць, як адзін,— кідайце ўсе шапкі ў купу.

Абдзярыха. Хустку здзерці, з босай галавой пайсці — горай ужо для бабы ганьбы, здаецца, і няма. Але ёсць, ёсць, дзеткі, горшая ганьба. Бабы, кідай хусткі!

Людзі моўчкі кідаюць у купу шапкі і хусткі.

Пасіёра. Званар Янка Гужнішчаў, ты тут?

Званар. Тут.

Пасіёра. Абыдзеш усіх сваіх. Заўтра якое?

Званар. Года ад нараджэння Хрыстова тысяча шэсцьсот дваццаць трэцяга. Месяца лістапада — дванаццатага. Дзень святога Іаана Літасцівага.

Пасіёра. Ну, літасці ім не будзе. А ў католікаў хто?

Званар. Ды яно, здаецца, Тэадора-пакутніка.

Пасіёра. Гэта ўжо лепей. Звані заўтра па-каталіцку.

Званар. Калі?

Пасіёра. А сёмай гадзіне раніцы ўдарыш у ратушны звон.

Званар. Што ж, званіў па ўсіх. Нават па мёртвых. А гэта што? Гэта звон вясёлы. Як на вялікдзень. Заўтра мая вялікая Юлляна пакажа гораду медную глотку. І вялікая Вольга. І вялікі Альгерд. А я іх толькі гэтак па баках: «Ну, мае званочкі, ну, маленькія, пастарайцеся для слаўнага места».

Мамка. Ну добра, ну як шляхтай навакольнай падступяць — хай. Усе на муры выйдзем. А як вялікае войска?

Неша. Да Масквы па дапамогу.

Пасіёра. Думаў. Не паспеюць.

Вольха. Самім ім кепска. Казакаў на дапамогу трэба прасіць.

Галасы. Казакаў! Казакаў!

Ропат. Бурмістры хай едуць. Каб, у выпадку чаго, не пала на горад кара.

Аршанец. А спраўляцца мы будзем. Мы, якіх тут і ў твар не ведаюць.

Пасіёра. Ідзі, званар. Яны чулі маленні Віцебска. Хай пачуюць Віцебскі набат.

*Заслона*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Ноч на 12 лістапада 1623 года. Пакой у палатах Кунцэвіча. Скупа гарыць некалькі свечак. У пакоі Кунцэвіч і Палікар.

Палікар. Ну, пабілі нас. З кім не бывае? Але горад спакойны. Агні, як то належыць, усе пасля каманды варты згасілі. Ніхто нікому нічога ніякага. А ў нас поспех. Усё ж шалаш спалілі.

Кунцэвіч. З сінякамі, але са славай. Наша ўзяла — і рыла ў крыві.

Палікар. Толькі што чуткі ходзяць: пагаворваюць, што нібы нехта збіраецца казакаў прызываць.

Ды без такіх чутак месяца не праходзіць. Лапцявая пошта.

К у н ц э в і ч. І тут рацыя. А ўсё ж падрыхтуй чалавек трох ганцоў. І калі нейкі шумок пойдзе — адпраў па адным да казакаў. Маўляў, не трэба падмогі, усе памірыліся, жыццё ідзе гладзенька, як яйка коцціца. Гэта так, дзеля беражонага ваўка, якога і зайцы не заядуць.

П а л і к а р. Ды нічога страшнага.

К у н ц э в і ч. І я думаю. Прывядзі гэтых дзвюх. Урэшце, старую пусці, а з маладою пастой за дзвярыма.

Палікар выйшаў. Праз некаторы час адчыняюцца дзверы, і ў іх з'яўляецца ён у суправаджэнні Е ў г і Б а б у к і Б а г у с і Д а н е л ь. Прытрымаў Багусю за руку, а Еўгу падштурхнуў наперад. Дзверы ён, аднак, да канца не зачыніў: шафа для папер не дае Кунцэвічу ўбачыць гэта.

Е ў г а. У-у-у-у. Вялі сюды — пугач крычаў над Узгорскім канцом. Над прачыстай, над палатамі гэтымі, над ратушай. Пу-га, пу-га, пу-га, у-у-га-га-гага! Вось, без галоў ходзяць. І ты, ог-го-ой,— без галавы.

К у н ц э в і ч. Славайсу, цётка Еўга. Што гэта ты? Ходзіш, ілжэпрарочыш, людзей без прычыны палохаеш?

Е ў г а. Якая прычына? Б-бачу-у. Без галоў. Жар гарыць. Як тады ў Вільні, падчас пагромаў.

К у н ц э в і ч *(страсянуў яе за плечы)*. Слухай. Адказвай. Ну!

Е ў г а. Вочы страшныя. Унь! Унь безгаловыя.

К у н ц э в і ч. Выкладвай, ведзьма! Праўду ты мне тады, на вуха?.. Праўду?!

Пад паглядам гэтых страшных вачэй Еўгу нібы на хвіліну адпусціла.

Е ў г а *(у прастрацыі)*. Праўду... Праўду... Усе думалі, ты святы. Такі малады, гожы прыказчык у купца. У манастыр Святатроіцкі хадзіў. Усе цябе любілі, ціхі, ветлы. А пасля манастыр — у вунію. І ты — у вунію. Паслушнік. Да гэтых, да шэрых хадзіў. З вачыма змяінымі. І зараз адзін з іх — з табою. А пасля не ты — змей вогненны прыляцеў. Пагромы пачаліся. Храмы віленскія змей паліў, людзей пабіў,

вокны каменнем дашчэнту падрузгатаў. І тады ўсе зразумелі — ЗМЕЙ. Ідзі адсюль, ЗМЕЙ. І адзетая ў сонца, з месяцам пад нагамі, крычала: «ЗМЕЙ! ЗМЕЙ!» І кінуліся ўсе бегчы, нават тыя, што ЗМЕЯ сонцам лічылі. І тая, што крычала, з адзінай зорачкай над галавой.

Кунцэвіч. Што брэшаш, стары куль з лахманамі?! Хіба яны не загінулі ў пагроме? У віленскі мяцеж? Калі грамілі? Адзін аднаго?

Еўга. Не... не...

Кунцэвіч. Хіба не ад рукі праваслаўных мяцежнікаў? А шкілеты чые ў пажарышчы былі?

Еўга. Чыесьці. Не-не. Уцяклі. Ад агіды перад ласкавай пашчай змея.

Палікар за дзвярыма: «Пане мой, ну і ну».

Кунцэвіч. За што ж тады? За што ж я тады іх? Слухай, слухай, ведзьма! Праўду шаптала? *Той?*

Еўга. Праўду. Праўду. Ходзяць. Без галоў. Ідуць. Шмат. Труну нясуць дубовую.

Кунцэвіч. Т-та-ак. Палікар!

Палікар *(увайшоў).* Тут я.

Кунцэвіч. Адвядзі яе ў піўніцу, накармі, да раніцы не пускай. Небяспечны горад ноччу, сам ведаеш... Пасля прывядзі другую.

Палікар пайшоў.

Праўда. Значыць, усё праўда. Бог мой, якая палёгка і які боль! І я не падобны на тую смакоўніцу, якую ссякаюць і кідаюць у агонь... Але тады за што, за што ж я іх?! Калі грэх — не грэх, а злачынства — не злачынства?! За што?! Не, не, я ўсё ж добра абярнуўся. Граху на мне няма — гэта раней было. І ўлада ёсць. І моцная рука. Гэ-эх ты-ы! Д-дуудка мая-а, ух-х я! *(Ён прайшоўся, нават паспрабаваў быў выкінуць некалькі каленцаў.)* Не! Не! Усё добра! Золатам засыплю! Цяпер ёсць рукі, у якія можна яго сыпануць. Раку. Вадаспад залаты! Ох і наварочім мы! З золатам і розумам, з сілай і маладосцю. Магутны, багаты князь! Нават каменьчыкі з дарогі прыбраныя! Мацнейшы за ўсіх. А чаму сапраўды не князь? *(Задумаўся.)* Так, некалькі грэбляў на шляху ў вады. Віцебск, магістрат, людзі, жанчыны. Нічога, усё гэта

хітрасцю адолеем, усе грэблі — залатым кайлом праб'ём. Няма перашкод!!!

Палікар падштурхнуў у пакой Багусю.

Багуся. Што гэта такое, айцец? Нашто вы сарамаціце маё імя? Сярод ночы! Маці-ўдаву, што ад гора счарнела, са мной не пускаеце.

Кунцэвіч. Таму і не пускаем, што сярод ночы. Рагаткі, варта ад зладзеяў.

Багуся. Невядома яшчэ, хто страшней, злодзеі ці ваша варта... Мамку тады чаму пусцілі? Яна там, у парадных сенцах, усіх крыкам аглушыла, лаецца.

Кунцэвіч. «Бабы багабрыдкія», як казалі айцы хрысціянства. Мамку патрымаюць, а пасля вас праводзяць дамоў. З ліхтарамі.

Багуся. Каб пасля ўся вуліца, усе пляткаркі горада языкамі на мне боб малацілі? Калі дамоў?

Кунцэвіч. А гэта — як у нас размова пойдзе. Можа, і зараз. А калі не адразу ўгавару — раніцай.

Багуся. На што гэта вы мяне... умаўляць будзеце?

Кунцэвіч. Як дома? Цяжка без бацькі? Я чуў — збяднелі.

Багуся. Анягож. Увесь караван лайбаў з грузам на Дзвіне ўзялі і расшарпалі, так што канцоў не знойдзеш. А там палова чужых тавараў была. Каб сораму не было — апошняе аддалі. Праўда, многія не бралі: Воўк, Неша, Неўсця Ярамяшэвіч... Марцыян Ропат.

Кунцэвіч *(убок)*. Ага... *(Да Багусі.)* Невядомыя парабавалі?

Багуся. Ды не... Кажуць, пераапранутыя людзі Мікалая Завішы. Войт Віцебска... Ваш... І з ім нібы людзі Палікара... Тэж ваш.

Кунцэвіч. Разбяруся.

Багуся. Позна разбірацца. Ды вы не турбуйцеся. Мы не бядуем. Неяк пражывём. Горш, што ад гэтага Палікара — пасля такога! — праходу няма.

Кунцэвіч. Ну, цяпер гэты яблык Палікару не па зубах... Ведаў я твайго бацьку. Добры быў чалавек, добры бурмістр. І вось у памяць аб ім вырашыў я табе памагчы.

Багуся. Чым гэта?

Кунцэвіч. У мяне тут ёсць майно. І яно ўпусце

прападае. Ды ты маўчы, маўчы. Слухай. У пасадзе Узгорскім, ад Завіцьбенскага моста, два дамы пустыя. Унізе, уздоўж Віцьбы, сем гародаў без будоў. У вуліцы Багародзіцкай — два дамы ды гарод. У вуліцы Падзвінскай — свірны і клеці — купцам іншагароднім тавары ссыпаць. У пасадзе Пясянскім, ля Пескавацікa,— млын, дом млынара-арандатара ды гарод. Ды ў Рускім пасадзе, за Дзвіной, млын, шапавальня, лес, а ў ім тры буды. Ну, і ў Задунаўскім пасадзе восем дамоў і дванаццаць пустых пляцаў. І, між іншым, значная частка гэтых дамоў і пляцаў мяжуе з землямі пана Васіля Боніча, галоўнага віцебскага бурмістра, жонкі яго і іхняга сына адзінароднага Радзіміра.

Багуся. І гэта ўсё мне? За якія такія паслугі? І якая мне радасць ад суседзяў-Бонічаў?

Кунцэвіч. Табе. У памяць бацькі. Замуж выходзь ды жыві ў багацці і шчасці. Калі нават Палікар і нашкодзіў, у што я не веру, то ў выкупленне яго граху ці за тое, што кепска на яго падумала.

Багуся. Замуж я пайду, Але не так. Абразілі вы мяне, айцец. Імя стаптаць задумалі.

Кунцэвіч. Ды што ты, дурное дзяўчо.

Багуся. Уначы прыведзена. Пасля замуж выходжу з багатым пасагам. І пасаг той — былое ваша майно. І смех і грэх. Як жа так?

Кунцэвіч. Сумленне маё чыстае. І тваё будзе чыстае перад богам і мужам. А зласлоўе — хто зласлоўя ў жыцці не адчуў?

Багуся *(прысаромлена)*. Прабачце, айцец. Але пры чым тут Бонічы?

Кунцэвіч. А пры тым, што землі вашы аб'ядноюцца. І будзеце вы самай... другой па багацці сям'ёй гарадской на Віцебшчыне. Тым болей што даю яшчэ тры вадзяныя млыны на Віцьбе, пільню і тры тысячы злотых. А Радзімір Боніч — арол.

Багуся *(сумна)*. Дзякуй. Але гэта называюць: без мяне мяне жанілі, я на млын авёс павёз. У мяне ж не спыталі? За добрае сэрца дзякуй, нават не чакала, але...

Кунцэвіч. Дык за каго ж ты пойдзеш, дурнічка? За Вольху, за... Ропата? Не кажу, гожыя хлопцы. Але ж галадранцы. Што ж, голая за голага? Дзеці ж пойдуць.

Б а г у с я. Пракормім. Рукі ёсць. Але ісці без сэрца? Чаму вы гэтага так хочаце?

К у н ц э в і ч. Таму што *я* так хачу. Таму што *мне* патрэбны ў сябры два самыя сільныя роды места Віцебскага. Таму што хачу шчасця для чатырох людзей.

Б а г у с я *(ціха, без рэзкасці).* Хочаце вы, а замуж за нялюбага ісці мне?

К у н ц э в і ч. Першы крок — і адразу ж перашкода. На пачатку шляху конь упаў. Дрэнная прыкмета. І аб што спатыкнуўся? Аб гэтую выжлачку. *(Голасна.)* Слухай, я з табою па-добраму. Дык слухай і ты мяне!

Б а г у с я. Не вашая гэта, прабачце, ойча, справа, за каго я пайду. Тут віцебскія, дый не толькі віцебскія, а і ўсе нашы дзеўкі — самі сабе гаспадыні. Тут вам не іншыя мясціны, дзе па церамах сядзяць і прадыхнуць не смеюць, дзе жанчыны — «сасуд скудзельны». Вось так. Захачу за Ропата, захачу — за Вольху. А і захачу, то хоць за гіцля і шкурадзёра Яшку або за Хведзьку-дурачка.

К у н ц э в і ч. Не смей на маім шляху стаяць. Не будзь перапонай. Знішчу!

Б а г у с я. А я была, дурная, першы раз падумала, што Віцебск памыліўся.

К у н ц э в і ч. Узяць. Каб падумала. А наконт смерці ў ерасі твайго бацькі, брата і іншых, то... нахабствам і дзёрзкасцю сваёй вы мяне прымусілі і змусілі на гэта. Тое, што ў Вільні, тое будзе цяпер і ў Віцебску. І не толькі ў ім. Клянуся.

Паўза.

Палікар, загадай, калі яна не адумаецца, на Заручаўскіх і на Завіцьбенскіх могілках усіх схізматаў трупы выкапаць.

П а л і к а р. І што?

К у н ц э в і ч. І кіньце гэтае падла на сметнік псам! Псы яны ёсць, песяй смерцю здохлі, хай не паганяць святой зямлі. Што ж ты не падаеш? Непахаваным ім ляжаць.

Б а г у с я. Іх пахаваюць. Мо цішком, а мо і пры святле дня, пры ўсіх. А вось хто пахавае вас?

К у н ц э в і ч. Палікар! Па варту! Усіх магільшчыкаў збіць у купы. З паходнямі. Зараз жа, ноччу.

П а л і к а р выйшаў. Багуся і Кунцэвіч глядзяць у вочы адно аднаму. За вокнамі тупат, галасы. Успыхнула адна паходня, другая, шмат. Злавеснае чырвонае святло. П а л і к а р вярнуўся.

Б а г у с я. Прадалі нас паны, прадалі сільныя. Адны мы засталіся, просты народ. Сяляне, мяшчане, бедныя папы, бедныя гандляры. Прыбітыя, святлом пісьма мала адзначаныя. Але мы — народ. Гэтым усё сказана. Мы — народ.

Яе вывалаклі за дзверы. Кунцэвіч стаіць, учапіўшыся рукамі ў валасы. За акном, дзе агні, зноў тупат і песня.

Гэй, казачэйку, пане ж мой. Я ўпадабала жывот твой.
Люба ж табе гараваці, дай мне з табой паехаці,
Душа мая, я ўжо твая. Ручку дай, а ўсядай.
Я твая. Ты мая, Куліна.

К у н ц э в і ч. Іхняя песня. Будзьце вы клятыя, горды народ жалезам калёным... Палікар!

П а л і к а р. Я.

К у н ц э в і ч. Не забудзьце, што гаварылі пра казакаў. Ідзі жалезам. Жалезам. А што, калі не толькі яна кахае? Што я тады рыхтую сабе? Ды не, не. Даб'юся. Пераканаю... Ніхто не адбіваецца, калі яму голымі рукамі сонца з неба здымаюць... Што ж, тады не сын Боніча. Тады дачка войта Завішы. І хай з горада мяса ляціць. За гардзёлку. Хто супраць нас?

Чуваць песня.

Гэй, казачэйку, пане ж мой. Вельмі ж то благі ёсць скарб твой.
Казак шчасліў, хоць нябогат. Ніц нікому невіноват.
Ён гаруе. Ён чатуе[1]. Дзе паеду — здабуду.
У баяраў. Татараў. Куліна.

Заварушылася нешта ў цёмным кутку. З'явіўся твар К а с і н с к а г а.

Е з у і т. Вось хто супраць нас.

К у н ц э в і ч. Ты, айцец? І, як заўжды, патаемнымі дзверцамі.

Е з у і т. Звычка...

К у н ц э в і ч. Даўно тут? Шмат чуў?

Е з у і т. Чуў няшмат. Тое, што патрэбна. Т-та-ак. Ці не збіраешся, пад уплывам апошніх няпэўных чутак, кінуць нас ды сам сабе старацца?

К у н ц э в і ч. Гэта толькі мая справа.

Е з у і т. Ну не! Гэта ўжо не толькі твая справа.

---

[1] Чатаваць — вартаваць, старажыць *(старaж.)*.

Далёка зайшло. Памятаеш, як Масальскі ў цябе страляў? Каб не паклаў яго Палікар — ляжаць бы табе на сырой зямлі. Або як цябе тапіць хацелі? Ці як у Магілёве сказалі, каб убіраўся ад муроў, калі не хочаш атрымаць у азадак дзесяціфунтовае ядро. Ты, відаць, тады асаблівай патрэбы ў такім набытку не адчуваў, бо жыва ўбраўся. Позна, Іасафат.

Кунцэвіч. До. Дагэтуль я слухаў часам вашы парады, хаця й рабіў па-свойму. Цяпер я слухаю толькі сябе.

Езуіт. Што ж, тады мне давядзецца зрабіць табе прыемны падарунак. Магчыма, ты, атрымаўшы яго, перадумаеш.

Кунцэвіч. Што?

Езуіт. На гэты раз не проста збіцце тваіх людзей і не проста тое, што нават ты сам з-за Дзвіны можаш чуць з адбудаваных за палову дня шалашоў песні, і крыкі, і наругі, і кпіны з цябе.

Кунцэвіч (*уздыхнуўшы*). Яны самі не ведаюць, што робяць.

Езуіт. Зана-адта добра ведаюць. Але горш тое, што на дапамогу прыйшлі з іншых гарадоў, што на чале стаяць людзі, якіх паважае ўсё Віцебскае, усё Полацкае ваяводствы... Гэта Сцяпан Пасіёра, і Навум Воўк, і Марцыян Ропат, і Сымон Неша, і Антоні Вольха, і Хведар Цар, і Сымон Старынскі, і дзесяткі іншых... Ну? Што?

Кунцэвіч. О божа... Агонь, пагром, уцёкі пад дажджом. Такія маленькія цёплыя рукі. Такія пальчыкі. Разня... Ён?.. Яны на мяне? На мяне? Чым жа я так задзер сваю зямлю, што нават аднаго племя людзі, нават свая кроў?!

Езуіт. Выпі вады. Ладна ж па табе ўдарыў нейкі слышок.

Але Кунцэвіч ужо супакоіўся.

Кунцэвіч. Можа, і сапраўды я ўсё жыццё хлусіў? Можа, час выпраўляць?

Езуіт. Няма чым ужо выпраўляць.

Кунцэвіч. Можа, і сапраўды досыць... Гэтых людзей, гэтых... вартых... найлепшага ў свеце... мяцежнікамі. Маладых, гожых, замест багацця і славы — на плаху... Не, не, не, толькі не гэта! Не! Гэй,

людзі! Гэй, Палікар! Вярнуць служак, вярнуць магільшчыкаў! Выпусціць усіх са склепаў, з жалезаў! Хай жэняцца — з кім хочуць, вераць — як хочуць. Я ўсё адно ўсё ім аддам. Досыць! Досыць!

Езуіт. Я адаслаў адсюль усіх.

Кунцэвіч. Чаму?

Езуіт. А няўжо ты думаеш, што мы ўвесь час рыхтавалі цябе да нечага іншага, чым пакутніцтва, пакутніцкая смерць? Тады ты дурнейшы, чым я думаў. Ага, ты быў разумны і сам хацеў гэтага. Ты падурнеў толькі цяпер, бо цябе апанавалі раптам любоў да жыцця, нечаканая радасць і гардыня. Няма чым ганарыцца. Увесь твой шлях — гэта не ты, вялікі дзеяч веры, вялікая асоба гісторыі. Думаеш, гэта ты задзіраў гэты народ? Гэта мы — тваімі рукамі і тваім языком, тваімі ўчынкамі, тваімі думкамі, добрымі і благімі. Рабілі мы. Але адказваць будзеш ты.

Кунцэвіч. Так... Цяпер я разумею... Цяпер я відушчы і ўсё бачу да дна. Але што, што цяпер рабіць?

Езуіт. Нічога. Толькі адно. Калі хочаш яшчэ паслужыць богу — падымай сілу, кінь галавешку ў гэтае асінае гняздо, выпалі іх, раздушы.

Кунцэвіч. Але ж людзі, юнакі, хлопчык... І іх усіх?

Езуіт. Калі не паспееш — і іх.

Кунцэвіч. Але што-о?!

Езуіт. Тады толькі адно. Памерці пакутнікам. Мужна. Як хацеў. Так, каб ва унітаў з'явіўся хаця адзін годны святы.

Кунцэвіч. Дык вы... вы... Гэта назнарок. Супраць народа, мовы, крыві сваёй. О, сволачы, сволачы! О, якія сволачы!

Езуіт *(выходзячы)*. Дарэмна, біскуп. Позна. Іншага шляху няма.

Кунцэвіч. Іншага шляху няма. Празрэўшы, здохнуць, як пёс. О, псы, псы! За што? Няўжо і сапраўды ўся справа мая няправедная? Божа! Ускую пакіну мя?! За што караюся?!

*Заслона*

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Двор перад палатамі Кунцэвіча, агароджаны частаколам. Злева, пад мурам, спуск у склеп і дзверы ў кухню. Проста насупраць — сходы, што вядуць на гульбішча. За аркамі ягонымі — акенцы. Але гульбішча не даходзіць да левага краю сцэны. Там — глухая сцяна з двума маленькімі, несіметрычнымі акенцамі — байніцамі. Справа, за мурам, што замыкае двор, амаль той самы від, што і ў першай карціне, толькі крыху з іншага боку, і далёкі сілуэт ратушы, і прачысценская царква. У вокнах яе агеньчыкі, і адтуль далятаюць спевы: ідзе ютрань.

Двор асвятляе ліхтар, які гайдаецца на ветры. Золкі і мокры лістападаўскі перадсвітанак. Яшчэ не пачынала днець.

З дзвярэй склепа тысячнік Палікар выводзіць Багусю.

Палікар. Ну што, Багуся, што зробіш? Загад — гэта загад. Сказаў — слухайся і не брыкайся. І ты таксама добрая. Бачыш, што за чалавек — ну і прамаўчала б. А то давялося піўніцы пакаштаваць. Што, бедная, мокра, халодна? Ведаеш што? Хадзем зараз да яго, кінемся пасля ютрані ў ногі. Ён гнеўны, але добры, даруе. Ды зробіць, што трэба, ды мы да мяне, у цёплы дом. Усё ў мяне ёсць, багаты я.

Багуся. Ясна, што багаты. Лайбы, разам з войтам, на Дзвіне разбіваючы, як не быць багатым?

Палікар. Наклёп! Дальбог, наклёп!

Багуся. Не ведаю. Раней і я думала, што нехта вільнуў языком, як сабака хвастом, але, убачыўшы ўчарашняе, думаю: праўда. Трупажэры.

Палікар. Багуся, ды нічога не здарылася. Гэта ён згарача пальнуў. Праз хвіліну ніхто і не памятаў, а ён першы. Ніхто нікуды не пайшоў. Не гарачыся, бяленькая мая. Вельмі, вельмі кепска табе будзе, калі я не заступлюся.

Багуся. Адкасніся. Лепей бы я са змеем ляжала, з калодай трухлявай у балоце, з брылай лёду, з пракажоным, чым з табою, кат.

Варта выводзіць з піўніцы Еўгу.

Еўга. Ага, пугач тут. Гу-гу! На святых руку ўздымаеш.

Палікар. Змоўч, варона!

За брамаю шум і нейкія выгукі. Пасля варта, на чале з Дарафеем, прывалакла ў двор папа Ілю. Той супраціўляецца, і нават з поспехам.

Дарафей. Вось. Учора шалаш спалілі. Учора ж

і аднавілі. Ну, думаю, раз аднаўлялі, то неадменна гэты іляэпоп паедзе туды ютрань правіць. Засаду зрабіў. А цёмна, як у камінара пад пахай. Аж вёслы. Крадзецца, птушачка, правіцца за Дзвіну цешыць сатану. Ну вось, схапілі, кухталёў надавалі, дый... Куды цяпер? У кухаварню?

Палікар. Туды, ды павучы́це яго там, як трэба шанаваць Хрыста.

Іля раптам крутануўся, і варта пасыпалася ад яго. Поп б'ецца так, што можна глядзець і глядзець.

Іля. Ангелы. Сыны Сатанііла. Вось я вам!

Галасы. Бі! Хапай!

Іля. На́ табе! Я ў веры яшчэ недасканалы. Цярпець не навучыўся! На́! Вось табе лешч. Атрымай на абаранкі.

Еўга *(кідаючыся бараніць Ілю)*. Совы! Совы! Святога абселі. Ізахват-сыназабойца кроў з добрых п'е. Пусціце! Пусціце яго!

Дарафей штурхае яе. Яна падае і стукаецца галавою. Поп Іля «навесіў» архідыякану так, што той адляцеў і закруціўся.

Іля. Ах ты, зверагласіе! Ах ты, тупамысліе! Ты блажэнную, звер?! На!

Ілю ўсё ж схапілі, падставіўшы ножку. Скруцілі па руках і нагах, павалаклі да кухаварні. Дарафей, хістаючыся, ідзе следам.

Дарафей. Ну, чакай.

Іля. Не ўбаюся цябе. Яка вотрак з пешчы вогненнай выйду цэлы, ты, байструк тхара і свінні!

Палікар. Пакажыце яму там. А і я падмагу.

Зніклі. Багуся кідаецца да Еўгі, падымае яе.

Багуся. Баба Еўга! Баба Еўга! Забілі? Баба Еўга?!

Еўга раптам застагнала, пасля села, аберуч абхапіўшы галаву, і раптам сказала не дзікім, а цалкам асэнсаваным, свядомым, нават прыемным голасам.

Еўга. О божа! Што гэта! Нібы туман нейкі рассеяўся. Нібы пара нейкая чорная з галавы выйшла. А-а, гэта ты, донька. Я люблю цябе. Ты, малая, ніколі мяне не дражніла, заўсёды хлеба давала. Было тады табе восем, калі на мяне туман найшоў. А цяпер?

Багуся. Васемнаццаць. Пачакай, баба Еўга. Вось. (*Яна кідаецца да вядра пад рынай, мочыць хусцінку і абціpae параненай галаву.*) Вось-вось, зараз будзе лягчэй.

Еўга. О-ох. Думаеш, я сама сябе не стыдаюся? І ў мяне ж святлей у галаве бывае. На дзень-другі. Раз упала і ўдарылася. Другі раз дзеці гулялі ў снежкі. Ну, нейкі доўбень закатаў у мокры снег камень ды кінуў і выпадкова трапіў мне па галаве. Два дні непрытомная, пасля тры дні ў розуме, а пасля — зноў.

Багуся. А чаго гэта вы, баба Еўга, Ізахвата сыназабойцам назвалі ды пра галовы крычалі нешта?

Еўга. Пра галовы не ведаю. А Ізахват... Ізахват сапраўды забойца сыноў сваіх.

Багуся. А жанчына, што мела ў чэраве і крычала ад мук нараджэння? Жанчына з адзінаю зоркай над галавой?

Еўга. Была і жанчына. Я тады была таксама павітухай. У Вільні. Жыла ў Крывым тупічку, тут жа ля святадухайскай драўлянай царквы, толькі што пабудаванай. Туды мы і сталі хадзіць, а раней хадзілі ў святатроіцкі манастыр, які ў той час моцна пачалі цясніць. Там мы і ўбачылі ўпершыню Івана Гаўрылавіча.

Багуся. Якога?.. І хто гэта «мы»?..

Еўга. Кунцэвіча Ізахвата... А мы? Са мною побач жыла з маткаю-ўдавою Кася Ляснік. У семнаццаць год прыгажэй за яе не было дзеўкі. Ну, і ён, трэба сказаць, быў зух. Не бачыла прыгажэй за яго чалавека. Быў прыказчыкам у купца. Малады, гожы, як Іосіф, спявак. На крыласе ён спяваў. Як заспявае — душа ў небе. А год яму тады было — ну, можа, васемнаццаць-дваццаць. Што табе казаць далей? Усё зразумела. Яна, Кася, не верыла нам, што ён «Змій, у ястве чалавечым, бардза моцны».

Багуся. Еўга! Зноў загаворваешся? Пацярпі!

У браме з'яўляюцца Зуліся з Вальгінай. Па выглядзе абедзве п'яныя, але часам падаюць кудысь нейкія знакі рукамі.

Вальгіна.

А пад мостам рыба з хвостам,
На вадзе лілея;

Маладая дзяўчынанька
З хлопцамі не ўмее.

Зуліся.

Куды ж мяне ведзяце,
Таку маладую?
Ды ў папову сенажаць,
Траву зеляную.

Вальгіна.

Хоць вы мяне ведзяце,
То я не баюся;
Я гарэлкі не піла,
То не павалюся.

Багуся. І гэтую спаіла. Гора такое вакол, а яны вочы залілі, сучкі.

Еўга. Колькі ёй гаварылі: чалавек ператвараецца ў змея. Не верыла. Хто з сапраўдных каталікаў руку ўзняў на праваслаўнага? Хто з праваслаўных? Ніхто... Народжаны ў гэтым — трымайся гэтага. І будзь чалавекам. І ў Чалавека, і ў лёсу, і ў бога імя — адно. Іншыя імёны ізахваты прыдумалі. І яны ж учынілі пагром. І тады ж заплакала ў нашай хіжы дзіця. Ніхто не ведаў, што Іван тады, разам з манастыром, гатовы ў здраднікі кінуцца, што да езуітаў ходзіць. Ніхто не верыў.

Багуся. Што, зусім ніхто?

Еўга. Ніхто. Асабліва *яна.* Грамілі цэрквы — і мы касцёлы грамілі. Спачатку цярпелі, а пасля грамілі. Івана бачылі там — яна не верыла. Пасля толькі паверыла і за сябе, і за малога... Галовы...

Багуся. Ды стрымайся! Кажы, кажы!

Еўга. Пагром... А пасля ўстаў на ногі — *Адпор.* Абрыдла ўдаваць першых хрысціян... Адзін аднаго былі не лепшыя. Звяры!.. Горад у некаторых вулках палаў. І тады яны — твар, як палатно: «Бяжым, Еўга, бяжым ад змея». І пабеглі. Як перапёлкі ў жыце. Ад горада, радзімы, хаты. *Той* прыйшоў — попел. І косткі. А гэта суседкі. Схаваліся. І ён падумаў — гэта праваслаўныя, ведаючы, *чыя* кроў, нас спалілі. І з таго й пачалося.

Багуся. «І ні адзін не пусціўся ўспяць»?

Еўга. Так. І мяне выслалі следам. І беглі мы. І тут яна пачала паміраць. Ад любові і ад жаху да ЗМЕЯ. І тут знайшоўся чалавек, які вырашыў узяць на сябе яе, змеева, дзіця. Стаў на калені дый

кажа: «Павінна быці дзіця, хаця і ў змея. То я на сябе гэты грэх вазьму». І Кася памерла. А дзіця тут. І я над ім часам апекавалася, пакуль не ўбачыла зноў, тут, Палікара і бог, з літасці сваёй, розуму ў мяне не адабраў. *Бо гэта яны ўжо тут...* А бацька названы, святы чалавек, памёр. А змей з нянавісці пайшоў у манахі, а там — у іераманахі вуніі. А там... І вось наздагнаў нас тут. Мёртвую матку, вар'ятку павітуху і жывое дзіця.

Багуся. Імя... Імя айчыма... В-вольха?

Еўга. Адкуль? Імя айчыма — Ропат.

Вальгіна. Бабы! Чуеце! Клічце іх.

Багуся. І чаго дзяруцца, п'янічкі?!

Зуліся.

У Ізахвата — ку-ку,
Зарэзалі суку,
Павесілі на браме,
Расцягалі зубамі.

З'яўляецца ў браме Іасафат Кунцэвіч. Зараз гэта руіна, хай сабе і магутная, былога волата.

Кунцэвіч. Усё распавяла?

Еўга. Усё.

Кунцэвіч. Ачомалася, значыць... Што ж, раней можна было цябе літаваць. Хто зразумеў бы, не ведаючы? Цяпер — канец адзін. Хай памру. Хлопчык усё ж будзе вялікім панам над гэтым быдлам. Гэй, варта...

Але яшчэ раней за варту і Палікара з Дарафеем вырвалася з дзвярэй кухаварні мамка.

Мамка. Ав-вой, мае галубочкі! Ав-вой, што робіцца, скрыдлатачкі мае! Гаспіды гэтыя папа Ілю, каб ім давеку скрогат зубоўны! Крывішча па ўсёй кухаварні хвастала. На сцены, каб ім яго ніколі не абараніць, на печку, каб яго там сто год пяклі ды не дапяклі, на катлы, каб яго там д'яблы на лой варылі — сатане боты мазаць.

Палікар. Брацъ ведзьму!

У гэты момант першы, магутны ўдар скалыхнуў паветра. Другі, трэці. Яшчэ і яшчэ. Запалалі агні, узвілося за прачысценскай царквой магутнае полымя. Раве, здаецца, увесь свет.

Кунцэвіч. Што гэта такое?

Багуся. Гэта набат. Віцебскі набат.

Еўга. Гаворадь Віцебскія званы.

За частаколам паасобныя крыкі: «Папа Ілю ўзялі», «Трупы людзей з магілаў павыкідалі», «На сметнік», «Сабакі па сметніках людзей за валасы цягаюць», «Біць», «Забіць!», «Смерць Ізахвату!» Крыкі зліваюцца ў агульны, дзікі рык ярасці.

Багуся. Вось. Вось і яно прыйшло, ты...

Па двары кідаюцца служкі, мітусяцца Палікар з Дарафеем, мільгае зрэдку цень езуіта.

Езуіт *(з мура).* Божа мой! Людзі непабожныя! Свавольства паспалітае з пасадаў! Шляхта са шляхецкіх гаспод!

Мамка. Дзіва што! Тых шляхецкіх слобад большая палова места. Круціся, круціся на сваёй патэльні, уюн. Сам агонь расклаў.

Езуіт. Унь з вышняга. І з ніжняга замкаў. Колькі іх! Тысячы! Да ратушы рвуцца.

Магутны, на ўвесь свет, удар.

Кунцэвіч. Усё. Ударылі ў ратушны звон. Цяпер канец усім думкам. Хлопчык... Хлопчык... Чаму не загаварыў са мной?!

У двор удзіраецца чалавечы натоўп, дарослыя, старыя, жанчыны, узброеныя чым папала. Выбілі дзверы кухаварні, схапіліся з вартаю, выцягнулі скрываўленага Ілю.

Вольха. Ну што? Пагаварыў з імі?

Іля. А чаго? З імі размаўляць мо-ожна. Але толькі на той мове, якую яны разумеюць. *(І «ўрэзаў» Дарафею ў зубы.)*

Крыкі.— Забойцы!

— Саломы, саломы сюды!

— Спаліць гэтае кубло!

Чыніцца дзікае збіццё гвардыі. З абодвух бакоў падаюць мёртвыя і параненыя. Мільгаюць гізаўры, дзіды, доўбні.

Езуіт *(Кунцэвічу, які моўчкі, як статуя, стаіць на сходах).* Рабіць? Рабіць што?

Кунцэвіч. Разважаннямі пра бога займаўся, за мной сачыў... Цьху... Вынось адсюль ногі, гніда.

З акенца-байніц — стрэлы. Пасля адтуль вылятаюць шыбы: відаць, і там кіпіць бойка. Езуіт, па-за спінамі, выслізнуў з двара. Але астатнім не ўдалося. Натоўп прарваў ланцуг гвардыі. Наперадзе арудуе гізаўрай Ропат, побач з ім круціць шабляй Вольха.

Вольха. Багуся! Іду да цябе.

Зуліся. Ах, Сцяпан! Ах, б'ецца! Хоць то рэчка, хоць то бэз, хоць то хлопец, хоць то пес.

Дарафей узнімае ручніцу. І тут Зуліся кінулася, закрыла сабою Пасіёру. Стрэл. Дзяўчына хіснулася.

Сцяпан! Сцяпан! *(Крык такі жахлівы, што ўсё адразу робіцца зразумелым.)* Ну вось. У руку. Як жа цяпер прасці табе?

Пасіёра. Ты што?

Зуліся. Эх ты, «язва», «язва»... А няхай ён целяпей, такі ўсё ж за ім ляпей.

Пасіёра. Антоні! Сцеражыся! *(Кідаецца з узнятай шабляй бараніць Вольху ад Палікара і падае паранены ў плячо.)*

Скрыжавалі зброю Вольха і Палікар. Сеча. Палікар падае.

Зуліся. Сцяпане! Сцяпане!

Пасіёра. Што з табой? Дзе?

Зуліся. Нічога. Хват ты, Сцяпане! А ў горадзе крокус рос — салодка карэнне. Пацалуй жа ты мяне — дастанеш збавення.

Вальгіна. Ды ты што? Сляпы, пень?

Зуліся спаўзае па Сцяпану і цалуе яго калені.

Зуліся. Ачомайся, Сцяпане... Ну вось, ну вось. Цяпер — добра.

Вольха. Пасіёра, што з табой?

Пасіёра. Нічога, на бліжэйшыя дні, відаць, адваяваўся. Гэй, людзі, кіньце гэтае напаўжывое падла ў яр!

Палікара пацягнулі на мур, разгайдалі і кінулі. І тут нехта заўважыў Іасафата. Агульны рык: «Вось ён, папежнік! Вось душахват!»

Іасафат спакойна, безжыццёва адступае перад дзідамі ўгору па сходах. Спіною. Наперад вырваўся Ропат з гізаўрай.

Ропат. Рыхтуйся адказваць за ўсё.

Кунцэвіч. Значыць, і ты. Яны цябе не забілі тады. Яны з цябе зрабілі зброю забойства. З мяне таксама. Але ты, ты — сыне мой.

Вольха адцягвае Ропата, той вырваўся. Багуся выкручвае ў яго з рук гізаўру.

Багуся. Не, не! Толькі не ты, Ропат, толькі не ты!!!

Р о п а т. Чаму не я? Ёсць яна і ты, а што я?

Б а г у с я. Не! Не-е! *(Выдзерла гізаўру і, дзіка агледзеўшыся, падала яе Вольху.)* Ідзі!

Вольха наступае па сходах на біскупа, што стаіць ужо на гульбішчы.

К у н ц э в і ч. Дзякуй табе, божа. За ўсю маю брыду ты адплаціў мне адзінай ласкай.

В о л ь х а. Я не хацеў.

Б а г у с я. Бі, пакуль не ачомаўся, *т о й.*

К у н ц э в і ч. Гэта нічога. Даруй мне, люд. Нічога, Вольха. Ад тваёй рукі мне лёгка. Бі. У рукі твае, пане, аддаю дух мой. *(Стаў на калені, схаваўшыся за балюстрадай.)*

Вольха з сілаю апусціў гізаўру. Глухі ўдар... І паўза. Вольха спускаецца ў цішыні са сходаў, адкідае гізаўру, моўчкі ідзе прэч.

М а т ы с. Гэ... ды ён яшчэ... жыццё падае. Не мучайся, божая душа. *(Страляе ў біскупа са стрэльбы.)*

Некалькі чалавек, амаль у поўнай цішыні, сцягваюць біскупава цела за ногі па сходах. Выцягваюць з двара. Крычаць над маўчаннем званы. І толькі калі труп выцягнулі за браму, тыя, што не бачылі ўсяго, выбухнулі.

Г а л а с ы.— Руку яму адсячыце, што хлусліва знаменіе ўздымала.

— Бачыш? Прывязалі, цягнуць.

— Сабаку ягонага забілі, кінулі на труп.

— Сабака на сабаку едзе!

— Цягнуць на адхон!

— Разгайдалі яго, сволач, кінулі з урвішча!

— Плыві, душахват!

— Не, рыбакі вылавілі.

— Камянёў яму за вопратку.

— Хло-опцы, вязіце яго тапіць пад Пескавацік! Там найглыбей!

В о л ь х а. Хадзем, Багуся. Хадзем адсюль. Нібы расціснуты я. Ніколі не думаў, што так... нясцерпна.

Б а г у с я. Ясна, што нам нясцерпна. Гэта ім усё сцерпна, а нам...

Р о п а т. Ну вось. Хадзем. Цяпер толькі біцца — і ў бойцы загінуць. І забыць.

Пасіёра і Зуліся ўздымаюцца на ногі.

П а с і ё р а. А мне... Мне што рабіць? Божа-божа, як не пашанцавала.

Вольха. Ты зараз не воін. Сваё зрабіў. А астатняе пакінь нам. І вось што... вазьмі яе з сабою.

Пасіёра. Гэтую язву?

Зуліся. Сцяпанка! Сцяпанка! Набі мяне.

Пасіёра. За што?

Зуліся (*вядзе яго*). За ўсё. Але чаму, чаму ты так доўга не бачыў?

Ропат. Ну вось. Ім жыцці. А мы?..

*Заслона*

# ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

У змроку, які вельмі-вельмі павольна святлее, хаўтурныя ўдары званоў. І пад гэтыя рэдкія стогны Голас чытае хроніку.

Голас. Так, сказала сваё слова Справядлівасць. І хай пасля, насупер ляманту ісціны і чалавецтва, Кунцэвіч быў названы блажэнным (beatus), а потым і святым (sanctus), народ і гісторыя пакаралі ўсіх ісцінай. І пасля гэтага ўжо нічога не маглі змяніць ні іконы, ні дым міры, ні славаслоўі велічы і мудрасці, ні люты, ваўчыны, бязлітасны, крыважэрны, няшчадны, дзікі пякельны разгром Віцебска, ні злавесны і крывавы лёс сыноў горада. Чалавек быў забіты. Таму, што ён не думаў, ці можна плаціць за парадак бессаромным уціскам і расправай з іншаверцамі. А калі падумаў — было позна. І ён заплаціў за гэта цаной свайго «я», сваім жыццём.

Толькі праз некалькі дзён забітага выцягнулі з Дзвіны, ля Пескаваціка, і накіравалі ў Полацк. Толькі некалькі дзён здолеў пратрымацца горад.

А пасля прыйшлі палкі каралеўскай пяхоты і кавалерыі. На дзевяты дзень усё было скончана.

15 студзеня суддзі прыехалі ў Віцебск. 17 пачаўся суд, 21 — вынесены «хуткі і літасцівы» прысуд. Сто чалавек было асуджана на кару смерцю, але яны, пераважна, паспелі скрыцца.

Тры дні. Суддзі, людзі, самой эпохай прывучаныя да гнюснасцей, спяшаліся, баяліся казакаў, якія, падманутыя хлуслівымі ганцамі, так і не прыйшлі на дапамогу гораду. Дзе там было разбірацца? Выслухалі толькі абвінавачанне супраць цэлага горада. І справа звялася да пакарання горада. Каб забіць самы дух ягоны. І кара пала на ўвесь горад. На шматпакутныя Віцебскія званы.

Зусім заднела. Плошча перад трохступеньчатым гмахам старой ратушы. Перад намі, крыху лявей, шырокія сходы, што вядуць на парадны ганак. Справа і злева ад яго — гульбішчы, а над імі — вышка з галерэяй і гадзіннікам. На першым паверсе, злева ад сходаў, катоўня, з якой далятае гул полымя. Справа, пад мурам «ва́жні», уваход у цямніцы. Між ратушай і «важняй» высокі драўляны эшафот. Між ім і «важняй» укапаныя ў зямлю, амаль побач, два слупы. Плошча запоўнена народам. На ганку сталы. Ідзе па сходах, збіраючыся заняць месца за сталамі, высокі трыбунал.

Галасы.— Унь ідуць.

— А якім правам судзяць?

— Ніякім. Мы ад моцы судоў і трыбуналаў вольныя.

— Ясна: «Ніхто іншы судзіці і ўладзы над імі не мае». Гэта наша Майдэборскае права.

Дарафей. Сціхніце вы... Дык вось, права таго ў вас ад гэтага часу не будзе. Пакутніка забілі.

Абдзярыха. Пакутнік. Толькі не з таго боку. Ад езуітаў ён пакутнік.

Дарафей. Но-но! Вы што, не чулі? Над месцам забойства — воблака, і ў ім — святло. І святло над Дзвіной паказала месца, куды кінулі.

Абдзярыха. Брахня гэта.

Дарафей. Не брахня, а тое, што святы. Вось і мы маем.

Мамка. Калі ўжо ў нас такія святыя — ясна, што мы за царква.

Варта праводзіць у падзямелле Вольху і Багусю.

Вой! Павялі, павялі! Яны — пакутнікі, яны — святыя, а не ты.

Вольха *(праходзячы).* Гэта ён святы? Дарэмна тады вы — гэй, Сапега! — дарэмна ты і твой кароль у святыя Нерона не запісалі. Невядома, хто хрысціян больш мучыў.

Іх правялі ў падзямелле.

Корвін *(Сапегу).* Робіцца нешта дзікае, вялікі канцлер.

Галасы.— Хто гэта з Сапегам гаворыць?

— Рэферэндарый і пісар княства, Аляксандр Корвін-Гансеўскі.

— Гэты, кажуць, нічога.

Сапега *(суха).* Не пакараць — значыць кінуць цень на унію.

Корвін. Рэквіемы, панегірыкі, малебны ў Сафіі. І... гэтыя плахі. І ў Рыме пішуць, што труп сам прыплыў у Полацк, *супраць плыні.* Забылі або і не ведалі, што Полацк ляжыць *ніжэй.* Конскі каўцюх кінь у ваду — і той прыплыве.

Сапега. Сам ведаю. І ўжо як распісваюць — «велце святога, пабожнага, спакойнага чалавека акрутне на смерць забілі». Хлусы... Я не любіў яго. Я перасцерагаў. Але ж і яны парушылі закон. І я павінен судзіць іх па ўсёй строгасці закону. І за гэты дзень на мяне стагоддзямі будуць вешаць усіх сабак.

Корвін. А тваё слова?

Сапега. Мы — дзяржава, якая шмат чым рызыкуе, калі свет даведаецца, што мы патураем забойству і ерасі...

Камісія заняла месцы за сталом.

Мамка. Бач, зляцеліся.

Сапега. Камісарскі суд, а ў ім Самуэль Старасельскі, суддзя, Ян Дырмант-Сівіцкі, падсудак, Леў Гурко, пісар; суддзі: Леў Сапега, ваявода віленскі, магілеўскі і іншы стараста, канцлер; вяльможны Хрыстафор з Друцка Сакалінскі, кашталян мсціслаўскі, сурагатар ваяводства Полацкага; Аляксандр Корвін-Гансеўскі, рэферэндарый і дзяржаўны сакратар Вялікага княства; вяльможны яго літасці пан Багдан Сапега, аршанскі, чачэрскі, прапойскі і іншы староста; і пры іх літасці, па асобым яго каралеўскай вялікасці павяленні, Мікалай Завіша, сурагатар віцебскі,— правялі следства і суд дзеля асуджэння і пакарання мяшчан віцебскіх за жорстка закатаванага імі правялебнага айца Іасафата Кунцэвіча, арцыбіскупа полацкага, і, правёўшы фармальнае жорсткае следства...

Абдзярыха. Катавалі, люцыпары.

Сапега. ...аб такім мяцяжы і яўным нядаўнім злачынстве, вырашылі скончыць гэтую справу без усякай затрымкі і апеляцыі. Разгледзеўшы абвінавачванні капітула, выслухаўшы скаргі тых, што знаходзіліся побач з блажэнныя памяці біскупам, камісарскі суд вінаваціць усіх мяшчан Віцебска і шматлікіх з Оршы, Магілёва, Полацка і Вільні ў тым, што наводзілі на дзяржаўную здраду народ. Што склалі змову супраць уніі яшчэ ў лютым 1621 года. Што, не жадаю-

чы падпасці суду, узяліся за камяні і, скінуўшы на знак змовы і мяцяжу шапкі ў адну кучу, абразілі ў асобе войта яго каралеўскую вялікасць.

Мамка. Інстыгатар патрабаваў, каб аддалі катаванням.

Крык з сутарэння.

Што гэта?

Абдзярыха. З Нешы прызнанне выдзіраюць.

Мамка. І што?

Абдзярыха. Як іншыя.

Мамка. Маўчыць?

Абдзярыха. А няўжо ж перад такімі гаварыць, любка?

Сапега. ...забілі. Абклалі саломаю дом біскупа і хацелі былі спаліць. Слуг — каго пабілі, а каго збілі: Дарафея Лейціковіча, архідыякана, Мікалая Акалова, Эмануіла Кантакузіна, грэка, Рыгора Ушацкага, Фаму Сяляву і іншых многіх... Усё разрабавалі, і ўбытку ад таго 3079 злотых... Напала каля тысячы чалавек, і разам з простым народам бурмістры Навум Воўк, Сымон Неша, Сцяпан Пасіёра, і ратманы, і лаўнікі многія. Таму ўсіх іх, колькасцю да ста чалавек, асудзіць завочна на смерць, дзе б толькі ні адшукалі.

Голас. Што ж ты... Ізахвату адно, а мы бачым другое?! Як глядзіш ты нам у вочы?! У сабакі вочы пазычыўшы?!

Сапега. Тых жа, хто ў закаранеласці не ўцёк і каго, папаймаўшы, страж адпраўуем, у вязеню маючы: Навума Воўка, Сымона Нешу — бурмістраў, *Яна Гужнішчава — які біў у ратушны звон,* Грышку Скаруту, Гаўрылу Раманавіча, Іермака Гайдука, Фурсу, шапавалавага сына, Багдана Кузняца, Грышку Бібку, Гаўрылу Пушкара, Ісаака Любчына, Івана Аквіна, Рамана Даніловіча, Фёдара Казака, гаршэчніка, Фёдара Цацэку, Якава Шынкара, Сцяпана Труховіча, Васіля Фірса, Пятра Васільевіча, палачаніна,— пакараць смерцю — праз адсячэнне галавы на плошчы перад *былой* ратушай бясслаўнага места Віцебскага. Прысуд выканаць неадкладна.

Галасы.— Як былой?

— Ды што яны там?

— *Яшчэ* смуты не бачылі?

Сапега. Маёмасць усіх канфіскаваць.

Абдзярыха. Безгаловага жабрацтвам не настрашыш!

Сапега. Увесь Віцебск прызнаць вінаватым, Майдэборскага права і ўсіх увогуле правоў пазбавіць. Ратушу, у якой склалася змова, разбурыць.

Палікар. Муляраў сюды.

Пасля некаторага замяшання і збянтэжання варта выводзіць двух муляраў, што нясуць насілы з цамянкай.

Корвін. Што там за шум?

Палікар. Гэта я падбаў. Каб бачылі. Каб ужо сёння пачалі замазваць усе прадухі ў склепе. Бурыць пачнуць, а там жа ўсё канфіскаванае майно. Не трэба, каб яго дождж або снег псулі. І унь на камені выбітыя аршыны і сажэні: звяраць. Замазаць іх. Зныня і назаўсёды гандлю ў горадзе — канец.

Корвін. А-а. Прадбачлівы ты, прадбачлівы.

Сапега. ...разбурыць да грунту.

Няўцешныя рыданні ў народзе.

Зняць вечавы звон — знак прывілеяў і волі горада.

На катках варта вывозіць на плошчу звон.

Саборную прачысценскую царкву, пры якой зроблена злачынства, зламаць, а замест яе пабудаваць для уніятаў, за кошт гараджан, новую, у большым памеры і велікапышнасці. І на званіцу яе павесіць звон, адліты з былых званоў, з вечавога звона і тых, якімі білі ў набат падчас мяцяжу. А на ім зрабіць надпіс, што змяшчае кароткую аповесць пра забойства.

Корвін *(ціха)*. Кароткую аповесць пра забойства горада.

Сапега *(ціха)*. Воля дзяржавы павінна быць няўхільная.

Пачалі выводзіць асуджаных. Некаторыя ледзь ідуць, але галовы трымаюць высока.

Я даў ім магчымасць, асуджаным.

Корвін. Якую?

Сапега. Калі прыме хто езуіцкага духоўніка, а там і лацінства, то памілаванне.

Корвін. І што?

Сапега. Усе выбралі смерць.

Асуджаныя падымаюцца на эшафот.

Голас. Хлопцы, трымайцеся! Хлопчыкі! Віцебск з вамі!

Навум Воўк. Быў у нас герб. У блакітным полі — Спас Збавіцель, а ніжэй — голы крывавы клінок. Вось яно, іхняе прароцтва! Вось што яны нам рыхтавалі!

Палікар. Ты так на чыстую веру?

Навум Воўк. Настолькі яна ў вас чыстая, што аж смярдзіць.

Дарафей. Ды людзі! Ды што ж гэта такое? Усе чулі: падчас забойства сын Яна Леўшы, уніята, прачнуўся і з плачам крычаў: «Тата, бога забілі».

Неша. Не верашчы. Бога тут сёння і сапраўды забілі.

Дарафей. Ён пакутнік.

Неша. Так, пакутнік. Толькі не ад нас, а ад вас.

Сапега. Ці-ха! Больш гаварыць няма аб чым.

Корвін. І, аднак, мы так і не ведаем, хто з іх забіў. Ніхто не бачыў. Усе маўчаць. Ну ніхто з катаваных не сказаў, хто нанёс удар.

Вывелі Марцыяна Ропата.

Ну, гэтаму глупства. Выгнанне. І Вольху — пасля катавання. І яшчэ пяцідзесяці.

Сапега. Хто з вас бачыў смерць непасрэдна? Хто нанёс удар гізаўрай?

Маўчанне.

Палікар *(Ропату)*. Дастукаўся, Марцыяне. Скажы, хто ўзняў. Атрымаеш дараванне. І не адзін, а з сябрамі. Унь Вольху з Багусяй катаваць агнём павялі.

Ропат. Іх? Катаваць?

Паўза.

Адпусціце тых. Ты памыліўся. Біскупа забіў гізаўрай я.

Уздых жаху.

Мамка. Нашто ж ты прызнаўся? Нашто прызнаўся, сынок?

Ропат. Я не хачу жыць. Адпусціце тых.

Палікар *(унутрана трыумфуючы).* Ёсць адзін. Што ж, размова кароткая. За чуб ды на пень.

Ропат. Рана ты радуешся, поскудзь.

Палікар. Зараз ты атрымаеш апошні цёс. Пад дых. Ты ведаеш, што цябе калясуюць? Ты ведаеш, каго ты забіў? Кроўнага, раджонага бацьку свайго, ты — бацьказабойца!

Ахнуў натоўп.

Ропат. Не! Не!

Палікар. Так, любы, так. Еўга Бабук можа засведчыць гэта. Дый Багусенька твая таксама. Спытай, спытай у іх, калі не верыш мне.

Ропат *(ціха).* Веру. *(Сам сабе.)* Цяпер ясна, чаму яна вырывала ў мяне сякеру: «Толькі не ты». І чаму ён дзякаваў богу. Да апошняй ганьбы яны мяне не давялі. *(Уголас.)* Але тую ганьбу, што я паходжу ад жывадзёра і ката, тую ганьбу мне не змыць іначай, чым сваёю крывёй. Я не супраць плахі. На ёй лепей памерці, чым з сораму. Што ж, тым больш у мяне ёсць прычына памерці. Адпусціце іх. Яны не вінаватыя. Яны стрымлівалі мяне. І яны кахаюць адно аднаго.

Палікар. Ты што? Ты што? Ты памыліўся, мабыць? Гэта ж... цябе...

Ропат. Ды не, трымай пад дыхала, Палікар. Птушка вылецела. Я забіў яго.

Палікар *(ціха). Божа.* Няўжо дарэмна? Нічога, Ропат, за гэты жарт пажартую з табою і я. Перш чым зляціць твая галава, яна ўбачыць, як будуць караць ганьбаю і смерцю званы. Яны ж крычалі тваім голасам? Ну вось, быць нямымі і ім, і табе.

Кат з падручнымі падступаюць да вечавога звона. У падручных — бізуны, у ката — жароўня, і ў ёй клешчы.

Янка Гужнішчаў, званар, што ўдарыў першы.

Гужнішчаў выходзіць з натоўпу асуджаных.

Памрэш і ты. Але раней убачыш, як мы заторкнем глотку твайму гарладзёру. Як адхвошчам яго гнойнымі бізунамі. Як вырвем язык.

Падручныя пачынаюць наводмаш хвастаць звон бізунамі. На баках звона брудныя пісягі.

Вось табе. Вось табе. Вось табе. Крычы, што ж ты не крычыш? Тады дык гарлаў на ўсю зямлю.

Кат дачырвана разжаранымі клешчамі вырывае звону язык.

Яшчэ яму, яшчэ. Ну, чаго ж не крычыш?

Званар. Вы яго мацней, мацней. Гэх, не ўмееце. Ану — я. *(Выдраў бізун з рук падручных і — пад абураны ўздых натоўпу — аперазаў звон, які раптам адказаў трывожным гулкім уздыхам. І яшчэ. Яшчэ.)* Бачыш, ён крычыць, толькі калі б'юць свае. *(Кінуў бізун Палікару, які машынальна падхапіў яго.)* Бачыш, калі трэба, мы крычым і без языка. *(Ён плюнуў Палікару пад ногі і стаў спакойна падымацца на эшафот.)*

Сапега. Хто прыдумаў камедыю з хвастаннем звона?

Корвін. Дарафей і... гэты... Касінскі. Духоўнік.

Сапега. Спеліся. А зараз унь у цяньку стаяць.

Ропат раптам крэкнуў, вызваліўся і спакойна пайшоў за званаром. Узышлі на эшафот, сталі побач.

Ропат. Бывайце, людзі. Ніхто не вырве нас з іхніх кіпцюроў, калі не вырвемся самі. А мы бачым: яны абрыдлі ўсім так, што ўся краіна блюе, гледзячы на іх. Нават моцныя людзі. Вось князь Юры Збаражскі кажа на сейме: «Але чаго яны хочуць ад гэтага шаноўнага народу — гэтага я ніякім чынам зразумець не магу: таму што калі хочуць, каб у Белай Русі не было Белай Русі, то гэта справа немагчымая, усё адно як калі б яны захацелі, каб мора было каля Самбара або Кракава, а горы Бяшчадскія — ля Данцыга». Ніякім розумам, ніякім гвалтам нельга дасягнуць таго, каб у Віцебску не было Віцебска, каб на нашай зямлі не было нашай зямлі.

Паўза.

Гэта сказаў паляк.

Паўза.

Гэта ж гаворым сваёй смерцю і мы. Вам не заглушыць Віцебскага набата. Вам не заглушыць званоў нашай зямлі.

Ён і званар знікаюць за балюстрадай. Пасля адтуль далятаюць два глухія ўдары сякеры.

Сапега. Я пайду. Мне тут больш няма чаго рабіць. *(Ён спускаецца са сходаў і заходзіць за выступ мура,*

*дзе стаіць Палікар.)* Што, карыстаючыся адным агаворам, адправіў на смерць саперніка?

Палікар. Ды не, не, ніякі ён не... Сам караюся!

Сапега. Ты... ты проста гніда. *(Даў тысячніку поўху.)*

Палікар схапіўся быў за зброю, але варта абступіла канцлера.

*(Сапега, ідучы прэч, ціха сказаў начальніку варты.)* Вось што. Бачыце Касінскага і Дарафея? Пойдзеце з самымі вернымі за імі. Ну вось. Ворагі загінулі. Моцныя ворагі. Будзе неяк не зусім справядліва, калі правасуддзе не пацікавіцца падбухторшчыкам і выканаўцам. *(Пайшоў.)*

Варта рушыла за двума чорнымі ценямі. З сутарэння вывелі Багусю і Вольху.

Палікар. Што, Вольха, з радасці, што з катавальні выйшаў, пэўна, і «Куліну» сваю заспяваў бы? «Гэй, казачэйку, пане ж мой... Ён гарue. Ён чатуе. Дзе паеду — здабуду». Не здабылі вас адсюль казакі твае.

Вольха. Пане мой божа, толькі з катавальні, і першае, што ўбачыў,— гэта багабрыдкая морда насустрач. Лепей бы там застаўся. Няма каб, скажам, Ропат або яшчэ хто.

Палікар. Ропат? Які Ропат? Быў хіба некалі такі? Ропат? Га?

Багуся. Гнусь.

Вольха. Азадак твой яго памятае. А забудзеш — ён табе напамяне яшчэ.

Палікар. Не напамяне. Нічога ён ужо нікому не напамяне. Шкада, схібіў я, прамахнуўся. Думаў, у пáры з ёю — ён. Ну і зрабіў падаруначак да...

Багуся. Не слухай.

Палікар. ...да вызвалення ад дыбы, ад... Выгнанне цябе ўсё ж чакае. І я табе скрутачак адзін такі ў дарогу дам... Круглы.

Багуся. Вольха! Брэша!

Вольха. Не, тут нешта не тое... Гэй, люд, Ропат дзе? Ропат дзе, кажу?

Голас. Толькі што адсеклі галаву Ропату, Антоні. Прызнаўся, што гэта ён секанyў гізаўрай.

Вольха. Гэта... Гэта як жа?.. А я? У мяне чаго не спыталі?

Голас. Маўчы, Вольха. Маўчалі ж месяцы. Цяпер ужо нічога не папішаш.

Абдзярыха. Сцісніся.

Мамка. Маўчы, мы бачым.

Палікар. Ну, ясна. Ці мог ён, каб яна твар у твар з дыбай. Ясна, не мог.

Вольха. Усё.

Палікар. Гэх ён, бацьказабойца. Паказаць сябе захацеў: «Бабу, маўляў, пусціце».

Мамка. Забіты ён. Сцісніся. Усё адно.

Багуся. Усё адно.

Вольха. Не, дзяўчынанька, не. Не ўсё адно. Я краў, я і адказ трымаць буду. Названага брата кінуць аднаго не магу. Душа ягоная там плача. А калі няма дзе ёй там плакаць — а відаць няма дзе,— калі паўсюль на зямлі такое паскудства, дык хаця не дазволю, каб пэцкалі ягоную памяць бацьказабойствам. На нас і без таго да восьмага калена будуць ліць гразь, яны гэта ўмеюць. На наша з табою імя — хай сабе. Але пэцкаць дваццаць пяць вежаў горада яшчэ і такой манвю — такога я ім не дам. Адвярні морду, ты... *(Абдымае дзяўчыну.)* Бывай, маё шчасце. Думаў я, што не так. Думаў, хата... «за стол твой, мой каханы, паненкаю».

Багуся. «У ложу тваю, мой каханы, маленькаю»... Вазьмі мяне з сабою.

Вольха. Не трэба, маленькая. Ты яшчэ пажыві, колькі хочаш, павесяліся з сонцам. А я парадуюся на цябе, пакуль разам не... *(Адарваў яе ад сябе. Ідзе да эшафота.)* Людзі! Народ віцебскі! Богам клянуся, засечаны толькі што Марцыян Ропат не вінен. Гэта мая рука апусціла гізаўру. Вось гэтая! А той, той хрыстапрадавец, той здраднік свайго народа аддаў смерці бязвіннага. Толькі таму, што гэтай гадзюцы здалося, нібы Ропат адбіў у яго дзяўчыну, якая на такога разлезліка, як ты, Палікар, і пляваць не хацела. Ясна, такі, як ты, трупы па начах сніць не будзе. Але паглядзі, паглядзі на рукі, Абрагімовіч. Яны ў цябе ў нявіннай крыві. Паглядзі.

Той машынальна паглядзеў, захістаўся. Гул натоўпу.

Мамка. Ды што ён, п'яны?

Абдзярыха. Ён заўсёды п'яны. Дзе не крывёю, там гарэлкай. Такі халуй за чарку ад пана ад Варшавы да самой Масквы, па іржышчы, голым носам вош пагоніць.

Змрочны, пагрозлівы смех натоўпу.

В о л ь х а. Г-га-ха-га! Дык вось, ты іх не адмыеш, ты, што бацьку, родны свой горад, пазбавіў языка, што матцы, зямлі сваёй, чэрава ўспароў. Цьфу! *(Ідзе паперадзе варты.)*

Палікар дзіка агледзеўся. Кінуўся да Багусі.

П а л і к а р. Слухай, я адкладу, нібы на даследаванне. Даб'юся. Мы дамо яму ўцячы. Я не магу болей. Пагарда вакол. Не адштурхні мяне, апошні мой бераг, апошняе маё спасенне... Бачыш, рукі...

Б а г у с я. Ты іх паспрабуй адмыць спярша, рукі.

П а л і к а р. Застанешся адна.

Б а г у с я. Не, Палікар, адна я не застануся. *(Плюе.)*

Страшнае маўчанне народа.

Антоні, чакай мяне, я іду за табой. Яшчэ сёння ўзрадуемся разам на небе.

П а л і к а р. Ты што? Ты што? Хто карае жанчын? Ты ж і рукі не ўздымала! Людзі, не слухайце яе.

Б а г у с я. Гэта я прынесла гізаўру. Гэта я загадала, каб ён ж-жахнуў таго цмока па галаве. І хай мяне пярун шасне, калі я не бачыла, як у яго з галавы — з-пад сякеры — палілася атрута і вылецеў у паветра д'ябал.

П а л і к а р. Яна нагаворвае на сябе. Заторкніце вушы, людзі!

Б а г у с я. Хто бачыў? Ага, вось ты, баба Еўга.

Е ў г а. Ага, ага, бачыла, бачыла. Гэта яна падала́. Варта было. Ён людзей выкопваў. І д'ябла бачыла. Чорны такі анёлачак. Рожкі, як у козкі. Зубкі, як часначок. Хвосцік, як памялцо.

П а л і к а р. Не слу-хай вар'яткі, на-род!

Вартавы прабіўся да яго праз натоўп. За ім яшчэ двое — цягнуць мяхі.

Гэта яшчэ што такое? Якога д'ябла?

В а р т а в ы. Гадзіну назад убачылі, як невядомыя з урвішча кінулі ў Дзвіну два мяхі. З таго месца, адкуль і... Выявілі. Вось што ў іх.

Палікар аслупянела глядзіць на твары Дарафея і Касінскага.

П а л і к а р. Дарафей... Езуіт.

К о р в і н. Боская адплата.

Палікар. Стойце... Прыпыніць страту...

Багуся. І гэта нашы сябры зрабілі... Я іду да цябе, Антоні. Цяпер мы будзем спаць спакойна.

Палікар. Цяпер усё. *(Пасля паўзы, здаўленым голасам.)* Прывязаць іх да слупоў.

Варта прыкручвае Вольху і Багусю да слупоў, плячом да пляча.

Муляраў сюды. Сякера занадта хутка скончыць з імі.

Муляр. Што?

Палікар чэрпае кельмай цамянку і плюхае на ступакі прывязаных.

Палікар. Рабіць далей.

Муляры муляюцца.

І клянуся першамучанікам Ігнатам, і святым Васілем, і Янам Ксціцелем клянуся, што калі адмовіцеся — загадаю пасадзіць на па́лі азадкам не толькі вас, не толькі сямейных вашых, але і ўвесь Задунаўскі канец. Ну!

Варта насоўваецца на муляраў.

Вольха. Працуйце, хлопцы. Не хапала яшчэ, каб столькі людзей...

Багуся. Мы даруем вам. Мы выпрасім вам дараванне.

Муляры, калоцячыся, пачынаюць працаваць.

Вольха. Ну-ну. Досыць калаціцца. Няхай — яны.

Палікар. Пасля, калі задыхнуцца,— абскрабіце лішкі цамянкі і зрабіце якабы два балваны. І хай стаяць, на пострах усім, колькі будзе трэба.

Вольха. Галовы адсечаныя не прыставіш, лепшых сыноў горада, лепшых братоў — не вернеш. Але горш за смерць нашу — смерць залатой волі Віцебска. Нічога, яна ўстане. Не можа не ўстаць. З тым і памром. З горыччу, але і з надзеяй на святло. Званоў нашых не заглушы́ць. Кішка ў іх, паршыўцаў, слабая.

Палікар. Ну то стойце і слухайце. Дзе яны, вашы званы?

Вольха. Мы будзем стаяць. Помнік Віцебску, які ты думаеш, што забіў. І які нельга забіць. Як увесь наш бедны, наш моцны край.

Паўза. Цамянка ўжо да калень.

Бывай, Багуся.

Багуся. Нічога, мы пастаім. Толькі на пострах табе, а не людзям, іуда. Антоні... «У ложу тваю...»

Вольха. Я цябе кахаю.

Багуся. І я цябе кахаю. І мы ўрэшце разам. Разам ва ўсе дні да сканчэння свету.

Цемра. Надрыўны свіст ветру. Потым нібы крыху святлее. Стылая, аранжава-жоўтая, разгараецца над горадам стужка зары. На плошчы, у слабой пляме святла, два грубыя ізваянні з закарэлай цамянкі. На плошчу няцвёрда выходзіць Палікар у суправаджэнні трох вартавых.

Палікар. Рукі... Рукі.

З'яўляецца Сапега. За ім служка нясе ліхтар.

1-шы вартавы. Хто ідзе? Божа, канцлер. Куды ў такую ноч, ваша высокая мосць?

Сапега. Сёння ад'язджаем. *(На Палікара.)* Што гэта з ім?

1-шы вартавы. Баімся ўсе, што звіхнецца. За шаблю некалькі разоў хапаўся.

2-гі вартавы. Ходзіць, мармыча: «Рукі-рукі». І ўсё яго сюды верне. Стане і слухае, слухае.

3-ці вартавы. Войт так і сказаў: «Сачыце за ім, хлопцы, бо як бы не спяціў. Бо вось так яно ў розуме і псуюцца». Слухае.

Сапега. Чаго слухаць? Маўчыць горад. Раб, у гразь кінуты,— цяпер горад. Без голасу, без званоў.

1-шы вартавы. Добра хаця, што парадак у дзяржаве захавалі.

Сапега. І тое праўда.

Палікар. Маўчыць... Рукі-рукі. *(Да «статуй».)* Што, і вы маўчыце? Сцішыліся. Мерцвень, халодная, як гэтая цамянка, як тое вапно, як тая заранка, стылы лёд. Дзе тваё сэрца, Багуся? А цёпленькае было. І магло б жыці, песціцца. А тваё дзе сэрца? А гарачае было. Як пажар. То ж бо! Дзе яна цяпер, ваша сіла! Стаіце балванамі на скрыжаванні. А маглі б жыць, каб саступілі, каб трысцінаачкай, якую вецер не ломіць. А рукі? Маўчыце? Ну вось. Перамог усё ж я. Мёртвы горад. І стаіце вы балванамі, помнікамі на яго магіле. Вось. Во-ось.

Пляма святла пашыраецца, і раптам мы бачым, што на месцы ратушы, пад аркадамі і перад імі, моўчкі стаяць людзі.

Вы што тут? Вы што тут кожную ноч? Плачаце моўчкі? Моўча, а дума воўча? Маўклівая непавага да ваявод, кашталянаў, старастаў, сурагатараў? Ты́ вось што?

Е ў г а. Слухаем.

П а л і к а р. Што?

Е ў г а. Тое, што грукоча.

П а л і к а р. Што? Што грукоча, я цябе пытаюся? Няма чаму грукатаць. *(Прыслухоўваецца.)* Ну дзе, ну? Што?

Е ў г а. Грукоча. Там.

П а л і к а р *(слухае).* Нічога не грукоча. Ці мо грукоча? Дзе? Там? Ага, нешта нібы цюкае. *(Ходзіць, прыслухоўваючыся да нечага, нібы вынюхвае.)*

У цішыні, спачатку амаль нячутна, а пасля ўсё мацней і мацней, пачынаюць аддавацца ўдары сэрцаў: тук-тук-тук-тук. Мацней, мацней і мацней.

Грук-грук-грук. Дзе? Ага, тут. *(Ён кідаецца да ізваянняў і прыкладае да іх вуха.)*

А грукат ужо нясцерпны, і вось ужо ў ім нешта нават металічнае, і невядома, што гэта: неймавернай сілы ўдары сэрца ці набат.

Грукоча-грукоча-грукоча. Не, не могуць. Яны ж мёртвыя, халодныя. *(Адарваў руку ад цамянкі.)* Гэта я, вось гэтымі рукамі, забіў іх. Гэтага не можа быць. Грукоча-грукоча. Ды змоўчце вы! *(Выхапіўшы шаблю, б'е плазам.)*
Грукоча. Званы! Званы! Званы Віцебска! Набат! Набат! Набат! *(Падае на калені. Заціскае вушы. Але ўдары ўжо нясцерпна запаланілі ўвесь свет.)* Сціхніце-е-е!

1-шы вартавы. Ну, гэты гатовы. Толькі на ланцуг.

С а п е г а. Што ж, усё скончана. Пасля таго, што здарылася,— гэта канец. Не цяпер, то ў чацвер. Гэтым што? Гэткіх не замуруеш. А мы?

Удары — удары — удары.

П а л і к а р. Галава-а расколваецца. У галаве б'е. Грукоча — грукоча! Набат! Набат! Гру-ко-ча-а-а! Наба-а-ат!

*Заслона*

*1973 г.*

# КАЛЫСКА ЧАТЫРОХ ЧАРАЎНІЦ

*Драма ў дзвюх дзеях шасці карцінах з казачным пралогам і эпілогам*



## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Белая (Першая)
Блакітная (Другая)
Залатая (Трэцяя)
Цёмная (Чацвёртая) } чараўніцы ля чалавечых калысак.

Янка Луцэвіч } у дзевятнаццаць год. у дваццаць два гады.

Дамінік — сын Анупрэя Луцэвіча, бацька Янкі.

Бянігна — Багуміла Луцэвічава з Валасевічаў, Янкава маці.

Зыгмунд (Цыкмун) Чаховіч — Ляхавіцкі — былы паўстанец, цяпер «пан» у Бясядах.

Аконам пані Чаховічавай з Арамовічаў — пані ўладаркі Бясядаў.

Пакаёўка.

Стафан Каляда — сын арандатара-палавіншчыка, пазней парабак.

Марыся Гладышэўская, дачка арандатара } у семнаццаць год. у дваццаць год.

Юзук Гладышэўскі — бацька Марысі.

Катра Гладышэўская — маці Марысі.

Казік Валахоўскі — паніч.

Блажэй — фурман Казіка.

Ураднік пан Рахцей Рахцеевіч Снулы.

Лірнік.

Купальскія дзяўчаты, госці Гладышэўскіх, сяляне, стражнікі.

*Дзея пачынаецца ў 1895 годзе, заканчваецца ў 1904 годзе.*

Ноч нібы толькі крыху асветленая праз туман ззяннем зорак. Нячутна заводзіць спеў дзявочы хор:

Гарэла Купала ясненька,
На Купале дзевачак паўненька.
А хто гэта Купала разлажыў —
Каб яму бог жыта зарадзіў.

Узносіцца — амаль без святла, толькі пырскаючы іскрамі,— агнявое кола. Цьмяна праплываюць у паўзмроку силуэты дзяўчат:

Я зёлкі ў полі збіраю,
Івана Купалку пераймаю
І ўсё гляджу ў цёмен лес.
А ў цёмным лесе агонь гарыць.
Каля агню Купалка сядзіць,
Купалка сядзіць і ўголас плачыць.
«Чаго, чаго, Купалка, плачаш?
Ці табе тут соўнінька мала?!»

Цьмянае агнявое кола. Затое слаба-слабенька ўспыхвае іскрачка блізка ля зямлі. Яна мігацее, часам ледзь не гасне, але ўсё ж пастунова разгараецца ў маленькае ззянне, і тады нам відаць, што яно льецца з калыскі, якую гайдае невядома чыя рука. Ля калыскі чатыры постаці. Калі пачынае гаварыць кожная з іх, на невыразнай постаці на імгненне запальваецца слабое святло: белае — блакітнае — залацістае. І толькі на чацвёртай — бронзавачорнае, нібы згушчаецца змрок. Галасы глухаватыя і ўсё ж выразныя.

Трэцяя *(залатая).* Сёстры. Ля калыскі кожнага нованароджанага з'яўляюцца чараўніцы і прарочаць яму ягоны лёс.

Цёмная *(чацвёртая).* У некаторых не з'яўляюцца.

Белая *(першая).* У тых, хто пасля — аж да канца — пальцам не варухне дзеля брата і друга. У тых, хто толькі для сябе. У тых, хто толькі хлебаед.

Трэцяя *(залатая).* У астатніх — узнікаюць.

Блакітная *(другая).* І мы заўсёды стаім ля калыскі тых, хто адарве кавалак ад рота і дасць загнанаму, хто памагае не толькі людзям, хто памагае цэламу народу стаць на ногі. Каля тых — заўжды.

Цёмная *(чацвёртая).* Які вы судзіце яму лёс?

Першая. Самы слаўны.

Чацвёртая. Але і самы цяжкі.

Трэцяя. Але і самы вялікі.

Песня:

Купалінка, купалінка,
Цёмная ночка,
Цёмная ночка,

А дзе ж твая дочка?
Мая дочка у садочку
Ружачку поле,

Ружу, ружу поле,
Белы ручкі-ручачкі коле.
Кветачкі рве, кветачкі рве,
Вянкі звівае,
Вяночкі звівае,
Слёзкі пралівае.

Чацвёртая. «Слёзкі пралівае...» І праўда, што за жыццё без слёзак?.. Нішто-о, гэтым дабром я яго забяспечу. Шмат чаго я нарабіла ягонаму роду ў мінулым. А ён сербане больш за іх усіх разам.

Трэцяя. Што ж, сэрца мудрых у доме плачу.

Чацвёртая. Ён будзе гадамі блукаць упоцемку.

Першая. І выйдзе на святло.

Чацвёртая. І аслепне ад яго.

Другая. І выведзе на яго іншых.

Чацвёртая *(амаль у ярасці)*. Ён памрэ далёка ад роднай зямлі.

Першая. І вернецца ў яе. І давеку застанецца з ёю.

Далёка-далёка плывуць дзявочыя сілуэты; амаль згасла кола ў паветры. І невядома, адкуль робіцца святлей у тумане: ці ад прадчування заранкі, ці ад вельмі слабага святла з калыскі.

Песня:

Ой, рана на Йвана (2)
Проці Івана ночка мала
Ой, рана на Йвана (2)
Ой, рана на Йвана (2)
Дзе купала начавала?
Ой, рана на Йвана (2)
. . . . . . . . . . . .
Начавала ў чыстым полі.
. . . . . . . . . . . .
Ў чыстым полі, ў густым жыце.
Ой, рана на Йвана (2)

Другая. Чуеце, спяваюць. Нам скора знікаць. У туманы, пушчы, да зор.

Трэцяя. Прыйдзем, калі з дзіцяці вырасце юнак.

Чацвёртая. Ці вырасце? І ці тое, чаго вы хочаце?

Першая. Вырасце. І імя яму будзе Ян.

Трэцяя. Янаў на Беларусі тысячы.

Чацвёртая. Якой такой Беларусі?

Першая. Прызабытай. Але ён будзе з тых, хто нанава, з пустэчы і папёлаў, з занядбання створаць яе... Ян...

Чацвёртая. Гэта азначае работнік і дурань... Ян.

Першая. Па-старадаўняму гэта азначае «раскоша божая»... І скіне ён ланцугі з душы простых і дасць ім разуменне.

Першая | Ян! Сын Дамініка!.. Унук Анупрэя!
Другая | Прапраўнук Яна. Нашчадак...
Трэцяя | Адама. Ты чуеш нас?! Уставай! Адгукніся!

У тумане над ценямі, над згаслым колам гучыць крык немаўляці.

*Заслона*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Хата Луцэвічаў у Селішчы. Звычайная вясковая хата, хіба што пад комінам гарыць не лучына, а каганец, стаяць дзве драўляныя канапы ды побач з іконамі на сценах (каталікі) вісяць лубачныя малюнкі. У гарлачы на акне пара «казімірак». На стале лямпа з прыкручаным кнотам. Маці падкладае ў грубку дровы, і зменлівыя адбіткі скачуць па яе твары. Бацька ля стала працягвае новы раменьчык-абору ў адрапараваны хадак. Змяркание.

Дамінік. Ну вось, вельцэшаноўная пані Бянігна-Багуміла Луцэвічыха, урадзона Валасевічуўна, вам пасталы, хадакі тэж. Як навенечкія. Сырамяціна — хоць магната, проша пані, за крадзёж хвастаць.

Бянігна. Ах-ах. Завшэ тэн пан Дамінік камплі-ментуе. Гэта ж мне цяпер што ў касцёл ці да просяка выйсці — усе свінні паглядзець збягуцца.

Уваходзіць Янка. Кладзе сякеру пад зэдлік ля парога, вешае на калок шапку.

Янка. Усё. Апошні сажань прыкончыў.

Бянігна. І што ўжо так дзерціся. Цёмна ж на двары, як у войтавай душы.

Дамінік. Кінь. Ён упарты. Ужо як вырашыў нешта зрабіць, то па крапіве босы пойдзе. І ў каго такі?

Бянігна. У дзеда Анупрэя. Ды яшчэ ў стрыечніка ягонага Людвіка Францава... Есці будзеш?

Янка. Не, намахаўся. Уначы, здаецца, гэтыя трэскі сніць буду.

Дамінік. Не будзеш есці — не трэскі табе будуць сніцца, а старцы ды яшчэ цыганы... Чаго смяешся?

Янка. Сяку ў сне дровы. Падыходзіць цыган з мядзведзем: «Давай падмагу». Я яму: «Ды пакарміць цябе пасля няма чым». А ён: «Нішто, бацю, мішкам закусім».

Бянігна. Цьху, даруй, пане божа. Хіба мядзведзя можна есці? Мядзведзі ж, кажуць, гэта людзі, што ў лес уцяклі, каб на чужога дзядзьку не працаваць.

Янка. Мядзведзі разумныя.

Дамінік. Мядзведзі разумныя. Мы — дурныя. Увесь век арандары за палову ўраджая. Увесь век на чужога дзядзьку. Мядзведзя нельга есці — нас можна жэрці. З мядзведзя нельга дзерці шкуру — з нас хоць сем... Вось так, пані Бянігна, а мядзведжыя хадакі цяплейшыя былі б. Дый мацнейшыя.

Бянігна *(бярэ пасталы)*. Што вы, пане Дамініку, і так естэм бардзо задаволёна. Гэткія ладненькія. Хоць пані Вітгенштэйнавай квас піць.

Дамінік. Не памінай ты нанач гэтых падлаў.

Янка. Так і свецяць хадакі, так і паляць. Ажно ў касцёле некаторыя распранацца пачалі.

Дамінік. Дзіўны ты. Ну зусім не падобны ні на сёстраў, ні на братку. Нібы не ад чалавека. Нібы чараўніцы цябе прынеслі і ля калыскі стаялі.

Янка. Гэта вы сёння дзіўныя. З чаго гэта раптам «панькаеце», нібы ў касцёле? Чаго касцёльнай мовай кідаецеся? Што я вам — ксёндз, віленскі дэкан? Пры чым тут дзед Анупрэй... Людвік... Вітгенштэйны?

Дамінік. Ды ў нас сёння свята. Нешта накшталт угодкаў, юбілею нашаму мяшчанству. А праўдзівей, нашаму халопству. *(Пасур'ёзнеў.)* Ды што ж, ты чалавек ужо дарослы. Дзевятнаццаць год. Можна і расказаць.

Бянігна. Ды ўжо чаго там. Атручваць яшчэ й яго той несправядлівасцю.

Янка. Хай. Адной болей, адной меней.

Дамінік. Ніякі ты не мінскі мяшчанін. Хаця я ару, а ты сячэш. Ты роду Луцэвічаў, а герба Навіна. І, значыць, не ніжэй... Вітгенштэйнаў.

Янка. І так ясна. Усе Адамавы дзеці.

Дамінік. Ды не ўсе з падатковага саслоўя, у якое нас кінулі. Не ўсіх можна без пакарання абразіць. А між тым твой продак у восьмым калене Стах валодаў маёнткам Кукялёўшчына з вёскамі Слабодка і Цярпілаўка. Галіна сына ягонага Івана ў 62 годзе, за год да паўстання была зацверджана сенатам у дваранстве, а галіна сына Васіля, брата, праз сенацкія рагаткі не здолела прабіцца... Твой продак у пятым калене Юры меў ад Аўгуста III у 1734 годзе прывілей на чын паручніка войск Вялікага княства. Прапрадзед валодаў вёскай Слабодка, выконваў у Радзівілаў службу дазорцы маёнтка Святы Двор.

Янка *(дастае кніжку)*. Татка, ну што да таго, калі, скажам, дзед у ваўках за самім мядзведзем шаблю насіў. Ну, насіў. А цяпер на месяц вые.

Дамінік. А я цябе ў служкі да мядзведзя не цягну. Хлеба нам, акрамя вось гэтых рук, ніхто не дасць. Я цябе да памяці клічу. Каб не забываў, што жывеш у краіне нягоднікаў.

Бянігна. Ды крый цябе божа! Ды ціха ты!

Дамінік. І хай запамятае... Жылі мы ва ўладаннях князя Дамініка Радзівіла (пляменніка славутага «Panie Kochanku») на правах чыншавай шляхты. Засценак Луцэвічы, за трынаццаць вёрст ад Узды. Дзвесце год жылі, і не крыўдзілі яны нас. А пяцьдзесят год назад землі перайшлі да Вітгенштэйнаў, і пачалася тут у нас з імі вайна за зямлю.

Бянігна. Ваявала мыш з катом.

Дамінік. Ясна ж. І вось дваранская дэпутацкая зборня зацвярджала нас дваранамі ў 1802-м, 1846-м, 1849-м, 1857-м. І кожны раз сенат ці адмаўляў, ці «резолюций не следовало».

Янка. Ці не ўсё адно, у лапцях ці ў ботах араць зямлю?

Дамінік. Усё адно. Але ж *Справядлівасць* на нашай зямлі свінні з'елі. Што мне ў гэтым, ці пан сам пан, ці пан у пана служыць? Ты вось мне скажы:

*Справядлівасць дзе?* І вось такія, як мы, сталі адной з бочак пораху, куды толькі кінь іскру... І вось год сорак назад край паўстаў, і пачаўся бунт і мяцеж.

Яны глядзяць нібы ў нікуды, а між тым хату і тое, што за яе вокнамі, запаўняе глухі тупат соцень ног, пошчак капытоў кавалерыі, невыразнае бразганне зброі, далёкія глухія галасы, пасля рэдкія стрэлы і рэха ад іх... І раптам зладжаны гул кананады... І цішыня.

Янка (*страпянуўшыся*). Што гэта, гарматы?

Дамінік. Якія? Гэта тады былі *гарматы*. А гэта — *грымоты*. Нейкая вельмі-вельмі далёкая навальніца.

За вокнамі сапраўды грымоты. Зрэдку яны зноў і зноў варочаюцца недзе ў небе аж да самога канца карціны.

Янка. А ты паўставаў?

Дамінік. Ды не. Мы людзі маленькія. «Хай бог таму памагае, хто нам дабра жадае».

Бянігна. Хто паўставаў — тых на вісельню, у Сібір. Ты унь спытайся ў таго, у каго кніжкі бярэш. Ён паўставаў.

Янка. Чаховіч?

Бянігна. Ну, так. А што з таго карысці. Жабрак пры багацюшчай жонцы.

Янка. Ён не жабрак. У яго — кнігі. Не можа быці жабраком, у каго — кнігі.

Дамінік. То ж бо я раней ледзь не за папружку браўся, каб цябе за кнігу ўсадзіць, а цяпер хоць ты яго лупцуй, што вечна носам у кнізе, а гаспадарка хоць прападай.

Янка. Не тыя былі кнігі.

Дамінік. А гэта — *тыя*. Бярозавы лес на лучыну звёў — чытае, месяц яму радасць — чытае. Коні на начлезе, а ён ля вогнішча чыт-ае.

Янка. Не краду ж. Чытаю... Каб вы законы ведалі — ці ж бы вас збіла з панталыку сенацкая валакіта? Цяганіна? Блытаніна?

Дамінік. Чужым вумом гаворыш. Якія законы? Проста яны за паўстанне адыграліся на нас. На малых, на бязвінных. Паўстанне задушылі, а нам каб да пачатку ўсе дакументы аб дваранстве прадставіць. Інакш ідзі ў мяшчане, у падатковае саслоўе. І — недавер да нас. Указ за ўказам — «не пушчаць».

А адкуль дакументы, ды яшчэ трохсотгадовыя? Касцёлы гарэлі, хаты гарэлі, кнігі і метрыкі разам з імі гарэлі. Усе даведнікі здабывай сам. А дзе іх узяць? Нельга падаваць выпісы з метрык і актавых кніг, што не захаваліся. А кнігі самі спалілі.

Бянігна. Чаму і казала, што ўпарты ты ў дзеда Анупрэя. *Пятнаццаць год* ён са стрыечнікам абабіваў парогі. А за кожную душу, якая дабіваецца права, прынясі дзесяць рублёў срэбрам. *А тых душ, разам з малалеткамі, семдзесят дзве.* А Магільнянскі касцёл, дзе дакументы, і касцёл у Мікалаеўшчыне, дзе дакументы,— згарэлі.

Дамінік *(непрыкметна паклаў руку на сэрца).* А Вітгенштэйны да таго часу сагналі нас з зямлі. А адказы сенацкія — нічога ў гэтай канцылярыі не зразумееш.

Янка. «Законы трэба пісаць незразумела, каб просты чалавек звяртаўся па тлумачэнні да адукаваных паноў». Міністр адзін сказаў.

Дамінік. Вось так. Так і я праходзіў да трыццаці год у «панах», а цяпер вось ужо амаль трыццаць год «мяшчук». Угодкі сёння спраўляем.

Бянігна. Звыкай. Хрыстос таксама да трыццаці год у нехрышчоных хадзіў.

Грымоты за акном.

Злітуйся, пан Езус, не тое, бач, сказала.

Дамінік. Чаму не тое? Бог цябе стварыў, чалавеча, даў неўміручую душу, даў усю зямлю, сад твой. А ты... Дай шалянцу, Бянігна.

Бянігна. Зноў сэрца?!

Падае адвар. Бацька п'е, паступова супакоіўся.

Дамінік. А ты што напрыдумваў, чалавеча? У каго мала зямлі, у каго няма. Справядлівасць з торбай ходзіць. Хлеба чалавек хоча — страляюць у яго. Кожнае падла самавольнічае, як ашалелае. Кожны сабе грабе. Пра паноў і не кажы.

У гэты час пачынае прыглушана гучаць аднекуль Голас, які пасля будзе гучаць часта. Гэта нібы і Янкаў голас, нібы і чужы. Але хутчэй усё ж Янкаў, толькі непазнавальна амаль узмужнелы, незгінальны і непахісны:

І мужык — пан у старонцы
Гора гэта вечна бача,

Бача, што толькі ў карчомцы
І ў магіле ён не плача.

Янка *(страпянуўшыся).* Вы... чулі голас?

Бянігна. Які голас?

Дамінік. Ты што? *(Паўза.)* Не, мабыць, у цябе ўсё ж мазгі набакір. Жаніць цябе трэба.

Бянігна. І тое. Унь бяры хаця Марыську Гладышэўскую. Якраз семнаццаць. Бацька спраўны арандар. І яна ж за табою аж вачыма страляе... ну проста як на панскай ахвоце.

Янка. Ды я пра гэта не думаў. Што ж мне, ускінуць на хіб яшчэ й гэта? Сагнешся... А я адчуваю сілу на нешта іншае, велькае... Вось не ведаю толькі, на што... А голас.

Дамінік. Галасы толькі юродцы гэтай, Анелі Вітгенштэйнавай, чуюцца. Не наша гэта справа, галасы чуць... Панская гэта, ад залішняга туку, справа.

Бянігна. Ну, і паны бываюць розныя. Унь у Бясядах пан, што Янучку кнігі дае. Вось гэта пан, дарма што паляк.

Дамінік. Такі ён паляк, як я Беркаў Зяма. Толькі што ў адной карчме. Я п'ю, ён падносіць.

Янка. Ды хто ж мы?

Дамінік. Тутэйшыя. Веры польскай, то, кажуць, і палякі.

Бянігна. Не, ты не кажы. Ён пан сардэчны, пісьменны.

Дамінік. Ну і што? І багаты, і адукаваны, а што з таго... Усё жончына, ягоныя толькі кнігі. А імі сыты не будзеш. А жонка пана Цыкмуна надгаладзь трымае.

Бянігна. І як быццам ён ад людзей хаваецца. Ці яго хаваюць. І... начальства ведае, але праз пальцы глядзіць. Кажуць, ён цяпер бяспечны, Чаховіч.

Дамінік. Кажуць — значыць, на іх і небяспечны.

Янка. Ды што вы, урэшце? Хто ён? Я ж яго як вас бачу.

Дамінік *(амаль шэптам).* Бунтаўшчык. Яшчэ з таго паўстання. Начальства казала: паны прыгон вярнуць хацелі, і таму паноў лавіць і вешаць трэба. Ды толькі не мужыкі іх вешалі, а яны самі. Начальства.

Значыць, нейкая хлусня ў тых чутках была.

Бянігна. Ты б радзей да яго хадзіў. Усё ж стра-ашна.

Янка. Дачытаю вось кнігу — пайду.

Дамінік. Упарты. Але і кніга не выручыць... Зямля адна выручыць... Зямля.

Янка расчыняе акно. Аднекуль здалёк вядзе песню дзявочы голас.

Бянігна. Марыся вядзе. І галасістая ж на нашы песні. Глядзі-і, Янка.

Голас Марысі.

І ўчора ня быў, і сёння ня быў,
Відаць, мой міленькі мяне пазабыў.
— Ой, я не пазабыў, не пазабуду,
Сяду паеду, сем год не буду.

Дамінік. Хай чужая — зямля.

Янка. Не хачу чужой зямлі. Мая гэта зямля.

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Бібліятэка ў флігелі Зыгмунда Чаховіча ў Бясядах. Простыя беленыя сцены, паўкруглыя зверху вокны, канапа, пацёрты дыван, столік, крэслы. Адзіная раскоша — мноства кніг, і патрапаных, і старадаўніх скураных, і ў ціснёных золатам вокладках. Астатняе — пацёртае і нібы прыцярушанае пылам. Янка Луцэвіч толькі зайшоў у пакой з пакункам кніг. У пакоі два чалавекі. Сядзяць ля століка. На крэсле малады хлопец Стафан Каляда. У фатэлі, накрыты пледам, сам Зыгмунд Чаховіч. Яму каля сямідзесяці год.

Чаховіч *(не расплюшчваючы вачэй)*. Пачакай, Янка. Вось пагаворым са Стафанам, тады ўжо і з табой. Лезь у кнігі... Ну дык і што, пане вялебны Стафан Каляда?

Стафан. Валахоўскі стары як ашалеў. Як ваўкалак яго пакусаў. Сабак і тых, здаецца, грыз бы. Сагнаў арандатараў у Ліпаёве, Шульжыцах, яшчэ «запашнікаў» чалавек дзесяць. Цяпер прыходзіць, відаць, чарга на нас.

Чаховіч. А Гладышэўскія?

Стафан. Наўрад ці Казік, сынок ягоны, заступіц-

ца. Той па дзяўчатах, відаць, так да сівых валасоў і гойсаць будзе. А цяпер гэты Казік... як паказіўся на Марысьцы Гладышэўскай.

Чаховіч. То хай бы і жаніліся. І Гладышэўскім спакой.

Стафан. Угу. Гэта ён проста капытамі б'е. Так ён з ёю і ажаніўся, з арандатаравай дачкой. А тады і згоніць... А можа, і раней згоніць, бо тая Марыся ні на яго, ані на каго іншага і пляваць не хоча *(пакасіўся на Янку).* Ёй іншы ў галаве. Валахоўскім толькі і ў галаве, што людское шчасце. Авечкі, бульба, бровары ім у галаве. Словам, нам раней у парабкі, Гладышэўскім — пазней. Цаной ганьбы... Што рабіць, дзядзька Цыкмун?

Чаховіч. Што ж я магу табе зрабіць, хлопча? Хіба скаргу за цябе напісаць?

Стафан. Каму?

Чаховіч. У сенат.

Янка. Што скарга? І ў нас было тое самае за сем год да майго нараджэння.

Чаховіч. Ну тады адразу з «всеподданнейшей жалобой». *(Вочы ўсё яшчэ заплюшчаныя, але на вуснах іранічная ўсмешка.)* Ну, *напрыклад, так:* «Ваше Императорское Величество, Августейший Монарх, Всемилостивейший Государь. Просит такой-то отставной арендатор, жительствующий там-то. Всеподданнейшая жалоба. Правительствующий Сенат по такому-то Департаменту, рассмотрев такого-то числа... определил. Решение это, как несогласное с обстоятельствами дела и с точным смыслом таких-то законов, я нахожу неправильным по следующим основаниям... представляя при сём...»

Стафан. Будзе вам цар гэткае глупства разглядаць.

Чаховіч. Угу. І таму: «Всеподданнейше прошу: Дабы повелено было настоящее дело передать на рассмотрение на Общее Собрание Правительствующего Сената»... Тых жа, хто пазбавіў яго шляхецтва, а цябе — зямлі... А ты — умову аб арэндзе. А ён тады — прашэнне «о взыскании арендной платы с наложением ареста на движимость».

Стафан. А ён куды? Цару?

Чаховіч. Будзе ён пэцкацца. «Его Высокородию Г-ну Мировому судье такого-то участка... По такому-

то договору такой-то взял у меня в аренду то-то на такой-то срок, обязавшись, по истечению такого-то срока, очистить беспрепятственно оный участок и подчиняясь в противном случае неустойке по столько-то рублей в день. Обязательства сего ответчик добровольно не исполнил, по истечении срока контракта участка не очистил... Ввиду вышеизложенного, представляя при сём... договор найма... а также судебных пошлин и сбора за бумагу». А ты «прашэнне аб вызваленні, што заплочана». А ён: «На основании, представляя при сём подлинный... с подписями на оном... прошу Ваше Высокородие о взыскании... с судебными и за ведение дела издержками, с предварительным обеспечением этого иска...»

Стафан. Памрэ бацька. Хворы.

Чаховіч. «Такой-то, ныне умерший, должен мне такую-то сумму по арендному договору... Представляя настоящий иск к лицу умершего собственника на основании 215, 752, 960 ст. Устава Гражданского Судопроизводства».

Стафан. Што ж рабіць?

Чаховіч. Ведаць, што ты жывеш у вялікім імперскім свінстве *(расплюшчыў вострыя вочы)* «от финских хладных скал до пламенной Колхиды».

Стафан. Усё. Ды я тады — за сякеру... Ды я ім — пеўня чырвонага.

Чаховіч. Гэх, думалі б вы так сорак год назад. Не стаялі б убаку. Не верылі брахні. Былі б з намі — мокрае месца ад іх асталося б.

Стафан. Застанецца.

Чаховіч. Гінулі мы тады адны. І чым я магу памагчы табе? Сагнанаму арандатару былы катаржнік, а сённяшні напалову жабрак.

Стафан. Мокрае месца... Толькі зараз *мы* адны згінем. Усё адно вы — паны.

Чаховіч. Чаму?

Стафан. Усё адно вы — паны. Гаворыце — не па-нашаму. Пішаце — не зразумець. Праўду, відаць, ад нас пад зямлю схавалі, зааралі, каменем прыціснулі.

Выбег, ледзь не сутыкнуўшыся ў дзвярах з Аконамам.

Аконам. Нех бэндзе пахвалёны...

Чаховіч. Няма за што хваліць... Ну, што там?

А к о н а м *(ён споўнены самага нязноснага гонару, бо цвёрда ўпэўнены, што ўмее гаварыць па-польску).* Пані скаржыся, жэ мужыцы ходзёнць па садон. Могонць држэвы обэбіць. Могонць држэвы абэнбіць, абэрваць.

Ч а х о в і ч. Ты лічыш, што па-польску «абэнбіць» — гэта па-тутэйшаму «абабіць», а «абэрваць», адарвацца, надарвацца — гэта «абарваць».

А к о н а м. А ліха, пшэпрашам, паньства ведае. Вядома... Нестэты, пані...

Ч а х о в і ч. У пані — палац. У мяне — пакой у флігелі. Я не хаджу да пані. Яна — да мяне. Яны, мужыкі,— і дарэчы вось гэты «мужык», у якім блакітнай крыві больш, чым у цябе, вялебны пане Пшыпердзіньскі,— не ходзяць параднай брамай. Яны ходзяць чорнай форткай. Як я. Так ёй і скажы.

А к о н а м. А калі яна, скажам, звернецца ды *с к а ж а я ш ч э н е д з е?*

Ч а х о в і ч. У «блакітным» доме?

А к о н а м. У «жоўтым» доме... Пан глову сву барзо змэнціл. Тржэба пану гловон одпоцёнць.

Гэта гучыць так нясцерпна, што Чаховіч не вытрымаў

Ч а х о в і ч. Як ты смееш, хамуйла, не ведаючы, польскую мову перакручваць ды псаваць?! Згінь, варона!!!

А к о н а м знікае.

Ах, быдла! Ах, якое паскуднае быдла!

Я н к а *(крыху азадачаны).* Вас так абразіла зняважаная мова польская?

Ч а х о в і ч. Ат, глупства... Аднойчы мужык у лесе ўбачыў, што маланкі б'юць у корч. Аж гэта бог ваюе з чортам, ды ніяк не трапіць. А чорт на кожную маланку — дулю, дулю ў неба. Мужык падумаў: «Трэба памагчы». Зарадзіў стрэльбу срэбнай куляй ды я-ак пальне — чорт і пятамі накрыўся. Тут з неба голас: «Бэндзеш збавёны». Мужык за галаву схапіўся: «Маці мая, і там палякі...» *Я т у т э й ш ы — м о в ы п о л ь с к а й.* А жонка мая, Анэля Арамавічуўна, з польскіх лютэранак. Рэч ненатуральная. Усё адно як шчаслівы геній, смярдзючая ружа... манарх-дэмакрат... дыктатар-народалюбца... свядомы свайго паходжання тутэйшы. Дый дзеці мае... большыя като-

лікі, чым папа рымскі. Больш самотнага ўявіць сабе нельга. Адзін. Чужы я. Усім.

Янка. Таму што калісь паверылі, нібы вы з сябрамі хочаце прыгон вярнуць, зноў людзей прадаваць?

Чаховіч. І таму. Гінулі за вас. А народ паверыў агульнаму нашаму ворагу *(разглядае сухія кулакі).* Шкада, што ў свой час не здолелі па-сапраўднаму ўдарыць. Нават не за сябе, не за мужыка шкада. Шкада дзеля таго, што ходзяць па зямлі вось такія хамуйлы. Разбэшчаныя сваім рабствам перад моцнымі. Сваёй «уладай» над слабымі. А была ж у нас агульная справа.

Янка. І загінула.

Чаховіч. Так, знайшліся кнігаўкі, канюхі. Памятаеш казку: усе звяры і птушкі капалі студні, рэкі, ручаінкі, каб на зямлі была вада. А канюх сказаў, што працаваць не будзе, што яму і расы хопіць. І бог сказаў яму: хоць бы ты здыхаў, то нават у паводку будзеш прасіць «піць»!

У гэты час зноў, яшчэ больш настойліва загучаў Голас:

«...Боская кара ўсіх мусіць спаткаць
Тых, хто, баючыся цярпення і мукі,
Не хоча папраўдзе для ўсіх працаваць.
Дык ведайце ж, браткі, хто к працы вялікай
З вас рук прылажыць не захоча сваіх,
Такому бог скажа: «Піць!» Цэлы век клікай
І будзь праклінаны ад брацьцяў сваіх».

Янка *(схамянуўшыся).* Вы сказалі нешта, пане Цыкмун?

Чаховіч *(са здзіўленнем).* Не... А... што такое?

Янка. Разумееце, галасы. Ні ўдзень ні ўначы не даюць спакою. Вырвацца хочуць, сказаць. Як хворы я.

Чаховіч *(занадта ўважліва глядзіць на яго).* Быць табе нечым або вельмі дрэнным, або надта добрым. Прапаведнікам, місіянерам сярод глухіх абэлтусаў... Паэтай.

Янка. Але яны... не па-польску... І... ні на якой іншай мове.

Чаховіч. А ты паляк?

Янка. Хто ведае. У касцёле... Дый там, як гэны аконам.

Чаховіч. Ну, гэта крый цябе божа.

Янка. Проста... тутэйшы я.

Чаховіч. Ну, гэта ўжо лепей. Але такога яшчэ ніхто не рабіў. Дый як рабіць? Гавораць — і я таксама — як з пушчы.

Янка. Гавораць прыгожа. Запісаць няма як.

Чаховіч. Запісаць?.. Ну-у.

Янка. Пане *(бярэ кнігу)*, а вось тут у «Філасофіі гісторыі польскай». Нейкія лісткі невялічкія. І... неяк больш падобна як у нас людзі гавораць.

Чаховіч *(бярэ лісткі)*. А-ёй. А я яшчэ й гадаў, куды я іх тады засунуў. Глядзі, і пры вобыску не знайшлі. Ну-у, шчаслівы мой бог. А тое б не дванаццаць год катаргі, а... *(Паціраe шыю.)*

Янка. Словы незвычайныя — мароз па скуры.

Чаховіч. Словы звычайныя. Сэнс незвычайны — таму і мароз. «І як добра слуга глядзіць худобы гаспадарскай і слухае свайго гаспадара, так добры ронд, урад, глядзець павінен шчасця людзей, слухаць народу і рабіць так, як народаві лепей... бо не народ зроблены для ронду, а ронд для народу. А ў нас, дзецюкі, чы гэтак?» Ну так, так. Суды — воўчая яма. Войска — не каб людзей берагчы, а не дазволіць народу і застагнаць... «Дзяры з нас, цар, дзяры з нас, чыноўнікі яго, хаця да астатняй шкуры; но памятайце, што і на вас прыйдзе пара...» І салдатчына *(бярэ другі лісток)*: «Забыці там трэба, што ёсць у нас наша бацькаўшчына... І аддаць жыццё не за дабро і шчасце ўсіх, а за ліха і вечную няволю нашых братоў».

Янка. Хто гэта?

Чаховіч. Гэта мой сябар. Ліцвін, сепарыста. Тутэйшы.

Янка. Словы. Нашы словы.

Чаховіч. Сябе не помніў ад захаплення гэтым... І быў лепшы на свеце чалавек, якога мне даводзілася сустракаць... І быў павешаны за гэта.

Янка. Як... за слова?

Чаховіч. За справу і слова. Кастусь-Вікенці Каліноўскі. Дваццаці шасці год.

Янка. На сем год старэйшы. Няўжо ў такія гады можна зрабіцца настолькі страшным?

Зноў за акном грымоты, але чуюцца стрэлы, тупат ног, гарматныя залпы. І святло маланак як пажар.

Чаховіч. Якія раннія навальніцы ў гэтым годзе.

Яшчэ ж і вясны амаль няма. Грыміць і грыміць.

Я н к а. Прарочыць нешта.

Ч а х о в і ч. Што нам можа нешта прарочыць? Знову кроў... І вось нічога. Нічога мы не здабылі тады сваёй крывёй. Бо чужыя. Не душою — словам... І вось лепшым — шыбеніцы. А тым, што крыху горай,— тачкі ў рудніках. Ведаеш, што такое Нерчынскія горы? Гэта свінцова-срэбныя шахты. Вось мяне — туды. А я ж быў толькі сябрам Кастуся. І экспедытарам паўстання. А ты ведаеш, што такое свінцовае атручванне? Гэта калі дыхаеш пылам, што змяшчае свінец. Дзясны аспіднага колеру... Нудзіць... Баліць... Колікі... Эпілептычныя сутаргі... Растройства розуму... Паралюш. Чаму на золаце пад Нерчынскам катаргу адмянілі, а на свінцы — не? Таму што нармальны чалавек на свінец не пойдзе.

Я н к а. І гэта — за слова?

Ч а х о в і ч. Слова. «Спачатку было Слова. І Слова было ў бога. І бог быў Слова». Я да свінцовага скону не дайшоў. Лічылі: ідэаліст. Але, ідэаліст. Але ідэалізм у сэнсе адданасці ідэі — гэта не матэрыялізм напхатага пуза...

Я н к а. І вось мужыкоў зганяюць з зямлі.

Ч а х о в і ч. Кідаюць яны свае верасовыя пусткі, ідуць у свет, галадаюць.

Я н к а *(дастаючы хатулёк, муляецца)*. Пане Цыкмун... Вось тут... Сыру крыху. Прабачце... Масла... Ну, вяндліны...

Узнятая рука старога здрыганулася. Ён адыходзіць да акна. Маўчанне. Стары маўчыць, і ў яго калоцяцца худыя лапаткі.

Ды не біце вы мяне.

Ч а х о в і ч *(справіўшыся)*. Нічога. Нічога. Гэта прайшло. Толькі мы будзем разам. Разам.

Яны раскладаюць ежу на століку. Янка толькі робіць выгляд, што есць.

Сынок... Дзякуй табе... Гэта мне ўзнагарода... За чужую жонку. Чужых дзяцей... Чужы народ... Нездарма мы... Я... І калісьці ўсе разам за адзін стол. Я не дажыву, можа, і ты. Але разам за адзін стол...

Я н к а. Як зрабіць гэта?

Ч а х о в і ч. Не ведаю. Кожны памыляецца, і шукае, і знаходзіць сваё Слова *с а м*. Ва ўсякім разе

памагай табе бог на тваім шляху. Табе. І Стафану Калядзе... І тысячам такім іншым... што елі сала тутэйшых і не паважалі іх. І за гэта паплаціліся.

Янка (*глуха*). Вы так бядуеце. Чаму б вам не кінуць гэтыя Бясяды, жонку, якая для вас нядобрая.

Чаховіч. Я напаўлегальны. Акрамя таго, тут частка і майго маёнтка.

Янка. Ды нашто ён вам? Вы такі багаты. Вось гэтым (*паказвае на кнігі*). Тысячы людзей, тысячы сяброў. А тут... ледзь не адзін я, малапісьменны хлопец.

Чаховіч. І, можа, адзінае маё апраўданне... І яшчэ — гэта мая таямніца. Адкрыць яе пакуль не магу. Але гэта, акрамя, можа, цябе, адзінае, што трымае мяне пры жыцці. (*Стары амаль велічны.*) Помні, *таямніца.*

*Заслона*

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Ранняя вясна. Каля муроў цвінтара Багаяўленскай царквы ў Лагойску — нядзельны кірмаш. Але ён шуміць недзе наводдаль, а тут толькі стаяць некалькі распрэжаных вазоў, ды на цвінтары жабракі і жабрачкі спяваюць «Лазара»:

Як жыў сабе Лазар, чалавек убогі,
Ён лезны — балесны, сільна ўрадлівы.
Як пайшоў ды Лазар к брату-багачу,
Брату-багачу пад ягонае вакно.
«Ня ёсць ты мой брат, а ёсць люты пёс,—
Ёсць у мяне браткі — не роўня табе,
Ёсць у мяне браткі — у кроплю як сам,
Такія як сам — найраскошны пан»...
Ў гнаю ляжаў Лазар трыццаць тры гады,
Перад брамай багатавай братавай.

І яшчэ сядзіць ля мура Лірнік, спявае «Плач Адама»:

Ужо ж мы не бачым
Прасветлага раю,
Ужо ж мы не чуем
Янгальскага гласу!
Вочы нашы — ямы,
Руцы нашы — грабы:
Што вочы забачуць,
То руцы заграбюць,
Што маем, то мала,
Ажно ўсяго многа
Пад небам высокім
У господа бога.

*На камені сядзіць Янка і слухае Лірніка.*

Янка. Ну і што з таго, што ўсяго многа, дзеду?

Лірнік. Усяго многа. Праўды мала... Усё жыццё пра тую праўду і я і унь яны, на цвінтары, спяваюць, а не вымалілі яе.

Жабракі.

Не было ў тым доме набожнай душы,
Балеснаму Лазару хлеба-солі даці,
Сваёй душы царствія ўратаваці.
Толькі былі ў тым двары два лютыя псы:
Яны па падстоллю заўжды хадзілі
І дробныя крошкі сазбіралі,
Балеснаму Лазару у гной насілі
І тым яго душу-цела заўжды жывілі...

Янка. Толькі яны?

Лірнік. Толькі. І няма яшчэ голасу гэткага моцнага, каб вымаліць праўду.

*З'яўляецца Стафан Каляда.*

Стафан. У-у, Янук.

Янка. Здароў, Стафан.

Стафан. А я думаю: у лірнікі ты гэта пайшоў, дзе пад лагойскім багаяўленнем праўду вымольваеш.

Янка. З маім голасам? Жартуеш...

Стафан. Ты дзе?

Янка. Ды па-ранейшаму. Бацькі ў Селішчы. Я вось вучылішча скончыў, ды да іх. А ты?

Стафан. Значыць, канчай не канчай — усё адно плуг... А мы вось не вымалілі праўды. Згоняць нас вось-вось. Валахоўскі лютуе. Мы сёння пойдзем... Ну, Гладышэўскіх, можа, часова пашкадуюць. Казік у бацькі, на Марысю паглядаючы, на гадок адмоліць.

Янка. Жэніцца?

Стафан. Гэ-э. Ён? Неба хутчэй упадзе... Слухай, Янка. Толькі ў яе і размовы, што пра цябе. А мне гэта...

Янка. А я ні ў чым табе перашкаджаць не хачу.

Стафан. Што, не падабаецца?

Янка. Ды не, хутчэй наадварот.

Стафан. Баішся, што бацька хворы, а ты — старэйшы з сямёх дзяцей?

Янка. Гэта мяне не спыніла б. Рукі моцныя — побач, сэрца добрае — ля майго. Але як быццам нехта

забарону паклаў... На сем замкоў браму да яе замкнуў.

Стафан. Дык ты...

Янка. Не бойся. Нічога ёй не скажу.

Стафан. А *сама* яна скажа?

Янка. І на гэта не адкажу нічога... Ты лепей унь туды паглядзі.

З'яўляецца Марыся ў таварыстве Агаты, Магдзі і Евы. Да іх павольна набліжаецца Казік Валахоўскі.

Казік. Дзень добры, паненкі.

Марыся. Здароў быў, пан Казімір.

Агата. А гожанькі... Як макаўка.

Магдзя. Як макаўка, калі асыплецца.

Ева. Нічога яшчэ. Пакуль каласы на палёх ды сады не асыпаліся.

Казік. Але ж паненкі, як кветкі ў крапіве. Што вам сярод гэтых?

Марыся. Чаму? Тут не толькі яны. Тут кампанія пажондная. Унь пад багаяўленнем усе Тышкевічы ляжаць.

Магдзя. Графы. І тут жа побач з жабраком Янка сядзіць... «Чатыры панове на адным канёве».

Марыся. Магдзя, не руш.

Ева. І праўда. Калі з вас ніхто, то я б з ім у садочку пасядзела б. Яблык знайшла.

Агата. Ох, патрэбныя мы ўсе яму. Што за чалавек? Іосіф прыўкрасны? Ляксей — чалавек божы?

Марыся. Смяецеся.

Агата. Я — не.

Марыся. А ён нібыта й сапраўды нейкай сілай абраны.

Казік. Гэты? Н-ну... Гэта прабачце ўжо. Добры хлоп, але бардзо смердзі.

Марыся. Яшчэ скажыце такое, пан Казімір,— тады ідзіце лепей.

Аддаляюцца.

Стафан. Бачыў?

Янка. Бачыў.

Стафан. Галаву я яму развалю, бабздыру.

Янка. Кінь, Стафан, не чапай гною.

Стафан. За што ж такая дзяльба ад бога? Разлезлік, гад, няроба — і ўсё ў яго. А ў нас усіх мазалі з рук не злазяць, а мы сярод жабракоў.

Янка. І адны лірнікі за нас... Куды ж ты зараз?

Стафан. Не ведаю. У салдаты — за трыццатую гару загоняць. У найміты — зноў нейкаму Казіку кланяйся. У разбойнікі — багатыя галаву здымуць. У стражнікі — сволаччу станеш, беднага пакрыўдзіш, братам будзеш чужы... Не ведаю.

Лірнік. Праўду ідзіце шукаць.

Янка. Дзе? Нават дзе была яна — няма. Дзе былі дабрыня, шчырасць, вера ў людзей — балота лягло безнадзейнае. Баяцца, хлусяць, ваўкоў хваляць — а мо воўк яго апошняга зарэжа?

Лірнік. І тое. Вось тут па Гайне-рацэ крыніцы былі. Пахнулі — як з пекла, жалезам ды серай. І прыводзілі ўтрапёных, і расслабленых, і паралюшных, і былі ім палёгка і вылячэнне. А зараз? Гразь адна.

Янка. Па ўсім тутэйшым наваколлі — гразь.

Набліжаюцца Агата, Магдзя і Ева.

Стафан. Зноў сарокі гэтыя. А Казік недзе з ёй. Пайду я.

Ідзе. Дзяўчаты прыблізіліся.

Магдзя. Пане божа. А мы глядзім, хто гэта. А гэта ж Яначка-закутнічак.

Ева. Не, дзяўчаты, гэта вы дарэмна. Гэта ён так, а ў душы ён да дзяўчат лісцімон. *(Наіўна.)* А я б і не лаялася, каб ён ля мяне лісцімоніў.

Янка. Славяда ты. Авечка закруцістая. Ты ж мазгі ўсім закруціш. Хоць касмылі прычашы.

Магдзя. Ы-ы, ы-ы, атрутнік гэны. Яшчэ хваліцца, што з лавы валіцца.

Янка. Агонь бы вас, дзеўкі, вымачыў, вада б выпаліла. Замуж бы вам далёка выйсці.

Агата *(з раптоўнай сур'ёзнасцю).* А сяя-тая можа й далёка выйсці...

Янка. Куды?

Агата. Дзе звону касцёльнага не чуваць.

Янка. Мне што?

Ева. Пагаварыць трэба.

Янка. Я нікуды не ўцякаю. Толькі... дарэмна гэта. Хочаце, каб Стафан да вечара не дадыхаў.

Ева. Не выдумвай.

Магдзя. Каб твайму Стафану сто гадоў жыць і сто гадоў ногі валачыць. Няўклюда гэткі.

Ева. Дык помні.

Янка. А што, калі забуду, дык мяне рак убрыкне?

Магдзя. Качка цябе тады ўбрыкне, а камары затаўкуць.

Пайшлі. Янка толькі круціць галавою.

Янка. Ну, дзе-еўкі. Ну, каб ім елася хутка, работалася доўга.

Лірнік. Каб ім на старасць кот яйка знёс, а ваўкі па іх голас вялі.

Янка. Аж у пот кінула.

Лірнік. А што ты думаеш? У нас такі-ія.

Падыходзіць Марыся.

Марыся. Адыдзем, Янка?

Янка ўстае і адыходзіць.

Сядзем? *(Прыселі на выступ мура.)* Што гэта ты, сугней такі, каб ты ўдзень зорак не бачыў. Хлопцы з дзеўкамі, мужыкі з бабамі ля карчмы. Музыка там, скокі.

Янка *(на лірніка).* Унь`мая музыка.

Марыся. А дзяўчачыя спевы табе не музыка?

Янка. Кожнаму дню — свая музыка. І на сённяшні дзень розная яна ў мяне і ў цябе.

Марыся. Праўда?.. Да канца праўда?

Янка. Так. Нікога не хачу падманваць. І асабліва цябе. Як самую ўлюбёную сястру. Як і сонца і неба. Бо не ведаю, што я магу табе даць.

Марыся. Усё на свеце.

Янка. Я не ведаю, што я ў гэтым свеце, а ты мне кажаш, што я — усё. А раптам я паабяцаю табе залатыя яблык, а выявіцца, што я зацвілы сухар. Не хачу рабіць такога людзям. А табе — стакрот. Чыстымі вачыма хачу глядзець табе ў вочы. Асабліва таму, што хацеў бы глядзець доўга.

Марыся. Янка... Янка... Бацькі пана баяцца... Казік толькі што сказаў, што ўтопіцца... Абяцаў — сватоў зашле... А мне гэта — атрута смяротная.

Янка. Найбольш сорамна — адмовіць у глытку вады. Мне — сорамна.

Марыся. Ты лічыш — я прасіць падышла. Ды не, тут няпраўда твая. Мяне прасіць не вучылі. Мяне рабіць вучылі. Браць па праву заробленае.

Увальваецца ў кола дзяўчат Казік Валахоўскі, крыху на падпітку. З другога боку Стафан Каляда.

Унь яны — яшчэ дзве дарогі. Не на табе свет клінам.

Янка. Я рады... за Стафана.

Марыся. А я — невядома за каго радая. Гэй, дзяўчаты, кола!

За гарою зайчыкі трубяць,
Чаму мяне дзеўкі любяць?
Злажэцеся, хлопцы, па грошу,
Купеце мне ленту харошу,
Буду тую ленту насіці,
Будуць мяне хлопцы любіці.

*(Танец.)*

Агата.

Ой, да мяне ходзіць
Малады Ясенька,
Сам бялявы, вус чарнявы,
Белае лічэнька.

Ева.

Дзяўчынанька панна,
Маё маляванне,
Падай жа мне белу ручку
Цераз дыляванне!

Магдзя.

Ой, ручкі не дам я,
Мая ручка бяла,
Я такімі панічамі
Платы падпірала.

Марыся.

Ой, ты думаў, дурню,
Што я цябе люблю,
Каля цябе стою,
З цябе смешкі строю.

Казік. Гэй, людцы! Усё ёсць. Поле нямеранае, грошай — сам не ведаю. Чаляднікаў — роту маю... Чаляднік! Блажэй-фурман, да яснай халеры.

Блажэй *(з'яўляецца і ляскае бізуном)*. Тут, Казю найяснейшы.

Казік. Бенкетоваць. Кумаёў-любаўёў заклікаць. *(Да Марысі.)* Ну, рончку бялу. Князёў-баяр сюды!

Блажэй. Роту-пяхоту, прапышную чэлядзь!

Натоўп вывальваецца са сцэны.

Лірнік *(ціха)*. Я хаця і адным вокам, але святло крыху бачу. Што ты за камень у гэтае гадзючае кубло кінуў? Чаму дзяўчына так раз'юшылася?

Янка. Нешта кліча. Сілы ў сабе адчуваю вялікія. Не магу іх закапаць у зямлю, думаць аб зямлі, гаспадары, дзяўчатах.

Лірнік. Што, зусім не думаць?

Янка. Якраз не. Няма на свеце прыгажэйшых за нашых дзяўчат. Але, адчуваю. Здайся — і пойдзе тая самая арэнда, дзеці, гаспадарка, кавалак малой зямлі. А мне, адчуваю, і на вялікім чамусьці цесна. Жыву — нібы чакаю чагосьці. Нібы трэба кагосьці ратаваць. Не аднаго — многія тысячы. А як? Чым?.. Не ведаю. *(Паўза.)* І галоўнае, словы... Найлепшыя на свеце. Гучаць, гучаць у душы. А аб чым? Якім глаголам гучаць — не разумею.

І зноў увальваецца дзікі натоўп.

Казік. Чаму не ўсе пайшлі... у карчму... Ты, з лірай... І ты, Луцэвічаў псюк.

Янка *(спакойна)*. А няма чаго туды ісці. Дзе ты — там і карчма. Хаця й не п'юць — рыгаць хочацца.

Казік. Цо? Цо ты гадаш? Гальцапа ты гэткая.

Янка. Змоўч ужо, гадота цэлага свету.

Казік. Ты, ты... гіцаль!

Марыся. Разыдзіцеся вы, пеўні.

Казік *(крыху адышоў)*. Ды я яго за шэлег куплю.

Стафан. За шэлег? А я вось табе.

Казік. Адкасніся, галадранец *(хапае Янку загрудкі)*.

Стафан. Ты на нашых хлопцаў?! На дзяўчат? За камень гарачы хапайся, а не за іх.

Блажэй *(спалоханы)*. Вураднік ідзе! Снулы!

З-за царквы выплывае ўраднік з двума стражнікамі.

Снулы. Тут што такое?

Блажэй. Дык, Рахцей Рахцеевіч...

Снулы. Ерафей Ерафеевіч.

Блажэй. Рах... Рахце... Пшэпрашам... Гулялі... А гэтыя да паніча біцца палезлі.

Марыся. Няпраўда!

Стафан. Казюк пагражаў, што ўсіх за шэлег купіць!

Снулы. Пло-оха. І міня?
Казік. Ды што вы, хіба вам шэлег цана?
Янка. Дарагі вы наш... дарагі.
Казік. І куплю! Усё куплю!
Жабракі на цвінтары.

Цяпер я багаты, бога не баюся,
Ад наглая смерці грашмі адкуплюся,
Да царства нябеснага я сам набліжуся,
А ад злога чалавека з ружжа адаб'юся.

Лірнік *(падхапіў)*.

Ад лютага звера псамі адцкуюся,
Ад брата Лазара навек адракуся.

Снулы. Што-о. Какурат бунт?! Страж!

Адзін са стражнікаў вырывае ліру з рук старога. Янка схапіў яго, але стражнік ужо адкінуў ліру ўбок. Там яе паддаў наском Блажэй. А пасля на яе цяжка апусціўся бот Снулага.

Я вам урэмя пакажу спяваць катаржныя свае песні.

І тут яго ўразіла дзіўная цішыня і твары людзей. Яшчэ дагасаюць енкам струны ліры. І маўчанне страшней за крык.

Разыдзісь *(голас у Снулага няўпэўнены)*. Ціха.

Пайшоў з плошчы. За ім паступова разыходзяцца людзі. Памкнулася была да Янкі дый пайшла Марыся. Хацеў быў сказаць нешта, ды, зірнуўшы на Янку, павалокся прэч Казік. Янка ўзняў знявечаную ліру.

Янка. Ну... дзе ж цяпер шукаць апошняе слова?
Лірнік. Ліра будзе. А слова — у песні, у казцы.
Стафан *(адыходзячы)*. Казкі? Не, тут казкамі не пахне.

Лірнік. А ісці? Ісці па праўду. Жывая яна недзе ў госпада бога.

Янка. Мы адны. А колькі ж іх. Абыякавых, чужых, моцных.

Лірнік. А ты забудзь гэты дзень і сябе. Ты ідзі за ўсімі, за моцнымі. Лягчэй. Не прападзеш... Унь за такімі, як гэтыя.

Голас. Божа! Гэткі свет тут
Моц стварыла твая!
Дзе ж мой дом, дзе ж мой люд?
Дзе айчызна мая?

Янка. Чуў голас?

Лірнік. Не.

Янка (*разгублена*). А я чуў (*ашчаперыў галаву рукамі*). Забыў. Забыў.

Лірнік. Каб крыніцы не былі такія запушчаныя — лячыўся б з іх.

Янка (*амаль непрытомна*). Каб крыніцы не такія запушчаныя...

І тут выбягае да іх Марыся.

Марыся. Янка. З Селішча Адам прыехаў. Спяшайся дахаты. З бацькам дрэнна.

Янка (*непаслухмянымі вуснамі*). Што? Што?

Марыся. А, што там! Не ўмею. Памірае ён... Калі ўжо... Што ж ты?

Янка. Іду, сястра. Вось табе і клічы-галасы. Вось табе і ліра. Ён — у зямлю. Я — на зямлю.

*Заслона*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

У цьмяным зарыве постаці чатырох чараўніц.

Першая. І вось ён ужо дарослы, той, ля калыскі якога мы тады стаялі.

Чацвёртая. І што паспеў зрабіць? Пахаваць бацьку, брата, дзвюх сёстраў. Папрацаваць трохі хатнім настаўнікам, «дарэктарам»... На такую працу ідуць дзеці ў трынаццаць год... Папрацаваць пісарам? Не атрымаць месца ў лясніцтве? Паслужыць малодшым прыказчыкам? Чалавекам, якому загадваюць?

Другая. Кожнаму нехта нешта загадвае. Пакуль ён не набіраецца мужнасці загадваць сам сабе. І толькі сабе.

Трэцяя. Пачаў співаць. Надрукаваў некалькі вершаў.

Чацвёртая. Не на матчынай мове. Пасрэдных вершаў. Ці гэтага вы ад яго чакалі, вы, што судзілі яму нейкі адметны лёс? Вось ён вярнуўся на зямлю. Вось ён зноў з сахою, бараной, касою і сякерай.

Другая. Нічога. Ён будзе араць, будзе сячы сякерай.

Першая. А каса? Каса прыдасца не толькі на сенажаці.

Трэцяя. І яму яшчэ адзінаццаць год да ўзросту Хрыста.

Чацвёртая. Байкі. Дый што ён зрабіў?

Трэцяя. Калі ёсць любоў, калі ты чалавек, а не быдла — ніколі не позна.

Другая. Усё яшчэ перад ім. Дзівосныя адвечныя песні. Курганы радзімы. Магілы над Дняпром.

Першая. І ўздыме ён Слова! І кліч, што зямля жыве. І людзі зведаюць, хто яны і куды ім ісці ад раскіданых гнёздаў.

Чацвёртая. Кіньце. Каго і чаму ён будзе вучыць? *Ён сам* не верыць пакінутаму *слову маці*. Ён ведае толькі, што ён тутэйшы. Ён сам не ведае, хто ён, куды яму ісці, хаця ягонае гняздо таксама раскідана.

Трэцяя. Свой шлях кожны знаходзіць і вызначае сабе сам.

Другая. Словы маці ў яго душы, казкі параба́каў — у сэрцы, песні народа — у вушах.

Чацвёртая. А колькі такіх? Са словамі, казкамі, песнямі заблукалі, як у лесе, і швэндаюцца па плошчах сярод п'яных, нібы валачашчыя сабакі, шлях свой згубіўшы. Азірніцеся вакол. Вы сляпыя.

Таюць у цемры постаці чараўніц. Пачынае гучаць усё галасней музыка. І ўрэшце яснее, і гэта ўжо хата на хутары ў Гладышэўскіх; а ў хаце ідзе вечарынка: песні, гульні моладзі, размовы старых... Янка сядзіць крыху ў баку і ад старых і ад моладзі.

Бацька Марысі. Піце, госцейкі, загрызайце чым бог паслаў. Скачыце ды смейцеся, каб так...

Матка Марысі. Каб так па вашых ворагах д'яблы скакалі ды смяяліся.

Бацька. Нічога не прапускайце. У бога ўсяго многа.

Агата.

Унадзіўся сівы конь,
Унадзіўся сівы конь,

Ева.

Памяў, стаптаў дзеўкам лён.
Памяў, стаптаў дзеўкам лён,
Дзеўкам лён,
Дзеўкам лён,
Памяў, стаптаў дзеўкам лён.

Юзук і Катра Гладышэўскія адышлі ад астатніх і ціха гавораць між сабой.

Маці. Дык што, Юзук, скажаш.

Бацька. Скажу як у байцы: «Мядзведзь за малым не задраў твайго Юзука».

Маці. Мядзведзь — стары Валахоўскі?

Бацька. А Кабздох, што мядзведзя пакуль трымае,— Казік.

Маці. Няўжо і канец?

Бацька. Па ўсім відаць. *(Дастае з кішэні світкі на калку паперыну.)* Праз два тыдні канец умовы.

Маці. Няўжо нічога нельга зрабіць?

Бацька. А ты унь Луцэвіча спытай, што рабіць, калі канчаецца тэрмін умовы.

Янка *(пачуў)*. Тады збіраюць рэчы і едуць на новае месца.

Бацька. Калі нехта захоча.

Янка. А вам што шкодзіць?

Бацька. Хто мяне, пажылога, захоча ў арандары? А дзеці — усе дзеўкі.

Янка. Пане Юзік, я разумею. Але кіньце. Недастойна.

Маці. Што ты ведаеш аб гэтым, галайстра гэткая?

Янка. Ведаю толькі, што галайстрам з падманшчыкамі, махлярамі, ашустамі, геморнікамі звязвацца не трэба. Кіньце і ідзіце.

Бацька. І, як вы, усё жыццё каці-полем? А мне унь у найме сказана: «Тэрмін... пяць год...» Пяць разоў перазаключалі ўмову. А цяпер я стары пёс. А як кінуць? Унь як яны, не нашага бога: «Арендатор может пользоваться лесом, растущим в имении, исключительно для нужд самого имения, но не для продажи». А я з гэтага лесу рукамі хату ўзвёў, пуні,

свірны, млын вадзяны. Я «не обращал луга в пашни и наоборот», я... «улучшал землю», я «арендные деньги и подати уплачивал сполна». А вось як пішуць: «вновь возведенные постройки оставить в пользу собственника и сдать, по окончании срока, всё имение со всеми его принадлежностями в таком состоянии, в каком оно было принято мною».

Марыся падышла ззаду і слухае.

«Жилые и нежилые строения, кои по окончании срока аренды остаются в пользу собственника или должны быть снесены по его указанию арендатором». Абплялі яны нас. З усіх бакоў. Нават бог іхнім языком загадвае, гаворыць, пагражае.

Янка. Гэта слова бога, у якога рогі.

Марыся. А тыя рогі і зламаць могуць.

Маці. Хто? Стафан — найміт? *(На Янку.)* Гэты?

Марыся. Нехта ды знойдзецца... Няўжо гэта канец, татка?

Бацька *(адыходзіць з маткай, махнуўшы рукой)*. Амаль, напэўна, канец... Хіба толькі... дзіва якое. *(Да Янкі.)* Пісьменны, скажы нам, дзе шукаць дзіва?

Янка. Не там, дзе шукаеце. *(Марысі.)* Так, да мура прыперлі. З усіх бакоў.

Марыся. Разваліць можна.

У хату ўваходзіць Стафан Калядa. Здалёк заўважае Марысю і Янку.

Стафан. Вечар добры ў хату. Во ўрэшце аблічча божыя, а не псіныя морды.

Бацька. А ты адкулека?

Стафан. З канторы.

Янка *(Марысі)*. Хіба галовы ім разваліць? Або, хутчэй, сваю падставіць?

Марыся *(проста)*. Што думаеш? Надумаешся да нечага?

Янка. Надумаюся. А пакуль — скардзіцца трэба.

Марыся *(правяла рукой яму па галаве)*. Ах, божанькаў лянок. Так табе і дадуць, добры да людзей... Лю-удзі. Гэты — скардзіцца, Стафан — цёмнаму лесу з-за рога сякерай пагражаць.

За вокнамі бліжэй і бліжэй ляскат колаў, тупат капытоў, дзікія галасы:

Ехалі малойцы
Гарамі, лясамі,
Прывязалі дзеўку
Да сасны касамі.
Выкрасалі агню
Трыма палашамі,
Запалілі сосну
Зверху з каранямі.

Рогат, выгукі нешта накшталт шабашу.

А пан — ён, Казік. Ён з вамі што хоча, то й робіць.

Я н к а *(сур'ёзна)*. Слухай, так мы не згаворымся. Я не майстра гаварыць. Толькі... ты сама, па-мойму, не вырашыла, з кім. Слова б не сказала, каб не няшчасце з бацькам.

М а р ы с я. Хто ведае?

Я н к а. Я ведаю. Дык вось, адкрый вочы. Кінем усё гэта. Ты мне — дужа харошая. Але ці не пашкадуеш? Я ўсё забуду, нават галасы. Я цяжка працаваць буду... І ты таксама. Будзе на нашых чатырох руках у мяне — маці і тры сястры. У цябе — бацькі і тры сястры. І чужыя куты.

М а р ы с я. І гэта ўсё. Унь гэты, што за акном,— той лес, зямлю за мяне падпаліць абяцае. А ты...

Я н к а. Я не абяцаю. Я гатовы рабіць.

М а р ы с я. І не знаходзіш слова? Ніводнага?

Я н к а. Нашто словы? Словы я пасля знайду. А пакуль вось гэтае маё слова і згода жыццё змяніць, загубіць голас невядомага бога, жыць з табой, надрывацца з табой, жыццё дзяліць, легчы пад адной хвояй — яно, па-мойму, вартае ўсіх абяцанняў падпаліць зямлю.

За акном галасы:

Адзін кажа: Я Марусю люблю,
Другі кажа: Я Марусю вазьму,
Трэці кажа: На каберцы стану.
Ёсць у мяне тры кані на стайні.
Адзін конік, як галка, чарненькі,
Другі конік, як голуб, сівенькі,
Трэці конік, як лебедзь, бяленькі.

Рогат. Гукі шаргунцоў.

М а р ы с я. Чуеш, бяленькі? Што мне да бяленькага-сівенькага, калі зямля пад капытам сцелецца ў чарненькага. Ну, слова скажы, скажы: «лебедзь», «галубка».

Янка. Няма ў нас слоў. Пасля знайду.

Марыся. А пакуль?

Янка. Жыці... памерці з табой.

Марыся. А пакуль словы ды песні *там?*

Янка. *Там* хлусня.

Марыся. А з табою? Няўжо скончыць, як бацькі сёння?

Янка. Можа, рай створым. А можа, і як яны. Хіба мала? Кепска хіба?

Марыся. Н-не ведаю... Кепска. Гляджу на іх.

Янка. Яны разам затое нажывалі зморшчыны... А я хлусіць табе не магу. Што я? Недавучка, вечны арандатар-палавіншчык на чужой зямлі. Няўдалы пісар, няўдалы прыказчык, няўдалы паэта... Але я — вось ён я. Проста я. З табою.

Марыся. Проста... Ён можа нявестай-паненкай ахвяраваць.

Янка. А я — жыццём, усім жыццём. Я чую ў сабе голас, але не ведаю пакуль, хто ён.

Марыся. А Казік ведае свой голас *(гэта ўжо з раздражненнем).*

Янка. Ягоны голас — баязлівец і слабак. І таму ён зрывае злосць на тых, хто ад яго залежыць, прыніжае і крыўдзіць іх... Сцвярджа-ае сябе. А мой голас... І я не дам яму волі з-за цябе... Вось мая ахвяра.

Марыся. Хлусіш... Дасі волі... І, думаю, горанька ты пашкадуеш.

Янка. Аб чым?

Марыся. Што слухаўся голасу, а не мяне.

Янка *(страпянуўшыся, нібы скінуў нешта).* Дзякуй.

Марыся. Гэта яшчэ за што?

Янка. За жорсткасць, з якой нагадала мне, хто я. За праўду, што не хочаш такога дня, як сёння ў бацькоў. І яшчэ за адно... я даў сабе волю. Забыўся.

Марыся. І яшчэ што?

Янка. І раз ужо так, то я ўспомніў: я не народжаны, каб рабіць няшчаснымі іншых.

Марыся. Каго?

Янка. На Стафана зірні. Глупства казаць такое, і ты, пачуўшы, засмяешся мне ў твар. Але гэты знойдзе словы, ён слязе тваёй не дасць упасці, ён кахае цябе і ў крыўду цябе не дасць. І яго нічый голас не кліча, акрамя твайго.

Марыся. Ну, дачакалася я ад цябе слова малітоўнага... за іншага.

Янка. Я аддаю табе ўсё — ты не бярэш. Тады — яго вазьмі, абы не Валаховіча. Іначай...

Марыся. Іначай?

Янка. Іначай ён наробіць страшнага. У яго няма голасу, але ў яго ёсць рукі.

Марыся *(з невымоўнай пагардай)*. А-ат. У яго рукі... парабкаваць. І ў цябе рукі — крэмзаць цёмныя глупствы.

Янка. Я не вінаваты, што пакуль цёмны. Але ты прыслухайся. У яго сэрца, нібы звон на пажары...

У хату ўвальваецца на чале некалькіх хлопцаў Казік.

Казік. Пахвалёны ў хату! Музыкі! Хто прыйшоў і як сустрэць трэба?!

Музыкі *(спачатку нязладжана, а пасля, калі Казік кінуў на бубен грошы, ладна завялі)*.

Ой ясным-ясна сонейка ў небе,
А ясней таго Казік у таткі.

Казік. Стоп! Гэх «А ці ясен месячык на зары, А ці весел хлопчычак на кані». Чуеце: вясельная. Захачу, то будзе й вясельная, і папам дзеля пазвону, і ксяндзам дзеля амбоны, і цару на карону.

Янка. І людзям для праклёну.

Фурман Блажэй пакасіўся на Янку, але нічога не сказаў.

Казік. Музыкі. Кожнаму пад пяту — рубель! І дзеўкам — рубель! Рубеце кадрэль!

Музыкі рванулі «Кадрыль». Скачуць некалькі параў.

Агата.

А ці я не дзеўка,
Ці я не паненка?

Казік *(куражыцца)*.

Ронкі як бячоўкі,
Спіна як начоўкі.

Магдзя.

А ці я не дзеўка?
Ці я не паненка?

Казік.

Крый божа, сасніцца
Гэткая цяліца.

Ева.

Толку з пана Казюка,
Што з Кабздоха малака.

Казік.

Не наскрэбці з Еўкі
Нават на прыпеўкі.

Марыся *(кінулася таксама ў скокі).*

А ці я не дзеўка,
Ці я не паненка?

Казік.

Сукеначка з радна
І з мордачкі ладна.

Марыся раптам азірнулася і ўбачыла, што Стафан набліжаецца да Янкі. Кінула скокі, якія точацца далей, і пайшла да Каляды. Той, убачыўшы гэта, таксама пацягнуўся да яе, як да магніту.

Стафан. Марыся. Апамятайся.

Марыся. Што «апамятайся»?

Стафан. Ратуйся ад яго.

Марыся. А хто тут ратунак? Хто музыкам плаціць — ягоныя й скокі. Чыя сіла — таго і халуі.

Стафан *(ціха, бо ўжо недалёка ад Янкі).* Ён такі самы халуй, як і ўсе. І ён трымае сябе так, нібы ўсё на зямельцы належыць яму. Ён усім, хто робіць, хоча давесці, што яны — ніжэй, што яны — нелюдзі. Вось ён хто.

Марыся. А ты хто? *(З разлікам на Янку.)* Нават не недавучка. Нават не арандатар-палавіншчык на чужой зямлі... Нават... галасоў не чуеш. Што мне? Парабчанская агульная «хата» за завескаю? А унь Казік... У іх маёнткі і фальваркі пад Радашкавічамі...

Янка. Шэры барон.

Марыся. І пад Селішчамі, і пад Бароўцамі. У іх усё, а ў вас?..

Стафан. Як табе не сорам?

Янка. Гэта праўда... Як табе не сорам?

Марыся. Падман лепшы за вашыя праўду і сорам... Казік, «Падушачку».

Танец пад песню ідзе павольна, але зачаравана.

Стафан. Божа мой, божа... Што ж тут рабіць? Праўда дзе, калі яна ў такіх?

Янка. Кінь. Няварта. Сёння я сам ледзь сябе не прадаў. А яна? Сама яна не ведае куды? Бачыш, вырашыла, што абышлася як лепей.

Стафан. Дык падмане ж. Падмане. Куды ж яна тады?

Янка. Сама захацела, каб падманулі. Мы з табою ёй — усё. Яна нам — нічога.

Стафан. Ад адчаю яна гэта! Што ты разумееш, пісьменны? Я мудрэйшы, я за яе... я...

Казік з Марысяю:

Вазьму цябе, дзеўка, замуж
Гэтаю вясною,
На падушачцы пуховай
Будзем спаць удвое.
На пуховай падушачцы
Мякусенька спаці,
Прыгожую дзяўчынаньку
Люба цалаваці.

Страціўшы галаву, Валахоўскі прыпаў да Марысіных вуснаў.

Бацька *(перахрысціўся, і ў поўнай цішыні прагучаў ягоны голас)*. Пане божа, гэта як?

Матка *(мармыча)*. Дзякуй, пане божа, дзякуй.

Стафан. За што дзякуй? За бессаромнасць? Што падмане? Гэй, Казюк, кныр ты паганы, трымай галаву!

Казік *(узяў з рук Блажэя шклянку, выхіліў)*. Змоўч, хаме. Не тваёй галаве на гэтай падушачцы ляжаць... Га-ла-ва. Угм. Якраз такая, якой зручна выбіваць вароты.

Стафан. А ў цябе галава? Якраз такая, на якой добра сячы дровы.

Казік. Пакуль дровы — ты адчыніш макітрай вароты. З маёй парабкоўскай і з майго маёнтка. Калі не помніш, што хлеб ма рогі, што пенёндз робі пенёндз. А ты робіш толькі даўгі, чуеш ты? *(Наступае на Стафана.)* І не для пса каўбаса. Бяры бацьку з маці на карак і — на ўсе бакі. Такіх, як ты, я па сто за шэлег куплю. І, як захачу, усіх куплю. Ідзі прэч!

Дастае з кішэняў грошы і шваркае імі аб падлогу. Пасля вытрас каліту. Стафан апешыў і ў поўнай цішыні зрабіў крок-другі да дзвярэй.

Збірайце! Усе! Хто не будзе — прэч!

Юзук Гладышэўскі схіляецца і пачынае падбіраць грошы.

Блажэй, шклянку! *(П'е.)* А ты, Стафан, вельκі пан,

помні, на маёй зямлі і па ўсёй зямлі «пенёндз пшэмавя, а правда мільчы».

Марыся. Та-ат...

Янка *(падымае Юзука).* Устаньце, бацька. *(Да Казіка.)* І гэта адзінае, чаго ты з польскага нахапаўся, як сучка блох? Дык вось табе і яшчэ адна польская мудрасць: «У трумны нема кешені». Для іншых: «У труны няма кішэняў».

І пасля паўзы, у злавеснай цішыні.

Падбяры грошы. Гэта наш пот — не твой.

Казік зацкавана азірнуўся, пачаў падбіраць.
Маўчанне. Пасля крыху апамятаўся.

Казік *(глуха).* Н-ну так... У гэтым стойле быдлячым я... Панна Марыся... хадзем. Нам не месца тут.

Маці. Доню... до...

Марыся *(вагаючыся).* Стафан... Янка...

Стафан. Ну?

Марыся. Перапрасіце гаспадароў. Што ж вы абразілі ўсіх...

Янка. Усіх?

У поўнай цішыні Марыся, апусціўшы галаву, ідзе да Казіка, той бярэ яе за руку, і яны выходзяць.

Стафан *(амаль шэптам, разгублена).* Я-ак ён мяне... Слова супраць не мог... Прападзе.

Янка. Калі яна так, калі з гэтым... Вялікі ты яшчэ дзіцёнак, Стафан.

Стафан *(глуха).* Нічога. Мы без слоў. Аднялі ў нас слова. Па чужых корчмах зацягалі. Хто мы зараз? Люд свінапасаў і смецяроў. Бесславесныя — але мы затое можам трымаць у руках сякеру. Печкі няма, але ўмеем мы трымаць у руках крэсіва. Умеем. Пачакайце.

Янка. Хто скажа? Дапаможа? Чаховіч? Хіба ён. Далёка? Не так ужо. Зусім, мабыць, стары саслабеў ад кепскай ежы, занядбанасці... Не... Усё адно да яго.

Ідуць да выхаду.

Бацька. Хлопцы!

Маці. Сынкі!

Стафан. Сынкі, а не панкі.

*Заслона*

Бібліятэка ў Чаховічавым флігелі. Усё як раней. Толькі мэбля нібыта не такая запыленая, расчынены вокны, ды парадзелі кніжныя паліцы: частка кніг, запакаваная, ляжыць на падлозе. Чаховіч сядзіць у крэсле, перад ім Аконам.

Чаховіч *(вочы ў яго заплюшчаныя)*. Далей.

Аконам. Бровар, пшэпрашам... Но і еншчэ грэбля для фолюша, сукнавальні.

Чаховіч. Гм, цікава. Прыбытак?

Аконам. Велькі.

Чаховіч. А пашэнне аб узроўні вады. Як там гэты... з... закон: «устроил на реке N фолюш и запрудою поднял воду до такой степени, что совершенно затопил прилегающие к сией реке в верхней её части луга, огороды и сады четырнадцати арендаторов, чем причинил им убыток на такую-то сумму».

Аконам. Не будзе ўбытку. Іх тэрмін канчаецца. А сады? Не бачылі мы з іх кіслага яблыка.

Чаховіч. А чатырнаццаць абяздоленых. А сады, дзе яны летам вячэралі.

Аконам. Быў бы дзе хамут, а шыя знойдзецца.

Чаховіч. Гэта апошняе распараджэнне пані?

Аконам. Так.

Чаховіч *(вочы ўсё яшчэ заплюшчаныя, страшным шэптам)*. Вон! Прэч адсюль, до яснэй холеры! Досыць ужо! Пасмакталі вы, пасмактаў ты сам крыві. Не выпэндзам, але прошэ вон! Пан цо, по-польску не розуме? Тады: «Вон, чтоб духом твоим в маёнтке не смердело». *(З заплюшчанымі вачыма кідае ў аконама, які рэціруецца, розныя рэчы.)* Я не дам, каб зямля пайшла на дно! Людзі будуць летам вячэраці ў садках, пакуль я жывы. Сагнаць арандатараў, га?! *(Кідае пантофлем і трапляе выпадкова ў Янку, які ўвайшоў.)*

Янка. Тут яшчэ адзін арандатар.

Чаховіч. Вон, смродзе!

Янка *(з усмешкай)*. Дык я пайду.

Чаховіч *(расплюшчыў вочы)*. Хто?.. Ян-нук... Малы Янук *(ускочыў)*. Які малы?! Сынок... Бог мой!.. Вялікі Янук... Трынаццацігадовы пастушок *(абдымае яго)*. А зараз — адбітак думкі боскай у вачах... Гатовы ўжо цалкам да чагосьці. Бог мой, узнагаро-

дзіў ты мяне за ўсё маё нявартае жыццё. Дзецко мое... Дзетухна ты мая!.. Сядай...

Усаджвае яго, завіхаецца па пакоі.

Я н к а. Нешта новае я ў маёнтку заўважыў. Ад тракту, ад касцёла да самага палаца — маладыя лістоўніцы.

Ч а х о в і ч. Я пасадзіў.

Я н к а. Чужое, не наша дрэва.

Ч а х о в і ч. Пінус ларыкс... Больш наша, чым думаеш... Ты ведаеш, якога дрэва ў імперыі найбольш?

Я н к а. Сасны?

Ч а х о в і ч. Лістоўніцы больш за ўсё. За кошт тых краёў, куды лепшых нашых людзей заганялі. Вось я і пасадзіў. На ўспамін. Я памру — а яны будуць расці. Мо і да пяцісот год, калі не знойдзецца ў дурня сякера. Людзі будуць глядзець. Успамінаць нас. Вясной шышкі чырвоныя, як наша кроў. Восенню — залаты пажар!

Я н к а *(дастаючы з пляцака).* Далёка стала да вас. Кідае нас лёс туды-сюды... Тут вось... шынкі кавалак... сыр... яшчэ сёе-тое. *(Чаховіч хвіліну сядзіць моўчкі. У яго дрыжаць рукі. Пасля ўстае, моўчкі здымае са спіртоўкі кафейнік, дастае з шафы бутэльку і кілішкі.)*

Ч а х о в і ч *(глуха).* Дзякуй. Акрамя некаторых, самых бедных, адзін ты быў у мяне. Я думаў, так і не аддзячу, не пачую цябе. Тым больш, збіраюся ў Вільню, паміраць. Цяпер можна.

Я н к а. Ды што адбылося?

Ч а х о в і ч. Анэля памерла. Царства ёй нямецкае. Гэта значыць лютэранскае. Цяпер аконама — вон, арандатараў — на месцы свае. Плату арэндную — знізіць. Прынамсі, пакуль я жывы. Шкада, што не ты мой сын. Гэтыя мае парасткі.

Я н к а. І вам не...

Ч а х о в і ч. Хочаш спытаць, ці не шкадую? Шкадую. Той шкадую, з якой ажаніўся, калі ўсе — і мы — чакалі паўстання і нашай перамогі. У-у, якая гэта дзяўчына была! Адданая ўся... як сонца аддадзена зямлі. Як я — ёй... Сцеражыся слабасці, сынок. Першы крок — гэта яшчэ твой, свабодны выбар. Другі крок можа зрабіць і раб.

Я н к а. Больш за ўсё не хачу рабства.

Чаховіч. І не рабі нат кроку да яго. Іначай — прапаў... Жанчыны, жонкі. Гэта хлусня, што адны мужыкі — ігракі. Бываюць і жанчыны. Частка ставіць на свайго мужчыну сумленна, у руднік ідзе за мужам. Частка, калі ён прайграў, кідае яго. Дурныя. Хіба Каліноўскі прайграў? *Я прайграў.* А горш за ўсё з ёй. З яе прагай быць сярод сільных. З такіх нараджаюцца жонкі дыктатараў.

Янка. А вы не з тых.

Чаховіч. Так. І... я не шкадую яе такой, якой яна стала. Мы пажаніліся ў пяцьдзесят дзевятым. У яе былі вось гэтыя Бясяды. У мяне — Мацковічы і Крашоны. Сто валок добрай зямлі. Тры тысячы маргоў. Дзве тысячы дзесяцін. І дзве тысячы сто трыццаць шэсць гэтых новых. Як іх... Гектараў. Ты ведаеш, я быў экспедытарам паўстання. І быў чалавекам захаплення, лёгка даваў кіраваць сабой. Калі белыя прыйшлі да ўлады, Кастусь паехаў камісарам на Гродзеншчыну, а я застаўся. Вось з чаго пачалася кара, з кампрамісу. Лепей бы на шыбеніцу з Кастусём... Арыштавалі... Паказанняў не даў. Зарана арыштавалі. Але частку маёмасці я, прадбачыўшы арышт, перавёў на жонку. І добра зрабіў. Бо разам з пажыццёвай катаргай *мае* маёнткі канфіскавалі. Прыкулі мяне ў Нерчынскіх рудніках да тачкі. Потым розныя паслабленні. Мылаварам быў у Іркуцку. Пасля ў Пермі, Смаленску, Варшаве. Каму патрэбен яшчэ адзін мылавар у Варшаве? Добра, што іркуцян і іншых паспеў крыху адмыць. Словам, амаль дзесяць год Сібіры, а пасля тут. Думаў, што ўратаваў частку майна ад канфіскацыі. А яна й на гэта лапу... Няшчасныя арандатары, няшчасныя мужыкі! Не, такую, якой яна зрабілася, я яе не шкадую.

Янка. І вы ўсе гэтыя гады?..

Чаховіч. Так, прыжывал. Вартаўнік пры чужым.

Янка. Але ж збераглі кнігі і рукапісы.

Чаховіч. Астатняга не шкада. Хай развальваецца гэта гняздо. Лепшага яно не вартае. Узнікне новае жыццё, хай варожае — *усё лепей таго, што было.* Вось так часам канчаецца каханне. Ці перажыў ты такое?

Янка *(пасля паўзы).* Перажыў.

Чаховіч. Вып'ем тады за два забітыя каханні...

Слухай, ідзі на маю зямлю. Толькі за падатак дзяржаве.

Янка. Не. У нас ужо ўмова на Бараўцы.

Чаховіч. Можа, і рацыя. Жыцця майго мала. А што пасля?

Янка. Хіба вось, можа... ёсць такая сям'я Стафана Каляды. І ён прападае па адной дзяўчыне.

Чаховіч (*занадта ўважліва*). Добра. Добра, што ты просьбіт толькі за іншых. Вып'ем *за іншых*.

Янка. Хіба што, можа, ужо позна.

Чаховіч. А можа, й не. Мне — позна. А табе, можа, й не.

Янка. І мне позна. Хіба — Стафану не?

Чаховіч. Ну, давай тады проста ціха заспяваем.

Спяваюць амаль шэптам, не дужа добрымі галасамі. І менавіта гэта кранае да глыбіні душы.

— Учора не быў, сягоння не быў.
Відаць, мой міленькі мяне пазабыў.
— Я не пазабыў, не пазабуду,
Сяду паеду, сем лет не буду.
— Язджай сабе з такой бяды.
Найму молайца з чужой стараны.
Пасаджу яго ў канцы стала,
Буду глядзець, як на сакала.
. . . . . . . . . . .
Учора звячора саколка была,
Сягоння рана расстраляна была.
Вот не жаль бы быў, каб дзе на лужку,
А гэта на грудзе, на жоўтым пяску.

Урываецца Аконам.

Аконам. Пане, што я чулем? Пан тыя ўчасткі спшэдалі?!

Чаховіч. Я сказаў, каб тут не смярдзела вашым духам. Вон! І без рэкамендацыі. Прахвост і без рэкамендацыі знойдзе гаспадара, якому будзе патрэбен. Кажыце дзякуй богу, што не адбіраю ў вас крадзенае. Брыдка.

Аконам знікае.

Янка. А вы ўсё ж пан. Таксама паказваеце ўладу.

Чаховіч. А над колькімі куражыўся ён? А я бяссіла глядзеў. Прыжывал, нахлебнік, аб'яўлены вар'ятам. Але гэтаму цяпер канец. Памятаеш, я казаў пра *таямніцу*.

Янка. Ну... Вы чагосьці чакалі?

Чаховіч. Чакаў. Смерці жонкі... Не глядзі на мяне, як на пачвару і страшыдла. Чакаў, абпляваны і прыніжаны ўсімі, акрамя адзінак. Але дачакаўся.

Янка. Чаго?

Чаховіч. *Я заплацію са спадчыны ўсе пазычкі і даўгі паўстання.*

Паўза.

Янка. А калі б... першы пайшлі вы?

Чаховіч. Значыць, я дарэмна ўсё жыццё цярпеў прыніжэнне. Ну, цяпер нехта кіне адзін сказ. «Первшым его чынэм было сплацэне пожычэк, зацёнгнентых на цэле повстаньчэ».

Янка. І што, сэнс жыцця — *у адным сказе?*

Чаховіч. Ну. Я не вінен нікому. Акрамя забітых, што самі абралі свой лёс. Паўстанне не вінна нікому. У сваёй галаве я трымаў гэты гросбух. *Але паўстанне не вінна нікому.* Я сплацію ягоны і свой доўг. Ніхто цяпер не скажа пра тутэйшых, пра беларусаў, што яны не плацяць свой доўг.

Янка. І ў гэтым усё?

Чаховіч. А ты што думаеш? У чым сэнс жыцця? Сплаціць свой доўг народу, які цябе нарадзіў. Сплаціць да канца і памерці. Не чакаючы падзякі.

Янка. Праз сорак год? Многія, мабыць, памерлі?

Чаховіч. Нічога, засталіся дзеці. Унукі. Пляменнікі. Калі ёсць той свет — яны раскажуць. Калі няма — у нас застанецца чыстае сумленне. *Паўстанне нікому не вінна.* Вінныя толькі тыя, хто вешаў і ссылаў нас. Але прыйдзе час — мы станем перад Праўдай з чыстымі рукамі. А ў іх рукі будуць па локаць у крыві.

Уваходзіць пакаёўка.

Пакаёўка. Пане. Тут прыехалі купцы наконт гаю.

Чаховіч. Хай пачакаюць. Пакарміце іх.

Пакаёўка. І тут яшчэ стражнік прыбягаў на кані ў Гайну. Ад ураднiка, ад Рахцея Рахцеевіча,

каб яму прычасць калом у глотцы. То ён казаў...

Чаховіч. Што?

Пакаёўка. Найміт ёсць у Валахоўскага. Каляда такі.

Янка. З ім нешта?!

Пакаёўка. Ды не з ім, братачка. З бацькам ягоным. Арандар сагнаны. Пагубіў...

Янка. Каго?

Пакаёўка. Не каго. Душу пагубіў. Узяў ды на браме ў Валаховіча ноччу павесіўся.

Янка *(Чаховічу)*. Позна я да вас прыйшоў.

Чаховіч *(да пакаёўкі)*. Заўважылі за ім нешта перад... гэтым?

Пакаёўка. А як жа. Удумлівы хадзіў. Бо тут яшчэ паніч з ягоным сынам за дзеўку заеліся. І сына ледзь з наймітаў не пагналі. А што дзеўка? Што ён, у касцёл з ёй пойдзе, паніч? Вось будзе яна цяпер праз слёзы бусла чакаць. Матку не слухала — бабку цяпер будзе слухаць.

Янка. Кінь. Бацькі яе і прадалі. Не людзі — саладуха пракіслая. Рабы. Каб хаця свяшчэнніка, а то яны бога вакол пальца абвесці хацелі, душу запрадаць.

Чаховіч. Яшчэ што?

Пакаёўка. У карчме, кажуць, казаў: «Вязуць дарогамі паваленыя дрэвы з майго калісьці гаю, воўну з авечак, што пасвіліся на маёй калісьці, адабранай зямлі. Зрабілі з мяне нішто. То ўжо хай бог ці д'ябал і гэтае нішто забіраюць...» І аб чым гэта ён?

Чаховіч *(глуха)*. Ідзі.

Пакаёўка выходзіць.

Ну вось так. Спазніліся. І ты і я... Вып'ем яшчэ за тры пагубленыя, бессалвесныя душы. *(Паўза.)* Ну як, галасы чуеш?.. Гэ-эх, у іншай краіне быць бы табе паэтам. А ў нас паэтаў, відаць, чорт выпалаў.

Янка. Я спрабую. Пару вершаў нават надрукавалі. Польскіх.

Чаховіч. Польскіх? Пасля Міцкевіча. Хаця і ён адсюль. Ну, прачытай, калі не жартуеш.

Янка.

Czarnych swarów dalecy
Ludzie prawdzie nie zdradzą

Możńi, biedni, kalecy
Ręce sobie podadzą.

Чаховіч. Падалі рукі. Валаховіч і Каляда. Яшчэ нешта.

Янка.

Miłuje jak jesteś szeroka i długa,
Pzed laty dwóchsetnie liczącej się miary,
Gdy bił ci pokłony i władca i sługa,
Gdzie słońcem, gdzie gromem szumiały sztandary

Чаховіч. Гм-м.

Янка. Кепска?

Чаховіч. Кепска. Злоўжыванне высокімі словамі і сто разоў паўтораным. Для Сыракомлі, можа, й добра было б. Але калі ён пісаў? Дый ён спрабаваў па-іншаму.

Янка. Я чуў. Але ж гэта па-тутэйшаму.

Чаховіч. Кастусь пісаў па-тутэйшаму. Хто ведае, можа, яны мелі крыху праўды. *(Паўза.)* А твой голас якімі словамі гаворыць?

Янка. Не ведаю. Толькі ад іх сэрца рвецца.

Чаховіч. Ад гэтых — не. Ідзі за голасам. *(Задумаўся.)* Пушкін, як сваю, ведаў французскую. А што ён на ёй? Можна, пачынаючы, ведаць толькі некалькі слоў. Але гэтыя словы... Але гэта будуць гучаць у табе Галасы Забытай Крыві... І паслухаць іх ніколі не позна... Слухай, вось тыя кнігі — мае ўлюбёныя. «Дон Кіхот», «Мантэнь»... Божа, а Кнігі і няма. Ніводнай Кнігі ні для цябе, новага, ні для мяне, абноўленага... Стой, а можа... *(Дастае з паліцы кніжачку.)* Пра яе я й забыўся. «Братцы мілыя, дзеці зямлі-маткі маёй... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная... Не вялікая, не малая, не чырвоная, не чорная яна была, а белая, чыстая». Бог мой, як я забыць мог?! Прыжывальства памаракі забіла старому дурню... Вось жа яно... «Шмат было такіх народаў, што стацілі наперш мову сваю, так як той чалавек, перад скананнем катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!» «Язык і ёсць адзёжа душы». *(Працягвае кнігу.)* На. Астатняе здабудзеш сам. А тое, што пісаў дасюль? Не такімі вершамі сплочваюць доўг. Замучанаму бацьку і забітаму Калядзе, тваёй хворай маці і ўдаве Каляды. І зямлі. Мы не разумелі гэтага. Многія. Камусьці трэба пачынаць плаціць.

Спаўзае з крэсла. Янка кідаецца да яго.

Нічога... Ні... Я яшчэ пакуль не памру... Я... дачакаюся, пакуль пачнеш плаціць ты... Як позна я... Ты вінен і за мяне таксама. Бо я дурны. Хто ведае, ці не пакарае мяне пекла... За тое, што я так доўга не мог... знайсці яе. Нічога. *Ідзі ты.* Можа, твая доля — сплаціць за іх... іхняй мовай. Перастанем быць як яны — тады канец.

*Заслона*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Канец лета і канец дня. Гародчык, садок і плот перад хатай Луцэвічаў. Ружы, шыпшына, малады сад. Вось-вось схіліцца да гарызонту сонца. Янка канчае папраўляць плот і мармыча нешта сам сабе.

Янка. Дзве сякеры. Адну навастрыць трэба... Хай абедзве... *(Адкінуў адну сякеру, другой прыбівае штыкеціну.)* Вось. *(Глядзіць адступіўшы.)* Нішто. Прынамсі, як пайду ў свет, ніхто не ўлезе свіным лычам.

Выйшла і стала непадалёк маці.

Маці. Усё ж вырашыў.

Янка. Так, матулька. Самы час. І нельга болей цягнуць. Свет кліча.

Маці. Куды ж ты ў гэтым свеце?

Янка. Не ведаю. Па дарогах. Вучыцца б.

Маці. Ты ж і так самы з нашых навучаных на наваколле.

Янка. Беднае наша наваколле.

Маці. Было так і будзе.

Янка. Было. Не будзе. Пайду слухаць галасы. Шукаць свой Голас.

Маці. Дзе, сынок? Аднялі наш голас.

Янка. Знайду. А дзе? Не ведаю. На паромах, у грабарах, рабочым на бровары, сярод бадзяг... Дзе-нідзе — знайду.

Маці. А мы?

Янка. А вы думайце пра мяне. Сілы маёй тады прыбудзе...

Маці. Яначка!

Я н к а. Я вас не кіну. Кожны кавал раздзялю напалам. Але я ўжо тут не магу. Застануся — загіну. Будзе ў мяне — будзе і ў вас. Даб'юся свайго — быці табе каралевай. Не знайду — быці табе маткай бадзягі беспрытульнага. Але нельга мне тут. Ветру няма. Душыць.

М а ц і *(плача)*. Застанься. Загінеш.

Я н к а. Як застануся — загіну. Ну, супакойся. Смеламу і лёс чуб падстаўляе. Супакойся, небачка маё яснае. Гэта ж і ты мяне клічаш. Не тая, што ў касцёле, а тая, што на полі. Твае словы клічуць, песня, бядота твая, сумленне тваё высокае. Не заваюю для іх узнагароды — шэлег мне цана, матуля.

М а ц і пайшла, плачучы. Янка стаіць і глядзіць на далягляд, і Голас пачынае гучаць у вушах:

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку — зямлю — Беларусь.
Хоць гарыста яна, камяніста яна,
Вераб'ю па калена, што сею, расце,
Дый люблю ж яе я, шкода хаткі, гумна:
О, такіх няма, мусіць, нідзе.

Голас цішэе:
Гэта ёнк, гэта крык, што жыве Беларусь!

Божа, голас! Яны ўцякаюць ад мяне. Яны хаваюцца, не хочуць. Божа, я нішто, я бездар! І я кіну гэтую зямлю? Дзеля чаго? Я ж не ведаю, як служыць ёй. Злітуйся нада мною, голас! Адгукніся. Што ты такое? Які ты?

І тады здалёк пачынаюць весці напеў галасы:

Дубочак зялёненькі,
Іванька малодзенькі,
Ой, лі-люлі, ой, лі, ой, люлі,
Іванька малодзенькі.
Іванька малодзенькі.
Ідзе невясёленькі.
. . . . . . . . . . . . . .
— Ой, як мне вясёлым быць,
Ой, як жа мне не тужыць.

Вось, вось яно. Ну, гучней. Ну, на поўныя грудзі.

І раптам хрыплы, недалёкі і нейкі асабліва дзікі пасля празрыстага хору голас:

Вядзі ў сваю хатачку,
Пацеш мамку, татачку.

Голас збіваецца на блекатанне, пачынае перабіваць сам сябе:

Ляжыць нялюбы на правай ручцы...
Адкаціся... Буду страляці, лучаці з тугога лука...

Пасля з'яўляецца за плотам і мінае двор сілуэт жанчыны, цёмны на фоне заранкі.

Марыся. «Сядлай каня, з'язджай са двара...» Не твой гэта двор, не твая зямля. Не наша яна, зямля. Чужая. Чорт Савул яе забараніў. Чаго сохне, чаго вяне? Жаласная зязюля век гаруе. І траўка памірае, і сонейка за лес коціцца. Мёртвая зямля пад мёртвымі вішнямі. Пакуту нясе, красу дарма аддае. Жыве, а не будзе жыці. Свет ёй завязалі, як мне, маладой. Сама завязала.

Выйшаў за ёю Стафан Каляда з сякераю за поясам.

Стафан. Гэй, ды апамятайся. Ты, Марыся! Ды што, сапраўды свет завязаці праз гэтага прыдурка?

Марыся. Розум завязаці. Не памятаць. Не, не. Вось гэты. Шэры барон. Ручкі ў касцёле вяжа. Рэчкі паўсыхалі, землі паздыхалі, добрыя паўміралі. Няма абароны! Ваўкі!.. А вы... Як я мучыла вас?! Нічога, зараз МНЕ слязьмі расіць. Адна ў чыстым полі, і вакол ворагі.

Пайшла.

Хрыплы голас:

Хаджу каля Дунаю,
Тапіціся думаю.

Янка. Ну, Стафан? Бачыш. Мы яе гэтаму аддалі. Ты праз нясмеласць. Я — праз свае пустыя мары.

Стафан. Сагналі ўсё ж бацькоў. Казік, вірлавокі грыбазвон, не заступіўся. Расперазаўся яшчэ горш, гойсае па фальварках. А яна за ім. Ён зараз тут, і яна сюды. То нібы пасвятлее ў галаве, а тады яна сябе дакарае, і бог тады быццам злітуецца, зноў адбярэ ў яе розум.

Здалёк хмельная песня, і, нібы ў адказ ёй, вельмі далёкі голас:

Хаджу каля Дунаю,
Тапіціся думаю.

Ну, што рабіць, Яне?

Янка. Ведаю адно: болей так нельга.

Стафан. Стой... Што там такое?

Наводдаль невыразны голас, выкрыкі. Прабягаюць паўз плот два мужыкі.

Янка. Што там галосяць?

Першы. А, дзеўка ў стаў укінулася.

Другі. Вар'ятка тая. Ды галавою аб камень.

Стафан памкнуўся быў за імі.

Янка. Не хадзі туды. Ну, убачыш абалонку без душы. Як яно і пры жыцці было ў апошнія месяцы. Аддавала душу не таму, каму трэба. І засталася без яе. Усё ясна.

Стафан. Так, усё ясна. Бацька забіў сябе — усё ясна. Я раб — усё ясна. Яе забілі — усё ясна. *(Кладзе руку на сякеру.)* Усё, урэшце, ясна.

Пайшоў. Праз некаторы час да плота падыходзіць маці.

Маці. Ну, вось. Вось і канец тваёй байцы. Ты ж ёй па шчырасці?

Янка. Па шчырасці. Ды што я мог ёй даць?

Маці.

А яшчар-паночак,
Проша мне аддаць вяночак,
Я па расе хадзіла,
Па красачцы збірала.

Пагубіла душу. І, можа, не толькі сваю.

Янка. Я пайду адсюль. У свет. *(Упарта.)* Яшчэ раз кажу: суджаны мне рубель — палова ваша. Суджана памерці ў астрозе ці пад плотам — ты даведаешся сэрцам. Усё адно жабракоў яны з нас зрабілі. Сорам, калі людзі твае, кроў твая — адно жабракі. Без славы, без слова, без гонару.

Маці *(плача)*. Дык хто ім гэта верне? Ты? Бедны, як вавёрка вясной, недавучаны.

Янка. Лёс дапаможа мне. Боль іхні мяне спадобіць. Адбярэцца ў сільных сіла іхняя і дадзена будзе — нам. Сірым, гнаным, непісьменным, без хлеба... Не плач, маці. Нас гоняць, як ланяў, але мы не памрэм. Нас па пальцах можна пералічыць, але з намі наш край. З намі яна, вялікая Маці-Праўда.

Маці пайшла. Захад згасае, але робіцца нібы святлей, усходзіць месяц. І зноў гучыць аднекуль Голас:

Пад навалай крыўдаў многія сталецці
Мы няслі пакорна лямку бесправецця.
Мы няслі — ўсё ныла, гінула памалу,
Аж не нашай наша бацькаўшчына стала.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Усё спаганяць людзі, покі ноч шалее,
Вырвуць веру ў шчасце, веру і надзею,
Ды таго не вырвуць, што напела маці
Ночкай над калыскай роднаму дзіцяці.

Зноў знікае некуды. Але нічога... Урэшце пачуе, і ты не знікнеш.

З'яўляецца Каляда. Кідае ля Янкі сякеру. Лязо цёмнае.

Янка. Гэта што?

Стафан. Кроў.

Янка. Чыя?

Стафан. Пакуль не мая... Можа, хаця нехта, калі не пасаромеецца, дык падумае, перш чым зачапіць праўду.

Янка *(хутчэй сцвярджае)*. Казік.

Стафан. Хай яна будзе апошняй ягонай ахвярай. Украў ён у мяне бацьку, працу, страху над галавой. Ён украў у мяне мой гонар. За ім стаяла багацце. За ім стаяла царства. За мною — нікога. Больш ён не будзе ні ў каго красці. *(Чырванее край неба.)* Памятаеш, мы на гульні ў маёнтку глядзелі. Агні пацешныя ў небе. Хварварк. Вось ім, хе-хе, і хварварк і асвятленне.

Янка. Гэта што?

Стафан. Валахоўскае гняздо гарыць. І няма аніводнага іхняга птушаняці.

Янка. Ты? Адзін? Ці нейкі ў вас хаўрус?

Стафан *(паказвае на агонь)*. Унь ён, мой хаўрус, мая, хм, кунпанія.

Янка. Згасяць.

Стафан. Яшчэ запалім.

Янка. Ссылка... Вісельня.

Стафан. І ў Сібіры зямля. А вісельня? Няма ў мяне нічога. Голаму дождж не страшны.

Янка *(пасля паўзы)*. Лічы, што я з табой у таварыстве. Хай не з сякерай.

За сцэнай частыя крокі. Янка бярэ Стафанаву сякеру і кідае яе за плот, у копанку. Там плюхнула. Уваганаў у слуп адну са сваіх сякер.

Вось цяпер твая.

Уваходзяць стражнікі на чале з ураднікам Снулым.

Стражнік. Ну дык вось ён. І бегаць далёка не давялося.

Янка. Ды ў чым справа, панове?

Снулы. Убейства паніча, падпал Валахоўскіх.

Янка. Бачыў нехта?

Снулы. Нет. Але прычына. Распутны чалавек. Дзеўка тут утапілася. Бацька п'яны сябе прыкончыў. Ну і, какурат, азліўся на ўвесь свет.

Янка. А калі гэта ён?

Снулы. Толькі што-с.

Янка. Ды Рахцей Рахцеевіч...

Снулы. Ерафей Ерафеевіч.

Янка. Памылка тут нейкая, васпане. Ён ужо... гадзіны дзве, як тут.

Снулы. Што рабілі?

Янка. Праходзіў, спыніўся. Плот мне дапамог скончыць, каб свіння розная ля маёй хаты не лазіла.

Стражнік. Мо й сапраўды не ён?

Снулы. Разбяромся. Ідзі, Стафан.

Янка. Стафан-першапакутнік. Народзіны — другі дзень калядаў. Як здзек. На каляды — Каляда.

Стафан. Ды хіба я першапакутнік? Я без ліку які замучаны.

Янка. Вазьмі *сваю* сякеру, Стафан-першапакутнік.

Стафан узяў. У яго хочуць адабраць.

Стафан. А што? Лес валіць. Ды хіба адзін лес? *(Размахвае сякерай.)* Добра. *(Аддае яе стражніку.)* Трымайце пакуль.

Стражнік. Крыві няма. Стружкі-габлюшкі *(нюхае)*. Дрэвам пахне.

Снулы *(спахапіўшыся, да Янкі)*. А твая дзе?

Янка. Вось. Мы ў дзве. Спарней.

Стражнікі, ураднік і Стафан пайшлі.

Стафан. Бывай, Янка!

Янка. Бывай, першапакутнік. Так, пайсці. Імя змяніць нават. Каб нічога ад шляхты, нічога ад мяшчан, нічога ад раба. Першамучанік Стафан, народжаны на каляды. А я — Янук. Народжаны на купалле, Купала. Ян Купала.

Маці выносіць торбу.

Маці. Вось. Бацька кінуў. Дзве дачкі. Сын. Цяпер ты.

Я н к а. Ну, калі застануся. Памром — скажуць: здохла яшчэ некалькі бедных.

М а ц і. Яны памерлі.

Я н к а. Вось за тое, што ты адна, я і іду. Пер'е з іх яшчэ паляціць, такога ворага яны сабе прыдбалі са сваімі паночкамі ды гаспадамі суддзямі.

М а ц і. Лёс не блаславіць цябе, што кідаеш зямлю.

Я н к а. Я кідаю, каб прыйсці да яе. Я іду да гэтай зямлі.

М а ц і. Чаго?

Я н к а. Сплочваць доўг.

М а ц і. Не было ў нас даўгоў.

Я н к а. Нязмерныя нашыя даўгі. Усіх, хто ўмее пісаць і думаць.

Голас здалёк:

Паймі! Пачуй! Сон наш і свой стрывожы,—
Закон і суд свой праведны пашлі!..
Вярні нам Бацькаўшчыну нашу, божа,
Калі ты цар і неба, і зямлі!

Нічога, я не буду ад адчаю, што вы не даецеся мне, біцца галавою аб вугал хаты. Я вас калісьці ўлаўлю, радкі! Я схаплю цябе, Голас. Рана ці позна. Сёння ці заўтра. Ніколі не позна аддаць доўг.

М а ц і. Што ты? Загаворваешся?

Я н к а. Пажадай мне ўсім сэрцам... міру маёй ярасці супраць гэтай зямлі... Зямлі паноў і рабоў. Міру майму лютаму ўтрапенню.

М а ц і. Яно пройдзе.

Я н к а. Хіба з маёй смерцю. А калі раней — гэта будзе значыць, што ўсё дарэмна. Бывай, маці.

Схіляецца і цалуе ёй руку. На імгненне ўсё цямнее, а пасля ў далёкім зарыве з'яўляюцца сілуэты ч а т ы р о х ч а р а ў н і ц.

Т р э ц я я. Ён пайшоў. Тысячы перашкод.

П е р ш а я. Ён пераможа, раз вырашыў ісці да канца.

Ч а ц в ё р т а я. Вы ведаеце, *што* я пастаўлю на ягоным шляху? Працу чорнага вала.

Д р у г а я. Здужае. Нездарма ён герба Навіна. Ён новы. І новае прынясе на зямлю беларускую. І там ужо ніхто не асмеліцца, не прыкрываючыся хлуснёй, назваць чалавека рабом.

Ч а ц в ё р т а я. Ён адмовіўся ад герба. Ён мужык.

Першая. Вечны мужык. Усе вымруць і пойдуць. Але застанецца чалавек, у далоні якога хлеб.

Трэцяя. І песня.

Першая. Песня і хлеб.

Чацвёртая. А я ўздыму «уголовное уложение» статью сто двадцать девятую «О смуте». За першую ж кніжку: «сочинения, возбуждающие к учинению бунтовщического или изменнического деяния... к неповиновению или противодействию закону». А гэта *тры гады ў іспраўіцельным доме ці восем год катаргі.*

Першая. Я прыбяру гэты камень з яго дарогі.

Чацвёртая. Што толку ў яго пакутах, калі нават сын Чаховіча Вітальд, аддаючы зямлю ў арэнду, будзе браць слова, што шаракі не будуць чытаць і выпісваць «Нашай нівы»?

Трэцяя. А ён скажа: «І гэта сын ідэйнага бацькі».

Чацвёртая. І судзіць яго будуць.

Другая. А ён будзе над імі вышэйшым судом.

Чацвёртая. І хлусіць на яго будуць.

Першая. А ён адкажа ім мячом праўды.

Чацвёртая. На яго будуць узводзіць паклёп і ворагі і «сябры».

Першая. Ён будзе над светам, а імя тых забудуць людзі на зямлі. Хіба што каб судзіць або пляваць на іхнюю магілу.

Чацвёртая. І будуць войны.

Трэцяя. А ён скажа: «У мор намруцца, а ў вайну налгуцца».

Чацвёртая. Часам ён, магчыма, і не вытрымае.

Першая. Народ запомніць яго такім, як зараз. Ён любіць багоў, калі знойдзе ў іх чалавечае.

Чацвёртая. І ўрэшце ён загіне.

Другая. Зрабіўшы найвышэйшае, што дадзена чалавеку на зямлі. А смерці яшчэ не пазбегнуў ніхто.

Чацвёртая. Усіх каменняў вы не прыбярэце. Вось гэтую маці, руку якой ён цалаваў, пахаваюць у той самы дзень, калі гэтае ягонае сэрца аддадуць агню.

Першая. І вечны будзе гэты агонь.

Чацвёртая. І ён загіне, калі зямлю ягоную будзе таптаць, пляваць на яе, зневажаць яе самы бязлітасны, самы бесчалавечны, самы хлуслівы, самы крывадушны вораг.

П е р ш а я. Вора́г згіне. Незлічоная будзе сіла ягоная,— а ён згіне. Бо што сіла моцных, калі чалавек ідзе ратаваць людзей, вяртаць іх гонар? Калі ён, хай сабе адзін, за свой народ.

Зарыва. Аддаляюцца крокі. І ўжо на поўную сілу, запаланяючы ўсё, гучыць Голас:

Што я мужык, усе тут знаюць,
І, як ёсць гэты свет вялік,
З мяне смяюцца, пагарджаюць,—
Бо я мужык, дурны мужык.

. . . . . . . . . . . . . .

І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык:
Што хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

*Канец*

*1981 г.*

# МАЦІ УРАГАНУ

*Трагедыя ў трох дзеях,*
*дзевяці карцінах*



*Становішча ў сумежных краінах і ў самой Рэчы Паспалітай, уключаючы Беларусь пад час паўстання Васіля Вашчылы.*

НЕКАЛЬКІ АПОРНЫХ ПУНКТАЎ
ДЛЯ РЭЖЫСЁРСКАЙ КАНЦЭПЦЫІ

Сялянскія хваляванні ў Крычаўскім старостве, вельмі доўгія і зацятыя, выбухнулі ў 1743—1744 гадах вядомым паўстаннем Вашчылы, накіраваным супраць адміністрацыі староства і супраць арандатараў, якім Геранім-Фларыян Радзівіл аддаў староства ў поўную ўладу (уласна кажучы, на паталоку й разрабаванне).

Арандатар плоціць пэўную суму — а колькі ён пасля выб'е з мужыкоў, рамеснікаў і купцоў (якім, дарэчы, дазволена гандляваць толькі з арандатарам) — нікога не датычыцца.

Так, за гадавую арэнду (1719—1720) Уладзіслаў Пятровіч выбіў з насельніцтва дадаткова 3500 талераў. Ваўкавіцкія (з 1725 па 1727 год) выбралі звыш нормы больш за 100 000 злотых.

Асабліва пагоршылася становішча за час арандатарства братоў Гдаля і Шмуйлы Іцкавічаў. Гэтыя з 1736 па 1740 год выбралі звыш паложанага каля 700 тысяч злотых, а ўсяго за час арэнды аднялі (звыш інвентарнай нормы) і паклалі ў сваю кішэнь 1 298 909 злотых, 120 270 коп пянькі і г. д. і г. д.

Звыш гэтага пасіліліся паншчына, рабунак, гвалт. Збівалі людзей, забаранялі скаргі. Хто ішоў са скаргай да князя — таго збівалі, катавалі, даводзілі да жабрацтва штрафамі, кідалі ў турму, мучылі да калецтва, часам забівалі да смерці. Іцкавічы сатанелі ад даступнасці здабычы і ад бяскарнасці, забыўшыся на ўсякую асцярожнасць і здаровы сэнс. І сяляне забыліся на «сваіх» ваўкоў, якія рэзалі ўсё ж па выбары, а не ўсю чараду, не ўвесь статак.

...Акрамя гэтай дзікай і сатанінскай навалы разаралі народ і пастоі войск, «харугвій» (крыху раней — у 1689—1690 гг. за год харугвія Іосіфа Слушкі *выбіла* з сялян на ўтрыманне 73 008 злотых. Было мноства калек і сем забітых).

Шукаць суцяшэння ў богу? Ну так. У вёсцы Горны ў 1744 г. за пахаванне селяніна Андрэя Вароні поп з Бесавічаў (а яшчэ кажуць, што няма прозвішчаў, якія самі за сябе гавораць...) патрабаваў добрага каня. Каня не было. Нябожчык тры дні ляжаў у хаце, а пасля быў пахаваны без царквы і папа, які толькі пасля пахавання злітаваўся і ўчыніў на магіле «адпяванне» за асьміну пшаніцы.

Усё ж на каго магло спадзявацца паўстанне, акрамя як на свае стыхійныя, разрозненыя сілы? На якую дапамогу?

Давайце паглядзім. Што такое былі «свае», мы ўжо крыху ведаем і скажам аб гэтым пасля (самой п'есай і характарыстыкай дзеючых асоб). Што такое былі суседзі?

Расійская імперыя, да якой Крычаў будзе далучаны ў 1772 годзе, праз дваццаць восем год пасля паўстання, *як кажуць, з агню ды ў полымя.*

На троне Елізавета, «кроткая Петрова дщерь». На час нашых падзей ужо два гады як на прастоле. Зрынула дварцовым пераваротам Браўншвейгскую фамілію («законны» прэтэндэнт на трон Іаан Антонавіч быў зняволены, а пасля забіты), выпісала з Галштыніі пляменніка, Карла-Ульрыха (Пётр III), якога аб'явіла наследнікам (пасля, на радасць рускім, была выпісана са Штэціна нявеста яму, Сафія Ангальт-Цэрбская (пазней Кацярына II).

З польскім дваром — трэнні за Курляндыю, таму дагаджаюць і заігрываюць, і таму, ясна ж, напляваць Пецярбургу на крычаўскіх «адзінаверцаў».

Пасланнік Кайзерлінг — гетману Патоцкаму: «Республика граничит с четырьмя сильными соседями, и потому надобно смотреть, какое соседство ей особенно может быть полезно. Разумеется, русское, потому что императрица находится в особенной дружеской склонности к республике и желает большего утверждения ее тишины и спокойствия» (С. М. Соловьев. «История России», т. XI, ст. 194).

Каму была справа да прыдушанага беларускага народа? Каго прасіць аб дапамозе, калі ў імперыі занятыя тым, што ловяць беглых сялян, калі па Волзе, Мядзведзіцы і Карамышу паўстанні мардвы. І гэта нават не мардва, а «старыя рускія ідалапаклоннікі, па-мардоўску гаварыць не ўмеюць, а гавораць яраслаўскаю гаворкаю» (архірэй ніжагародскі Дзмітрый загадаў разарыць іхнія старыя могілкі. Таму і выбухнула паўстанне). У 1741—1742 гадах у дзяржаве схілілі (сілком) да хрысціянства 17 362 чалавекі. Раскольнікі спальваюць сябе або бягуць ледзь не ў мясціны нашага паўстання. *Іх* патрабуюць вярнуць назад, а не тое каб *прымаць* уцекачоў з Беларусі. Іх, гэтых уцекачоў ад пакут і смерці, і выдаюць, калі ў таго, хто спаймае, няма сумлення.

Караюць людзей, якія дрэнна гавораць аб паводзінах імператрыцы, шкадуюць аб зрынутым урадзе (справа Лапухіна). Бізун і ссылка з адразаннем языкоў, не шкадуючы і жанчын (тры Лапухіны і Ганна Бястужава), што ў адносінах да некаторых жанчын было б проста дабрадзейства.

Чым занятая імператрыца якраз у дні, калі паўстанцаў адбілі ад Крычава і збіраюцца садзіць на палю, завостраны кол? Яна кіруецца ў Маскву і разглядае справу аб тым, што толькі з аднаго Ноўгарада трэба выбіць нядоімак мытных і карчомных 476 888 рублёў, а канцылярскіх — 13 270.

Якая ёй справа пра чужы народ, даведзены да смяротнага адчаю, калі ў свайго народа няма солі (С. М. Соловьев. «История России», т. XI, ст. 250), «ад чаго многія хварэюць». 9 лютага 1744 г. (нашых паўстанцаў у гэты дзень катуюць) генерал-пракурор ездзіў у Маскве да крам у адзінаццатай гадзіне, але ўжо прадажы солі не застаў: «В Москве... казённую соль... крестьянство и прочие подлые люди едва ли могут купить». Ён «нашел у лавок

крестьян и прочей подлости многое число, которое ему объявили, что уже несколько дней не могут добиться купить соли».

«Для честного труда рабочих рук не было; а между тем столько рук были заняты нечестным промыслом» (С. М. Соловьев, т. XI, ст. 254).

Па правінцыях пануе адкрыты разбой, нават недалёка ад Масквы. І не па маёнтках, а нападаюць на вёскі і паляць іх (атаман Кнут, напрыклад, у Сакольскай воласці); кн. Хаванскі даносіць, што разбойнікі «приходили многолюдством в суздальское село его Пестяково: церковь, его двор и крестьянские дворы выжгли, пять человек крестьян убили до смерти, четверо лежат при смерти».

Разбой па ўсёй Ацэ, ад Калугі да Ноўгарада. Нават у самой Маскве якраз у тыя дні спайманыя тры разбойнікі і адзін атаман.

І паўсюль сялянскія бунты.

І паўсюль нецярпімасць і адсутнасць свабоды сумлення. У Казанскай акрузе з 536 мячэцяў зламалі 418 і спынілі барацьбу толькі таму, што пабаяліся, а як на гэта паглядзяць суседзі ў дзяржавах мусульманскага веравызнання.

Імператрыца занята не тым, не лёсам простых людзей — яна занята прыездам чатырнаццацігадовай дзяўчынкі, будучай Catherine le Grand, пры якой рускім і нярускім падданым будзе яшчэ саладзей.

...Ну, а Украіна? Дапамогі таксама чакаць дарэмна. І таксама дарэмна туды ўцякаць. Калі бегчы ў Правабярэжную Украіну — гэта значыць зноў бегчы пад уладу тых самых паноў. А наколькі салодкая была тая ўлада — сведчаць паўстанні гайдамакаў у 1734, 1750 і найбольшае з іх, «Колиивщина» (1768 год, праз 24 гады пасля Крычава), якое актыўна дапамагла задушыць Кацярына II.

А бегчы ў Левабярэжную і Слабадскую Украіну — азначала бегчы пад уладу буйнога феадальна-старшынскага землеўладання. Старшыны гвалтам захапілі сялянскія і казацкія «грунты». Гетманскі універсал 1701 г. узаконіў двухдзённую паншчыну, забараніў адыходзіць на Слабоды і ўцякаць у казацкія палкі.

У гетмана Мазепы, напрыклад, больш за 100 тысяч залежных сялян. У 1709 г., пасля Палтавы, Сеч Запарожская разбурана (беглыя аселі ў Алешках, у нізоўях Дняпра, пад уладай Крыма). З 1722 года, калі памёр гетман Скарападскі, краем кіруе Маларасійская калегія: рускія афіцэры кантралююць часовага гетмана і старшыну.

У 1734—1775 гг. існуе новая Сеч (казакі вярнуліся з Алешак). Прыгону ў ёй, праўда, не было, але сяляне і радавыя казакі былі на становішчы наймітаў. Ад масы беглых страшэнна дзешавелі рабочыя рукі.

«Злачынцаў» старшына магла і выдаць, не жадаючы псаваць адносіны з суседзямі. Выдалі б магнатам і Вашчылу, ды ён памёр ад хваробы страўніка (існуе падазрэнне, што атруцілі, мучыла «сумленне», ведалі, чым скончыцца выдача Радзівілу сялянскага кіраўніка).

Ну, а наконт «сваіх» раскажа п'еса.

Поўная безвыходнасць панавала над крычаўскімі паўстанцамі. Няма выйсця. Нідзе.

Але чалавек не можа пагадзіцца з гэтым. Зламаць шыю лёсу, нават калі сам пры гэтым зломіш шыю. Адказваць безнадзейнай барацьбою на безнадзейнасць, уласнай загібеллю на безвыходнасць становішча.

Нават самім паражэннем перамагчы — гэтага чалавеку не можа забараніць ніхто.

У гэтым пафас паўстання, як яго разумее аўтар, які просіць рэжысёра-аднадумца таксама зразумець гэта.

*Характарыстыкі некаторых гістарычных асоб п'есы, зробленыя для тых акцёраў, якія, ствараючы свой жывы вобраз, хацелі б стварыць яго па максімальна дакладнай гістарычнай канве.*

Лагер паўстанцаў, на мой погляд, асаблівых заўваг не патрабуе. Тут усё больш-менш ясна. І тыпы, і характары. Хіба што патрабуюць тлумачэння некаторыя адрозненні ў сацыяльным становішчы, скажам, Вашчылы, Карпача або братоў Ветраў. Гэта не звычайныя сярэднія сяляне, гэта *сялянская эліта*, людзі пісьмовыя і сяк-так абазнаныя ў падзеях, што робяцца ў свеце, на Беларусі і ў старостве.

*Вашчыла* — войт вёскі Селішча і крыху гандляр (а гандляваць дазволена толькі з арандатарамі, і толькі пасля паўстання Радзівіл адмяніў гэта). Ездзіў скардзіцца на Радзівіла ў Варшаву, па вяртанні атрымаў ад арандатараў 150 бізуноў, цяжка хварэў. У 1731 годзе зноў скардзіўся (у Мір ездзіў, быў затрыманы слугамі Гдаля, «тыранскі» збіты і кінуты ў крычаўскую турму).

*Іван Карпач*, унук Змітра Карпача, бурмістра Крычава (яго імем была названа адна з вуліц горада), сын гарматніка мешчаніна Ільі. У 1696 г. дзед, бацька і ўнук абвінавачаны ва ўзброеным выступленні супраць харугві Рыгора Агінскага. Іван складае скаргі сялянам, сам засноўвае на зямлі двор і гаспадарку. З 1741 г. бурмістр крычаўскі.

*Васіль Вецер* (не блытаць з братам, мешчанінам) сын панцырнага баярына, што ўдзельнічаў у 1696 годзе ў разгроме харугві Агінскага. Пазней загінуў. Герой наш пісьменны і нават на свой час начытаны, ведае латынь. Гэтым, акрамя прыроднай дабрыні, і тлумачыцца яго насцярожанасць да грубасці і казацкай разбэшчанасці паўстанцаў, нянавісці іх да ўсякай «кнігі», бо ў ёй або даўгі запісаны, або данос, хлусня і паклёп. І тая ж крайняя дабрыня, мяккасць і спачуванне болю людскому прымушаюць яго *ўступіцца*, зусім не спачуваючы метадам сяброў. Мала таго, ненавідзячы ўсякія боль і забойства, быць ледзь не самым смелым воінам гэтай няшчаснай і цёмнай, хаця і па-дзікунску сумленнай, масы.

*Поп з Бесавічаў* хутчэй выключэнне з правіл. Большасць свяшчэннікаў, што ўдзельнічалі ў паўстанні, былі святыя людзі, хаця і лаяцца маглі добра, і кулакі мелі моцныя, і выпіць пры выпадку маглі.

Як поп *Антох Крапіла*. Бо гэта былі бедныя папы бедных парафій, якія касілі і аралі побач з сялянамі, ведалі іхнюю бядоту, іхняе гора, іхнюю безвыходнасць і спачувалі ім.

Такія ж пачасту галодныя і бяспраўныя, як мужыкі, яны не схільныя былі адбрэхвацца «байкамі аб райскай канюшыне», ведалі, што шчасце павінна быць у чалавека і пад гэтымі зямнымі

стрэхамі, ні ў якім разе не былі дуалістамі, якія лічаць, што Сатана — роўны Богу злы пачатак і, значыць, зло вечнае. Наадварот, у падтрымку сваім мяцежным парафіянам яны высунулі прынцып, што Сатана створаны Богам, ужо тым самым ніжэйшы за яго і таму неадменна павінен быць калісь пераможаны разам са сваімі паслугачамі, «сільнымі і магутнымі людзьмі розных народаў». Таму яны і свяцілі нажы, таму не пакінулі сваіх, калі тым давялося піць смяротную чашу. Таму і былі пакараны смерцю.

Цяпер пра ворагаў. Яны збольшага таксама ясныя. Трэба сказаць толькі некалькі слоў *увогуле* пра жыццё некаторых з іх. Жыццё, якое не ўлазіць у абмежаваныя часам рамкі п'есы. *Што* яны рабілі да́ і пасля паўстання, *як* некаторыя з іх скончылі свой век. Магчыма, гэта дадасць на палітру акцёраў некаторыя дадатковыя фарбы і адценні.

*Князь Геранім-Фларыян Радзівіл.* У часе, калі пачынаецца дзеянне (сцэна ў Бельску), яму дваццаць восем год (нар. у 1715 годзе ў Белай). Правёў пяць год (1730—1735) за мяжой, адкуль вывез кепскае веданне нямецкай мовы і свяшчэннае захапленне ўсім нямецкім. Асеў у Белай Падляшскай удзельным князем, які пляваць хацеў на ўсе законы і самога караля. Ён — падчашы, пасля харунжы Літоўскі, вялікі пан, але абсалютна абыякавы да грамадскіх спраў. Бязмерная амбіцыя, «неўшанаванне законаў боскіх і людскіх», паляванне, распуста. Чалавек дзікі, злы, здольны да зверства, жорсткасці, бесчалавечнасці.

Яму 28 год, але выглядае старэйшым. Абліччам самы брыдкі (не таму, што адмоўны герой, а па гісторыі так). Лысы, заіка (я не люблю гэтага бяздарнага прыёму: надзяляць нягоднікаў яшчэ і фізічнымі недахопамі — я ведаў шмат такіх, з недахопамі, якія былі вартыя сотні Апалонаў і герояў-каханкаў, але гэта так было, сапраўды, быў заіка), целам каляны.

Па п'есе смяецца два разы, і больш, бадай, ніколі не смяяўся ў жыцці, заўсёды пануры і смутны.

Двор амаль нямецкі, асабістая служба — таксама, хаця збіваўся з нямецкае мовы на польскую і яшчэ больш ахвотна на «хлопскую». У «войску» ўсе ступені, аж да генерала: немцы, курляндцы. Мясцовых не надта любіў, бо не было ў іх безварунковага паслушэнства.

Ну і немцы, не вытрымаўшы, уцякалі, і тады — пагоня ў некалькі сот (а то і тысяч) салдат. Урэшце вырашыў рабіць афіцэраў са «сваіх» і таму заснаваў кадэцкі корпус. На манер караля французскага сфарміраваў «Аддзял Гран Мушкецёраў» — асабістую ахову.

Адзін з найбагацейшых уладцаў краю, але скупы і багацее з дня на дзень. Не шкадуе грошай толькі на асабістае войска. Акрамя гарнізонаў — шэсць тысяч умундзіраванай і вымуштраванай пяхоты, плюс кавалерыя і артылерыя. Амаль удзельны манарх. Ніякіх распараджэнняў караля не слухае, падаткаў не плоціць.

Пад замкам — вялізныя склепы. Стараўся, каб былі перапоўненыя. Енкі тых, каго катавалі, называў «найлепшымі спевамі».

*Уся справа ў тым, што быў несумненны вар'ят.* Памешаны на ўсіх пунктах: грамадскім, рэлігійным, палавым. Не лепшы, чым сваяк Марцін-Мікалай (хаця той не адказваў за свае ўчынкі, а ў гэтага вар'яцтва было ад бязмернай распушчанасці).

Іцкавічаў выгнаў не таму, што абакралі на мільён з трэццю (яны яму былі выгадныя, бо ўносілі інвентарныя грошы адразу), а са злосці, бо вышэйпамянёны Марцін-Мікалай раптам увераваў у перасяленне душ, выбраў у якасці рэлігіі юдаізм, пачаў вучыць ідыш і іўрыт, скрупулёзна выконваў шабасы, на якіх сядзеў у лапсердаку з ордэнам святога Губерта на шыі.

Геранім раззлаваўся. Дабіўся апякунства, «брата» затачыў, гарэм ягоны разагнаў (а свой меў, і вялікі). Але грошы Марцінавы забіраў, так што дзеці апошняга хадзілі ў рызманах. Абдзіраў і іх.

Верыў у чарадзейства, быў забабонны.

З жанчынамі яму, ясна ж, не магло шанцаваць пры такіх добрых якасцях. Шалёна зайздросны і, адначасова, нейкі абыякавы, сепаратны, «сам не дужа гам і другому не дам».

Жанаты быў тройчы. У час, калі адбываецца дзея п'есы, першая жонка Тарэза Сапяжанка (ажаніўся ў 1740) ужо ўцякла (у 1742). Ветлівы, але халодны, ён трымаў жонку ледзь не ў турме — толькі візіты мужа і пана, ды ў акно глядзець на вязняў і пакараных смерцю.

У час дзеяння п'есы князь абыходзіўся палюбоўніцай і гарэмам.

Другая жонка, Магдалена Чапская, вытрымала яшчэ менш (1747, і ледзь не ў наступным годзе ўцякла).

Трэцяя, Ангеліка Мянчынская, вытрымала аж чатыры гады прысягі, а пасля ўцякла і пайшла замуж, як і папярэднія.

Ні ад адной не было дзяцей.

Другую жонку трымаў як у турме, нават у Варшаву не ўзяў, выдумаў, што цяжарная, а пасля яе ўцёкаў дарэмна прасіў аб вяртанні (нейкія неймаверна нудныя і рыпучыя лісты: «мая душка», «пакорлівасць» і г. д.): лепей воля без мужа, чым з ім — няволя. Лепей разбойнік, чым гэткая лютая і цягучая, нудная казіная смерць.

Хацеў экспатрыявацца ў арыстакратычнай Аўстрыі, спадзяваўся на яшчэ большы абшар да сваволі і манархічных капрызаў. Не атрымалася.

...Памятаць трэба, што ён быў разумны (каб жа ж не неабмежаваная ўлада) і не баязлівец (у 1752 годзе, скажам, зваліў за месяц 26 мядзведзяў, 17 дзікоў і 126 ваўкоў). Толькі што ўсе дадатныя якасці лютасцю і разбэшчанасцю ператварыў у адмоўныя.

Памёр у 1760 годзе (вязень Марцін у гэты момант сказаў варце: «Геранім не жыве»), у Белай падчас імшы, ад апаплексіі. Пайшлі набажэнствы, панегірыкі, вершы, «Вялікі муж Айчыны», «нязмерная страта», «Айчына аплаквае добрага грамадзяніна і энергічнага, дзельнага мужа». Словам, як казалі вярхі нават пра Іуду Іскарыёта: «Нябожчык вызначаўся шчодрасцю, непадкупнай сумленнасцю і адданай любоўю да радзімы».

Прароцтва Агны Вецер, такім чынам, спраўдзілася: памёр, абкружаны холадам і нянавісцю, і ўсе ягоныя скарбы дасталіся людзям, якіх ён ненавідзеў.

Вось такому чалавеку было аддадзена Крычаўскае староства. Вакол яго, як і належала чакаць, рабы.

*Палюбоўніца* — звычайная метрэска, у меру дурная, юрлівая, як кошка, і прагная, бо ведае, што яе становішча — часовае.

*Палкоўнік Пястжэцкі.* Не трэба забываць, што хаця і пал-

коўнік, а значыць, неймаверная на той час улада, але Радзівіл можа загадаць яму ўсё. Ён у тым жа стане, што і

*...Губернатар Цялецкі,* да якога Радзівіл звяртаўся як да «Яснавяльможнай Мосці пана Губернатара», але заўважаў, што як не ў тэрмін прывязеш транспарт гарэлкі ў Слуцк, то «будзеш цешыцца прэзентам няхібным сотні кіёў». І падпісваўся «вытанчаны (свецкі) Яснавяльможнага Пана слуга».

*Пііп Каршук* — раскошная абалонка пры поўнай нікчэмнасці, як амаль ва ўсіх канцлераў пры тыране. Веданне этыкету і перабольшаная стараннасць у выкананні яго. «Міністр унутраных і замежных спраў», якія ідуць сабе, не звяртаючы ніякай увагі на яго існаванне.

*Грабоўскі* — пасол ад князя Марціна-Мікалая Радзівіла, сваяка Геранімa, «браткі» ягонага (таго самага, што трымаў жонку і дзяцей у турме, верыў у перасяленне душ, выбраў у якасці асабістай рэлігіі юдаізм і хадзіў у лапсердаку з ордэнам святога Губерта на шыі; пазней трапіў у апеку да «браткі» Геранімa і замкнёны ім у турму). Фаварыт Марціна, але фаварыт таму, што выканаўца самых дзікіх ягоных збродняў, нават забойства (забіў у карчме падсудка брэсцкага Збароўскага, удушыў па загаду князя яго палюбоўніцу, забіў шляхціца Кукаўскага з жонкай, падпальваў двары і г. д.). Асуджаны «на горла», але пляваў і толькі калі прыгразіў, што заб'е гараднічага брэсцкага Грабоўскага,— той са сваякамі і стральцамі схапіў яго і скутага завёз у Пётркаў, дзе дэкрэт быў выкананы.

Але цяпер да гэтага яшчэ далёка, і Грабоўскі трымае сябе паўсюль нахабна, як дзікі гун.

*Гдаль і Шмуйла Іцкавічы* — браты-адкупшчыкі, непасрэдная прычына Крычаўскага паўстання. Адносна дробная сволач у параўнанні, скажам, з Геранімам Радзівілам або пробашчам Пёкурам — яны, аднак, ухітрыліся разарыць цэлы край. Навучыліся ад пана-старасты бяскарнай разбэшчанасці, прагнасці, садызму. Грошы выбівалі турмой, збіццём, падпаламі, забойствамі. І Вашчыла і Карпач паспыталі на сабе іхнюю руку. Дзікая помслівасць і самавольства, людзі са староства бягуць (колькасць пустых надзелаў павялічылася за час іхняга праўлення ў 2,5 разы; «выбілі» звыш інвентара ў сваю кішэнь 1 298 909 злотых). Часам нават Радзівіл стрымліваў іх універсаламі, але тыя іх палілі, а скаржнікаў збівалі і садзілі ў вязніцу.

*Камісары* былі купленыя імі, і ім баяліся скардзіцца. Збіралі падатак (без квіткоў) і знікалі, а Гдаль тады здзіраў другі падатак.

*Палкоўнік Данаван.* Яму, як немцу, няма чаго шкадаваць прыгнечаных людзей чужой крыві. Але ён усё ж салдат і трымаецца сякіх-такіх рэштак кодэкса гонару. Салдат павінен жыць коштам абдзёртага насельніцтва — так тады думалі ўсе. Але як стаў сведкам нечаканай высакароднасці «быдла» (да свайго лёсу абыякавы, але з ім быў сын), калі немінучая смерць падарыла сыну жыццё, пачаў сяк-так варушыць рэшткі сваіх мазгоў і знайшоў тую парушынку сумлення, каб адмовіцца ад разбою і служэння злу.

*Пробашч бельскі Пёкур* — адна з самых важных асоб п'есы. І адна з самых страшных. Уплывам на людзей (толькі ён можа прымусіць князя, які карае п'яных, нажэрціся, як свіння), для якіх ён жывое апраўданне на небе подлых зямных спраў. Але самае

важнае не гэта. Ён бачыць да апошняга, дзе святло, а дзе цемра. Ён самы зоркі і самы сумленны, бо бачыць наскрозь мярзотнікаў і іх мэты і пагарджае імі. Але ён *свядома* пагарджае сумленнем, бо «ідэя» — раз ужо яна *ягоная* ідэя — павінна выжыць і трыумфаваць. І дзеля гэтага трыумфу ён пойдзе нават па трупах. «Яны за святло і праўду — тым горш для іх».

## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Агна Вецер.

Васіль Вецер — збройнік, вольны землеўладца, яе сын.

Надзея — ягоная нявеста і потым жонка.

Васіль Вашчыла — войт вёскі Селішча
Іван Карпач — уладца двара, унук крычаўскага бурмістра і сам бурмістр, сын «гарматніка»
Васка Вецер — мешчанін, стрыечны брат Васіля Ветра
} З 1731 года завадатары беспарадкаў, а ў 1743—1744 гадах — кіраўнікі паўстання ў горадзе Крычаве і Крычаўскім старостве.

Ілья Карпач — Іванаў бацька, крычаўскі гарматнік. Сын бурмістра Змітра.

Бачко — сын аднаго з правадыроў, пісар і сакратар паўстання.

Магда Мякенькая — карчмарка
Лаўрэн Каўбаса — яе ўздыхальнік
} крычаўскія мяшчане.

Айцец Анцівох (Антох) Крапіла — поп-мяцежнік.

Яўхім Хмыз — дудар, усякай музычнай справы майстра.

Мендл Кеймах — каваль.

Пракажоны.

Поп з Бесавічаў.

Князь Геранім-Фларыян Радзівіл — харунжы літоўскі, староста крычаўскі, уладар бельскі.

Аліцыя Гайдаловіч — каханка князя.

Грабоўскі — пасол ад сваяка Радзівіла, князя Марціна-Мікалая Радзівіла, ягоны фаварыт, «нож» Марцінаў.

Пёкур — ксёндз, пробашч бельскі.

Капітан Аддзяла Гран Мушкецёраў, асабістай аховы князя.

Пан Піліп Каршук — «канцлер дзяржавы» Радзівіла, так бы мовіць, «міністр замежных і ўнутраных спраў».

Павел Цялецкі — губернатар крычаўскі, старшыня суда над паўстанцамі.

Войт вёскі Ківаверцы.

«Нечаканы сяржант» — воін з аховы.

Гайдук.
Гдаль Іцкавіч } браты-адкупшчыкі староства.
Шмуйла Іцкавіч }
Камісар-Крэатура — паслугач Гдаля.
Палкоўнік Данаван — кіраўнік саксонскіх наёмнікаў.
Раймунд Данаван — ягоны сын.
Палкоўнік Пястжэцкі.
Кат.

*Першая дзея адбываецца ў наваколлі двара Ветра, другая і трэцяя — увосень і ўзімку 1743 — 1744 гадоў у Белай Падляшскай, Цэркавішчы і Крычаве.*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Ноч, поўная трывогі. У цемры парывае вецер, і адказваюць яму дрэвы. У адну з ціхіх хвілін далятае здалёк і пасля нарастае пошчак конскіх капытоў: нехта страшэнна спяшаецца. А пасля з'яўляецца і мацнее стрыманы, нібы праз зубы, Голас. Песня-рэчытатыў. Такая самая шалёная, як конскі намёт. З глоткі. Хрыпата. Праз зубы.

Сэрца каня ірвецца,
Ў сэрцы конніка боль:
Радзіма твая прадаецца,
Кожны псяр над ёю — кароль.
Прадаюцца жанчын нашых вочы,
Прадаюцца калыска і храм,
Прадаюцца ўсім, хто захоча:
Ворагу й хцівым сябрам.

Пытанне. Стой! Хто скача?!

Адказ (*голасна*). Ганец ад арандатараў Іцкавічаў да іхняй высокасці яснавяльможнага князя Радзівіла.

Першы голас (*голасна*). Праязджай! (*Ціха.*) Ну і кампанія!

Адказ (*ціха*). Саб-бакі.

Ізноў ноч, і галоп наўскапыт, і песня.

Прадаецца з бязмежкам дубовым,
З продкавым ачагом,
Прадаецца з золатам мовы,
З былым і будучым днём.
І кожны баіцца хоць слова
У абарону яе сказаць.
Дый як? На якой такой мове?
На чужой? На сабачай, пся маць?!
Прадаецца ўся і па частках,
За грошы і напавер.
І дзе скажуць: «Айчына» — там пастка.
І дзе скажуць: «Хрыстос» — там звер.
І сумленне, і воля святая
Дрыжаць на апошняй струне...
Што там недзе зямлю расцінае?
Гэта
Расце
Гнеў!

Шалёны конскі намёт.

Падвор'е Агны і Васіля Ветраў. Злева, праз яблыні — далёка,— цьмяная стужка Сожа. Пасярэдзіне чыстага двара, бліжэй да левага боку сцэны, вялізны дуб. Справа, крыху наўскос — хата. Ад яе, углыбіні, за плятнём і дрэвамі, арчатая галерэя драўлянага лямуса. На двор выходзіць ганак на слупах. Вокны між ім і лямусам асветленыя. Вокны між ганкам і краем сцэны — цёмныя. Гэта вокны бакоўкі, якая асветліцца, калі дзея перанясецца ў яе. З асветленых вокнаў далятаюць спевы, і жанчына на ганку — яна ўся ў чорным — нібы слухае іх... Зноў далятае здалёк тупат капытоў, замірае недзе за дубам. Чуваць пырханне каня, голас: «Дур-ры́ ў мяне». Пасля адтуль выходзіць і ідзе паўз пляцень да ганка В а с і л ь  В а ш ч ы л а. Песня выбухае з новай сілай:

— Чаго ты, лосю, чаго ты, сівы,
Так да сяла прыпадаеш?
Ды ці ты, лосю, ды ці ты, сівы,
Ліхую зіму чуеш?
— Чую не чую, добра ведаю,
Не будзе, як лецечка.
— Чаго, Надзейка, чаго, малада,
Так жалосненька плачаш?
Ці ты, Надзейка, ці ты, малада,
Ліху свякроў чуеш?
— Чую не чую, добра ведаю:
Не будзе, як мамачка.

В а ш ч ы л а. Вечар добры. Гэта Ветрава падвор'е?

Ж а н ч ы н а. Так.

В а ш ч ы л а. Што гэта ў вас?

Ж а н ч ы н а. Перадвясельная ноч у сына. Я А г н а  В е ц е р.

В а ш ч ы л а. Скажыце яму, што яго выклікае Васіль Вашчыла.

А г н а. Можа, пойдзеце да іх?

В а ш ч ы л а. Не трэба, каб мяне бачылі. Я пачакаю на двары.

А г н а. Тады лепей хадзіце сюды.

Вядзе Вашчылу на ганак, пасля — у бакоўку, прыносіць аднекуль каганец. Пайшла. Вашчыла аглядаецца: печ, стол, крэсла з падлакотнікамі, ложак пад самаробным пакрывалам. На стале дзесятак кніг, чарніліца з пяром. Вашчыла ўзяў адну кнігу.

В а ш ч ы л а. Де рэвалюцінібус орбі-юм *(гэта па складах).* Колы нейкія. Мудрагеліць Вецер. Не да «колаў» — была б жывая душа... Гм... Жэніцца. Знайшоў час. Хай жэніцца — больш старцоў будзе.

Ж а н ч ы н а прыносіць пару місак з ежай і «ўдаву» — бутэльку ў выглядзе абаранка.

А г н а. Вось мірона смажаная... Вось траўнічак... Падмацуйся, госцейка. Я сказала сыну, што нейкі лёзны чалавек яго пытае. Ён зараз выйдзе. Радуюся я за яго. Надзея ягоная — пані, а не дзеўка. А вы скуль? Хто?

В а ш ч ы л а. Сына вашага ведаю з Крычава. І зараз адтуль.

А г н а. Дык чаму туды не пайсці? Узрадаваўся б як?

В а ш ч ы л а. Мне туды нельга.

А г н а. Сын даўно не быў у Крычаве. Прыехаў — а тут яна. Сірата зусім, як ён напалову сірата. Яшчэ са снежня року божага тысяча семсот васемнаццатага. Калі Карпач кашу заварыў. Дваццаць шэсць год мінула. Не, меней. Нашы загінулі праз тры гады. Ох, божа! А мой нябожчык як напрошваўся на бяду. Гэта ж яны яшчэ ў шэсцьсот дзевяноста шостым харугву Агінскага гетмана пабілі.

В а ш ч ы л а. Слаўная была справа.

А г н а. Добра, што Васіль нявесту тут сустрэў і зараз тут і застанецца. Зараз ехаць небяспечна. На дарогах ловяць людзей. Што гэта будзе? Адзін воўк здае староства на водкуп другому. Рабуюць простых. Гора!

В а ш ч ы л а. А чаго гэта вы са мною так адкрыта, сястра?

А г н а. Бачу мазалі на вашых руках... Не, хай ужо зараз *т у т* сіроты мае.

Далятае песня. З «сіроцкіх вясельных»:

А хто ж там каля рэчанькі гукае?
Малады малойчык,
Маладая дзеўка свайго татачкі шукае.
— Ды прыйдзі, прыйдзі, мой ойчанька, блізенька,
Паклонімся табе тройчы ды нізенька.
— Не прыйду, маё дзіцятка, не прыйду,
Не прыйду, маё роднае, не прыйду.
Дзіцятка маё роднае,
Хай цябе бог гадуе,
Долю, шчасце гатуе.
Ой, не магу я ўстаці
Да свайго родна дзіцяці:
Сасновы дошкі сціснулі ножкі —
Не скрану,
Жоўты пясочкі засыпалі вочкі —
Не ўзгляну.
Шэра каменне лягло на грудзі —
Не ўздыхну.
Ды зламжылі ручкі на шчырым сэрцы —
Не здыму[1].

Вашчыла. Што людскія сіроты? Зямля наша — сірата. Толькі чалавечым сіротам — бог абаронца. А пра зямлю нашу ён забыў.

Агна. А вам што, так конча бог патрэбен? Постаць у вас магутная, рукі жылаватыя, галава ёмістая.

Вашчыла *(іранічна)*. Угм... дзеўкі мяне любяць.

Агна. Сябры любяць... І дзеўкі. І пад старасць у такіх, як вы, не менш за дзесяцёра дзяцей.

Вашчыла. Тут не ведаеш, нашто іх заводзіш? На жабрацтва? Бізун? Турму?

Агна. Спіны моцныя. Здужаем.

Вашчыла. На гэтай вось маёй магутнай спіне ад арандатараў, братоў Іцкавічаў, за скаргу князю сто пяцьдзесят бізуноў. Ледзь не памёр ад гэтага.

Агна. Куды скардзіцца ездзілі?

Вашчыла. У Варшаву. Восем год назад.

Агна. А цяпер прыехалі сюды. Ці аднымі бізунамі *цяпер* справа пахне?

Вашчыла. Цяпер так ці інакш кепска пахне справа. Забіваюць да смерці, гойсаюць па шляхах слугі арандатараў. Няма жыцця так і так... А пра вас

---

[1] Калі актрыса ведае лепшыя «сірочыя вясельныя» ці такія, што лепей кладуцца на яе голас, яна мае права, нават абавязана выканаць іх замест прыведзеных тут.

відаць, праўду кажуць, што вы ў місцы з вадою бачыце ўсё, што мае адбыцца.

Агна. Вядзьмарка? Не. Няма вядзьмарак на свеце. Проста бачыла многа, ведаю людзей. І чую, што шчасця паменее, сірот пабольшае.

Песня:

Прашу цябе, матухна, прашу, родная,
Да мяне на вяселле ды на сірочае.
— Весяліся, дзіцятка, весяліся, маладое,
І з панам богам, і з добрымі людзьмі.
Я к табе прыйду ў суботу ўвечар.
Я на двор сыду дробным дожджычкам,
Я ў сенцы ўвайду ясным сонейкам.
Я за сталом сяду табе на параду,
А як будзе трэба — стану да пасаду.

Агна (*насцеражылася, прыслухоўваецца да чагосьці).* Едуць.

Вашчыла. Хто?

Агна. Едзе нехта шляхам... Што за часы — як тупат конскі, дык чакай бяды?

Вашчыла. Не чую.

Агна. Я чую. Наслухалася за жыццё. Ешце, госцейка... А як звернуць конныя сюды — гасіце агонь. Далей ад ліха.

Пайшла. Вашчыла налівае чарку, пачынае закусваць. За сцэнай нехта завёў — госці, відаць, падпілі ўжо — ні з пушчы ні з поля:

— Ці не нявесту вязуць?
— Нягож каго!
— Чаго яна не плача?
— Чорт чаго!
— Ды няхай той плача
І рвецца,
Хто яе ў гэты дом
Дажджэцца.

Пасля чуваць рогат і голас Лаўрэна Каўбасы: «Лепш ехаць па сена, чым на такое вяселле». Голас: «Сват — сабачы брат». Лаўрэн: «Сват не сват, а добры чалавек».

Адзін сват жонку хваліць,
Што харошы абед варыць,
А другі сваю судзіць —
Што ні зварыць, то спаскудзіць.

Гоман. У дзверы ўвальваецца падпіты Лаўрэн Каўбаса, абвіты ручніком.

Каўбаса. А каб вам, госцейкі, пабіцца, а мне на вас падзівіцца. Не п'яны, не драны — называецца, на

вяселлі быў... А вяселлейка бог нам даў: ажаніўся пяхцер, торбу ўзяў... Абвёў вакол елі, і чэрці ім пелі. *(Заўважыў Вашчылу.)* Стой! Хто такі? П'е! Закусвае! Чам-му адзін сядзіць, як пацук? Устаць слупам! Сват Лаўрэн Каўбаса прыйшоў!

В а ш ч ы л а. За саплівым сватам не находзішся з платам. Сціхні... сват.

К а ў б а с а. Чаму не між людзей?!

В а ш ч ы л а. Каб не ведаў войт Аўдзей.

К а ў б а с а. Унь як? Хі-ітры. Сцеражэцца. Хто такі?

В а ш ч ы л а. А гэта, сваток, не табе ведаць. Не табе ведаць, каб з бядой не абедаць.

К а ў б а с а. Цік-кава. Стой, а я цябе недзе бачыў. Ці часам не ў Селішчы? Ці часам не ты гэта пакаштаваў Гдалевага ды Шмуйлавага крапіла? Ці часам не ты...

В а ш ч ы л а. Кума пытала, а пасля язык кусала. Менш ведаеш, сваток, менш балбочаш, а то бізун гаваркіх лю-убіць.

К а ў б а с а. С-служкі паўсюль па дарогах. Ноччу ездзіць нельга. Нас многа, дый тое са зброяй ехалі. А ты, па ўсім відаць, адзін...

В а ш ч ы л а. І тут, сваток, не твая справа, убрыкні цябе камар. І не сунь ты сюды, сваток, свой нос, каб табе на старасць кот яйка знёс.

Урываецца М а г д а М я к е н ь к а я,
таксама крыху на падпітку.

М а г д а. А во ён дзе, барыла гэты, авечка гэтая блудная! Чаго ад людзей уцёк?

Л а ў р э н. Я да чалавека... а ён ісці не хоча.

М а г д а. Не хоча, дык не хоча, ягоная справа. А ты ідзі, апівашына гэткая, валацуга, атрута мая.

Л а ў р э н. А ты на мяне не крычы. Не асядлала пакуль.

М а г д а. Цябе асядлаеш. Адна паспрабавала, дый прамым ходам да бога ў рай.

Л а ў р э н. Ты ўжо маўчы сама, апсюганка. Другога мужа данасіла дый на мяне мецішся. А яшчэ клічуць Мякенькая? Як кій дубовы.

М а г д а. Патрэбен ты мне, атрутнік гэткі, гламазда, гіцаль, прабыдла ты няшчаснае, акаянная твая паганая сіла. Мякенькая, ды не для цябе.

Лаўрэн. Ну-ну-ну, ну-ну-ну. Бач, абрыда, бач, бабішча непралюдная (*валтузяцца, Магда хоча выпхнуць Лаўрэна за дзверы*), булава ты бязмозглая!

Магда. А хадзі-хадзі, мой каточак. Хадзі, балдавешачка ты мая любая-ненаглядная, роднае ты маё аб'еддзе блашынае.

Лаўрэн (*пручаючыся*). Баба! Не смей! Гасцявыя людзі!

Магда. Смею, любенькі, каб цябе так чэрці любілі.

Лаўрэн. А-ёй, каб табе жаба цыцкі дала.

Магда выпхнула яго. Вашчыла наліў чарку.

Вашчыла. Н-ну-у. Прапаў, сваток. Паплачуць па табе твае сабакі, паходзяць па табе яе каты. (*І раптам прыслухаўся, пачуў тое, што значна раней чула Агна: часты і шматлікі пошчак капытоў, які набліжаецца і набліжаецца.*) Ну й слых у кабеты. У варту б яе — цаны б не было. *Дзьмухнуў на каганец. Цяпер ён толькі слабы цень, які прыпаў да акна і выцягнуў з-за паяса пісталет. Асветлены цяпер толькі ганак, на якім стаіць Агна Вецер, і — цьмяна — двор. З левага боку глухія ўдары ў браму.*)

Голас камісара. Гэй, адвальвай браму! Гэй, пускай конных, ваўкі вас еш! Чый двор? З дарогі збіліся, увесь свет прападзі акрамя пападдзі! Чый? Двор чый? Хвёдара Барана?! Адчыняй, каб вам на тым свеце хаціну збудавалі! Паны-арандатары Іцкавічы, Гдаля і Шмуйла.

Агна. Не крычы, камісар. Гэта не Бараноў двор. І рабіць тут Шмуйлу з Гдалем няма чаго. Гэта двор вольнага землеўладцы.

Гдаль. Якога яшчэ вольнага?

Агна. Удавы панцырнага баярына Агны Вецер і яе сына, Васіля Ветра.

Шмуйла. Ну, Ветра, ну, Ветра. Адчыняй.

Агна. Каралю, а значыць і князю тут усё заплочана да апошняга шэлега. То і няма чаго тут рабіць яго папіхачам.

Шмуйла. Баба... не каштаваў гэты двор бізуна?

Агна. А госць няпрошаны не каштаваў бязмена ў лоб?

Гдаль. Спако-йная ты, кабета.

Агна. Спакойная. Як хочаце па-добраму — не ламіцеся ў браму, пакіньце сваё воўчае мяса за агаро-

джаю і пеша, як ветлівыя госці, ножкамі, ідзіце ў двор. Унь лава пад дубам. Чарку вам вынесуць сюды.

Гдаль. А што там у хаце за гвалт?

Агна. Вяселле... на якое вас не клікалі. А сілком дзерціся на чужое свята — не раю.

Маўчанне. Пасля пырханне коней. З'яўляецца камісар, а за ім браты Гдаль і Шмуйла Іцкавічы ў суправаджэнні варты.

Гдаль. Уй, Ветрыха. Грубіяніш. Хто да цябе лезе ў хату на тваё вяселле, на тваю трэфную ежу?

Агна. Прабач, бацюхна. Каб ведала — кошарнага прыпасла б дзеля такіх дарагіх гасцей. А ў хату? У хату не запрашаю. Няма чаго ясну панству Іцкавічам баляваць са свіннямі.

Камісар. Захочуць — самі ўвойдуць. Вашага не будуць есці, а й вам не дадуць жэрці.

Шмуйла. Так, пані. *Мала* што вольныя вы і ваш сын. *Мала,* што выплацілі інвентары. У нас — арэнда. І фактычна-такі пабор звыш чыншу мы браць-такі будзем. І ссыпка жыта, і грашовыя паборы — меты — возьмем і не спытаемся.

З'яўляецца Лаўрэн з Магдаю, заўважыў прыхадняў, штурхнуў яе назад.

Лаўрэн. Бяжы па людзей.

Шмуйла. І выберам гіберну і іншыя плацяжы. А калі чынш заплацілі — дзе вашы квітанцыі?

Агна. Што ж, у другі раз браць будзеце?

Гдаль. Па *паперах* дзе відаць, што вы плацілі?

Агна. Якія паперы? У нас заўсёды — на слова.

Гдаль. Гэта раней было — на слова.

Лаўрэн. Ой, падавішся, пёс!

Камісар. Цяпер — вось вам ваша слова (*паказвае дулю*). А будзеце бараніцца — возьмем сілаю. Усё возьмем. Бізуноў захочаце — будуць бізуны. Турмы — будзе вам турма. Нам вашы кароль і князь — не ўказка. Псом яснага пана Гдаля абазваў — псам тваё падла кінем.

Гдаль. Ну і нашто лезці і гарлаць? Ціхенька скарыцеся — і не будзеце пасля доўга хварэць, а мо і паміраць.

З хаты пацягнуўся на ганак і галерэю лямуса натоўп. Стаіць пакуль што, у пагрозлівым маўчанні.

Ну і што? Вось Вашчыла ездзіць па наваколлі — мала яму паўтараста плётак. Ён хоча на кол сесці. І на па́лі не дапаможа яму ані Хрыстос, ані хто.

Шмуйла. Не было тут злодзея Вашчылы, басякі-і? Не ў хаце ён?

Лаўрэн. Гэта мы басякі? Ану зайдзі, зайдзі ў хату, тварына паршывая.

Шмуйла. І што заходзіць? Нашто мне заходзіць? Унь у вёсцы Гарбовічы сем забітых. Унь у Вепрыне шмат калек. Ім хочацца ў пакутнікі? Я-ткі ім зраблю, пакутнікі.

Лаўрэн. Сабака, змоўч!

Гдаль. А што, пры Пятровічу, пры *сваім* арандатару, вам лепей было, музікі-і?

Агна. Праўда, не лепей. Відаць, толькі падлюгам падмога і ад нашага, і ад вашага смуроднага бога... Ідзіце адсюль.

Гдаль. Гэта невядома, хто пойдзе.

Агна. Ты што, басурманская душа, жэрці гэтыя грошы будзеш? Здохнеш — няма ў твайго савана кішэняў.

Гдаль *(філасофскі)*. Што ты ведаеш аб грошы. *Гэта — усё.* Мы гэта разумеем. Для караля з князем яны ўсё. Для нас яны — адзіная абарона супраць вашых дурных паноў. Адзіная ўлада над вамі, брудныя свінні з неабрэзанымі вушамі.

Магда. Вось мы вам галовы абрэжам, кручанымі вяроўкамі гадзіць прымусім.

Гдаль. Гэта яшчэ хто каго прымусіць. *Наша* цяпер сіла, *нам* уладу аддалі. І мы ўжо лейцы з рук не кінем. Не, не палянуемся тут дымам усё пусціць. Выведзем, як клапоў.

Лаўрэн. Лупіш ты па краі, як конь па градах. Не дачакаўся б ад нас...

Шмуйла. Што, пугі?

Лаўрэн. Не. Молатам у лоб, як на бойні.

Гдаль. І пуга і молат — у таго, у каго грошы. А вы іхняй карысці, іхняй сілы не ведаеце. *Мы* ведаем, у каго яны ў руцэ.

Агна. Сцеражыся, Гдаль. Устануць людзі. І адказваць за твае паскудствы будуць тыя з тваіх супляменнікаў, што грошай у вочы не бачаць, што не вінаватыя. Ты ўцячэш, я ведаю. А тыя?

Гдаль. А перад кім адказваць? Стрыечны брат

твайго Васіля, Васка Вецер, палохае гэтых бедных, грошы ў іх адбірае, пагражае пагромам і вымагае ад іх гарэлку. А твой сынок сядзіць тут. І твае супляменнікі і мае цяпер кажуць: Васіль Вецер, справядлівы,— увесь выйшаў. Застаўся разбойнік Васка.

Агна. Адкажаш ты за абразу гэтага дома, паршывы д'яблаў вырадак.

Магда. А дом твой — карчма пасярод дзярма.

Гдаль. Слухай, камісар, дзе твая ўлада? Тутэйшыя шлюхі, самадайкі паноў сваіх абражаюць.

Камісар. А мы іх пагрэем.

Уздымае паходню да дваровай страхі. Напятая цішыня, потым Лаўрэн дастае з-за апаяскі два пісталеты і страляе з аднаго проста над галавою Гдаля, у шату яблыні. Адтуль падае да ног Гдаля яблык.

Гдаль *(камісару)*. Ты што? Апусці сваю капцёлку, халбер гой... А ты, басяк, што страляеш? Яблыкі зялёныя яшчэ.

Лаўрэн. Так, маленькія яшчэ, ясны пане. Бо як вырастуць, то яны ў нас вялікія, не раўнуючы, з вашу галаву... У такое пацэліць — гэта раз плюнуць.

Шмуйла. Ён як гаворыць?!

Гдаль. Змоўч, Шмуйла. Вой, і пажартаваць нельга з гэткімі людзьмі. Ну, едзем ужо. Але хай на вашу каросту батагі — з вамі яшчэ такі пагаворацць. Запомні, маці Ветра.

Агна. Запомні і ты, сын кабана і сукі.

Іцкавічы аддаляюцца і знікаюць з вартай. Пасля далятае пошчак капытоў.

Не скончыцца дабром гэта.

Магда. Так. Не скончыцца. Для іх. Бо апошнія ўжо кроплі цярпення...

Госці паволі ідуць у хату.

Лаўрэн. Вось табе, матка, за смеласць жменю медзі, каб унукі былі, як мядзведзі.

Песня:

Аж у нашага свата
Ды сасновая хата,
На двары сады цвітуць,
На стале мяды цякуць.

Усе знікаюць у хаце. Вашчыла ў сваёй бакоўцы адарваўся ад акна, сеў за стол. Нехта ўваходзіць. Чуваць голас Ветра: «Дзе тут

госць?» Пасля — іскры ад крэсіва. Запальваецца губа, а пасля каганец.

Вецер (*аслупянеўшы пры выглядзе Вашчылы*). Ты? Чаму ж маці не сказала?

Вашчыла. Мусіць, забылася імя.

Вецер. Добра, што прыехаў. А ў мяне шчасце.

Вашчыла (*сумна*). Бачу. Няўчаснае шчасце.

Вецер. Што так?

Вашчыла. Твой двор толькі што наведалі Іцкавічы.

Вецер. Мужыкі не пусцілі мяне да іх. Госці.

Вашчыла. Ну вось. А каб не госці, ты, свабодны чалавек, які чысты ад даўгоў, але не мае распіскі аб уплаце, бо верыць, як усе мы, на слова...

Вецер. Ну?!

Вашчыла. Ты, свабодны чалавек, ляжаў бы, адхвастаны да паўсмерці, як сотні людзей у старостве, быдла тваё было б зведзена, хата абдзёртая, як ліпка, і спаленая.

Вецер. Князь збіраецца адабраць арэнду ў Іцкавічаў і аддаць свайму.

Вашчыла. А ты ўспомні свайго. Пятровіча. Лягчэй было?

Вецер. Ну, усё ж свой.

Вашчыла. Угм. Гэта і праўда лягчэй, калі табе родны брат зубы выб'е, а не траюрадны.

Вецер. Цэрквы, прынамсі, бурыць не будуць.

Вашчыла. А папы́, за выключэннем самых бедных і простых, накшталт Антоха Крапілы, таксама не нашы, каб ім на вежы сем год гойдацца.

Вецер. Што ты шуміш, Вашчыла? Нам усё ж лягчэй. На захадзе зямлі беларускай паншчына непрыкрытая, а ў нас заплаціў грошы — і ты вольны. Баяцца ўсход занадта чапаць. Мы — на мяжы з Масквой, мы, у выпадку чаго, і да яе.

Вашчыла. А там паншчына горш за нашу. Людзі адтуль да нас бягуць. А што лягчэй, дык зразумей і ты, што ў цябе ўмова з панам, у цябе крыху волі, у цябе ёсць час падумаць. І ясна, што пры такім стане будзе каза́к, а самастойнаму казаку лягчэй паўстаць, чым рабу. І... меней на гэта трэба прычын.

Вецер. Няма ў мяне на гэта ніякіх прычын.

Вашчыла. Ой-ёй! А Іцкавічы? Іцкавічы, што дзя-

руць вышэй інвентара? Узялі староства ў арэнду, на водкуп. І грабуць з нас вышэй пісанага, вышэй таго, што народ павінен. Князю мы колькі павінны былі выплаціць? Дык яму самому лень было выбіваць, ён нас гэтым цмокам перадаверыў. А тыя за час арэнды, звыш паложанага інвентару, выбілі і паклалі ў сваю кішэнь амаль мільён трыста тысяч злотых, ды звыш ста дваццаці коп пяньκі, ды падаткі, ды адработкі, ды штрафы. Толькі грашыма з чалавека лішніх па шэсцьдзесят злотых у бяздонную, у нясытую гэтую сваю глотку. Гэта не клоп. Гэтыя браткі, пакуль усю кроў не высмакчуць,— не адваляцца. А не заплоціш — б'юць да паўсмерці і да смерці і хаты паляць. А ўцячэш — доўг твой здзяруць з таго, хто застаўся. А яшчэ на вайну аддай. А воінскія пастоі? А жаўнеры, якія рабуюць? Адна харугва Слушкі з нас семдзесят тры тысячы злотых выбіла. Пасля іх, сваіх, як пасля варожай навалы. А скардзішся — б'юць, і ёсць мёртвыя, і шмат калек.

Вецер. Нашто ты мне гэта?..

Вашчыла. *Умова* парушана — і ўсе абурыліся. Бедным падзёншчыкам трэба жыць, нам, багацейшым, трэба гандляваць. А з кім? З усімі, акрамя арандатараў, клапоў гэтых, забаронена. Вяжа нас рабства, бедных людзей, па руках і нагах. Каму чаго ў нас купляць, калі трыццаць двароў з сотні паміpае з голаду, а грошы нясуць *не табе за хлеб,* а Радзівілу *на хлеб,* Іцкавічам — *чорт ведае на што.*

Вецер. Князю на іх скардзіцца. Князь — наш.

Вашчыла. Ну так. Мы бацьку ягонаму належалі, пасля — маці, пасля — сыну. Я скардзіўся. Сто пяцьдзесят бізуноў на маёй спіне і турма. А паршывы Гдаль хваліцца, што «плявала на вас улада, што як дам тысячу або больш талераў, то камісія будзе за мяне, а не за цябе, смярдзючае беларускае быдла».

Вецер. Масковія?

Вашчыла. Там панскае дзікунства без прасвету.

Вецер. Кароль?

Вашчыла. Аўгуст наш трэці? Ён Рэч Паспалітую і Беларусь прапіў, давёў да ручкі. Каралёўская ўлада ляжыць, як п'яная баба за карчмою, і ўсе магнаты, хто захоча, яе топча... Мы ім цікавыя толькі як паўстанем, як сала за шкуру зальем. А тое, што мы кожны дзень, кожную гадзіну бубнім, варочаемся, супраціўляем-

ся — ну, гэта іх не абыходзіць. Пісьме-енныя, вучооныя! Што ім да таго, што хлоп думае? Мы — беднае бесслаеснае быдла. Мы хлеба кавалка не можам купіць, не паведаміўшы Гдалю са Шмуйлам.

Вецер. Гандаль? Ну ясна. Не вера, не незалежнасць, а прагнасць і своекарысце. *Грошы* яны ў нашых гандляроў перабілі.

Вашчыла. А што вера? Поп багаты, пакуль не абдзярэ — адпяваць не будзе. Што ж нам, *гэткіх* умацоўваць? За *іх* біцца супраць уніі? Няма чаго казаць — варта дзеля такога дзярма ліць кроў лепшых людзей.

Вецер. Што ты мне казані чытаеш? Я ўсё гэта і сам ведаю, а ты не поп і не ксёндз. Кажы проста, чаго трэба?

Вашчыла *(з вялікім значэннем і вельмі важка). Мы пачынаем, Вецер.*

Вецер. Толькі Крычаў?

Вашчыла. Крычаў — кацёл з варам. Але не толькі ён. Усё староства. Цярпець больш немагчыма.

Вецер. Хто ды хто?

Вашчыла. Я, Стэсь Бачко, Іван Карпач.

Вецер. Род славуты.

Вашчыла. Род падобны на твой. І стан такі... Ну і яшчэ твой стрыечнік Васка Вецер.

Вецер. Ветрагон, занадта любіць гуляць.

Вашчыла. А ты занадта любіш жыццё. Ну вось, пашлем ганцоў. Ты павінен быць у Крычаве. Ты вельмі пісьменны чалавек, без цябе цяжка. І табе вераць збройнікі і многія астатнія людзі... Мы ім, прабыдлам, сухалом на іх, справім Хмяльніччыну.

Вецер. Пры *ім* паўстала ўся Беларусь. З намі былі казакі. І ўсё ж нас разбілі. А тут адзін маленькі Крычаў і мужыкі з косамі. Мы немінуча загінем.

Вашчыла *(тужліва).* Я ведаю, браце. Ды лепей пастуціцца жыццём, чым сумленнем. Ведаю, справа толькі ў часе. Можа, мы не пратрымаемся і месяца, можа, нас хопіць на некалькі год. Ды бывае так, што трэба гінуць. Мы зараз як жабяняты, якіх нават зайцы палохаюць. Нас катуюць, як жадаюць. Памяць іхняя каціная: наторкаюць носам, а яны зноў за тое самае. Хутка забылі, як ад жаху скавыталі перад намі. Трэба ім напомніць, каб асцерагаліся чапаць нас. А мо і перамога? Яны ж прагнілі, як бурак.

**Вецер.** Што, крывёю Крычава купіць адносны спакой усім?

**Вашчыла.** Трэба пашкадаваць, трэба дужа пашкадаваць сваю радзіму, Вецер.

**Вецер.** На ёй зараз цішыня, хай няпэўная. Пашкадаваць — значыць выклікаць вецер. Ураган. Знішчыць гэты няпэўны дабрабыт, гэтае слабае шчасце. І чужое, і... сваё. Ты бачыш, сёння...

**Вашчыла.** Праз год ці два будуць дзеці. Думаеш, будзе лягчэй? А шчасце? Унь яны вывелі людзей з Ліпічна ва ўрочышча Філазопаўскі грунт і загналі ў дрыгву... з малымі дзецьмі. І смяяліся, калі да іх працягвалі дзяцей. І ты будзеш смяяцца разам з імі... ад шчасця? Будзеш араць, калі яны самое месца вёскі заараліʼ?

**Вецер.** А ўздымем бунт — загінуць *усе дзеці ва ўсіх вёсках. Усе жанчыны.* І мая Надзея таксама. А тут яна смяецца ад зелені, сонца. Бачыш, якая справа. Я абяцаў ёй усё добрае, а аддзячу самым злым. Магілай.

**Вашчыла.** Ты абяцаў не толькі ёй. За ўсё ў жыцці трэба плаціць, Вецер.

**Вецер.** Ведаю. Я не баюся... Я проста не магу. Раней мне было ўсё адно. Але тут з'явілася яна. І ўсё стала іншае. Зямля стала прытульная, узгоркі зрабіліся такія сытыя, вочы ў аленяў добрыя... як у яе. Нават кот такі пульхны і мяккі. Калі прыходзіць такое — нельга ліць кроў, нельга несці смерць іншым... і ёй. І чалавек жа створаны для любові, я зразумеў гэта. Для шчасця.

**Вашчыла.** Шчасця няма. Ваўкі вакол.

**Вецер.** Ёсць шчасце. Няпэўнае, але вайна знішчыць яго. Людзі загінуць немінуча. Ваўчыная моц, ваўчыная жорсткасць яшчэ не былі дасюль пераможаныя. А тут ёсць свае сцены, зброя ў руках... і яе вочы. Я не магу здрадзіць ёй.

**Вашчыла** *(пасля паўзы).* Сынок, будзь сумленны і не чапай яе. Хадзем. Светлую памяць зберажэ яна пра цябе, пра твой голас, валасы, гэтыя вочы, гэтыя моцныя рукі. *(Паўза.)* Ведаеш, мы часам павінны ахвяраваць сабой той маці-зямлі, што прыняла ў сябе тваю пупавіну і з часам прыме цябе. Можна жыць без жонкі і дзяцей, нават без бацькоў. Але немагчыма

жыць без Радзімы, яна ў цябе адзіная, сынок. І ёй плююць у вочы...

В е ц е р. Я не баюся бітвы. Але ўва мне зараз такая любоў да ўсяго. Ходзіш па цёплай зямлі і павінен яшчэ хадзіць шмат год — а тут схопяць і пераб'юць ногі. Спяваеш, п'еш віно, цалуеш — а тут кладуць у рот жар. І ноч перад плахай — а ёсць змярканні, ранкі марозныя... і трава ў срэбры. І ўсяго гэтага... А-ах!

В а ш ч ы л а *(устаў)*. Ну так, ты не баязлівец. Ты давёў гэта. Але хапіла бабы і... Я не думаў, што можа быць чалавек, які ціскае жонку, калі ягоных братоў ціснуць кляшчамі. Які глядзіць у неба, а народ ягоны ў гэты час глядзіць у вочы ка́там і думае апошнімі думкамі, хто яшчэ тыцне яму пікаю ў бок. Трасца з табою... *(Запіхвае пулгакі за пояс.)*

В е ц е р. Вось пулгакі... Пісталеты... Яны нясуць смерць. А я пакахаў. І зразумеў: любоў не можа несці смерць. Стаяць жывыя лясы... Дымяць жывыя хаты... Смяюцца і спяваюць у іх жывыя людзі... Грэюцца на прызбах старыя... Бегаюць дзеці... І на ўсё гэта я праз вашую дурасць выварачу загібель, тло, агонь. І вы і яны будзеце забіваць, рэзаць, граміць, як ашалелыя, а пасля пакінеце вялізныя могілкі. Вось чаму яшчэ я не з вамі, а з жыццём. Людзі, Надзея і я. І, можа, ты скажаш, *як гэтым людзям, як мне перамагчы жаданне жыць?* Я люблю, ува мне ўсё неба, а ты клічаш загібель... Чалавек створаны для любові.

В а ш ч ы л а. Правільна. І адзін такі, што даў сябе распяць за нас, сказаў: «Няма любові большай за тую, як нехта душу сваю паложыць за друзі свая».

Паўза пасля гэтых слоў доўгая і страшная.

Бывай. Я жыццём рызыкаваў, едучы да цябе. Бачу, дарэмна... Я шкадую таксама, што еў і піў тут... у доме здрадніка... На!

Адчыніўшы дзверы, ён кідае на стол манету — яна заракатала між місак — і выходзіць... Праз хвіліну ўваходзіць А г н а В е ц е р.

А г н а. А сыночак, а што ж гэта ён крычаў пра дом здрадніка, гэты вар'ят?

В е ц е р. Чула?

А г н а. Дзіва што. Крычаць, аж у Крычаве чуваць... Што гэта такое?

Вецер. Тое, што ён сказаў.

Агна. Пры тваім бацьку ніхто б не насмеліўся сказаць такое.

Вецер. Чаму?

Агна. Ведаў, што, пасля таго як пакіне нашу зямлю,— не пражыве і хвіліны. І потым... людзям не было прычыны казаць такое.

Вецер. Кінь, матуля. Гэты чалавек... ягоная праўда.

З двара шалёны пошчак капытоў. З месца ўзялі ўнамёт.

Агна. Што ж, расказвай тады, як ты зганьбіў сваю хату, сыне.

Вецер. Яны рыхтуюць бунт. Мноства людзей не пойдзе на яго, калі не пайду я.

Агна. Ты даў слова?

Вецер. Я даў слова.

Агна. Значыць, павінен быў ісці да канца. Наш род ніколі не кідаў слова свайго ў гной.

Вецер. Тады я не думаў пра Надзею. А тут зразумеў: жыццё, любоў — варожыя крыві, пагрому, забойству, смерці. Я стаў іншы, а яны ўсё яшчэ не разумеюць: чалавек не павінен пэцкаць рукі ў крыві. І калі ён забівае — ён перш за ўсё забівае сябе.

Агна. Мне зараз кепска. Змяя цябе малога ўкусіла — я адсмактала атруту. Пошасць была — я ўратавала цябе. Зараз ты ведаеш такі верх зямной прамудрасці, як лаціну, а тады казаў, што вецер дзьме, бо дрэвы калоцяцца... І вось... Гэты чалавек, якога я ненавіджу, бо ён не насіў і не ратаваў цябе, кідае нам, Ветрам, такі дакор. Каб ім ягоныя дзеці ў голад давіліся.

Вецер. Не лай Вашчылу.

Агна. А хто вінен, што я яго лаю, што наш агонь зняважылі? Што гэты чалавек праз тваю віну зганьбіў твайго дзеда, бацьку, мяне. Мы — панцырныя баяры. Мы храбрасцю ў войнах здабылі сабе права нікому не цалаваць рукі і насіць меч... І ты яго годна носіш. Чыншавыя сяляне — і тыя не церпяць. Сто год не церпіць гэтая зямля. Забілі калісь войта Мікіту Звягу; пяцьдзесят год назад пабілі харугву Канажэцкага.

Вецер *(іранічна)*. Ну-у. «Каламі і рушніцамі ў спіны штурхалі і пад нос маскоўскія дулі торкалі».

Агна. І там быў твой дзед. А ў шэсцьсот дзевя-

носта шостым харунжага вялікага княства Агінскага за разбой іхні разбілі. І там ваявалі Зміцер і Ілья, дзед і бацька Івана Карпача... І твой бацька, зусім малады. І тры гады назад Пжылэнцкага разбілі. І атрад карны Янкоўскага разбілі, аб чым ты і сам ведаеш. І кожны раз людзям рабілася крыху лягчэй дыхаць. А зараз прыцiснулі іх, і дыхаць няма чым, а ты...

Вецер. Ма-ці, я проста не магу зараз, пакахаўшы, праліваць кроў. Усё раўно чыю кроў. Гдаля, Радзівіла, Шмуйлы. Яна святая, бо яна чалавечая. З часам усе зразумеюць гэта, нават яны.

Агна. А пакуль льюць нашу кроў, як ваду.

Вецер. Я не магу сам наклікаць час вялікай крыві. Я шчаслівы і добры, як ніхто.

Агна. Ты ведаеш, як памёр твой бацька? Што ж, час расказаць. Балабановіч угаварыў яго быць сватам да дачкі шатнага ў паляўнічым палацы князя. Бацька сказаў: «Ён накраў золата, а ты — вольная галота». Ну, Балабановіч угаварыў бацьку... на пагібель. Перад ганкам людзі шатнага запатрабавалі ад іх першай ганьбы: зняць шаблі і выпрагчы коней. Бацька адмовіўся. Не трэба было ім ісці далей. Але бацька зірнуў на Балабановіча... і яны пайшлі. І за сталом ім разам паставілі гуся, парсюка з чорнай падлівай і гарбуз. Адмовілі. І ТАК, што лепей бы плюнулі ў твар. І тады бацька сказаў: «Што ж, ад гусей і парсюкоў іншага нельга было і чакаць». Шатны сказаў: «Панцырнікі сватаюцца да шляхты, ганіце іх». Бацька сказаў: «Усе ад Адама. Але я здабыў волю мужнасцю, а ты — распустай свайго невядомага бацькі».

Вецер. Ну так, незаконны сын Радзівіла. Але што мне да гэтых смешных крыўдаў, да прымхаў, да дурных звычаяў? Я вышэй іх. Я люблю жыццё і не хачу ліць крыві.

Агна. Бацька адаслаў Балабановіча па падмогу, а мы рыхтаваліся. А пад ранак маршалак і шатны са шляхтай абступілі і пасля перастрэлкі падпалілі дом. Мяне выцягнулі з агню. А бацька страляў з гэтага вогнішча, а потым пулгакі, пісталеты стралялі ўжо самі.

Вецер. Гэтыя людзі памёрлі. А іншай крыві я не хачу.

**Агна.** Ратуючы ад хваробы, не ўратавала ад ганьбы. Шкада... Ветры — пасмешышча зямлі.

**Вецер.** Я не жадаю крыві. Ува мне зараз неба. І я так палюбіў жыццё і Надзею, што трэба баяцца, як бы я не зганьбіў сябе яшчэ горш... Вось схопяць... Ты можаш зрабіць так, каб я не пахіснуўся, каб смяяўся ім у вочы, каб не стагнаў ад успамінаў у апошнюю ноч? Я не жадаю даць ім гэтае ўцехі. Я не хачу чужой крыві і не хачу ліць сваю! Ратуй мяне. Зрабі, каб я не шкадаваў іхняга жыцця і свайго. Ратуй мяне ад ганьбы!

Вецер стаў на калені.

**Агна.** Усе чамусьці думаюць, што маці ўсё сцерпіць, і таму просяць у яе такое, нібы яе сэрца з жалеза.

Цяжкая паўза.

Каб не казалі, што мы — ад Іуды. Каб не плявалі нам у твар...

Паўза.

Добра. Я дапамагу.

**Вецер.** Хутчэй. Гэта сапраўды страшна, калі на цябе плююць. І страшна ліць кроў.

**Агна.** Едзь у бокКіваверцаў. Пасля, па лагчыне, на Зорны Кол ад Вялікага Каменя. З паловы шляху звяртай на Імшаны Яр. Там, дзе ён упадае ў раку, убачыш на адхоне пад вялікім дубам капаную пячору. Прыйдзі зацямна і не палі святла. *Там — Чалавек...* Будзе гнаць — не ідзі. Скажы яму: «Мне гэта трэба. Я ўсё ведаю і нізавошта не пайду». Не палі святла. Паеш з ім у цемры, а раніцай едзь дадому... Ідзі. Дай табе бог сілы ў апошнюю, у клятую гэтую гадзіну.

Вецер накідае плашч.

Толькі помні. У самы страшны час... У гэтым лесе... У яры... у гэтай нары без святла — *Чалавек. Помні, там Чалавек.*

І зноў цемра, і ноч, і шум дрэў, і галоп наўскапыт.

Дрэвы пяюць пад ветрам,
Дождж як варожы свінец.
Конь скача ў дзікія нетры,
Дзе ноч чакае мяне.
І конь безнадзейнасць чуе,

Што схопіць нас у яры...
Як кроў праліваць мне людскую,
Калі Сонца ўва мне гарыць?!
Мне Любові трэба пазбыцца,—
Бо на пласе народ мой ляжыць.
Як мне з раю светлага ў пекла спусціцца?!
Безнадзейнасць!
Безнадзейнасць!
Памажы!
Памажы!
Памажы!!!

Аддаляецца пошчак капытоў.

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Ноч. Пячора. Яна асветлена толькі жарам у дальнім яе закутку ды святлом зор за шырокім уваходам. Таму ўсю першую палову карціны замест людзей мы бачым толькіх іхнія цені ды чуем іхнія галасы. У паўцемры ледзь можна ўгадаць абрысы пня, які замяняе стол, ствол дрэва замест лаўкі, ды шырокае ложа, засцеленае шкурамі. За атворам-уваходам сілуэты дрэў і за імі — месячная дарожка на паверхні ракі. Здалёк — тупат капытоў. Пасля ён сціхае, і ў атворы з'яўляецца цень. Гэта Вецер.

Вецер. Гэй, гаспадар... Ёсць тут хто-небудзь? *(Уваходзіць, наляцеў на пень стала, ледзь не скінуў нейкі гарлач, але падхапіў яго.)* Вогнішча, значыць, нехта ёсць... Гу! Ёсць нехта? *(Паўза.)* А ўрэшце, трасца яго бяры, гэтага невядомага. Проста трэба ў Крычаў. Проста трэба было добра пратрэсціся на кані, а то заседзеўся. Проста трэба знайсці сілы трымацца да канца. Захоча Надзея са мною — хай ідзе. А не, то будзе яна скора вольная. Каб не абяцаў маці — не трэба было сюды ехаць... То вярнуся дамоў. Няма гаспадара.

Нечы Цень засланіў уваход. Пасля далятае адтуль спалоханы голас.

Цень. Нашто ты прыйшоў, чалавек? Пакуль не позна, пакуль не сядзеў тут — бяжы адсюль. Бяжы хутчэй. Сюды прыходзяць толькі...

Вецер *(узвіўся)*. Толькі смялейшыя, ты хочаш сказаць? А хто табе даў права лічыць мяне горшым за іх?

Цень. Я прашу цябе, уцякай... Бяжы стрымгалоў... Адсюль дарогі няма.

Вецер (*зухавата*). А я яе й не шукаю. А ўцякаць? Ну не.

Цень. Ты не ведаеш, *што́* я...

Вецер (*перабіў яго*). Чакай. Я не пытаюся ў цябе, хто ты і што ты. А я — ведай — я збраяр панцырных баяраў Васіль Вецер з Крычава. Я шукаю пристанішча на ўсю ноч. І таму — мне так сказалі: «*Не палі агню, не кажы нічога. Я і так усё ведаю*».

Цень. Ты б лепей ішоў прэч, чалавеча. Тут толькі адна жанчына прыносіць ежу і пакідае на пні за добрую сотню крокаў. Я зусім адзін ужо шмат год.

Вецер. Ты гоніш госця?

Цень. Да мяне ў госці прыходзяць толькі тыя, якім нічога ўжо не патрэбна.

Вецер. Ну вось, а мне якраз гэтага і трэба. Зразумеў? Залазь сюды.

Цень. Ідзі. Прашу цябе найменнем маткі тваёй.

Вецер. Яна сама і паслала мяне.

Цень. Са-ма-а?

Вецер. Так. І хопіць балабоніць. Лезь сюды. Будзем вячэраць.

Ён вымае з сакваў і раскладае на пні ежу. Вялізны чорны Цень палез у атвор і прысеў да стала.

Еш, чалавеча.

Цень. Смачна. Я амаль ніколі не ем свежага, бо і адкуль? Толькі як жанчына прынясе. А так — ем карэнні, стаўлю пасткі на зайцоў... Цяжка робіцца на зямлі. Вялікая навала ідзе на край. Я даўно не бачыў людзей, але сёння зноў білі гакаўніцы недзе над Сожам. Уцекачы бягуць некуды, але сюды яны не заходзяць, не... Гэта першы. І дзе толькі людзі не шукаюць спакою?.. Так, білі гакаўніцы... І нешта гарэла, языкі шугалі ў паветра.

Вецер. Дай руку... Не бойся, брат.

Цень. Можа-а...

Вецер. Не бойся, брат. *Я* з табою. Дай руку.

Цень. На, брат мой... Бог мой, хатняе сала!.. А ў мяне няма хатняга сала. Бо ў мяне няма кабана. Бо і адкуль? У мяне ж і хаты няма. У мяне нара. Я ад мовы адвыкнуў. Няма ў мяне суседзяў, каб па-свойму з імі пагаварыць. Суседзі ў мяне — совы ды ваўкі. З імі па-беларуску не пагаворыш. Я зусім бедны... Во, соль... А ў мяне няма солі. Я зусім бедны... А хлеб...

такі мяккі, так пахне, такі пульхны. А я не магу нават пасеяць свайго хлеба, а каб пасеяў, то яго стравілі б дзікі... А каб не стравілі — дзе б я яго змалоў, дзе тая печка, у якой бы я яго спёк? Я не адзін такі. Усе браты і сёстры, увесь мой народ такі. Але мне горш за ўсіх. Хата... сала *(голас яго сарваўся)*... хлеб *(плача)*.

Вецер. Супакойся... Ну... ну... ну што ты такі няшчасны? *(Бярэ яго за руку.)* Ты ўсё ж вольны тут.

Чуваць тупат капытоў. Пасля ён сціхае і ў атворы з'яўляецца некалькі постацяў. Гэта Камісар, пара служак і браты Іцкавічы.

Камісар. Гэй, барсук!

Цень. Вось яна, мая воля.

Камісар. Вылазь з нары... Войт з Ківаверцаў данёс, што да цябе прыскакаў нейкі чалавек.

Цень. Дайце мне спакой. Я і так няшчасны і бедны. Чаго вы хочаце? Чаго вы здзекуецеся з мяне так? Што я вам зрабіў? За што! За што!

Гдаль. Аддай чалавека. Ходзіць ноччу — значыць, ён такі мужыцкая басяцкая морда і бандзюк. Наваколле й так бочка з порахам.

Шмуйла. Ну!

Цень. Не чапайце мяне. Я нікому не перашкаджаю.

Шмуйла. Мы й не зачэпім. Жывеш там — ну і жыві. Але гэтага аддай. Небяспека. Служкі яго прыстрэляць і закідаюць жарам.

Цень. Не.

Гдаль. Мае людзі міт стрэльбы. Будзем страляць у пячору.

Цень. Злітуйцеся, добрыя людзі. Што я зрабіў? Я хачу толькі памерці тут.

Шмуйла. У твой час — і ты памрэш. Але гэты туляга памрэ зараз.

Цень. Літасці.

Вецер. Чакай, я ім зараз адкажу.

Шмуйла. О! Яшчэ голас. Выдавай!

Цень. Не *(бярэ каля атвору лук і калчан)*... Гэта я ім зараз адкажу, калі яны хочуць узяць у мяне нават госця. *(І тут мяккі, слабы і ласкавы ягоны голас раптам загрымеў, як труба.)* Вы! Вось тут у мяне лук! Па наканечніку кожнай стралы я праводжу рукой. Вы ведаеце, што гэта значыць: нават драпіна

ад такой стралы. Вы здохнеце. Не адбірайце. Пакіньце нам нашы норы і магчымасць здохнуць у іх. Ёсць такое, што нельга адабраць нават у нас.

Пускае ў атвор стралу. Енк.

Гдаль. Вуй! Трапіў?

Камісар. Не.

Вецер. Чакай, мы асветлім іх.

Кідае ў вогнішча лаўжы. Бярэ галавешку і кідае ў атвор, адначасова стрэліўшы.

Шмуйла. Наперад, служкі!

Цень. Не страляй, госць. Мае стрэлы страшнейшыя. Камісар, служка, Іцкавічы, смярдзючае адроддзе пекла. Вы памрэце. На! На! На!

Ляцяць стрэлы. За ўваходам у пячору ўжо рык і выццё.

Гдаль. І нашто такі банкет?!

Шмуйла. Назад! Назад! Кадохес на вашыя галовы!

Камісар. Уця-кай-ма!!!

Шалёны тупат капытоў раздзёр ноч. Сціхнуў. Вогнішча зырка асвятліла пячору. І стала відаць, што ў Чалавека чорныя аблічча, шыя і рукі.

Чалавек. Вось, я не даў ім цябе, брат.

Вецер *(весела засмяяўся).* Правільна, браце, не даў. Як мы іх! І як-к яны! Але ты малайчына! Але ты... *(прыгледзеўся).* Ты што, ніколі не ўмываешся? Ну хаты няма, хлеба, солі. У многіх так. Яны хочуць, каб усе мы так. Але ўжо не ўмывацца? Ну й мурза!

Чалавек *(робіць да Ветра крок... і другі).* Браце! Дык ты, значыць, нічога не... Ды як жа так?.. Ды я ж вгнаў цябе!.. Ды што ж ты нарабіў, браце?! Ды ты ведаеш, што́ ты на сябе наклікаў?!

Вецер *(робіць крок да Чалавека).* Ну й мурза! Ну й пэцкаль! *(Яшчэ крок... яшчэ... і раптам у Ветра падагнуліся калені.)* Гэта не гразь...

Чалавек *(шэптам).* Так... Так...

Вецер *(у дзікім жаху, калі дыбарам устаюць валасы).* ПРАКАЗА!!!

Абодва стаяць ашаломленыя.

Пракажоны *(з добраю вінаватай усмешкай на*

*твары, які падобны на львіную маску).* Што ж ты спалохаўся, чалавеча? Хіба я не гнаў цябе? Чаго ж ты прыйшоў? Чаму ты так пакрыўдзіў мяне, сказаўшы: «я ведаю»? Ты думаў, што я нейкі схімнік ці варажбіт? А я думаў, што гэта табе бязмерна, *да крайняй мяжы* трэба. Часам жа чалавеку трэба... не чакаць ад жыцця нічога.

Вецер. Я не ведаў. Мне параіла... відаць, тая самая жанчына, што пакідала табе ежу на пні.

Пракажоны. Ды якое ж гэта трэба мець сэрца?!

Вецер. Трэба мець вялікае да людзей сэрца. Гэта мая маці.

Пракажоны. Ды не можа... не можа...

Вецер. Можа. І пакуль у нас ёсць такія — з намі нічога не зробяць, мы не памром... Сядзь, чалавеча. Давай канчаць вячэру... на роўных. Я зараз не лепшы. Такі самы няшчасны, як ты. Не магу пацалаваць маці, жонку, пацiснуць руку другу. Гэта нічога. Яна ведала: чалавеку часам патрэбна безнадзейнасць. І мужнасць. Да канца. Як бы ні было нясцерпна і горка жыць... Як гэта здарылася з табою?

Пракажоны. Сам не ведаю. Аднойчы бачыў пракажонага. Той ішоў у балахоне, бразгаў бразготкай. З ім быў здаровы *(ён здаровы і дагэтуль)*, які торкаў кіем у тыя рэчы, якія былі патрэбныя хвораму. Яны прайшлі каля мяне ў дзвюх сажнях. Той здаровы, а я... Трэба было пасля той сустрэчы сцярагчыся людзей, але ж мінула шэсць год. Я ажаніўся. У мяне была самая цудоўная жонка. І дзеці, Ян і Сабінка. І нам было ўдосталь хлеба свайго, і ў нас была страха. І мінула дзесяць год, і я ўбачыў на плячы пляму ў выглядзе белага матыля. Гэта белы матыль лянотнай смерці сеў на мяне. Я пайшоў да сябра, войта з Ківаверцаў, і папрасіў сабе лапік зямлі ў пушчы, каб не дыхаць з дзецьмі адным паветрам. І каб я сеяў, а жонка прыходзіла жаць. Але і ксёндз і поп крычалі, што гэта развод. Я сказаў ім, што нават Рым дазваляе развод, калі адзін захварэў праказай. А яны данеслі Камісару і Іцкавічам, і тыя пачалі крычаць, каб мы забіраліся ў пушчу і дрыгву і здыхалі там. Я пайшоў шукаць месца, а калі вярнуўся — служкі Іцкавічаў абкружылі хату і нікога не пускалі, а хата палала. І з агню даляталі крыкі. Яны і зараз днём і ноччу ў маіх вушах... Па мне пачалі страляць, калі я рваўся туды.

І страха рухнула і пахавала крыкі. І вось я ў яры, як звер. У мяне няма хаты, жонкі, дзяцей. Я жыў літасцю адной невядомай жанчыны. Няма ў мяне ні сала, ні солі, ні хлеба.

В е ц е р. Як і ў твайго і майго народа.

П р а к а ж о н ы. Але я яшчэ й хворы. Кепска рухаюся. Двойчы за гэты час на нас рабілі аблавы, калі абрыдала паляванне на ваўкоў. Панская забава! Я самы адрынуты, самы загнаны.

В е ц е р. Як твой і мой народ. Без хлеба, без страхі, без волі, без мовы, зацкаваны, як звер, загнаны ў нару *(паклаў пракажонаму руку на плячо)*.Ты не плач. Маці ведала, што рабіла. Можна жыць асобна і біцца асобна... Праз некалькі год праказа з'явіцца на лобе ці на плячы. Яна не дасць мне пацалаваць жонку і маці, падаць руку другу. Але нават праказа не забароніць мне ўсе гэтыя гады біць, душыць, рэзаць, паліць гэтых мярзотнікаў. Нішто не шкодзіць і пракажонаму загінуць як след. Бо лепей загінуць нават у катоўні, нават у агні, чым згнісці жыўцом.

П р а к а ж о н ы.Чаго ты хочаш?

В е ц е р. Я ведаў, чаго хачу я. Працаваць у сваім двары, любіць дзяцей і суседзяў. Нічога гэтага не дадуць, як не далі табе. Цяпер я ведаю, чаго хачу. Смерці гэтых гадзюк,каб не паганілі зямлі.

П р а к а ж о н ы. Чаго яны хочуць ад нас? Чаго яны ўсе-ўсе хочуць ад нас?!

В е ц е р *(устае)*. Не плач, браце. Ніводная сляза твая не застанецца без помсты. Бывай, брат.

Абдымае яго і цалуе.

Маці сказала праўду: «У гэтым лесе... У яры... У гэтай нары без святла — *Ч а л а в е к. П о м н і, т а м Ч а л а в е к*».

Ноч. Стомлены тупат каня.

Песня:

Супраць іхніх пякельных законаў
Коннік ляціць у агонь.
З ім — загнаны народ ягоны,
І бог на сцягах у яго...
Безнадзейнасць вачыма сталёвымі
Ў вочы мае глядзіць
З кожнай роднай пахмурнай дубровы.
Нельга жыць. Але што ж, будзем жыць.

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Тое самае падвор'е, што і ў першай карціне. Толькі агні ў хаце згаслі. На ганку стаіць Агна Вецер. Здалёк далятае і сціхае ля брамы конскі тупат. Пасля з'яўляецца з цемры, асабліва густой перад світаннем, Васіль Вецер.

Агна. Было?

Вецер. Было.

Агна. Ненавідзіш мяне?

Вецер *(спакойна)*. Ужо не.

Агна. Чаму?

Вецер. Разумею цябе. Гэта сапраўды жахліва, калі маці Ветру, а сын у яе не Вецер, а такі вось баязлівы вусень. І кожны мае права плюнуць...

Агна. Не, не зразумеў ты мяне. Не баязлівы — ты знайшоў бы ўрэшце сілы. Але нас давялі да краю, нас загналі ў норы. І калі ўжо лепшыя паўстаюць за свой аб'яўлены пракажоным народ...

Вецер. Ну.

Агна. То нельга, каб чалавек, які носіць прозвішча Вецер, не быў лепшы з лепшых. Мы для гэтага зашмат пакутавалі. Мы пакутамі купілі права на гэта. І калі іншыя ў бунце могуць быць проста ветрам, *то шэлег табе цана, Вецер, калі ты не будзеш ураганам.*

Вецер. Я і гэта разумею. Цяпер муру паміж мною і ворагам няма. Але ёсць мур паміж мною і табой. Учора я абдымаў цябе ў апошні раз. І не ведаў... Але пра гэта хопіць. Ты толькі помні, што яны паплоцяцца і за цябе, а ты заўсёды будзеш са мной. І вось што... скажы пра ўсё жонцы. Мне цяжка будзе растлумачыць Надзеі ўсё. Я лягу тут.

Агна. Дурны ты. Добра. Падумай яшчэ.

Павярнулася і пайшла ў хату. Вецер сцеле пад дубам плашч. Пайшоў у хату і ўзяў з падвокання пляшку. Вяртаючыся, запнуўся аб Лаўрэна, які спіць пад прызбай. Той узвыў праз сон:

Як якому смаркачу —
Я й за грошы не хачу.
Як якому блазну —
Па зубах я бразну.

Замармытаў і сціхнуў. Вецер сядае на плашч. П'е.

Вецер. Зоры... Як бы гэта сказаць: «Коціцца зорамі ноч. Вечны абег сусвету. Даўно насяляць я пакінуў анёламі неба гэта». Кепска.

Падае знічка.

Упала нечае шчасце. Маё. *(П'е).* Бог хоча прыкуць шчасце толькі да неба. А мятлушкі хапаюць яго і нясуць да людзей. Толькі са шчасцем маёй зямлі яны нешта замарудзілі. А, выдумка... Небу няма канца. *(П'е.)* І я такі малы перад гэтай безданню. Толькі каханне рабіла так, што цёпла. А зараз і яго няма. Памру і развеюся... ільдзістым пылам. І сусветы памруць. Якая ж я пясчынка, выключаны з сусвету... Будзе бітва. Яны палягуць або мы... і кожны будзе нас ганьбіць. Што да гэтага зорам? Пройдуць тысячы год. Што тут будзе тады? Напэўна, ніхто не будзе адбіраць у іншага хлеб і гонар. Не будзе большага і меншага, эліна або іудзея. І кожная мова будзе панскай, а таго, хто яе саромеецца, будуць закідваць багном. *(П'е.)* Не можа быць, каб яны не зразумелі нас, знясл аўленых і абылганых. Яны ж будуць... як багі, як лебедзі, як людзі. *(П'е).* І я буду сярод іх, хворы, замучаны, адрынуты. А пажадаю — буду дзе хачу. *(Ён плача, а вусны ўсміхаюцца.)* Хто сказаў, што я малы? Сусвет у вачах, зоры ў мозгу, галасы ўсіх людзей у сэрцы. Я пажадаю — і хутчэй настане час людзей, што магутныя, як багі.

Засынае. Аднекуль здалёк, з-за саду, голас вядзе дрымотную песню, і пад яе гукі Надзея Вецер сыходзіць з ганка, схіляецца над Васілём і цалуе яго.

— Ай, ходзь мая Надзеечка, да мяне,
Ай, ходзь, ходзь, мая мілая, да мяне:
А ў мяне караватачка нова,
А ў мяне ды пасцелька пухова,
А ў мяне абдыманнейка цесна,
А ў мяне цалаваннейка ўцешна.

Надзея *(цалуе ягоныя рукі).* Спіш. Не чуеш.

Вецер *(праз сон).* Сітнягі шапочуць. Зоркі спяваюць... Ты? *(Абдымае яе.)* П'яны я. Ой, п'яны я! *(І раптам ўзвіўся на ногі, як уджалены.)* Ой... Божа... Надзея! Ты чаго тут?

Надзея. А дзе мне быць?

Вецер. Ды ты ведаеш?.. Ды ты ведаеш? Пень дурны!!!

У бяспамяцці ён ударам збівае яе на зямлю.

Ой, што ты нарабіла? Ой, што ты на-ра-бі-ла?!

Яна дацягнулася да яго на каленях і моцна абхапіла ягоныя ногі. Захлынаецца слабы, сіплаваты, безнадзейны голас.

Надзея. Ну бі, бі мяне. Забі мяне. Сваёй рукой. Я ўсё адно не пайду ад цябе. Усё адно, цяпер ужо позна. Цяпер ужо позна і ўсё адно.

Ён стаіць, як саляны слуп.

Вецер. Я ж так не хацеў. Я ж так не хацеў. Пры чым тут ты?

Надзея. Пры тым, што поп казаў *мае* словы: «На шчасце і на гора». Не ўсё ж мёд — трэба часам і мякіну разам есці.

Вецер. У цябе адразу пачалося з мякіны. І мёду не будзе. Нашто? Нашто ты так?!

Надзея. Я выпадкова пачула. Я чакала, пакуль ты заснеш. Бо ты ж бы прагнаў мяне. Цяпер я ўжо з табой. Усё адно якія зробяцца твае рукі — яны песцілі мяне ў добрую гадзіну. А сэрца тваё гэткае ж велікадушнае. Чаго б гэта я была вартая, кінуўшы цябе аднаго ў такой бядзе?.. Ну набі ж ты мяне. Можа, я цябе, змея, тады менш кахаць буду. Зараз жа ўсё адно.

Вецер паваліўся перад ёю, цалуе ёй рукі.

Вецер. Даруй мне... Даруй мне... Даруй мне...

Яна закінулася.

Я вечны... вечны... вечны з табою... Я так абразіў цябе.

Цалуе. І ў цемры голас.

Няма зараз. І потым не будзе. Я вечны... Вечны з табою...

Ціхая песня здалёк:
Пакінь, мілы, чарнабровы,
На сівым кані лятаць:
Ідзі ка мне маладой,
Вячэраньку вячэраць.

Я думала, маладзенька,
Што адна спаці лягла,
Аж я свайго міленькага
Правай ручкай абняла.

Зашумеў ад перадранішняга ветру дуб. Святлее стужка заранкі. Пачалі азывацца вакол птушкі. Вецер устае з-пад плашча і слухае іх. Птушкі аж разрываюцца. І Вецер адказвае ім.

Вецер. Жыць! Жыць! Жыць! *(Гэта — птушынаму хору ў шатах дуба.)* Жыў! Жыў! *(Гэта — вераб'ям*

*за плотам.)* Жывы вы? Жывы вы! *(Гэта — кнігаўцы, што закрычала недзе на лузе за садам.)* Ну так! Ну так! *(Гэта — салаўю, які спрабаваў сцвердзіць у хмызах, што ён жывы.)* Жыў! Жыў! Чуеце вы? Жыў.

Маці з'явілася на ганку, убачыла Ветра і Надзею, што абхапіла яго ныя калені. У гэты момант здалёк даляцеў тупат ног і песня:

У агародзе ячмень,
А ў полі жыта.
Прыйшлі звесці да мілае,
Што мілы забіты.
Забіты, забіты,
Пахаваны ў жыце.
Чырвонаю кітаечкай
Лічыка накрыта.

Прыляцела пава,
У галоўцы пала,
Як адкрыла кітаечку
І зашчабятала:
— Ці ты, мілы, упіўся,
Ці з каня зваліўся?
Ці ты па мне, маладзенькай,
Сільна затужыўся.

На падвор'е ўвальваецца мужыцкі атрад, узброены косамі, сякерамі, стрэльбамі. На чале — Іван Карпач. Мужыкі цягнуць з сабою войта вёскі Ківаверцы.

Карпач. Іван Карпач. І людзі твайго наваколля, Васіль. Ты ідзеш начале, Васіль Вецер?

Вецер. Цяпер — іду. Пачакайце трохі. *(На Надзею.)* Яна ідзе са мной. Зараджаць стрэльбы ўмее добра.

Карпач. Збірайцеся хутчэй *(да Лаўрэна, які сеў на бервяно і ачмурэла круціць галавою)*. А ты што, Каўбаса?

Лаўрэн. Вы на папойку, а галава баліць у мяне.

Карпач. Што, хваробы сабе купіў на жаніховы грошы? Гэ, ды ў цябе і сіняк пад вокам. Набілі. Нічога, свята без мучаніка не бывае.

Лаўрэн. Чарку — і на край свету.

Магда. Ты, лабідуда гэткі, пойдзеш і на край свету, абы чарку.

Лаўрэн. Ба-а-ба! Тут справы мужчынскія, думаць трэба. А ты пакуль з лаўкі ляціш, дык семдзесят дум перадумаеш.

Магда. Чапяла па табе мала хадзіла, ёмашнік стары.

Лаўрэн *(выпіў)*. Во цяпер і пайду. І ты збірайся. А то ў Крычаве твая карчма згарыць. Хаця...

Уся вёска згарэла —
Карчма ацалела,
Яе пагасілі,
Што чарачку пілі.
Ўся Орша згарэла...

Магда. Сціхні ўжо, дзярыглотка, мачыморда гэткі. Добра, пайду і я, а то вайна будзе на першым сметніку.

Лаўрэн. А дзе ж тая вайна? —
Пасярод лайна.

Магда. Ідзі-і ўжо, ідзі-і.

Вецер. Людзі! Слухайце ўсе! Ідучы на цяжкую гэтую справу, даў я перад богам, і святымі, і людзьмі, і зямлёю страшнае абяцанне. Да самай нашай перамогі або да самай маёй загібелі ніхто не павінен дакранацца да мяне, акрамя маёй жонкі. І я ні да каго не павінен дакранацца, акрамя як да яе.

Агна. І да мяне.

Уладна абхапіла ягоную галаву, прыцягнула яе да сябе і пацалавала сына ў лоб.

Карпач. Што ты яго, як на крыж?

Агна. Так. І да мяне. Толькі вось яна і я маем права дакранацца да яго, падводзіць яму каня, падаваць яму ваду. Толькі мы маем права нават выцягнуць яго параненага з бітвы. Астатнія — не.

Вецер. Што ты яшчэ нарабіла?

Агна. А ты што думаеш, я кіну цябе аднаго?

Вецер. Астатнія — не. Я даў страшнае абяцанне, страшную і апошнюю клятву. Я да каго дакрануся ці нехта да мяне дакранецца, акрамя вось іх,— *той чалавек памрэ*. Або тут жа, на месцы, уражаны небам. Або павольна, за гады, жыўцом згніе! Чуеце?! Або на месцы, або жыўцом?! І клятву гэтую ўмацавала перад вялікім богам зямлі нашай мая маці. І хто здрадзіць нам, хто прадасць нас — на таго я накладу руку і той згіне! І клятву тую ўмацавала мая маці.

Цалуе зямлю ля яе ног.

Мы попел размяцем ад іхніх дамоў і палацаў. Клянуся, гэта праўда. Як праўда, што далонь мая нясе ворагу смерць!

Карпач. Чары? А хлуслівыя ці праўдзівыя?

Вецер. На жаль, праўдзівыя.

Лаўрэн *(з-за спін, дурасліва).* Быць ет-тага не можа.

Надзея. Праўда. І мая таксама. Рука. Нясе.

Лаўрэн. Ет-тага быць не мож-жа.

Агна. Праўда, як тое, што смертаносная цяпер і мая рука.

Лаўрэн. Ды н-не мож-жа ет-тага быць.

Агна. Мы трох далі гэтае абяцанне.

Лаўрэн. Ды ет-тага быць...

Магда *(нечакана сур'ёзна).* Сціхні, звяга. Тут нешта сур'ёзнае.

Карпач. Чым вы давядзеце гэта?

Вецер. Ну, па-першае, чалавек можа згнісці і праз год. А па-другое, хто гэта насмеліцца, толькі каб давесці, забіць чалавека?

Карпач. А гэта гледзячы якога чалавека. Людзі! Гэтага сюды!

Мужыкі падвялі да іх войта з Ківаверцаў.

Вось войт з Ківаверцаў. Апошні кавалак шкуры, што не здзёрлі Іцкавічы,— здзёр ён. Правер на ім сваю клятву, Вецер.

Войт *(дужа спалоханы).* Якое права?! Хто тут падбухторвае? На плаху захацелі?!

Карпач. Гэтай ноччу ён данёс Іцкавічам, што нехта хаваецца ў пракажонага.

Вецер. Ну а каб і хаваўся... Каб, скажам, ён... або я... *(набліжаецца да войта).* Каб, скажам, я? Якая яму справа?

Войт *(цьмяна прадчуваючы нешта).* Не смееш! Не сме...

Вецер. Да каго дакрануся — той чалавек памрэ.

Карпач. А за некалькі год гэта *ён* данёс на друга, і тыя спалілі хату няшчаснага з жонкай і дзецьмі.

Вецер. Або згніе, або — на месцы, уражаны небам.

Войт. Не! Не! Не хачу! Пусціце! Не магу-у!

Карпач. А тады — мог. А за многа год да таго

вёў служак на хату твайго бацькі. І дом таксама гарэў, з чалавекам.

Агна. То гэта ён. Дакраніся, Вецер. А пасля я.

Войт. Імем бога! Не-а! Не-а! Брудныя свінні! Не трэба чапаць мяне.

Вецер. І далонь мая нясе ворагу смерць.

Войт. Не-е-е-е!!! *(У панічным жаху.)* Ён не клятву! Ён!..

Вецер нібы прыпячатаў далонь яму да лба. Крык абарваўся. Усе глядзяць, як войт пакінуў звівацца, стаў як скамянелы, а пасля рухнуў на зямлю, як падсечанае дрэва. Мёртвая цішыня.

Карпач *(падышоў і варухнуў яго наском чобата).* Гатовы... То ты што, на самай справе?

Агна. Ён на самай справе. Хто дакранецца нас... хто дакранецца яго,— я змацавала, а ён даў слова,— той памрэ.

Вецер. О божа! З аднаго страху... *(Уголас.)* Куды гэтага?

Агна. Кінуць яго ў тварыла з нягашанай вапнай... Не будзе яго — не будзе і праклёну.

Народ стаіць, як уражаны Перуном.

Добра. Бывайце, дзеці. Не заклінаю вас ад стрэлу чужынскага, ад сухоты агнявой, ад корда, і шаблі, і пісталета, і доўбні, і ад стралы. Калі вам і мне суджана памерці — мы памрэм іначай. Але на ворага вашага перад бітвай нападзе трасенне ступіц і жылы падкаленнай, і нядужасць рукі, і цемра ў вачах, і жах смяротны, як у гэтага... і ён памрэ таксама верна, як вось гэты, што ляжыць перад вамі.

Карпач. Не цалую тваёй рукі. Мне яшчэ трэба жыць. Але людзі! Людзі! Гэта маці Ветра... Хіба яна маці Ветра?.. Яна маці нашага ўрагану!

Мужыкі моўчкі падымаюць зброю ўгору.

Маці ўрагану.

Цемра, тупат ног і пошчак капытоў.

Захрабошчуць пад доўбнямі латы.
Звон на могілках поўнач прабіў.
Скача ў цемры помста на катаў.
Вый, магнат. Замахніся! Бі!

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ЧАЦВЕРТАЯ

Вялізная святліца ў карчме Магды Мякенькай. Злева — паліцы з сулеямі і пляшкамі, бочкі. Перад усім гэтым — стойка. За стойкаю — ачаг і дзверы ў кухаварню. У дальнім левым куце — дзверы на вуліцу. Тры акенцы ў задняй сцяне, адно — у правай. За імі роў, валы і над імі драўляныя муры і цагельныя, «бутавыя», вежы Крычаўскага замка. Пад сценамі доўгае «Г» стала, лавы вакол яго. Стаяць дзве-тры бочкі ў якасці дадатковых сталоў. За стойкай Магда, ля яе дудар Яўхім Хмыз. За вялікім сталом сядзяць у кампаніі з куфлямі поп з Бесавічаў і поп Антох Крапіла.

Антох. Іцкавічы — цю-цю! Няма іх. Свой у нас цяпер арандатар.

Поп з Бесавічаў *(сербануўшы).* А табе што, ойча? Яны, як іудзеі, да цябе, папа, справы не мелі. Ты што пры іх, што пры Храптовічу наліжашся, як папова свіння, дый канец.

Антох. Ну і ты ледзь не кожны дзень п'яны як гразь. Але ты з распусты п'яны. А я — з жаласці да людзей, да парафіян сваіх.

Поп. Мялі, млын. Проста яны, абдзёртыя, табе за хрышчэнне ды адпяванне заплаціць не могуць, вось ты і точыш зубы на Іцкавічаў.

Антох. Бо ў мяне сумленне. Яно не дазваляе з голага ўзяць. А ты як? Ты з сыноў жабрака добрага каня вымагаў за адпяванне. А не было яго, то нябожчыка пахавалі неадпетага, як сабаку. Тры дні людзі на каленях стаялі, пакуль не згадзіўся магілу адпець... за мерку пшаніцы.

Поп. А чаго ты п'еш са мною? Унь як зямля напіўся.

Антох. Гэта ты падсеў. Праўда, людзі?

Магда з Яўхімам. Так... Анягож... Падсеў.

Антох. Падсеў. І лепей бы я з бесам піў, чым з папом, які з Бесавічаў.

Поп. Ой, заклею я твой вобраз.

Антох. Паспрабуй, асёл Валаамаў.

Магда. Цыц!

Яўхім. Не хапала яшчэ, каб папы пабіліся.

Магда. У мяне не паб'юцца. Я іх — жыва.

Я ў х і м. І праўда. У цябе бойка толькі, пакуль ты не ўмяшаешся. Гэта ж за дзесяць год ніводнага членапсавання.

А н т о х. Дзіва што. Грудзі — як дзве машыны сценабітныя... Азадак — вось як гэтыя дзве бочкі. А мы што? Мы людзі звычайныя, дзе ўстаяць?

М а г д а *(улешчаная)*. Добра-добра. Толькі без бойкі.

Я ў х і м. Няма чаго сварыцца. І новы арандатар тут, і дзярэ, як свой. І пры тых, і пры ім на азадках нашых як ячмень малацілі.

М а г д а. Іцкавічам усё заплочана. І хай коцяцца.

А н т о х. У тым і справа...

Я ў х і м. ...Што не ўсё заплочана. Што яны яшчэ тут і нейкія рэшткі выбіваюць. І як бы гэтыя рэшткі не былі апошняй нашай кашуляй.

М а г д а. Ветра зваць трэба. Не п'янюгу Васку, а Васіля. Ён ім толькі руку пакажа — жыва нагострацць лыжы.

П о п. Забабоны ерэтыцкія! Язычаскія. Хто гэта, акрамя бога, можа... дотыкам рукі?..

М а г д а. А ты нас з Лаўрэнам спытай, як войт з Ківаверцаў, нібы ад Перуна, рухнуў.

П о п. За вашыя супрацьзаконныя намеры вас з Лаўрэнам трэба... у вязніцу.

М а г д а. А ты з намі, ці што, быў, што ведаеш, намеры там у нас або ўжо нешта больш сур'ёзнае? Ці мо ляжаў з намі?

П о п. Цьху, бясоўскае адроддзе.

М а г д а *(прыўзняла яго за шкірку)*. Хто тут бясоўскі? Хто з Бесавічаў? Я ці ты?

П о п. Ай, эпіцім'ю накладу.

А н т о х. У порткі ты накладзеш. Ды кінь ты яго.

М а г д а. Ужо кінула.

Я ў х і м. Ай, баба! Ай, баба, як Пярун!

У карчму ўвальваюцца б р а т ы І ц к а в і ч ы з в а р т а й, К а м і с а р і П а в а л Ц я л е ц к і, крычаўскі «губернатар».

Г д а л ь. Ай, б'юцца. Ну, як бараны. Ну, як пеўні.

Ш м у й л а. Здароў, Магда.

М а г д а. Здаровы былі. Нашто завіталі?

Ш м у й л а. Скора з'едзем. А пакуль — даўжок за табой.

М а г д а. Што-о? Які даўжок?

Гдаль. Апошні даўжок перад тым, як новы арандатар даб'ецца таго, чаго мы не дабіліся, і прымусіць гэтую карчму па бервяну разнесці.

Магда. Я-ак?

Цялецкі. А так. Пабудова пры рове. Значыць, бліжэй чым дзесяць сажняў ад замка. А гэта значыць вораг можа яе разнесці і з яе праз роў мост накідаць.

Магда. Калі вораг прыйдзе — ён і за пяцьсот сажняў бярвенні паднясе. Ён не задумаецца і ўвесь горад на мост разабраць. Але верна і тое, што, як вораг прыйдзе, я гэтую карчму сваёй рукой падпалю.

Яўхім Хмыз непрыкметна выбраўся з-за стойкі ў дзверы.

Цялецкі. Добра, пра гэта пасля. А цяпер ты кажы, камісар.

Камісар *(хавае вочы)*. Доўг за табой, Магда. А які — хай скажа вельмішаноўны пан Гдаль.

Магда. Ой, камісар, не крыві душой. Яны пойдуць — ты застанешся.

Камісар. Ведаю, але... паднявольны.

Гдаль. Семдзесят злотых з цябе.

Магда. Гда-аль!

Гдаль. Вочы мне лопні, скула мне на язык.

Магда *(дастае і кідае на стойку некалькі драўляных планак)*. Вось насы, біркі. Давай тваe паловы. Складзем і паглядзім, што на носе зарублена.

Шмуйла. Няма ў нас ніякіх насоў! Адкуль насы?

За вокнамі ў гэты момант зараўла трывожна дуда.

Антох *(падпявае)*.

Дуды над хлопцамі выюць трывожна.
Над полем бітвы спявае рог.
Тапчыце зямлю, легіёны божыя!
Наперадзе — вораг! Над вамі — бог!

Цялецкі. Гэта што?

Гдаль. Гэта значыць — хутчэй грошыкі, Магда. Адна ты тут не паддалася са сваёй карчмою. Напаследак — паддасіся.

Поп. Размячыце, размячыце гэты вярцеп.

Магда. Ах ты, выпоўзіна!!

Поп. Хто гэта — божыя легіёны? Тыя галадранцы? І бог наш — з імі?

Антох. Тапчыце зямлю, легіёны божыя!
За вамі ваш край. І з вамі — ваш бог!

Магда. Вось біркі!

Цялецкі. Біркі не папера. Дзе папера?

Магда. Ды былы камісар Гарноўскі ўзяў. Сказаў, што ўсё скасаванае,— і ўзяў.

Гдаль. Гарноўскі? А я такі што́ да яго маю?

Шмуйла. Узяў і ўзяў.Што, *мы* ўзялі? Рукі нашы адсохні, як мы тыя паперы ад вас забіралі!

Антох. Падстаўны камісар!

Камісар. Змоўч!

Магда *(бярэ, як меч, востры пожаг)*. Паспрабуйце толькі крануць чаго.

Гдаль. Варта! Вазьміце яе, загаліце ды пасадзіце ў ачаг, калі не адумаецца.

Магда ўзняла пожаг. Антох палез з-за стала на выручку. У гэты момант увальваюцца ў дзверы мяшчане на чале з Вашчылам, Лаўрэнам, Іванам Карпачом, Ільёй, ягоным бацькам, пісарам Бачко і Яўхімам

Вашчыла. Так, каго гэта тут — у ачаг?

Магда. Мяне. Унь біркі, а ён доўг заплочаны патрабуе, карчму пагражае размятаць.

Шмуйла. Доўг не заплочаны! Паперы дзе? Пра камісара вярзе нешта.

Вашчыла. Ведаем пра даўгі. Той падстаўны камісар квіткі аб уплаце сабраў. А квіткоў тых за ўплочаны чынш было на дзвесце тысяч. Дый знік з імі.

Гдаль. Не чуў пра квіткі. Вінен мне горад дзвесце тысяч. Пакуль не атрымаю — не пайду.

Карпач. У кішэні яны ўжо ў цябе. Другі раз выбіваеш!

Магда. Біркі засталіся!

Ніхто не бачыць, што поп з Бесавічаў перадае «насы» Шмуйлу і той цішком кідае іх у ачаг.

Карпач. І той падстаўны камісар даў пісьмовае распараджэнне на абарону жыхароў ад гвалту.

Спыніўся ў дзвярах Вецер з узброенымі людзьмі.

Ілья Карпач. Але Шмуйла пасля ўцёкаў камісара тую паперу ў прысутнасці мужыкоў падзёр.

Гдаль. Квіткоў аб уплаце няма. І бірак няма.

Ілья. Біркі ў людзей пабоямі паадбіраў.

Магда. Біркі! Дзе мае біркі?

Лаўрэн (*дастае з ачага абгарэлы пучок, узмахнуў ім — на канцы заскакаў агеньчык*). Вось яны, твае біркі.

Магда. Бо-о-ожа! Што ж рабіць?Аспіды. Васіліскі!

Лаўрэн (*рушыў з пучком на арандатараў*). Нічога! Я ім зараз агнём на мордах уплату той пазыкі выкарбую... Каб памяталі на ўсё жыццё.

Гдаль. Камісар той быў часовы, а я — заўсёдны. І плаціў грошы князю згодна кантракту. Таму калі й душу дастану з мужыка — адказваць не буду.

Лаўрэн (*насоўваецца*). А гэта мы паглядзім, галава карэлая! Бачыш, агеньчыку з пекла табе прынёс.

Шмуйла. Гвалт!

Бачко. Камісары гэтыя — толькі расходы!

Ілья. На іх і на світу!

Бачко. І нічога добрага, акрамя гною пасля іх!

Яўхім. Нічога не далі камісары! І надзей не пакінулі!

Ілья. Яшчэ дзвесце тысяч! Не ўратуюць скаргі!

Бачко. Мужыкі! Супраціўляйцеся! Біцеся!

Лаўрэн (*паднёс агонь да аблічча Гдаля*). Ну-у...

Вецер. Ці-ха, мужык! Ці-ха! (*Цішыня.*) Та-ак, другую шкуру дзераце, манюкі? Вось ён, мужыкі, пачатак пачаткаў. (*Спакойна.*) Не рабунак, не здзек, нават не біццё. Падман узняў нас на ногі. Адыдзі, Лаўрэн. Ну, давай, Гдаль. Валі адсюль. Чаго адступаеш? (*Гдаль паспрабаваў прарвацца да дзвярэй, але Вецер перагарадзіў рукамі калідор з людзей.*) Не, браток. Не атрымаецца. Ты адсюль не як сумленны п'янюга выйдзеш, не праз дзверы. Мае людзі сёння ў дзесяці дварах даўгавыя кнігі спалілі. Чуеш, Вашчыла? У растаўшчыка Аляксандра Вуці. І ў іншых растаўшчыкоў знішчылі судовыя рашэнні, паперы па абавязках, закладныя паперы на сенажаці, судовыя рашэнні на права валодання зямлёй, адабранай у бедных. І пазыкавыя абавязкі ў Міхала Аніскевіча, арандатара Моўшы Айзіковіча, у многіх багатых купцоў, і майно адабралі і раздалі. У Старым Стане ў багатыра Галайды аднялі і раздалі майна бедным не менш як на дзесяць тысяч. На жаль, і без ахвяр не абышлося. У Геранімаве купец Міхал Белавіцень, што наваколле разарыў і людзей біў да смерці, узду-

маў супрацiўляцца. То забiлi яго i ягонага цесця Сымона. Не мог я мужыкоў стрымаць. *(Да Гдаля.)* То няўжо такую гнiду пашкадуем? Чаго адступаеш? Не бойся. Замест павольнай нашай смерцi ты — адразу. А кнiгi твае — у агонь. Не бойся, Магда. Яны твае квiткi ў агонь, а мы iх — у агонь. Вось я сам *(працягвае рукi — Гдаль забiўся i нема закрычаў).* А мо хай iдзе? Без даўгавых распiсак, без грошай, голы? Га, мужыкi?

Поп. Не выпускаць! Вернуцца, агаранскае адроддзе!

Антох. Ды хай iдуць. Нашто адбiраць душу? Сваю маем.

Бачко. Не маюць яны душы.

Антох. Яны не маюць. *Мы маем.*

Вашчыла. Ладна. Хай iдуць.

Карпач. Толькi не дзвярыма. Дзверы — для высакародных п'янюг.

Iлья. У вокны хай.

Вецер. I калi вы блiжэй Слуцка спынiцеся — наракайце на сябе. З марскога дна дастанем. Ну...

Тыя пачынаюць выбiрацца ў вокны. Сумятня. Цялецкi i Гдаль заселi.

Гэй, мужыкi, падмагнiце iм. Гэтага — касой прышпорце, а гэтаму — выспятка.

Поле «бою» ачысцiлася. Усе пераглядаюцца, i раптам — рогат.

Вось. Прынеслi яны нам такi акiян крыўды, такое бяспраўе нязменнае i вечнае, што ўсе здрыганулiся, нават зямля *(пошчак капытоў).* Хай iдуць туды, дзе iх чакаюць... А мы... нам, мужыкi, трэба трымацца, як мур. Шкоды мы асаблiвай пакуль не нарабiлi. Значыць, жорстка слухацца загаду, парадак у горадзе трымаць, як у манастыры.

Антох. Крый божа.

Вашчыла. I нiкога не забiваць.

Вецер. Так, самi душу маем. Не забiваць.

Поп. А Белавiтня з цесцем куды спiшаце?

Вецер. Кепска атрымалася. Але ён смертабойнiчаў, у людзей майно адбiраючы. Дый тут уздумаў страляць. Не стрымалiся людзi.

Антох *(папу).* Ты ўжо не вякай. Божай дабраданасцю гандлюеш, а туды ж...

Карпач. І праўда. О-ой трымайся, поп з Бесавічаў. Як бы мы цябе не прымусілі замест вядра царкоўнага віна выхлябтаць вядро воцату.

Поп. Ды я што? Я з вамі.

Ілья. Але кнігі пазык *усе* спаліць. Дачыста.

Бачко. І справядлівасць усім.

Поп. І трэба суплікантаў, скаржнікаў паслаць да князя ў Белую Падляшскую. Хай лобам б'юць.

Бачко. І тое праўда.

Вашчыла.Ты і скаргу напішаш. Быць табе пісарам новай рады, бо Вецер, бач, здуру прысягу даў ні да каго не дакранацца, пакуль не пераможам або не памром.

Вецер. Ну даў... Ну здуру.

Вашчыла. А скаргу?Скаргу чаму ж не паслаць. Арандароў няма.

Карпач. Князь зразумее.

Яўхім *(бярэ дуду).* Ох, і жыццё будзе.

Былі ў бацькі тры сыны — ух я!
Ды ўсе ж яны Васілі — ух я!

Лаўрэн. Гэта Вашчыла ды два Ветры.

Яўхім. Адзін козы пасе,
Другі лапці пляце.
А дзе гэта трэці Васіль? Ён якія такія лапці пляце?

Магда. За гэтым шалапутам вока ды вока.

Ужо некаторы час за вокнамі скача нейкі слабы водсвет, які цяпер разліваецца ў зарыва. Пасля далятаюць адтуль лямант, праклёны, гвалт.

Карпач. Што такое?

Ілья. А гэта ці не трэці браток-Васілёк? Васка Вецер.

Вашчыла *(мужыкам).* Ідзіце паглядзіце. І калі што — спыніце брыду.

Тыя пайшлі.

Вецер *(да Ільі).* Ты якое права маеш думаць кепска пра майго стрыечніка?

Ілья. Стуліся, Вецер. Пакуль ты купцоў, растаўшчыкоў, глытаеў граміў, пакуль ты распіскі кабальныя паліў — брацік твой, падбухтораны новым арандатарам, *нашым,* Хрыптовічам, сваёй крыві чалавекам, швэндаўся п'яны па яўрэях, нават бедных,

і пагражаў, што вось паліць вас будзем і што вось будзе пагром.

Вецер. Праўда?

Лаўрэн. Так. І казаў, што можа той пагром ад хаты адвесці. І багатыя яўрэі яму грошы давалі.

Магда. І гарэлкай паілі, бо пасылалі да мяне. Ходзіць увесь час як гразь.

Урываецца Бачко, які пайшоў з мужыкамі.

Бачко. Пажар! Жыдоўскі канец гарыць! З вуліцы ў вуліцу. Вецер падпаліў з сябрамі.

Вецер (*ціха*). Вось яно. І як жа я не хацеў у бунт, у разбой гэты ісці. Падпальшчыкі цёмныя, забойцы. Абы да гарэлкі дарвацца. Але цяпер... цяпер ужо дарогі назад няма. Цяпер ужо хаця й бляваць хочацца, а — з імі.

Вашчыла (*Ільі і Бачко*). Бяжыце, уздымайце людзей. Гасіць. Гасіць, не шкадуючы шкуры.

Поп. А нашто? Цяпер ужо войска ўсё адно прыйдзе. Цяпер — у кулаку трымацца трэба, і на розныя соплі часу няма. Няхай іхнія Суркі над сваімі бебехамі павыюць. (*Ён зусім сп'янеў.*) «А зэйдэлэ, а бобэлэ! Уй-ю-юй!..» Хрыста нашто распялі?!

Вашчыла. Ці-ха, поп! Цябе не білі, але я, імем сваіх ста пяцідзесяці бізуноў... Хай розны лёс, хай іншая кроў, але... кажы, Антох... З пісання.

Антох... Хай розная кроў. Але перад богам — усе браты на свеце! (*Ціха, апусціўшы вочы.*) Гэта не з пісання, але гэта праўда...

Магда. Праўда перад тым самым Хрыстом.

Дзверы расчыніліся ад удару Ільёвай нагі. За ім, у атачэнні яго людзей, увальваюцца некалькі растрапаных людзей, а сярод іх моцна пабіты Мендл Кеймах і моцна п'яны, расхрыстаны Васка Вецер.

Вашчыла. Яны што, парсюка смакталі?

Ілья. Бачко з людзьмі гасіць пажар. А гэтых вось граміл узялі. Яны... Мендла Кеймаха білі на горкі яблык. І кузню ягоную хацелі падпаліць.

Лаўрэн. Гэх, пагулялі!

Васка. А гэта што тут? Там жыдоўскі шабас, тут — чарнакніжны. І ўжо што адна вядзьмарка ды ёсць.

Магда. А я вось, калі я вядзьмарка, цябе — стýпай!

В а с к а. І бра-атухна тут! Здароў, братка! Здароў ц-цёплай кампаніі! У карчме седзіцё?.. Ад пажару, ад відовішча такога мяне ўзялі? Ну, добра хаця, што ў карчму. Налі *(кідае на стойку жменю манет).*

М а г д а. Я за крадзенае не наліваю.

В а с к а. У каго крадзенае? У гэтых пейсатых разбойнікаў *сумленна адабранае!*

М а г д а. Гэта ты ў каго адабраў? У Іцкавічаў?

К а р п а ч. Іцкавічы зараз далёка. Ім у пэўным месцы агнём пячэ.

Л а ў р э н. Гэта ты ў Ёськавых дзяцей узяў, што і сала з'ядуць цішком, калі дасі, каб з голаду не здохнуць?

М а г д а. У Двойры-ўдавы з падпаленай хаты выцягнуў? Ці вось у гэтага, у Мендла ўзяў? Кеймах, што яны табе зрабілі?

М е н д л *(разгойдваецца).* О Аданаі! Рукі.

В а с к а. У крыві твае рукі!

І л ь я. У крыві. За шулы трымаўся, у кузню не пушчаў.

В а ш ч ы л а. Твае людзі яўрэйскі канец падпалілі?

В а с к а. Угу, і сінагогу. Дымко-ом пайшла! Лупі-і, Янка, тут табе бог, тут табе п'янка!

П о п. Аб веры дбаеш. Сто грахоў з цябе.

В а ш ч ы л а. За веру, праўда, стаяць трэба. А ты як думаеш, Антох?

А н т о х. Мяне за гэта згнаіць могуць. Але, памойму, бог адзін. Толькі імёны розныя. Як маці ў нас «маці», а ў хахлоў «ненька». Імёны розныя, а маці — чыста ва ўсіх адна.

М е н д л. Мамеле. Рукі.

М а г д а. Баляць рукі. Зараз вось...

Дастае чыстую анучу, лье гарэлку з пляшкі на рукі.

М е н д л. Рукі. За што яны... з мордамі такімі страшнымі. А халупа гарыць.

В а с к а. А ад Іцкавічаў вашых нашы хаты не гарэлі? А забітых імі куды падзець? Усё жыццё як вол пад ярмом. Усё жыццё пад плёткай, усё жыццё на мякіне. Усё жыццё на́галадзь.

М е н д л. І накрыцца жонцы з дзецьмі няма чым

В а с к а. Ну так, усе блохі згарэлі. А што вашы Іцкавічы з нас, як блохі, апошнюю кроў смакталі?

Па кроплі. Я ўдосталь не еў. І дзеці мае не елі. Усіх вас, разам з панамі, кніжнікамі, багамазамі, растаўшчыкамі... Дзеці мае не елі!

Мендл. Рукі. Што цяпер без іх мае дзеці есці будуць? Няма нічога.

Карпач *(з цяжкасцю ўздымае гіру ля стойкі).* На, Мендл. *(Той нечакана лёгка ўзняў гіру.)* Бач ты яе як. Ты ж каваль. Трахні яго гэтай гірай па галаве — і разлік.

Ілья. Галава ў яго вытрымае. Што ёй?

Мендл *(раняе гіру).* Не магу... Ай, куды бедным падзецца?.. Уй, калі ж хлеба ніхто за так не дае!.. Рукі.

Вецер. Ну так, рукі. Зусім яны чорныя, рукі. У цябе, Васка, бялейшыя. Дык гэта праўда, стрыечны брат, што ты з багатых жыдоў грошы вымагаў і казаў, што тады пагром адвядзеш?

Васка. А што? Што? З крывасмокаў?! Я не еў з-за іх... каб сытым... Племя ўсё іхняе пад корань!

Вецер. І цяпер пра ўсіх нас будуць казаць, што мы пагромшчыкі і вымагальнікі. І праўду нават над страшнай нашай магілай сказаць не захочуць. Бо збаяцца, каб і іх не палічылі, што яны заадно з галаварэзамі. Хаця яны нават Іцкавічаў не забілі, якіх бы за... ногі павесіць трэба. Збаяцца праўды — і ўсё гэта ты нарабіў. Ты што — і гарэлкай не грэбаваў? Піў з рук аднолькава гэтага вось бедалагі і гэтых вошаў, Гдаля са Шмуйлам?

Васка *(крыху няўпэўнена).* І што? І піў.

Вецер. Беларус абпіваў жабрака і піў падачку з рук ворага?!

Магда *(спалохана).* Васіль! Васіль, кінь!

Мендл. І тут яны — за глотку. А мне што рабіць? Сябры мае адзіныя... Рукі.

Вецер. Рукі. У крыві і дыме. Ты прабач мне, Мендл. Я не магу падаць табе рукі. Адзінаму, у каго б я тут з ахвотаю яе пацiснуў. Але я магу іншае... Васка! *(І тут амаль шэпт узвысіўся ледзь не да грымотаў.)* Ты, вось ты... дай я пацісну тваю руку... брат.

Васка і ягоныя людзі задкуюць у кут перад Ветрам, які наступае на іх.

Ты пойдзеш гасіць пажар. Ты будзеш ставіць з людзьмі новыя хаты. Ты ніколі не ўцячэш і прымеш з

намі самую смерць. І калі ты заб'еш не ў баі, і калі ты хоць раз адбярэш жыццё, вартую жалю страху́ або кавалак хлеба ў няшчаснага — тады ты, клянуся, падасі мне сваю руку, брат, і — бог бацька! Вымятайцеся.

Тыя пайшлі, як пабітыя. Маўчанне.

Ну вось. Нарабілі лайна — што цяпер?

І л ь я. А цяпер, пасля пажараў, чакай кары.

В а ш ч ы л а. Усіх узброіць.

Л а ў р э н. І мне доўбню... самую цяжкую. Пасля таго, што тут убачыў.

М а г д а. Куды-ы ты, кіндзюк. Біцца? Ды я цябе падалом замяту.

Л а ў р э н. Ну ты-ы. Ты падалом і полк замяцеш. Не ведаю, як на цябе, а на іх у мяне сілы хопіць.

В е ц е р. Біцца. Цяпер ужо да апошняга. А калі што...

П о п. А калі што, дык за рубеж завадатарам бегчы. Там аднаверцы.

А н т о х. Куды-ы. Бачко дужа пісьменны. З гасцямі з-за рубяжа гаворыць. На Украіне цяпер казакамі Лізка з Пецярбурга запраўляе.

П о п. Дык вось туды.

А н т о х. Туды? Там *свае* мужыкі бунтуюць — што ім да чужых? Там у простых нават солі няма. Там паўсюль адкрыты разбой. Там раскольнікам храмы ломяць і людзі бягуць да нас — уяўляеце? У наша пекла бягуць! — або паляць сябе жыўцом. Там галовы сякуць і языкі рэжуць за адзінае слова. Выдадуць яны завадатараў назад нашаму каралю. Наш кабель іхняй сучкі не ўкусіць.

К а р п а ч. Тады адно. Узбройвацца. У князя нашага зараз дзве вайны. Адна з «каралём» Славацінскім. Ён яму замак у Славаціне пабудаваў, каралём паставіў і цяпер яму вайну аб'явіў. Усур'ёз, з забітымі. І другая вайна, ужо не цацачная. З Янам Тарлам, ваяводам Сандамірскім, за маёнткі Сабескіх. Тут ужо міжусобная, братазабойчая вайна. Буйных сіл не пашле. Не да нас яму. Можа, і паспеем.

П о п. І пасольства да князя.

В а ш ч ы л а. Перапрошваць, што пабілі? А што ж, і перапросім, галава не адваліцца. Бачко з Ветрам ліст напішуць. Каго дасылаць?

І л ь я. Бадай што, мяне.

К а р п а ч. Татка...

І л ь я. Змоўч, смаркуль. Дзед твой бурмістрам Крычава служыў. Я — гарматнік. Ты, зеляпан, таксама бурмістр. Служылі мы гораду, не адмаўляліся. Сілы ў мяне ўжо мала, то паслужу напаследак паношанай шкурай.

В а ш ч ы л а. Гэта можа быць і сапраўды «напаследак». Хоць і паношаная, а...

І л ь я. Дзярмо разграбаць паедзем. А гэтай работы ў новым адзенні не робяць.

В а ш ч ы л а. Яшчэ хто?

Л а ў р э н. А хаця бы й я.

М а г д а. Ку-ды, распуста. Абібок. Лоб, як у бугая, а абы яму гультаіць, абы не працаваць.

Л а ў р э н. Дровы ў тваю карчму секчы — гэта не работа.

Я ў х і м. Яна не пра тую работу кажа.

Л а ў р э н. Не, дудар, гэта ты ўжо кінь. Яна ў мяне як лава. Хоць каменні кладзі. *(Завёў.)*

Усе дзеўкі дрэнна йдуць —
Мая дзеўка добра йдзець...

М а г д а. Э-эх, змоўч, кастаглод. Скажа, як атопкам па балоце плясне.

Л а ў р э н. Кароста ты мая любая. Трэба ісці. А то там наш князь сядзіць, напнуўся, як жаба на купіне. Радзіві-іл!

В е ц е р. Хто і калі вас разуменню вучыць будзе? Ёсць Мендл — і Гдаль, ёсць той *наш* пракажоны ў лесе — і *наш* Радзівіл. А і Радзівілы розныя. Ёсць тыя, што кнігі выдаюць і асвету нясуць у наша дзікае балота — а ёсць і такія, як наш, злачынцы ў светлай княжай кароне.

Я ў х і м. Не бывае яна светлая.

В е ц е р. Бывае. Гэта як на якім чалавеку.

В а ш ч ы л а. Едуць пасламі да Белай Ілья Карпач і Лаўрэн Каўбаса.

Я ў х і м *(перакідае дудку на грудзі)*. Галасы ў адзін. *(Цямнее.)*

Голас:

На палеткі асірацелыя
Аблятае лісце нясмелае,
Абгарэлае, заінелае,
Каб укрыць раны нашай зямлі.

Беларусь мая белая, смелая
Засылае паслоў у Белую.
Засылае ў Падляшскую Белую
Падлаедаў аб праўдзе маліць.

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Зала для прыёмаў, «тронная» зала ў палацы Геранiма Радзівіла ў Белай. У пярэдняй сцяне, справа, стральчастыя ўваходныя дзверы. Высокія вокны высока і ад падлогі, а пад імі — канапы, лавы і крэслы. На прыступках каля левай сцяны, на ўзвышэнні, крэсла самога князя, вышэйшае за ўсіх і сапраўды нечым падобнае на трон. Насупраць яго, у правай сцяне, гарыць камін і каля яго стаіць высокі экран. Вісяць габелены і зброя, стаяць у прасценках латы. Зала таму робіць дзіўнае ўражанне: сумесь парадней залы і кардэргардыі. Князь сядзіць на высокім крэсле, побач, на ніжэйшым — Аліцыя Гайдаловіч. Іхняй «канфідэнцыяльнай» размове аніяк не перашкаджае прысутнасць Капітана Аддзялу Гран Мушкецёраў, асабістай аховы князя. і палкоўнікаў Данавана і Пястжэцкага.

Радзівіл. Ды не магу я з та-табою ажаніцца, ду-ду-душка.

Аліцыя. Але чаму ж?

Радзівіл. Ла-ладна, жо-жонка ўцякла. Шлюб ра-разарваны. Але ж яна была да-дачка Сапегі і жонкі ягонай з-з Браніцкіх. Прыйдзе час — ва-вазьму новую. З такога ж высокага дому.

Аліцыя. І тая ўцячэ. Бо і жанчыны з гэтых дамоў такія, халодныя, як рыбы. Дый ты.

Радзівіл. Цы-цы-цыц!

Аліцыя. Два мокрыя палены не гараць. Сухое патрэбна — тады яшчэ сяк-так.

Радзівіл. Гэта ты — сухая? Гм.

Аліцыя. Прынамсі, магу прымусіць цябе варушыцца.

Радзівіл. І мне ад жа-жанчыны патрэбна паслушэнства. Безагаворачнае, ду-душка.

Аліцыя. Ну н-не. Са мной не атрымаецца. Жыць замкнёнай і толькі чакаць, што часам з'явіцца муж і пан. Гаварыць няма з кім. Толькі праз вокны глядзець на вязняў і асуджаных. Крыкі слухаць.

Радзівіл. А ш-ш-ш-то? Найлепшыя спевакі пры маім двары.

Аліцыя. Ціха, людзі ж тут.

Радзівіл. Гэта не людзі.

Аліцыя. У цябе ніхто не людзі. Сам святло гасіш, сам дзверы запіраеш.

Радзівіл. Бо не ха-хачу, каб іншы бачыў тое, што належыць мне *(паказвае на яе)*.

Аліцыя. Ага, значыць, усё ж людзі. Глядзяць.

Радзівіл. А гэта я-я-якасць не толькі лю-людзей, але й быдла.

Аліцыя. Якая табе розніца, калі на мяне, скажам, пёс паглядзеў?.. Угм. Толькі й ёсць у цябе, што зайздрасць, а толку што? Не палац, а турма. Паноў за стол — ніколі. У нясвіжскіх Радзівілаў чалавека на тым канцы стала ў твар цяжка пазнаць.

Радзівіл. Нясвіжскія мне не ўказ. Я-я-яны адну сабачую мову змянілі на другую, польскую, таксама сабачую.

Аліцыя. А што ў цябе не сабачае?

Радзівіл. Ня-ня-нямецкая. Там, у Нямеччыне, парадак, там законы, там — войска, там — мова, там — людзі... Дойч хайт... Дойч тум... Нямецкі побыт. Нямецкі дух.

Аліцыя. А сам у тым нямецкім, як я. Як той парыжанін, што Парыжа ў вочы не бачыў. Пляцеш — дык унь у палкоўніка Данавана, немца, вушы вянуць. Таксама мне, немец. Такі ты немец, як і Вайберхельд, як Вайберфройнд, Вайберфайнд[1], ты і не немец, ты і не паляк, а тутэйшае...

Радзівіл. Нун гут... Іх геборэ вурдэ ін штадт Belaja. Balorussia. Абер... а ідзі ты да д'ябла! А шляхвета за ма-ма-маім сталом — прабач. Яны павінны ведаць месца, душка. Я па-па ўладзе больш чым кароль. І вось *таму* мне з табою ісці ў касцёл не выпадае. *(З пагрозаю.)* Не па са-сабе дрэва ломіш. Я ка-ка-ка-кароль! Толькі пакуль не ка-ка-каранаваны! Я й падаткаў не плачу. Я самому каралю сказаў: «Мам войско венкшэ ніз Жэчпосполіта, готув естэм служыць нем ойчызне — дам е крулёві, але податкув жадных не заплацэн»[2]. Вось. «Маю войска большае, чым Рэчпасполіта, гатовы служыць ім айчыне — дам яго каралю, але падаткаў ніякіх не плачу».

---

[1] Сэрцаед... аматар жанчын... жанчынаненавіснік.

[2] Польскія цытаты даюцца ў вымаўленні пачатку XVIII стагоддзя. Гэта не памылкі, а так тады казалі.

Аліцыя. Яўрэям ты іх плоціш, бо лень самому займацца. Болей, чым каралю, плаціў бы. *(Убок.)* Ладна. Ты не ажэнішся, але я з цябе ўсё магчымае выцісну, мерын. А тады заікайся хоць па-нямецку, хоць на мове сваіх пастухоў.

Радзівіл *(ужо супакоены, задуменна).* Вось бачыў сон. Сяджу бым і бачу — перада мною бым на троне кароль сядзіць. Наша бяссілая морда. Аўгуст трэці Фрыдэрык. І хачу бым я ўстаць перад ім, а ні-ні-ні-як не ма-магу. Варажбітка ска-ка-казала, што гэта нейкая дзяржава пасодзіць мяне на польскі пра-прастол. Пасля — вайна будзе, скінуць мяне з трона. Але я... я... я па магілу буду ганарыцца — я і зараз ганаруся, што бы-бы-быў польскім каралём. *(Прыасаніўся.)* Ве-ве-вельмішаноўны пан канцлер дзяржавы, пан Піліп Каршук, та-так бы мовіць мі-міністр замежных і ўнутраных спраў... Гэй! Прывядзіце канцлера, Пястжэцкі *(той пайшоў, Радзівіл — да Аліцыі).* З табой больш размовы няма. Змоўч!.. Ох-х, цось мі глова болі.

Пястжэцкі вяртаецца. З ім Каршук і Іцкавічы.

Што, бушацкія морды. Так бессаромна грошы вы-выбівалі, што да бунту дайшло? Колькі лішняга ўзялі?

Гдаль. Сонца наша найяснейшае! Дальбог жа, анічога не ўзялі.

Радзівіл. Бра-брашы! На што ж бы-было водкуп, арэнду браць, калі сабе выгады няма?

Шмуйла. Ды толькі каб вам клопату не было. А вам лягчэй. А нам — прывілей на гандаль.

Радзівіл. Павешу за ногі. Колькі тысяч у кішэнь паклалі? Дзесяць? Пятнаццаць? Ды я ж не супраць. Трэба ж і вам на кугель і рыбу?

Гдаль. Дваццаць тысяч... І палову з іх на каленях падносім вам, Саламону мудраму нашых дзён... Шмуйла, дай распіску.

Шмуйла ўкленчвае і працягвае распіску.

Радзівіл. Мабыць, крыху больш. Ла-ладна, чорт з вамі.

Гдаль. Бралі болей, сын сонца. А чаму?

Радзівіл. А чаму?

Гдаль. Каб я граў у вашыя карты, то сказаў бы: вось наш козыр. Падманшчыкі, вашамосць.

Шмуйла. Шкуру мала здзерці. Манюкі.

Гдаль. Народ разбягаецца, то яны цішком іхнія валокі, іхнія землі прыбіраюць да рук, а падаткаў вашай мосці за іх не плоцяць. Укрываюць ворныя валокі ад вас, гаспадара. І ў лесе зе́млі цішком аруць і грошай не плоцяць, бо тыя валокі ў інвентар не ўлічаны.

Шмуйла. Пан-князь у лес не палезе. А мы палезлі. А ў лесе паўсюль патаемныя пасекі і борці, няўлічаныя папасы, гарбузы ў бур'яне на палянах. Мужыкі! Падманшчыкі! Бушацкія морды!

Радзівіл. А бунт?

Шмуйла. А грошы недаплочаныя князю? Мы іх выбівалі, і за гэта ў бунце ледзь не загінулі.

Радзівіл. Як кулаком пад дых. Ну не, скаржнікаў гнаць, упартых — вешаць. Канец справе скаргаў... Чорт, галава разломваецца.

Каршук. Там дэлегацыя скаржнікаў з Крычава. Два чалавекі, княжа.

Радзівіл. Павесіць!

Аліцыя. А можа, яны не са скаргай.

Радзівіл. Добра, гэтых яшчэ выслухаю. Але хай пастаяць, пачакаюць. І вы пачакайце... Можа, я вам і падмагну вярнуцца. Толькі — не-не-не да таго мне ц-цяпер. У мяне са Славацінскім вайна з Тармлам — усобная вайна. І... хто там яшчэ, Каршук?

Каршук. Сяржант фон Швальбе ўцёк.

Радзівіл. Як? Не паляк? Курляндзец? З іх-іх-іхнім безварнуковым паслушэнствам? Ве-ве-ведаючы мя-мяне су́ум домі́нум ві́тэ эт не́ціс, як па-пана свайго жыцця і смерці? Куа́ субдзі́тус, як падданы, ве-ведаючы, што яго чакае? Ад мяне, дзе ў во-войску ад салдата да ге-генерала мова нямецкая? *(У страшным гневе.)* Сто... дзвесце... тысячу пагоні за ім. Спаймаць! Дзе б ні схаваўся — той палац або кляштар спаліць!.. Пястжэцкі — пяцьсот чалавек!

Пястжэцкі. Слухаю *(выходзіць)*.

Радзівіл. Капітан Аддзялу Гран Мушкецёраў... Дзвесце... У пагоню. Калі паспееў уцячы за мяжу — да тых двароў патрабаванне: выдаць. Хоць бы і ў рымскага папы!

Капітан. Ія... Абер іх глаўбе, князь...

Радзівіл. Ты мне не глаўбай. Інакш будзеш мець кіёў у спіну.

Капітан. Ія *(выходзіць).*

Радзівіл. Та-а-ак. Ш-ш-шт-то яшчэ? Галава, халера, як гарбуз.

Каршук. Ваша светлая велькаяснавяльможнасць. Кароль Славацінку просіць пардону ў іх яснавяльможнасці.

Радзівіл. Падумаем. Забава, што праўда, зацягнулася. Ну, збудаваў я яму замак... пяцьдзесят тысяч каштаваў. Ну, аб'явіў яго ка-ка-каралём. Я лі-лічаныя двары сусвету лічу ро-роўнымі сабе, дык ён зазнаўся.

Каршук. Дазволю нагадаць — гэта *мы* яму аб'явілі вайну.

Радзівіл. Капітана! Пястжэцкага!..

Тыя ўваходзяць. Капітан мяце пер'ямі капялюха падлогу. Увогуле ўвесь этыкет — жахлівая пародыя на этыкет пры двары «караля-сонца» і нямецкім двары.

Капітан. Ваша яснавяльможнасць, людзі дасланыя.

Пястжэцкі. Мае таксама.

Радзівіл. Дакладвайце аб штурме Славацінку, капітан. Замак...

Пястжэцкі. Замка таго ўжо амаль няма. І ў іх і ў нас забітыя, параненыя.

Капітан. Мы замак атачыць і падступіць. Тыя страляць...

Радзівіл. Па-нямецку!

Капітан. Холь ін дэр Тойфель! Ферфлюхунг! Гешворэнэр Файнд...

Радзівіл. А, чорт, яшчэ горш! Канцлер, скажы яму — хай брэша па-тутэйшаму, а будзем лічыць — па-нямецку.

Капітан. Ваш закляты вораг замак выхадзіць і біцца. То яны нас, то мы іх.

Радзівіл. Падпалілі?

Капітан. Ія.

Радзівіл. Час канчаць. Досыць ужо з ім дыпламатычных зносін і вайны. Артылерыю, штурм, сам на чале. Узяць у палон. Судзіць. Асудзіць на-на-на смерць.

Пястжэцкі. Ваша яснавяльможнасць! Караля! Які прыклад?!

Радзівіл. Так. Караля нельга. Я яму... дарую. Уласкаўлю. І — вось што я зраблю! — вярну яму свабоду і дзяржаву.

Пястжэцкі. Вялікі і мудры!

Радзівіл. Ты не хвалі. Ты да-да-давай пра бойку, пра вайну з Сандамірскім ваяводам.

Пястжэцкі. То ест правдзіва война за маёнткі Сабескіх. Война домова. Воевода Сандомежскі Ян Тарла, як сьвіня, пшэпрашам...

Радзівіл. Ой, ды кі-кінь ты гэтае свінства. Валі па-хлопску, а хай лічаць, што па-польску. А то галава баліць, цяжкая, як жлукта поўнае. Не даходзіць па-польску.

Пястжэцкі. Даслаў на яго дзве харугвы. Хай трывожаць. Пасля выступлю сам. Гэта — сапраўдная вайна. І мы ім хрыбты зломім... А што з галавою?

Радзівіл. Напіўся ўчора... Пробашча Пёкура сюды... Ох, галава ты мая, галоўка, кадоўбец божы.

Уваходзіць Пёкур.

Пан пробашч Бельскі. Нашто ты мяне ўчора напаіў, свіння такая?

Аліцыя. Ты ж не п'еш.

Радзівіл. Гэты здолеў упаіць.

Пёкур. Але, пане муй. Што там было? Палова вядра крупніку, кварта кмяноўкі ды пляшка пітнага мёду! Што гэта на дваіх здаровых драбаў?

Радзівіл. І ў пляшцы чатыры кварты. Вось сядай зараз за стол і пішы... Пяро яму. Ох, макітра ты мая! З піяньствем вальчыць тшэба. Змагацца.

Пёкур. Пішу. «Без жаднай клеменцыі маёй, яком Радзівіл...»

Радзівіл. Так. Так. Піяньствам ба-ба-бавёных се, яко не жолнерскім і негоднім сьвінім налогем, не іначей як батыжкамі каралі.

Пёкур. І па-хлопску тое самае. «Тых, хто п'янствам бавіцца, як не салдацкай і нягоднай, свінскай распустай, не іначай як батагамі караць...» Апахмяліцца б табе, княжа.

Радзівіл. Трэ... ты-ты-ты што гэта тут?! Тут закон прынялі, а ты з апахмелкай.

Пёкур. Пакуль не падпісаў — гэта ж не закон? Ну дык выпі, а пасля падпішы. Гэта зручна. Пазабівай

ворагаў, а пасля выдай закон: забойства караецца смерцю. Але зваротнай сілы закон не мае. І людзям страх, і табе спакайней.

Радзівіл. Ладна. Дапісвай...

Пёкур. Дапішу: «Жэбы тыле веле кропель...» Тут ужо я, як ксёндз. Калі вып'е, то «каб столькі шмат кропель, каб столькі д'яблаў, што пры скананні бяруць *сваю* душу, бачыў...». А ты ўсё ж пахмяліся... Там Грабоўскі, пасол ад брата твайго Марціна-Мікалая чакае. Вось ты з ім аб богу пагавары дый выпі.

Радзівіл. Што такое Грабоўскі?

Пёкур. Фаварыт. Выканаўца ўсіх ягоных збродняў. Загадае Марцін — падсудка брэсцкага Грабоўскі заб'е ў карчме. Палюбоўніцу князеву па яго загаду задушыў. Забіў шляхціца Кукаўскага з жонкай — вясёлы такі чалавек. Маёнткі падпальвае. Наконт сялянскіх двароў падпаленых і мужыкоў забітых — і не кажу. Цяпер хваліцца, што заб'е брэсцкага гараднічага. А братка твой, княжа, з розуму з'ехаў. Верыць у перасяленне душ, алхімік, каменя філасофскага шукае. Ні пра што, акрамя баб, гаварыць не можа, людзей забівае. Перайшоў у юдаізм. Ра́біны вакол. Суботу спраўляе. Ну, па-свойму ён правільна разважае. Яму ж невядома, які бог на небе, дураломy. Калі наш — ён крыж пакажа, а калі іхні... Ён і жанчын святых не пасаромеецца.

Радзівіл. Звар'яцеў братка.

Пёкур. Угу. І самае горшае — замест мёду і гарэлкі п'е пейсахоўку. Гэта ўжо зусім з розуму трэба з'ехаць. Ніякага параўнання — гэта і мурону ясна.

Радзівіл. Так, гэта ўжо канцы. Увесці Грабоўскага. І крычаўскіх сюды!

У залу ўводзяць Грабоўскага, Ілью Карпача і Лаўрэна. Грабоўскі ідзе да «трона».

Грабоўскі. Чалом табе, яснавяльможны, ад не менш яснавяльможнага брата Марціна-Мікалая — недатыкальны пасол ягонай дзяржавы Грабоўскі.

Радзівіл. Ну, недатыкальны ці не — гэта мне меркаваць. Унь узброеныя вакол. Як у Берліне. Кожнай раніцы пры-прычасаныя і напудраныя, як да-да шлюбу.

Грабоўскі. Яны вакол. Але *я* — пасярэдзіне. Непрычасаны і ненапудраны. Але ўзброены. І шлюб мой — забойства па загаду майго пана.

Лаўрэн. Бач ты, забойства ў золаце.

Ілья. Змоўч!

Радзівіл. Цік-кава. Ану, тыя, што вакол. Зброю на́гала!

Капітан, Пястжэцкі і Данаван стаюць у пазіцыю, агаліў шаблю і Грабоўскі. Б'юцца. Пасол з цяжкасцю, але абяззброіў двух першых. Данаван знемагае.

Данаван. Ферфлюхтэ вайсрусішэ швайне! Саксонія, наперад!

Радзівіл. Надзверны!

Вартавы каля дзвярэй прыяднаўся да Данавана. Ім з цяжкасцю ўдалося прыперці Грабоўскага ў кут. І тут Лаўрэн нечакана падхапіў выбітую шпагу мушкецёра і напаў на ўсіх трох, як ураган. Пацясніў.

Ілья. Ты што робіш, патаўпешка?!

Лаўрэн. А я ім пакажу, як *нашы* б'юцца. *(Выцесніў тройку за дзверы, кінуў шпагу сярод залы.)* Ваша яснавяльможнасць. *(Прыдурваецца.)* Не сячыце галавы. Не мог стрываць, што немцы так над чалавекам адной з вамі крыві пацяшаюцца. А мы ж вашы падданыя. А мы ж за вас у агонь і ваду... і сячыся во́ як умеем.

Тройка апаслiва заходзіць. Пабітыя стаяць у цэнтры залы. Лаўрэн адышоў да Ільі. І тут ксёндз Пёкур шэпча на вуха князю, паказваючы на вартаўніка.

Пёкур. *Той самы.* І трэба, каб бачылі. І крычаўскі хам бачыў і вывады рабіў.

Радзівіл. То-то-той. Ану, сюды *(вартавы падыходзіць).* Ты-ты-ты што ўчора казаў?

Вартавы. Паночку, па-па-паночку, дальбог.

Радзівіл. Такога слімака толькі вешаць... Ты што сказаў? Калі я ўчора, спатыкаючыся, ад пана пробашча вяртаўся... цужэсь ты по...по...ведзял?

Аліцыя. Ну ўсё, шыбеніца.

Вартавы *(з мужнасцю адчаю).* Поведзялэм то, цо правда — нігдым Вашей Мосьці піяным не відзял, венд жеклэм, же велька ксенця Мосьць сьпілэсь сен як сьвіня і жэбы то бедны чловек так зробіл...

Радзівіл. Кажы і для тых. Каб разумелі.

**В а р т а в ы** *(гераічна)*. Сказаў праўду. Сказаў сябру, што ніколі Вашай Княжай Мосці п'яным не бачыў, дык сказаў... Бач, упіўся Ваша Княжая Мосць, як свіння, а каб гэта бедны чалавек так зрабіў, то яго б павесіў і...

**Р а д з і в і л** *(перарваў)*. О-ох... До... до...добжэсь васан поведзял, естэсь васан сержантэм... Для вас, хамы: «Добра васпан сказаў, быць васпану сяржантам».

**Н е ч а к а н ы  с я р ж а н т.** Бу-бу-бу-буду.

Г а й д у к падносіць Радзівілу паднос з кубкам, той машынальна п'е, скрывіўся. Пасля сяржанту.

**Р а д з і в і л.** Бач, з радасці заікацца стаў, як я. На гэты раз дарую. Але як камандуючы будзеш заікацца — павешу.

Гайдук узяў кубак, на хаду абмахнуў крысо князю.

А ты што тут усё ля мяне цярэшся? По цо ту — тутай ходзіш?

**Г а й д у к.** Хцэн быць завшэ на ўслугах Вашай Ксёнжэнцэй Мосьці, венц естэм му на відоку.

**Р а д з і в і л** *(з глухім гневам)*. Хочаш быць у мяне на вачах. Варта! Узяць яго і на дуб у двары.

**Г а й д у к** *(крычыць)*. Ваша! Ва-а-а-ша! *(Яго пацягнулі.)*

**Р а д з і в і л** *(наўздагон)*. Тэ-тэраз, вацпан, бе-бендзеш мі завшэ наві-ві-відоку. Ты зараз, вацпан, будзеш заўсёды ў мяне на вачах. *(Супакойваючыся, да Грабоўскага.)* Чаго просіць брат, пасол?

**Г р а б о ў с к і.** Просіць аб прадажы таго каня.

**Р а д з і в і л.** Сказаў, што прадам. І нашто тое пасольства ганяць?

**Л а ў р э н.** Ваша яснавяльможнасць. За што вы? Даруйце беднаму дурному чалавеку.

**Р а д з і в і л.** Ды ты што-о?

**І л ь я** *(выглянуўшы ў акно)*. Позна, Лаўрэн. Унь ужо ён вісіць, як груша.

**Р а д з і в і л.** Тваё шчасце, крычавец. Іначай бы я загадаў *я м у* павесіць *ц я б е*. Ён бы паве-е-есіў. Ён бым це жыця не пардоновал. Ён бы не злітаваўся.

**І л ь я.** Ну так. Ён *в а ш* слуга.

**Р а д з і в і л.** Ну, пасол, што яшчэ?

**Г р а б о ў с к і.** Пляткараць пра ўзаемныя вашы падкопы.

Радзівіл. Пра ўсіх так. Лю-удзі-і.

Грабоўскі. То, каб выказаць вам сваю прыхільнасць, панскі брат пасылае вам скаргу ад крычаўскіх мяшчан на яго імя *(падае грамату).*

Радзівіл. А пры чым тут Марцін?

Грабоўскі. А яны просяць, каб ён адмаліў у караля Крычаўскае староства пад сваю ўладу.

Радзівіл. Ну, адмоліць? А я караля не паслухаюся. Што далей?

Грабоўскі. А далей, каб адбіў іх у вас.

Радзівіл. Ну, х-хай па-паспрабуе.

Грабоўскі. Ён не хоча. І выдае іх галавой, перадае вам скаргу, даводзячы тым сваю да вас зычлівасць.

Радзівіл. Гм... Ды... ды вось і я-я-яны тут. Што, хлопі, хочаце, каб мой брат вас у мяне адбіў?

Ілья. Ён вам далёкі брат. З другой галіны,няродны.

Радзівіл. Ну, дык ці хо-хочаце?

Лаўрэн. Пасля гэтай бязвіннай шыбеніцы *(паказвае ў акно)* — хочам.

Ілья. Ды ты што?!

Лаўрэн. Так. Яшчэ Людовік, кароль польскі, прысягаўся, што не будзе чужаземцам аддаваць староствы і гарадоў. А ты каму аддаў? Іцкавічам драпежным?

Ілья. Чакай, Лаўрэн, дай я. *(Падае князю грамату.)* Там усё ёсць, княжа.

Радзівіл. А ты словам скажы.

Ілья *(ён таксама рашыўся).* Каралі і князі мелі намеснікаў-старостаў. Яны не толькі баранілі замкі княскія, не толькі старажылі спакой зямлі, але і кара́лі гвалт, крадзёж і разбой. А гэтыя? *(Паказвае на Іцкавічаў.)* Яны могуць твой замак у Крычаве — пам'межны, заўваж! — абараніць? Яны, калі прыйдзе гвалтаўнік, гонару жонак сваіх не абароняць. Мала таго, іхнім гонарам адкупяцца. Яны могуць старажыць спакой зямлі? Яны могуць толькі біць слабейшых і бяззбройных. І ці могуць яны караць гвалт, крадзёж і разбой, калі самі гвалцяць і рабуюць?

Лаўрэн. Права мяча старое замянілі правам бізуна. А нам лепей меч, чым бізун, лепей плаха, чым стайня.

Радзівіл. А калі раней ста-стайня, а пасля — пла-плаха.

Лаўрэн. Калі вачам сваім не верыш — спытай у гэтых вось сваіх, як ім ад мяне перапала. І ў нас шмат такіх.

Радзівіл. Новае права Польшчы датычыць.

Ілья. А ў нас зараз, вашым дбаннем, паўсюль Польшча.

Грабоўскі. Дазвольце мне, княжа, іх павесіць, саслужыць вам.

Гдаль. Басякі-і! Падманшчыкі!

Шмуйла. Княжа, сонца наша, аддай іх нам галавою. Ад-дай.

Радзівіл. Пачакай з шыбеніцай. Я вось ім лепей Іцкавічаў вярну. Што бу-удзе! А то яны да брацікa дужа хочуць. Ты, пасол, раскажы мне, як там брацік?

Грабоўскі. Ды што. Гаворыць пра перасяленне душ.

Радзівіл. Ну гэ-гэ-гэта даўно. Ён мне раз сам сказаў, што нос у яго ве-вельмі доўгі, і таму ў мінулым жыцці ён, відаць, быў улікам. А ў будучым жыцці будзе сланом, на якім вялікі першасвяшчэннік будзе ездзіць па Ерусаліме, а калі зноў вернецца ў чалавека, то сядзе на першасвяшчэнніка, які будзе аслом за свае грахі. Я ў яго пытаю: «А чым жа я стану?» А ён мне: «Кабаном за любоў да га-ганебнага дзярма». Дурны брат зусім...

Аліцыя *(ціха)*. Ды не, не такі ён і дурны.

Грабоўскі. Ходзіць у сінагогу. Вывучыў ужо, дрэнна, старагебрайскую і жаргон.

Пёкур. Гэта ён выбраў найлепшую рэлігію. А службу хрысціянскую прагнаў.

Грабоўскі. Рабіны вакол. Кожную пятніцу збіраюцца ў князя на борурухі, ядуць лапшу, шчупака і кугель.

Радзівіл. Пры-прыдуркаваты брат.

Грабоўскі. Шыбеніца кожны дзень цёплая.

Радзівіл. Гэта лухта!

Грабоўскі. І кошэры і шабасы дакладна выконвае. А на шабасах сядзіць у лапсердаку з ордэнам святога Губерта на шыі.

Пёкур. Божа! Ён бы яшчэ пад лапсердакам каўчэжац са святымі мошчамі насіў!

Радзівіл (*Іцкавічам*). Тут не да Крычава. Тут брат здурэў, а вы, морды, са сваімі мужыкамі.

Лаўрэн. Божа! Каб ён гэта сапраўды нас адбіў — да каго б трапілі?

Ілья. Беларусам заўсёды шанцуе.

Радзівіл. Ён бы, вас адбіўшы, жыва Іцкавічаў, вось іх, вярнуў, і тут бы вам літасці не было.

Лаўрэн. Тут бы тады і вам усім літасці не было.

Радзівіл. Ого! А што, можа, мне і вярнуць іх вам? Пад канвоем палкі ў тры? Га?

Ілья. Вярні, княжа. Палкі нам — раз плюнуць. А яны? Ты ведаеш, колькі яны вышэй паложанага сабе ў кішэнь узялі?

Радзівіл. Ведаю. І чаму ўзялі — ведаю. Частку — аддалі.

Ілья. *Паўтара мільёна* яны сабе ўзялі.

Радзівіл. Ко-колькі?

Ілья. *Паўтара мільёна.*

Радзівіл (*злавесна, аж усё сціхнула*). Та-ак.

Гдаль. Ваша яснавяльможнасць. Ой, не вер!

Шмуйла. Маняць! Маняць!

Радзівіл. Не, не маняць. Та-ак. Ты, Пястжэцкі, зоймешся справай брата. Узяць! У жа-жалеза! У яму пад вежай. А то рас-распусціліся з-з-занадта! Каб усіх яўрэяў пад замком, пакуль братца ў яму не кіну. Каб з ніводным з іх словам не па-паспеў пе-перакінуцца! Я-я-я стакрот гэта ўсё выб'ю. Я-я-я сінагогі вашы дымам пушчу. Прэч з вачэй!

Іцкавічы кінуліся ў дзверы.

Абселі! І брата абселі і мяне! (*У ярасці.*) Усіх дымам пушчу. І з вамі, што іх абагацілі, мужыцкія морды, тое ж будзе. (*Прыпадак ярасці страшны.*) За рабрыну іх на крук! На па́лю! Узяць!

Данаван, Пястжэцкі і Капітан набліжаюцца.

Ілья (*спакойна*). А яшчэ Радзівіл. Ніякай велічы. Іншыя Радзівілы ваююць, пракудзяць, кнігі выдаюць.

Лаўрэн. Крычыць, як рэзаны бугай. Іншыя Радзівілы — баявыя пеўні, а пан — кураня. Зносак.

Радзівіл. Агнём! Агнём выпалю.

Ілья (*грымотным голасам*). Хай вось тут кабеціна выйдзе.

Аліцыя. Чаго, я пагляджу.

Ілья. Ну што ж. Хай паглядзіць, калі цікава. *(Цягне экран да каміна.)* Чакалі доўга, то назапасілі.

Радзівіл. Агнём!

Ілья. Назапасілі. Знойдзецца на ваш агонь наша вада.

Стае за экран, з-за якога хутка засычэла і рванула пара. Ілья выходзіць, падцягваючы порткі. Усе стаяць збаранелыя.

Пёкур. Ды... ды што гэта? Ды... бог жа бачыць. *(Сам сабе.)* А ўрэшце, якога толькі растуды ён, бедны, на гэтай зямлі не бачыў.

Ілья *(паказвае на Радзівіла).* Чалавек стварыў бога па сваім вобразе і падабенстве.

Аліцыя. Геранім. Князь. Што тут пры мне робіцца?! *(Пайшла да выхаду.)*

Лаўрэн *(ціха).* Гэх, валіць, як ступа. Дрэнна йдзе.

Аліцыя *(учула).* Князь! Яшчэ й абражае. Ён, хамуйла гэты, сказаў, што я дрэнна йду.

Радзівіл *(блізкі да ўдару).* Ш-ш-ш-што?!

Лаўрэн. Пано-очак! Велькая вашамосць. Яна ў вас да таго ж і глухая. Дык я басам скажу, што шэптам сказаў:

Усе дзеўкі дрэнна йдуць,
Мая дзеўка добра йдзець.
Мая дзеўка добра йдзець:
Круціць задам, як мядзведзь.

І тут Радзівіл няўмела і зусім нечакана разрагатаўся. Нават крыху істэрычным смехам. І тут зарагаталі ўсе.

Аліцыя *(трохі ўлешчаная).* Бач ты... Эх, князь. Такі спектакль смехам сапсуў.

Радзівіл *(рагоча).* Ні-ні-ні-нічога. Паслоў не забіваць. Ідзіце, мужыкі. Я разгледжу ваш ліст. Адпраўце іх. Але глядзіце, калі па-па-падзецеся не пасламі, ды пад дрэнны настрой.

Лаўрэн. Які ж гэта ў вас, паночак, дрэнны настрой, калі гэты называецца добры?

Ідуць да дзвярэй.

Радзівіл. Але ве-едай сваё месца, горад! Калі што — канец вам.

Ільля (*заўважыўшы дыван перад дзвярыма, да Лаўрэна*). Бачыш хаднік? Мужык! Бушацкая морда! Ты дзе? У палацы! І куд-ды ты прэш? Куд-ды ідзеш? Выцеры ногі, хамуйла!

Выціраюць ногі і выходзяць.
Усе ашаломлена глядзяць ім наўздагон.

Радзівіл (*з нечаканым спакоем*). Гэта больш сур'ёзна, чым я думаў. Вы займіцеся мужыкамі, а я... Не, здурэў браток. Ты пойдзеш з палком саксонцаў туды, на Крычаў, Данаван.

Данаван. Ія. Іх хабе генуг. Іх трэба аўфс Хаўпт шлаген. Нагалаву разбіць.

Радзівіл. Ты запамятай іх, Данаван. Не, паслоў забіваць не будзем. Але як Крычаў выкажа непакору — разбіць. Завадатараў на палю. І тады паслы хай паглядзяць... Вядзі кірасіраў, Данаван. А не справішся — у дапамогу пойдзеш ты, Пястжэцкі.

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Зноў тупат капытоў у змроку. І іскра. Коннік вязе паходню, «агнявую віцу» — знак паўстання. У цемры крык: «Данаван ідзе!» Пошчак капытоў множыцца. Ад першай іскры аддзяляецца другая... трэцяя... пятая. «Данаван!.. Данаван!.. Данаван ідзе!» — лятуць у ноч крыкі. А пасля ўзнікае харал:

Над борам, над полем, над вірам
Крумкачы прарочаць бяду, брат.
Жалезнай ступой кірасіры
На Беларусь ідуць, брат.
Зіхацяць гарматы і латы.
Але грозна рыкае зямля, брат.
Скача грозны коннік адплаты.
Вый, акаянны магнат, кат!
Прыкіпелі да шабляў далоні.
Ўстаў на пачвару Давід, брат,—
Ураганны бог жаху — коннік.
Скуголь, захрыбетнік магнат, кат!
Коннік зломіць прыблудаў калоны,
Ён праломіць чужынцаў сталь, брат,
Бог адплаты, бог помсты, коннік.
Вый, пракляты магнат, кат!
Надляснымі цёмнымі шатамі,
Над абшарамі роднай зямлі, брат,
Грукоча коннік адплаты!
Выйце, каты, паны, каралі, брат!
Коннік вечнасці, коннік бяссмерця,

Сонца светлага добры сын...
Хай яны паспрабуюць нас зжэрці,—
Падавяцца ўсе як адзін.

У слабым водсвеце зарыва відаць с і л у э т ы ў з б р о е н ы х м у ж ы к о ў, а злева ад іх група: п о п з Б е с а в і ч а ў і п о п А н т о х. Між імі точыцца ледзь не сварка.

П о п. Не маеш права мужыкам...

А н т о х. Данаван ідзе. Шмат хто з іх вып'е смяротную чашу, і трэба ім асвячэнне, каб спадзяваліся яны на зброю сваю.

П о п. Гэта каралеўскім, магнацкім воінам зброю свянціць можна. А гэтым, якія без пана-магната і пана-караля — не можна.

А н т о х. Няма ў іх гэтых паноў, то няхай не будзе і пана-бога? Так?

П о п. Ты на свяшчэнства, на нас навальніцу наводзіш!

А н т о х. А што ж, бог з імі ў той час, калі ў хама поўна каўбас? А як сала хам не дасць, то і бог яго прадасць?

П о п. Не блюзнер! Агнём гэта пахне, асвячэнне зброі!

А н т о х. Я не ведаю, ці дапаможа. Але яны пойдуць у бойку з надзеяй на бога і зброю. Дык што, адабраць у іх надзею? Не. Гэтага я не магу. Кінуць іх адных — не на таго ты напаў. Не магу. Не на тое мяне высвяцілі, каб я іх у бядзе — адных...

П о п. Што табе ў іх? Яны з нас смяюцца, што поп і певень, не з'еўшы, не пяюць.

А н т о х. Гэта пра цябе. А я, як і певень, спяваю нашча.

В а ш ч ы л а. Пачнем і без папа.

А н т о х. Ідзі. І ў чужой царкве не папраўляй свечак.

Л а ў р э н. Ідзі ў сваю. У сваёй нары і тхор не смярдзіць.

Ударылі званы. Людзі ўзнялі ў чырвань іконы, харугвы і зброю. Пачынаецца асвячэнне зброі ратнай[1]. Антох з малітваю акрапляе зброю святой вадой.

---

[1] Абрад асвячэння зброі запісаны па памяці, могуць быць збоі, трэба кансультацыя. Толькі спевы — каб разумелі — патрэбныя не стараславянскія, тым больш што XVIII стагоддзе (уніяты) малілася па-беларуску. Можна мяняць тэксты месцамі, але так, каб напружанне вырастала. І яшчэ, каб у гледачоў дрыжэлі сэрцы.

ПСАЛОМ

Бог нам прыстанішча і сіла, скоры памочнік у бедах.

Таму не ўбаімся, хаця б пахіснулася зямля і горы рушылі ў сэрца мораў.

Хай шумяць, уздымаюцца воды іх, трасуцца горы ад хвалявання іх.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Усшумелі народы; дзвігнуліся царствы: Усявышні даў голас Свой, і растаяла зямля.

Гасподзь сілаў з намі, Бог Іякава заступнік наш.

...Прыйдзіце і ўбачыце справы Госпада — якія зрабіў ён спусташэнні на зямлі.

Спыніўшы брані да краю зямлі, скрышыў лук і пераламіў кап'ё, калясніцы спаліў агнём.

ЭКЦЕННЯ

О як студа і бясчэсця аблічча праціўнікаў нашых сполніці, сэрца ж іх страху і жаху; і анёл гасподні хай будзе гнаць і паражаці іх. Госпадзі памілуй.

Вашчыла *(з хорам).* Госпадзі памілуй.

ЭКЦЕННЯ

О як пачуці ў царкве сваёй воп і ўздыханне адзінаверных нашых і ад ворагаў і супастат прыгнечаных рабоў сваіх, у тузе і журбоце сваёй да яго вапіюшчых...

Карпач *(з хорам).* Госпадзі памілуй.

ДЫЯКАН (глас I)

Камень, якім пагарджаюць дойліды, ён будзе асновай асноў: ад госпада бысць сей і ёсць дзіўны ў ачасех нашых.

ТРАПАР

...не пагрэбуй, добрая, малітваў нашых, усяпетая маці божая... падай ім з нябёс перамогу, бо нарадзіла есі бога, адзіна блаславёная.

Вецер *(з хорам).* Амінь.

Цемра. І ў цемры марш соцень ног, якія аж скаланаюць і рвуць зямлю: ідуць у бой легіёны кірасіраў Данавана. І яшчэ тупат многіх ног, насустрач.

Вецер. Ідуць, як па шкілетах.

Данаван. Гешворэнэр файнд. Смерць ім! Меч!

Тупат ног. Узвіўся крык Вашчылы: «Юры святы! Край! Край!» І ўсё запаланіў шалёны ломат сталі аб сталь, маўклівая, лютая, нясцерпная сеча. Хробат, ляск, гром нарастаюць, як шаленства перуноў у навальніцу.

Данаван. Куды вы?! Саксонцы! Сак-сон-цы! Стой! Стой!

Ламаецца сталь, шэрагі, хрыбты. Зямля шалёна б'ецца ад конскага тупату. Стогне зямная цвердзь...

І цішыня. Пажар за вокнамі паступова наліваецца, асвятляючы ўсё чырваней і чырваней залу Магдзінай карчмы. У ёй, за сталом на покуці, адзін чалавек: поп з Бесавічаў.

Поп. Разбілі. Адолелі, халера на іх. Цяпер князь усур'ёз за Крычаў возьмецца. Цяпер толькі беражы скуру.

Абарваўся ля вокан конскі тупат. Увальваюцца ў карчму добра патрапаныя палкоўнік Данаван з сынам.

Данаван. Усё, Раймунд. Усё, сынок. Канец. І на нашых конях не ўцячы.

Раймунд. Бедныя коні. Змучаныя. Дзіва што, пасля такога. Я-ак яны нас! Як яны нас! Як молатам арэхі! Толькі кірасы трашчалі. Як яны біліся!

Данаван (*заўважыў*). Хто гэта? А-а, гэт ты, поп. Выпоўзіна гэткая! Куды цяпер?!

Поп (*падыходзіць да сцяны*). Унь тут лаз у падпол.

Данаван. Каб узялі, як пацука?

Поп. Чаму? Там ход да яра. Тут, ля яра, недзе Цялецкі з коньмі акалачваецца.

Раймунд. Сам губернатар?

Поп. Які ён губернатар. У князя з ім адна манера: «Як не прыгоніш у тэрмін транспарт гарэлкі ў Слуцк, то будзеш цешыцца падарункам няхібных ста кіёў у задніцу. Падаю гэта да вернага ведання Яснавяльможнага Пана як добра выхаваны і пачцівы Яснавяльможнага Пана слуга...» Што гэта вы, пане, як не тут?

Данаван. За нейкія пару гадзін — і ўвесь полк. Мае саксонцы найлепшыя ў свеце ваякі!

Раймунд. Целамі віснулі на нашай зброі. Змялі. Вагой задавілі. І ані кроплі страху.

Данаван. Гэта не людзі! Гэта дэманы!

Поп. Уцякай, Данаван (*адчыняў лаз, але там раптам з'яўляецца постаць Яўхіма Хмыза*)...

Яўхім. Я й лічыў, што яны недзе тут.

Данаван і Раймунд памкнуліся былі да дзвярэй, але тыя ў гэты час упалі пад ударам нагі. Уваходзяць Вашчыла, закрываўлены Васка Вецер, Іван і Ілья Карпачы, Лаўрэн, Магда і Антох.

Поп (*пасля замяшання, паказвае на Данавана*). Вось яны.

Д а н а в а н. Дзякуй сваймy богу, што ў мяне ёсць гонар, сука.

Я ў х і м. Ох, і падступная ж ты тварына.

П о п. Я табе дам, тварына. Я табе пакажу... Вось яны.

В а ш ч ы л а. Вось яны. Апошнія з саксонцаў.

І л ь я. Замак дзякуючы ім не ўзялі.

К а р п а ч. І зараз той замак нам, як скабка.

Уваходзіць п і с а р Б а ч к о.

Б а ч к о. Кончыць іх, а я напішу, за што.

М а г д а. Дзіця пашкадуйце.

К а р п а ч. Гэтае лізь-мызь канчаць трэба. Чуткі ёсць, Гдаль са Шмуйлам даюць грошы ахвочым на нас ісці.

Б а ч к о. Войска Радзівіла збіраецца. Большае, чым у караля.

К а р п а ч. Шляхта, Пястжэцкі, мушкецёры. А мы тут валаводзіцца будзем. Дабіць.

В а с к а *(ціха, аж нязвыкла для яго).* Паслухай, Вашчыла. Ты ведаеш мяне. Я прапойца і гуляка. Не было тына, аб які я не абціраўся б, бочкі, якую я не абцалаваў бы. Лужыны, у якой бы не ляжаў. Мы, беларусы, усе без мяжы. Але каюся не ў тым. Што мне рабіць, калі той пажар і пагром стаяць у вачах? І я ўжо мноства дзён як з пахмелля. І ці злітуецца з мяне, п'янага, бруднага, грэшнага, бог. Я нібы ў гнаі, і няма мне даравання... Ніхто ж не скажа, што я сёння дрэнна біў вось ягоных людзей.

В а ш ч ы л а. Так. У самую сярэдзіну іхняга строю ўдзёрся, падхарунжага зваліў. Прайшоў праз іх, як нож, вырваўся і ўдарыў у тыл.

В а с к а. Я паслужыў Крычаву. Хай я не замаліў грэх, але я паслужыў *(стае на калені).* Я зранены і ў крыві. Вось дзеля гэтага адпусці іх, Вашчыла.

Б а ч к о. Ты ж пагражаў і пажар уладкоўваў. Паліў, граміў, біў. Я запісаў гэта.

В а с к а. А пасля, запішы і гэта, паглядзеў смерці ў вочы. У вочы брата. Паглядзеў на яго далонь, а на ёй ляжала смерць. І сказаў, нельга нікога граміць і рабаваць... Так, паглядзеў смерці ў вочы. І скажу, нельга, каб у вочы ёй глядзелі людзі. Каюся перад

вамі, людзі. Вашчыла, гэтымі вось ранамі прашу, адпусці.

Карпач. А прыйдзе зноў?

Яўхім. Пусці. Усё адно.

Васка ўстае.

Васка. Пусці.

Антох. Будзь моцны. Даруй.

Уваходзіць захутаная ў плашч Агна Вецер.

Усе. Агна! Агна тут! Агна прыйшла!

Агна. Жаху вы нарабілі, мужыкі. Колькі пабітых! Ехала — усё поле стогне... І чую я сэрцам трывогу. Ці мне здалося?

Бачко. Што здалося?

Агна. Па-мойму, Цялецкі тут круціўся.

Ілья. Ён у замку дзесяты сон бачыць.

Агна. Пэўна, здалося.

Вашчыла. Дзякуй за сына. Каб не ён, не Васка і не Лаўрэн.

Лаўрэн. Раскалолі мы іх на дзве паловы. Васіль прабіўся і ўдарыў па засаднаму атраду. У зямлю мы яго ўмялі. А пасля прабіліся да сцяга і сын твой дрэўца падсек. Тут яны завагаліся, пахіснуліся. Пачалося *смяценне*, паніка і жудасць. Як перцу з рэдзькай з'елі. Як на агні закруціліся. Бягуць, выюць!

Агна *(ціха)*. Нарабіла я ліха. І ніводнага не... Таксама ж людзі. Не даруе бог за такое.

Поп. У, вядзьмарка. Закляла людзей — аж да іх дакрануцца нельга. Яна вам, людзі, накаркае бяду.

Агна. Бяда і так і так будзе. Чуткі — ідуць войскі з усіх бакоў.

Бачко. Канчаць гэтых, дый...

Агна. Досыць забойстваў. Вайна — гэта так. Але досыць забойстваў *(засланяе сабой Данавана з сынам)*. Хто першы падыдзе?

Данаван. Трымайся, Раймунд. Трымайся, хлопец. Пакажы ім. Не толькі яны смелыя.

Уваходзяць Вецер і Надзея.

Вецер. Апошніх наздагналі... А-а, яшчэ гэтыя.

Надзея. Васіль, не трэ...

Вецер. Апошнія два...

Ён такі страшны, што ўсе падаліся назад.

Раймунд. *Та-татачка. Прыйшла наша смерць!*

Вецер (*правёў далонню па аблічны, ціха*). Не, сынок. *Прыйшло ваша жыццё.* Адпусці іх, Вашчыла. І не бяры з яго слова, што не падыме на нас зброю. Няма Слова ў таго, што ваюе з дзецьмі. І ўсё ж... Хай ідуць, Вашчыла.

Вашчыла (*гледзячы ў зямлю*). Хай ідуць.

Данаван з сынам ідуць. Данаван спыняецца, уздыхае і кідае Ветру да ног уламак мяча. Выйшлі.

Нашто ты так?

Вецер. Я ведаю, што такое смяротная туга, браце. Дзеля астатніх тое, што сёння,— свята. Падумаць, *яны*, моцныя, непераможныя, як бог, жорсткія, *яны ўцякалі ад нас*, аж абганяючы свой жа крык. А для мяне гэта — туга.

Агна. Бог мой!

Вецер. Пане мой божа? Ты? Нашто?

Агна. Час выпрабавання прыйшоў да нас. Цяжкі час. У цябе ўсё добра?

Вецер. Так.

Агна. І ў цябе, дочухна?

Надзея (*памкнулася да яе*). Як жа не добра, калі ты нас звяла. І ён самы смелы за ўсіх?

Агна. А ты не думаеш, што ён проста шукае смерці?

Вецер. Я нават яе шукаць не маю права. Праз вось яе (*паказвае на Надзею*). Нічога ў мяне няма. Я нават і смеласцю ганарыцца не магу. Яна не мая. Яна твая... Ну, дзень добры.

Агна. Не дакранайся. Пакуль не скажу. І ты, дачка, адыдзі. Яшчэ няўчасна. У замку сядзіць Цялецкі.

Усе пераглядаюцца, нічога не разумеючы. І ўсім чамусьці цяжка. Лаўрэн паспрабаваў перабіць гэты настрой.

Лаўрэн. Хай сядзіць. Антох, га Антох!

Антох. Чаго?

Лаўрэн. А ці не до ўжо дурня строіць? Невядома, ці будзем жывыя. Вось баба поруч: цягавітая, як мурашачка, спеўная, як зязюлечка, а... спінаю, ну як печка. Дык абвянчай мяне з гэтай вось заразай. Яна ж, людзі...

Усе жонкі дрэнна йдуць,
Мая жонка — добра йдзець.
Мая жонка — добра йдзець,
Круціць задам, як мядзведзь.

Усе зарагаталі. Але Агна гне сваё.

Агна. *Там* абвянчаецеся.

Магда. Ды ці пайду я яшчэ за гэткі недатопак?

Лаўрэн. А мая ж ты дзюбачка. А хай жа ж я з лапаць, абы за мной не плакаць.

Агна. Абвянчаецеся *там (у яе тоне ўладная, гіпнатычная, няўхільная сіла)*. А *там* пакуль што Цялецкі сядзіць. З гарматамі. І з усіх бакоў войска ідзе. Пакуль не ачомаліся — трэба браць замак, сядзець там як цвік, мець апору.

Вашчыла. А калі адаб'юць?

Агна. Адкуль? Яны не чакаюць. І вось пакуль не чакаюць... Ну, а калі адаб'юць — збірацца ўсім пад Царкавішчамі, куды ідзе мужыцкая сіла, уздымаць яе і абкласці замак. Каб муха не праляцела. Зморам узяць.

Вашчыла. Іван, ганцоў туды. Але думаю, што замак мы зараз возьмем. Знянацку.

Поп замуляўся.

Ты што, поп?

Поп. Так, нешта млосна. Задуха тут.

Прабіраецца да ўвахода.

Бачко. Там, у замку, гарматы... Ты куды, поп?

Поп. Млосна нешта.

Выходзіць.

Лаўрэн. Браць! Браць замак. Як на вяселле пайду, каб хутчэй. І сапраўды ж вяселле.

Магда. Во, як на злом галавы.

Вашчыла. У нас гэта заўжды так.

Карпач. Браць замак. Неадкладна, пакуль не спахапіліся.

Ілья. Каб гарматны адпор зрабіць — час патрэбен. *(Дастае з сумкі пясочны гадзіннік, ставіць на стойку.)* У мяне яны назапашвалі зелле і ядры і самі былі гатовыя ля гармат — вось пакуль пясок не перасыплецца. Тады я лічыў, што вучэнне прайшло добра.

Карпач. Ай, татка! Гарматнікі твае ў Магілёў паехалі па зелле. А там вучні, свежанабраныя.

Ілья. Тое і кепска, што свежыя. Свае страляць бы не сталі. І кепска тое, што я зараз не там. Дарэмна я ад іх пайшоў з вамі на поле, перачніца старая. Многа з мяне было тут карысці. А там я і гэтым не даў бы стаць ля гармат.

Антох (*раптам, нібы ўражаны чымсьці*). Людзі. Стой. Дзе поп?

Яўхім. А што раптам поп?

Антох. Н-не ведаю. Як стукнула. Поп дзе?

З'яўляецца поп з Бесавічаў, чарпануў з рукамыйніка вады, плюхнуў на твар.

Поп. Тут поп. Чаго ты лопаіссі?

Магда. Што з табой?

Поп. Збляваў — лягчэй стала.

Магда. Ясна. Столькі крыві бачыць — як не бляваць? Вечна ты, Антох...

Вашчыла. Адразу ж на замак. З боку Сажа не йсці — далёка відаць. Ты, Іван, пойдзеш з боку Крывічанкі... Ты, Вецер, Лаўрэн і Стэсь павядзеце людзей як мага больш ціха і скрытна праз роў на валы вось тут, крыху правей карчмы.

Магда. І карчму па прычыне скрытнасці раскідаць на мост не трэба. А я б на такі выпадак з радасцю б сама раскідала.

Лаўрэн. Ух ты, мая півонька!

Магда. Укарацi лапы.

Вецер (*збіраючыся*). Маці, нашто ты тут?

Агна. Даведаешся пасля. Ідзіце.

Антох. Ну, я наперадзе з крыжам. Толькі вы... гэта... ведайце, гэта больш для парадку. Казаў табе бог, каб сабе сам памог.

Выходзяць. Цякуць імгненні. Магда і Агна маўчаць, і маўчанне ўжо нясцерпнае. Зарыва за вокнамі: нешта загарэлася.

Магда. Лаўрэн вяселле правіць.

Агна. Не. Не паспелі б яны яшчэ нічога падпаліць. Дый не трэба ім. І гэта кепска, вельмі кепска. І ці не замкавыя гэта самі падпалілі, каб поле асвятліць?

Магда. Адкуль ім ведаць?

Агна. Кепска. Цяжкае будзе вяселле. Кепска, вельмі кепска.

Магда. Ды — не — кар-кай!

Надзея *(вяртаючыся).* Пасадзіла на каня. Пайшлі. І адышлі недалёка, а ля замка нешта як шугне, як запалае. *(Паўза.)* Маці, ты не гаруй. Хай табе не баліць ні за яго, ні за мяне. Не было б у нас так добра, каб не тое, што шчасце наша адмеранае і кароткае, як дзіцячы пальчык. А так ён мне і я яму — усё. Бо абапірацца нам толькі адно на аднаго. Бо мы адны і нікога больш, акрамя цябе, у нас няма і не будзе. Сонца згары, неба трэсні, зямля раскаліся — нам горш, чым цяпер, не будзе. Бо кожная хвіліна мая з ім — як апошняя. І таму трэба ўсю душу аддаваць, бо «праз гадзіну» можа і не быць. Дзякуй, матуля! Жыццё сплывае...

Агна. Пясок сплывае. Апошнія пясчынкі.

Магда. Ціха!.. Чуеце!..

Здалёк нястройны шум, а затым уздымаецца рык соцень галасоў: «Край! Край! Наш!.. Наш!.. Наш горад!!!»

Агна. Усё. Сплыў пясок.

У гэты момант, перакрываючы ўсё, выбухае пякельны рык. Затрэсліся, закалаціліся сцены, дзынкнула ў вокнах шкло. Над усім светам раве наканаваны, пякельны, хаўтурны пярун. Ва ўсю глотку, дзіка, як нямы сатана.

Надзея. Што гэта?

Магда. Пярун з яснага неба?

Агна. Гэта гарматы.

Усе падышлі да акна, за якім злавесна скача зарыва.

Магда. Б'юць ва ўпор у натоўп.

Надзея. Па́даюць! Падаюць! Божа, заслані іх!

Магда. Ля гармат б'юцца. Каша.

Агна. Б'юць з вокан палаца! Паспелі колькі там гармат туды ўсцягнуць!

Натужлівы, на апошнім дыханні, пагрозлівы рык гармат.

Магда. Бягуць!

Надзея. Бог мой, бягуць!

Агна. Так, бягуць. *(Паўза.)* Што ж, дарэмная ахвяра?.. Ну не, хай да скону вякоў ведаюць: мы ніколі не гінулі. Ніколі не гінем дарэмна.

У дзверы ўвальваюцца ўдзельнікі няўдалага штурму: усе выкачаныя, твары ў парахавым куродыме, сёй-той паранены.

Вашчыла *(у дзвярах)*. Гэй там, падбіраць параненых. Каб ніводнага жывога ім у рукі. Убачыце, ця́гнуць некага — дзесяць ляжце касцямі, а выручыце аднаго.

Агна. І што?

Бачко. Патрапалі нас.

Карпач. Адбілі.

Яўхім. Гэта ўсё.

Вашчыла. Не, гэта не ўсё. Адыходзім пад Царкавішча. Збіраем усіх.

Поп. Пад Царкавішча?

Вецер. Там збіраюцца з усіх бакоў.

Вашчыла. І ўсе абкладзем горад. Зморам возьмем.

Лаўрэн. Ясна, возьмем. Спалох тут развялі. Якое тут усё? Мы з іх яшчэ тэльбух вытрасем *(ірвануў рукаў)*. Зачапіла-такі *(да Магды)*. Пасунь сваю тоўстую паню, дай сесці. Не адну цябе ногі не трымаюць.

Вецер. І мяне зачапіла.

Яўхім. Дай перавяжу. Пляваць на гэты праклён. Усё адно канец.

Надзея. Не. *(Перавязвае Ветру плячо.)*

Вецер. Не, нам не канец. Мы яшчэ вернемся з-пад Царкавішча *(устае)*. Хлопцы, я не патрабую ў вас клясціся ў любові да Крычава, Пасожжа, Падняпроўя, усёй нашай зямлі... Я проста хачу спытаць у вас, ці дарэмна вас нарадзілі вашы маці?

Людзі моўчкі пацягнуліся да выхаду. Выйшлі. За акном сумятня, стук падкоў.

Ты — недарэмна, маці. Давяду ўсім на свеце.

Пайшоў. Стук капытоў. Стрыманая песня:

Ой, едзь, сынку, мой Васільку, ды не аглядайся,
За год, за два, за тры, за чатыры назад варачайся.
О бог знае, бог ведае, калі вярнуся,
На двары, двары шырокім мой конь спатыкнуўся.

Сціхла песня. Агна і Магда адны.

Агна. Бывай, сынок.

Магда. Ды што вы гэта, нібы ў палонцы седзіцё?

Агна. Веры ў добры канец няма. Няма веры, Магда. І я нават не магу яму сказаць, што праклён з яго зняты, што праклятая — гэта я. Хай ён і надалей стра-

шыць ворагаў і хлуслівых сяброў. Без гэтага ён можа часам злітавацца з сябе, а ён павінен быць не Ветрам, ён павінен быць сынам урагану. *(Паўза.)* І ўсё ж я праклінаю тое, што зрабіла. Такое глупства — Крычаў, добрае імя, памяць мёртвых. Дзеля гэтага забіць хоць у адным чалавеку радасць?.. Я ўсяго слабая жанчына, Магда... І нельга нават, каб ты мяне пашкадавала... Пракляты будзь той дзень.

Магда. Ты мацуйся. Я не ведаю, што з табою, які гэта праклён, але я веру табе. Мацуйся, маці ўрагану.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### КАРЦІНА СЁМАЯ

Ноч на 26 студзеня 1744 года. Поле пад Царкавішчамі. Сям-там гараць на ім вогнішчы. Справа — памяшканне напаўразбітай капліцы з вузкімі байніцамі акон. Тут, на каменных плітах падлогі, таксама гарыць вогнішча. Да вонкавага мура капліцы прыткнулася нейкая пабудова: капліца не дзейнічае так даўно, што нехта палічыў за магчымае прыбудаваць да яе летні крыты загон для быдла. Паўсюль безнадзейнае запусценне, на якое глядзіць з адзінага, што зберагласця ў капліцы,— з распяцця,— Хрыстос. У капліцы сядзяць ля вогнішча Вашчыла Васіль і Васка Ветры, Надзея, дудар Яўхім Хмыз, Іван і Ілья Карпачы, Антох, Лаўрэн і Бачко.

Яўхім *(спявае).*

Завея над хатамі свішча,
Вакол на ўзгорках ваўкі.
На полі пад Царкавішчамі
Мужыцкія сталі палкі.
І кліча груган груганятаў
На палеткі заўтрашніх сеч.
У магнатаў гарматы і латы,
У нас — толькі ісціны меч.
Але вера наша і гордасць,
Славы божай іскра адна
Спапяліць вашы п'яныя морды.
Чуеш, Князь-Сатана?
Так жарэ яго сэрца нянавісць бяссілля,
Што пажэр бы цябе ён, мужыцкі кароль,
Як пажэр ужо край свой, і продкаў магілы,

I народа свайго сіроцтва і боль.

Вашчыла. Які я кароль? Нашто мне гэта?

Ілья. Праўду кажа. Сілы ў нас, як у караля. Нашага караля. У Варшаве.

Вашчыла. Гэта праўда. Чатыры тысячы слаба ўзброеных людзей. Сапраўды, кароль.

У прыбудове-загоне поп з Бесавічаў ціха нешта гаворыць Цялецкаму, захутанаму ў плашч.

Поп. ...Вось так. Які ён кароль? Чатыры тысячы людзей.

Цялецкі. Многа. У Пястжэцкага каля дзевяцісот чалавек.

Поп. Узброеных да зубоў. Дзвесце пяхоты, сто пяцьдзесят конных казакоў і пяцьсот з гакам гусараў. Ды твае людзі. Ды яшчэ чатыры твае гарматы і гарматы з крычаўскіх муроў.

Цялецкі. Усё адно мала.

Поп. Заўтра яны выступяць. Перадай палкоўніку, ёсць план аблогі горада. Калі закрыецеся там — возьмуць зморам. Адзіная ваша надзея — апярэдзіць. Зараз. Знянацку. Неспадзеўкі. Ноччу. Вы ж на падыходзе. Унь там галоўныя сілы мужыцкага табара. Як снег на галаву. І яны ж без гармат. Здыміце каравул ля Воўчага Яра і — ярам у самы цэнтр табара.

Цялецкі. Не папом бы табе, а палкоўнікам. Аднаго не разумею — ты чаго пнешся? Табе якая карысць?

Поп. Вашчыла хоча, каб князі ў зрэб'і хадзілі. Усе. А каб усе папы былі — як Антох. А роўнасць — дзе ты яе бачыў? Святыя на іконах — у парчы.

Цялецкі. А Хрыстос на крыжы — голы.

Поп. А хто нармальны хоча на крыж?

Цялецкі. Ну так, папом быць лепей... нават у Бесавічах... Іду.

Пайшоў. Поп заходзіць у капліцу.

Антох. Ты дзе цягаўся?

Васка. Адвяжыся ад яго, смала.

Антох. Святы стаў. Анёл!

Васка. Калі ж чортам быць абрыдла.

Антох. Калі табе дазарэзу прахвост патрэбен — ты ведаеш, як яго шукаць?

Лаўрэн. Ну.

Антох. Ідзі ў касцёл або царкву і глядзі, хто там шырэй за ўсіх хрысціцца. Бяры. Не памылішся.

Поп. Гэта наш абавязак хрысціцца... *(Крыва.)* Нас з табою і возьмуць.

Антох. Ты мяне да сябе прыпражным не бяры.

Вашчыла. Ну до, до... Значыць, так, людзі, заўтра выступаем. Нас чатыры тысячы ды ў Крычаве прыдатных да зброі знойдзецца столькі ж. Карпач, каравулы праверыў?

Карпач. Праверыў. І перад імі хаця б чый след.

Ілья. Які след? Завея мяце. І пройдзе нехта — міргні вокам і ўжо не відаць.

Поп. Хто ў такую завіруху куды палезе? Спяць на печках.

Вашчыла. Усё ж трэба яшчэ прайсці. І асабліва ля Воўчага Яра. Ідзі туды... ну хаця ты, Ілья.

Поп. І я з ім.

Антох. Я пайду.

Вашчыла. Вы там перасабачыцеся. Ты, Антох, ідзі лепей з Бачком і Ветрам на ўсходнюю лінію вазоў. Вы, Карпач з Яўхімам, на лінію Мікіты з Барсукоў. Ну, а я з Васкам ды Лаўрэнам праверым з боку Сажа. Рушылі.

Разыходзяцца ўсе, акрамя Надзеі, якая зараджае і раскладае на лаве пісталеты. Дзесятка паўтара.

Надзея. І пораху няшмат. У Крычаве порах. Куды ні кінь, адна дарога, Крычаў.

Вяртаецца поп з Бесавічаў.

Ты што так скора, айцец?

Поп. А Ілья адзін пайшоў. Мне сказаў вяртацца і не кідаць цябе адну. Каб бярог.

Надзея. Мяне страх беражэ. Лепей, чым што.

Поп. Ды што, урэшце, з табою і з Ветрам такое?

Надзея. А ты спытай, як скончыў войт з Ківаверцаў.

Поп. Страх з ім скончыў. А іншага, можа, нічога й няма.

Надзея. Паспрабуй.

Поп. Ну, не. На ўсякі выпадак не буду.

Надзея. І правільна зробіш.

Поп. І вораг памрэ, калі дакранецца?

Надзея. І ён.

Абтрасаючы бурку, заходзіць Агна Вецер.

Ты?

Агна. Дзе сын?

Надзея. На пасты пайшоў. Што такое?

Агна. Пястжэцкі яшчэ ўдзень рушыў з усімі сіламі на Царкавішчы. Папярэдзь Васіля і Вашчылу.

Поп. Я папярэджу *(выходзіць).*

Надзея. А вы ж як?

Агна. А мы пайшлі папярэдзіць вас ды збіліся. Блукалі. А пасля ўбачылі след, што вёў з вашага табара. Напаўзанесены. Па ім і прыйшлі.

Надзея. А як жа каравулы мінулі?

Агна. А не было ніякага каравула. Выбіліся па следу акурат на Воўчы Яр.

Надзея. Чакай. Там жа самы моцны каравул. Туды Ілья пайшоў. Папа назад адаслаў. Ой, нешта нядобрае. Ой, маці, нядобра!

І тут яны замерлі, бо спачатку наводдаль, а пасля бліжэй і бліжэй, з усіх бакоў пачуўся крык, тупат ног, ярасны ляск сталі аб сталь, ломат мячоў, а пасля гул гармат. Вялікага мноства гармат, у акружэнні якіх зараз яны.

Агна. Спазніліся. Усё.

Грукат — адкінуў дзверы, і ў капліцу ўварвалася завіруха, забіўся, затрапятаў агонь. Пасля ў праём упаўзае з акрываўленай галавою Ілья Карпач.

Ілья. Ярам прайшлі. Табар штурмуюць. Мяне аглу... *(Траціць прытомнасць.)*

Агна *(бярэ пісталет).* Бяры і ты.

Чакаюць. Несамавіты, вар'яцкі, безупынны гул гармат. Нема крычыць сама зямля.

Надзея. Нібы пекла раскрылася.

Агна. Бегчы трэба. Адкуль прыйшлі — там іх зараз няма. Коні за прыбудовай. Бяжыце.

Надзея. Куды нам бегчы, асуджаным? Ад каго? Ад сябе?

Агна. Якія вы асуджаныя? Якія вы да д'ябла асуджаныя?! Хто асуджаны — ведаю. А вы — не!

Надзея. Не разумею.

**Агна.** Зразумееш. Шукай яго. Усё яшчэ наперадзе ў вас.

Адстрэльваючыся, збіраюцца ў капліцы ўсе, што спачатку былі тут.

**Вашчыла.** Усе тут? Усе. Хаця Ненадоўга, а ўсе.

Сціхнулі гарматы, але страляніна мацнее.

Ненадоўга. Што ж, дзешава яны нас не возьмуць. Зараджайце ўсё, што ёсць. У каго колькі пісталетаў?

Галасы: Адзін... тры... два... тры... адзін...

Поп. У мяне два. Дзве кулі. Так і загінеш.

Агна. Не трэба гінуць. Яр вольны ад іх. Коней завадных — пятнаццаць. Вось, праз прыбудову. Вы можаце яшчэ зноў пачаць. Гэта не канец.

Вецер. Астатнія хай бягуць. Мне — нашто?

Агна. Нічога ты не ведаеш, дурню. Ты...

У гэты момант знадворку рвануў залп, замалаціла па мурах і атынкоўцы. Сёй-той страляе ў адказ у праём дзвярэй. Страляе з абодвух пісталетаў і поп. Прыцэльна. Не ў дзверы. Цішыня.

Карпач. Параненыя ёсць?

Вашчыла *(трымаючыся за плячо).* Я... Я, здаецца, адваяваўся.

Вецер. Дурань, ты толькі пачынаеш ваяваць. Не сёння дык заўтра зноў пачнеш. Уцякайце! Добра, што аднаго цябе зачапіла.

Гамана. Усе спяшаюцца да лазу.

Больш нікога. Надзея... Надзея!

Кінуўся да яе. Тая ляжыць нерухома.

Вецер. Надзея! *(Прыўзняў ёй галаву.)*

Надзея. Няма... надзеі... Шчаслівая... І бог з намі... І я з табой... Ва ўсе дні да сканчэння веку.

Дудар. Усё.

Агна *(як праз сон).* Не, цяпер я не скажу яму. Як гэта яму будзе. Ведаючы. Пакінуць яе адну... Цяпер я знікну. Чаму — не пытай. Трэба.

Вецер. Я цябе не пакіну. Не. Вы ідзіце. Мы прыкрыем вас.

Агна. Благаславенне чалавечае з табой.

Вецер. Ідзіце. Мы прыкрыем вас.

Усе выбіраюцца праз прыбудову. Выносяць параненага Вашчылу.

Вецер падцягвае да дзвярэй пацурбалкі і дошкі. Стаў ля дзвярэй. Пасля, пачуўшы ўдары сталі, выглянуў у байніцу.

Перастрэлі... Вось, хапаюць кагосьці... Не, прарваліся... Частка прарвалася ўсё ж.

Голас Пястжэцкага *(за сцэнай.)* Вашчыла, здавайся.

Вецер *(страляючы ў адказ, бурчыць сам сабе).* Чорта б вы выпусцілі тых, каб не думалі, што Васіль тут. Пагналіся б усім палком.

Некалькі стрэлаў, і зноў ціха. Вецер узводзіць ля дзвярэй барыкаду. Моўчкі. І ўвесь час гучыць і гучыць у ягоных вушах голас Дудара:

Везлі ў Крычаў палонных скутых...
Паўсюль, як страшныя сны,
Глухія і безнадзейныя
Пажары вёсак начных.
Панства сабрала сілу
І там, каля Сожа-ракі,
Жалезам сваім раздушыла
Яно мужыкоў палкі.
Не было ў тыя дні адлігі,
Але ў першы раз на зямлі
Ад крыві нашай вогненнай крыгі
Па Сожы ў Дняпро паплылі.
І ўцякалі людзі па звею,
А вакол снягі і ільды,
І завея, завея, завея, завея
Космамі снегу
Лізала, залізвала іх сляды.
Кроў на лёдзе гарэла расная,
Трушчыў косці ім крыгаход.
О, радзіма мая няшчасная!
О, мой бедны народ!

Сціхнуў голас. Вецер паставіў лаўку, расклаў на ёй пісталеты, падцягнуў цела Надзеі да агню і лёг побач з ёй, замёр.

Голас Пястжэцкага. Вашчыла, здавайся!

Вецер страляе ў адказ. Перастрэлка. Цішыня.

Вецер. Баліць табе? Не... табе ўжо не баліць. Я так і не сказаў... І што я даў табе, акрамя холаду?! *(Страляе.)* Нічога, мы затрымаем іх. *(Мосціць яе бліжэй да агню.)* Бедная. Цёпла табе?

Стрэлы.

Цёпла... Цёпла табе.

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

У цемры вядзе песню хор мужчынскіх галасоў:

Сядзеў крумкач на магіле,
Дый каркнуў шалёна.
Наша слава, наша воля
Ў палоне, ў палоне.
Наша сонца ў кайданах,
Доля ўмерла ад ранаў.
Наша зброя, наша воля
Пабіты, зламаны.

Святлее. Вядуць песню людзі, кінутыя ў сутарэнне Крычаўскага замка. Хто сядзіць, хто ляжыць без усякай змогі ўстаць.

Кат (*зверху сходаў, што вядуць у сутарэнне*). Ды канчайце. Усю душу на шматкі падзерлі.

Лаўрэн. Гэта ты нас... На шматкі. Дзёгаць ты чорны, шыя твая як халява. Толькі цягаеш людзей, як дурань дзверы. Узрадаваўся.

Кат. Вялікая гэта мне, думаеш, радасць? Загад. Не зробіш — са ўсіх маіх скуры злупяць. А яны... Кожную раніцу цягнуцца сюды, як казіная смерць. Рыгаць хочацца. Вы ўжо не таіце злога, хлопцы.

Лаўрэн. Ды мы не таім. Што ўжо тут псяр, як загадвае цар.

Карпач (*пасля паўзы*). Хто ўратаваўся?

Лаўрэн. Пісар, Стэся Бачко сын, Агна Вецер, Яўхім Хмыз, Васка Вецер, твой бацька Ільля, поп з Бесавічаў.

Карпач. Бацька, перад тым як нас схапілі, казаў: аглавушыў яго доўбняй і ворага ў стан пусціў, зняўшы каравул, гэны з Бесавічаў. Не лічы яго.

Лаўрэн. ...Айцец Антох Крапіла... І вось што, галава ўратаваная. Васіль Вашчыла з братам Багданам уцяклі праз Цімошкаўскі фарпост на Украіну.

Карпач. Значыць, не ўсё яшчэ згубілі. Шмат уратавалася. І лічы, што ўратаваўся — смерцю сваёю — Васіль Вецер.

Вартавыя, Цялецкі і Кат уводзяць у сутарэнне Васіля Ветра.

Т-та-ак, паспяшаліся мы цябе запісаць ва ўратаваныя. Думалі — памёр.

Цялецкі. І я мысліў, што памёр. Страляў, як ашалелы. Сціхнуў. Ну, думаю, са духам святым. Аж калі ўварваліся — аглушаны. Ну, бабе нічога ўжо не дапаможа. Непрытомны, а ледзь адарвалі. А Вашчы-

лы няма. Прыкрыў, чорт гэны. Гэта ён нас як мокрай анучай па зубах. Каб не ты, чорт шалёны,— галаву ўзялі б. *(Замахваецца.)*

Вецер *(стома ягоная і безнадзейнасць жахлівая).* Ты на смерць сваю замахніся, гіцаль.

Цялецкі адступіў.

Мне ўсё адно. Але ты войта ўспомні. А мне... нашто мне ўсё? Вось Васіль уратаваўся — гэта як бог радасць паслаў... Вы што, хлопцы, катаваннем зламаныя?

Карпач. Анягож. Гэй, цялецкае рыла, князь прыпоўз?

Цялецкі. Прыбыў. З трыма сотнямі. І гэта значыць — канец вам. Нядоўга. Ды нашто тры сотні? Спакойна ўжо тут. Хто ўцёк, хто ў лесе... Кат, што там за гарлаграй?

Варта з Пястжэцкім прыводзяць Васку Ветра і папа Антоха.

Пястжэцкі. Вось вам яшчэ да кампаніі. Самі прыцягнуліся, як п'яныя па пляшку.

Выходзяць усе, акрамя Ката. Маўчанне.

Вецер. Нашто вы?

Васка. Не адпакутавана.

Антох. З бяздоні пекла кліхнулі вы...

Вецер. Дурасць. Жывыя Вашчылу б вы болей спатрэбіліся. І ты, Васка, сваю пакуту лепей збыў бы, чысцячы іх па зубах.

Кат. Прытрымайце язык.

Лаўрэн. А чаго нам цябе саромецца. Ты ўжо нам як свой чалавек, хатні.

Кат *(азірнуўшыся).* Хлопцы, хоць частку маёй правіны... Кажуць, Радзівіл Вашчылу патрабаваў выдаць, ды яго ўжо адаслалі ў Кіеў. Але каб і быў, то выдаць яго не маглі без указу царыцы. Аб чым і адказаў у лісце да князя капітан Цімошкаўскага фарпоста Селядзец Папоў.

Антох. Маліць буду за царыцу.

Карпач. Ты памаліся, як яна, сучка, Пятрова кроткая дшчэр, нас выдала. Уцяклі ж — выдала. Мяне, ды Мікіту з Бараўкоў, ды Навума Буяна, ды іншых. Ды як нам, перад тым як выдаць, сто кнутоў

выдалі (ай тут сто бізуноў). Ды унь Мікіту з Бараўкоў язык адціснулі, бо імперыю ды імператрыцу лаяў... Так што дарма прыйшоў, Антох.

Антох. Няўжо вы думалі, што я кіну вас у пекле, дзеці?

Васка. Шмат ты грахоў царквы гэтым адмаліў. Нават я пашкадаваў.

Антох. Ды я ведаю, як ты апраўдваўся: «Я не грэшнік. Ці я ў царкву калі хаджу, ці карчму мінаю?»

Лаўрэн. Проста мучыўся. Манах. Аскет.

Рогат.

Кат. Ціха.

Карпач. Ціха, як поўху ўдарыўшы.

У святле паходняў заходзіць князь Геранім, Каршук, Капітан Гран Мушкецёраў, Цялецкі, Пястжэцкі, Пёкур, поп з Бесавічаў.

Радзівіл. Ого. Ды ў вас тут ве-се-весела.

Лаўрэн. Ну, ве-ве-весялей, чым у тваім палацы. Што ж нам, слязьмі залівацца?

Карпач. Божа, колькі іх?! Усё кодла.

Вецер. Не. Дзе Данаван?

Пёкур. Яго няма болей... на службе ў князя. Захацеў усё разам, і службу і сумленне. Дудкі! У нас такая планета, што ўжо нешта адно...

Карпач. Ясна, куды яму сярод такога хаўрусу. Усё ж адносна прыстойны.

Лаўрэн. Цікава, колькі ж у гэтым прытоне дурных?

Карпач. Лягчэй сказаць, колькі ў ім разумных. Адзін быў Данаван, дый той...

Рогат.

Радзівіл. Др-дрэнны смех. Пястжэцкі, колькі ты іх адразу пад Царкавішчам?

Пястжэцкі. Дзвесце забітых, безліч параненых, сто семдзесят шэсць у палон.

Радзівіл. Вось аб тых, параненых, і тых, што ў палон.

Пястжэцкі. Ну-у. Пагарачыўся трохі. Шэсць дзясяткаў адразу на палі, ды на шыбеніцы, ды абсадзіў на крук.

Капітан. Ды пад Крычавам палонных семдзесят сем. Суд.

Каршук. І чаго было зброю хапаць? Вось ваш найяснейшы і справядлівы князь замест прымусовай працы на будах будзе браць грашовы чын. Зняў абмежаванні ў сялянскім гандлі, а вы. Ы-ы- ы-ы, ён абяцае староства не здаваць у арэнду, а вы гэтак-так? Вось і на калы. І вам тое будзе. А да таго...

Вецер. Ведаем, кінь звягаць.

Радзівіл. Уратавальнік Вашчылы? Не памёр?

Цялецкі. І я думаў, памёр, аж — аглушаны.

Вецер. Я загавораны. Не памёр. Хаця лепей было б.

Радзівіл. І ў Санкт-Піцербурху, і ў Кіеве, і тут — паўсюль вам ворагі. Усе па-памрэце. І іншага лёсу, іншага вы-выхаду вам няма.

Вецер. Ёсць. Добрая слава. Душы, якіх не стопчаш. Людзі, што супакутваюць нам.

Каршук. Дуж-жа супакутваюць. Вось цябе, Карпач, білі і на царскім і на нашым баку і унь яму, Мікіту, браты на тым баку язык адціснулі. Што, духам палі?

Карпач. Слухай, Мікіта, во каб нам гэта ў царыцы ды ў караля тую заціскачку ды тыя бізуны пазычыць. Я-ак бы яны для нашых жонак прыдаліся б ды спатрэбіліся *(рогат).* А то ж, бывала, як загавораць — ну, галава як Нясвіжскі касцельны кумпал — хаця ты з хаты ўцякай *(рогат).* А тут ледзь пачне звягаць — мы б ім гэтым самым.. ды за язык, ды па тоўстым азадку.

Мікіта нема рагоча.

Поп. Пасаромеліся б хаця перад таінствам смерці. Нічога чалавечага ў вас няма.

Антох. Гэта ў цябе няма. А ў нас ёсць. Вось гэты рогат. Я б цябе сваімі рукамі... *(І заспяваў.)* «...Нешчасцівы Іуда, срэбралюбствам заражаны, звар'яцеў і вось здраджвае беззаконным суддзям цябе, праведны суддзя... Глядзіце, збіральнікі маёнткаў, на таго, хто ўдавіўся праз іх».

Радзівіл. Хадзі сюды, Вецер.

Той падыходзіць. Наступная размова ідзе амаль без голасу і вельмі значна.

Гэта та-табе апошні шанц. Апошняя сцежка да выйсця.

Вецер. Аб чым ты?

Радзівіл. *Ты.* Яны — зра-зра-зумела. Яны — чэрнь. Але *ты?* Як *ты* з імі, высокапісьменны? До-до-добры. Пальцам нікога не зачапіў — пагромшчык. Кніжнік — з падпальшчыкамі кніг. Яны ж спалілі разам з даўгавымі і проста *кнігі.* Розныя. Не разбіраючыся па цемры сваёй. Учынілі пажар — да неба.

Вецер. Што ж, калі іх вымусілі. Кнігі? Ну так. Некаторыя з іх думалі, па непісьменнасці сваёй: няма чаго пісаць. Раз піша — так і лічы, што падман або данос. Але гэта таму, што ў іх забралі святло. Вы адабралі. То з кім мне быць? З дзікунамі? З табою, князь-сатана?

Радзівіл. Ты, высокі кніжнік — з забойцамі?

Вецер. Паўтараю: а з кім мне? Я ўсё адно адрынуты ўсімі. Я магу-у сказаць ім: вы мне чужыя. Чужыя са сваімі пагромамі, грубіянствам, нянавісцю да кніг. І гэта будзе праўда. Але гэта я *табе* кажу, князь, што ўзнёсся над усімі, а нос задзёр яшчэ вышэй, скажу, каб запомніў ты гэта да канца клятага богам твайго жыцця. Што трэба быць за звычайных, сярэдніх, простых, нават калі пагарджаеш імі, нават калі на сто галоў вышэй. *Ім* я гэтага не скажу. *(Уголас.)* Я з вамі памру, людзі.

Антох *(зразумеўшы).* «Я з вамі ва ўсе дні да скончэння веку».

Радзівіл. Бач, проста як бог. *(Пёкуру.)* А што скажа твой бог?

Пёкур *(дужа спакойна).* А ён нічога не скажа. Бо гэта не ён стварыў сатану. Бо калі ён стварыў, то павінен быў бы ведаць, колькі будзе мець з ім непрыемнасцяў. І, калі ўсё ж ён стварыў,— нашто ён мне, такі непрадбачлівы?.. Не, не ён стварыў. Спрадвечна існуе два супрацьлеглыя, варожыя пачаткі: прычына ўсяго добрага і прычына ўсяго злога. Роўныя яны па сіле, ніхто не пераможа. Ідзі да таго, да каго цябе цягнуць унутраныя схільнасці. *(Усміхаецца.)* Вось бог. А вось сатана. Бог даў табе свабоду волі. Выбірай.

Радзівіл. А калі і туды і туды цягне?

Пёкур. І там і там будуць радаваццa.

Радзівіл. Значыць, чаго Мая Нага захоча?

Пёкур. Ну. Гэта ж і ёсць твая сутнасць.

Радзівіл. Бадай што гэта па мне... Страшны ты чалавек.

Вецер. Ён — я не ведаю чыё стварэнне, калі такое гаворыць. А цябе, прынамсі так кажуць, бог стварыў. А ў яго ёсць пекла: хвіліна смерці, калі ў жыцці ўжо нічога-нічога нельга змяніць. І ты памрэш голы. Адзін. А я памру з людзьмі.

Радзівіл. Ты памрэш страшнай смерцю, Вецер.

Васка. Што вы прычапіліся да яго? *Я* Вецер! Усе ведаюць, што *гэта я, Васіль Вецер!* Які падпальваў і граміў!

Радзівіл. Не, Васіль — гэта ён. Ты — Васка. Ты граміў, гэны — думаў. Ты — толькі доўбня ў руцэ. А найгоршы ён, які не граміў. Ён, ды яшчэ гэты рагатун Карпач, бо-бо-бо гэта ненатуральна, рагатаць, калі над табою стаіць смерць. Я-я-я!

Карпач. Смерць. Пакуль сам не памрэш. Бо яна ж неўміручая. А ты будзеш смярдзець, як усе. І слабыя яшчэ ў цябе кішкі, каб не толькі што над Ёю ўзвысіцца, але й рагатаць з Яе. Як я.

Васка. І я... Княжа... І я з імі...

Радзівіл. Добранька. І т-т-ты. То-толькі ка-калі даведаешся, *як* ты будзеш паміраць, ты памрэш тройчы.

Васка. Пляваць. Браце Вецер. Выкупіць. Аднаго прашу. Бо помню, як ты хацеў падаць мне руку, а ахвяры маёй — не хацеў. Браце, цяпер усё адно. Хаця цяпер... падай мне руку... Не, стой, Вецер... Яны ж падумаюць, што я лёгкай смерці шукаю, танна хачу адкупіцца... Ты здалёк благаславі мяне. А пойдзем — разам.

Вецер з адлегласці благаслаўляе яго.

Радзівіл. Аб чым гэта яны?

Капітан. Не ведаю. Забабоны нейкія. Дзікуны.

Радзівіл. Я думаю, ты, Вецер,— і гэта за нашу з табой размову,— і ты, Карпач,— за дзёрзкасць і крайнюю непавагу. І ты, Васка, бо надта ж прасіўся з імі. *(Паўза.)* У мяне харошая зграя сабачая ёсць. Абвучаная спецыяльна на мядзведзя. Кожны бярэ мядзведзя адзін на адзін. Вось мы вас у шкуры мядзведжыя зашыем і... Пасярэдзіне Крычава. Відовішча, якіх мала! Каму папярэджанне, каму забава.

Лаўрэн. Эх-х ты! *(Узяў сябе ў рукі.)* *Мяне* ты

забыў. Памятаеш, як я пра тваю шлюху? Нічога яна не круціць задам, як мядзведзь. Я вось пайду з імі і пакажу ёй, як трэба. Хай вучыцца. *(Прайшоўся па-мядзведжы.)*

Радзівіл. Ідзі і ты.

Вецер. Князь, гэта праўда, што мядзведзі?

Радзівіл. Ну так. А ты што, хочаш нешта пра-пра-прапанаваць?

Вецер. І ім?

Радзівіл. Ну і ім. А раптам па-пашанцуе дый адаб'ешся.

Вецер. А што? Я ігрок. Ну, не выйду жывы. Але лепей ужо так, у байцы. Не раздумаеш?

Кат. Што ты робіш, чалавеча?

Радзівіл. Не раздумаю.

Вецер. Дык руку на гэтым, князь.

Падаюць адзін аднаму рукі, і Вецер, паглядзеўшы князю ў вочы, цалуе яго.

Кат *(ціха)*. Цьху!

Цялецкі. Вось яны, нераскаяныя. Што б яны нарабілі, што было б, калі б перамаглі? А маглі перамагчы. Маглі б адолець, каб...

Радзівіл. Маё войска? Адолелі б? Каб не што?

Пястжэцкі *(паказвае на папа з Бесавічаў)*. Каб не ён. Расказвай, Цялецкі.

Цялецкі. Калі гэтыя *(паказвае на вязняў)* пачалі — ён зразумеў, што гэта зусім не тое, што патрэбна... роднаму, так бы мовіць, гораду.

Карпач. Угм. І падбіваў людзей — унь хацяў б Васку — разам з Хрыптовічам на пагромы.

Лаўрэн. А пасля ветліва раіў Іцкавічам размятаць Магдзіну карчму. А пасля клікаў, калі нашы ўваліліся, Іцкавічаў пабіць і ісці да князя са скаргай і ўсіх зваў на новы пагром, бо ўсё адно войска прыйдзе.

Каршук *(важна)*. Я думаю, ён проста хацеў, каб скула хутчэй наспела. Разважаў па-дзяржаўнаму.

Кат *(ціха, але князь пачуў)*. Хто яго ведае, чаго ён хацеў. І чым разважаў.

Радзівіл. Н-на. Па-па-пазіцыя стойкая.

Каршук. Але тут ён да канца стаў наш. Калі выступіў супраць асвячэння зброі, бо ведаў, чым гэта царкве пахне. І Данавану хацеў памагчы ўцячы.

Антох. Але як убачыў, што не выйдзе — выдаў. Усім свой.

Радзівіл. Да-да-Данавана варта было выдаць. Як па-па-пачаў дзя-дзяўкаць мне пра гонар.

Пястжэцкі. І тут ён нам бясцэнна дапамог. Цялецкі, кажы...

Цялецкі. Я не ведаў, што ў горадзе за шум, каго б'юць. Пайшоў лазутчыкам. Сам. Бо на каго спадзявацца?! Нарваўся на яго. Я яму льготы рабіў, і ён па добрай памяці мне сказаў, каб я чакаў на пэўным месцы, а ён, як даведаецца... І пасля ён перадаў мне асабіста, што ідуць на штурм. І я паспеў паставіць пушкароў. І — на той выпадак, калі ўварвуцца ў замак,— частку пушак завалачы ў палац, каб біць з вакон. Ну, разгром. Лёгка было. Ён даў нам на гэта амаль гадзіну.

Антох. А нам гэта каштавала сотні забітых, пяцісот зраненых, сямідзесяці сямі закатаваных у палоне. Шэсцьсот семдзесят сем разоў Іуда. Хлопцы, пла́чу разам з усёй сумленнай службай божай крывавымі слязьмі.

Цялецкі. Я абяцаў яму плату, але ён сказаў, што пасля.

Поп. Ну — плата платай. Можна і плату. Але я не за плату. Я...

Радзівіл. Угм... Ві-вір інацэнцісімус і-ідэмквэ дакцісімус... Най-найсумленны і ў то-той жа час най-найадукаваны чалавек. І-ідэаліст. Ах, як жа ва-вакол м-м-мяне шмат ідэалістаў. У-у-у-усе.

Ніхто не заўважае нядобрага, нават злавеснага ў ягоным тоне, і таму Цялецкі шпарыць далей.

Цялецкі. І ён тады папярэдзіў мяне, што ў выпадку няўдачы іхні збор пад Царкавішчам.

Каршук. Ды як яно ўрэшце, Царкавішча ці Царкавішчы?!

Пястжэцкі. А ляд яго ведае. Ці не ўсё адно, калі я іх там заспеў знянацку з ягонай дапамогай?

Радзівіл. Ну так, зноў з ягонай.

Цялецкі. І ён шкураю рызыкаваў, пайшоў пад Царкавішчы, каб далей нам служыць. І там, мяне ў стан правёўшы, папярэдзіў аб Воўчым Яры, якім нам можна прайсці да сэрца іхняй абароны. І каравул мы знялі. І ён, каб Ілья Карпач трывогу зарана не ўзняў,

аглушыў яго і даў нам час прайсці. І мы ахнулі па іх з пушак і нечакана.

Карпач. І нам гэта — дзве сотні забітых на месцы, шмат параненых і сто семдзесят шэсць тых, што ў палон. А многіх «браты» выдалі пасля. Колькі забітых!

Вецер *(ціха).* І Надзея.

Пёкур. Спрытны мужык.

Кат *(ціха).* Аж надта.

Пястжэцкі. І ўсё сам. Каб не ён — ой скрутна б нам было.

Радзівіл. Значыць, каб не ён. Здорава... *(Вельмі журботна.)* Ну-у *(паглядзеўшы на Ветра),* гэтага падарунка я табе не магу не даць... Гм... *Мая* сіла нішто, каб не здрада. Ну так. Я немец па сваёй ахвоце, капрызу, перакананні — і пляваў я на палякаў і свой народ. Я паляк па выхаванні — я і пля-пля-пляваў на свой на-народ. А-а-а-але апо-по-апошняй кропляй сваёй беларускай крыві я по-помню правіла свайго народа. Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць. Вазьміце яго. Рабрынай на крук.

Пястжэцкі. Княжа?! Чаму?!

Радзівіл. А яны ўсе, ці ве-ве-ведаеце, думаюць, што здрада ду-дужа выгаднае рамяство. А здрада рамяство яшчэ й дужа небяспечнае.

Поп. Ды за што? Што я такое? *(Паверыў.)* Княжа! Кня-а-а-ажа! «Памяні, госпадзі, цара Давіда і ўсю рахманасць яго». Ай! А-а-а-ай! Княжа, залаценькі, ручкі... ножкі... Я Надзею... Я Вашчылу параніў.

Радзівіл *(вязням).* Пацешцеся перад смерцю, бо літасці маёй вам не будзе.

Поп *(лямантуе).* А-а-а! Княжа! Княжа! *(Страшна.)* З глыбіні пекла клічу! *(І раптам выпрастаўся.)* Хаця якім коштам апраўдацца хочаш? Маёй шкурай?! Шкада мне, шкада. Цьху на цябе, гліста! Шкада-а.

Папа выцягнулі.

Радзівіл. А па гэ-гэтых ту-тут зараз — чын пахавання. Жывым — экценню па мёртвых. Папоў! Усе туды! Цялецкі! Каб да адчаю давесці, каб трэсліся ад жаху! Тут! Яшчэ жывых! І ўставайце. Збірайцеся.

Пайшоў з астатнімі аксамітнікамі. Антох падымае людзей і ў страшным маўчанні спрабуе пастроіць іх, і гэта яму сяк-так удаецца. Тых, хто падае, зламаны катаваннямі, трымаюць пад рукі. І тут далятаюць звонку змрочныя галасы пахавальнага чыну.

ЭКЦЕННЯ АБ ПАМЕРЛЫХ[1].

«Злітуйся з нас, Божа, па вялікай літасці Тваёй, малімцеся, пачуй нас і памілуй.

Яшчэ молімся пра ўспакаенне душ заснулых (усопшых) рабоў Божыіх... *(Тыя, каго ўспамінаюць, ускідваюць галовы або апускаюць іх.)* Івана... Васіля... Лаўрэна... Пакі Васіля... Анціпаха... *(Поп Антох хрысціцца.)* Навума... Захарыі... Хвёдара... Восіпа... Кузьмы... Курылы... Атрохіма... Пакі Кузьмы... Ігната... Міхайлы... Пракопа... І пакі — пакі дваіх Васілёў і шасцёх Іваноў і о ежэ прасціцеся ім усякаму граху вольнаму жэ і нявольнаму, яка да пан Бог учыніць, душы іхнія там, дзе праведныя ўспакаяюцца».

Антох. Хадзем, людзі. Гэты чалавек жадае зрабіць усё, каб давесці нас да адчаю.

Лаўрэн. Страшна.

Нехта ў натоўпе заплакаў.

Антох *(уздыхнуў)*. Страшна. Але для радзімы нашай разадранай, для нас, пашматаных і змучаных,— суцяшэнне.

Вядуць экценню галасы:

«Літасці Божыя царства нябеснага і пакідання грахоў іх, у Хрыста, бессмяротнага Цара і Бога нашага просім. Яка Ты ёсць уваскрасеніе і жывот і спакой заснулых (усопшых) раб Тваіх, Хрысце, Божа наш і Табе славу ўссылаем са безначальным Тваім Айцом і Прасвятым і добрым і жыватворным Тваім Духам, ныня і прыснам і ў вякі вякоў. Аман».

Антох. Пяюць. Просяць, каб дараваў нам усякае саграшэнне, вольнае і нявольнае. Каб убачылі мы святло боскай любові,— мы, усімі на свеце пазбаўленыя яе,— а ўсе, што застаюцца на зямлі, атрымалі суцяшэнне. Ідзем, нясем ім святло.

Усе ідуць да сходаў. Антох ціха і вагома кажа ў натоўп.

Гэта князю адпяванне будзе страшнае. Бо не зрабіў ён нічога добрага на зямлі. То хай ён слухае. І вы там

---

[1] Экценню спяваюць таксама па-беларуску, а не па-старасла-вянску, бо тут — сцэна і трэба, каб разумелі. Калі мелодыя экценні (тая, што ёсць) не падыходзіць — трэба падправіць тэкст або прыдумаць новую — і лепшую — музыку. Каб трэслася сэрца і мароз па скуры.

слухайце, наверсе. Разлічвалі вы, мучыцелі, на іншае, а тут... тут заспакаенне. Цярзанні спыняцца, мукі скончацца. Яны — не вечныя... Не вечныя.

## КАРЦІНА ДЗЕВЯТАЯ

26 лютага 1744 года. Плошча перад замкам. Налева і направа будынкі з галерэямі, на якія вядуць сходы. Між будынкаў каменны мур. У левым доме — дзверы ў сутарэнне. Ля правага дома, у муры, дзверы, якія вядуць на арэну. Такім чынам, асуджаныя павінны прайсці сцэну злева направа, каб трапіць тымі дзвярыма на месца пакарання смерцю.

З-за мура відаць верхавіны дрэў і вярхі шыбеніц.

На галерэі і сходах ля левага дома — народ. У натоўпе Яўхім Хмыз, Магда, Ілья Карпач, Агна Вецер, пісар Бачко. На больш багатай галерэі справа — члены суда, Радзівіл, Каршук, Цялецкі і іншыя. Грай крумкачоў і варон. Павялі з сутарэння асуджаных. Вядуць Капітан Аддзялу Гран Мушкецёраў і Пястжэцкі з салдатамі.

Капітан *(паказвае Лаўрэну)*. Глядзець. Унь на дрэве, на круку, вісіць поп Бяссовітц. Хе-хе, дэр Бірнбаўм... Як і-груша. І вашым так.

Лаўрэн. Во каб гэта на кожным беларускім дрэве ды па такім хрукце.

Карпач. Ты што народ ганьбіш? Нібы ў нас на кожнае наша дрэва па гэткай сволачы хопіць.

Лаўрэн. Суседзям у арэнду аддамо. Для іхніх.

Антох. Чым табе дрэвы беларускія правініліся?

Лаўрэн. Нічога. Дзеля такога свята адзін дзень пацерпяць.

Антох. Не, не дам паскудзіць гэтай навалачы й дыму ад нашых дрэў.

Радзівіл *(спакойна)*. Кончыць. Мы яму пакажам і дрэвы і дым ад іх. Чытай, Цялецкі.

Цялецкі *(чытае)*. Злаўмыснага і злашкоднага папа Анцівоха — Антоха — Крапілу і яшчэ некалькіх такіх самых (а спіс па імёнах — тут)...

Капітан. *Сіла* на нашым баку.

Антох. Угу. Гэта ж закон. Мудры мацуе свой дух, а дурань — цела. А што яму застаецца рабіць? Дай слухаць.

Цялецкі. ... Пасадзіць у коміны, а печкі знізу запаліць дзеля павольнага ўдушэння.

Антох. Нішто. Гэта свой дым. А вось якім дымам

вы ў пекле дыхаць будзеце, бажавольцы, баўбешкі, анцыпары, вашапрудзіны, хракі дурныя?! Канарэзы, падхлебнікі сабачыя, зачухі, дрынды.

Пёкур. І тут пад табою жар будзе. І ў пекле.

Антох. Не ўбаюся, недаедак блышыны, капусцяная галава, пустамол і пустасвят. Хай пекла. Рэшткамі свайго жару з табой падзялюся. Яго хопіць, каб і князя з усёй світай засмажыць.

Капітан. І гэта поп? Лаецца, як брудны кароф.

Антох. Сам ты кабыл тоўсты. Мушкецёраў голадам морыш. Яны як лучынкі, а ты — тоўсты кабыл.

Радзівіл дае знак, варта набліжаецца да Антоха.

Чакай!.. Васка, не сумуй душою. Не плач. Грэх твой страшны ў смяротны гэты час здымаю. Людзі, чысты ён у вашых вачах! *(Ціха.)* Памры годна — будзеш з богам, п'янюга ты мой родны, гуляка, прапойца ты мой бесшабашны... Лапы брудныя прэч!

Ідзе. І тут зараўла аднекуль дуда: «Тапчыце зямлю, легіёны божыя».

Князь! Мардун, дурань маляваны, рапуха аблезлая... п'яная карова! Дымам пайду ў роднае неба. Да бога! І вымалю ў яго праклён на ўсе вашы галовы. *(Яго валакуць.)* Хлопцы! Хлопчыкі! Благаслаўляю вас, так вашу! Благаслаўляю вас!

Яго вывелі.

Пёкур. Княжа, гэты тэатр можа абысціся дарага.

Радзівіл. Тэатр? Ну так. Такі тэатр, каб нашчадкі іхнія пра-пра-праз трыста год здрыгануліся. Калі яны бу-будуць, на-на-нашчадкі.

Пёкур. Будуць. Памылка, па-мойму. Не туды відовішча.

Радзівіл. Чытай, Цялецкі.

Цялецкі. Акрамя тых, каго біць бізуном і адрэзаць па адным вуху, памочнікаў галавароў паўстання — а лікам іх трынаццаць, аднаму, сыну Стэся Бачко, сакратару бунту, адрэзаць абодва вухі і на лобе выпаліць шыбеніцу.

Каршук. Каб ведалі... вось чыя рука пісала.

Цялецкі. Івана Дакуку, Захарку Сямашку, Іванішку з Баранкова — а ўсяго тры галавы — на шыбеніцу. Сямёна Варону, Ігната Мадунёнка. Івана Кры-

вулю ды Івана Галёнку — абезгаловіць. Мікіту з Бараўкоў, Івана Труса, Навума Буяна, Васіля Пушчаёнка ды Васку Косціка — жывымі на вострую па́лю.

Радзівіл. Рэшту таксама было асудзілі на кол. Але па асабістай просьбе — некаторых з іх, а менавіта: Івана Карпача, Васіля Ветра, Лаўрэна Каўбасу...

Васка. Князь, прыпомні...

Радзівіл. ... І Васку Ветра, зашыўшы ў мядзведжыя шкуры, разарваць на плошчы сабакамі.

Цялецкі. На галоўнай плошчы.

Каршук. На галоўнай плошчы? Зашмат ім, злодзеям, гонару.

Радзівіл. Унь там. За мурам. Як усіх.

Варта вядзе чацвёрку назад у сутарэнне.

Магда. Лаўрэн! Я з табой, хадзяка мой каханы, трыбухлей ты мой, лында, бадзяга ты мой няшчасны.

Лаўрэн. Магдачка! Уцёк я ўсё ж ад цябе. Нішто, на тым свеце сустрэнемся. А там нам лаяцца неададуць. Там строга. І нам добра будзе. А вы, панове, скажыце гэта сваім бабам, бо ў вас не бабы, а кожная — качарга старога лесу.

Іх вывелі. Пястжэцкі з вартай вядзе і астатніх у дзверы, што ў муры.

Пястжэцкі. Не спяшайцеся, мілыя, паспееце на шыбеніцу.

Каршук *(Пёкуру)*. Ведаеш, што Данаван сказаў князю, калі яго выгналі? «Яны навучылі мяне, што ёсць людзі, якія б не ўсё на зямлі зжэрлі. А вы хочаце мець болей, чым заслужылі. І гэта вам хай дзякуе свет за ўсе войны, ганьбу і зло».

Пёкур. Дурань. Набраўся ад іх, як сучка блох... Але гэтыя і сапраўды лічаць за лепшае быць пакрыўджанымі, чым самім крыўдзіць.

Каршук. І вось таму трэба кідаць гэты народ, бо з гэтай прычыны ён не жыхар на зямлі.

Пёкур. Хто ведае, *хто* не жыхар на зямлі? Магутныя магнаты або сініца, што села на мачту Ноевага каўчэга? Хто ведае?

Каршук. За што ж вам плоцяць, калі вы не ведаеце?

Пёкур. Нам плоцяць за тое, што мы ведаем. Бо каб начальным людзям плацілі за ўсё тое, чаго яны не ведаюць,— золата б на зямлі і ў сусвеце ў бога не хапіла б... Я гляджу на іх і, ненавідзячы, пачынаю сумнявацца, што ім канец.

Каршук. Але чаму?

Пёкур. У іх ёсць нешта *галоўнае*. Яны жывуць сярод звяроў. І дасягнулі, не пабаюся сказаць, таго, што неяк — хай не заўсёды — ужываюцца з імі. Пустэльнікі сярод ваўкоў.

Каршук (*раззлаваўшыся*). Калі яны такія ўжо святыя — хай ідуць у нашы высокія за́мкі і манастыры і паспрабуюць ужыцца з нашым братам, каб не ўкусіў ніводны сабака.

Пёкур. Таму і палім... Калі хочам жыць.

Асуджаных вывелі за мур.

Радзівіл. Ну што яны, капітан?

Капітан. Цялецкі! Тоўсты кабыл? (*Ціха.*) А добра: «тоўсты кабыл».

З сутарэння павольна ідзе шэсце: чацвёра ў шкурах. Толькі маскі-морды яшчэ не апушчаныя на твары.

Радзівіл. Пра гэтых не пішы, што ў шкурах. Выкраслі наконт шкураў. Усё ж недзе там лічаць, што мы Еўропа.

Цялецкі. Ваша... Заўсёды ж знойдуцца сведкі.

Радзівіл. Нічога, заўсёды знойдуцца і в-в-вучоныя, якія: «Раз у дакуменце няма — значыць, не было». Мы з табою ім свечку павінны ставіць. Абаронцы. У азадак за нас улезуць.

Бачко (*сам сабе*). Запішу я. Я запішу. І няхай не павераць, няхай нейкі крот скажа: байка, дакументаў няма. Гэта не байка, тое, што помніць народ. А вы можаце дзе хочаце ўжыць тыя паперы. Памяць жыве.

Радзівіл. Развітвайцеся.

Агна (*спускаючыся да Васіля*). Бывай... Я ўсё ж не буду цалаваць цябе... А раптам дзіва...

Вецер (*ціха*). Маці, мінуў такі час. Не трэба. Я ўсё зразумеў, маці. Я толькі раблю выгляд, каб не заламаўся хтось іншы. Я нават без гэтых падпорак даўно ўжо жыву без страху. Без яго і паміру. Цяпер жа мне ўсё адно, і дзіва не будзе. Ну...

Кідаюцца адно да аднаго.

Агна (*ціха*). Ідзі. Я ведаю, што ты не Вецер. Я ведаю, што ты ўраган... А цяпер глядзі на мяне.

Ідзе па сходах на панскую галерэю. У яе выгляд не то захоплены ад радасці, не то апанаваны адчаем.

Злітуйцеся з яго, злітуйцеся з іх. (*Цалуе рукі ўсім, акрамя Радзівіла.*) Паночкі. Паночкі. Вось бог пашле лёгкую смерць таму, каго я пацалую. (*Цалуе Пястжэцкага.*) Даруе табе жорсткасць і дасць табе лёгкую смерць. (*Цалуе ў рукі і вусны Каршука.*) Даруе ліхое кіраванне і дасць лёгкую смерць. (*Цалуе Цялецкага.*)

Карпач. Апамятайся! Праклянем!

Лаўрэн. Маці, што ты робіш?!

Вецер. Змоўч. Ціха. Яна ведае, што робіць.

Агна (*цалуе рукі ў Пёкура*). Даруе табе, што ўсё-ўсё разумееш і, аднак, робіш паскудствы, тваю подласць... І дасць табе лёгкую смерць. (*Хоча пацалаваць руку кату.*)

Кат (*у жаху*). Што ты робіш, жанчына?! Мне?!

Агна. Не буду. Ты лепшы за іх усіх. Ты сумленны кат... І табе я таксама не буду цалаваць руку, князь Геранім-Фларыян. Не было б цябе — не было б і іх. Бог не дасць табе лёгкай смерці.

Радзівіл (*прыняў зухаватую паставу*). А я што казаў? Аблізала ўсіх. Няма меры іхняй нізасці. Пайшла прэч.

Агна пры поўным маўчанні спускаецца і ідзе да левых сходаў, дзе ўжо стаіць Магда.

Вецер (*са шкадобай*). А ты ніч-чога не зразумеў, князь Геранім-Фларыян Радзівіл. Ясна ж. Разумны заўсёды распазнае дурня, бо сам калісь быў такі. А дурань ніколі не ўгадае разумнага, бо ім не быў... і не будзе. Ты яшчэ і зараз нічога не зразумеў.

Магда (*Агне, ціха*). Затое я цяпер у с ё зразумела. Так? Так? Дай і я пацалую цябе, гаротная ты мая, бедная ты мая маці ўрагану. (*Цалуе Агну.*) Вось цяпер мы сёстры, маці ўрагану.

Васка (*яго вядуць паўз Агну*). Людзі. Зямля... Маці. Даруй мне, п'янаму, даруй акаяннаму!

Агна (*абдымае яго*). Ідзі. Усе даруюць табе.

Вывелі. Цяпер чарга Лаўрэну.

Лаўрэн (*князю*). Ты здохнеш, князь. За сённяшні дзень.

Капітан. Гэта чаму?

Лаўрэн. Бо дурань. *(Князю.)* Добра, калі ворагі — людзі з вялікім розумам. Разумны сто разоў падумае, перш чым учыніць паскудства і зло. А дурань што захоча, то й зробіць на злом галавы. Як ты, княжа... Бывай, Магда *(ідзе прытанцоўваючы)*. Гэх...

Мая дзеўка добра йдзець:
Круціць задам, як мядзведзь.

Ах, каб мяне халера з-пад цёмнай хмары. Магда, я маўчаў! Магда, душа мая з табой!

Магда *(крычыць)*. І мая!.. І мая!..

Вывелі Лаўрэна.

Бывай, цацярук ты мой пышны. Бывай.

Карпач. Мая чарга, князь. Хаця? Які ты князь? Нясвіжскія — гэта князі. Шырокія ў зле і дабрыні. А ты — кур'ян, курыца, што пеўнем крычыць. Хамут!

Радзівіл *(здзекліва)*. Адно мне шкада, Карпач, не танна мне вашае здыхла выйдзе. Гэта ж аж чатыры такія шкуры ўшчэнт, у дробныя шматкі.

Карпач. Ты, князь, дарма ганарышся ашчаднасцю і скупасцю. Ты самы шчодры ў свеце. Бо ты здохнеш без дзяцей, а грошы — усе! — пакінеш братам, якіх ненавідзіш. Ворагам. І яны будуць смяяцца й жэрці твой набытак.

Цялецкі. Пястжэцкі, ды вядзі ты яго. До!

Вецер. І праўда, досыць камедыі. Не атрымалася твая кумедзь, княжа. І не атрымаецца. Ты не бог. Бацька Антох сказаў бы, што ты чорт смалены з бурага балота, Лаўрэн — што ты шатанская сіла. Карпач — што ты паршук і шкарадзь. А я табе скажу, што ты й на чорта рылам не выйшаў. Чучала ты. Асклізлы шыцік, чарвяк з дзярма.

Ідзе да дзвярэй.

Гэтыя — яны здохнуць, людзі! А за намі... за намі святло нябёсаў. Даруй мне, люд, калі чым саграшыў табе. Дзякуй і табе, маці Агна.

Апусціўшы маску, Вецер пераступіў парог.

Радзівіл *(з клёкатам у горле)*. Вядзі сабак, кат.

Кат. Княжа *(распластаўся на зямлі)*. Княжа, не смею.

Радзівіл. Я сказаў. Ведаеш, чым пахне?
Кат. А хаця і самога да іх. Не смею.
Радзівіл. Капітан.
Капітан *(дастае шпагу).* Магу засячы і не міргну.
Радзівіл. Ну.
Капітан. Я ўсё ж воін, а не псяр.
Радзівіл. Пястжэцкі, ідзі аддай загад псярам. А то ў гэ-гэ-гэтых псяроў кішкі сла-слабыя.

Той пайшоў. Праз некаторы час за мурам сабачы брэх.

Цялецкі. Што буйвалы. Адзін пёс лоб у лоб мядзведзя бярэ.
Пёкур. А тут іх дваццаць на чатырох.
Радзівіл *(нервова).* Ды-ды-ды што, урэшце, цягнуць? Пястжэцкі!

Пястжэцкі падымаецца на галерэю.

Што там?
Пястжэцкі. Муляюцца псяры.
Радзівіл. Спушчай, іначай усіх на кол!
Бачко. Людзі! Сведчыце ўсе, калі каму казаць будзеце. Князь наш зараз абмочыцца са страху.
Ілья. Сынкі! Трымайцеся! Яны свой агонь самі замочуць.
Каршук. Жолнежы, узяць!
Радзівіл. Гэта той, гэта пасол! Варта!

Варта ідзе да левых сходаў, і ў гэты момант шалёны брэх і рык зграі.

Магда. Пусцілі! Пусці-і-ілі! Пусцілі сабак!

Варта спынілася. Агульнае замяшанне, спалоханы енк, стогны, лямант адчаю і плач сярод людзей. Брэх за мурам. Гучныя, перападам, басы: «Бам-бам! Там-бам!»

Радзівіл. Дзе яны?
Цялецкі. Няма.

Бачко, Ільі і Хмыза сапраўды няма. Стаяць толькі, як скамянелыя, Магда і Агна. А за мурам нястрымнае гаўканне, хрыпенне, брэх, віск, рык, клёкат праз забітыя поўсцю пашчы. І ачумелае, шалёнае гырканне неўтаймаванай бойкі, нібы дзве ваўчыныя гайні б'юцца не на жывот, а на смерць. І не звычайныя ваўкі, а казачныя, жалезныя.

Радзівіл. Вось яны, псы мае. Душы іх, ірві, шматай!

Магда. Б'юцца. Б'юцца! Псу хрыбет зламалі. Другому. Упаў нехта. Яшчэ два сабакі... Нехта другі ўпаў.

Сладастраснае, хцівае гырканне.

Пятага пса забіў нехта... Сёмага... Божа, нашто доўжыць мукі?!

Радзівіл. Дзесяты пёс. Яны мне перакалечаць зграю. А-а, адольваюць. Хапай іх! Ірві!

Жалезны брэх.

Як той жалезны воўк, які прарочыў узнікненне радзімы!

Пёкур *(ціха)*. Жалезны воўк, які, мабыць, прарочыць развал радзімы.

Пястжэцкі. Адзін застаўся. Цікава, хто гэта?

Капітан. Дас іст мір айнерляй. Аднолькава. Паўсюль у свеце такая... такая *(узняў палец)* айнзамкайт. Самота.

Каршук. Вецер самотны.

Кат. Самотны Вецер.

Страшны сабачы рык.

Радзівіл. Узяў!

Голас Ветра. Клічу на страшны суд! Клічу. Клі... *(Голас абарваўся.)*

Радзівіл. Скончана.

Пёкур. *Усё* скончана.

Маўчанне. Усе стаяць, нібы ашаломленыя тым, што нарабілі.

Агна *(ціха)*. Колькі мёртвых. Я забіла яго, Магда.

Магда. Ну, не плач, не плач.

Ціха плачуць адна ў адной на плячы.

Магда. Саба-акі.

Задаволены, залівісты брэх і бурчанне сабак за мурам.

Бывай, Лаўрэн. Я не абяцаю табе вернасці. Наадварот, я буду... з кім напрапалую. Толькі не з добрымі. Я... унь з такімі, як тыя. Калі некаму, крый божа, сёння пашанцуе выслізнуць. Ты даруй мне гэта, Лаўрэн. Гэта будзе мая мядзведжая шкура. Не твая, славутая ды грымучая, а мая, ганебная. Ну ды ўсё адно. Ты ім так проста не сыдзеш з рук. Даруй мне, Лаўрэн.

Усе на галерэі стаяць як прыбітыя, хаваючы вочы адзін ад аднаго.

Радзівіл. Усё.

І тады Агна выпрасталася і рушыла да «панскіх» сходаў.

Агна. Не. Яшчэ не ўсё. Слухайце, вы. *(Яна гаворыць наступнае звычайным голасам, але з такой стрыманай сілай, што ўсе нібы слупянеюць ад беспрычыннага пакуль што жаху.)* Я прайду праз вас, як вогненны нож праз масла. *(Варце.)* З дарогі. Смерць ідзе. *(Ціха.)* Князь. Чуеш? Напярэдадні паўстання я паслала Ветра ў нару да пракажонага, і ён там вячэраў з ім.

Радзівіл. На-на-нашто?

Агна. Кепска ведала яго. Баялася ягонай слабасці, калі будзе па-ранейшаму любіць жыццё. Я памылялася ў ім, дурная. Спачатку ён не ведаў, ён не мог захварэць так хутка. І я не казала яму, не магла сказаць, бо ён плакаў бы, што не пашкадаваў жонку. А калі б сказала, радаваўся б, што ў яе была лёгкая смерць. А смерці нельга радавацца. І смерць не бывае лёгкай. Я не сказала, дурная...

Радзівіл. ...Ён па-падаў мне руку.

Агна. ...Але ён здагадаўся сам. Думаю, што *да таго, як падаў табе руку.* Ён не падлюга, мой хлопчык, ён не такі, як ты... І ён не захварэў тады. У яго не было на скуры чырвоных плям, што знікаюць, калі націснеш пальцам. А пасля з'яўляюцца белыя...

Радзівіл *(справіўся і кажа наступнае з іроніяй).* Ну так, яму пашанцавала.

Агна. Святкуеце? У вас не будзе свята. Ну так, яму пашанцавала. *Вам не пашанцавала.*

Радзівіл. Чаму?

Агна. Ён не захварэў. Затое я. Я ўсе гады насіла таму пракажонаму ежу, а апошнія месяцы дакранался да яго і — чым жа ён вінен, што адзін? — я закрыла яму вочы, апускаючы ў магілу. Сын не мог яшчэ захварэць. Затое я *(раздзірае на плячы сарочку)*... Бачыце белую пляму? Як матыль... Праказа... Белы матыль смерці... Ён, Васіль, не атрымаў хваробы. Хвароба — гэта маё. А цяпер і ваша. Ну так, я ж аблізала ўсе вашы рукі, як прыніжаная валачашчая сука. І ты, князь, яшчэ казаў, што няма меры

нашай нізасці. *(І завыла.)* Ну так, я сука. У мяне аднялі майго шчанюка.

Напятае маўчанне, і раптам галерэя ўзвыла. Усе шарахнуліся ад Агны. І застаўся ля парэнчаў адзін князь, а астатнія кішаць за ім, а над галовамі стаіць несамавітае, жывёльнае выццё і рык: «Дыму!», «Жару!», «Абпячы рукі!», Запаліць!», «Гарэлкі!», «Спірытусу сюды!» З'яўляецца бачонак са спірытусам, і яго вырываюць адзін у аднаго з рук, льюць на рукі, у рот, абліваюцца, б'юцца за струмень.

Пёкур. Спыніце віск... Сорамна...

Але віск і выццё гучаць і далей у гэтай штурханіне звар'яцелых.

Агна. І сука ашалела. І перакусала вас усіх. Чаго вы шарахаецеся? Чаго кідаецеся? Позна. *(Яна гаворыць з ледзяным спакоем.)* Ну так, ваша смерць не будзе такая хуткая, як у яго. І яна будзе лягчэйшая, я вам не хлусіла, я праўду казала. Праказа ж не баліць. Проста ў вас будзе адгніваць аблічча, нос, вушы, шчокі. Пальцы рук не будуць адчуваць болю — як ён адчуваў — і нават апёкаў — як балелі яны яму. А пасля, паступова, адгніюць і яны. А пасля ногі і іншае. Вы зажыва згнілі душою — цяпер згніеце і целам.

Усе прыкіпелі да месца, як саляныя слупы.

Вузлаватая праказа цягнецца дзевяць год. Гладкая — васемнаццаць. Я не скажу вам, якая яна ў вас. Бо нават той, каму пашанцавала не заразіцца зараз, будзе дзевяць, а то васемнаццаць год чакаць лянівай смерці. І ў кожную хвіліну дрыжаць ад жаху. Будзе засынаць і прачынацца з думкай аб ёй. І кожную раніцу першая думка будзе: «Божа, вось няўжо сёння... Бо-о-о-ожа, ратуй. Вось... Вось здаецца... Вось-вось...» А людзі і ўласныя дзеці будуць цурацца вас. Не, я не назапасіла вам лёгкай смерці. Будзь спакойны, сынок. *(Узвысіла голас.)* Яны памруць. Яны — памерлі ўжо.

Цяпер яны твар у твар, як на два бос: яна і Радзівіл.

Не таргайся, князь. Сука не лізала цябе. Табе будзе горш. Я ж акрамя ўсяго і ведзьма, прарочыца — ты не ведаў? Табе будзе нават горш за іх. Богам і зямлёй сваёй клянуся, што ўсё гэта збудзецца. Вось што будзе з табой. Адна жонка, з Сапегаў, ужо ўцякла ад

цябе. Жанчыны любяць тыранаў, але толькі не скупых, не халодных і не нудных, як свіная чума. Уцячэ і другая. І трэцяя. І ўсе — з вялікаю ганьбай для цябе, напладзіўшы табе сотні ворагаў. Ты будзеш пасмешышчам нават у вачах бяссілых і садамітаў. І ні ад адной бабы ў цябе не будзе дзяцей, бо бог пракляне чэрава кожнай жанчыны на час, калі яна з табой. Не ведаю, ці хопіць у цябе сілы абгадзіцца ў чацвёрты раз?! І нішто з таго, што ты задумаў, не споўніцца. І ўсе будуць бегчы ад цябе, як бягуць з дома — нават калі дом гэты замак — пацукі ад пацука, якога злавілі, вымазалі дзёгцем і выпусцілі. І ты будзеш блукаць адзін бясконцымі замкавымі калідорамі і сутарэннямі, дзе шкілеты замучаных, і ніхто не падасць вады. Блукаць і смярдзець пры святле месяца. І ніводнай роднай душы... А мой хлопчык загінуў страшна, але сярод родных і любоўных. Бо мой хлопчык — Чалавек, а ты — пацук.

Р а д з і в і л *(амаль непрытомна)*. У-у-узя-аць!

Усе муляюцца ў страху.

Ды няўжо... ды няўжо ніхто?

А г н а *(кладучы руку на грудзі)*. Сустрэчы з табою... шукаць стану... Сэрца... яно такое вя-лі-кае...

Падае павольна, як падсечанае дрэва.

Вялікае.

Мёртвая цішыня. І толькі потым далятае аднекуль, як з таго свету, трубны голас ці то Ільы, ці то Дудара.

Г о л а с. Маці. Пачуй нас. Не чуеш? Маці ветру. Маці ўрагану! Чорта яны нас узялі! Чорта лысага яны ўзялі і возьмуць нас!

*Заслона*

*1982 г.*

# МЛЫН НА СІНІХ ВІРАХ

*Гераічная драма ў чатырох дзеях, васьмі карцінах*



## ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Цыкмун Асінскі, млынар — 50 год.
Тэкля Каваль, яго сваячка — 56 год.
Марыся, дачка Цыкмуна — 18 год.
Андрэй Лаўрановіч, студэнт — 20 год.
Віктар Сміхальскі — 24 гады.
Каляда, пісьменнік, старшыня гарвыканкома, потым камісар атрада — 40 год.
Пятро Лаўрановіч, бацька Андрэя, камандзір партызанскага атрада — 42 гады.
Апанас Жаўрук — 56 год.
Пан Елпідзіфор Дзюбка, загадчык музея, пасля «камерсант» — 45 год.
Баба Ерэтычка, самагоншчыца — 48 год.
Высакародны злодзей — няпэўных год.
Трубайла, былы шляхціц — 43 гады.
Граф Адлерберг, камендант горада — афіцэр у гадах.
Бернгард Швальбе, камісар гестапа — 30 год.
Фон Ранцоў, маёр — 32 гады.
Зігфрыд Ільзенвельдэ, гаўптман — 26 год.
Генрых Штаркенфауст, Вольфганг Ламсдорф, Фердынанд Эверт — афіцэры.
Нямецкі ўрач
Лірнік

Народ на кірмашы, партызаны, вартавыя, нямецкія салдаты, людскі накіп на барахолцы.

*Дзея адбываецца ў ваколіцах маленькага раённага гарадка, загубленага ў глухіх лясах, у 1941—1942 гг.*

Стварылі вас не для жывёльнай долі,—
Для доблесці і ведаў. Людзі вы!

*(Дантэ. «Пекла». XXVI, 118—120)*

# ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

## КАРЦІНА ПЕРШАЯ

Кабінет старшыні гарвыканкома. Вялізны пакой, вельмі светлы, з двума квадратнымі вокнамі, за якімі панарама горада. Звычайнае кабінетнае абсталяванне: вялікі стол, крэслы. Двое дзвярэй: адны налева — выхад, другія направа — у зал. Карта на сцяне. Вельмі ціха і спакойна, але нешта не так, як заўсёды: папера на рэпрадуктары прадзёртая, з адчыненага сейфа на падлогу вывалілася купа паперы, фіранка вырываецца з акна на вуліцу, як сцяг. Відаць, што па пакоях гуляе пройма. Толькі пасля даляюць здалёк гукі кананады. Ля акна Каляда і Пятро Лаўрановіч. Маўчаць. Кураць. І раптам гучны, злёгку асіплы голас з рэпрадуктара.

Голас з рэпрадуктара. Увага! Увага! Грамадзяне горада! На ўсходняй аколіцы ідуць баі. Палае горад! Палае горад! Грамадзяне горада, усе, хто можа трымаць зброю, ратуйце горад...

Лаўрановіч. Горад вырашылі здаць?

Каляда. Так. Утрымаць няма магчымасці... Жах бярэ глядзець на адступаючых. Чорныя ўсе, раненых вядуць... Немагчыма, ну немагчыма ж без дапамогі, без боепрыпасаў.

Лаўрановіч. А радыё яшчэ трымаецца?

Каляда. Там, напэўна, ужо немцы блізка, але яшчэ трымаецца. Гэта дыктар наш, Ветка, сепаратна сядзіць там... Кажа, што не пойдзе стуль. Яму ўсё добра відаць, вышэйшага месца за радыёвузел у горадзе няма. Зусім дрэнна, браце. На Ленінскай склады палаюць, нехта разбіў, дзе-нідзе грабёж там пачаўся. Напэўна, зладзеі...

Голас. Грамадзяне горада! Калісьці вашы продкі не пусцілі за гарадскія муры Іасафата Кунцэвіча, драпежнага ваўка, навялі на яго гарматы і наказалі пайсці прэч. Будзьце вартымі іхняй славы! Браты!

Сёстры! Бацькі! Сыны! Таварышы! Бярыце зброю! Заходняя станцыя ледзь трымаецца.

Каляда. Калі прыйдуць людзі па справе з млынам?

Лаўрановіч. Прызначылі на трынаццаць гадзін.

Каляда. Добра. Пакуль тое будзе, паклічце Дзюбку.

Лаўрановіч выходзіць і вяртаецца з Дзюбкам. Дзюбка апрануты старамодна і трохі зухавата, вусы падкручаны, у руках кіёк.

Сядайце, Елпідзіфор Сяргеевіч. Памятаеце нашу размову дзесяць дзён таму? Вы самі бачыце, час наступіў... Вы не камуніст, менавіта таму мы вас і выбралі, менш падазрэнняў. Вы не перадумалі? Не будзеце эвакуіравацца?

Дзюбка. Не, у мяне тут засталося яшчэ шмат экспанатаў. Але, перш за ўсё, дзякуй вам, што дапамаглі вывезці мой музей... Шчыра дзякую. Старажытныя шыферныя прасліцы... меч старасты адроўскага, бронзавы меч, такога і ў Гнёздаве няма... надзвычайныя косткі маманта, карціна Пэна... А вось чучалы пакінулі... мядзведзь, рысь яшчэ. І мая надзвычайная арніталагічная калекцыя. Мне заўсёды не шанцавала. Я, вядома, ад яе нікуды не паеду, так што, калі ласка, я да вашых паслуг.

Каляда. Што б вы сказалі, калі б вам прапанавалі трымаць канспіратыўную кватэру?

Дзюбка. Па прынцыпу: добрага сабаку на прывязі трымаюць? Ну што ж... Я, малады чалавек, маю, вядома, брушка і падобны да бухгалтара, але, мне здаецца, мы падчас той нашай размовы ўсё высветлілі. Так што размаўляць няма чаго. Значыцца, спатрэбіліся мае старыя косці, а я ў такіх выпадках не адмаўляюся тым, што я з вялікім задавальненнем сядзеў бы ў піўной і піў піва. Піва, вядома, лепей за шыбеніцу, але, як падумаеш, і за піва, нарэшце, трэба расплачвацца.

Каляда. Добра. Пра абавязкі даведаецеся пасля. Пакуль што, ведайце адно, пароль будзе вельмі складаны, запамятайце добра: «Ці не прадасцё што-небудзь цікавенькае? Можа, ёсць старыя фібулы або слуцкі пас (менавіта, пас). Водзыў: многа хочаце, гэтага няма, але ёсць унікальная каптарга. Зноў

пароль: гэта значыць металічны кашэль? водзыў: так, з бычынай галавой». Запамяталі? Добра.

Дзюбка. Чакайце, але з якой прычыны яны будуць пытацца ў мяне такое?

Каляда. Вы будзеце камерсантам, значным камерсантам... Грошы атрымаеце, іх будзе дастаткова. Адкрыеце ўласную краму пад шыльдаю,— трэба нешта вытанчанае,— ну, хаця б так: «Гандаль старажытнасцямі, рэчамі культу, інкунабуламі, прадметамі народнага мастацтва... Камерсант пан Е. С. Дзюбка».

Дзюбка *(абурыўшыся)*. Не, браткі, і ракаў не хачу, і ног не мачу. Я ў прынцыпе супраць прыватнага капіталу. Я разумею, трэба, каб хадзілі людзі, але чаму б мне не стаць, ну лудзільшчыкам, ці што. Я ўмею.

Каляда. Чалавек павінен працаваць па свайму густу. Каго здзівіць, што былы загадчык музея адкрыў гандаль старажытнасцямі. Грошы будуць. Вы будзеце мець магчымасць раз'язджаць па вёсках дзеля скупкі, ездзіць нават у вялікія гарады. Як жа, камерсант, паважная асоба. Будзеце запрашаць нямецкіх афіцэраў у госці, задавальняць іх, калі нам будзе патрэбна.

Дзюбка *(менш рашуча)*. Гандляваць свяшчэннымі для мяне прадметамі? Не, не буду. Ды і скуль я іх дастану?

Каляда. Не турбуйцеся, гандляваць вы будзеце падробкамі. Мы паклапаціліся, яны ў вас будуць. Вы ведаеце пра калішнюю калекцыю Сіпайлы?

Дзюбка. Гэты блюзнір! Гэтае падла! Добра ведаю. Мы з ім спрачаліся дваццаць пяць год таму, ён думаў, што калі ён багатыр, дык ён мае добры густ. Трасца ў яго была, а не густ! Яму перакупшчыкі спіхнулі на дзесяць тысяч без малога самых грубых падробак, якія я бачыў. К-калек-цыянер!

Каляда. Дык вось, гэтыя падробкі, калі Сіпайлу выселілі з маёнтка, ляжалі ў фондах драмтэатра, для гістарычных драм. Цяпер яны будуць у вашай краме.

Дзюбка. Я пратэставаў — не слухалі. Такую дрэнь нельга было нават на сцэне ўжываць замест сапраўдных рэчаў.

Каляда. Добра, добра. Я думаю, што для вас

гэта будзе дадатковай радасцю: збыць у іхнія рукі такое. Ну як, згода?

Д з ю б к а *(амаль згаджаючыся)*. Эканаміст з мяне дрэнны, таварыш Каляда. Я вексель з жырафам блытаю. Прагандлююся ўшчэнт. І тут мне не шанцуе.

Л а ў р а н о в і ч. Ну вось тады і будзеце лудзільшчыкам. Гэта будзе нават зусім натуральна: банкрут Дзюбка, былы антыквар, зараз лудзільшчык.

Д з ю б к а. Кінь ты, Пятро, свае жартачкі... Ну... добра ўжо, няхай. Буду камерсантам. Усім быў, а гэтага — не, не было. Я, таварыш Каляда, няўдачнік.

К а л я д а. Галоўнае: маўчанне, канспірацыя, трываласць.

Д з ю б к а. Я ўсвядоміў. Можаце спадзявацца.

К а л я д а. Пакуль што пабудзьце тут... 13.00. Напэўна ўжо прыйшлі *(ідзе да дзвярэй і адчыняе іх)*. Заходзьце, таварышы.

Уваходзяць Ц ы к м у н А с і н с к і ў танным шэрым гарнітуры, М а р ы с я, за ёю С м і х а л ь с к і, малады чалавек у добрай вопратцы, трохі пасля — А н д р э й Л а ў р а н о в і ч.

Сядайце. Паразмаўляем у цеснай кампаніі. Вы згадзіліся застацца тут, таварышы...

У рэпрадуктары нешта трэснула.

Г о л а с: Грамадзяне горада! Добраахвотнікі толькі што адбілі атакі ворага на Заходнюю станцыю. Становішча там стабілізавалася. Мы падпалілі склады ля могілак цягнікоў. Агонь выкурыў фашыстаў з могілак. Зараз на радыёстанцыі таварыш са штаба таварыства садзейнічання авіяцыі і хімічнай абароне. Ён просіць перадаць: вораг насядае з боку ракі, вораг насядае з боку ракі. Трэба затрымаць яго, пакуль са станцыі не вывезуць апошніх эшалонаў з жанчынамі і дзецьмі. На дапамогу, людзі! Бярыце зброю хто можа.

Л а ў р а н о в і ч. Як ты сабе хочаш, Каляда, але гэта ганьба. Армія адышла, а зараз стрымліваюць ворага пацаны, героі ў кароткіх портках. Сорам! Дзеці торкаюць салдатам дулі пад нос.

К а л я д а. Не трэба, Пятрусь... Што ж паробіш, калі нельга. Відаць, замала сілы.

Г о л а с. Г — 745—934—88—5641.

Л а ў р а н о в і ч. Шыфроўкі нашы.

Голас яшчэ некаторы час агалошвае лічбы, усе пасуровелі.

Каляда. Што ж, таварышы. Вы ведаеце, у чым справы. Ад станцыі Чорны Бор цягнецца пушча. Мы, пакуль што, прайгралі адкрыты бой, армія пакіне горад і адыдзе, можа, аж за Дняпро. Не хачу вас пужаць, але становішча цяжкае, і, невядома, можа, нават цэлую зіму давядзецца людзям сядзець у лесе. А галоднага, хоць бы ён быў героем, можна забраць голымі рукамі. Нам патрэбен хлеб, шмат хлеба. Сёетое ў нас ёсць, вывезлі з элеватараў у лясныя сховішчы. Але адным збожжам не абыдзешся, на сялянскія жорны яго не змелеш. Патрэбен млын. І вось мы вырашылі.

Падыходзіць да карты раёна.

Бачыце, кут між рэкамі. Тут дарога ў Звініцкія пушчы. Яны цягнуцца на сто восем вёрст на поўдзень ад станцыі Чорны Бор да чыгункі, якая ідзе з захаду на ўсход. Калісьці праз пушчы ішоў чумацкі шлях, але ён ужо гадоў сто дваццаць як заглохнуў. Да калектывізацыі ў самых нетрах там была вёска Пагост, на гэтым калішнім шляху, а ля яе яшчэ карчма і млын на два паставы. Дарога канчалася вёрст за пяць да Пагоста, і далей цягнуўся звычайны зімнік. У калектывізацыю вёску перанеслі ў Дравічанскі сельсавет, а на млын неяк забыліся. Тыдні тры таму я там пабываў. Глуш страшэнная. На поўдзень — восемдзесят восем вёрст да чыгункі, на поўнач — дваццаць да станцыі Чорны Бор, на ўсход дваццаць пяць да ракі (там, на беразе, ёсць вёскі), на захад — каля трыццаці вёрст да вёсак Дудзічы, Ведрычы, Пляскі і да ўрочышча Разбіты Рог, дзе ёсць лясніцтва. Адзіным бяльмом на воку з'яўляецца вёска Чарнабогі, дзесяць вёрст ад млына і дзесяць вёрст з гакам ад станцыі, трошкі ўбок. Ды яшчэ ля Чарнабогаў ёсць некалькі невялікіх вёсак. Вось і ўсё. Як бачыце, лепшага месца не знойдзеш. Млын хоць і ладна спарахнелы, але прыдатны. Мы адрамантавалі там усё, што магчыма. Ёсць там, акрамя млына, руіны карчмы, потым даволі моцны каменны будынак, добры будзе свіран.

Дзюбка. Я гэта месца ведаў яшчэ, калі паляваў. Лясы такія, як кафедральны касцёл. Чыстая готыка!

Па берагах рэчак драбналессе. І між соснамі ў сонечны дзень пара ад зямлі ідзе, быццам ладан курадь. І рэчкі: Тна, Вілюшка, Зубраўка — чыстыя. Уначы ляжыш ля кастра, восень, паветра — віно халоднае, і зоры кацяцца, кацяцца, кацяцца.

Агляну уўся, усе слухаюць, засаромеўся.

Каляда. Невядома яшчэ, калі нам такую мірную размову давядзецца чуць, Сяргеевіч. Гаварыце, калі ласка.

Дзюбка. Вільгаццю ад вады тхне. Бугай вадзяны недзе «Буукае»... Між іншым, гістарычная назва гэтага Пагоста — Сінія Віры. Калісь быў даволі вялізны пачынак. Адзін з Ягайлавічаў там памёр, не сумелі ўрача даставіць, такая глуш была. І зараз не лепей... Назва якая, «Млын на Сініх Вірах»! Я там начаваў аднойчы з сябрам. Якія мясціны! Рэкі, лясы бясконцыя, дзе-нідзе курганы, лілеі ў затоках. Паветра, як у першы дзень стварэння. Што пасля яго тая гарэлка? Хваробы сабе купіў на свае грошы. Увосень, у апошнія дні палявання на качак, здарыцца прымаразак,— трава, як драбнюткай соллю пасыпаная, хрумстае пад нагамі, ружовая ад зары. І недзе ў паветры спявае нешта, спявае, далёкае такое. І цішыня, слухаць яе можна, як сімфонію.

Далёкі выбух.

За гэту цішыню даў бы яму па галаве,— праз рэбры ўласныя бы глядзеў на свет белы, бандзюк. А то б галавою ў вір — і садухі.

Каляда (*пасуровеўшы*). Добрая ўмоўная назва: «Млын на Сініх Вірах». Мне няма чаго гаварыць, што гэтага патрабуе ад вас Радзіма — вы ведаеце самі. На вашых плячах баяздатнасць партызан цэлай акругі. Лаўрановіч, пры поўнай рабоце млына на два паставы колькі насельніцтва ён можа забяспечыць?

Лаўрановіч. Я не ваенны інтэндант, але раней у нас такі прыблізна млын працаваў на два сельсаветы, у тым раёне, адкуль я зараз прыехаў. І нічога, не вельмі скардзіліся.

Каляда. Вось бачыце. Сытасць такой колькасці людзей будзе ў вашых руках. Таму таямніцу млына берагчы, як зрэнку вока, а самы млын трымаць да самага скону, як гонар свой. Вы, Цыкмун Пятровіч,

працавалі да рэвалюцыі на млыне братоў Лапіных?

Асінскі. Так, а пасля ў млынтрэсце.

Каляда Дык вось, Цыкмун Пятровіч Асінскі як майстра будзе млынаром.

Асінскі. Добра. Праца будзе ладная, дык я і дачку вазьму з сабою, як гаспадыню. І падсыпку дайце такога, каб сала еў мала, а мяхі варочаў вялікія.

Каляда. Добра. Андрэй Лаўрановіч тут?

Андрэй. Тут... Таварыш Каляда, мне неяк нязручна. Руку, бачыце, асколкам раздзёрла ў першы ж налёт. Дазвольце лепей стрэльбу ўзяць. Мяхі цягаць мне цяжка будзе.

Лаўрановіч. І я лічу, што правільна. Няма чаго на млыне аціраццa, няхай ваюе разам з іншымі ў лесе.

Каляда. А я думаю іначай. Мяхі яму цягаць цяжка, а па шэсцьдзесят вёрст рабіць, у багне гадзінамі ляжаць, на дрэвы лазіць — гэта не цяжка?.. Гэта зараз найважнейшае. Зразумеў, Андрэй? Ты з адзінай здаровай рукою будзеш за дваццаць інсургентаў ваяваць.

Андрэй. Калі трэба, я пайду.

Марыся. А можа... можа б, Віцю... Віктара Сміхальскага на млын, а Андрэя... задаволіць яго просьбу *(саромеецца).* Усё ж гэта будзе лепей, бо Сміхальскі мацнейшы.

Сміхальскі. Не, дазвольце адмовіцца. Я гераізму жадаю, рамантыкі. Радзіма ў такім становішчы, а мяне на млын, кулі цягаць.

Асінскі. Гэта ён таму адмаўляецца, што думае: хлеб на вярбе расце.

Сміхальскі. Не, я ўсё ведаю. Я толькі думаю, што на млыне кожная пасрэднасць працаваць можа. А я больш карысці прынясу, калі буду партызанам. Да таго ж, як адзін з працаўнікоў райкома камсамола я не магу так: крычаць на зборах пра Карчагіна, а як пачалося сапраўднае, дык на млын.

Каляда. Глупства ты вярзеш, хлопча. Ты і ў райкоме быў не таму, што ў цябе з дня нараджэння шышка чыноўнасці на галаве развілася, і тут будзеш ваяваць у атрадзе не таму, што ў райкоме камсамола працаваў. Ты проста больш спрактыкаваны чалавек, ніж Андрэй. І запамятай, будзеш чакаць дзіва, пацягнеш людзей на «рамантычны» ўчынак, нешта на-

кшталт нападу на танкі са стэкам у руках — зганю. І наогул, вельмі рамантычнага месца не дам. А вось што. Будзеш, малец, трымаць сувязь з Дзюбкай. Будзеш на гэтым самым млыне жыць, хадзіць па атрадах і ў горад. Тут табе будзе выгодна. І паветра галаву халадзіць, і лясны водар прадухіляе чалавека ад разліцця чорнай жоўці. Ну і яшчэ... мне старому за гэта некаторыя людзі «дзякуй» скажуць.

Сміхальскі. Таварыш Каляда! Радзіма гіне, а я...

Каляда. Што ты, што ты. Крый цябе божа. На Радзіму хан Койдан нападаў,— яна не загінула, Літва з палякамі ішла,— таксама не загінула. Палякі і немцы ў грамадзянскую ішлі — яна не загінула. І цяпер, калі працаўнік райкома Віктар Сміхальскі, які яшчэ хварэе адцягненым, трохі вонкавым гераізмам, добры хлопец, падабаецца многім, падобны на Дэмана,— не пойдзе проста ў атрад, а будзе сувязным — яна таксама, я думаю, неяк вытрымае, не загіне.

Так што досыць размаўляць. Значыцца так, мы вырашылі, Цыкмун Пятровіч з Марысяю адразу ж, разам са мною, едуць у аколіцы Чорнага Бору і стуль дабіраюцца да млына на Сініх Вірах. А вы ўсе пабачыцеся са мною праз тыдзень. Цяпер выйдзіце ў залу і атрымайце там дакументы і іншае. У Лаўрановіча.

Усе ідуць да дзвярэй у залу, Асінскі ідзе апошні.

Цыкмун Пятровіч, пачакайце. Вось што, патрэбна, каб нехта меў сувязь асабіста з вамі на той выпадак, калі ў гэтых небяспечных Чарнабогах з'явяцца немцы. Можа, там трэба кагось пасяліць, скажам, пад выглядам бежанкі, жанчыну якую-небудзь?

Асінскі. Пасяляць там нікога не трэба. Там у мяне жыве сваячка, Тэкля Каваль. Я і то збіраўся спытаць, ці нельга, каб яна калі-нікалі прадуктаў падкінула. Дый небяспека ад немцаў з гэтага боку вялікая.

Каляда. А вы за яе можаце паручыцца?

Асінскі. Вы давяраеце мне — давярайце і ёй. І выйсці з вёскі яна можа так, што ніхто не заўважыць. Дый прафесія ў яе такая, што патрабуе бадзянняў у лесе.

Каляда. Чакайце, Тэкля, Тэкля Каваль? Нешта знаёмае.

Асінскі. Гэта тая... ну... «вядзьмарка».

Каляда *(шчыра разрагатаўся)*. Памятаю, памятаю, гэта тая, знахарка, чараўніца. Што гэта ў нас такі народ падбіраецца... цікавы. Ноеў каўчэг нейкі. Сем пар чыстых, сем пар нячыстых.

Асінскі. Дарэмна вы так. Недарэчны смех. Яна не замовамі лечыць, яна адмыслова ведае травы. І ўрэшце *(раззлаваўся)*, што ёй было рабіць? Што, я вас пытаю? Мужа забілі на Мазурскіх азёрах, старэйшых сыноў легіянеры закатавалі за партызаншчыну. Думаеце, яна менш надзейная, ніж гэтае фу-фу Сміхальскі, хоць ён і камсамольскае начальства.

Каляда. Ну, дарэмна гэта вы так, ён яшчэ малады, ён як малады хорт: гоніцца за ваўком, абгоніць зграю і не ведае, што ваўку раз кляцнуць зубамі і — гамон яму.

Асінскі. А вы занадта добры. Зараз ён малады яшчэ, пасля, калі будзе сталы, на неўраўнаважанасць будзеце спасылацца, а пасля: «Ды ён жа стары, яму даравадь трэба». Андрэй лепшы — яго раскалыхаць, дык трэба пяць чалавек, як той Брацкі Звон у Магілёве, але ён верны, сумленны чалавек, не фіцюлька. Добры вы чалавек, таварыш Каляда, але не да тых, да каго трэба. Што Тэклі было рабіць з дачкой ды з немаўляткам-сынам? Ну і пачала лячыць, балазе маці яе і бабуля першымі траўніцамі былі. Дасць добрую траву — нашы людзі лаяцца пачнуць: «Ты б хоць сказала нешта». Цемра! Ну яна і пачала шаптаць. Вось вы, як кажуць, аж дзве кнігі калісьці напісалі, а ці ведаеце вы, што аптэка ад іншых хвароб не так добра лечыць, як гэта Тэкля. Не паважаюць урачы траў, а, між іншым, аптэкі не заўсёды былі, і ў аптэках валяр'ян, канвалія, маліна, ліпавы цвет ляжаць. А колькі яшчэ невядомых траў? Вы б вось спыталіся, як яна мёдам ды зязюльнікам язву страўніка ў вашага бухгалтара вылечыла? Альбо як звычайнай ясноткай лячыла ад слабасці, альбо як падтыннікам ад воўчага мяса лячыла людзей, маладым дзяўчатам прыгажосць вяртала. Цяпер яна і шаптаць кінула,— людзі не тыя, дый сын дапамагае.

Каляда. Што гэта ты, бацюхна, так разбушаваўся?

Асінскі. А таго, што сам гадоў дзесяць таму нешта вельмі лёгка пачаў спявацца. Вып'ю чарку — і з капытоў. Перад сябрамі сорамна. Ну, Тэкля адшукала траўку. Апетыт да гэтай справы загубіў, але выпіць магу добра. Так што мне мой мужчынскі гонар не дазваляе, каб яе лаялі. Не тараканаў дае, не з вугаля брызгае — лечыць чыстай, сумленнай травой.

Задумаўся.

Каляда. Рознае бывае ў жыцці. Можа быць. Ведаеце, калі будзем жывыя, дык трэба будзе пагаварыць пра гэта, дзе трэба. Не злуйцеся. Калі будзем жывыя, вы мне пра гэта падрабязна раскажаце. Добра? А цяпер хадзем у залу. Стуль пойдзеце чорным ходам, да машыны. А Марысю возьмем па дарозе.

Выходзяць, прапусціўшы ў дзвярах Сміхальскага і Марысю.

Віктар, хвілін праз пяць будзьце тут, у кабінеце.

Сміхальскі. Добра *(да Марысі).* Ну нашто, нашто ты гэта прапанавала? Немаведама што могуць падумаць.

Марыся. Віця, не трэба так. Ты ведаеш, я гэта зрабіла не для цябе, мне Андрэя стала шкода. Яму горш, ніж табе. Ты ж такі моцны, вялікі, на ўсякім месцы будзеш добры.

Сміхальскі. А ён?

Марыся. Ён не такі. Ён, ведаеш, вельмі добры, але, напэўна, бязвольны хлопец. Яму там, на млыне, будзе дрэнна, зусім яго засмокча... Ну, ведаеш, я, напэўна, дурная, але я сама не ведаю, чаму я так зрабіла.

Сміхальскі. А я ведаю. Ты маеш да яго прыхільнасць.

Марыся. Віця, навошта ты так! Ты проста яшчэ не ведаеш...

Уваходзіць Андрэй і накіроўваецца да дзвярэй.

Сміхальскі. А я табе кажу, што гэта так. Ты сама не ведаеш. Што ж, мне нічога не застаецца, як падставіць галаву пад першую кулю. І можаш тады

думаць пра яго колькі хочаш. І, калі ласка, не плач. Вашы слёзы — вада.

Андрэй *(павярнуўся)*. Слухайце, сеньёр. Вы можаце размаўляць якім хочаце тонам і са мною і з іншымі, але з ёю гэты тон пакіньце.

Віктар. А якое права...

Андрэй. Я маю права сябра дзяцінства.

Віктар. І ўсё???

Андрэй. Так, пакуль што ўсё.

Віктар. Пакуль што? Вось што, малады чалавек, я здзіўляўся высакароднасці вашай і вашага бацькі, але толькі да таго часу, пакуль Каляда не адмовіў вам у вашай просьбе. Цяпер я бачу замест высакароднасці танную спробу адсядзецца ў ціхім месцы і зрабіць выгляд, што гарыш жаданнем біцца.

Марыся. Віця, не трэба.

Андрэй. Ух-х. Вось што, панок. Я буду сядзець там, дзе трэба. І я не баюся цябе, але зараз не такі час, каб даваць нейкаму дурню па твары. Бачыш, вайна.

Пайшоў. Выходзіць Каляда.

Каляда. Вы яшчэ тут, таварыш Асінская?

Марыся. Я зараз пайду. *(Пайшла.)*

Каляда. У мяне да вас некаторыя пытанні. Вось хлеб, вось колькасць людзей, падлічыце дзённы выхад, патрэбу.

Лаўрановіч *(уваходзячы)*. Таварыш Каляда, там вас нейкая дзіўная дэлегацыя пытае. Прывялі кагосьці.

Каляда. Ну добра, гэта ўжо апошняя справа. Трэба ехаць. Кажуць, што вораг выйшаў на цэнтральную вуліцу. Прасіце іх.

Адчыняюцца дзверы з вуліцы, і да кабінета ўваходзяць чалавек пяць людзей рознага выгляду. Яны вядуць Трубайлу, скруціўшы яму рукі. Перад працэсіяй крочыць дзіўны чалавек, падобны да бацяна, апрануты сціпла, але добра. Манеры ў яго экстравагантныя. Гэта Высакародны злодзей.

Што вам трэба, таварышы?

Высакародны злодзей. Прабачце, але нас нельга назваць «таварышамі». Мы, як бы мовіць, люмпенпралетарыят, адрынутыя законам і грамадскасцю. Мы, людзі, якія кіруюцца ў сваёй дзейнасці кніжкай, якая называецца КПК, крымінальна-пра-

цэсуальны кодэкс. Карацей кажучы, мы — праваπарушальнікі.

Каляда. Дзіўная сітуацыя. Але ў чым справа? Што за жарты?

Злодзей Мы просім у вас увагі, толькі пяць хвілін увагі. Як гэта кажуць, мы не затрымаем вас на час большы, чым трэба на тое, каб узламаць добры сейф.

Каляда. Як бачыце, сейф тут адчынены. Турма зараз не функцыяніруе.

Злодзей. Фі, турма! У мяне ад гэтага слова дапабольвае сэрца. Ад такіх недалікатных слоў. Дазвольце звярнуцца да вас хоць аднойчы як сумленным людзям. Ведайце, што і ў бандзюкоў ёсць чуллівае, чулае, уразлівае сэрца. Слухайце, савецкая ўлада нам была як мама родная. Яна лупцавала нас і ставіла ў кут, але бывала, што мы раскайваліся — і яна карміла нас пернікамі. Паслухайце,— хто б тут пакрыўдзіўся? — некалькі месяцаў турмы гэта ж глупства. А немцы, кажуць, будуць расстрэльваць. Гэта ж ціхі жах, гэта антыгуманна. Вы ведаеце, тут грабілі склады. Мы падумалі, што гэты грэх таксама ўпадзе на нашы бедныя галовы. Гэта ж ганьба, калі такое думаюць пра сумленных злодзеяў. І што сказалі б нашы бедныя мамы на тым свеце? Яны б перавярнуліся ў труне. І мы сказалі: «Ша!» Мы сказалі: «Хопіць». Мы спаймалі аднаго з гэтых бандзюкоў (якое шчасце, што гэта зусім не прафесіянальны злодзей. І ніхто не кіне такі дакор сапраўднаму злодзею, ніхто не запэцкае яго добрае беларускае імя), мы ўзялі яго і даставілі вам. А склады мы запалілі, усё адно іх не вывезеш ужо.

Каляда (*стрымліваючы ўсмешку*). Што вас штурхнула на гэта?

Злодзей. Ведаеце, аднойчы былі ў вёсцы перавыбары старшыні. Калі перавыбралі, устаў вясковы злодзей і папрасіў, каб перавыбралі і яго. Ён сказаў: «Я ўкраду кавалак сала — кажуць, што я ўкраў дзежку. Я ўкраду пуд дзерці — скажуць, што я ўкраў мех крупчаткі. Перавыбірайце». Ведайце, нам было б вельмі прыкра, каб з-за гэтага булахоўца і пагромшчыка, з-за гэтае контры наша імя зазнала б ганьбу.

Каляда. Добра. Дзякую вам... таварышы. (*Да звязанага, рэзка.*) Прозвішча.

Трубайла *(ганарліва).* Трубайла, шляхціц.

Каляда. Чаму вы рабавалі?

Трубайла. Чалавек, род якога прыгадваецца ў Гарадзельскім прывілеі, не будзе адказваць хаму.

Каляда. Ну й дапатопная істота! А што, Гарадзельскі прывілей даў вам прывілею і крамы рабаваць таксама?

Трубайла. Гэта вы нас зрабілі зладзеямі.

Злодзей. Ша, паклёпнік!

Трубайла. Вы зрабілі нас рабаўнікамі. Дзе мае пяцьдзесят валок? Дзе маёнтак дзедзіч маіх?

Каляда. Значыцца, пяцьдзесят валок было? Ну, тады ў вас па рабаванню досыць даўняя практыка.

Трубайла. Жартуеш, пшэклёнта халера? Нядоўга вам жартаваць. Хутка вас — варам, як непатрэбных шчанюкоў... За наш край!

Каляда. І яшчэ, напэўна, за беларуса сябе лічыць. Беларусы сваёй мовай размаўляюць. І яны не рабуюць, яны зараз па лясах. Табе і азёрны твой край толькі тады патрэбны і добры быў, калі на тваіх валоках пейзане ў стракатых анучках жыта жалі.

Адвярнуўся.

Злодзей. І што рабіць з гэтым дэгенератам, скажыце, добрыя людзі?

Каляда. Вызавіце чалавека з варты. Няма чаго з ім валаводзіцца, расстраляць *(павяртаецца).*

Віктар *(ціха).* Вось лічбы. Млын на Сініх Вірах можа пракарміць некалькі тысяч чалавек. *(Трубайла прыслухаўся.)*
Думаю, што, калі я зраблю нешта вартае, вы перавядзеце мяне з Звініцкае пушчы ў іншае месца. Мне ўсё ж не імпануе суседства з Чарнабогамі.

Трубайла прыслухоўваецца.

Каляда. Тут не месца гаварыць пра гэта, Віктар. З млына вы пойдзеце тады, калі прыкажуць.

Уваходзяць два вартавыя. Бяруць Трубайлу пад рукі.

Трубайла. Свалота! Куды вы схавалі наш ціхі край! Камуністам, жыдам, кацапам прадалі! Паркі нашы ліпавыя высеклі, палацы нашы запаскудзілі!

Каляда. Ты маўчы, ты на новую Беларусь смярдзючае джала не высоўвай. Воўк.

Трубайла. Нічога, мы вас вылегчаем. Каціцеся адсюль, сабачыя сыны, чырвоная падла!!! Чака-айце. Наш час прыйшоў!

Трубайлу выводзяць, выходзіць за вартавымі і дэлегацыя.

Злодзей. Бывайце здаровы, таварыш старшыня. Я думаю, што гэта ўсё хутка скончыцца, і мы з вамі яшчэ пабачымся, калі я, вядома, буду на волі.

Каляда. Бывайце.

Уваходзіць Лаўрановіч.

Лаўрановіч. Машына чакае.

Выбух непадалёку.

Каляда. Пачакай, давай пасядзім. Вось быў я, браце, пісьменнік, дрэнны пісьменнік, не хапала ўсведамлення самага важнага, у гарвыканкоме больш быў да месца. І раптам звалілася гора: гарады палаюць, дзеці маленькія без хлеба, без бацькоў. Сакратара гаркома бомбай напавал, партызаншчына на нашы плечы ўпала. Добра, хоць цябе з вобласці прыслалі. Дзе тая былая цішыня. Але які народ! Асінскі гэты, знахарка, Ветка наш. І нават зладзеі гэтыя, язык не паварочваецца іх так называць. І я ведаю, чаму гэта. Мы хлябнулі за дваццаць год сапраўднай волі. І нас з кожным годам будзе ўсё больш і больш немагчыма загнаць у калішнюю цемру. Як бы гэта ні было газетна і банальна, але шлях ад кувалды да аэраплана — гэта велічна. Не, не так я буду пісаць, калі давядзецца. З сэрцам, з болем, са шчырасцю вялікай.

Блізкі выбух.

Лаўрановіч. Час ехаць.

Хутка ўбягае адзін з вартавых. На твары ягоным кроў.

Вартавы. Таварыш Каляда, выбухам забіты Рубанаў... Словам... арыштаваны скарыстаў момант і ўцёк.

Каляда. Ну і трасца яго матары. Бандзюк звычайны. Хадзем, Лаўрановіч. Час ехаць.

Накіроўваецца да дзвярэй, у гэты час зноў выбух, і, як бы ў адказ, загаварыў рэпрадуктар. Усе спыніліся.

Голас. Увага! Увага! Жыхары горада. Хто мае

магчымасць — пакідайце горад. Немцы ўзялі Заходнюю. Апалчэнцам ля прычалаў трэба адыходзіць, іх могуць адрэзаць.

Каляда. Што ён робіць, вар'ят! Могуць вузел адрэзаць.

Лаўрановіч. Ён не пойдзе. У яго жонку забіла. Памятаеш, як калісьці смяяліся. Важна так кажа: «Чытаў аб'явы дыктар Ветка». Што яшчэ акрамя аб'яў чытаць даводзілася? Сёння, можа, упершыню адчуў сябе сапраўдным дыктарам, на сваім месцы.

Каляда. Трэба яго ратаваць. Паехалі.

Голас. Яны падпалілі вузел. Выйсця няма *(трывожна)*. На Чартальне пачаў гарэць старажытны помнік, будынак калегіума. Добраахвотнікі, змагайцеся з агнём, змагайцеся з агнём. Гарыць ваша старына. Гарыць ваш горад. Ратуйце яе, ратуйце яго!

З рэпрадуктара чутны глухія ўдары.

Яны ўдзіраюцца сюды. Бывайце, таварышы, бывайце, сябры мае, браты. Яны ламаюць дзверы, яны пагражаюць, што будуць страляць.

З рэпрадуктара аўтаматная чарга. Цішыня.

Т-таварышы, я яшчэ жывы. Яны ламаюць дзверы... М-м-м...

Каляда. Дабілі, дабілі Ветку... Ветку дабілі.

Голас. Таварышы!.. Таварышы!.. Без панікі... Пакідайце кватэры... Пакідайце. Горад гіне... Гіне наш горад. Жывіце ў барацьбе, жывіце ў славе.

Паўза.

Хай жывуць Саветы!

Паўза. Пасля адрывіста, хрыпла.

Хай жыве Беларусь!

*Заслона*

## КАРЦІНА ДРУГАЯ

Млын на Сініх Вірах. Звініцкія пушчы. Цёплы жнівеньскі дзень ружавее над пушчаю. На пярэднім плане, справа, ціхі поплаў, пакрыты вільготнай зялёнай травой. Амаль на сярэдзіне сцэны некалькі густых кустоў здзічэлага бэзу. Яшчэ лявей таўшчэзны

дуб-волат, лісце якога звісае над поплавам, утвараючы зялёны паўзмрок. Дуб вельмі стары, вялікае дупло зяе ў яго ствале. Пад дубам старая, тоўстая, далоні ў тры, лава, на чурбаках, укапаных у зямлю. Тут жа каменны будынак, дзверы яго адчынены, маленькае акенца забрана кратамі. Віецца сцежка ў глыб сцэны, да млына. За поплавам увесь другі план злева займае рачулка, якая разлілася тут даволі вялікім стаўком і блішчыць пад сонцам. Люстра яе зарасло лотаццю, кугой, дзе-нідзе бялеюць ля берагоў лілеі. Ставок перагарадзіла ўдалечыні зялёная грэбля. Над ёю, справа, бачны шэры будынак млына. За стаўком — густыя кусты каліны над вадою, далей — палоса падлеску, у якім яшчэ стаяць руіны старой карчмы. А далей густыя, цяністыя, зялёныя шаты лясоў. Неба амаль нямое над імі. Зялёна, вільготна. Спяваюць птушкі, даносіцца далёкі гоман млынавага кола. І цішыня толькі падкрэсліваецца гэтым, цішыня стаіць такая, што звініць у вушах. Марыся на траве сядзіць і зашывае нешта, мармыча сабе пад нос і зрэдку запявае ўголас:

«Як табе, рачушка, без крутых беражкоў,
Так і мне, дзяўчыначцы, без любага дружка».

Віктар (*асцярожна падыходзіць, ціха*). Марыська!

Марыся. Віктар, даражэнькі. Ой, якая я шчаслівая. Мне так цяжка бывае, калі ты ідзеш. Усё мне здаецца, што ты ўжо недзе схоплены, забіты.

Віктар. Ну кінь, кінь. Я не з тых, што лёгка даюцца ў рукі.

Марыся. Я ведаю. Але ўсё адно баюся.

Віктар. Нічога, Марыська. Не дзеля сябе аспрэчваем смерць, а дзеля тых, што ўладараць над нашым сэрцам, нельга ж прымірыцца з тым, што яны загінуць. Нічога, у апошняй бойцы перамогуць каханне і любоў.

Марыся. Нейкі ты дзіўны сёння, Віця... Ты лепей раскажы, што ў горадзе?

Віктар. Ат, месяц як там немцы і месяц як там робіцца няведама што. Думаеш, усе тыя, што крычалі пра перамогу, і зараз крычаць. Сядзяць, як бараны, па хатах... паразмаўляем пра іншае, Марыся.

Марыся. Што ты?

Віктар. Я не ведаю, што са мною робіцца, не магу гэтага растлумачыць. Уся мая энергія перайшла да кагосьці іншага, ніяк не магу пазбегнуць адчування пустаты. Нішто мне не лезе ў галаву, акрамя аднаго, і гэта адно ўсю маю душу запаланіла. Не то я, што раней, іншым уяўляю сабе свет. Балюча мне, але самы боль мне вялікі — радасць і таямніца. Ты мяне не разумееш?

Марыся. Не.

Віктар. Ну дык вось *(бярэ яе галаву ў далоні, цалуе).* Вось і ўсё. І можаш зараз рабіць са мною што хочаш. Усяго сябе, з усёй душой аддаю. І якая мне справа да ўсяго, калі ты са мною, лепшая мая. Усё гэта сон, гэтыя спрэчкі, бойкі. Шкода, што праходзіць маладосць пад гэты надакучлівы акампанемент. А ты мяне кахаеш?

Марыся. Я цябе даўно кахаю. Я чула, што не трэба так адразу казаць. Маўчаць, так будзе мацней. Але я баюся цябе пакрыўдзіць, перарваць тонкую ніць. Нашто мне мучыць цябе, каб было мацней? Я ж цябе таксама кахаю, я цябе не пакрыўджу. За Андрэя ты не крыўдзішся? Я яго вельмі люблю. Ён сябра з дзяцінства.

Віктар. Не, за Андрэя я табе даўно дараваў. Я яго проста шкадую.

Марыся. Не трэба, ён таксама вельмі добры. Іншы раз мне здавалася...

Віктар. Пачакай. Слухай цішыню. *(Цалуе ёй рукі.)* Мне другі раз здаецца, што ўсё гэта сон, гэтыя выбухі. Расплюшчу вочы — і будзе ціхі дзень, акно адчынена, ты яшчэ спіш.

Уваходзіць Асінскі.

Асінскі. Да вас можна сюды, моладзь? Дзень добры, Віцька. Як справы ў горадзе?

Віктар *(незадаволены).* А трасца яго бяры і разам з немцамі.

Асінскі. Цю-у, здурэў дзяцюк! Ты якія гэта словы гаворыш, га?

Віктар. Я і на самай справе. Ім бы барыкады будаваць, а яны сядзяць ціхутка, як мышы. Што я ім дапамагаць хавацца буду, ці што? Мяшчане! Тыранія дробязяў. А дробязяў гэтых у жыццё чалавеку напхана, як сардынак у бляшанку. Адзін гіне, а другому пляваць — у яго мазалі. Дый не так ужо там жахліва, як я думаў. Камендантам нейкі Адлерберг. Я думаў, што будуць паліць і на кожным ліхтары вешаць,— аж ціха ўсё. Лётчыка нашага падбілі, упаў за горадам, а калі немцы прыехалі, дык яго ўжо нейкая падла абрабавала. Ну, гэты Адлерберг і кажа, што вы,— свінні, сваіх герояў не паважаеце. Вярнуць вопратку і ўсё, што забралі з самалёта, інакш вёску спалю і ўсіх

пад корань. Праз пяць мінут усё прынеслі, цалюткае. Тады яны лётчыка пахавалі і далі над магілаю салют: «Глядзіце, як шануюць нямецкія героі гонар героя рускага». А таго, хто рабаваў, Трубайлу нейкага, забралі з сабою, але, кажуць, не забілі. Што ж, годны, рыцарскі ўчынак.

Асінскі. Глупства ты вярзеш. Такія для нас яшчэ больш небяспечныя, чым адвартыя гады. Але ж мярзота якая! «Ру-ускаму герою!» А мы сваіх гадуем. Адаслаў ужо другі абоз з мукой. Комам стане ў іхняй глотцы наш хлеб. А што яшчэ чуць? Як Дзюбка?

Віктар. Адкрыў краму і зараз прагарае. Што праўда, знайшоў выхад: робіць са спарахнелае драўніны ідалаў. Купляюць. «О-о, беларусішэ калёрыт! Еўрапейскія папуасы!» Дзюбка гэты яшчэ! Турак нейкі.

Паўза.

Ну, мне час. Трэба зноў у горад. Я там занёс да вас што трэба, Цыкмун Пятровіч.

Асінскі (*павярнуўшыся спіною*). Добра. Можаш ісці.

Віктар (*карыстаючыся, што Цыкмун не бачыць, ціха*). Бывай, мая каханая (*цалуе ёй руку*).

Асінскі (*усё яшчэ стоячы спіною*). Гэх, усім бы ты добры быў, Віця, ды вось толькі не ўмееш ты з сучаснымі паненкамі абыходзіцца. (*Павярнуўся.*) Ты б гэта зараз пеўнікам падскочыў, дыгнуў ножкаю, вусы падкруціў, падставіў руку абаранкам і па-французску: «Куркуле-муркуле альфоне ролле».

Віктар (*змрочна*). Гэта не па-французску.

Асінскі. Нічога, яны ўсё роўна не зразумеюць. Яны толькі па-тутэйшаму, яны высуванцы.

Віктар. Слухайце, Цыкмун Пятровіч, кінулі б вы, праўда, гэтыя вульгарныя выразы, гэты вульгарны дыялект.

Асінскі. Што, па-французску лепей? А чаму? Чым не французская мова: «Марылён трэ, Сымон целяпасэ, Сідар рэ пужрэ?» Чаму «рэ пужрэ» — добра, а «рэпу жрэ» дрэнна? Не бачу розніцы. Значыцца, і мова нічым не горшая за французскую. Не, браце, як ты ні вучыся — усё адно будзе ў цябе «дзе» і будзе «ру» і «г» будзе грубае, хоць ты па-італьянску брашы. Як калісьці «культурныя» семінарысты каза-

лі, калі ім прапанавалі тытуню (націскаючы на р): «Бла-га-да-ру, я не куру, ваша табака — дрань, трапкай ваніць». Толькі сорам адзін будзе і сабе і людзям. *(Сур'ёзна.)* І я табе кажу, хлопча, дрэнна ты скончыш, калі будзеш сваё лаяць. *(Адыходзіць да будынка.)*

Віктар. Гэта ўсё ўжо ўстарэла, пяцьдзесят год як стала глупствам.

Марыся. Віця, пакінь, пакінь зараз жа. Гэтага ты не смееш чапаць. Я ведаю, ты жартуеш, але з гэтым — і зараз — не жартуюць. Гэтага я не дазволю... нават табе.

Віктар. Так, я сапраўды пажартаваў, дрэнна пажартаваў *(да Марысі, ціха)*. Даруй мне за гэта, любая.

Марыся. Чакай мяне, любы.

Віктар. Чакаць? Ну да, як жа... чакаць. Я вельмі кахаю цябе, буду чакаць... Але бывай. Бывайце, Цыкмун Пятровіч!!!

Асінскі не адказвае, Віктар выходзіць.
Некаторы час ціха, толькі чуваць кумканне жаб.
Потым з'яўляецца Андрэй, перапэцканы мукою, пасталелы.

Андрэй. Цыкмун Пятровіч, я спыніў працу. Малоць няма чаго.

Цыкмун. Ну што ж, на сягоння пашабашым. Ты еў хаця што-небудзь, сынок?

Андрэй. Нічога, я зараз пайду, мне трэба наведацца ў Чарнабогі. Нешта зноў рука баліць.

Цыкмун. Казаў табе, не цягай такія мяхі. Гэтак няцяжка і грыжу зарабіць. Адпачывай. На млыне я дараблю.

Цыкмун выходзіць.
Андрэй і Марыся сядзяць, апусціўшы вочы.

Андрэй. Што з табою, Марыся. Мне балюча глядзець на цябе. Нейкая ты сумная, як асенні дзень. Ці не магу я табе дапамагчы чым?

Марыся. Не, Андрэй, тут і ты мне не дапаможаш. Смутна ў будучым. Але дзякую, ты добры друг. З табою дзяўчыне спакойна і не страшна.

Андрэй. Сумны камплімент. Я б жадаў, каб табе са мною не было спакойна. А страшна? Няхай іншыя страх выклікаюць, я чалавек просты.

Марыся. Мне заўсёды добра з табою, Андрэйка.

Ты ўтульны, добры. Але ад сапраўднага чалавека, ад Георгія-перамоганосца мала ў табе ёсць чаго.

Андрэй. З табою... з табою быць грозным, гордым? Нельга ж так.

Марыся. Аднак вось па Віктару адразу можна бачыць, што гэта за чалавек. Нязломны, сумленны.

Андрэй. Ат, Віктар. Што пра яго казаць. Не варта.

Марыся. Чаму ты яго не любіш? Гэта несумленна. Ён ніколі дрэнна пра цябе не кажа. А гэта дрэнны спосаб спадабацца мне: лаяць таго, хто мне дарагі. За што ты яго?

Андрэй. Я кахаю цябе... Я так кахаю цябе, што дыхаць не магу, няміла мне ўсё без цябе, жыцця няма.

Марыся. Андрэй, дарагі, не пакутуй... Дарагі ты мой, стары сябра мой. Можа, усё было б іначай, каб я не сустрэла яго, лепшага чалавека на свеце. Ён верны, ён верна будзе кахаць мяне. Мы вырашылі пажаніцца, як толькі скончыцца вайна. Табе цяжка, але такое лепей ведаць адразу. Не сумуй толькі, сябра. Не трэба.

Андрэй. Мне абы толькі ты шчаслівай была, здаровай, вясёлай. Я, вядома, бервяно, куды мне да такой, як ты. Але я цябе кахаю, я не вытрымаю, калі з табою здарыцца што. Таму я не магу крывіць душою. Іншы, можа, маўчаў бы, каб на яго не думалі, што ён гэта з нізкіх пачуццяў, з рэўнасці, з зайздрасці. Але па мне хоць бы хто быў, толькі не ён. Не люблю яго. Несур'ёзны ён. Сэрцам адчуваю — дрэнны ён.

Марыся. А можа, проста зайздрыш? Розуму зайздрыш, прыгажосці яго. Сорам!

Андрэй (*пабялеў, устае*). Кепска ты мяне ведаеш. Урачыста кажу, ад думкі маёй не адступлюся, не дам зглуміць тваё жыццё. А там будзь шчаслівай з кім хочаш. Я цябе кахаць заўсёды буду, і дай табе бог быць шчаслівай з іншым. А я моўчкі кахаць буду ці мёртвым прыцягнуся да цябе і другі раз памру. Будзь шчаслівай, жыві, радуйся. Як я цябе кахаю, няхай столькі і шчасця табе будзе з іншым... Бывай.

Амаль бяжыць. Марыся разгублена глядзіць услед.

Марыся. Не трэба! Андрэй!

Андрэй знік.

Што ж гэта атрымалася? Што я гэта яму сказала, не

герой, але сэрца добрае, але ж шчыра мяне кахае! Ох, што ж я нарабіла!

Уваходзіць Цыкмун.

Цыкмун. Чаго гэта ты божкаеш так? Андрэя шкода? Мне таксама. Што ты яго мучыш?

Марыся. Не ведаю. Раслі разам, разам за «баранчыкамі» ў лугі хадзілі, разам лазілі ў садкі за яблыкамі. А зараз я не ведаю, такая я маленькая, такая дурная... Віктар з'явіўся, добры, разумны, на Андрэя не злуецца.

Цыкмун. Вось гэта і дрэнна. У наш час былому саперніку косці б пераламалі, а тут *(перадражнівае)* «не злуецца».

Сядае поруч з дачкою.

Ходзім мы з табою, дачушка, па нажы над ямаю, кожную хвіліну можам кувырнуцца, і тады — зацягнуць нам вяроўкамі шыі. Выбірай чалавека сапраўднага, каб было чым успомніць кароткі век свой... І ведаеш, чаму мне Віктар твой не падабаецца? Таму што наш чалавек, не чыноўны па бацьку, а трымае сябе, як шляхцюк. Мы яго высунулі, нашай воляю ён стырчаў, як пузыр на вадзе, і адразу забыўся, скуль ён і хто. Сапраўдны начальнік, вось як Каляда, заўсёды просты, а гэты спачатку адгарадзіўся ад нас кабінетнай сценкаю, а зараз імкнецца адгарадзіцца сваёй надзвычайнасцю. Ну няхай ён надзвычайны, няхай яму ўсе абяцалі будучыню не абы-якую, але ўсё ж сапля ён у параўнанні,— ну, хаця б з такім чалавекам, як Купала, а я Купалу бачыў, сам з ім размаўляў. Просты ён быў: і паразмаўляць з чалавекам, і паспачуваць, і, галоўнае, паслухаць чалавека, і выпіць нават з ім. Прастата чалавечая — вялікая справа, такога чалавека з усіх бакоў іншыя падпіраюць, ён як сасна ў бары, а той, хто адгараджваецца, той адзін у полі пад вятрамі. І папомні мае словы, той, хто вось так адгараджваецца ад людзей, рана ці позна хрупне ў спіне і зваліцца, бо ў адказны момант у душы сваёй, у сваім народзе не адчуе падтрымкі. Гэта, дачушка, тая кантора, скуль вярбуюць дрэнных людзей.

Марыся *(амаль са слязамі)*. Ах, татка, ну нічога, нічога я не ведаю! Цяжка мне! І яго я не ведаю, і вас не ведаю... і сябе...

*Пры апошніх яе словах з-за будынка з'яўляецца* Тэкля Каваль *з кошыкамі цераз плячо, асцярожна ставіць іх на лаву. Яна даволі высокая, з прыемным тварам і добра збераглася для сваіх гадоў. На ёй цёмная вопратка з белым фартухом. Гаворыць рэзка і ўладна.*

Тэкля. А хто з нас ведае сябе. Ніхто не ведае.

Марыся, Цыкмун *(разам).* Цётухна! Здарова, Тэкля. Нешта даўно я не бачыў цябе.

Тэкля. А табе, бацюхна, і бачыць мяне не трэба было. Ты на дзеўку лепей глянь, да слёз давёў. Чаго ты яе пілуеш, стары грахаводнік?

Цыкмун. Лепей зараз няхай паплача гадзіну, чымсьці потым век плакаць.

Тэкля. Ты ўжо маўчы. Я вам прынесла тое-сёе. Ідзі там разбярыся.

*(Цыкмун пайшоў. Тэкля прысела да Марысі.)*

Фу-у! Запарылася. Але стары конь трымаецца, пакуль на нагах. Дык што ж гэта ты так разрумілася? Што з табою?

Марыся. Сэрца маё неспакойнае, цётухна.

Тэкля. Гэта дрэнна. Але што паробіш, заўсёды так было ў чалавека, што спакою яму не было. А ты плюнь. Колькі я сябе памятаю, заўсёды мужыкі адзін аднаму глоткі перарывалі, заўсёды ў вайну гулялі. І яшчэ зараз вайна сапраўдная, неспакою ў сэрцы быць не павінна. Раней, думаеш, спакайней было на сэрцы? Вось як у мяне пайшоў мужык на вайну, не пайшоў — павялі, засталася я адна, з дзяцьмі дробнымі. Колькі слёз было, колькі нястачы! *(Прыглядзелася, кажа іншым, сур'ёзным тонам.)* І каханне заўсёды было не мёд. Сусед мой, Кандрат, я яшчэ дзяўчынкаю была, ажаніцца хацеў на дзяўчыне з суседняга пачынка. І ўсё добра было, пакуль ягоны бацька з бацькам нарачонай на мяжы не папароліся граблямі да смерці з-за зямлі. Або яшчэ, Базылёвых ведаеш? Дык вось, Янка Базылёў хадзіў да Анэлі з вёскі Казлы, а яе аддалі за суседа. Янка на вяселлі напіўся і лёг на снег, сухоты жадаў зарабіць. Не зарабіў, але пальцы на руках адрэзалі, стаў калекам. І шмат яшчэ такіх невясёлых гісторый было. Так што, калі ты пакутуеш, дык гэта глупства. Цяжкі наш лёс: не ведаем мы дня ані часа. Ніхто ж не забараняе табе цяпер выбіраць таго, каго жадаеш.

Марыся. Ды не, цётачка. Я сама не ведаю, чаго мне цяжка. Можа, таму... *(схлусіла)*, што зубы вось баляць.

Тэкля. Ну, гэта нічога, гэтаму гору мы дапаможам. Пажуй маўнкорань, і ўсё як рукой зніме. І наогул, травы вывучы, хоць некаторыя, гэта патрэбна. Давай вось я табе першы ўрок дам. Гэта што?

Марыся. Баражоўка.

Тэкля. Так, яе трэба даваць, калі чалавек на лёгкія захварэе і адхаркнуць не можа... Тут і алцей дапамагае. А вось гэта чабор, таксама лёгачная трава. А там унь чарнакорань, пакладзі пад падлогу — мышэй не будзе ў хаце. Вось так яно й вядзецца на свеце, амаль кожная трава на якую-небудзь карысць. А замовы — глупства. Адна толькі замова дапамагае і якраз ад зубоў. Хочаш дапамагу?

Марыся. Давайце ўжо.

Тэкля *(шэпча)*. Зара-зараніца, сонца — светлая маці, дапамажы памагаці. На моры-акіяне, на востраве Буяне стаіць камень, на тым камені жарства, над той жарствою дуб зялёны, пад тым дубам ваўкі выюць... Каб жа ж і ты выла так ад зубнога болю.

Марыся *(засмяялася)*. Здаецца, дапамагло, цётачка.

Тэкля. Ну ай добра. Глядзі, дзетухна, не сумуй. Гэта ўсё пройдзе. А галоўнае, як раней спявалі:

Праўда, праўда ў свеце,
Праўды не ўзыскаці, праўда ёсць.
Як цяжка дзеткам без маткі пражыці,
Так цяжка свету без праўды пражыці.

І перад гэтай Праўдай нашай нашы маленькія праўдачкі — глупства... Цыкмун, дзе ты там?!

Цыкмун *(выйшаў з-за будынка)*. Чаго табе?

Тэкля. Я пайшла. Вось што я толькі табе скажу. Уначы, хлопча, не працуй, гукі па ветры і да нас даляцяюць. Праўда, той, хто не ведае, не здагадаецца, але лепей не трэба. Немцы ходзяць па пушчы. Я й то чакаю, што вось-вось да Чарнабогаў дабяруцца.

Цыкмун. Добра. Ты б папярэдзіла нас на такі выпадак.

Тэкля. Не ведаю. Я хоць і старая, але мне жыццё не абрыдла, вельмі ўжо лезці на ражон не буду, мы пра гэта не дамаўляліся.

Пайшла. Цыкмун сеў ля Марысі на траву.

Цыкмун. Трэба табе, пэўна, Марыська, перабіраццa глыбей у лес, да Каляды.

Марыся. Ты што, татка, жартуеш? Кіну я тут цябе і справу, чакай яшчэ. Вось што, ты мне лепей раскажы нешта старое-старое, каб такі ж час, як наш, каб героі былі, каб усё на карту ставілася... Даўно мы з табою ўжо не размаўлялі.

Цыкмун. Што б табе расказаць? Хіба што пра гісторыю белага воіна.

Марыся. Раскажы.

Цыкмун. Добра. Вось закуру толькі... Дык вось, было гэта дзвесце год таму. Яшчэ больш страшная навала прыйшла на нашу зямлю, але мы выстаялі, як выстаім, вядома, і зараз. Мы — каменныя. Але было цяжка, вялікае пала гора... Па начах білі гакаўніцы недзе па-над Сожам-ракой і нешта палала, палала... палала...

*Заслона*

# ДЗЕЯ ДРУГАЯ

## КАРЦІНА ТРЭЦЯЯ

Кабінет Адлерберга. Той самы кабінет, што і ў першай карціне першай дзеі, толькі тут адбыліся некаторыя змены. На вокнах цяжкія чырвоныя шторы. У правай сцяне зроблены электрычны камін. На супрацьлеглай сцяне нейкі маляр намаляваў ландшафт: Рэйн, зялёныя горы і вежы на іх. Ад гэтага пакой стаў нейкі чужы, надзвычайны. У крэслах ля камінка сядзяць граф Адлерберг, камендант горада, і ягоны сябра, гаўптман Зігфрыд фон Ільзенвельдэ. Тут жа маленькі столік, бутэлька віна. Точыцца ціхая размова. За вокнамі позні вечар, дождж. З рэпрадуктара музыка Вагнера.

Адлерберг. І ўсё гэта, урэшце, глупства. Нават уласныя нашы салдаты глядзяць на нас павучымі вачыма, хаця іх вядуць зараз праз перамогі, кветкі, славу. За душою ў нас ані паламанага шэлега. Зараз — галеча духоўная, потым — смерць, а пасля, зусім па Дастаеўскаму, шматгадовае ляжанне ў яме

сярод павукоў. Паўсюль на зямлі адна мярзота, і калі ёсць, нават нешта станоўчае, дык гэта полымя, віно, ціхая размова з табой, мой любы друг. Адсюль вывад: менавіта тымі самымі добротамі карысталіся пітэкантрапы. Толькі ў нас замест вогнішча — электрычны камін, замест настою з мухамораў — бардо (трохі цяжкаватае для страўніка), а замест размовы пра паляванне — размова пра сучасны дадаізм. Змены, як бачыце, толькі фармальныя, а сутнасць тая самая.

Ільзенвельдэ. Я ў гэта ніколі не паверу, Паўль. Жыццё развіваецца. Вядома, тут многія зняверыліся ў нашай перамозе, хаця мы і рухаемся наперад. Але я скажу табе па сакрэту, што падтрымлівае мяне. Гэта Германія, яе веліч. Я веру, што, калі нам давядзецца цяжка, адчыніцца гара Кіфгайзер і стуль з'явіцца вялікі Барбароса з рыцарамі. Памятаеш?

Хвацкія ў бітве, ўдалыя ў сядле,
Выспаліся на славу.
Вырашыў Кайзер вялікі ўчыніць
Забойцам суд і расправу.

Адлерберг. Той чалавек, які напісаў гэта, зараз забаронены. І твой рамантызм тут недарэчны, бо далей, як памятаеш.

Забойцам нявіннай кветкі маёй
З вачыма праменнымі дзевы,
Залатакудрай Германіі,
Сонца, ты, полымя гневу!
На ўсіх, хто ў багатых замках сваіх
На сорам забыўся просты,
Пятлю адплаты вяжа рука
Караючага Барбаросы.

Так што прыклад няўдалы. Гэта напісана патрыётам не ў нашым разуменні. І гэта досыць дрэннае прароцтва адносна нас. Скончым давай пра гэта.

Ільзенвельдэ. З табою, Паўль, зусім нельга размаўляць. На ўсё ўзвышанае ў цябе знойдзецца неадменна нешта дрэннае. А я не веру ў наш канец. Вось мы тут і пойдзем яшчэ далей, і хоць мне агідна глядзець на гэтых мардатых афіцэраў, але я гляджу на нашы поспехі і пачынаю думаць, што фюрэр — гэта Калібан, у якім, як гэта не парадаксальна, увасобілася ідэя Дабра, ну няхай не дабра, але Велічы. Ён з'явіўся вяршыць вялікую справу, і ў ім душа нашага народа. Ён, магчыма, і ёсць абсалютны дух

справядлівасці. З'явіўся ў выглядзе мільёнаў і чыніць справу ўваскрасення людзей да новага жыцця.

Адлерберг. Ты, Зігфрыд, не філосаф. *(Пазяхае.)* Я не лезу ў такія нетры. Ва ўсякім выпадку, у яго нельга адняць цвёрдай волі... І вось яшчэ што, выключы ты гэта глупства. Не люблю Вагнера... Штукарства!

Ільзенвельдэ. Дарэчы, фюрэр яго любіць, і да таго ж прыгожа, эпас.

Адлерберг. Гм... Цябе замясілі на ружовай вадзе... Ах-ах, нібелунгі! Ах, бойка ў палаючай зале!.. Гаген п'е кроў!.. Скарб Рэйна! А я не спадзяюся на лепшае. Рухаемся мы дрэнна, сустрэліся з самым перакадзіўным народам на свеце... І я яшчэ болей пераканаўся ў гэтым, калі пабачыў тутэйшых мужыкоў. Прымітыўныя і жахлівыя, як вандэйцы. Я не ўпэўнены ў тым, што наш эпас, музыку, філасофію трэба было, як ты кажаш, насаджаць тут. Ды яшчэ зброяй. Пфуй!

Ільзенвельдэ. Ну і што ж рабіць?

Адлерберг. Што? Вешаць. Нарэшце, людзі паўсюль аднолькавыя. Аднолькавае ўгнаенне пад ідэі, а якія з ідэй верныя, і сам бог не разбярэцца. Сёння буду я вешаць, а заўтра, калі ласка, вешайце мяне, я не пакрыўджуся.

Ільзенвельдэ. Не жартуй, Паўль. Я ведаю, ты не такі. Іначай чаго б ты даваў салют па таму рускаму пілоту.

Адлерберг. А што ж ты мне прыкажаш, рабіць як гэты парвеню Швальбе? Страляць людзей? У мяне для гэтага занадта тонкія нервы, я ўсё ж інтэлігент. Гвалтаваць, паліць, у ямы закопваць — не мой профіль. Але і зрабіць што-небудзь з гэтым паскуднікам я не магу і, праўду кажучы, не жадаю. Людзі — цвіль на нашай планеце. І я, і гэтыя тутэйшыя мужыкі аднолькава не ведаем, нашто з'явіліся, чаго жывём, куды знікаем. Так што ўсё адно... Вось толькі цябе я яшчэ люблю, мой малады, прыгожы, гарачы, сумленны нават у памылках, друг. Ты думай, можа, і выдумаеш нешта вартае, а я так ужо неяк пражыву, сузіральнікам. Спакайней будзе.

Ільзенвельдэ. Каб цябе ставілі на адну дошку са Швальбе? І не страшна? Ён з тых людзей, што, калі б перад ім Хрыста раскрыжоўвалі, ён бы сядзеў і

аршад піў з асалодаю, бо Хрысту піць хацелася б.

Адлерберг. Ну і што? Не ўсё адно, калі наперадзе мне і яму тая ж яма. *(Пазяхае.)* У венскім паноптыкуме паказвалі чэрап высакароднага рыцара, а пасля выявілася, што пераблыталі экспанаты і гэта не рыцар, а вядомы гільяцінаваны злодзей. Аднак без паперкі адрозніць чарапы нельга было.

Ільзенвельдэ. Ты не дражні мяне, Паўль. Такія, як Швальбе, псуюць справу германскай культуры на гэтых землях.

Адлерберг. Я ўжо сказаў, што не лічу патрэбным, каб тут была наша культура. У іх свая культура, свая музыка, свае сагі, свае балады, свая ідэалогія — гэты марксізм. Яны трымаліся за яго сорак год і, відаць, не вельмі жадаюць яго пакінуць. І, зрэшты, калі ўжо на тое павялося, яны лепшыя, чым мы. Просты, вялікі, чыстасардэчны народ. Я захапляюся іхнімі саматужнымі вырабамі, у іх вялікая будучыня, хоць няма, пакуль што, свайго Гётэ. Яны шчырыя, гасцінныя, мужныя людзі. Што, дабіўся ад мяне дыфірамбаў? А я іх дзесяць год як не спяваў, і вось яшчэ, пакуль я зноў не пачаў гаварыць жартамі — на гэты раз ужо да канца дзён сваіх,— я раю табе сур'ёзна над гэтым падумаць, вызначыць свае адносіны да гэтай вайны, і да нямецкага поступу, і да твайго шаноўна-паважанага фюрэра... Пакуль не позна. І ведаеш яшчэ чаму? Гэта іхняя новая ідэалогія, як бы мы яе ні лаялі, робіць іх у сто разоў мацнейшымі. Гэтага не трэба забываць.

Ільзенвельдэ. Ты — і раптам сур'ёзнасць... Добра... я... падумаю.

Адлерберг. Можа, я і памыляюся. Але скажу адно, хай фюрэр будзе хоць тройчы геніем у справах палітыкі і вайны, але ж ён такі — дрэнны мастак. Дапусціць, каб дзяржавай кіраваў бяздарны мастак — гэта ў духу немцаў. А я не магу так — і таму я не немец, не афіцэр, не камендант, я проста скептык, якому да таго ж вельмі хочацца спаць і які не дачакаецца сустрэчы са Швальбе, каб пасля адправіць яго да д'ябла, пачытаць штосьці вясёлае з твораў тутэйшых паэтаў (раю, мова паходзіць на рускую). І пайсці ў абдоймы Марфея.

Гудок аўтамашыны.

Здаецца, Швальбе, уласнай персонай. Не ўставай, Зігфрыд, замнога гонару.

Адчыняюцца дзверы, уваходзіць Швальбе, за ім Ранцоў, Штаркенфауст, Ламсдорф і Эверт.

Швальбе. Зіг хайль!

Ільзенвельдэ, Адлерберг — Зіг хайль!

Швальбе. Зачакаліся мяне? А я з таго ёлупа, што вы прывезлі, Адлерберг, здабыў тое-сёе цікавае. Ён чакае ў прыёмнай... Ну што ж, не будзем дарэмна ганяць час, нам яшчэ трэба дагаварыцца пра ўзаемаадносіны ў аперацыі.

Адлерберг. Сядайце, панове. Зігфрыд, адкрыйце карту. У вас, Швальбе, дзіўная страсць усё прыкрываць літарамі і нават асенізацыйныя работы на вадакачцы называць вытанчана, нешта накшталт «Эдэльвейсы квітнеюць», як быццам справа ідзе пра чарговы наступ арміі. Мы з вамі невялікія палітыкі, абыдземся простымі словамі: «Аперацыя супраць партызанскай брыгады нейкага Дубоўскага».

Швальбе. Пазнаёмцеся... Камендант Адлерберг... гаўптман Ільзенвельдэ... маёр Ранцоў, нязломнасць, старанны афіцэр: ...Штаркенфауст, розум і моц. ...Фердынанд Эверт, «свой» хлопец. Ламсдорф. Лічу, што далейшая частка збораў пасля такога знаёмства будзе праходзіць нявымушана.

Адлерберг *(да Ільзенвельдэ)*. Амікашонства нейкае. Штучная «свойскасць». А сам проста жывёла. *(Уголас.)* Сядайце, панове.

Швальбе. Дык вось, Ранцоў, Штаркенфауст, Ламсдорф, Эверт прыбылі з карным загонам. Загад — камандавання — засцерагчы ад небяспекі тры чыгункі, што праходзяць у наваколлі горада. Зараз справы дрэнь. Справы трагічныя. Рух — ад выпадку да выпадку. У дапамогу Ранцоў вылучылі частку сілы каменданта горада. Загад: аб'яднанымі сіламі прыкончыць загон Дубоўскага.

Ранцоў. Выканаем.

Швальбе. І я думаю. Але дзе яны? Разведкі няма, звестак ніякіх.

Штаркенфауст. Дазвольце мне. Хаця мы і не ведаем, але мне здаецца, што перш за ўсё іх трэба шукаць у самым вялікім масіве: Звініцкіх пушчах.

Адлерберг. Р-разумная прамова. Але вы не ведаеце гэтага народа. У іх тут у кожнай страсе арсенал, у кожнай хаце інсургент. І, можа, не пушчы, а любая вёска з'яўляецца месцазнаходжаннем гэтых людзей.

Ранцоў. Выселім.

Швальбе. Не маем пакуль што магчымасці. Рэпрэсіі супраць мясцовых жыхароў — пасля. Але Штаркенфауст таксама мае рацыю. Пушчы трэба блакіраваць.

Штаркенфауст. Пакуль возьмемся за блакаду — нядрэнна было б узяцца за тыя вёскі, якія ляжаць у раёне пушчы. Якая вёска лічыцца тут самай глухой?

Швальбе. Чарнабогі.

Штаркенфауст. Заняць яе, направіць загон у лясніцтва, якое я тут бачу, у хаты палясоўшчыкаў. Жыхароў хат расстраляць, хаты спаліць.

Швальбе. А пасля гэтага пачнём метадычнае прачэсванне пушчы. Пачнём з поўдня і з поўначы, ад лініі чыгункі.

Штаркенфауст. Іх трэба паступова адцясняць у мяшок паміж гэтымі рэкамі. Вакол — дрыгва. Яны пападуцца там, як мышы ў пастку.

Швальбе. А зараз і я парадую вас. У мяне ёсць чалавек, які сёе-тое ведае, хоць вельмі мала.

*Націскае званок, у пакой салдат уводзіць Трубайлу.*

Адлерберг. А, гэты бандзюк.

Швальбе. Шляхціц Трубайла паведаміў, што ў апошнія гадзіны горада, яго, Трубайлу, прывялі да старшыні гарвыканкома Каляды. Што вы чулі там?

Трубайла. Прашу дараваць мне, панове, але я чуў мала. Мяне амаль адразу загадалі падвергнуць страце цераз расстралянне. Я паспеў зразумець, што справа вялася пра ўстаткаванне млына недзе ў пушчы. Размову вялі Каляда і Сміхальскі, адзін з іхніх начальнікаў. Казалі, што млын павінен абслугоўваць вялікую колькасць людзей. Казалі яны і пра месца, але я забыў. Я быў у такім становішчы... Але я абавязкова ўспомню.

Швальбе. Добра. Пойдзеце разам са мною і маёрам Ранцоў. Выведзіце яго.

*Трубайлу выводзяць.*

Я, здаецца, прадчуваю той момант, калі яны заскачуць у паветры. І дай бог, каб я быў добрым пракокам. Я задам ім лазню.

Штаркенфауст. Ну што ж, нядрэнна. Мы ведаем зараз, што яны ў пушчах, што Чарнабогі належыць узяць за глотку, што там недзе ёсць нават млын, значыцца, гаспадарка нядрэнная. Нам трэба шукаць перш за ўсё гэты млын. Заняўшы або спаліўшы яго і блакіраваўшы пушчу, мы задушым іх голадам.

Штаркенфауст. І я схільны да таго, каб млын, калі адшукаем, не паліць. Заняць яго невялікім гарнізонам. Гэта будзе нядрэнная прынада для галодных.

Ільзенвельдэ. Але гэта не ёсць метад сумленнай вайны.

Штаркенфауст. Вы ідэаліст. Якая можа быць з імі сумленная вайна. Гэта дзікуны, і гэтыя дзікуны знішчылі, за апошні час, сем нашых вайсковых гарнізонаў. Я ўжо не кажу пра дыверсіі і сабатаж на чыгунцы. І яны становяцца ўсё больш нахабнымі. Нельга выйсці ўначы з хаты. Дол для мёртвых, пекла для жывых — вось адзіны метад з імі.

Швальбе. Ну вось і кароткі план. Вы, Адлерберг, трымаеце, згодна загаду камандавання, наваколле горада і паўночную ветку чыгункі. Я бяруся за лясніцтва. Ранцоў і вы, паны афіцэры, займаеце Чарнабогі і прачосваеце паўночную частку пушчы. Гаўптман ідзе з вамі. Пасля мы ў згодзе з паўднёвымі часцямі пачынаем блакаду. Гэта складаная і не хуткая справа, але я пастаўлю гэта пытанне перад камандаваннем. Адсунуць іх у балотны мяшок і знішчыць голадам і зброяй. Вось здаецца і ўсё. Падрабязна — заўтра. Аперацыя пачнецца праз тыдзень. Я лічу, што ўсё ясна? Можна разыходзіцца, панове.

Афіцэры развітваюцца, выходзяць. Швальбе выходзіць апошнім, ціха размаўляючы пра нешта з Адлербергам. Нарэшце ўсе пайшлі. Засталіся Адлерберг і Ільзенвельдэ. Ільзенвельдэ круціць радыёпрыёмнік, чуваць гукі 5-й сімфоніі Бетховена.

Ільзенвельдэ. Гэта, вядома, вайна, але гэта не вайна рыцараў. Гэта не нямецкая вайна. І гэта жахліва, жахліва, душыць людзей голадам, няхай яны і ворагі.

Адлерберг. Ты што, не бачыў рускіх палонных? І наогул, хоць людзі і цвіль, але жахлівым будзе лёс гэтых хлопцаў. Дзіўна, аднак, бывае: лёс тысяч людзей залежыць ад памяці аднаго прахвоста.

*Заслона*

## КАРЦІНА ЧАЦВЁРТАЯ

Хата Тэклі Каваль. Звычайная вялікая сялянская хата з неатынкаванымі сценамі. Вялізныя, выступаючыя бэлькі на столі. Хата перагароджана вышыванай занавескаю, якая ў першую палову дзеі адшморгнута. Перад занавескаю: злева — дзверы з хаты, справа — адгароджаныя перагародкаю, мыцельнік і печка. У мыцельніку стол, паліцы з міскамі, на печы відаць пучкі сухіх траў. Ад дзвярэй, па левай сцяне, куфар, стол і лавы ў кутку пад іконамі (у гэтай сцяне два акны). На той сцяне, што перад гледачамі,— фатаграфічны партрэт пад ручніком, ля акна. Там жа стул і старадаўняя пузатая камода. На сцэне Апанас Жаўрук світцы, Тэкля Каваль ля стала, у мыцельніку. На стале пакункі, скруткі. Стол пад абразамі сервіраваны. Восень, за вокнамі блакітнае неба і жоўтыя кусты. Знадворку далятае сумны крык жураваў, якія цягнуць у вырай.

Тэкля. Жоравы лятуць, Апанас. Смешна гэта, а я б таксама з імі паляцела. Што мяне трымае? Цяжка мне. А яны сабе палятуць далёка-далёка, аж за мора сіняе. Я памятаю, дзяўчынкаю ляжаш на мяжы, палынок, бадзякі ў траве, павуцінкі плывуць. І ўсё такое чыстае, і жоравы крычаць. Замахала б рукамі, узляцела, прыстроілася ў хвост іхняму кліну. Нельга.

Жаўрук. Надта ўжо цяжка. Месяц як шукаюць партызан — не вытанцоўваецца. Злыя, як асеннія мухі. Твой гэты маёр хаця нічога?

Тэкля. Скнара! Цукар на пальцах peралічвае. Учора, котка, калі я за дровамі пайшла, сцягнула каўбасу. Бягу з дровамі — аж мне гэта тут у галаву — бягу і думаю: «Божухна, не папусці!» Прыйшла і бачу: Кабздох мой стаіць над каўбасою і на котку вурчыць. Ён у мяне такі, сам не з'есць і іншаму не дасць. Выратавала мне жыццё царыца нябесная. А што гэта, Апанас, ты сядзіш неяк так дзіўна, быццам зараз пойдзеш?

Жаўрук. Іначай не магу. Ты ж ведаеш, як было, каб ім у пекле патэльні падмазвалі, з гэтым Мацке-

вічам. Калісьці я і ён заляцаліся да маёй жонкі будучай. Тая мяне выбрала. Паскудзіў ён мне як мог. Біліся два разы на год абавязкова. Дваццаць пяць год прайшло, сам ён жанацік, дзеці вялікія, думаеш, ён мне даравау, харцызяка? Прызначылі яго месяц таму старастам. Здаецца, ніхто на яго пакуль што не скардзіцца, адзін я толькі. Дня не праходзіць, каб не прычапіўся да якога-небудзь глупства і немцам не данёс. А ў тых справа кароткая — адшмагаць палкамі, і скардзіся пасля нямецкаму богу. Білі, праўда, шануючы гады, не знімалі світкі, дык я пад яе на тое месца, на якім нават цар сядзіць, кажушаную латку нашыў. Дапамагло пару раз. Дык што ж ты думаеш, на трэці дзень, падлюкі, знялі не толькі світку, але і нагавіцы, і тады, вядома, латка не дапамагла. Ведаеш, Тэкля, я добры чалавек, але да таго мяне зацкавалі — дай час, прыйдуць нашы. Вазьму стрэльбу, зайду да яго ў хату, скажу «маліся» — і, хаця б жонка маліла за яго на каленях, трахну яму ў лоб. Так і ўяўляю: сядзіць ён, капусту жарэ, а я яму ў лоб. Каб мазгі ў міску паплылі. Жыццём дзяцей бажуся, так і зраблю, дальбог. Раз'юшыўся, азвярэў народ.

Паўза.

А ты ўсё варыш, нябога?

Т э к л я. А што ж мне рабіць? На ражон лезці? Сёння ў іх гулянка нейкая будзе. Вось і гатую. Кохвей ім на спіртоўцы іхняй вары, суп вары, як той каралеўне, што жадала пірагоў з жабамі, рысавы, з сухімі слівамі, лыжкай не правернеш. Наша сумленная груца, па-іхняму, ежа для свіней ды для нас. Але я, Апанас, на ражон не палезу з-за таго толькі, што яны ядуць, як свінні. Я вялікага дабра ад савецкай улады не бачыла, арыштаваць хацелі за гэтыя вось травы. Я памерці па-людску жадаю, а не на шворцы, як сабака які, даруй мне божа.

Ж а ў р у к *(устае)*. Злая ты баба, Тэкля... Ты вось пра арышт памятаеш, а пра тое, што дачка твая з дзярма, з хлопства, у ваяводы папала, на доктара вывучылася — дык гэта не, не памятаеш.

Т э к л я. А ты мяне не вучы. Мне не многа ласкавых слоў за жыццё перапала, дык і я, таксама захачу — бурчаць стану, захачу — лаяцца буду.

Жаўрук. Я б на тваім месцы, Тэкля, не так рабіў, але што ж, твая справа.

Жаўрук пайшоў, Тэкля ўвіхаецца ля печкі, бурчыць. Праз некаторы час заходзяць Штаркенфауст, Вольфганг Ламсдорф, Фердынанд Эверт, яшчэ два драбнейшыя афіцэры. Прайшлі ў чыстую палову хаты.

Эверт. Нун, гусь, бяры свае ногі ў ахапак і гатуйся частаваць. Маёра чакаць не будзем. Што гэта ты задумалася? Мо замуж хочаш? За мяне?

Тэкля (*ціха*). Гусь такому кабану дурному, як ты, не таварыш.

Эверт. О-о, дурань матка. Глядзі, пух-пух будзе.

Штаркенфауст. Эверт, хадзі сюды. Няма чаго з ёю размовы весці. А ты, жанчына, рабі свае справы, інакш заробіш на старасці год. Гэта табе не саветы. (*Афіцэры сядаюць. Штаркенфауст кажа ціха.*) Справы дрэнныя, панове. Што зрабілі за гэты месяц? Нічога?

Эверт. Ну, гэта як хто. Я не без прыемнасці правёў час. Жанчыны тут — Венеры Бельведэрскія.

Штаркенфауст. Поспехам асаблівым вы, аднак, не карысталіся. Вы, Эверт, наогул, хвалько. І было б значна лепей, калі б вы займаліся не спадніцамі, а сваімі справамі. І яшчэ я даведаўся: калі малы сын гэтага... Жаўрука залез у вашу банку з варэннем — вы толькі вынеслі яго за вушы з хаты, як самавар.

Эверт. Дурань, бубэ.

Штаркенфауст. Вы спрыялі дрэнным інстынктам гэтага народа. Яны ўсе як адзін зладзеі. Трэба было б, на першы раз, адлупіць, а калі паўторыць — стрэліць на месцы, як збрадлівага сабаку.

Ламсдорф (*нервова*). І наогул, Эверт, вы з вашай лагоднасцю дрэнна скончыце. Справы дрэнныя! Мясцовыя жыхары — шыбенікі! Дзікі край! За гэты час прачасалі ўсю паўночную частку пушчы — ані слядоў, ані намёкаў на гэты млын і на інсургентаў. Ненавіджу! У кожнай хаце па пяць дзяцей і кожны — будучы бандзюк. Калі б знішчыць кожнага чацвёртага — і то б не дапамагло. Што мы, урэшце, будзем рабіць, Штаркенфауст, шляхі невядомыя, паглыбляцца ў пушчу — небяспечна!

Штаркенфауст. Шукаць. І не трэба быць пані-

кёрам, Ламсдорф. Будзем паглыбляцца ў пушчу па рэчках і ручаях...

Ламсдорф. Якія губляюцца ў дрыгве, упадаюць у лясныя азёры, утвараюць з межытокамі сапраўдныя лабірынты! Вы звар'яцелі, Штаркенфауст, не гледзячы на ваш халодны, як нож, розум!

Штаркенфауст. Я, перш за ўсё, не крычу. А вось калі вы будзеце так хвалявацца — месца ў бедламе вам забяспечана.

Ламсдорф. І добра. Лепей бедлам, як гэтыя лясы і ваша суседства. Прыхлопнуць брыгаду нам не ўдасца, хутчэй яны нас прыхлопнуць.

Штаркенфауст. Бацька мой сумленна загінуў за месяц да майго нараджэння, у першую вайну. Дык вось, калі мы іх не знойдзем, я згаджуся загінуць не ад сумленнай кулі, як бацька, а ганебнай смерцю.

Ламсдорф. Як вы не разумееце, рух на чыгунках спыніўся! Дыверсіі. Смерць! Жах! Жыхароў савецкая ўлада сапсавала канчаткова. Нават наш велікапышны дуб, Эверт, разумее, што мы... нічога не можам зрабіць з гэтым народам.

Штаркенфауст. Я не крыўджуся на вас, я добра бачу, гэта ад нерваў. Затое, калі гэта скончыцца, я даб'юся таго, каб не толькі гэтых лясных разбойнікаў павесілі, але і жыхароў навакольных вёсак. Тады я падумаю, што мне адказаць вам, Ламсдорф. Я ўпэўнены, я перажыву апошняга з іх, мала таго, даб'юся, каб гонар знішчыць гэтага, апошняга, належаў мне.

Эверт. А зараз выпіць трэба, панове.

Афіцэры наліваюць. З вуліцы ўбягае Трубайла.

Трубайла. Дазвольце, паны афіцэры. Прашу прабачэння. Я, вядома, не адважыўся б, калі б не такі дэцыдуёнцы момант. Але я, нарэшце, успомніў тое, пра што гаварыў пану Швальбе.

Штаркенфауст. Гэта пра млын? Кажыце.

Тэкля Каваль прыслухоўваецца.

Трубайла. Я прыпомніў, яны казалі, што гэты млын, да яснай халеры, ляжыць на нейкіх Сініх Вірах у непасрэдным суседстве з вёскай Чарнабогі. Яны гаварылі досыць ціха, але я чуў.

Штаркенфауст. Цікава. Вы золата. Эверт, налі шклянку чалавеку.

Трубайла. За здароўечка пана. То добра, душу пакропіць. Але я скарыстаюся выпадкам, каб нагадаць. Па субстытуцыі я — другі спадчыннік. Мой старэйшы брат загінуў, і зараз калішні хутар павінен належаць мне. Можа, вы можаце гэта аформіць?

Штаркенфауст. Добра. Добра. Эверт, яшчэ чарку чалавеку.

Трубайла. Як кажуць, каб не дзірка ў роце — хадзіў бы ў злоце. Ваша здароўечка, панове *(п'е).*

Штаркенфауст. Вам трэба спавясціць пра гэта. Маёру Ранцоў я перадам сам. А вы зараз жа спяшайцеся ў горад, да Адлерберга. Перадайце, патрэбны ўсе яго рэзервы: мы абавязкова нападзём на след брыгады цераз гэты млын. Ясна? Можаце ісці.

Трубайла выходзіць.

Сінія Віры? Трэба распытацца ў людзей.

Ламсдорф. Дазвольце падняць трывогу?

Штаркенфауст. Не, нашто непакоіць перадчасна людзей. Спачатку паабедаем. Сёння суп з чарнаслівам, мой улюбёны. Ранцоў няма — ну і ляд з ім.

Занавеску зашморгнулі.

Тэкля. Што ж гэта робіцца, га? Людзі добрыя? Зусім разгубілася я. Што рабіць? Марыська там! Цыкмун! Млын забяруць, што ж тым, у пушчы, рабіць? Тысячы іх, жанчыны, дзеці маленькія з голаду пухнуць будуць! Іхняя якая правіна, што будуць яны пакутаваць за нашы грахі? ... А можа, нічога? Можа, яшчэ не дабяруцца да млына? Можа, не лезці на ражон? Не, абавязкова дабяруцца. Распытаюць людзей, прачэшуць пушчу на поўдзень — натрапяць. Нашы ж людзі. І мне будзе сорам. Каляда тады паручыўся за мяне, калі судзіць хацелі, на такое месца паставіў цяпер, давярае. А тады і ён у вочы плюне. Марыська адвернецца. Такога сораму сваёй хаце я не зраблю. Але як? Як мне іх папярэдзіць, як гэтых прымусіць маўчаць?.. Так... так... толькі гэта, толькі гэта. Даруйце мне, людзі, калі каму саграшыла. Трэба ўхадзіць. Зажылася на свеце, старая торба.

І ўжо рашуча ідзе за занавеску.

Паны афіцэры, дазвольце аканіцы зачыніць. Лес, ведаеце, можа нешта небяспечнае здарыцца.

Штаркенфауст. Зачыняй.

Тэкля (*ціха*). Зачыню я тваю труну.

Пайшла. Паступова з грукатам зачыняюцца аканіцы. Паўцемра. Эверт запальвае свечы. Тэкля вяртаецца.

Тэкля. Ну вось, зараз не скуголіць, не замовы чытаць. Станавіся перад панам богам, раба божая Тэкля, а то і проста ў яму.

Лезе на печку, дастае стуль пучок сухой травы.

Зараз чыста, толькі вось у каструлю (*робіць гэта і далей, як кажа*), на ежу, дзе магчыма, у кохвей. Многа трэба сыпаць, многа, каб адразу. А цяпер ратуй мяне, маці Багун-трава, даруй, што ўжываю я цябе для такіх... свіней, будзь моцны, рабі адразу справу тваю. Выратуй, божухна, Марыську, і Цыкмуна, і таварыша Каляду, хаця і бязбожнік ён, і дзетак нашых, птушанятак малых. А мяне, калі зробіш так, як прашу, хаця і ў пекла пасадзі, я не паскарджуся, на ўсё святая воля твая.

Эверт. Матка, накрывай на стол.

Тэкля носіць на стол стравы. Афіцэры пачынаюць есці, толькі Штаркенфауст сядзіць і нюхае ежу.

Штаркенфауст (*да Тэклі*). Чым гэта ежа сёння пахне такім... дзіўным?

Тэкля (*халодна*). Можа, кмінам, можа... я гуркі з парэчкавым лісцем салю.

Штаркенфауст, павагаўшыся, пачынае есці. Тэкля адышла да печкі, зашморгнула занавеску, ціха кажа.

Ежце, ежце.

З вуліцы заходзіць маёр Ранцоў, спыняецца ў дзвярах і размаўляе з кімсьці за сцэнай.

Ранцоў. Будзьце ўважнымі, інакш гэта дрэнна скончыцца для вас, Фрыдрых.

Штаркенфауст (*з-за занавескі*). Маёр, просім да нас, мы ўжо пачалі, і тут ёсць для вас тое-сёе цікавае.

Ранцоў. Зараз, зараз, панове.

Тэкля застыла каля печкі, як жывая статуя адчаю.

Ранцоў *(за дзверы)*. Пачакайце, Фрыдрых, вы ўжо паслалі людзей да старога зімніка? Не? Добра. Мне патрэбна праінструктаваць іх *(да Штаркенфауста)*. Я зараз прыйду, панове, адну хвіліначку.

Пайшоў. Тэклю адпусціла. З палёгкаю адвяртаецца ад печкі, але тут жа зноў перапалашылася.

Тэкля. А як жа гэты смоўж, шляхціц гэты? Пра яго я зусім забылася. Ну да млына, каб папярэдзіць, можна і Апанаса Жаўрука паслаць, а як затрымаць Трубайлу?

Лёгкі стук у дзверы, заходзіць пераапрануты ў жабрака Віктар Сміхальскі. За занавескаю дзвэнкаюць нажы.

Тэкля *(шэпча)*. Ты яшчэ чаго тут, блазень? Не бачыш, куды прыйшоў?

Віктар. Цётка Тэкля, што яны тут намерваюцца рабіць? Вас на млыне два тыдні не было, мяне Каляда паслаў, непакояцца ўсе, ці не пранюхалі наконт нас.

Тэкля. Добра, добра, Віценька, што прыйшоў. Млын на валаску вісіць. Трубайла тады ў выканкоме падслухаў частку размовы, расказаў афіцэрам і зараз пайшоў у горад да каменданта, папярэдзіць пра млын. Пакуль што ведаюць толькі гэтыя афіцэры. Але іх я паспрабую не выпусціць. Бяжы, хлопча, спачатку да Жаўрука і накіруй яго на млын, папярэдзіць. Людзі на млыне няхай, на ўсякі выпадак, гатуюцца. А ты бяжы ў горад, прамуй пушчаю, можа, дагоніш. Калі дагоніш, абавязкова забі, забі неадменна. Лепей усе кулі выстралі, як сумнявацца, ці жывога ты яго пакінуў. Калі не дагоніш — папярэдзь Дзюбку: Трубайлу трэба ўбраць хоць у самым будынку гестапа, пакуль не расказаў пра млын. Бяжы, хлопча, паўтары тысячы людзей залежыць ад цябе. А гэтых *(паказвае на занавеску)* я ўжо сама... затрымаю.

Віктар. Трэба і вам бегчы, цётка Тэкля. Іначай загінеце.

Тэкля *(горка)*. Мне бегчы нельга. Можа падвесці мой сродак, давядзецца іншы ўжываць.

Віктар. Чаго гэта?

Тэкля. Ты яшчэ не зразумееш, хлопча. Скажы ўсім, што я хутка памру, ужо зараз памерла. Хай не памінаюць ліхам. А Калядзе скажы, што і травы могуць іншы раз спатрэбіцца. Спатрэбілася і Тэклі

Каваль, ведзьме, яе нагаворнае зелле. Можа, не заўсёды ў турму, можа, і крыж на магіле можна іншы раз паставіць ведзьме. Бяжы, хлопча...

Віктар ідзе да дзвярэй.

Марыську за мяне пацалуй.

Цішыня, афіцэры размаўляюць аб нечым за занавескаю.

Тэкля. Чагосьці не дзейнічае? Напэўна, рана яшчэ. Пранясі, божа, не вядзі сюды другіх афіцэраў... Даўно было, стаяла дзяўчынка ў гародзе, гарбузы ляжалі на сухіх гічках, неба было сіняе, жоравы ляцелі ў вырай. Былі ў гэтай дзяўчынкі анучныя і гліняныя лялькі, клала яна іх спаць у разору, чакала чагосьці ад жыцця. Цяжка цяпер паміраць гэтай дзяўчынцы, не так як трэба чалавеку, не ў ложку, не на руках у сваякоў. Але што ж паробіш?.. Трэба... Але чаму не дзейнічае? Напэўна, трошкі рана. Але цяпер ужо хутка, хутка і адразу. Што ж вы ціхія такія, травы мае? Збірала вас гаспадыня па лясных дарогах, на берагах азёр, збірала, каб лячыць, а цяпер вось, у першы раз, забіваю вамі. Даруйце мне. Ты, скрыпень, знайшла я цябе ў сухім лесе, на выгары. Мёдам нясе ад цябе, нават калі ты сухі, дапамагаў ты чалавеку ад галавы. А вось і ты, трава жабіца, калі жаба ў чалавека, дык жуюць цябе многія і глытаюць сліну, дапамагае. А вось ад варагушы ад хінці, ружовы верас. Ты ў жніўні квітнееш. І лес тады зялёны зверху, ружовы знізу, гудзіць ад пчаліных спеваў. А вось і ты, пасконь, трэба твой цвет у самым пачатку жніўня збіраць і прэжчы ў гарэлцы — для зубоў. Я ў такі сродак не верыла, не ўжывала... А вось і вы, любыя, вось наперстаўка, вось баркун жоўты і белы, раманы. Жывеце вы, травы, ля дрыгвы, жывеце ў смалістых пушчах, жывеце на закінутых лясных дарогах. Лятуць над вамі на поўдзень жоравы, перадайце цераз братоў сваіх ад мяне ім прывітанне. Мне ўжо болей не хадзіць па пушчах, мне вас болей не збіраць чырвонай зарою, летнім ранкам, непагодаю асенняй.

Ціха.

Не дзейнічае чамусьці. Пэўна, стары багун адмовіўся.

Ну, што ж, калі пачала ўжо, дык рабі да канца. Знойдзецца і іншае *(пайшла да печкі).*

Поўны болю і жаху жудасны крык з-за занавескі

Пачалося! Пачалося! Нічога, нічога, гэта спачатку. Праз хвіліну і крычаць ты не зможаш. *(Зноў крык.)* Узяло, узяло вас за пячонкі. Нічога. Здохнеце, скавытаць будзеце. Будзе вам і за кабылу, і за гуску, і за цярпенне маё, і за ўсіх нашых людзей. *(Крык, але слабейшы.)* Нічога, нічога. Ніхто не пачуе. Аканіцы, аканіцы я зачыніла.

Яна вырастае, стае жахлівай, распластала на белым фоне печкі рукі, як раскрыжаваная, як вялікая драпежная птушка. Кідаюцца, мітусяцца па бэльках вялікія цені.

Мітусіцеся, мітусіцеся. Мала вам часу засталося. Мала.

За занавескаю роў, потым толькі стогны. Штаркенфауст апошнім намаганнем падае галавою з-за занавескі. Тэкля хутка кідаецца да яго, штурхае назад. За занавескаю, што адхілілася на хвіліну, бачны Ламсдорф, ужо нерухомы, галавою на стале. Эверт прыгнуўся, быццам яго ванітуе. Потым занавеска падае.

Штаркенфауст *(за занавескаю).* Праклятая баба...

Тэкля. Ну вось, здаецца, і ўсё. Пайсці зараз? Не, можа, яны яшчэ жывыя, скажуць яшчэ.

Уваходзіць маёр Ранцоў. Хоча ісці ў пакой.

Маёр!..

Ранцоў. Што трэба?

Тэкля. Ведаеце што... ведаеце што... мне трэба вам адкрыць нешта вельмі цікавае. Сёння я чула цікавае для вас. Два чалавекі размаўлялі пра партызан, быццам яны пайшлі з Звініцкай пушчы.

Слабы стогн з-за занавескі, Ранцоў прыслухаўся.

Мала таго, кажуць пра тое, што непадалёк ад лясніцтва... ну, словам, знішчылі нейкі нямецкі атрад і... быццам прарваліся на захад.

Ранцоў. Глупства вярзеш, кабета. Плёткі пераносіш.

Тэкля. Можа, і плёткі, я жанчына цёмная, непісьменная. Дый наогул, народ у Чарнабогах такі: жывём у лесе, молімся лазоваму кусту.

Яна, можа б, яшчэ доўга загаварвала Ранцоў зубы, але ў гэты час нешта грымнула за занавескаю, Ранцоў, западозрыўшы нешта, зрывае занавеску. На гэты раз за ёю ўсе нерухомыя. Толькі адзін Штаркенфауст паўзе на жываце павольна-павольна.

Ранцоў. Штаркенфауст, што з вамі? *(Бяжыць і адчыняе нагою дзверы.)* Доктара сюды! Хутчэй! *(Вяртаецца.)* Маёр, маёр, што з вамі, што? Трымай яго, баба, я яму гарэлкі ўвалью.

Тэкля. Няма чаго яго трымаць. Не дачакаецца. Ён і сам здохне.

Штаркенфауст. Атрута... Млын на... *(апускае галаву).*

Ранцоў. Генрых! Генрых!

Хата запаўняецца людзьмі. Ля дзвярэй стаў салдат. Хутка ўваходзіць доктар, ля Штаркенфауста завіхаюцца. Тэкля Каваль стаіць ля печкі спакойна, скрыжаваўшы на грудзях рукі: вялікі чорны цень.

Ранцоў. Доктар, ён казаў нешта пра млын. Прымусьце яго гаварыць. Няхай скажа два словы, толькі два словы, а потым можа паміраць.

Доктар. Я не думаю, што ён такі жывучы. Але я паспрабую.

Завіхаецца ля цела Штаркенфауста. Улівае яму нешта ў рот.

Штаркенфауст. Атрута... яна, яна атруціла. Божа, які жах, які жах!.. Якая жахлівая краіна!.. *(Апускае галаву.)*

Ранцоў *(трасе яго).* Млын! Млын! Генрых, кажы пра млын! Два словы!

Доктар. Пакіньце яго, маёр, гэта ўсё дарэмна.

Устае і ідзе да дзвярэй. Ранцоў даганяе яго.

Ранцоў. Доктар, што магчыма зрабіць?

Доктар. Зараз ужо нічога. Гэта нейкая невядомая арганічная атрута. Супрацьяддзя ад такіх рэчаў у нас няма. І, да таго ж, позна.

Выходзіць. Ранцоў павярнуўся да Тэклі.

Ранцоў. Дык я ўсё адно ведаю, што рабіць. Ты ўжо з маіх рук жывою не выйдзеш, калі не скажаш. Які млын?! Якая атрута?!

Тэкля. Атрута звычайная, багун-трава. А прыгатавала яе я, так што не старайся, панок. Ён ужо цяпер і на трубу архангела не ўстане. Ён мёртвы,

мёртвы, як камень. Як кажуць у замове ад зубнога болю: «Маладзік, маладзік, дзе ты ўчора быў? — На тым свеце.— А што ты там бачыў? — Труну і ў труне раба божага цела мёртвае.— А ці баляць у таго раба божага зубы? — Не, не баляць». Так што ніколі больш ваш маёр, паночак, на зубы хварэць не будзе.

Ранцоў. Чаму ты атруціла яго?

Тэкля *(спакойна)*. Шмат ведаў таго, што толькі нам, тутэйшым людзям, ведаць можна. *(Салдаты выносяць мёртвых.)* Вось і цягнуць яго, як сабаку нейкую, за ногі, даруй божа.

Ранцоў. Ты ж пацярпела ад савецкай улады.

Тэкля. А ты мне яе не ганьбуй, шчанюк. Яна цягнула людзей ад мяне да сапраўдных дактароў, хаця і ў мяне было чаму павучыцца. Савецкая ўлада мяне прыгнятала, а вы мяне выратавалі ад яе, выпхнулі з уласнае хаты, савецкая ўлада мяне хацела арыштаваць, але і там мяне ніхто кабылай не называў, як вы, савецкая ўлада дзяцей маіх вывучыла, а вы дзяцей малых, як самавар, за вушы з хаты выносіце. Так што маўчы.

Ранцоў. Млын! Які млын? Той самы? Адказвай тут жа. Жылы выцягну.

Тэкля. Ты мяне, панок, не пужай. Я цябе толькі што куды мацней напужала. Ты жанчыну, якая тройчы раджала, пакутамі не страшы. І смерцю нас не страшы. Мы й так з вамі дзесяць разоў на дзень паміраем.

Ранцоў *(дастаўшы пісталет)*. Даю тры хвіліны.

Тэкля. Нашто мне яны. Дрэнна вы нас ведаеце, што прыйшлі сюды. Задралі нас, раз'юшылі люд. Будзеце ракаў па рачулках карміць сваім мясам.

Яна стаіць вялікая, грозна насунуўшыся на Ранцоў. Той, відаць, зразумеўшы, што такая не скажа, апусціў вочы, потым хутка стрэліў. Тэкля стаіць.

Што, ты б і ў сваю матку так стрэліў, каб заплацілі?

Ранцоў страляе другі раз — Тэкля падае. Усе ачышчаюць хату. Пуста. Тэкля падымае галаву.

Як добра, як лёгка. Жывіце, дзеткі, жывіце, людзі. Падае занавеса, падае, падае, чорная нейкая, чорная. *(Апускае галаву.)*

Ляжыць на падлозе пакінутая Тэкля, праз адчыненыя дзверы мож-

на бачыць сіні асенні далягляд, і аднекуль далёка-далёка, з неба, даносіцца тужлівае «кру-кру», сумны крык адлятаючых жораваў, быццам недзе ціха гудзе старцоўская старая ліра.

*Заслона*

# ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

## КАРЦІНА ПЯТАЯ

Антыкварная крама пана Дзюбкі на Рыначнай плошчы. Усю левую частку сцэны займае крама Дзюбкі. На шыльдзе велікапышны надпіс, але самая крама простая. Дзверы шырокія, расчынены наўсцяж, відны паліцы, на іх ляжыць «тавар». Крама адгароджана ад плошчы нізенькім штыкетным парканам. Фортка расчынена. Ля крамы вялікае дрэва, лісце яго пажоўкла, пад дрэвам лава. На драўляным тратуары старая круглая афішная тумба. Усю правую палову сцэны і далей, за краму, займае рынак, аддзелены ад крамы вузкай палоскай бруку. За кірмашом сілуэт вельмі разруйнаванага будынка, лявей яго — старая царква. У краме фацэтны Д з ю б к а. У пачатку карціны прыходзяць з інтэрвалам Л а ў р а н о в і ч - б а ц ь к а і А н д р э й. Кажуць нешта гаспадару і праходзяць у краму. На плошчы праходзяць розныя людзі. Тут б а б а Б р э т ы ч к а, г а н д л я р ы, і н т э л і г е н т н а я ж а н ч ы н а з галодным тварам і старым капялюшыкам у руках, б а б ы, В ы с а к а р о д н ы з л о д з е й, нейкія другія цёмныя фігуры.

Бязладны гоман, вырываюцца з яго асобныя галасы.

— А вось сахарын, каму сахарын? — Добрыя шворкі! Гітлера можна павесіць.

— Што-о? — А ты не чапляйся, чалавеча, бо атрымаеш па зубах.

— Капялюшык, добры яшчэ капялюшык. Можа, каму трэба?

— Ты мне, чалавеча, гэтага барашна ў нос не торкай, яно з пяском, з яго кулагі не зварыш.

— Кулага не блага. А толькі калі табе, чалавеча, з пяском не трэба, дык ты б памёр лепей год таму. Зараз іншай няма, хаця ў каго спытай.

— Ты, Пятро, плюнь яму ў вочы, да не кажы, што я паслаў.

— Дрэнна, сябра, над намі яны смяюцца, зневажаюць.— Нічога, дай час, будуць яны кутна смяяцца.

— Як так кутна?

— А так, як на стале чалавек смяецца, калі памрэ, кутамі рота.

— Чаго ты да мяне прывязаўся, душахват?!

— Не, ты паўтары, што казаў.

— Я табе паўтару,— ногі ў зад улезуць!

— Што ты з ім размаўляеш? Хлопні яго па галаве, і я дапамагу.

— Куды ты прэшся, любы? Не штурхайся, не спяшайся, паспееш яшчэ на шыбеніцу.

— Дар-рагія браты і сёстры, падайце міласцінку сляпому.

Д з ю б к а *(пакупцу, немцу ў мундзіры гаўптмана).* Што ж патрэбна пану? Можа, яму паказаць чароўную старую фібулу. Глядзіце, які тонкі візерунак. Не? Тады я прапаную пану гаўптману каштоўную рэч. Пан казаў, што ён гісторык, і, вядома, толькі яго адукаваны густ можа ацаніць гэта. Вось масляная лямпа, з кургана пад Рагачовам, у выглядзе жаночай галавы. Унікальная рэч, другая такая толькі ў Гнёздаўскім магільніку была. І каштуе глупства, толькі 1500 марак, як для вас, для калегі. Не? Ну добра, я бачу, што пану патрэбныя толькі рэчы, як кажуць, «прыма». Гм... хіба што толькі для вас, для знаўцы. Вось тут у мяне ёсць рэч, якую б не аддаў нікому, якую можна хоць зараз аддаць у нямецкі нацыянальны музеум, як рэліквію. Гэта стары меч, які, як сведчыць надпіс, належаў князю Юрыю Мсціслаўскаму. Памятаеце, ён ваяваў з вашымі продкамі пад Грунвальдам, у 1410 годзе. Гэта вы абавязкова павінны купіць. Падумайце, які фурор! Вы скажаце гасцям: «А гэта меч чалавека, які разграміў тэўтонскі ордэн. Мы змылі з сябе гэту ганьбу, і я прывёз гэты меч з сэрца гэтай краіны, што тады перамагла нас». Падумайце, як на вас будуць глядзець. Нашчадак Альбрахта Мядзведзя, рыцар! Ах, якім поспехам будзе пан карыстацца, дзякуючы гэтаму надзвычайнаму трафею! Цана ўсяго пяць тысяч марак. Не-не, не адмаўляйцеся. Пан — патрыёт, ён не захоча, каб я прадаў гэты меч у рукі — якому-небудзь беларусу. І, магчыма, пан пашкадуе, калі я пашлю гэту рэч у Берлінскі гістарычны музеум. Там ёй будзе месца, там ацэняць яе пікантнасць. «Меч заваёўніка зараз у нас. Нацыя змыла з сябе даўнюю пляму». Запакаваць? Ну і добра, я ведаў, пан разбіраецца ў старажытнасцях. Якія ўпрыгожванні, якая сталь! Ах, я б і сам сабе пакінуў яго, ды не магу. Гандляру патрэбен капітал.

Пакупец, узяўшы пакунак, пайшоў. Дзюбка ціха смяецца яму ўслед.

А трасцы ты не хочаш замест мяча Юрыя Мсціслаўскага? Атрымаў дзесяць фунтаў іржавага жалеза і ідзе, як паніч, толькі што ў адным месце пяра няма.

Л а ў р а н о в і ч. Ходзіце па лязу мяча, Дзюбка.

Нашто ты іх дражніш? Знойдзецца калі-небудзь нейкі знаўца — і тады...

Д з ю б к а. Такіх знаўцаў, як яны, я б і швейцарамі ў свой музей не ўзяў. І да таго ж гэта вельмі смешна. Няма чалавека, якога б я не абдурыў. Яны нясуць ад мяне стары брухт, вышыванае рыззё, каўчэгі, у якіх, замест мошчаў, костка з маёй катлеты. Ганьба! А яшчэ культура! Не, калі ўжо вы мяне зрабілі камерсантам, дык цярпіце, калі я хачу пазабаўляцца. У мяне ў такіх выпадках па цэламу сабаку з рота скача.

Л а ў р а н о в і ч. Як гандлюецца? Лягчэй цяпер?

Д з ю б к а. Палегчала бацьку к смерці. Раней крычаў, а зараз толькі глядзіць. Нічога, кармлю сябе, і ёсць грошы на абарот. Праўда, хапае толькі на хлеб. Я ж казаў, я няўдачнік.

Л а ў р а н о в і ч. Дык вось, Дзюбка, адносна хлеба. Калі прыйдзе чалавек з Асінаўскага раёна, скажы яму, што хлеб патрэбен неадкладна. Млын можа стаць. Няхай вязе, у яго ёсць. І яшчэ, ты сабраў звесткі пра гарнізон? І пра чыгункі? Давай сюды.

Дзюбка дае Лаўрановічу шматок згорнутай паперы.

Д з ю б к а. Вось так заўсёды са мною. Вы ваюеце, а я гандлюю. Прыватны капіталіст, з Адлербергам дружбу завёў. А свае людзі не так даўно ноччу забіць хацелі, як здрадніка. Гэта мне ўжо з дзяцінства так не шанцуе. Поп пасварыўся з бацькамі і даў імя не Пятро, не Паўлюк, а Елпідзіфор. Прозвішча ў мяне таксама: Дзюбка! Я родам з вёскі Мазурыкі. Уявіце, Елпідзіфор Дзюбка з вёскі Мазурыкі!!! Якая, я пытаюся, можа быць павага такому чалавеку? Калісьці Мазурыцкі пан, яшчэ пры прыгоне, гарэзаваў, даў сялянам прозвішчы саромныя. Адзін — Швайка, другі — Распусны, трэці — Сіняпуп, а чацвёрты — Кур'ян, а майму продку — Дзюбка. І гэта яшчэ нічога, хоць уся ваколіца над намі смяецца, а вось быў у нас адзін па прозвішчы Сямізад. Дык той пасля 1861 года зрабіўся сальнікам, тысячнікам і захацеў жаніцца. А нявеста і кажа: «Змяні прозвішча, інакш не пайду». А каб змяніць прозвішча, тады трэба было падаваць прашэнне на высачайшае імя. Ну, ён і падаў яго Аляксандру Трэцяму. Той паглядзеў і налажыў рэзалюцыю: «Калі яму многа, дык зменшыце на два». Ну

і стаў чалавек замест Сямізада — Пяцізадам, як быццам ад гэтага лягчэй.

Л а ў р а н о в і ч. Язык твой добра прывешаны, таму ніхто цябе тут не замяніць.

Д з ю б к а. Я ведаю, але чорта з два вы б мяне тут бачылі, каб я не ведаў, што гэта ўсё для народа. Беларусы, я зразумеў гэта вельмі добра цяпер,— беларусы гэта не проста белыя валасы, блакітныя вочы, сем коплацей, «Лявоніха» і паўстанне Мурашкі, як гэта тойсёй з вучоных кажа. Беларусы гэта вельмі-вельмі складана. Мяне бярэ жах, калі я пачынаю ўглядацца ў гэту глыбіню — і не бачу дна. Вось я гляджу на чорнавалосага гродзенца і думаю: «Семсот год таму ты быў ятвягам, еў дзічыну, хадзіў у шкурах і размаўляў незразумелай гаворкаю. Але цяпер ты такі самы беларус, як і я, ты разам са мною выпакутаваў Каліноўскага і Купалу... Разам біўся на барыкадах 1905 года. Я гляджу на жыхара Смілавіч, бачу яго мігдалевідныя, раскосыя і, як ні дзіўна, блакітныя вочы і думаю: ты нашчадак татар, якіх пабралі ў палон ля Крутагор'я і пад Азовам, але ты і продкі твае з дзіцячых год бачылі тыя ж пушчы, паплавы і балоты, яны дарагія нам. Тваё прозвішча Асановіч, але зваць цябе Янкам, і ты яшчэ трыста год таму чытаў свой каран на беларускай мове, і мы разам, не глядзячы на форму вачэй, біліся з ворагамі і рабілі рэвалюцыю, нам аднолькава стралялі ў спіну кулакі. Мы адно цэлае да канца... Я гляджу на яго і кажу: «Брат». Гэта найвялікшая таямніца на зямлі,— таямніца народа. На нас разам прэлі ад працы кашулі, мы елі аднолькавы хлеб, мы, беларусы, уваходзілі ў адно і тое ж брацтва, чыталі біблію Скарыны, а пасля вершы Купалы. А ёсць жа такія, што забылі гэта! Іншы раз я закрываю вочы і бачу прапрашчура. Профіль, падобны да профіля горнай птушкі, магутныя плечы, полымя вогнішча. Невядома, ці прыйшоў ён скуль, ці быў аўтахтонам на гэтай зямлі. Але мне дастаткова ведаць, што нашчадкі яго з гэтай зямлі не пойдуць. Недарэмна яны ссяклі тут першае дрэва і насыпалі першы курган і здабылі 24 гады таму бязмежную волю. Будаваліся гарады, кахалі людзі, раджалі стагоддзямі на адным ложку. І каб цяпер на гэтым ложку раджала жонка чужынца? Даруйце, маёй дачцэ і самой на ім зручна. Стагоддзямі мы

раслі, мацнелі, пісалі дзівосныя кнігі, плылі да нас ятвяжскія, чарнарускія, татарскія, дэйноўскія рэкі, каб адліцца ў адно, у дзесяць мільёнаў, у мой народ. Я гляджу і бачу ў ім добрую ятвяжскую памяць на Дабро і Зло, дэйноўскую ўпартасць і нашу, славянскую, бязмежную дабрыню. А калі прыходзіць вораг — я ў вачах майго народа бачу татарскае вераломства — з дрэнню няхай іншыя будуць высакароднымі... Мы добрыя, жаласлівыя, вельмі ціхмяны, гасцінны народ, але няхай паспрабуюць прыціснуць нас, задраць за жывое — з пекла дастанем.

Л а ў р а н о в і ч. Так, і зараз народ праходзіць праз вогненную купель.

Д з ю б к а. І колькі раз яшчэ давядзецца яму прайсці праз яе. Але я веру, ён выстаіць.

Вялікая паўза.

Той, хто столькі зрабіў на шляху да праўды, той прыгоннікам не будзе. Я памятаю, калісьці, да рэвалюцыі, я быў яшчэ малы, маці пашыла нам са сваёй старой зялёнай спадніцы нагавіцы, а нас было тры хлопцы. Мае нагавіцы атрымаліся ўжо вельмі вузенькія, але я быў такі шчаслівы: на вялікдзень у мяне будуць сапраўдныя крамныя порткі, не кужэльныя, не шарачковыя. А яны, браце, луснулі ў першы ж дзень свята, і зашываць іх нельга было,— грэх. А зараз у маіх дзяцей добрыя гарнітуры. Так што няхай яны наш лад хоць пяць год лаюць, усё адно не паверу. Сам пакаштаваў старое, на ўласных баках. І новае бачу, не сляпы. Нават, як беларус, на нямецкае панаванне не згадзіўся б, а ўжо як чалавек новай краіны — сто разоў не згаджуся.

Л а ў р а н о в і ч. Цяжка. Людзей шкода.

Д з ю б к а. ...Столькі мы пабудавалі. Заводы, будынкі — і ўсё ў руінах... Нічога, рукі ў нас моцныя, адбудуем. Цікава будзе жыць, хлопча, у 2000 годзе, жадаў бы я дажыць. Тут табе камунізм, тут табе кожнаму па патрэбе. Ты мяне тады будзеш кожны год дэманстраваць піянерам: «А вось, дзеткі, перад вамі музейны экспанат, стары хрэн Дзюбка, апошні прыватны гандляр нашай краіны. Добра запамятайце. Бліжэй, ён не кусаецца. Дзецям будзеце расказваць — не паверацьь».

Л а ў р а н о в і ч. Цябе дзецям паказваць? Апа-

мятайся. Мы з табою тады такія ўжо будзем, што з дзеткамі ад жаху радзімчык можа прыкінуцца.

Д з ю б к а. Ты што, думаеш, я не варты нават, каб мяне паказвалі? Ого! Нічога, яны дастаткова моцныя будуць, каб без шкоды для псіхікі паглядзець нават на старую малпу. Я-то, праўда, тады нядрэнны буду, я прыгожы, а вось ты — не ведаю.

Паўза.

Вось што, Лаўрановіч, хоць ты і камандзір атрада, але на сына звярні ўвагу. Хлопец марнее, цяжка яму.

Л а ў р а н о в і ч. Я і сам хацеў пагаварыць з ім. Пашлі яго сюды, я на лаўцы пачакаю *(Дзюбка пайшоў, выходзіць з крамы Андрэй.)* Сядай, сынок. Ды смялей. Добра ўсё ж, што нас у горадзе тут не ведаюць. Каляда вось так не можа прыйсці і сесці. Ты з Віктарам знаёмы па вобласці?

А н д р э й. Так. Па інстытуту. Цікава, як там зараз?

Л а ў р а н о в і ч. Штосьці ты мне, сынок, не падабаешся. Што з табою сталася?

А н д р э й. Цяжка мне, адпусці ты мяне з млына, дай цяжкую справу. Іншыя хлопцы б'юцца, падрыўнікамі работаюць, адзін я...

Л а ў р а н о в і ч. Ты ведаеш, Каляда не хоча. Ён кажа, што млын, калі ты там, у добрых руках. Ён табе верыць. Ды і ў камсамол ты менавіта дзеля такой справы паступаў, а не дзеля таго, каб на зборах алоўкам па графіну лупіць. Так што будзь мужным.

А н д р э й. Усё ж я не магу. Ты ведаеш, я нікому не скажу, але цяжка мне там...

Л а ў р а н о в і ч. А я лічу, што тут не справа. Ты такі, што паўсюль будзеш рабіць так, што лепей нельга. Тут іншае. Табе цяжка глядзець на Віктара і Марысю, сынок? Ты яе кахаеш?

А н д р э й *(ціха).* Так.

Л а ў р а н о в і ч. Я гэта сэрцам ведаў. Ты, як нябожчыца маці, адналюб. Што ж паробіш? Віктар бліскучы, на ім рамантычны арэол, а ты ў мяне пакуль што брыдкае качаня, такіх, як ты, адразу не заўважаюць, бо ты паўсюль, нават у цяжкім месцы, толькі са сваёй сціплай усмешкаю. Можа, яно і лепей, не наскочыць на цябе нейкая фіцюлька, ажэнішся на

добрай, простай дзяўчыне. Ці мала іх на свеце, прыгажунь, добрых, разумніц?

Андрэй. Мне лягчэй, калі я паразмаўляю з табою, даўно гэтага не было. Але не магу, не магу я яе забыць. Пячэ ў сэрцы.

Лаўрановіч. Та-ак. Значыцца, як у песні:

«І чарка мала,
І гарэлкі няма,
Люба, люба, не цячэ,
Каля сэрца пячэ».

Не паробіш тут нічога, сынок. І лепей за ўсё забыць. Не руш сэрца сваё. Ну, дай я цябе пацалую. Час «да дому». Цыкмуну перадай, што мы за апошнія дзесяць дзён высадзілі на трох чыгунках у паветра чатыры саставы.

Пайшоў.

Андрэй. Марыська, чуеш? Цяжка мне...

На плошчы шум. Самагоншчыца, баба Ерэтычка крычыць, махаючы кулакамі.

Баба Ерэтычка. Падла ты, злодзей, паліцайская твая душа!

Дзюбка (*падышоў да Андрэя*). Баба Ерэтычка разараецца.

Баба Ерэтычка. Людзейкі добрыя, а чаго ж гэта вы гледзіцё, чаго церпіцё? Прыйшла гэта паліцайская харцызяка з сябрамі, немцаў двух прывялі! Самагон папілі чысты, жытні. Выдудлілі нагбом восем кубкаў і пайшлі і грошы не заплацілі. Што ж гэта за парадачкі, якая гэта ўлада! Каб табе той самагон у глотцы стаў, каб цябе ад яго раздула, мерын! Каб цябе стацця схапіла падучая, ляк, звіх, цемяннік, вярады абляпілі, лішаі. Каб табе грызь у жывот, каб табе вогнік твар сапсаваў, скула сіняя, каб табе валасень на ўсе твае члены! Каб цябе хінца трусіла! А што ж гэта такое, людзі? Самагон чысты, жытні! Бессаромная твая мыса! Казалуп ты, свіння! Каб з цябе дзеці кроў на старасці год выпілі, як ты той самагон выпіў, каб твая жонка вожыка ўпоперак шэрсці нарадзіла, каб у цябе ўсе твае сабачыя зубы выпалі і застаўся адзін для зубнога болю.

Дзюбка. Канцэрт, дый годзе. Але не ўмее яна клясці. Быў у мяне адзін знаёмы яўрэй. Той быў

мастак, куды гэтай бабе. Ён рызман збіраў па вёсках, навучыўся. І свае яўрэйскія пракляцці ў яго былі: «Каб табе на язык села столькі верадаў, сколькі было дзірачак на той мацэ, якую спяклі яўрэі ўсяго свету з дзён Ісходу і да нашых дзён». Добра кляў! *(Уздыхнуў.)* Забілі яго нядаўна. На уліцы Энгельса. У гета.

З'яўляецца на плошчы с т а р ы  л і р н і к, сядае, пачынае круціць ручку ліры, яго абступаюць бабы.

Л і р н і к

Плачамся мы, узрыдаемся,
На апошні час спамышляемся.
Ой як прыйдзе на немцаў апошні час —
Іх паставяць, як грэшнікаў, на левы бок:
«Ой і прэч вы пайдзіце, праклятыя,
У тыя пячоры, што агнём гарацы.
Забівалі вы дзетак-немаўлятачак,
Kралі хлеба кавалак са старэчых рук.
Ці не вы гэтыя хаты папалілі агнём?
І для вас агні гарацы неўгасімыя,
Чэрві сіпяць неўсыпучыя.
Із ныня і давеку
Вам там і быць.
*(Людзі стаяць з сухімі, палаючымі вачыма.*
*Лірнік запявае «Сірацінку».)*
Няшчасная ў свеце гадзіна настала.
Бедная сіротка ад маткі засталася.
Большы застанецца, у заслугу пойдзе,
Якія маленькія — прапалі навекі.
Стрэў пан бог сіротку: «А куды ж ідзеш ты?
— Матульку шукаці!
Вярніся, сіротка, бо далёка зойдзеш.
А ты сваёй маткі давеку не знойдзеш.
Ужо твая маці на гары высокай,
На гары высокай, у труне глыбокай».
Як пайшла сіротка над труной рыдаці,
Тут абазвалася з труны яе маці:
«Як жа мне цябе к сабе ўзяці?
Як цяжка-важка камень узнімаці,
Яшчэ цяжчэй-важчэй цябе к сабе узяці»[1].

Бабы плачуць.

---

[1] Правапіс і словы лірных спеваў не выпраўленыя, сапраўдныя.

Лірнік. Кінутых дзяцей шмат ходзіць па нашых дарогах, людзі. Хоць яны нашы, хоць яны яўрэйскія — бярыце іх, выдавайце за сваіх, крэўных. Усе пад богам, усе людзі. А не возьмеце — цяжка вас пакарае сумленне ваша.

Дзюбка. А гэта, Андрэй, прарок. Няхай спявае. Гэта іншы раз мацней за пракламацыю...

На плошчы з'яўляецца Адлерберг з салдатам. Лірніка штурхнулі, ён абарваў слова і заспяваў традыцыйную «Дароту». Гучыць жудасны матыў.

Лірнік.

А Дарота, Дарота
Лепша перлаў і злота.
Як забачыў круль-цыган,
Дык Дароту спадабаў і г. д.
Вялю дробна шкла набіць
І Дароту босу вадзіць.

Адлерберг. О, апошні магікан. Сфатаграфуй яго, Ганс. Якую гэта песню ты спяваеш, стары, і калі яе ў вас спяваюць?

Лірнік. Спяваюць яе, калі зваляцца халера альбо чума на нашу краіну.

Адлерберг зразумеў, пайшоў далей, са сцэны. Раптам цераз паркан сігае да Дзюбкі Віктар і шэпча яму нешта на вуха.

Віктар (*голасна*). Але я не паспеў забіць Трубайлу, я яго не дагнаў, хоць і бег нацянькі. І тут я даведаўся, што ён пайшоў у камендатуру, але там каменданта не было і ён пайшоў сюды, на рынак, шукаць яго. Загінуць нашы! Што рабіць, пан Дзюбка!

Дзюбка. Адлерберга ён тут не адшукае, ён толькі што быў і пайшоў. Але часу марнаваць нельга. Андрэй, ты ведаеш Трубайлу? Ідзі да гестапа і пільнуй яго там. Пабачыш — забі яго ў маю душу. Лёс атрада на яго языку. (*Андрэй пайшоў.*) А калі з'явіцца тут? Ты пытаешся, што рабіць? Забіць яго тут жа, на вуліцы. І зробіш гэта ты.

Віктар (*трохі разгубіўся*). На вуліцы? Але ж гэта тут, на людзях. Уцячы нельга. Гэта не ўначы, у завулку.. Гэта верная смерць!

Дзюбка (*з яго твару знікла ўсякая лагоднасць, зніклі адметы дабрадушнага дзівака, зараз гэта зусім другі, жорсткі чалавек*). А для тых, што ў лесе, гэта

не верная смерць, калі гэты ірад раскажа ўсё? Бяры пісталет.

Віктар. Д-добра. Ой, што гэта? Ой!

Ён пачынае схіляцца на траву і ўпаў бы, каб Дзюбка не падхапіў.

Дзюбка. Што з табою, сынок, што?

Віктар. Сэрца!.. Сэрца нешта... Шпарка бег... Сэрца.

Траціць прытомнасць. Дзюбка асцярожна апускае яго на траву пад дрэвам. Між тым на плошчы з'яўляецца Трубайла, падыходзіць да Высакароднага злодзея.

Трубайла. Можа, пан будзе такі ласкавы і скажа мне, ці не бачыў ён тут каменданта? Мне сказалі, што ён тут, я вельмі спяшаюся.

Высакародны злодзей. Не, я такімі людзьмі не займаюся. Да таго ж мне здаецца, што там пачынаецца аблава на маіх бліжніх двухногіх. А вы што, прыйшлі за сваімі срэбранікамі?

Трубайла. Но-но, хаме! Жарты? Ты ведаеш, з якою асобаю размаўляеш? Глядзі, як бы цябе не пацягнулі да Кажамякі на шост.

Дзюбка пабачыў Трубайлу. Ён разгублена стаіць над непрытомным Сміхальскім, потым рашуча бярэ ў яго з кішэні пісталет.

Дзюбка. Ах, як недарэчна. Што ж рабіць? Канспірацыя. Якая тут да д'ябла канспірацыя? Канспірацыя тут, вядома, дрэнная, але на кватэры маёй пуста... А там, у лесе, людзі... Што ж, пайду сам.

Павольна ідзе да Трубайлы. У гэты час на рынку пачынаецца гвалт: ідзе аблава. Людзі бягуць па аднаму ў розныя бакі.

Дзюбка. Пан шукае каменданта горада?

Трубайла. Так, па важнай справе.

Дзюбка. Ну што ж, я пакажу.

Карыстаючыся тым, што людзі бягуць, што вакол мітусня, страляе Трубайлу ў грудзі. Той падае, забіты напавал.

Баба Ерэтычка. Ав-вой! А божухна! А што ж гэта робіцца! Самагон папілі чысты, жытні, людзей сярод белага дня на вуліцах страляюць (*бяжыць з кошыкам са сцэны*).

Дзюбка (*стаіць нерухома*). Чалавека забіў! Першы раз у жыцці забіў. Як жа гэта? (*Здзіўлена глядзіць на рукі,— яны чыстыя.*)

Высакародны злодзей (*кранае Дзюбку за плячо*). Месьё... Перметэ ву... унасіць ногі. Тут дрэнна для сумленных людзей. Можа быць аблава. І схавайце ў кішэнь вашу гармату. Можа, мы пойдзем да вас у краму? Не бойцеся мяне, я тады прывёў да таварыша Каляды гэта самае панашэнне чалавекаў, якое зараз ляжыць тут прыгожым і халодным на зямлі.

Асцярожна вядзе Дзюбку праз фортку ў краму.

Дзюбка. Як... ж яго бахнуў.

Злодзей. Ну і падумаеш, бахнулі. І на здароўечка! Калі чалавек перастае быць чалавекам, дык смерць для яго толькі сваяродная праява філантропіі.

Пабачыў Сміхальскага, які яшчэ сядзіць на траве, трымаючыся за грудзі.

А гэта што за божая кароўка?

Дзюбка. Ён хворы... А тут мне пашанцавала, бо маглі б і схапіць.

Злодзей. Бож-жа мой, гэта ж таварыш начальнік! Хоць ён і адпусціў вусы, але яму тут зусім не месца. Яго могуць пазнаць.

Падымае Сміхальскага, заводзіць яго ў краму, вяртаецца да Дзюбкі, які стаіць ля дзвярэй у аслупяненні.

Злодзей. Таварыш Дзюбка. Хоць вы і камерсант, але я ведаю, у вас ёсць сувязь з партызанамі. Не пратэстуйце. Паверце сэрцу чалавека, які ніколі, ніколі не падводзіў сваіх. Перапраўце мяне да іх, стаўце якія трэба іспыты — я ўжо болей не магу тут. Перадайце сваім сябрам, што я магу быць карысным. Не адказвайце мне зараз, я ведаю, гэта канспірацыя, проста калі я спатрэблюся, калі ўспомніце маю асобу — прышліце за мной чалавека. Няхай смяюцца з майго мінулага, няхай нават расстраляюць — гэта ўсё ж ад сваёй рукі. Вы ведаеце, пан Дзюбка, Настачку, Настачку маю... Вучыў яе ў вёсцы на злодзеевы грошы... не ведала. Забілі маю Настачку. Цяжка мне!

На плошчы гвалт. Уцякаюць людзі. Недзе пачуліся стрэлы. Злодзей сціскае кулакі.

Сабакі вы! Будзьце вы клятыя... клятыя... клятыя.

*Заслона*

## КАРЦІНА ШОСТАЯ

Тыя самыя дэкарацыі, што і ў другой карціне. Зноў млын на Сініх Вірах, але мінула зіма. Зараз вясна. Май. Дрэвы пакрыты зялёным, маладым лісцем. Птушкі захлынаюцца спевамі ў лесе. Млеюць пад цёплым сонцам вербы на беразе ракі. Але здалёк далятаюць амаль адзін за адным выбухі. Ля будынкаў мітусяніна. За сцэнаю ржуць коні, партызаны цягнуць туды торбы з мукою, сярод іх Цыкмун, Асінскі, Каляда, Лаўрановіч. Млын канчаюць эвакуіраваць, на траве пустыя торбы, дошкі ад скрынак, нейкае рыззё. Андрэй з Марысяю прыселі, стомленыя, на поплаў.

Андрэй. Нам з табою няма чаго саромецца. У іншых вялікія подзвігі, яны ваююць, але мы ўтраіх ваявалі не горш, як яны. Дваццаць разоў сабою ахвяравалі і, глядзі, усю зіму сапраўдную армію лясную кармілі, адзінаццаць месяцаў кармілі — гэта нядрэнна. Трасцу б яны наваявалі без нашага хлеба.

Марыся. А цяпер трэба кінуць. Шкода млына.

Андрэй. Што зробіш, трымацца далей нельга. На аднаго нашага іх трое, і зброя ў іх лепшая. У адкрыты бой нам пакуль што нельга ўцягвацца. А яны, бачыш, прачэсваюць усю паўночную частку пушчы,— не сёння дык заўтра тут будуць.

Праходзяць Каляда, Лаўрановіч і Цыкмун, узброеныя.

Каляда. Як яны даведаліся?

Лаўрановіч. Глыбокая разведка. Млын не іголка ў сене, доўгі час яго не схаваеш. Добра, што хлеб і ўсё іншае вывезлі.

Цыкмун. Зрабіў млын сваю справу. Недарэмна Тэкля-нябожчыца налажыла за яго галавою.

Каляда. Зрабіў справу, ды не да канца. Я хачу ў вас спытаць, таварыш Асінскі, згадзіліся б вы дачку паслаць на небяспечную справу?

Цыкмун. Гэта ў яе трэба пытацца. Яна дарослая. Пра жаніхоў не пытае ў мяне.

Каляда. Дзе ж яна? Ага вось. І Андрэй тут. Можна да вас?

Марыся. Калі ласка *(усе сядаюць у кружок).*

Каляда. Ну што ж, браткі, як бачыце, млын кідаем. Партызаны будуць прарывацца на поўдзень, на Палессе.

Лаўрановіч. І з гэтаю, большай часткай, пайду я. Каляда будзе не камісарам брыгады, а камандзірам асобнага партызанскага атрада, які застанецца

тут, у Звіницкіх пушчах. Атрад будзе невялікі, такому лягчэй схавацца і дзейнічаць.

Каляда. Пакуль мы не адшукаем іншых крыніц забеспячэння, млын трэба захаваць для нас месяцы на два. У нас ёсць свой чалавек у нямецкіх вярхах. І мы ведаем, што немцы прабіваюцца да млына і, захапіўшы, не спаляць. Наадварот, ён будзе працаваць на іх, тым больш што трохі паўдзённее яны будуюць лінію ўмацаванняў, каб не пусціць нас з паўдзённай часткі пушчы ў паўночную, засцерагчы ад небяспекі чыгунку, шашу і горад. І вось Марыся і ты, Андрэй, што б вы сказалі, калі б мы ўладзілі вас на работу ў гэтым млыне. Са справаю вы азнаёміліся добра, узімку лёд ледзь не зубамі счышчалі, млын і дня не стаяў. Ну як, пойдзеце?

Андрэй. Я пайду, але яна няхай ідзе з вамі. Гэта не жартачкі, сабатаж на нямецкім млыне, перадача хлеба не ў нямецкае войска, а партызанам. За гэты чуйдух на шыбеніцу можна трапіць.

Марыся. Андрэй, не вярзі глупства. І, наогул, памаўчы. *(Да Каляды.)* Я, вядома, пайду працаваць на млын.

Каляда. Справа вельмі небяспечная. Поруч са смерцю будзеце хадзіць кожную хвіліну.

Марыся. Хіба мы за апошнія месяцы не бачылі яе?

Андрэй. Мы пойдзем.

Каляда. І яшчэ вось што. Так проста жыць тут вам будзе нязручна. Я думаю, што вам трэба будзе ўзяць фіктыўны шлюб, павянчацца ў горадзе.

Андрэй. Не, так нельга.

Марыся. А чаму? *(Падумаўшы.)* Раз для справы патрэбна — няхай ужо. А Сміхальскі — па-ранейшаму будзе трымаць сувязь?

Каляда. Віктар?.. Гм... Ну няхай.

Марыся. Што ж, шлюб дык шлюб.

Лаўрановіч *(парадзіруе)*. Ёсць тут бацька, матка, родныя, мужы статэчныя, бабкі запечныя: благаславіце краснай нявестцы каравай учыніць. *(Галосіць.)* А родная мая матка! А сама ж ты йшла за роднага татку! А мяне ж ты аддаеш за чужога мужыка.

Рогат.

Цыкмун *(іранічна)*. З богам, Хадорка, калі людзі знайшліся.

Марыся. Татка.

Цыкмун. Ды не, я нічога.

Каляда. Вось і добра. *(Усталі, пайшлі.)*

Марыся. Андрусь, чаго ты такі за апошні час? Не пагаворыш, не спытаеш. Ты мне вельмі патрэбны, добры мой друг.

Андрэй. Ты ведаеш чаму.

Марыся. Усё яшчэ?..

Андрэй. Усё яшчэ. І ніколі не кіну. Ты альбо ніхто.

Марыся. Віктар мяне за апошні час непакоіць. Паводзіны дзіўныя. То мужны, то такі знерваваны, вярзе лухту, гаворыць такое жахлівае... Гэта ўсё яго туга! А пасля просіць даравацъ, гаворыць з такою сілаю, што я зноў веру. І зноў мужны і смелы. Складаны ён чалавек.

Андрэй. Я ведаю, любая, я адыду, не непакойся. Я толькі прыйду на дапамогу, калі будзе цяжка.

Цнотна і пачціва цалуе яе ў лоб, пайшоў.

Марыся *(адна)*. Віця як разнервуецца, гаворыць проста як злачынец, а потым зноў, як герой... А ты добры, харошы, але такі далёкі.

Уваходзіць Віктар.

Віктар. Глядзеў, як нашы ўцякаюць. Што ж гэта, Марыська?

Марыся. Нічога, прыпомні Маскву ўзімку. Цяпер ужо нядоўга чакаць.

Віктар. Пакуль тое прыйдзе, мы дваццаць разоў загінем. Я людзей люблю па спенсераўскаму прынцыпу. Яны мяне добрым лічылі, а я проста ўважаў за лепшае аддаць рубель жабраку, чым купіць на яго шклянку віна, гэта больш прыемна, гэта дае мне права паважаць сябе. А атрымалася так, што паважаць людзей і сябе няма прычыны. І паляцеў мой альтруізм дагары нагамі.

Марыся. Я, Віктар, толькі пашкадаваць цябе магу, але ты на адну дошку эгаіста і альтруіста не стаў. Любоў да чалавека — гэта ўсё: знікае яна — і няма сапраўднага жыцця.

Віктар. Смерць — гэта брыдка, агідна, пачварна,

абураюча, як старасць, як хвароба. Калі чалавек памірае — у яго асобе знішчаецца цэлы сусвет, і чым розум гэтага чалавека яснейшы, тым больш значны гэты знішчаны сусвет, тым больш жахлівае яго знішчэнне. Калі гіне нешта накшталт Андрэя,— гэта глупства, а калі гіне тытан — гэта катастрофа.

Марыся. Андрэя не чапай, Віктар, апошні раз прашу! І наогул, як звычайны чалавек, так і тытан толькі таму звычайны чалавек і тытан, што адзін больш карысны для людзей, а другі менш. А калі прыходзіць час выпрабавання,— кожны тытан, хто мае сілу годна загінуць.

Віктар. Дзеля чаго? Дзеля шчасця гэтага, як немцы кажуць, шайзэланда, якога я не люблю? Дзеля шчасця людзей XXX стагоддзя? Моцныя гінуць з іншымі. Меў у сабе і Дантэ і Гётэ, а тут бабухнуць, і вось у цябе дзірка ў галаве і ты здох, як кожная поскудзь. Іншыя будуць, а мяне не будзе, менавіта такога, як я, не будзе. Мяне не будзе! Ты разумееш гэта?

Марыся. Я разумею, гэта кожны чалавек разумее. Жыць хоча кожны. Але трэба біцца, пакуль жывеш. Я многа думала, і, ведаеш, што мне прыйшло ў галаву? Рай са святлом і сонцам і пекла з чарцямі і катламі кіпячымі людзі выдумалі, каб не называць звычайнага слова «сумленне». У чалавека жывая душа, і гэтай душою пад канец разумееш, добра ці дрэнна ты пражыў. Калі добра, сумленна,— і смерць твая лёгкая, як рай, а калі не сумленна, дрэнна, не ахвяраваў за людзей, не зрабіў, што трэба,— будуць пакуты сумлення горш пекла, бо ўжо нічога не выправіш, пражыў жыццё. З-за гэтае думкі, гэтага жаху і жыве сумленнем сапраўдны чалавек, і, каб не было такіх, якія ахвяруюць за людзей,— не было б на свеце чалавека, а былі б проста сляпыя двухногія робакі. А званне чалавека кожнаму трэба заслужыць.

Віктар. Ну добра, я робак. Але калі я такі, дык і вы не лепшыя. «Народ!» «Народ!» Слінявы ружовы ідэалізм. А я гэтыя словы па праву сілы кідаю пад ногі. А я гэтым «народам» пагарджаю! Што ў яго? Самы бяздарны народ ва ўсім свеце.

Марыся. Самы малады. Ён яшчэ дзіця, але па

яго сённяшняй песні я добра бачу, як ён заспявае праз стагоддзе.

Віктар. Ну й чакай таго часу, чакай груш на вярбе.

Марыся *(гнеўна)*. Гэта не грушы, гэта вера. І ты над вераю чалавечай, над яго імкненнем здзейсніць сваю мару — не смейся. Не запэўнівай мяне занадта часта, што ты — робак, а то, глядзі, часам і паверу. Чуеш, Віктар?!

Віктар. Чую. Мучаю я цябе? Што ж, натура ў мяне такая. З таго дня, як Тэклю забілі, я, можа, дваццаць разоў на смерць хадзіў і ўсё адно... Але я сваёй галавы так дарэмна не аддам. Мы яшчэ паваюем. Спачатку ён, а потым ужо мы. Пайду... Даруй мне, Марыська.

Марыся. Ты ведаеш, я заўсёды табе дарую, абы толькі гэта былі словы, а не справа.

Віктар выходзіць, амаль сутыкнуўшыся з Калядою, Лаўрановічам, Андрэем і Цыкмунам.

Каляда. Ну вось, здаецца, і ўсё. Млын пусты. Як у гасцях: накурылі, талеркі пустыя, час і гаспадарам. Марыська, Андрэй, мы ўжо з вамі да таго часу, як будзеце вы тут гаспадарыць, не пабачымся. Нічога, дзеці, вакол родныя лясы. Будзьце толькі асцярожнымі. Ну што ж, пайду папярэдзіць хлопцаў, хай адыходзяць. *(З ненатуральнай бадзёрасцю.)* Як калісь часопіс «Жорны» пісаў:

«Ой ты гой-ясі ўвесь рабочы люд,
Ад сахі, ад сярпа і ад молата».

Як гэта далей?.. Ат, забыў... Бывайце, дзеці...

Цалуюцца. Каляда пайшоў.

Цыкмун. Асцерагайцеся, дзеці. Разыходзяцца нашы шляхі. Можа, калі з'едлівым быў — даруйце. Пра цябе, Марыська, няма чаго казаць, а цябе, Андрэй, любіў, як роднага сына. *(Адышоў з Марысяю.)*

Лаўрановіч *(да сына)*. Бывай і ты, Андрэй.

Андрэй. Толькі б ты быў жывы, татка.

Лаўрановіч. Гэта ты пакінь. У старых раны не зажываюць так лёгка, як у маладых. Сын пра гібель бацькі з часам забудзе, бацька — ніколі. Бывай, сынок, будзь сапраўдным чалавекам. «Жонку»

сваю шануй, беражы. Чую сэрцам, што, можа, прыйдзе і твой час. Яна пачынае разумець цябе. Ну вось і ўсё. Бывай, сынок. Моцныя твае рукі, добрае сэрца — з сапраўднай чалавечыны ты зроблены.

Цалуюцца, пасля Цыкмун і Лаўрановіч ідуць у адзін бок, Марыся з Андрэем бяруцца за рукі і ідуць у другі. Сцэна пусцее. Выбухі ўсё бліжэйшыя і бліжэйшыя.

*Заслона*

# ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

## КАРЦІНА СЁМАЯ

Прайшоў месяц. Вялікі завозны пакой у млыне на Сініх Вірах. Пад падлогаю боўтае моцна і віруе вада. Сцены моцныя, з тоўстых бярвенняў. Злева, ля самага краю сцэны, ляжыць стары жарон, за ім ложак, засланы самаробным тканым пакрывалам. Далей — столік. З правага боку ляжаць мяшкі жыта, вядуць сходы на гару, ляжыць чамусьці вялікі абярэмак сена. Столь над сенам шчалястая, і сонца б'е стуль на сена светлымі паласамі. Проста перад гледачамі шырокія, як у пакгаузах, адчыненыя дзверы. Праз іх відаць далёкі лес, вербы над люстэркам вады, частка грэблі. Толькі што прайшоў дождж, са страхі падаюць кроплі. Вечарэе. У млыне поркаецца Марыся. Віктар сядзіць на ложку.

Віктар. Чамусьці ты мяне нават не пацалуеш.

Марыся. Часу няма. І капрызы твае мне апрыкралі.

Віктар. Я сёння не буду. Я хачу спытаць: ты мяне кахаеш?

Марыся. Ну, кахаю.

Віктар. Тады ты павінна пайсці са мною, тут небяспечна. Мне апрыкраў твой фіктыўны шлюб, гэты дурань, які жыве тут. Кінем усё гэта. Зямля ўся крывёю залілася, нашы на поўдні бягуць. Планета звар'яцела, усё гіне. Пойдзем проста ў лес і там, у нетрах, збудуем хату. Няхай б'юцца, няхай глоткі грызуць — што нам да гэтага залітага крывёю, зняважанага сметніка. І не торкай мне, як панацэю ад

усіх няшчасцяў, свой народ. Я кажу, зямля звар'яцела. Разумныя павінны пайсці ад вар'ятаў.

Марыся. Ведаеш, мне здаецца, што ты тады, падчас замаху на Трубайлу, недарэмна захварэў. Мужны такога не скажа, ён застанецца апошнім і будзе біцца, бо пакуль існуе і б'ецца ён — існуе гонар яго народа.

Віктар. Ты... Ты... Разумееш, што ты такое сказала?!! Ты думаеш ці не? Я па-ранейшаму да Дзюбкі хаджу, я аціраюся тут, хаця тут, на млыне, часта бываюць Швальбе, Ільзенвельдэ, Ранцоў, хаця тут іхніх дзотаў, як грыбоў. І ты мне кідаеш такі дакор!

Марыся *(спакойна)*. Не крычы, давай пагаворым. Я кахаю цябе, але ты мучыш мяне. Я вельмі няшчасная. Думаеш, мне не хацелася б кахання, не хацелася мець дзяцей? Я год марыла пра тое, каб проста паплысці з табою некуды на чаўне і не думаць, не думаць пра ўсё, толькі пра цябе. Але нельга, сорамна глядзець у вочы галодных, у вочы страчаных, сорамна глядзець на знявечаны лес у дратах. А ты арганічна не разумееш гэтага. Месяц таму я думала, выцягні з мяне душу, мучай, зневажай, але будзь чалавек. Будзь чалавек, і тады я хоць на край свету за табой. А потым нешта памёрла ў душы. І ты мне дарагі, але чужы. Андрэй лепшы, ён не крычыць, а робіць сваю справу. І хоць я не цакахаю яго, я, здаецца, кіну і цябе кахаць.

Віктар. Та-ак, бачу, да чаго яно хіліцца.

Марыся. Не плявузгай! Сам вінаваты. Мог бы пашкадаваць хоць раз тое, што, як святыню, насіла ў сэрцы,— каханне да цябе. Не пашкадаваў. Ты заўсёды быў жорсткі, як маланка. І вось, здаецца, прытупілася каханне маё. Падумай, Віця, дарагі мой, падумай, да чаго ты ідзеш, пашкадуй хаця мяне, калі сябе не хочаш!

Паўза.

Пацалуй мяне. Можа, хоць тады растане сэрца тваё.

Віктар. Прабач, мне здаецца, што ты памылілася, я не льдзіна. Я і адзін пражыву. Але думаю, што ты яшчэ пашкадуеш. Я зраблю так, што ты пашкадуеш. Шчасця з ім не зведаць табе.

У дзвярах з'яўляецца сілуэт чалавека. Гэта Каляда.

М а р ы с я. Таварыш Каляда!!!

К а л я д а. Я. Вырашыў наведацца, як вы тут маецеся. Што чуць?

М а р ы с я. У сваім краю, як у раю. Але вам тут нельга! Тут немцы, сёння нават камендант прыехаў.

К а л я д а. Ат, нічога, мне неадменна трэба было. Вы памятаеце, мы закапалі ва ўрочышчы хлеб і зброю. Зараз прыйшла крайняя патрэба. Добра, што вы тут, Віктар. Трэба праверыць, ці можна туды будзе пад'ехаць заўтра з вазамі, ці няма там нямецкіх пастоў.

В і к т а р. Добра, я пайду.

М а р ы с я. Толькі будзь асцярожным.

В і к т а р пайшоў.

К а л я д а *(сеў на жоран).* Уначы вывезем, калі ўсё будзе добра. А вам трэба будзе сапсаваць млын і — прэч... Сігнал яшчэ не забыла? Калі небяспека — кугакай савою... Наш чалавек будзе спяваць жаўруком, гэта значыць, хутка дапаможам. Ціха тут. Я калісь у такіх мясцінах на глушцоў любіў паляваць. Змрочны лес, павуцінне, спявае глушэц. Так ціха, толькі кроплі падаюць... Не, нашу лясную волю не прадамо.

М а р ы с я. Ціха! Не, гэта Андрэй.

З'яўляецца А н д р э й, здароўкаецца з Калядою, сеў.

Ці еў ты хаця, Андрэйка? Зусім ты сябе не шкадуеш.

К а л я д а. Ну, як, муж з жонкаю? Як жыццё?

А н д р э й. А, дрэнь жыццё. Налезла іх тут. Ва ўрочышчы як мурашнік ад іх.

К а л я д а. Як ва ўрочышчы? Туды толькі што Сміхальскі пайшоў.

А н д р э й. Ат, д'ябал! Гэты абавязкова напарацца. Будзе ісці, як на парадзе.

К а л я д а. Швальбе не вельмі дакучае.

А н д р э й. Швальбе — жывёла. Жыве і помсціць сабе і іншым за тое, што паслужыў таму, у што не вельмі верыць.

К а л я д а. А ты, я чуў, таксама добры, ніколі перад ім шапкі не знімеш. Вераб'і ў тваёй шапцы, Андрэй, ці што?

А н д р э й. Гэта яму занадта добра будзе.

К а л я д а. І то праўда. Значыцца, жывеце зараз поруч з фашызмам. Ну і як?

Андрэй. Брыдка. Некаторыя з іх прыгожыя словы кажуць, а на самай справе...

Каляда. Як кажуць, галоўку чэша, а за коску — скуб!

Блізкія стрэлы.

Андрэй. Далібог, напароўся. Таварыш Каляда, трэба ўцякаць. Давайце, давайце. Пойдзеце рэчышчам, там не так небяспечна.

Каляда. Марыся, можа, разам пойдзем?

Марыся. Не, я з Андрэем.

Андрэй апранае на Каляду сваю вопратку. У гэты час з'яўляецца Сміхальскі.

Сміхальскі. Сарвалася справа... Стралялі.

Андрэй. Чаго ж ты бег сюды? Чаго ты наогул бег? Падводзіш млын, камандзіра! Ёлуп! А калі ў іх сабакі?

Здалёк чуваць брэх сабак, усе заціхлі.

Уцякайце, таварыш Каляда. Уцякайце хутчэй. Рэчышчам! Там вада! Па вадзе. Па гэты бок грэблі. *(Выпхнуў Каляду з дзвярэй.)* Направа. Там адхон. Пайшоў! Будуць крычаць — не звяртай увагі.

Сміхальскі *(паціху)*. Ну добра, я табе пакажу ёлупа. Я пакажу, як хцівасцю сваёй адбіраць яе ў мяне. Дый ты паплачаш, Марыська. Я здрэйфіў тады, але я, хаця і робак, не дазволю вам смяяцца. Робак жыве, калі чалавек памірае.

Сміхальскі хутка лезе на гару. Звонку чуваць крык: «Эй, млынар!»

Андрэй. Ціха, Марыська. Займайся сваёю справай. Трэба будзе іх затрымаць.

З'яўляецца Швальбе, Ранцоў, Адлерберг, Ільзенвельдэ, два салдаты.

Швальбе. Эй, млынар! Хто быў? Хто толькі што бег?

Андрэй. Не ведаю. Можа, я? Я толькі што прыйшоў.

Ільзенвельдэ. Я толькі што бачыў гэтага чалавека на шостым пункце, ён не мог быць ва ўрочышчы.

Андрэй. А больш нікога не было. Нядаўна, праўда, былі два салдаты.

Швальбе. Хто яшчэ?

Андрэй. Можа, жонка мая? Але яна нікуды не хадзіла, з самага ранку тут.

Швальбе. О-о! *(Рыўцом саджае Марысю на ложак і глядзіць на падэшвы.)* М-м, не, падэшвы сухія. А ва ўрочышчы мокра. Не, не яна.

Андрэй. Пан, не чапайце яе. Напэўна, вам было б непрыемна, калі б так паводзіліся з вашай жонкаю.

Швальбе. Ого! Шчасце ваша, што ў вас добрая біяграфія і рэкамендацыі. Хто тут быў яшчэ?

Андрэй. Я не бачыў. Праўда, тут праходзіў чалавек, але ён павярнуў берагам, па той бок грэблі. А больш нічога не бачыў.

Швальбе. Абшукаць.

Салдаты абшукваюць млын і сцягваюць з гары Віктара.

А гэта хто? Хто гэта?

Андрэй. Я думаў, што пан камендант ведае. Гэта наш падсыпка, ён ужо два тыдні, як тут. І маёр Ранцоў гэта ведае, ён яго бачыў.

Ранцоў. Так. Мне здаецца, Швальбе, што вы заблыталіся. Трэба хутчэй гнацца за тым чалавекам.

Андрэй *(паціху)*. Цяпер не дагоніце.

Стрэлы. Убягае салдат.

Салдат. Гер маёр, там чалавек на гаці напароўся на нашых. Адстрэльваецца і паціху адпаўзае багнішчам.

Ранцоў і Адлерберг з салдатам выбягаюць.

Швальбе. Та-ак. Але я бачу, што ў гэтага падсыпкі бегаюць вочы.

Ільзенвельдэ. Пакіньце, Швальбе. Ранцоў жа сказаў.

Швальбе *(ціха.)* Нічога, гаўптман. Я трошкі разбіраюся ў людзях, я сам бачу, хто ён, але пара ляпасаў не пашкодзіць. Калі не, мы кінем яго і пойдзем за тым. Нічога страшнага... *(Уголас.)* Да таго ж, глядзіце, мокрыя ногі.

Марыся *(пра сябе)*. Божа, забыў зняць боты.

Андрэй маўчыць.

Швальбе. Фрыц, дапамагай, расцягнем яго трошкі.

Пачынаюць збіваць Сміхальскага.

Марыся *(даволі галасна).* Віця, любы, дарагі. Трымайся! Мацуйся! Я хацела, каб ты кінуў гаварыць тыя словы. Каханы мой! Трымайся!

Віктара б'юць, потым кінулі. Сміхальскі акрываўлены, вопратка парваная.

Швальбе. Нун, падсыпка. Куды хадзіў? Хто гэты чалавек? Можа, ведаеш?

Віктар *(імкнучыся трымацца з годнасцю).* Я бачу, ад вас нічога не схаваеш. Якая карысць маўчаць? Усё адно рана ці позна. Дык лепей рана, не будзеш потым інвалідам. Я ведаю, хто гэты чалавек, і ведаю пра ролю гэтых людзей, што стаяць тут.

Стрэлы здалёк.

Швальбе. Глядзіце, гаўптман, нечакана пашанцавала. А я збіраўся на гэтым і скончыць. Дзіўна, першы раз бачу, што нехта з іх загаварыў. Ну кажы.

Віктар. Той чалавек, што ўцёк, гэта старшыня гарвыканкома Каляда, памочнік вядомага Дубоўскага, зараз кіруе асобным атрадам, а гэта сын Дубоўскага-Лаўрановіча, а тая — гэта яго жонка. Яны працавалі ў млыне ўвесь час партызаншчыны.

Швальбе. О-о! Цікава!

Марыся. Віктар! Віця! Што ты робіш! Ві...

Андрэй. Пакінь яго, не трэба... Здраднік.

Віктар. А вы сляпыя краты, эмбрыёны.

Андрэй. Ты быў камсамольскім важаком. Відаць, такія, як ты, толькі ў гадзіну шчасця ідуць за Камунай. Здраднік!

Віктар. Я вышэй за вас, я вышэй і за такую абстракцыю, як здрада. Я казаў, што вы пашкадуеце.

Марыся *(непаразумела).* Я ж цябе каха... *(Рэзка.)* Я цябе ненавіджу!

Увайшоў Адлерберг.

Адлерберг. Пфе, Швальбе, што гэта ў вас за мясная крама? Памыйце рукі.

Швальбе. Цягніце сюды арыштаванага!

Адлерберг. Арыштаванага? Прабачце, зараз сюды прыцягнуць Ранцоў і чатырох салдат. Ён скакаў па балоту, як конік, і страляў, як Матэо Фальканэ. Павіншуйце мяне, я жывы, і ён таксама жывы.

Андрэй уздыхнуў. Швальбе адвярнуўся ад Адлерберга.

Швальбе. Ну што ж, калі яны хаваюць звесткі пра партызан у сэрцы — я вырву іх разам з сэрцам. Шульц, Кёніг,— рыхтуйце прылады. Там, на гары. *(Салдаты цягнуць на гару Марысю, Андрэй барукаецца з тымі, хто трымае яго. Яго схапілі за рукі.)* Зараз яе прыпаляць агеньчыкам. На бэльку яе! Кажы, ты, кажы!

Адлерберг. Калі скончыце тарквеламстваваць, Швальбе, абавязкова памыйце рукі. Інакш будзе непрыемна працягнуць вам руку.

Пайшоў. Ільзенвельдэ пайшоў быў за ім.

Швальбе. Гаўптман, сядзіце тут. Вам прыказвае старэйшы афіцэр.

Здаўлены крык з гары. Андрэй зарыдаў горлам. Швальбе кідаецца да яго і пачынае трэсці за рэбры.

Кажы хутчэй! Дзе брыгада, дзе атрад Каляды? Інакш, яна ўжо ніколі не будзе прыгожай.

Андрэй. Жывёла! Не дачакаешся.

Салдаты сцягнулі з гары Марысю, яна з акрываўленым тварам.

Швальбе. Ну, кажы ты, кажы, іначай я зараз закатую твайго мужа.

Марыся. Андрэйка, сапраўдны муж, дарагі, даруй мне за гэтага мярзотніка, за гэтага здрадніка. Зараз і ты гінеш... з-за мяне.

Швальбе. Кажы, іначай яго павядуць.

Марыся. Здраднік! *(Швальбе дае знак, Андрэя ўсцягнулі на гару.)*

Швальбе. Зараз ён будзе крычаць, маладзіца. Вельмі будзе крычаць.

Стогн з гары.

Кажы зараз жа, дзе партызаны, дзе інсургенты?

Марыся. Здраднік.

Швальбе. Яму выкруцяць рукі, яго зробяць інвалідам, і сёння яшчэ нічога, а вось што я вам прапаную заўтра.

Стогн.

Марыся. Андрэй, любы, маўчы! Не шкадуй мяне!

Швальбе. Дзе інсургенты? Дзе Каляда?

Марыся. Здраднік! І ты, грубая падла... я маўчу.

Швальбе б'е яе, яна падае. Салдаты сцягнулі ўніз Андрэя. Ён хістаецца на нагах.

Швальбе. Бачыш, яна ляжыць. Я зраблю такое дзесяць разоў — і тады яна памрэ. А ты, пакуль што, будзеш жыць. Адказвай!!!

Андрэй. Эх, пан Швальбе, пан Швальбе! Як вам толькі не ганебна. На месцы вашага начальства я б у тры шыі пагнаў вас з працы. Год у нас, і так дрэнна ведаеце нашых людзей. Сталая істота, а крычыць, тупае нагамі, як дурное дзіця, якое хоча па малой патрэбе. Сорамна! З дзяўчынамі ваюеце, хутка да немаўлят дойдзеце. Карыстаецеся сілаю.

Швальбе б'е Андрэя ў твар.

Ну вось бачыце, стаю. На дзяўчыну сілы хапіла, а тут — не. Нашых людзей кулакамі, сілаю — не пераканаеш. Яны такіх свалачуг, як вы, за тысячу год ой колькі бачылі. І ніхто іх пакуль што не спудзіў да смерці.

Швальбе б'е зноў.

Ну, шчанюк, шчасце тваё, што мяне за рукі трымаюць. Я б табе даў раз, і былі б садухі — і ксяндза зваць не трэба, не тое што ты, авечая смерць.

Швальбе. Яшчэ раз кажу, дзе хаваюцца гэтыя бандзюкі?

Андрэй. Эх, камісар, камісар. У сябе ты быў папіхачом, хлопам, а тут з'явіўся ў чужую хату няклі-каны, няпрошаны, і вось тыраніш гаспадароў, з дзяўчынкамі ваюеш, паклаў ногі на наш стол, выгнаў гаспадара ў лес, ды яшчэ й бандзюком яго абзываеш. Несумленна! Хто ж пасля такіх слоў выходзіць бандзюк, га?

Швальбе. Я перад табою красамоўстваваць не буду. Адно я абяцаю: скажаш — дам жыццё і табе і жонцы, не скажаш — заб'ю. І яшчэ перад смерцю пекла здасца табе раем. Вось.

Андрэй. Так, мы хочам жыць, мы разумеем вартасць жыцця лепей, як такая амёба, як пан камісар. Але нас, відаць, выхоўвалі ў духу прыстойнасці. І мы добра ведаем, што калі грамадская адкрытасць — гэта дабрачыннасць, дык за Юдзін грэх, а асабліва

перад такімі разлезлікамі, як вы, мала таго што нам плюнуць у твар, мы яшчэ і паважаць сябе перастанем. Так што з прапановамі вашымі ідзіце ў другое месца: мы нашым гонарам пастаўлены ў становішча, якое не адпавядае вашым жаданням.

Ільзенвельдэ (*ціха*). І вы не бачыце шматкаляровасці зямлі, якую збіраецеся пакінуць, не ведаеце, што акрамя чорнага і белага колеру, у якія вы фарбуеце свет, існуюць і іншыя?

Андрэй. Па вашым тоне я бачу, што вы не зусім тое, што гэты гадавец. Пакуль яшчэ не позна, зразумейце, што ў белым колеры, у нас, па законах фізікі, змешчаны ўсе колеры зямлі, а вы чорны колер, нават і не колер, а проста адсутнасць святла, смярдзючая яма, бруд.

Швальбе (*дае Андрэю ляпаса*). Хто кажа пра гэта? Дзікун? Скіф?

Андрэй (*пагардліва*). Ваш метад пераконвання вы, напэўна, лічыце метадам культурнага чалавека, не скіфа, не дзікуна? Так, мы на такі ўчынак, біць звязанага, не здатны — мы, скіфы.

Марыся застагнала, села.

І біць дзяўчынак мы, скіфы, таксама не можам, слабых дзяўчынак з мужным сэрцам, галубак з ільвіным сэрцам. Мы ведаем, у іх слабыя костачкі — хрупні — і няма. Таму мы лашчым іх, абараняем, носім на руках. Напэўна, у гэтым і ёсць розніца між такімі культурнымі людзьмі, як вы, і такімі скіфамі, як мы.

Марыся (*абдымае калені Андрэя*). Муж мой! Я ганаруся табою.

Швальбе. Круціце яму рукі, круціце! Я дачакаюся хвіліны, калі ён будзе скавытаць ад болю!

Андрэй. Не, мы не тыя, што скуголяць. Мы сталі людзьмі. Мы сталі відушчымі, а вы, як тысячу год таму, ходзіце ў ідэйных шкурах. Тых, што сталі відушчымі, не загоніш у цемру, тыя, што ўваскрэслі, не паміраюць. Мы не дачакаемся хвіліны, калі будзеце скуголіць вы, але мы верым, вы будзеце скавытаць, як пабітыя сабакі, будзеце лізаць ногі нашы, бо вы толькі на гэта і здатныя. Перад намі — Камуна, перад вамі — магіла ганебна страчаных. Таму так памерці, як паміраем мы, вы не зможаце,— не!

Швальбе. Маўчаць!!!

Ільзенвельдэ. Пан камісар, пакіньце гэтых лю-

дзей. Забіце іх, але не катуйце. Вы бачыце, з імі нічога нельга зрабіць.

Швальбе. Маўчыце і вы. Я пераламаю гэтым паршыўцам косці!

Андрэй. А душу нашу зламаць нельга. Хто можа пахваліцца, што ён зламаў душу Адама новай зямлі, рускага, беларуса,— не такога, як гэты шчанюк,— сапраўднага чалавека. Нас у багне тапілі — мы заставаліся жыць, нас прыгняталі пад варожай пятой — мы жылі і паўставалі, у нас адбіралі мову — мы спявалі нашы песні, на нас ішлі навалаю — мы адказвалі Піленамі, Крутагор'ем і Грунвальдам, нас знішчаюць зараз — мы знішчаем вас. Сцеражыцеся, ёсць канец і нашаму цярпенню, цярпенню добрых, а калі пачынаем мы — свет саступае нам дарогу, адзін варты тысячы і рэкі нашы сплываюць чужынскай крывёй. Не выпрабоўвайце цярпення нашага. Я сказаў! Чуеце?

Швальбе *(выцірае пот).* Д-добра. Ён зараз знаходзіцца ў стане экзальтацыі. Я пагляджу, ці так ён будзе адказваць заўтра. Адвядзіце іх у гэты пусты свіран, пастаўце самую моцную варту. Іх не навучылі мае кулакі — іх навучыць апошняя бяссонная ноч. І запамятайце, калі не перадумаеце, дык з першымі праменнямі сонца вас будзе чакаць страта. Добра?

Андрэй. Дарэмна стараецеся. Адказ будзе той жа. Наш хлеб — гэта горкі хлеб, хлеб з крывёй і мякінай, але мы ганарымся... Мы простыя, мы нечыноўныя, мы — соль зямлі. Думаю, што гісторыя з гэтым млынам кажа сама за сябе: колькі гераізму з аднаго боку і колькі мярзоты — з другога.

Марыся. Мы не мяняем нашых думак па дзесяць разоў на дзень.

Швальбе. Пабачым, што вы скажаце, калі загаворыць у час роздуму жаданне жыць.

Андрэй. Жаданне жыць? Вы называеце жыццём жыццё здрадніка? Дзякуй вам.

Швальбе. Маўчаць!

Андрэй. Рота нам не замажаце. Вам, Швальбе, позна, вас чакае мыла і вяроўка, але вы, гаўптман, падумайце над тым, што значыць уцягнуць нашага чалавека ў мора гневу. О, які пярун грымне над вашай галавою, калі ўстане на ўвесь рост мой народ!

Швальбе дае знак. Андрэя і Марысю павялі. Швальбе ідзе за імі. У пакоі засталіся Ільзенвельдэ, Віктар, салдат.

Швальбе. Фанатыкі! Зараз зламіць іх для мяне пытанне жыцця.

Віктар. Марыся! Андрэй! Даруйце мне! Я здраднік! Я Каін!

Пайшлі, не адказаўшы.

Ільзенвельдэ *(ціха)*. Яны бы не пamipалі так, каб не ведалі чагосьці.

Салдат. Дазвольце спытаць. Што рабіць з гэтым чалавекам?

Ільзенвельдэ *(абыякава)*. З гэтым... чалавекам?.. Расстраляйце тут жа, зараз, ля грэблі. Падла можаце выкінуць у багнішча, я не пратэстую. Як кажа прымаўка гэтага народа: «Здраду прымаюць, а здрадніка вешаюць».

Віктар *(цвёрда)*. Пачакайце, я ведаю яшчэ аднаго, я трымаў з ім сувязь.

Ільзенвельдэ *(тым жа тонам)*. Я не жадаю чакаць. Мы — чума, але ёсць яшчэ ў некаторых нямецкае сумленне. Расстраляць! Эх ты... Такіх людзей!

*Заслона*

## КАРЦІНА ВОСЬМАЯ

Каменны свіран млына на Сініх Вірах. Атынкаваныя муры тамсям аблупіліся, праглядае цэгла. Столь у некалькі скляпенняў. Проста перад гледачом акно, забранае кратамі. Злева — дзверы. На падлозе — свяча, поруч з ёю сена. На сене сядзіць Марыся. Андрэй ля акна кугакае савою. Крык трывожны, гучыць з перэрвамі, з паўзамі.

Марыся. Засталося якіх чатыры гадзіны. Як доўга і як мала. І мы пабачым дзень, сонца, наш млын. *(Расплакалася.)*

Андрэй. Ну-ну-ну, нашто гэта, Марыська. Не трэба.

Марыся. Як ён мог, як мог?!

Андрэй. Э, плюнь, ну бывае з людзьмі. Не трэба, яму было горш, чым нам. Пакінь, Марыська. Бывае ж...

Марыся. З табою не было. Сорамна мне, Андрусь... як сорамна мне!

Андрэй. І я не лепшы. Таксама дрэнны. Ведаеш, калі яны падступалі да Масквы, казалі, што нават узялі, я быў зняверыўся. Толькі і розніца, што я вырашыў тады маўчаць. *(Ціха, недзе крычыць соўка.)* Цяпер веру, хаця б нават да Урала мы адступалі, веру як ніколі.

Марыся. Якія мы маленькія: дзве зоркі ў цемры, дзве кроплі ў пустыні.

Андрэй. Зоркам лягчэй, бо яны ведаюць: недзе ёсць цэлыя сузор'і, кроплям лягчэй, бо недзе ёсць мора. Так і нам. А ты даруй мне, ва ўсім, што можа здарыцца, вінен толькі я.

Марыся. Калісьці мне здавалася, што я кахала цябе... Потым з'явіўся той, але зараз я кахаю цябе сто разоў. Чаму ты не сядзеш зараз тут, поруч? Андрэй.

Андрэй. Не трэба. Я ж даў табе слова.

Марыся. Андрэй, о Андрэй!

Андрэй. Маўчы, не вырывай з мяне гэтага апошняга слова. Я ведаю, тут не я, а абставіны. Я не дарую сабе гэтага.

Марыся. Андрэй, ты павінен падысці.

Андрэй падышоў і сеў непадалёку. Марыся абняла яго, Андрэй зрабіў спробу вызваліцца.

Не адштурхні мяне ў гэты апошні час.

Андрэй. Каханая! *(Прыпаў да яе вуснаў.)*

Марыся. Ты разумееш? Якія ў цябе прыгожыя, мяккія валасы, якія моцныя рукі. Ну... Павінна ж я выправіць апошнюю маю памылку на гэтай зямлі. Забудзем гэта! Каханы мой, любы.

Зацямненне. Цякуць хвіліны. У гэты час адны страляюць у другіх, чалавек павісае на калючых дратах. Гэтых таксама павядуць на страту, але ўсё забыта. Цемра. За акном гукі летняй ночы, спявае салоўка, быццам няма муроў, кратаў, быццам вакол галіны і месячнае святло ляжыць на люстры ракі. І зноў святлее. Марыся ляжыць на грудзях Андрэя. Зноў краты. Але рука ляжыць у руцэ, твар Андрэя на валасах Марысі.

Марыся. Гэта — шчасце. Цяпер я ведаю. І засталіся, можа, якая гадзіна ці дзве. Як многа, калі ты поруч, калі я адчуваю кожную клетку цела твайго. Ты ахінуў мяне ўсю.

Андрэй *(страсна)*. Марыська, любая, я не чакаў, не спадзяваўся. Нашто, чаму я такі шчаслівы?! Усё

знікне, толькі мы адны, збітыя, абылганыя, мы застанёмся навекі. Вось яны, вусны твае, косы твае, твае сумленныя, добрыя вочы. Дарагая мая, дарагі мне чалавек! Навекі, навекі з табою, за кожную кроплю крыві тваёй — хоць на крыж...

М а р ы с я *(прыціснулася бліжэй да Андрэя, уздыхнула).* Табе я б дала мора шчасця, толькі табе. Я б цябе кахала, я б цябе доўга, вельмі верна кахала, скупіла б усё.

А н д р э й. А я б не даў ніводнай слязе змачыць гэтыя вейкі. Ніцая мая, ясачка мая, няўжо ёсць шчасце без гэтага жудаснага прывіду... І няўжо такія шчасныя людзі сварацца? Любая мая, яліначка.

М а р ы с я. Ты быў бы вельмі шчаслівы. Я ж не ві납ватая, што яны забілі мяне тут, ля парога нашага шчасця, ля парога жыцця... Усяго толькі за стары млын мы памрэм, але як мне лёгка, як лёгка!

А н д р э й. Нічога, гэты стары млын, гэта наша радзіма, наша зямля, і мы біліся за яе год. Хто скажа, што мы дрэнныя воіны? Прыйдзе Радзіма і пабачыць нас не на полі бітвы, але таксама параненых. І скажа: вось ляжаць лепшыя дзеці мае, надзея мая. Яны біліся, яны перамаглі.

М а р ы с я. Сонца будзе. Будуць дзеці святкаваць. Кастрычнік альбо Май. Дрэвы, кветкі, дзеці! Што будзе праз пятнаццаць — дваццаць — трыццаць год. Яны напэўна будуць вельмі шчаслівыя. Але няхай і не вельмі шчаслівыя,— няхай аглянуцца на нас. А потым будзе Камуна! Якая белая, якая блакітная, якая ззяючая далячынь! Маглі б і мы быць там. Вось я саджаю ў гародзе капусную расаду... А дзіцёнак, твой дзіцёнак, нябачны, ідзе за мною і выскубвае яе за маёй спіною сваімі пальчыкамі. *(Заплакала.)* Ніколі, ніколі не будзе гэтага, не будзе гэтага дзіцёнка.

А н д р э й. Затое будуць у тых тысяч, якіх мы выратавалі. Вялікая армія...— не, не армія, яны пасля такога жаху ніколі не будуць ваяваць, ніколі. Няхай успомняць нас, няхай паглядзяць на нас, каб лішні раз зразумець, што нельга, бесчалавечна так рабіць. Не армія, проста вялікая чародка дзяцей, шумных, яе вераб'і, вясёлых, замурзаных. Гэта таксама чагосьці варта.

М а р ы с я. Слухай, а можа, яны нас яшчэ выратуюць, га? Можа, прыйдуць? Так шкода жыцця, асаб-

ліва цяпер, калі ты поруч, лепшы хлопец на зямлі.

Андрэй (*вызваліўся з яе абдоймаў, са стогнам кінуўся да акна, учапіўся рукамі ў краты*). Куга! Куга! Куга!.. Куга!

Чуцен далёкі спеў жаўрука. Андрэй прыслухаўся.

Марыся. Яны?

Андрэй (*апусціўся поруч з ёю, абняў*). Не, любая, гэта проста першы жаўрук. Ты таксама самая лепшая ў свеце, самая каханая. (*Лашчыць.*) Але нам не дапамогуць. Яны не ведаюць... І гэта лепей, бо ўсе сілы паклалі б яны на тое, каб нас выратаваць. Шмат было б сірот. Яны не прыйдуць. Далёка нашы, далёка. Але я веру, мы будзем жыць вечным жыццём. (*Пачынае днець.*) Світанак новага дня. Хоць і на карчму падобная зараз наша краіна, хоць і плача яна крывавымі слязьмі, хоць і паміpae яна ад пакут, але калі, калі мы не паміралі, калі не біліся?! З пакут і крыві паўстане радзіма наша. Памятаеш, як казаў Дантэ:

Мяне такой стварылі неба цені,
Што непарушна я пад градам мук
І ў полымя спускаюся нятленнай.

Што нам агонь? У нас моцны карак, мы здужаем усё. І памяць пра нас пройдзе праз стагоддзі. Кожны, як святыню, прыпомніць нас, простых плытнікаў, рыбакоў, дойлідаў, рабочых, песняроў, земляробаў.

Сонца ўзыходзіць. Праменні яго б'юць у акно, і недзе далёка спявае жаўрук.

Марыся. Любы, як добра, як хораша мне.

Андрэй. Птушкі спяваюць. Раса запаліла на дубах сотні ліхтарыкаў.

Знадворку нехта падбірае ключы, скрогат замка, ляскае завала.

Андрэй (*устае, падымае Марысю*). Ну што ж, хадзем (*цалуюцца*), пойдзем разам.

І так, шчыльна прыціснуўшыся адзін да аднаго, яны стаяць, і сонца залівае іхнія галовы.

Марыся. І ўсё ж такі мы жывём. І будзем жыць вечна. Сонца маё! Зямля! Ты падтрымала нас у апошнюю гадзіну. Дзякуй табе.

*1957 г.*

*Заслона*

## ЗАЎВАГІ ДЛЯ АРТЫСТАЎ

У гэтай драме дзве асаблівасці. Першая асаблівасць яе тая, што гэта драма рамантычная, дарэмна шукаць у дзеючых асобах (акрамя некаторых другарадных) рысы будзённасці. Другая асаблівасць тая, што ў драме няма галоўнага героя. Яна не называецца «Андрэй Лаўрановіч», або «Пан Дзюбка», або «Сапраўдная гісторыя камандзіра Каляды», хоць кожны з гэтых герояў можа прэтэндаваць на першае месца. Яна называецца проста «Млын на Сініх Вірах». Гэта маленькая гісторыя маленькіх людзей, якія разам, баронячы жыццё партызанскай брыгады, сталі вялікімі. Гэта — гісторыя млына. Гісторыя невялікага ўчастка вялікай барацьбы. І таму людзі, якія дзейнічаюць у драме, прыходзяць і ўходзяць, мяшаюцца ў справу і паміраюць тады, калі прыйшоў іхні час, калі ніхто больш не можа іх замяніць, як і ў жыцці. Першую карціну можна было б таму назваць «Каляда», другую — «Цыкмун Асінскі», трэцюю — «Варагі» або лепей «Немцы», чацвёртую — «Тэкля Каваль», пятую — «Пан Дзюбка», шостую — «Абаронцы млына», сёмую і восьмую — «Марыся і Андрэй». Але няправы будзе той, хто абвінаваціць драму, кіруючыся гэтай прычынай, у шматковасці. Смальта, якая ўваходзіць ў мазаіку, яшчэ не мазаіка, але, разам з іншымі каменьчыкамі, стварае яе. Кожны з герояў гэтай драмы таксама не герой паасобку. Галоўным героем гэтай драмы я жадаў зрабіць народ, добры і памяркоўны да сяброў, люты і бязлітасны да ворага, народ з аналітычным розумам Каляды, з мудрай іроніяй Цыкмуна, з дзівацкім скепсісам і бязмернай любоўю да Радзімы Дзюбкі, з таямнічай змрочнасцю Тэклі Каваль, з пяшчотнасцю Марысі і нязломнасцю Андрэя. Як мне гэта ўдалося — няхай судзяць іншыя. Але я, калі пісаў, бачыў перад сабою гордае і магутнае племя, адзінае ў мностве сваім, бачыў сутыкненне дзвюх сіл, жорсткую бітву будучай Камуны з цёмным мінулым, бачыў усю непаўторную прыгажосць душы народнай і прыгажосць нашай зямлі: яе смалістых лясоў, яе лясных рэчак, якія зараслі белымі лілеямі, прыгажосць старога млына на адной з такіх рэк і людзей, якія біліся за яго, біліся за наш горкі, за наш ваенны хлеб, за нашу будучыню.

А цяпер некалькі слоў наконт дзеючых асоб. Перш за ўсё Асінскі. Гэта чалавек своеасаблівай філасофіі, трошкі скептык, адзін з тых «нязносных» людзей, якія да ўсяго падыходзяць з іроніяй, але ў душы самыя лепшыя людзі, якіх толькі можна ўявіць. Ні ў якім разе не трэба яго рабіць «фальклорным дзедам», хоць у ягонай мове ёсць фальклорныя звароты. Ён усё ж такі рабочы, хаця і з сялян.

# ЗЯМЛЯ ПАД БЕЛЫМІ КРЫЛАМІ

*Нарыс*



*Зараз вясна. Над усёй нашай краінай, наставіўшы белыя ветразі крылаў, планіруюць буслы. Іх многія і многія тысячы — хто лічыў? На вільчыках сялянскіх хат, на дрэвах, на калонах старых разбураных палацаў, на слупах капліц сярод маладога зялёнага жыта. Гнёзды паўсюль.*

*І таму мне здаецца, што ў гэтыя — і не толькі ў гэтыя — дні зямлю нашу, Беларусь, можна назваць «зямлёю пад белымі крыламі». І не здзіўляйцеся, дзяўчаты і хлопцы, на дзіўную назву кнігі, якая трапіла да вашых рук.*

*Да пэўнай ступені бусел — сімвал Беларусі. Ёсць, вядома, дацкія буслы, апетыя Андэрсенам, ёсць буслы і ў іншых заходніх краінах. Ёсць яны і на поўдні. Але на ўсход ад Беларусі, калі не лічыць сярэднюю Азію, яны ўжо амаль не водзяцца. Так што нават цікава, а хто там прыносіць у дом дзяцей.*

*Вось так і планіруюць, планіруюць буслы. Ветразі іхнія раскрылены над дрэвамі, пушысты хвост, як веерам, накрыў выцягнутыя ногі. А мне пад іхні палёт асабліва добра думаецца пра Беларусь, нашу з вамі радзіму. І для вас я і хачу, наколькі хопіць маіх ведаў і здольнасцяў, расказаць пра яе.*

*Па-першае, чаму «Беларусь»? Ёсць некалькі варыянтаў паходжання гэтай назвы. Прывяду два з іх.*

*Першы: белыя адзенні даўніх вясковых людзей, белыя іхнія валасы, белы колер скуры.*

*Другі. А ён аніяк не супярэчыць з першым. Калі на нашы старажытныя славянскія землі прыйшлі татара-манголы — здолелі адбіцца ад іх амаль адны толькі мы. Паў Уладзімір, Разань, Кіеў. Да Ноўгарада захопнікі не дайшлі толькі таму, што пачаліся дажджы.*

*Мы — адбіліся. І менавіта таму мы «белая», «чыстая ад нашэсця татараў» Русь. А гэта да шмат чаго абавязвае. І вы заўсёды памятайце гэта.*

*Здарылася так, што я пачаў па-сапраўднаму пазнаваць Беларусь толькі ў вашым узросце. Яна была «да вайны», і за час вайны моцна забылася. Бамбёжкі, акружэнні, эвакуацыя. Масква ў кастрычніку 1941 года, горы Урала, Казахстан, Арэнбургскія стэпы. А пасля руіны Мінска і роднае мне Оршы, высечаныя ля дарог акупантамі (ад жаху перад партызанамі) лясы, пераховы забітых людзей. Так усё і пачало запісвацца зноў, нібыта на чыстай дошцы. Любоў да Беларусі нараджалася ў самыя галодныя, халодныя і цяжкія часы. І, магчыма, таму стала асабліва моцная.*

*Бачыў я пасля, як цяжка даводзілася нам аднаўляць сваю гаспадарку, падводзіць пад кроквы новыя хаты замест спаленых, садзіць новыя сады, будаваць новыя школы. Бачыў на свае вочы, як аднаўляліся Мінск і дзесяткі іншых нашых гарадоў. Бачыў, як набіралі сілы беларускія сёлы. І вось менавіта таму, што я — сведка, я і лічу, што маю некаторае права расказаць пра нашу рэспубліку вам, дарагія падлеткі.*

*Мы з вамі дзеці адной гісторыі, аднолькавай сучаснасці і агульнай будучыні. Нас яднае агульны лёс. Нават у «важлівых дробязях».*

*Уся розніца паміж мною і вамі ў тым, што я на нейкія трыццаць год старэйшы за вас і таму крыху болей бачыў. Дажывяце да майго — можа, будзеце куды больш бывалыя. А пакуль што я хачу трошкі памагчы вам у вашых першых кроках, даць вам ключ ад нашага дома, каб далей вы ўжо асвойваліся ў ім самі.*

*Я аб'ездзіў на Беларусі амаль усё. Няшмат засталося нават глухіх куткоў, дзе я не пабываў бы. Таму я насмельваюся сказаць, што ведаю сваю краіну і яе*

*людзей. І менавіта таму, дарагія дзяўчаты і хлопцы, я стану гаварыць з вамі толькі аб тым, што сам бачыў і чуў. Гэта будзе кніга, напісаная сведкам, які многае (што датычыць сучаснасці) бачыў на ўласныя вочы. І я дужа хацеў бы, каб вы мне верылі, нават калі я стану вам расказваць самыя незвычайныя рэчы. Таму што жыццё багацейшае, чым мы яго ўяўляем. Жыццё часам бывае настолькі падобнае на казку, што нельга не ўскрыкнуць: «Ды не можа гэтага быць!»*

*Вы можаце спытаць, нашто гэта вам, калі вы самі жывяце тут і шмат чаго бачыце «на свае вочы». Ну, па-першае, Беларусь вельмі розная. Розняцца людзі, будоўлі, пейзажы. Калі вы жывяце на вёсцы недзе пад Столінам, вы можаце не ведаць, як жывуць вашы браты і равеснікі недзе на Віцебшчыне. Па-другое, калі вы — дзіця вялікага горада, вы можаце ўвогуле не мець уяўлення пра першабытныя лясы недзе над Бярозай-ракой. Па-трэцяе, не тая ўжо і вёска. Людзі носяць не тыя ўборы, глядзяць замест батлейкі тэлевізары. Яны жывуць нязмерна лепей, але і... падабней адзін да аднаго. І мне хочацца расказаць вам аб тым, што знікае і чаму я быў сведкам, каб добра ведалі сваё месца ў гэтым жыцці і вы.*

*Мне патрэбна будзе расказаць і пра гісторыю. І тут вы, вядома, можаце злавіць мяне на слове, сказаўшы, што не мог я, скажам, быць сведкам барацьбы майго народа з крыжакамі. Ваша праўда. Але я ў гэтых выпадках, ведайце, браў кнігі людзей найбольш вартых даверу, кнігі таксама сведкаў, кнігі сумленныя і цікава напісаныя.*

*То пойдзем у наша падарожжа.*

*У дарогу, сябры!*

# ЗЯМЛЯ МАЯ БЕЛАРУСКАЯ

## АД ПАЛЕСКІХ ІМХОЎ ДА АСВЕЙСКІХ КРЫНІЦ

Насельніцтва Беларусі складае больш за 9 мільёнаў 300 тысяч чалавек. З іх беларусаў 7 мільёнаў 286 610 чалавек. У вайну, вы ведаеце, загінуў кожны

чацвёрты жыхар рэспублікі. Часам едзеш лесам, і раптам — паляна, здзічэлыя садовыя дрэвы (вёска так і не адрадзілася) і абеліск, а на ім словы, ад якіх сціскаюцца кулакі і ідзе па скуры мароз:

*«Тут пахаваны расстраляныя немцамі*
*12.IX.1943 г.*
*Кароль Алена Мікітаўна*
*1925 года нараджэння,*
*Павел 1920 г.,*
*Васіль 1898 г.,*
*Зофія 1892 г.,*
*Уладзімір 1922 г.,*
*Іван 1924 г.,*
*Мікола 1927 г.,*
*Марыя 1934 г.,*
*Вера 1939 г.,*
*бабуля 70 год,*
*Сіневіч Антон Валяр'янавіч 1884 г.*
*і Серафіма Ільлінічна 1888 г.*
*і іншыя».*

Гэта значыць, за сувязь з партызанамі ці проста так, з помсты, прыехалі немцы, ачапілі сяло, загналі мірных жыхароў у гумно і спалілі. Такім ці іншым чынам было ператворана ў попел 9200 вёсак. 706 з іх — разам з людзьмі. І 187 засталіся неадноўленыя. Акрамя таго, знішчана 209 гарадоў і пасёлкаў.

Але не трэба думаць — ды вы і самі чулі гэта з расказаў старэйшых, што забітыя гінулі пакорліва. Гэта не так. Хто мог змагацца — загінуў у баі: на фронце, у падполлі або ў партызанскіх атрадах. Беларусь нездарма называюць краінай класічнай партызанскай барацьбы. Партызанаў было тут 374 тысячы. Падпольшчыкаў каля 70 тысяч чалавек. Гэта толькі тыя, што змагаліся са зброяю ў руках, не лічачы сувязных. А калі ўжо казаць пра тых, хто спачуваў, збіраў звесткі, здабываў медыкаменты, ежу і іншае, калі гаварыць пра так званы «партызанскі рэзерв», то ў лік партызан смела можна залічыць ледзь не ўвесь народ.

Наша Беларусь займае 207,6 тысячы квадратных кіламетраў, ці 0,9 % тэрыторыі СССР, але гэта больш чым Балгарыя, больш чым ЧССР, чым Венгрыя, чым Партугалія, Грэцыя, і больш чым Бельгія, Галандыя, Данія і Люксембург, разам узятыя. Працягласць

нашай радзімы з поўначы на поўдзень 560 км і з усходу на захад 650 км. Мяжуе яна з Украінай, Расіяй, Латвіяй, Літвою і Польшчай і займае выгоднае геаграфічнае становішча на шляхах з Заходняй Еўропы на Усход і з Украіны ў Прыбалтыку. Гэтае выгоднае становішча, аднак, часта і падводзіла. Дзе выгоднае становішча, дзе зручныя шляхі, там і вораг. Так што ніводная вайна, якая грымела ва ўсходняй Еўропе, не мінула Беларусі.

...Нехта сказаў, што па абрысах наша краіна нагадвае дубовы ліст. Па-мойму, параўнанне не вельмі. На мой погляд яна па абрысах хутчэй нагадвае зубра.

Умоўна Беларусь дзеляць на пяць вялікіх раёнаў.

1) Азёрны край. Гэта самая поўнач рэспублікі.

2) Цэнтр. Ён прыблізна супадае з Мінскай вобласцю.

3) Панямонне. Заходнія раёны па берагах Нёмана.

4) Усход. Аршанскае ўзвышша, Аршанска-Магілёўская раўніна, а таксама раўніны па рацэ Беразіне і каля Чачэрска.

5) Поўдзень, або Палессе.

Я — але гэта мая прыватная думка — выдзеліў бы за кошт усхода і ўсходняй часткі Палесся яшчэ шосты раён. Прыдняпроўе. Занадта ўжо ўплывае на эканоміку, пейзаж, побыт, нават псіхіку чалавека вялікая Рака.

У адпаведнасці з раёнамі розныя і пейзажы.

У іншых краінах ёсць горы ў зялёнай футры лясоў, мора стэпавых траў і проста сіняе мора. У нас гэта ўсё таксама ёсць, толькі што сабранае ў мініяцюры.

Вось АЗЁРНЫ КРАЙ. Марэнныя грады, шматкіламетровыя «агароджы» з валуноў на межах. І, паміж бясконцых градаў і ўзвышшаў, многія і многія сотні азёр. Паверхня самага вялікага з іх, Нарачы, 79,9 кв. км. Глыбіня самага глыбокага (гэта з вялікіх азёр), Струсты, 30 м. А сярод малых ёсць і такія, глыбіня якіх каля 50 м. Азёры гэтыя розныя. Вада Нарачы такая чыстая, што пры вялікай глыбіні можна бачыць усё, што ляжыць на дне. А вось вада змрачнаватага, ляснога і балотнага возера Палік (у Бярэзінскім запаведніку) нагадвае густа завараны чай.

Паміж азёраў частыя ўзгоркі, і на іх пілы лясоў, пераважна хвойных. А па схілах — палі. Малінавыя шары канюшыны, сінявокія льны, жыта, сям-там расквечанае валошкамі.

На ўзгорках вострыя шпілі гарадкоў з гарбатымі вуліцамі і вялізнымі купамі старых ліп. Адзін амерыканскі падарожнік, што аб'ехаў палову свету, пісаў на пачатку нашага стагоддзя, што пейзажаў, лепшых за пейзажы беларускія, ён не бачыў ва ўсёй Еўропе.

Часам з адной гары можна бачыць да дзесятка азёр. Асабліва гожыя яны ў летнія ночы, калі ў іх адбіваецца перакулены дагары нагамі спічасты лес і, здаецца, ночы зусім няма і слізгоча ў чыстых, як сляза, глыбінях доўгае, плямістае цельца стронгі. А стронга можа быць толькі ў ідэальна празрыстай, без кроплі каламуці, вадзе.

Зноў на ўсход. І зноў узгоркі і азёры. Мачтавыя бары на схілах. Аж медныя. І — нібы рубеж, які перавалілі,— замест шпіляў, аж празрыстыя, белыя, нібы са святла пабудаваныя, старажытныя званіцы Полацка.

...ЦЭНТР — таксама разнастайны. Поўнач — гэта грады і ўзгоркі, укрытыя сям-там лесам. Сярод іх ёсць і «горы», асобныя вяршыні, якія не дужа рэзка вылучаюцца ў рэльефе. Гэта гара Лысая, гара Маяк і іншыя. Але тут жа, у нізіне па Бярозе-рацэ, быццам зусім іншая зямля. На многія і многія дзесяткі кіламетраў старажытныя чорныя лясы, глеба нібы сочыцца вадой. Рэчкі, азёрцы, межытокі. А над імі дзіч ялін, хвояў, бяроз, дубоў, чаромх і ўсяго такога. Лішайнік барадамі звісае з дрэў, чырванеюць на беражках тарфяных вымачын мухаморы, і ў гэтым змроку, валюхаючы, праходзіць гаспадар гэтых мясцін — мядзведзь.

Калі ехаць на поўдзень — грады паступова ніжаюцца і пачынаецца Слуцкая раўніна: бязмежны разліў палёў, што калыхаюцца пшаніцай і жытам, маленькія пятачкі лесу, вялізныя, як дубы, дзічкі на месцы былых межаў, крыжы ветракоў. Гэта — беларуская жытніца. Так бы мовіць, беларуская Украіна.

———

...Адразу ясна, што ПАНЯМОННЕ атрымала сваю назву ад галоўнай сваёй ракі, у басейне якой яно і ляжыць. Нёмана. Таго, які, як кажа беларуская прыказка, «пачынаецца з арэхавай шкарлупінкі». Гэта дужа ціхая, дужа ласкавая зямля. Мяккія сытыя ўзгоркі, купы магутных дубоў і ліп на іхніх верхавінах, прыгожыя вёскі, бясконцая, глухая Налібоцкая пушча. Дубы і па берагах. Многа. Вялізныя, як зялёныя хмары, часта шматвяковыя.

І тое, што надае мясцовасці асабліва рамантычны характар: замкі, што збольшага ляжаць у руінах. На ўзгорках, на берагах рэк, на астравах. Яны дужа розныя, гэтыя старажытныя будовы. То гэта проста нібы каменныя загоны для быдла: квадрат высачэзных муроў метры ў тры таўшчынёй (Ліда). То як быццам нейкая пахаваная пачвара высунула з зямлі сточаныя часам зубы вышынёй з вялізны дом (Навагрудак, Крэва). А часам гэта велічныя бела-чырвоныя вежы, муры, што злучаюць іх, багаты палац пад чарапіцай — прыкладзі крыху працы і маеш цудоўны дом адпачынку (Мір).

...УСХОД. Часам марэнныя грады, часам раўніны. На водападзелах тарфяныя і мохавыя балоты. Дурманіць там галаву багун, а журавіны ўвосень збіраюць саўкамі. Тут трапляюцца бадай што найлепшыя на Беларусі сасновыя бары. Нацэленыя ў неба, звонкія, прапахлыя жывіцай. Грыбоў — хоць касой касі. На поўдні ўсё часцей і часцей трапляюцца дубровы з іхнім шырокалістоўным холадам. Шмат старых паркаў. У прыватнасці, парк пры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, самы стары батанічны сад рэспублікі.

І паўсюль яры, поймы, паплавы, што шумяць разнаквеццем, сады.

...ПОЎДЗЕНЬ, АБО ПАЛЕССЕ дарэмна лічаць адной суцэльнай забалочанай нізінай. Ёсць, вядома, і гэта. Некаторыя балоты цягнуцца на дзесяткі кіламетраў і толькі сям-там вытыркаюцца з іх «выспы», гэта значыць, астравы, парослыя першабытным лесам. Калісьці на такія астравы можна было прайсці

толькі ў люты мароз або вялікую засуш. Калі наступала раптоўная алліга або ішлі залевы, то чалавек, які зайшоў на выспу, мог застацца там і на год і на два. На пачатку XIX ст. была засуш. Некалькі паляўнічых зайшлі на адну такую выспу і ўбачылі на ёй зрубы, сляды зямлянак, а на галіне дуба вялізны звон, што аж урос верхавінаю ў дрэва. Выявілася, што жыхары бліжэйшай вёскі хаваліся тут ад шведаў. Пасля зарадзілі дажджы. Людзям удалося выбрацца, а маёмасць засталася. Звон правісеў на дубе больш за сто год.

Цяпер, вядома, такая недаступнасць здараецца дужа і дужа рэдка. На гарадзішча-схоў, каля вёскі Гараднос, куды перабіраліся ў вайну тысячы паўтары год назад жыхары, цяпер можна свабодна праехаць гаццю.

Але ж і раздолле на выспах! Хвоі, бярозы, зараснікі маліны, паветра звініць ад птушак, на кожным кроку барсучыныя і лісіныя норы.

А вакол, вядома, балоты. Часам небяспечныя, зарослыя незабудкамі, сіўцом, белакапытнікам, а часам і звычайныя, на якіх вясною танцуюць, падскакваючы ў паветра, жураўлі.

На сухіх месцах саснова-лішайнікавыя бары: зямля аж сівая. І яшчэ дубровы. Велічэзныя. Часам з дубоў, якім пяцьсот — шэсцьсот, нават тысячу год. Амаль равеснікаў Полацка або Віцебска. Колькі б яны маглі расказаць, каб умелі гаварыць! У такіх лясах заўсёды змрок, крыху паплямаваны сонцам; курыцца, як з кадзільніц, зямля, і ў гэтых выпарэннях стаяць стрункія, як калоны, амаль белыя ствалы волатаў. Тут ёсць ласі, козы,дзікі, рысі, бабры, а на захадзе, у Белавежы, першабытныя зубры.

Ёсць тут і малыя пустыні. Высеклі лес, панізіўся ад асушэння ўзровень грунтавых вод, і вось пяскі вырваліся на волю, пачалі крочыць, утвараць барханы, насоўвацца на палі, часам засыпаць балоты (і гэта страшней за балота, бо чалавек можа, даверыўшыся пяску, ступіць і праваліцца, і ніхто нават не даведаецца, дзе ён знік). Менавіта таму з павалам лесу і асушэннем трэба быць дужа-дужа асцярожным.

Аб гэтым цяпер усё больш думаюць, засяваючы пяскі травамі, а пасля лесам. Але аб чым думалі яшчэ год дзесяць назад? Безадказнае асушэнне — таксама

шкода. Балота часта не вораг, а захавальнік вільгаці, рэзервуар з'яўлення аблокаў, пачатак крыніцы, ручаіны, ракі.

Ёсць тут і паплавы і ўзвышшы з крутымі абрывамі на берагах. Узвышшы з сухім гонкім морам лясоў.

Яшчэ і зараз падчас паводкі многія вёскі стаяць на астравах або па калена ў вадзе і па вуліцах ходзяць маторкі, на якіх возяць вучняў — у школу, сялян — на работу і г. д. А яшчэ нядаўна (подаўна ўжо не быў на Палессі ў час разліву і таму не ведаю, ці ёсць яшчэ такое цяпер) можна было ўбачыць на гэтай бязмежнай,— у шырыню на некалькі дзесяткаў кіламетраў, у даўжыню — на сотні,— роўнядзі вады, нават плывучы кірмаш. Штук трыццаць дужа вялікіх чаўноў, змацаваных масткамі, сотня меншых, і ўсё гэта плыве ад вёскі да вёскі, а пасля да гарадка, прадаваць і купляць. Коні касавурацца за борт: «Ну вас да д'ябла, яшчэ патонеш з вамі», мыкаюць каровы, крычаць пеўні, вішчаць парсюкі. Лодачнік, які плыве насустрач і ведае, што вакол — на кіламетры — вада, і раптам чуе з туману такую сімфонію, можа падумаць, што звар'яцеў.

Ды што казаць, у 1969 годзе бачыў я на Прыпяці такое: плывуць дзве вялізныя лайбы, а ў іх стаіць грузавік. Правыя колы ў адной, левыя ў другой. Дзядзька вычэрпвае з чаўноў цёмную і празрыстую прыпяцкую ваду.

Значыць, пераганяюць кудысь. Ёсць два пункты, а дарогі між імі ніякай няма.

Я ўжо казаў, што выдзеліў бы ПРЫДНЯПРОЎЕ ў асобны раён. І хаця ў географаў такое дзяленне не прынята — я паспрабую гаварыць пра землі над Дняпром, як пра асобны край. Бо ўся гэтая мясцовасць створана Дняпром і ніжняй часткай яго прытокаў, уся носіць на сабе яго адбітак. І разлівы, як мора, і паплавы з акіянам кветак (часам чалавек з вудай хаваецца ў іх), з рамонкамі, смолкамі, шалёнай вясёлкай разнатраўя. І старажытныя гарадзішчы са скарлючанымі дубамі на іх. І гарады і вёскі, што ўзніклі на тых гарадзішчах. І сінія старыцы ў цені дубоў на тых жа паплавах. І сотні курганоў, у якіх спачылі продкі. Бары на «родненькім» Дняпровым пясочку, і зарасці шыпшыны і бэзу на месцы былых паселішч. Шумлівыя паркі, брохание вялізнай, з вяс-

ло, рыбы, бабёр, што куляецца ў ваду, убачыўшы твой човен, ранішнія слупы пары над ракой, вогнішча касцоў ля будана, брэх сабак у начных вёсках, калі праплываеш паўз іх.

І, галоўнае, далечы, роўных якім не знайсці на зямлі. То снежныя, то шматкаляровыя, то з шаломамі стагоў і качкамі, што ўздымаюцца са «старыкоў». Як шпакоў, гэтых качак!

Гэта пейзаж. Але неад'емную частку пейзажу складаюць цяпер нівы. Гэта не тыя нівы, што на Украіне, Кубані або цаліне — бяскрайнія абшары пшаніцы і кукурузы. У нас яны па 5—10 гектараў на поўначы і крыху большыя на поўдні. Бульбяное, жытняе, ільняное поле. Белыя зорачкі, жоўты сухмень, сіняе азерца. А яшчэ малінавая канюшына, белы россып грэчкі, залатое мора лубіну ці сланечніку, бледназялёныя кучары гароху.

Ну і, вядома, пашы, выганы з каровамі і авечкамі. Духмяныя зарасці канопляў, «расліны ўцекачоў», бо ў ёй чалавека і з сабакам не дагоніш: сабака адразу губляе нюх.

> У каноплях, у пахучай імгле зацішнай
> прытулак знойдзе звер і чалавек увішны.
> Зайчо, што ўзнята на гародных градах,
> ў каноплі ад сабак імкнецца без агляду,
> і псам не ўзяць яго у нетрах канапляных,—
> саб'юцца са слядоў яны ў імгле духмянай,
> дваровы там сядзіць, у цень густы схаваны,
> пакуль не адыдзе прыпадак гневу ў пана...
>
> *(Адам Міцкевіч. «Пан Тадэвуш»)*

...Давайце цяпер пяройдзем да вёскі, хаты, чалавека. Толькі я хачу папярэдзіць вас, што гэта будзе размова хутчэй этнаграфічная, што многа чаго змянілася, што вопратку народную носяць не паўсюль, а толькі месцамі, астраўкамі на Палессі, Гродзеншчыне, Прыдняпроўі, што гаспадыні самі цяпер пякуць хлеб нячаста і г. д.

Размова пойдзе пра тыповае, пра тое, што розніць побыт беларуса ад побыту, скажам, грузіна ці ўкраінца.

## ВЁСКА, О РОДНАЯ ВЁСКА МАЯ!

Дык вось, вёска. Яна не такая, як на Украіне або на Доне. Там не рэдкасць вёскі ў 200—300—1000 двароў. У нас 20—30 двароў — гэта ўжо вёска. Мала

таго, на захадзе яшчэ й дагэтуль досыць многа хутароў, хаця людзі паступова і кідаюць іх. Ёсць, праўда, і вялікія вёскі, двароў на 1500, такія, як Рубель на Століншчыне. Але іх мала, напэўна, некалькі соцень, не больш.

За выключэннем некаторых раёнаў Палесся, беларускую хату ніколі не беляць знадворку, толькі ўнутры. Але старая беларуская вёска, тым не менш, прайграючы ў весялосці знешняга выгляду перад вёскай, скажам, карпацкай або малдаўскай, мае нейкі дужа мілы, задумлівы і паэтычны каларыт, дзякуючы прысадам вялікіх дрэў на вуліцах і ў завулках, векавым дубам на сядзібах, вялізным дзічкам на былых межах, садкам і, урэшце, таму, што калі не адразу за хатамі, то хаця б на гарызонце амаль абавязкова відаць лясы ці пералескі, што калі не тут жа, то непадалёку — рака, рачулка ці возера. Шмат зеляніны, шмат вады, шмат неба над галавою.

У нас хату часта будуюць талакою, з тоўстых і смалістых сасновых бярвенняў. Таму што лесу ўсё яшчэ многа. Па той самай прычыне амаль няма глінабітнай падлогі, як на поўдні СССР, а ёсць падлога з дошак. Столь, вядома, таксама дошкавая, зверху, на гары, на яе насыпаецца пілавінне, для цеплыні. Стрэхі раней былі саламяныя або, на поўдні, з чароту, які даўжэй служыць. Таму даўжэй, што, калі страху растрэплюць вятры і дажджы, чарот можна зняць і зноў перакрыць ім хату. І так два-тры разы. Але і тады часта сустракаліся «шчапяныя» дахі. Цяпер гонтавы дах бывае на хаце часцей за ўсё. За ім ідзе шыфер. Чарапіца сустракаецца досыць рэдка. Дахі двухскатныя. Шатровыя або напаўшатровыя досыць рэдкая рэч.

Хата заўсёды будуецца вокнамі на вуліцу, уваход калісь быў, у пераважнай большасці выпадкаў, з двара, а цяпер усё часцей, з вуліцы. Франтон часта аздабляецца разьбою. На Давыд-Гарадоччыне, напрыклад, на ўсіх хатах знак сонца і расліны вакол яго. Разьба і навокал акон і на акяніцах. Не ўсюды, але часта. Раней хату абкружала прызба, цяпер хаты, вядома, на фундаментах.

Для прыкладу апішу некалькі вёсак. Спачатку хутар. Расолы Астравецкага раёна на Гродзеншчыне.

Цэнтральная база саўгаса досыць далёка. Да блі-

жэйшай станцыі Гудагай некалькі кіламетраў лесам, палямі, пералескамі. Паўсюль раскіданы грады ўзгоркаў, а на іх сіні зубчасты лес. Між градаў палі канюшыны, залатыя лапікі стральчастага лубіну. Праз густыя зарасці чорнай вольхі бяжыць вясёлая і чысцюткая, на дзве трэці зацененая дрэвамі рачулка Лоша. «Лоша» па-літоўску «стронга». І стронга сапраўды водзіцца тут. На беразе рэчкі прыткнуліся наводдаль адна ад адной некалькі спраўных хат са студнямі, пунямі і адрынамі, у якіх так добра спаць на сене. Крыху далей, у звіліне Лошы, векавыя дрэвы былога фальварка. Ад дома засталіся толькі прыступкі ганка, якія вядуць у нікуды. А ля дарогі высачэзны крыж з неашкуранага, крывога дубовага ствала з гэткай жа папярочынай. Кажуць, што крыж пастаўлены былой гаспадыняй фальварка ў памяць аб павешаным правадыры паўстання 1863—1864 гг. Каліноўскім, якога яна кахала.

Другі край рэспублікі. Паўдзённы. Лахва Лунінецкага раёна Брэсцкай вобласці. Рака з непрыгожаю назваю Смердзь ёсць, аднак адна з найпрыгажэйшых рэчак, якія мне даводзілася бачыць у маім жыцці. Недзе кіламетраў за дзесяць да ўпадзення ў Прыпяць рака пачынае драбіцца на рукавы. Атрымоўваецца некалькі астравоў, злучаных драўлянымі мастамі. На гэтых астравах хаты, што патанаюць у садах. Вада рукавоў цёмна-зялёная, з сонечнымі плямамі, бо над імі вербы ўтвараюць суцэльныя тунелі. І ў гэтых тунелях, у імгле, цэлыя чароды чаўноў. Тут цудоўныя новыя пабудовы. У прыватнасці, школа. І, нібы вакол мала вады, тут яшчэ і шмат сажалак, дзе разводзяць карпаў.

Той самы поўдзень, але Мазыршчына. Вёска Данілегі. Гэта адна з тых мясцін, дзе жыхары яшчэ носяць па нядзелях і святах старадаўнюю народную вопратку. Хаты, выцягнутыя ў два рады, так густа абраслі дрэвамі, што здаюцца пагружанымі на дно глыбокага зялёнага возера. Некаторыя з іх пабелены і знадворку. Часам — крытыя трысцём. Вокны абведзены сінім. Наваколле — дрымучыя лясы. Трапляюцца дубровы па 400—500 год. Гэта менавіта тут стаіць у атачэнні шасцісотгадовых дубоў — «дуб Крывашапкі», «цар-дуб», «дрэва вечнасці» — вось колькі ў яго назваў. Яму тысяча гадоў. Разменьвае другую тыся-

чу. Немцы хацелі спілаваць яго і вывезці ў Германію, але партызаны паставілі варту. Не ведаю, ці трэба было. Немцам усё адно гэта не ўдалося б. З якою тэхнікай падступіцца да дрэва таўшчынёю з вялікі пакой?!

Возера Свіцязь, апетае Міцкевічам. Вялікі, амаль правільны круг, з усіх бакоў зарослы дужа старымі дубамі. Вада тут такая, што, калі нават проста выкупацца — валасы рыпяць дні два. У наваколлі яго тры досыць тыповыя вёскі. Міратычы, што працягнуліся доўгай паласою харошых хат. Тут захавалася даўно зачыненая чатырохсотгадовая драўляная царкаўка з тыпу «патаемных». Назнарок малая, назнарок у гушчары, каб на час навалы і вайны не знайшлі. Яна славутая цудоўнай народнай разьбою.

Валеўка. Гэта вёска сучасная, але і тут ёсць старажытнасць.

У прыватнасці курганы, гарадзішча, трохсотгадовая драўляная царква (раней яна была касцёлам, і гэта ў ёй, згодна паданню, вянчаўся з Зосяю Міцкевічаў пан Тадэвуш), а ў ёй іконы работы... В. М. Васняцова. Так-так, вывезеныя калісьці з Варшавы ў Баранавічы і ў некалькі вёсак. У прыватнасці, у Валеўку... Тут багатыя фермы і будынкі, школа з музеем, ледзь не самым багатым сярод усіх школьных музеяў на Беларусі: ад палеаліта да нашых дзён. У школе ёсць і свой цікавы батанічны сад з мноствам экзатычных раслін. А ў садзе невялікія сажалкі, у якіх дзеці разводзяць рыбу і куды яны выпусцілі чарапах.

Варонча. Вёска амаль гарадскога тыпу. Тут некалькі прадпрыемстваў. Але і гэта — вёска-музей. Тут, над запруджанай рачулкай, у гушчары, стаяў — а можа, і цяпер стаіць — васьмісотгадовы дуб, звязаны з імем Міцкевіча. Унутры — дупло, у якім могуць паснедаць вакол стала чалавек дзесяць. Нават акенца ёсць, на другі бок. Можна высунуць галаву і глядзець проста з дрэва, як лясны дух. Наводдаль — руіны дужа даўняга касцёла і могілкі з цудоўнымі помнікамі з італьянскага мармуру. Тут пахаваны бацькі польска-беларускага паэта і фалькларыста Яна Чачота, блізкага сябра Адама Міцкевіча, а таксама — Верашчакі, сваяка Марылі Верашчакі, першага кахання паэта. Маёнтак Верашчакаў, Туганавічы, быў некалі

побач. На яго месцы застаўся парк і «альтанка Марылі», некалькі ліп, пасаджаных кругам. Яны так зрасліся, што, каб адна не ўпала — унутр гэтага драўлянага круга нельга было б трапіць.

Як бачыце, амаль у кожнай беларускай вёсцы ёсць што паглядзець. Толькі трэба ведаць, што глядзець.

Пра воблік новага беларускага сяла, пра саўгасы і калгасы я раскажу крыху далей.

## ПРОСІМ У ХАТУ, ГОСЦЕЙКІ НАШЫ!

Але зойдзем у хату, якой яна была яшчэ не так даўно, а часам сустракаецца і зараз. Спачатку трапляем у сенцы. Яны і зараз служаць для гаспадарчых мэт. Тут вёдры, цэбры з рознай рознасцю, маслабойкі (цяпер часта сепаратар) і г. д. Дзверы насупраць вядуць у камору, дзе таксама рэчы для гаспадаркі і на паліцах розныя прыпасы. Другія дзверы вядуць у халодныя пакоі. Іх адзін ці два. Раней гаспадыня ўлетку выносіла сюды кросны, ткацкі станок, бо ў самой хаце горача. Тут жа ўлетку спалі старэйшыя (для маладых служыла і служыць адрына з сенам). Тут узімку ляжаць на аўсянай саломе яблыкі, рассыпаныя тоўстым пластам жалуды для свіней, іншыя прыпасы. Раней зрэдку, а цяпер досыць часта ў халоднай палове ёсць і грубка, так што пры выпадку (наезд гасцей ці яшчэ нешта) можна размясціць процьму людзей. У мінулым стагоддзі, калі шафаў, вядома, не было, а ў куфры (скрыні) не ўсё змяшчалася, тут стаялі і «кублы» з лішнім адзеннем і іншым дабром.

У некаторых хатах да халоднай паловы была прыбудова, у якой спалі ў зусім нясцерпную спёку тыя, хто не хацеў ісці проста ў садок, пад дрэвы. Часам яе можна ўбачыць і зараз. Я аглядаў некалькі такіх, і «абстаноўка» іх заўсёды была аднолькавая: нізкая, дужа шырокая і доўгая, «скрыня» на ножках, у ёй сяннік, набіты сенам, мякенькай аўсянай саломай ці гарахавіннем, радно, падушкі і полаг. Абавязкова. Ад камароў. Зроблены з радзіны, падобнай на марлю.

Вернемся ў сенцы. Ага, мы забылі яшчэ вось што. Лесвіцу, «драбіны», або проста бервяно з засечкамі, якое вядзе на гару, дзе вісяць шынкі і летнія каўбасы

(зімнія каўбасы, залітыя салам, і само сала — у дзежках і гарлачах, у сенцах ці ў каморы).

Цяпер — у хату. Выгляд яе для кожнай мясцовасці быў розны. У даўніну бывалі хаты з комінам (цяпер комінам завецца пячны дымаход), плеценым і абмазаным глінаю конусам, пад якім на жароўні ці ў свечніку гарэла лучына, а дым ішоў комінам праз столь і страху. Бывалі хаты з вялізным, таксама абмазаным, каўпаком ля ачага, дзе ў зімнія ночы (там было цяплей) збіралася прасці і майстраваць уся сям'я. Ды і ў розных мясцовасцях хаты былі розныя. На два пакоі (трысцен і ўласна хата), на два пакоі з прыбудовамі і г. д. Але найбольш тыповы выгляд быў такі. З трысцена, дзе елі летам і, хто хацеў, спалі зімой, і куды ўзімку бралі маладняк быдла, быў уваход у хату. Ля ўвахода, справа, мыцельнік, месца для мыцця посуду і кухонных рэчаў. Пасля печ. За печчу, па правай сцяне пол (нары). Пад полам складалі розныя рэчы. Але ўжо тады замест пола часта стаялі шырокія ложкі, адзін з завескаю, для гаспадара. Уздоўж астатніх дзвюх сцен ішлі шырокія лавы, часам з тканымі налаўнікамі. На іх сядзелі і ноччу маглі спаць, асабліва калі бывалі госці. Часам гасцей клалі і пад лаўкі, залежна ад стану. У беларускай ананімнай паэме XIX ст. «Тарас на Парнасе», дзе іранічна апісваецца гулянка «грэчаскіх» багоў, ёсць такія радкі:

І кожны бог так разгуляўся,
Што аж не можна удзяржаць,
А хто гарэлкі насцябаўся,
Таго пад лаўку клалі спаць.

Перад лаўкамі — стол. Заўсёды дужа белы, бо яго часта скрэблі нажом. Стол і лаўкі часцей за ўсё былі з тоўстых дубовых дошак. Ля той сценкі, дзе дзверы, стаялі куфры і — узімку — гаспадыніны кросны.

З упрыгожанняў былі — абразы на покуце. Бывалі сярод іх і лубачныя, але здараліся й дужа цікавыя. Ці старажытныя, ці наіўныя, уніяцкіх яшчэ часоў, дзе святыя былі ў беларускіх народных вопратках. Асаблівым поспехам карыстаўся святы Юры, які забівае дракона, і святы Мікола за сваё сялянскае паходжанне і за тое, што (па беларускай легендзе)

аднойчы ўратаваў адзінную кабылку беднага мужыка, якая заблукала ў лесе. Не даў раздзерці ваўкам і памог ажарабіцца, а пасля прывёў гаспадару. Згодна павер'ю, калі жарабятка падрасце, то на ім паедзе той, хто дасць волю народу.

І яшчэ адно ўпрыгожанне — тканыя посцілкі (у шашачкі, у шэсць, дванаццаць і дваццаць чатыры «ніты», чынаватыя і інш.).

І, вядома ж, ручнікі. Мноства. Раней вакол абразоў і акон. Цяпер каля карцін і партрэтаў. Ручнікі ў нас на Беларусі таксама розныя, па мясцовасці, і дужа разнастайныя. Узоры іншыя, чым у суседзяў, хаця ёсць і падобныя. Галоўная розніца — менш «раслін і кветак». Арнамент часцей геаметрычны. Меней чорнага колеру. Пераважае «вясёлка», жоўты, чырвоны, сіні, блакітны і іншыя такія колеры.

Ну вось. А цяпер паколькі я кепскаваты танцор, то пайду танцаваць ад печы. Печ — гэта цеплыня. Печ — гэта здароўе застуджанаму. Печ — гэта і гарачая, смачная ежа. На поўначы печ дужа вялікая і простая, хіба што з «пячуркамі» для запалак і лучыны на распал. Затое на поўдні яна меншая і часам нагадвае архітэктурную спаруду. Дзесяткі выступаў і ніш, у якіх гліняныя збанкі, ліверы (пасудзінка з дзвюма дзірачкамі, «цякло, бы з лівера, з вачэй»). Тут ёсць дзе ўстанавіць спарыш (два гаршкі, злучаныя ручкай, каб насіць на поле абед), паставіць і «ўдаву» — гаршчок, падобны на абаранак. Печ уся распісана кветкамі, дзяўчаткамі з каромысламі і коннікамі — улюбёны матыў. Зараз у наш час печ выцясняецца плітамі і плітамі газавымі, але пакуль ёсць у многіх хатах.

Дзе печ, там і тое, што з печы.

## ХЛЕБ І ДА ХЛЕБА

Беларус любіць смачна паесці. Вось апісанне абеду з ананімнай паэмы XIX ст. «Энеіда навыварат» (напісанай як наследаванне Осіпаву і Катляроўскаму). Пра беларускія ананімы я яшчэ буду гаварыць.

За стол ўсе парадам садзілісь,
Мялянік[1] на стале ляжаў.
Дыдона варыва ўлівала,

[1] Гатунак пірага.

Шматкамі мяса ў місы клала
І забяляла малаком.
Трупаціла яна крупеню,
Яечню, руднік, жур, смажэню.
Каму пячэню з часнаком;
Былі й салодкія пацешкі:
Вяземскі пернікі, арэшкі,
Мязгі й мязюму[1] рашаты.

З такой фламандскай сакавітасцю мог апісваць ежу толькі чалавек, які ўмее і любіць пад'есці і якому часам, што ўжо казаць, даводзілася і недаесці.

На куццю на стол ставілася 12, 18, а то і 24 стравы. І ўсё гэта трэба пакаштаваць. Некаторыя са страў я апішу. Не сказаць каб усё гэта заўсёды стаяла на стале, але гэта стравы нацыянальнай кухні.

Перш за ўсё страва інтэрнацыянальная. Аснова ўсяго. Хлеб. Пшанічны, як на поўдні, у нас пякуць рэдка. Беларус любіць чорны хлеб і сумуе па ім, трапіўшы туды, дзе яго няма. Так што хлеб у нас жытні, вельмі духмяны. Пякуць яго на паду, на капусных або кляновых лісцях, а пасля, спырснуты вадою, астывае хлеб пад ручнікам, напаўняючы хату найлепшым у свеце пахам. Няма нічога смачней, як адрэзаць гарачую лусту, густа пасаліць яе і з'есці.

Дарэчы, ад хлеба і вылячэнне. У незапамятныя часы беларус заўважыў, што плесня, якая ўтвараецца ў дзежцы на рошчыне летам,— у гарачую пару, калі хлеб не пякуць,— загойвае нават раны, ад якіх вось-вось пачнецца гангрэна. Колькі трэба было ісці чалавецтву, пакуль яно вынайшла пеніцылін!

Улетку, калі дарагая хвіліна, елі праснакі (прэсны хлеб) і цацні. Да белага ставіліся ў даўніну крыху недаверліва, «нэндза прымусіць калачы есці» (г. зн. не здолеў пракарміцца з зямлі, пайшоў у горад на заробкі — апошняя справа! — а там, ясна ж, калачы). Але пірагі заўсёды любілі. З яблыкамі і ўвогуле з садавінай, з чарніцамі, кручаны з макам (струцаль). Калі пяклі іх, то рэшткі цеста раздавалі дзецям, каб кожны спёк сабе хаця б па маленькай булачцы, сваёй. І, як паўсюль у славян, існаваў «зайцаў хлеб», што бацька прыносіць з лесу ці з дарогі.

Хлеб даставаўся цяжка. Кінуць яго быў смяротны грэх. Абраніўшы, трэ было падняць кавалак, пацала-

[1] Разынак, ізюму.

ваць і сказаць: «Даруй, божухна». Хлеб абагаўлялі.

Бульба. Другі хлеб. Беларусы ведаюць каля тысячы страў з бульбы. Ад звычайнай, печанай на начлезе, якую так добра выкаціць з прыску, абскрэбці, разламаць і, калі яна яшчэ дыміцца, саліць і, захлынаючыся, глытаць — ад гэтай, печанай, і да «клёцак з душамі» (вялізныя клёцкі з цёртай бульбы, начыненыя мясам), да бульбы, фаршыраванай сушанымі грыбамі і запечанай у гарачай печы. Апісаць усе спосабы немагчыма. Але і проста вараная, з падгарэлымі вяршкамі, высыпаная на абрус на стале яна — дзіва! Бяры і еш. А да яе сала, салёныя агуркі (з кропам, халодныя) і селядзец (раней бульбу мачалі ў селядцовы расол — лёк). Або зялёны канапляны ці залаты сланечнікавы алей, масла каровіна ці міска кіслага халоднага малака, якое ў маёй мясцовасці падсольваюць. Кепска было раней, калі яшчэ не было бульбы. Тады замест яе былі параная рэпа, бручка ці нешта такое іншае.

Дарэмна нас дражняць бульбаю. Ёсць бульба, ёсць і да бульбы. Я не кажу пра ежу даўніх беларускіх магнатаў, усе гэтыя «ласіныя губы ў падсалоджаным воцаце», «бабровыя хвасты» і іншае. Нават кухарская кніга XIX стагоддзя «Гаспадыня літоўская» (Беларусь тады часта называлі Літвою), кніга для сярэдніх класаў, дае тысячы рэцэптаў дужа складаных страў.

Добра. Ідзём далей. Што ў нас на першае?

Боршч раней у нас варылі досыць рэдка. Галоўнай была «капуста» з кіслай або свежай капусты. Затым ішлі «поліўка» — дужа тлусты гарачы суп, падбоўтаны мукой, «панцак» — пярловы суп з грыбамі. «Булён» — адкуль такая назва — невядома, бо гэта проста бульбяны суп, зашкварaны салам, а зусім не французскі «бульён». Лапша з курынымі патрахамі. Супы па сезону — шчаўе, маладая крапіва з яйкамі. Славуты халаднік з халодным мясам і гуркамі. Малочныя супы і сярод іх «гушча наліваная» — уласна, пшанічная каша, залітая гарачым малаком. І ўрэшце квас, род баршчу з буракоў. У чырвоны празрысты адвар клалі мяса, грыбы і іншае. Словам, як пісаў Я. Колас:

Аздоблен квас быў і грыбамі
(Выключна ўсё баравічкамі)
. . . . . . . . . . . . . .

Цыбуля, перчык, ліст бабковы —
Ну, не ўясісь, каб я здаровы!

Над сваім апетытам беларус заўсёды пасмейваўся (уменне іранізаваць не толькі над кімсьці, але і над самім сабою — адна з самых, па-мойму, вартых рыс беларускага нацыянальнага характару):

«Прадаў на рынку кабана, пайшоў закусіць. З'еў тры міскі капусты з боханам хлеба, сала хатняга з фунт. Тут купіў яшчэ тры порцыі смажанай каўбасы ды ўмяў. Пасля бульбы змамоніў міскі тры. Зноў баршчу міску ўбіў з булкай. А пасля як успомніў, што брат у салдатах, то як завязала».

Чуллівы чалавек, праўда? Есці не можа, калі брату цяжка.

...Першай стравы, здаецца, насёрбаліся. Пераходзім да другой. Нават не ведаю, з чаго пачаць. Занадта ўсяго. Ну, ясна ж, на другое кашы. Усякія. Робяць у місцы з кашай «калодзеж», наліваюць туды падлівы з мясам і чэрпаюць па краях. «Калодзеж», ясна, шырыцца, і туды даліваюць і даліваюць, аж пакуль не зробіцца адна суцэльная «студня» з мяса. Тады яе дабіваюць лыжкамі і просяць яшчэ.

І яшчэ назаву некалькі назваў без усякай сістэмы. Скажам, калдуны, нешта накшталт вялікіх і доўгіх пельменяў. Ну і, вядома, яешня. Проста яешня «глазуха» і яешня, запечаная з мясам і салам у гаршку — «верашчака».

Або мачанка з блінамі. Своеасаблівая падліва з мяса, рабрынак і сала, падбоўтаная мукой, у якую «мачаюць» бліны. На поўдні і ў Прыдняпроўі вялікім поспехам карыстаюцца «кіяшы» — вараная маладая кукуруза. На кіяш кладуць кавалак масла і, пакуль не растаў, падсольваюць і ядуць.

Цяпер пра мяса. Беларус згодзен толькі з другой паловай украінскай прыказкі «риба — линина, а м'ясо — свинина». Лін у нас не лічыцца добрай рыбай, засалодкі. Але свініна надзейна займае першае месца. Раней галоўным было сала, прычым асаблівым шыкам было есці «сала на повен рот, а хлеба так толькі, для смаку». Цяпер сала ўсё больш саступае месца летнім і зімнім каўбасам, паляндвіцам і іншаму. Вэнджаную ў хатняй капцільні шынку і так ядуць, і за-

кусваюць, і проста перекусваюць, калі раптам перад абедам забурчала ў жываце... Ядуць, вядома, і ялавічыну і бараніну. Ну і, вядома, птушка займае сваё месца на стале. У азёрных і балотных мясцовасцях, дзе і стрэльбы ёсць і на рынак не дужа адвязеш, у сезон ядуць усё, аж да качак, запечаных з прыправамі ў гліне. Гэта на паляванні. І рэдка мне даводзілася есці нешта смачнейшае. Дужа смачная таксама качка з бруснічным варэннем, крышанымі бурачкамі і яблыкамі.

І, ясна ж, рыба. З яе таксама ёсць шмат страў, і апісаць іх тут усе няма магчымасці. Толькі пару слоў пра цудоўную юшку, празрыстую, бурштынавую ад тлушчу і ад таго, што цыбулю туды кладуць, зняўшы толькі верхнія сухія жоўтыя лушпайкі. Ніжнія, таксама жоўтыя, але яшчэ жывыя, не здымаюцца. У юшку ідуць прыправы і прысмакі. Часам робіцца юшка «ў дзве ці ў тры рэдзі». Гэта значыць, што спачатку варацца акуні ці яршы, пасля іх вымаюць, і толькі тады ў адвар кладзецца «сапраўдная рыба», рыбцы, ляшчы, сцерлядзь, калі трапіцца.

У ежу ідуць амаль усе гатункі рыб і іхняя ікра (яе некаторыя соляць). Не ядуць толькі ікры мірона, якая часам бывае атрутная. На поўдні ядуць яшчэ і ўюноў, якіх ловяць узімку так: устаўляюць у палонку кошыкі без дна, напханыя сенам. Але паўночней замест уюна часцей ідзе ў ход вугор. Яго вараць у юшцы, часцей вэндзяць. Добрая таксама і сялява, якую смажаць ва ўласным тлушчы.

Ракаў ядуць далёка не ўсюды. Нядаўна, ловячы рыбу з жыхарамі вёскі Церабяжоў на Століншчыне, убачыў на беразе поўна ракаў, дзе жывых, а дзе і высахлых. Выявілася, што, калі выцягваюць нерат, ракаў выкідваюць, «каб не паскудзілі раку».

— Што ж вы робіце? Смакоцце такое!

— Гідка.

Але як наварыў, сабраўшы (цяпер ужо аддавалі мне), і паказаў, што і як, то ўмялі за добрую душу... І так ва многіх мясцінах.

Не гідуйце, але ёсць пара мясцін, дзе арцелі ловяць жаб (не рапух, а зялёных жабак) і маюць з таго добры прыбытак. Яны ідуць за мяжу.

Пра што яшчэ... Ага, малако. І сырое, і кіслае,

і смятана, і тварог. Як пісаў у паэме «Новая зямля» Якуб Колас:

Тварог, запраўлены смятанай,
Нясла з вялікаю пашанай.

Ну і ясна, кісялі, узвары, яблыкі, свежыя і мочаныя і проста залітыя вадою з прыправамі, так што зімою, як свежыя, але нібыта апушчаныя ў яблычны сок, памідоры і гуркі (узімку салёныя). На поўдні і ў Прыдняпроўі нават вінаград беларускіх гатункаў. Хто мае 20—30 лозаў, той часам зберагае яго да вясны, уторкваючы чаранкі кожнай ґронкі ў дужа познія грушы, што аж да каляд цвёрдыя, як кій. Або ўстаўляе чаранок кожнага грона ў бутэльку з разбоўтаным попелам... І п'юць мёд, вядома, калі ён ёсць.

І, ясна ж, суніцы і чарніцы. Чарніцы часта ядуць, заліўшы ў місе малаком. Рот робіцца чорны, як у злоснага сабакі, затое смачна.

Нацыянальныя беларускія напоі — гэта квас і, перш за ўсё, бярозавік. Сок бярозавы п'юць і свежы і даўшы яму перабрадзіць і крыху закіснуць. Так ён зберагаецца ў бочцы да жніва, і яго бяруць у поле. Кіславата-салодкі (часам у яго дабаўляюць хатні парэчкавы ці яблычны сок), рэзкі, дужа добры ў спёку. Робяць таксама віно з яблыкаў. Выціскаюць сок і даюць брадзіць. Любяць моцнае хатняе піва, а на паўночным усходзе — брагу. Заліваюць наліўкі. Папулярнасцю карыстаецца крупнік, звараны з мёдам, вострымі прыправамі, травамі і карэннямі, а таксама «тройчы дзевяць», лячэбная настойка на дваццаці сямі травах. Рабінаўка, кмяноўка. Я ўжо не кажу аб настоях для лекаў, якіх сотні.

Ну і «жыватоўка» — тое, што ўкраінская «горілка з перцем». І зуброўка — на сапраўднай, пахучай і ільснянай зубровай траве.

І вось вам апісанне гулянкі багоў з «Тараса на Парнасе»:

Наперш дала яна капусту,
Тады са скваркамі кулеш,
На малацэ крупеню густу
Дае уволю, толькі еж.
І з пастаялкай жур сцюдзёны,
І з кашы сала аж цякло,
Ды і гусяціны пражонай
Уволю ўсім багам было.
Як унясла ж на стол каўбасы,

Бліны аўсяны ў рашаце,
Аж слінкі пацяклі ў Тараса
І забурчала ў жываце.
Багі гарэлку піць пачалі,
З насадкі[1] ў чаркі так і льюць,
Падпіўшы, песні заспявалі.

Чаму я апісваю вам гэта? А таму, што ежа розных народаў, як і вопратка і жыллё, усё больш і больш падпадае стандарту.

І ў Маскве, і ў Кіеве, і ў Мінску, у хаце і ў сталоўцы — амаль паўсюль вы ясце тыя ж самыя катлеты ды біфштэксы, носіце тыповыя вопраткі з падобных матэрыялаў, усё больш забываеце непаўторнасць і адметнасць жыцця той мясціны, адкуль вы родам. А да канца забываць пра гэта нельга.

## КУФАР ЖЫЦЦЯ

...Пяройдзем цяпер да куфра. Ён зараз амаль выціснуты шафаю, але я кажу аб параўнаўча нядаўнім мінулым, і да таго ж ёсць мясціны, дзе куфар, або скрыня, яшчэ й зараз пануе ў хаце, іх нават яшчэ робяць сям-там. Лепшымі куфрамі лічацца тыя, што робяць у Іванаўскім раёне на Палессі.

Куфар у нас прыблізна такі, як і ў Расіі, і на Украіне, хіба што большы памерам. Часам нават на колцах, як палтаўская скрыня. Адрозненне — у колерах, якімі ён распісаны. Колеры беларускага куфра больш глухія: фіялетавы з чырвоным, карычневы з сінім і чырвоным і г. д. Ды акрамя кветак і «букетаў» на нашых куфрах ёсць яшчэ стылізаваныя фігуркі людзей, коней і г. д.

Адкрыем куфар. І прабачце мне, што я скарыстаюся тым жа ходам думкі, які так удала ўжыла ў сваёй паэме «Куфар» беларуская паэтэса старэйшага пакалення Ларыса Геніюш. Толькі ходам думкі, толькі прынцыпам. Праз куфар — жыццё чалавечае.

Шырокі, высокі, акованы куфар,
Малёваны вокал, з клямкаю са сталі,
Не ўстыдно б такому і на панскі хутар.
Куфар не замкнёны, бо ў нас не кралі.

Гэта праўда. І зараз у далёкіх вёсках гаспадар, выходзячы з хаты, толькі прыпірае дзверы кійком,

---

[1] Посуд з рыльцам.

каб ведалі, што нікога няма дома, і каб часам не ўлезлі сабакі ці свіння.

У пахучым куфры важка ўсё ляжала,
што сама бабуля працай рук прыдбала.
Быццам водар з поля пранясло ля хаты,
так запахла лугам, чабаром і мятай.

Вось ляжыць, на памяць, пялюшка першынца. У некаторых мясцінах яе кладуць маці ў труну, калі памрэ. Каб «памятала», як маладую маці на трэці дзень, на «ўзвары», наведвалі суседкі і прыносілі ёй розныя стравы, як «бабку» (нават калі маці была ў радзільным доме) садзілі ў санкі ці на воз і з песнямі везлі па сялу, а тая падганяла жанок доўгай хлудзінай, як «бабка» частавала ўсіх «бабінай кашай», а тыя за гэта дарылі бабу.

Як мужчыны, «на шчасце кугакалу»[1], стралялі за весніцамі са стрэльбаў у паветра (гэты звычай, між іншым, быў не ўсюды).

Як спявалі бясконцыя песні, у якіх, не заўсёды нявінна, даставалася бабцы, куму і куме.

А вось стаяць, як па́лі, сувоі белага ільнянога палатна. І можна ўспомніць, як, дзяўчынаю ўжо, церла гэты лён і прала, віла і снавала, і як у маі ўвесь свет быў белы: ад вішань, ад яблынь, ад палотнаў на лузе пад сляпучым сонцам.

Цяпер саматканыя палотны робяць рэдка, але робяць, дый старое палатно берагуць. «Свая» тканіна і вопратка з яе лічацца самай здаровай для летняй спёкі.

Далей ляжаць «сцежкамі ў полі» розна вышытыя ручнікі. На іх «сінія валошкі з макамі ў вяночак, галубок і пеўнік, ягады каліны, нагаткі, рамонкі, гожыя юргіні. Па канцах карункі тонкім павуціннем...»

У кожнай мясціне вышыўка была непаўторнай, каларытнай, мясцовай, не такой, як у суседзяў, хаця, вядома, якой бы яна ні была, чалавек заўсёды скажа: «Вось польскі ручнік, вось украінскі, а вось гэта — беларускі». На Беларусі вядома больш за сто спосабаў і відаў вышыўкі.

---

[1] Крык дзіцяці і крык савы аднолькава перадаецца выклічнікам «ку-га!» (уа!), таму нават бытавала павер'е, нібыта крык савы прарочыць, што ў доме хутка народзіцца дзіця.

Ручнікі на сценах, ручнікі ў мыцельніку.

А ручнік яшчэ ж і падарунак... Вось гэты падрыхтаваны для свата, каб лепей жартаваў на вяселлі.

Ляжаць белыя «кашулі» (сарочкі), вышытыя па каўняры, рукавах, поліках, а часам і па ўсёй пазусе. Чорна-чырвоныя візэрункі, зялёныя, калі травамі, зялёна-карычневыя, сінія, калі валошкі.

Тут жа безрукаўкі. У іх апраналіся паўзверх сарочкі, і называліся яны па-рознаму: «шнуроўка», «кабат», «станік», «гарсэт». Яны барвовыя, зялёныя, сінія, шнураваныя.

Звычайна безрукаўкі падпярэзваліся тонкім паяском, які ззаду завязваўся прыгожым бантам і спускаўся на спадніцу. Некаторыя ўпрыгожаны каляровымі шаўковымі істужкамі, срэбным ці залатым галуном.

Спадніцы з сукна, так званыя «андара́кі». Густа-сінія, зялёныя, часцей чырвоныя, як жар. У папярочныя тканыя палосы з ромбаў і квадратаў. Самыя прыгожыя, шырокія палосы ідуць ля падола. Чым вышэй, тым яны вузейшыя, тым прасцейшы ўзор.

Часам тканы андарак — гэта твор мастацтва.

Урэшце фартухі. Іх насілі абавязкова. Палатняныя, кужэльныя. Затканыя гарызантальнымі ці (радзей) вертыкальнымі палосамі з кветак, зорак ці крыжыкаў.

Можна ім закрыць вочы ад шчасця,
калі шчокі калінай ірдзяць,
схаваць слёзы, калі не ўдасца
тое шчасце навекі ўтрымаць.
Хвартушок — чарадзейнае хусце —
гэта стан свой задорна абвіць.
У бель чаромухі голаў чыюсьці
ў забыцці на хвартух палажыць.

У баку ляжаць некалькі тканых узорных настольніц.

Хай едуць госці, хай едуць нават сваты — пасцялі на стол, стаў пірагі, частуй мёдам.

Тут жа дываны, тканыя па лёне воўнай.

То узорам чорным
па утку зялёным,
то на белым-сінім,
бы расой замглёным,
то ў вянкі, ў алені
нейк перабірана,

быццам не рукамі,
а машынай ткана.
То з адное воўны
дываны на сані.
Ярыя, як вішні,
кутасы звісаюць.

Тут хусткі. Цёмныя на жалобу, ясныя — на свята, на нядзелю, у гасціну.

Яшчэ адна хустка, цёплая, цяжкая,
баба яе велькай хусткай называе.
Ёю ў непагоду трэба атуліцца,
старым у дарозе і для маладзіцаў.
Мяккаю, шырокай.
зложанай удвое,
ахінуць ля сэрца
дзіцянё малое.

Але да дзіцяці яшчэ далёка. Усё ў куфры падрыхтавана для вяселля. Вяселле ў розных мясцінах таксама рознае. Запісана некалькі сот варыянтаў. Раскажу аб адным, якое ад пачатку да канца бачыў сам.

Жаніх і нявеста даўно дамовіліся, але вёска была глыбінная, моцна трымалася звычаяў, і таму многае было, як раней.

Сват, бацька жаніха і жаніх паехалі за некалькі кіламетраў у суседнюю вёску, у хату нявесты. Сват — сваяк жаніха, мажны дзядзька, паважаны на сяле чалавек, вынаходлівы і востры на язык. Пад'ехалі, вылезлі, топчучы сіні ад месяца снег, сталі пад акном.

— Пусціце, добрыя людзі, на начлег.

— Здаровыя былі, ідзіце ў хату.

У хаце прыезджыя паклалі на стол дары, у тым ліку хлеб і віно, і пачалася размова, уся на выкрутасах, уся на жартах, на двухсэнсоўнасцях. То купецкая пра тое, а ці ёсць цялушка для прадажы — «ды прадалі б, каб купец знайшоўся». То паляўнічая, наконт пошукаў куніцы. То рыбацкая, пра залатую рыбку. Урэшце прама гавораць, чаго прыйшлі. Гаспадар улешчаны, але куражыцца. Гаворыць нешта накшталт:

— Ды што вы, людзі. Яна ж у нас яшчэ малая. Яна ж у нас яшчэ ў рэшаце спіць[1].

---

[1] Прыклад прыведзены Янкам Брылём у кнізе «Жменя сонечных промняў». Прыклад з «таго» вяселля, што бачыў сам, я, на жаль, забыў.

Урэшце дамовіліся. Маладая дорыць усіх багатымі ручнікамі.

Далей многае ідзе падобна як на вяселлях розных славянскіх народаў. Падрыхтоўка, шэсце нявесты ў народным строі па вёсцы, з запрашэннем на вяселле. Адметным было хіба тое, што былі яшчэ «запоіны», на якіх абмяркоўваўся парадак вяселля, ды некалькі дзён перад вяселлем хата нявесты была аддадзена ў поўнае карыстанне ёй і сяброўкам. Частаваліся, спявалі песні, гаварылі пра былое і будучае. Ніхто з мужчын не меў права носа паткнуць бліжэй, чым да суседняга двара.

«Пасад» нявесты на дзяжу, укрытую кажухом поўсцю наверх, ёсць, здаецца, не толькі ў нас. Каравай з «шышкамі» таксама. А вось адметнае.

Раніцай жаніх з дружынай у два дзесяткі хлопцаў і з «баярамі» закусілі дома і паехалі на конях да нявесты.

Іваньку матка радзіла,
У дарогу выпраўляла;
Месяцам абгарадзіла,
Зарою падперазала:
Едзь, дзіця раджонае,
Па сваё суджонае.

Усю дарогу спявалі песні. Пра тое, як травы расцвітаюць пад капытамі жаніховага каня, што «бог таму дае, хто дачку аддае за яго». У нявесты ўжо быў накрыты стол, але прыезджых не пускалі, рабілі выгляд, што будуць страляць, біцца насмерць. Урэшце, за выкуп, пусцілі.

Ішоў пачастунак. Пасля будучыя свацці на парозе зляпілі ў адну дзве свае палаючыя свечкі.

І ў цябе свяча, і ў мяне свяча,
І ў цябе дзіця, і ў мяне дзіця.
Злепема свечкі да купкі,
Зведзема дзеткі да хаткі
Да адзінай маткі.

Толькі тады ўсе зайшлі, размясціліся за сталом. Маладыя на покуце. З'яўляецца каравай, абвіты кветкамі. Ідзе пагулянка, а пасля абрад завівання касы. Малы брат нявесты яшчэ да абраду хоча вялізнымі авечымі нажніцамі гэтую касу абрэзаць. Ужо нават зацìснуў: «Тут яна вырасла, тут і застанецца». Жаніх, ясна, выкупляе.

Валасы жаніха і нявесты (расплеценыя) прадзяваюць па адной пасме ў пярсцёнак і разам падпальваюць, а пасля надзяваюць жаночы галаўны ўбор. Пачынаюцца плач, рыданні нявесты, лямант, усхліпы. Ясна, што тая самая нявеста будзе насіць, што хоча, заплятаць валасы, як хоча, што «галаву», «намётку», «чапец», «крэндаль» (так называюцца жаночыя галаўныя ўборы) адразу схаваюць у скрыню. Але ў глыбінных вёсках абраду, яго дробязных, вонкавых рысаў, трымаюцца зацята.

Пры завіванні спяваюць:

А я цябе, сестранька, завіваю,
Шчасцем, доляю абсыпаю;
Ой, будзь прыгожа, як ружа,
Ой, будзь здарова, як вада,
Будзь багатая, як зямля.

Тут неадменна знойдзецца нейкі парсюк, які прыбавіць якую-небудзь гадасць, накшталт: «Будзь пладлівая, як свіння».

Жанчыны яго за гэта «б'юць», ва ўсякім разе, валяюць і шчыкаюць. Той раве.

З таго часу і ляжыць у скрыні, побач з хусткамі, дзявочы галаўны ўбор, вянок, абшыты парчой і сусальным золатам (часта стогадовы), і «намётка», палаценкавы галаўны ўбор, які абвіваўся вакол галавы, пад падбароддзем і пасля спускаўся на спіну (дзявочая намётка патыліцы не прыкрывала, а спускалася па плячах на грудзі багата і гожа затканымі і вышытымі канцамі).

...Зноў ядуць, дзеляць каравай. Усе дораць нявесту, а маці яе — сваякоў жаніха.

На падарунках стаіць гэты абрад, як і многія-многія іншыя народныя абрады.

Ці то маладога ў войска прызываюць,
ці далёка сына з хаты выпраўляюць.

Дораць на радзіны і на наваселле,
дораць на хрысціны, дораць на вяселле,
бацькоў маладога, і сястру, і брата,
дораць музыкантаў, шчодра дораць свата.

Гуляюць вяселле. П'юць сябры не дарам!
Дораць ўсе ад сэрца маладую пару.

Дружна пры гасціне п'юць, пяюць, гавораць,
выйдуць, патанцуюць і ўсё дораць, дораць.

Цяпер сялянскі аркестр нівеліраваўся. Скрыпка або дзве, басэтля, гармонік (баян ці акардэон), нейкі духавы інструмент ды бубен. Радзей, хаця яшчэ досыць часта, сустракаюцца цымбалы. Але амаль зніклі гуслі, а «дуда» (валынка), я мяркую, знікла зусім. Ва ўсякім разе вось ужо пятнаццаць год як мне нідзе не даводзілася ні чуць яе, ні чуць пра яе.

Асаблівасцю вяселля з'яўляюцца здзеклівыя песні пра свата, а часам і пра жаніха. Сват, часцей за ўсё, адбрэхваецца, прымушаючы застолле качацца з рогату.

Бабы спяваюць: і сам сват-п'янюга — за гарэлку ён хоць чорта з вярбою сасватае, і кабыла ў яго такая галодная, што нават на вяселлі не толькі з'ела авёс, засыпаны ёй гаспадаром, а і ў суседняга каня з'ела, а пасля

Каля тыну крапіву, крапіву,
Каля саду расаду, расаду.

Сват у адказ:

— Барабаніце, як парожнія бочкі, брэшаце на свой хвост. Ты ўжо, Хаўронbackup, і на сабак брахаць навучыш, і шыеш і мыеш — і ўсё языком, а надумаеш пірагі пячы, то ўсе вароты ў цесце будуць.

У нашага свата
Увесь двор на памосце,
Прыйшла свіння ў госці.

— Бадай вас, бабачкі, кот убрыкнуў, па цэламу сабаку ў вас з рота скача. Вы тут мяне лаеце, а за тым сталом людзі дабрэйшыя за вас. Во (паказвае голую косць), костку далі. Ад вас і таго не дапросішся... А ты ўжо, Галачка, што фігуруешся? Ва ўсіх чэсных людзей чупрына на галаве, а ў твайго мужыка плеш. Дай вам, божа, бабы, пабіцца, а мне на вас падзівіцца.

Жаніху:

А ў гародзе морква цвіцела.
Наша Зосечка за харошага хацела,
Як прыйшлося, за п'яніцу заляцела.

Тры дні ішла гулянка ў нявесты. Пасля конны паязд накіраваўся ў вёску жаніха (калі жаніх з той жа вёскі, то часам бывае так: выедуць, праедуць некалькі кіламетраў і прыедуць у вёску з другога боку. Гэта, як і сварка з жаніхом, калі збіраюцца «біцца» —

пережытак. Калісьці нявест «умыкалі», і абавязкова з іншага месца).

Тут адбыўся таксама цікавы абрад. Відаць, калі яшчэ кралі нявест, то стралялі па-сапраўднаму. Цяпер гэта пережытак. Пры выездзе з вёскі — на шляху высачэнная барыкада з бярвенняў, снегу, калоў. За барыкадай «паходні» (факелы), доўбні, па-акцёрску злыя твары. Пагражаюць, патрабуюць выкупу, іначай не адпусцяць.

Выкуп далі, і барыкада знікла менш чым за пяць хвілін. І паязд з коньмі, разубранымі кветкамі і стужкамі, памчаў. А вакол конныя часам стралялі ў паветра. Не «ад сурокаў», як раней, а проста для настрою.

Шалёны лёт коней.

А пасля яшчэ тры дні ў жаніха, а пасля «перазовы», калі клічуць у госці сваякі жаніха і нявесты, «каб не гаварылі кепска аб радзіне».

І ўвесь час звіняць, звіняць, звіняць песні. То сумныя, то заліхвацкія. Між іншым, за ўсе дні амаль ніводная не паўтараецца.

...Ідзе жыццё замужняй жанчыны. У куфры некаторыя рэчы яе, мужа, іншых членаў радзіны. Цяжкі суконны сувой на світку мужу, «дзедаві». У куфры хавалі з мужчынскага адзення толькі такое, ды яшчэ паясы. Вопратка мужчынская хавалася або вісела асобна. Мужчынскія, больш скупа вышываныя сарочкі, нагавіцы з палатна, для лета, і з сукна, для зімы. Вышывалі сарочкі толькі на грудзях, каўняры, манжэтах, па ніжнім краі, а сям-там ля плечавога шва. У мужчынскі гарнітур уваходзіла яшчэ «камізэлька» (безрукаўка).

Ну, і ясна, што асобна зберагалася верхняя вопратка, як мужчынская, так і жаночая: кажухі і кажушкі (частка вышытыя), буркі, тоўстыя — у палец-паўтара — і доўгія паліто з капюшонам, для зімовай дарогі, світкі (другія назвы — «латуха», «сярмяга», «сукман», «жупан») рознага колеру[1], але, часцей за ўсё, белыя, часам расшытыя чырвоным сукном (Гомельшчына), сінім шнурком (Быхаўшчына), зялёным шнурком або чорнай скурай (пад Клімавічамі). Таму натоўп сялян заўсёды здалёк выглядаў белым.

---

[1] На поўдні Гродзеншчыны часам кафейныя з сінімі ці чырвонымі абшлагамі. Па Бугу — цёмна-шэрыя з чорнымі абшлагамі і г. д.

Ясна, што не трымаліся ў куфры і валяныя шапкі «магеркі» (усечаны конус з адгорнутымі краямі), брылі, футравыя шапкі «аблавухі», або «рагатоўкі» з белай аўчыны. Не трымаўся і абутак: скураныя «пасталы» («хадакі», «поршні») з цэлага куска скуры або рознакаляровых яе палосак, плеценых у шашачкі, лапці (дарэчы, дужа зручныя ў гразь ці ў балотны сенакос: вада не затрымліваецца, лёгка назе, практычна нічога не каштуюць), чаравічкі («храмавы абутак», бо надзявалі хіба толькі ў адну царкву), боты.

...А паясы ляжалі ў куфры. Плеценыя або тканыя. У ёлачку, у капытца (ромбы), у пчолку, двух- і шматкаляровыя, шырокія і вузкія.

Іх некалькі разоў абгортвалі вакол таліі, а пасля канцы, заўсёды ўпрыгожаныя кутасамі, спускалі збоку, радзей спераду ці ззаду.

Паясочак сіні — недзе ад матулі,
а чырвоны, яры — мужу да кашулі,
а вось гэты — гожы, доўгі, з кутасамі,
падпярэзваў святам бабін брат часамі.
Загудзелі дуды, гуслі заігралі,
брат скакаў, а з ветрам кутасы лятвалі...
І слязу змахнула рукавом бабуся,
бо адзіны брат той з вайны не вярнуўся.
А шырокі пояс, зложаны ў дзве столкі,
падпярэзваў калісь дзед бабулін толькі.
Зіхацеў на свіце, шырынёй бы ў пана,
толькі што не слуцкі, а удома тканы.
Хутчэй, чым прыняці той абычай панскі,
спадабала шляхта паясок сялянскі,
не са слуцкіх — родны паясок зрадзіўся,
а насіці пояс пан ў сялян вучыўся.

Побач з паясамі адгароджана ў куфры месца для прыкрас. Тут пярсцёнак: пасля заручын яго заўсёды здымалі і хавалі, бо перашкаджаў працаваць. Побач ляжаць каралі, часам сапраўды з караляў ці нават «бурштына» (янтара) і «гырната» (граната), ці штучнага жэмчугу, а то і проста шкляныя. Дарэчы, бісер на Беларусі зусім не карыстаўся павагай.

І, ясна, запасныя завушніцы. Завушніцы насілі ўсе. Пратыкалі мочкі вушэй год у сем, працягвалі голкай ільняную нітку, якая там да часу і заставалася, а месца праколу некалькі разоў прамывалі гарэлкай або, лепей, грудным малаком.

Дзяўчаткі, як і паўсюль, плялі сабе вянкі, рабілі

ажаролкі з белай лілеі — нізалі кавалкі сцябліны на нітку, пакідаючы ўнізе кветку. Рабілі — і робяць — каралі з ягад глогу, арабіны, шыпшыны, каліны.

І, урэшце, апошняе аддзяленне куфра, прыскрынак. Пад ім складзены фартух, андарак, кашуля, абутак, хустка. Гэта — апошняя, смяротная, вопратка. З той спакойнай стойкасцю, з тым прыродна-філасофскім поглядам на канец жыцця, якое ўласціва простаму чалавеку, які рабіў заўсёды самую патрэбную на зямлі справу,— усё гэта загадзя адкладзена, «каб не патрабаваць чужое ласкі». Адкладзены нават грошы, што спатрэбяцца на ўсё, нават на тое, каб людзі сышліся на хаўтуры, на трызну, і памянулі дабром.

Ну, пра гэта гаварыць не трэба. Хіба аб тым, што ў труну сям-там кладуць улюбёны прадмет нябожчыка: калі быў добры музыка — скрыпку, калі цесля — сякеру і г. д. Кладуць часам манету, «каб мог купіць месца», хлеб, соль, гарэлку. Гэта ўжо даўно не вера, а проста абрад, дый той, між іншым, выконваюць не заўжды.

І яшчэ адна асаблівасць. Гэта жаночыя плачы, або галошанні. Галосяць па чарзе. Адна, пасля другая, трэцяя. Па дарозе на могілкі і на могілках галосіць жонка па мужу, дачка па маці, маці па дачцэ. Аплакваецца сваё гора і гора сям'і, гора суседзяў, апісваюцца добрыя звычкі нябожчыка. Гатовых заплачак няма. Плачы не рыхтуюць загадзя — іначай які ж трагізм? Уся невыносная горыч выліваецца на месцы, імправізавана, існуе толькі схема, «канва», ды некалькі агульных месцаў, і па гэтай канве плакальшчыца «вышывае» сваё галошанне. Тут ужо ўсё ад таленту, ад паэтычнасці жанчыны, ад яе фантазіі і сэрца, што ўмее спачуваць.

...Некалькі год назад мы здымалі фільм аб ахвярах фашызму.

Магілёўская вобласць. Вёска, спаленая карнікамі разам з жыхарамі. Агульная магіла, куды склалі абгарэлыя косці. Абеліск. Падышла старонняя жанчына з суседняй вёскі. Сваякоў у яе тут не было. І раптам яна заклала рукі за галаву і, пагойдваючыся, пайшла вакол магілы, нібы па́даючы, загаласіла так, што

мароз пайшоў па скуры і дыбарам усталі валасы. Мы слухалі і ледзь не плакалі. Кавалак гэты, на жаль, не пусцілі на экран: «Інсцэнізацыя, не паверaць, скажуць — актрыса». А гэта была проста выключная плакальшчыца з уменнем настроіцца так, каб ірвалася сэрца, і выліць гэты настрой, каб ірваліся сэрцы ў іншых. Таму кожная заплачка унікальная.

Вось вам да прыкладу адна,— плач жонкі па мужу,— запісаная асабіста мною. Болей нідзе такое галошанне не паўторыцца.

А я за табой на край свету хадзіла,
А я ж за табой ў вагонь лётала,
Сакол ты мой міленькі,
каханенькі!
А ўстану ж, бывала, я раненечка,
А мой жа саколік па палетачках
ходзіць.
А кветачкі ж ад яго красуюць,
А небачка ж ад яго ззяе.
Зірнеш —
мятлушкі ад яго ў вачах лётаюць,
Зірнеш —
нібы ігруша белая зацвіла,
Зірнеш —
як лісцічак кляновы ён прытульненькі,
Зірнеш —
сэрца молатам у грудзіну валіць...
Як жа мне цяпер цяжанька
без любага дружачкі...
Вой, як павалюся я на тваю магілачку,
Як закуваю я цяпер па табе кукулечкай.
Дружыначка ж ты мая,
нашто ж ты мяне... пакідаеш?
А ці дабра ты ад дзетак,
ад жонкі... не маеш?
Як жа нам цяпер...
пражыць?
Як жа нам жыццё без цябе...
прабыць?
Як мы цябе забываць...
будзем?
Адкуль мы цябе дажыдаць...
будзем?
Да каго ж мне ўначы цяпер
цмокам прысмактацца?
Адкуль жа мне парады цяпер
дажыдацца?

Вось так настае канец.

А дзе пахаваці?
Бабусіна воля:

сялянка жыве
й застаецца на полі.
Здалёк супраць вёскі,
на горцы пясчанай
схілілі бярозы
галіны з пашанай.
Туды на сон вечны
сышліся сяляне,
пад крыжам бяспечна
ляжаць на кургане.
Каменныя пліты
касцей ім не гнуць,
іх памяць і славу
нашчадкі нясуць.

Закрываецца вечка куфра.

## КАЛЯ ХАТЫ Ў САДОЧКУ

Паўтару яшчэ раз: многае з таго, аб чым я расказваю ў гэтай частцы кнігі (побыт, этнаграфія, звычаі), прызабыта, сёе-тое адышло, адыходзіць у нябыт, або хаця і моцна зберагаецца, дык толькі ў некаторых мясцінах. Хата, двор, абстаноўка робяцца ўсё больш аднолькавыя. Даўно ўжо сталі звычнымі халадзільнікі, пральныя машыны, матацыклы. Над хатамі — крыжы тэлевізійных антэн. Усё гэта добра і радасна, але часам не шкодзіла б зберагчы частку старой непаўторнасці, часам хочацца бачыць старыя хаты хаця б у музеі пад адкрытым небам, часам на хвіліну абуджаецца сум, і хочацца ўпрыгожыць хату непаўторным старым ручнікам або даматканай посцілкай.

У вершы «Жалейка» паэтэса так перадае дыялог дзеда з унукам:

«Мяне не вучылі, я быў мужыком;
калі было з гэтага сумна,
я, узяўшы жалейку, выходзіў тайком
ў шырокае поле, за гумны.
І скардзіўся гоням, траве і лясам
на лёс свой, цяжкі аж да смерці,
і толькі не граў на жалейцы панам —
чужым не кране яна сэрцаў».

Унук кажа яму:

«Я гэтых часоў не шкадую нічуць,—
сказаў ён,— я рад, што я ў школе...
Адно толькі, дзеду... хацеў бы я чуць —
як плача жалейка у полі».

* * *

Ну вось. Хату пакінулі. Цяпер — двор. Да самой хаты прымыкае чысты двор, абсаджаны дрэвамі. Часцей за ўсё гэта вішні, слівы, арабіна. Часам тут жа, ля плота, узвышаюцца адна-дзве бярозы ці ліпа. Сам двор парос травою, пахучымі дробнымі рамонкамі, вясною — залатымі манетамі дзьмухаўцоў. Мекамі, вясною — залатымі манетамі дзьмухаўцоў. Менавіта на чыстым двары пераважна размяшчаецца «склеп», або (на поўдні) «лёх». (Другі склеп, у якім частка запасаў заўсёды пад рукой, каб не бегаць кожны раз на двор — у самой хаце ці ў сенцах, пад падлогай.) У склепе бульба, гародніна, бочкі з капустай, гуркамі, мочанымі яблыкамі, дзежачка з грыбамі і тоўчанай ягадай, а калі гаспадар рыбак, то, можа, і з салёнай рыбай.

Далей ідзе двор задні, для жывёлы. Яго абкружаюць хлявы, у якіх стаіць жывёла. Тут жа павець або дрывотня — крытае памяшканне, з трох бакоў забо дрывотня — крытае памяшканне, з трох бакоў запушчанае сценкамі. Тут складзены дровы, раней сталі вазы, санкі, плугі, а цяпер абгоннік, каб, узяўшы ў калгасе каня, абагнаць бульбу.

Замыкаецца двор вялікаю клуняю (свірнам). У стараннага чалавека ёсць яшчэ капцільня.

Раней пры кожнай хаце на задворках было гумно, а то і два з «еўняю» (сушыльняй) — земляным, гладка ўбітым токам. Адсюль вымалачаны хлеб ішоў у засекі клуні. Гумно было нібы сімвалам гадавой працы селяніна. І я ўспамінаю адзін з самых сумных і, аднак, самых аптымістычных беларускіх анекдотаў.

Згарэла гумно, поўнае снапоў. Згарэла праца за цэлы год. Гаспадар стаіць на папялішчы і бядуе: «Ой, і пагарэў ты, Яўхім! Вой, і пагарэў жа!! Ну й пагарэў!!! — і раптам.— Але ж затое і мы-шэй ляснула!!!»

Многа ляснула мышэй!.. Яшчэ адна рыса характару. Самасуцяшэнне, спалучанае з гумарам і стойкасцю. Знаходзіць выхад, хай маральны, з самага, здавалася б, безнадзейнага становішча.

Пры калектыўнай гаспадарцы патрэба ў гумнах адпала, і яны яшчэ толькі сям-там дажываюць на задворках свой век.

...Затое значна павялічылася колькасць лазняў. Іх і раней было нямала, а цяпер там, дзе няма агульнавясковай лазні, такія ёсць ледзь не ў кожным двары

або, калі суседзі жывуць добра, на чатыры-пяць двароў.

Пары на каменку часта паддаюць разведзеным бярозавікам, квасам або вадою, у якой распарана мята ці іншыя пахучыя травы.

Парацца да знемажэння, а пасля бягуць акунацца ў рэчку або качаюцца ў снезе.

За дваром гарод і сад. Садоў намнога пабольшала за апошнія дзесяцігоддзі. Акрамя агульных гатункаў ёсць і свае, мясцовыя. Па-першае, лепшая ў свеце антонаўка, вялізная, жоўта-празрыстая. Ідзеш восенню садам, убачыш забыты яблык, адкусіш ад яго, халоднага, укрытага сцюдзёнай расою,— нібы дзесяць год скінеш з плячэй. Ну і потым такія славутыя грушы, як слуцкая бэра, ур'янтоўка, сапяжанка. Або духмяная лошыцкая вішня, што выспявае ў чэрвені.

Над гародам і садам — сонца. Віецца матавы гарох, пахне кропам і каноплямі, матылямі чырванее на градах мак, гудуць, вылятаючы з вулляў, пчолы. Лапушацца вялізныя, на чырвона-зялёных ножках-сцяблінках, лісты рэвеня, «беларускага апельсіна». А ўначы, калі ляжаш на посцілцы пад дрэвам, часам чуеш, як глуха, нібы гіры, падаюць на дах антонаўкі, і бубняць, ракочуць, скочваючыся па ім.

На ўскраіне вёскі вадзяны млын. Уздыхае, ходзячы, кола, зелянеюць тванню латкі. У люстры сажалкі адбіваецца жоўтая вячэрняя зара і цені соснаў на тым беразе. Ластаўкі часам чапляюць крылом ваду, брохае рыба. Вечарамі на вадзяным млыне неяк таямніча і крыху трывожна. Нездарма млынароў некалі лічылі ведзьмакамі.

Ветракі ў нас досыць рэдкая рэч, хіба на Случчыне і пад Клецкам. Мне здаралася бачыць там стопяцідзесяцігадовыя ветракі, у механізме якіх не было ніводнай металічнай часткі. Усё дрэва. І, ясна ж, цяпер не ім належыць першае месца ў пачэснай хлебнай справе. Элеватары, паравыя млыны, млынзаводы — куды ўжо цягацца з імі?!

## ЗА ВЁСКАЮ РАЗЛІВЫ КАЛАСОЎ

За вёскамі палі. Зноў жа розныя. Поўнач. Мядзельшчына з яе азёрамі і перакатамі ўзгоркаў. Гэта менавіта тут склалася загадка: «Поле ў паясках, поле

ў піражках, поле ў дзірачках». Ты ломіш галаву над тым, што гэта такое, а адказ нечаканы: «поле». Паяскі — межы, піражкі — камяні, дзірачкі — дзірачкі сцяблін на іржышчы. Палі не дужа вялікія. Валуны значнага памеру сцягваюць на межы трактарамі ці спіхваюць бульдозерамі, і таму на межах цэлыя каменныя валы, крэпасці. З валуноў, расколатых берталетавай соллю, будавалі і часам будуюць і цяпер стайні, свірны, пуні.

Чаго-чаго, а каменя тут хопіць. Як сказаў паэт П. Панчанка: «Аматар трымаць чорны камень за пазухай тут мог бы набраць іх на дзесяць вякоў». Здавалася — прыбралі. Не, пасля кожнага ворыва лезуць з зямлі, кожны дождж выбівае іх наверх.

На гэтых палетках ліл авее канюшына, варушыцца вусаты ячмень, цягнецца, чапляе за ногі вільготнае і сакавітае сіло гароху.

Лубіну менш, затое сінія хвалі ільноў літаральна бясконцыя.

Сярэдняя паласа. Тут разнастайнейшы рэльеф і такія ж палі. На Навагрудчыне з яе высачэзнымі ўзгоркамі — меншыя, на раўніннай багатай Случчыне — шырокія і раздольныя. Паўдзённы ўсход шмат займаецца гародніцтвам: капуста, цыбуля, радыс, морква, памідоры, гуркі, часнок, салата. Тут буйныя парнікова-цяплічныя камбінаты, якія працуюць не толькі на Беларусь.

Поўдзень. Палескае роўнае поле. То спрадвечнае, то нядаўна асушанае. На гарызонце зубчасты сілуэт лесу. На дрэвах пасярод поля па адной, па тры, па пяць пчаліных калод на кожным. Тут іх называюць «свепет». І зусім няма камення. Захацеў бы ў ворага кінуць, і то не знайшоў бы.

І ячменю мала. Яго, мужыка, нягледзячы на вусы, перамаглі грэчка і проса. І тут жа да іх у хаўрус уціснулася салодкая кампанія: кармавы лубін (паўсюль), цукровы бурак (на паўднёвым захадзе) і нязлічаныя каноплі (на паўднёвым усходзе). Ну і яшчэ тытунь. А раз так, то ясна, што ёсць цукровыя заводы і тытунёвыя фабрыкі.

Гэта мы ўсё займаліся пакуль што паважанай, але не самой важнай кампаніяй. Цяпер пра галоўнае.

Бульба. Яна паўсюль, яна — універсал. За выключэннем некаторых паўночных раёнаў, дзе яе пасевы

складаюць 15,8 працэнта ад пасяўной плошчы,— паўсюль яе да 20 працэнтаў. А значыць, тут жа працуюць заводы спіртавыя і крухмальныя.

33,3 працэнты плошчы збожжавых захапіла і самаўладна размясцілася там асноўная культура — азімае жыта. Падцясніла менш ураджайную ярыну, а пшаніцу, разлівы якой так шырока расцякліся па Сібіры, Кубані, Украіне, увогуле трымае ў чорным целе — усяго 17,4 %, хаця сеюць пшаніцу па ўсёй рэспубліцы.

Пра ячмень я ўжо казаў раней. Яму аддадзена менш плошчы. Такі сабе падпанак. Ведае, што беларус не можа абысціся без ячнага супу з грыбамі і піва.

Нават авёс крыху больш пан, чым пшаніца, хаця пасевы яго і скараціліся за апошні час у тры разы. Ён служыць кормам для хатняй жывёлы, а ў басейне Бярэзіны — і для мядзведзяў, якія прыходзяць уначы ласавацца на аўсяныя палі. Нашморгаюць поўныя жмені, высмакчуць «малако», а жмакі раскідаюць па полі. Мясцовыя калгаснікі гэтага разбою дуж-жа не любяць.

Шмат у краіне кармавых культур, бо добра развіта мяса-малочная вытворчасць. Таму тут табе і кармавы лубін, і кукуруза на сілас, і канюшына, бручка, турнэпс, рэпа.

У рэспубліцы амаль 6 млн. буйнай рагатай жывёлы, з іх 2 млн. 592 тысячы кароў. Пераважна чорнабелыя і бурыя, латвійскія, але ёсць і швіцкая, сіментальская, яраслаўская пароды.

...Сядзіш над Дняпром. Сонца набліжаецца да гарызонту. На дрэвах, на вадзе, на гліне адхонаў аранжавы водбліск. І раптам у вадзе з'яўляюцца нейкія незразумелыя кропкі. Бліжэй-бліжэй, і вось ясна ўжо, што гэта рагатыя галовы. Плыве цераз раку вялізная чарада. Пярэднія ўжо выйшлі на бераг, чорна-бела ільсняцца на сонцы, і вада сплывае з іх, заднія яшчэ плывуць. А за імі, стоячы ў чаўне, плыве пастух. Гэта пераганяюць статак на новую пашу, на паплавы са свежай, кветкамі апырсканай травой. У аднаго майго знаёмага дзядзькі было аж сем коз. «Дзядзька навошта вам іх столькі?.. Ды яшчэ чацвёра — казлы».— «Ды не купляе ніхто, а рэзаць нейк рука не падымаецца. Занадта на чорта падобныя».— «Ну а свінню вы ясцё?» Адказ пасля нядоўгага роздуму: «Свінню ем.

Калі б свінню не есці, яна б... увесь свет запаланіла».

Дык вось, у некаторых раёнах Беларусі трымаюць 60—100 свіней на адзін гектар пашы. У 1972 г. свініна складала 47,7 % усяго мяса, якое атрымала Беларусь.

...Сцэнка на пашы. Два пастухі пасвяць авечкі. Адзін ля лесу, другі — наводдаль. Воўк схапіў адну. Той, што далей, крычыць:

— Што гэта? Воўк?

— Анягож, халера тваймý бацьку, заяц?!

— То што ён, авечку панёс?!

— Анягож, трасца тваёй матары, табе прынёс?!

То вось і ваўкоў павыбілі і засталося іх мала, але і авечак паменела таксама. Гэтаму ёсць прычыны. Раней ледзь не адна авечка давала чалавеку вопратку: кажух, катаная світка, ваўняны бурнос, бурка, зімовыя порткі, андаракі, валёнкі. Цяпер на змену ўсяму гэтаму прыйшоў крам, ды яшчэ й сінтэтыка дапамагла. Ва ўсякім разе, на кожны раён тры-чатыры-восем гаспадарак з невялікімі авечымі фермамі, і рэдка дзе можна ўбачыць ферму болей чым на 400 галоў. Ды і ў гэтых гаспадарках авечкі не галоўнае.

Дужа распаўсюджана птушкагадоўля. На Беларусі 28 мясных птушкафабрык. Гэта буйныя прадпрыемствы. Напрыклад, птушкафабрыка імя Н. К. Крупскай атрымала на 1973 год 180 млн. яек, 2384 тоны птушынага мяса, па 274 яйкі на курыцу-нясушку.

Пры гэтай фабрыцы аж 1100 га сельгасугоддзяў. Ёсць і міжкалгасныя птушкафермы.

А ёсць і зусім новая галіна — зверагадоўля. Чорныя і серабрыстыя лісы, пясцы, норкі.

...Я ўжо казаў, наколькі пабольшала ў нас садоў. Зараз іх у калгасах і саўгасах больш чым 167 тыс. га. Славіцца садамі Случчына, Міншчына, Мазыршчына, Бабруйшчына і асабліва маё Прыдняпроўе. Тут не рэдкасць сады ў некалькі сот гектараў... Я ўжо не кажу, што ледзь не кожная больш-менш «пажылая» хата тоне ў садзе. Нават дзецям, для якіх набег на сад заўсёды быў нібыта выпрабаваннем удаласці, цяпер нецікава гэта рабіць. У досыць далёкай ад горада вёсцы мех яблык, бывае, прадаюць літаральна за капейкі, з умоваю, што ты здымеш гэтыя яблыкі сам. Бо рукі не заўсёды даходзяць. І гэта кепска. Таму што, значыць, дрэнна арганізавана скупка, мала садавінаапрацоўчых і кансервавых заводаў, дый для тых

не заўсёды хапае баначнай белай бляхі, якую ў нас вытварае ледзь не адзін толькі Магнітагорскі камбінат. Які б магутны ні быў манапаліст — задаволіць усе кансервавыя заводы ён не можа.

Цяпер сельская гаспадарка пераважна механізаваная. Ручной засталася прарыўка парасткаў цукровага бурака, збор садавіны і ўсё такое, дзеля чаго не прыдумана машын. А рэспубліка выпускае шмат відаў машын для сельскай гаспадаркі: сіласаўборачныя камбайны, ільнамялкі, бульбаўборачныя машыны, сенакасілкі, жняяркі і многае іншае. І, самае галоўнае, універсальныя калёсныя трактары «Беларусь». Кожныя шэсць хвілін — трактар з маркай «МТЗ». У нас, дый не толькі ў нас, трактары гэтыя ласкава называюць «беларус».

Калі ўлічыць, што ў 1910 годзе зямлю скраблі ў значнай ступені сахою, што, напрыклад, у Мінскай губерні было каля 60 тысяч сох і 198 тысяч драўляных барон,— каментарыяў, як кажуць, не трэба.

Ёсць у беларуска-польскага мастака Фердынанда Рушчыца геніяльная карціна «Зямля». Паўкруглы ўзгорак увесь у ільсняных глыбокіх баразнах. І вось з-за гэтага бугра, падобнага на вяршыню зямнога шара, выпаўзае запрэжка валоў і магутны чалавек, схілены над сахою. Вялізнае напружанне, упартасць: усё ўбіта ў гэтую неласкавую зямлю, усё жыццё і ўсе сілы. У гэтым веліч, але ў гэтым і трагізм.

Па гэтых узгорках замест валоў ходзяць зараз машыны. А астатняе — што ж, і напружанне, і ўпартасць, і веліч працы земляроба — яны засталіся.

## ЗА РЭЧКАЮ, ЗА БЫСТРАЮ АЗЯРЦО МІЛЬГАНУЛА

Наша з вамі зямля, можна сказаць, сочыцца вадою. Крыніцы, азёрцы, вымачыны, балоты, ручаі, рачулкі, магутныя рэкі і вялікія азёры. Мая карта рэк (а на ёй памечаны толькі рэкі даўжэйшыя за пяць кіламетраў) уся пранізана сінімі жылкамі, мабыць, гусцей, чым плоць чалавечая капілярамі. Такіх рэк на Беларусі дзве тысячы дзевяцьсот.

Усе рэкі Беларусі належаць да басейнаў двух мораў: Чорнага і Балтыйскага. Басейн Балтыйскага —

гэта сістэмы Нёмана, Заходняй Дзвіны, Буга і Ловаці. Басейн Чорнага — сістэма Дняпра з Бярэзінай, Сожам, Прыпяццю і іншымі, больш дробнымі рэкамі. Рэкі, за выключэннем некаторых, плывуць па раўнінах і таму павольныя. Але бываюць і невялічкія рэчкі, што бяруць вытокі з узвышшаў і таму бягуць досыць хутка. У такіх рачулках і водзіцца стронга.

Першымі адчуваюць подых вясны Прыпяць і Нёман. Яны бліжэй да Атлантыкі, да яе мяккага подыху. Пасля — Дняпро і толькі потым — Дзвіна з прытокамі. Гарматны грукат ляціць над ракою. Ільды спачатку пасоўваюцца, пасля ідуць трэшчынамі, ламаюцца — і пайшло.

Крыгі грувасцяцца адна на адну. Вокамгненна ўзнікаюць і так жа хутка бурацца ледзяныя замкі, вежы, валы. Ледзяныя гмахі рвуць берагі, калоцяць іх. Рацэ досыць ледзянога прыгону. Яна хоча дыхаць, вольна каціць свае празрыстыя воды, без перашкод адбіваць у сабе сіняе неба і сліпуча белыя веснія аблокі і жаўрукоў, што трапечуць, прывязаныя да гэтых аблокаў нябачнаю гумкай.

У сярэднім на пачатку красавіка рэкі ўжо чыстыя. Пачынаецца повень. Цягнецца яна два месяцы з чымсьці, а на Прыпяці часам больш за тры. Мы ўжо гаварылі аб разліве на Прыпяці і плывучых кірмашах. Што дзіўнага, шырыня вады бывае там у трыццаць і болей кіламетраў. Але і Дняпро ў повень бывае нішто сабе, разліваецца ў некаторых месцах кіламетраў на дзесяць. Дзед мой сам бачыў, як такі разліў нёс на сабе вялікую драўляную капліцу. Так стаймя і нёс, бо стаяла, відаць, у нізіне, а таму на драўляным памосце, які замяніў плыт. «Проста хоць ты прывозь папа, стаў свечкі і пачынай малебен тут жа, на вадзе».

...Суровае неба. Нізавы вецер развёў на амаль чорнай вадзе Дняпра высокія, у рост чалавека, хвалі. І яны ідуць і ідуць, шоргаючы белымі грабянцамі. Крочыш высокім берагам, і тут твой спаніэль, малады яшчэ і таму дурны, сарвецца, пагоніць хатніх гусей. Тыя бягуць, ратуюцца, зрываюцца з высокай стромы і, раскінуўшы крылы, белыя-белыя, з хрыплым крыкам лятуць над свінцовай вадой. Апускаюцца на яе недзе за кіламетр ад берага і — ух, як жа іх загайдала!

Пасля рэкі, як у нас кажуць, «уваходзяць у трубу». Але бывае і летняя паводка. Гэта калі ідуць праліўныя

дажджы. На Дзвіне яна метр — паўтара, часам шэсць, на Дняпры да трох метраў, але бывае і болей, як гэта здарылася некалькі год назад. Тады рака заліла паплавы, і мы з сябрамі лавілі на іх таптухаю рыбу — па пояс у вадзе, па шыю ў кветках, усе ў разнатраўі, п'яныя ад водару, густа засыпаныя кветкавым пылком. Такія разлівы — пагібель для сенажацяў. Адхлыне вада — і на паплавах застаецца тоўстая бурая скарынка. Наступіш на яе — яна правальваецца, рассыпаючыся ў пыл, і ў ямцы ад твайго следу — бледныя, бы са склепа, сцяблінкі травы.

Дый не толькі сенажаці часам гінуць. Ледзь, напрыклад, у Карпатах і на Валыні пойдуць летам асабліва моцныя дажджы — пачынае шалець рака Гарынь.

Залівае акругу, і тады вялікія вёскі і нават Давід-Гарадок апынаюцца зноў нібы на астравах. І гінуць плантацыі кветак, развядзеннем якіх гарадок пераважна і жыве.

Бываюць і асеннія паводкі. А ў канцы лістапада — снежні на рэкі кладзецца лёд. Тут бываюць і адхіленні. У халодныя гады лёд кладзецца на ваду нават у пачатку лістапада. У цёплыя, калі нават гракі не адлятаюць прэч, а зімуюць на поўдні Беларусі, лёд куе раку ў студзені, а то і ў лютым.

Чыгункі, аўтамабільныя дарогі, самалёты зрабілі так, што рэкі нібы замерлі.

Ракою нібыта стала «нявыгадна» вазіць. Глупства, ракой і дагэтуль найбольш выгадна везці не дужа спешны або грувасткі груз. Але выгадна гэта толькі тады, калі за ракой сочаць, чысцяць яе, умацоўваюць берагі, не высякаюць лес па яе берагах, каб не мялела. Словам, не ставяцца да яе так абураюча, як гэта яшчэ часам здараецца. Не спускаюць у яе адыходаў, не труцяць рыбу, не ператвараюць раку ў брудную сцёкавую канаву. Словам, клапоцяцца аб ёй. Тады яна аддзячыць. А так... што ж?!

Даўжыня суднаходных шляхоў скарацілася да 4000 км. А калі браць гарантаваную глыбіню, то да 2800 км. Суднаходных рэк засталося ўсяго дваццаць (1973 г.).

Дняпро ад Магілёва да вусця Сожа, напрыклад, возіць цяпер ледзь не адзін пясок і жвір на баржах.

Павольна-павольна ідуць яны. Дзеці гуляюць на палубе, развешана і трапечацца на ветры бялізна. А раней, я сам яшчэ помню, параходы хадзілі да Оршы, а ў повень, калі вада залівала Кабыляцкія парогі (тут Дняпро размывае дэвонскія даламіты), і да Дуброўны. Улетку, вядома, гэтага не было. Самы вялікі камень на гэтых пагорках зваўся з іранічнай ласкавасцю «Камарык» і быў вышынёю з трохпавярховы дом...

Цяпер працуе, галоўным чынам, Прыпяць. Недалёка ад вусця ўкраінскую руду перагружаюць з вялікіх украінскіх рудавозаў на меншыя, беларускія, і вязуць Прыпяццю і Дняпроўска-Бугскім каналам у сацыялістычныя краіны. Тут ходзяць параходы, імчаць, як вядзьмаркі на мятле, «Ракеты».

Суднаходства ёсць яшчэ на Сажы, Бярэзіне, Нёмане (ад вусця ракі Шчары) і, значна менш, на Дзвіне.

Усе рэкі Беларусі дужа прыгожыя. Дняпро з высокім правым берагам і неаглянымі далячынямі зарэчных паплавоў, паплямаваных дубамі і сінімі люстэркамі старыц. Прыпяць з яе празрыстай цёмнай вадой, астравамі, пратокамі і шапкамі буслянак на прырэчных дрэвах. Дзвіна, сціснутая крутымі ўрвішчамі, зарослымі мачтавым лесам. Ласкавы Нёман, у воды якога глядзяцца старажытныя вежы і густыя лістоўныя пушчы. Нават невялічкая Шчара са сваімі шлюзамі ў цені неабхватных, серабрыстых таполяў. З раптоўным патокам вады, што вырываецца са шлюза і выносіць на сабе плыты з людзьмі, якія рухава і спрытна працуюць шастамі і бусакамі.

Гнецца плыт дугою,
Прэ яго да гаку,
Быстраю вадою
Ломіць, як вужаку.

*(Якуб Колас)*

Многія рэкі злучаны каналамі. Дняпроўска-Бугскім, Бярэзінскім (злучае Бярозу-раку з прытокам Дзвіны — Улай), Аўгустоўскім (злучае Нёман з Бабром, ракою басейна Віслы). Агінскі (звязвае прыток Прыпяці Ясельду з прытокам Нёмана — Шчарай). На жаль, дзейнічае толькі адзін, Дняпроўска-Бугскі. Каналы ж трэба чысціць, паглыбляць, пашыраць. Словам, сачыць, як за ўсякай дарогай. Гэтым і збіраюцца заняцца.

А пакуль на беразе неглыбокага, дужа чыстага Агінскага канала, які павольна струменіць ясныя свае воды, сядзяць, скажам, у Слоніме хлапчукі з вудамі, цягаюць плотак і спрачаюцца, на што лепей лавіць галаўня ў ліпені.

Азёры — вочы зямлі. Воблік Беларусі нельга сабе ўявіць без азёр. Іх у нас каля 11 тыс. Вялікія і малыя, цёмныя, балотныя і светлыя, як самое святло. Лясныя, як Кромань або Свіцязь, і бязлесныя.

Азёры прыносяць не толькі матэрыяльную, але і духоўную карысць. Азёры не толькі кормяць навакольны люд, але і натхняюць паэтаў. Свіцязь натхняла Міцкевіча. Возера Няшчэрда — аднаго з першых беларускіх пісьменнікаў новага часу, аўтара «Рабункаў мужыкоў» і чатырохтомнага зборніка апавяданняў «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях» Яна Баршчэўскага. Тэматыка гэтых апавяданняў дужа нагадвае ранняга Гогаля або Гофмана, але ўсе яны навеяны легендамі і паданнямі наваколляў Няшчэрды.

Або Князь-возера, якое цяпер невядома чаму называюць Чырвоным. Гэта на Палессі, паўночней Турава. Легенда, звязаная з гэтым месцам, натхніла кампазітара Залатарова на стварэнне цудоўнага балета «Князь-возера»... А легенда такая (падаю ў варыянце, які сам чуў і які збольшага супадае з найбольш старымі яе пераказамі, зробленымі яшчэ ў XIX стагоддзі).

...Возера было велічэзнае, як мора, а пасля пачало сохнуць, змяншацца і ўрэшце зрабілася зусім малечкім. Людзям жыць стала лепей, а рыбам горш. І вось астравок пасярэдзіне гэтага маленькага люстэрка вады аблюбаваў князь Алелькавіч-Слуцкі з пакалення Альгерда. Пабудаваў тут замак і стаў княжыць і распеперазаўся так, нібы над акругаю панаваў не чалавек, а д'ябал. А людзі цярпелі, мучыліся, елі кару. І праходзіў Падарожнік, які ведаў усё і прайшоў паўсюль і чытаў усе кнігі, нават Галубіную, што ўпала з неба. Убачыў, што не толькі яго ніхто не можа накарміць, а нават дзеці кладуцца спаць галодныя. І сказаў, што калі зладзействам князя не

будзе мяжы, калі яны «пройдуць прадзел», а людзі ўсё ж будуць цярпець, то рыбам зноў будзе добра, а людзям дрэнна. Ніхто яго не паслухаў.

А князь лютаваў. Узненавідзеў брата і пасадзіў яго ў вечна мокрыя сутарэнні замка, якія былі ніжэй узроўню возера. І сваю былую палюбоўніцу засадзіў туды ж. І нявесту аднаго хлопца, якая не хацела адказаць князю ўзаемнасцю, кінуў у тыя ж падзямеллі. І многіх-многіх іншых.

Тады прыйшла мяжа цярпенню зямлі. У адну ноч пачалі біць шалёныя маланкі, грымець перуны, аж калацілася цвердзь, а замак і ўсё наваколле пачалі правальвацца ў воды возера. Страшныя валы пабеглі на зямлю, злізвалі хаты, лясы. Вежы замка зніклі ў пене на вачах. А трэба сказаць, што цярпенне людзей скончылася ў тую самую ноч, і яны выйшлі з хат з доўбнямі і віламі, якраз тады, калі д'яблава гняздо пачало тануць. І вось тут, убачыўшы, што цярпенню людзей прыйшоў канец, зямля злітавалася. Сціхнулі воды, і толькі муры і вежы замка канчаткова і назаўсёды зніклі пад вадой. Панаваць у ім, жыць у пакоях, слізгаць у байніцы сталі рыбы.

Так, калі верыць легендзе, і ўтварылася Князь-возера плошчаю ў 43,6 кв. км. Самае рыбнае возера на Палессі. На пачатку XX ст. сяляне і прамысловыя арцелі на рыбе тут выручалі да 10 000 рублёў у год. Гэта на тыя грошы, калі зараблялі капейкі, але і хлеб каштаваў грошы.

Цікавей за ўсё тое, што пад гэтай легендай хаваюцца нейкія рэальныя абставіны і падзеі, нейкае зерне ісціны. Нешта такое павінна было адбыцца тут у незапомныя часы. Бо вакол возера балота дасягала на пачатку XX ст. чатырохсот квадратных вёрстаў. Бо яшчэ вядомы вучоны XIX ст. Адам Кіркор гаворыць, што ў возера вядуць каменныя і драўляныя дарогі, якія знікаюць у глыбіні. А «Расія», настольная і дарожная кніга, што выдавалася на пачатку стагоддзя пад рэдакцыяй В. П. Сямёнава, кажа літаральна наступнае: «Сярод возера знаходзіцца шмат па́ляў і камянёў пад вадою... Як бы там ні было, але існуючыя да нашага часу па́лі на вялікім абшары возера паказваюць, што тут сапраўды была нейкая старажытная пабудова».

Вось бы ўзяць акваланг ды паныраць, памацаць

усё ўласнымі рукамі! Нават нягледзячы на каламутную ваду.

І такое можна расказаць ледзь не аб кожным возеры. Ад самага дробнага да самага буйнага — Нарачы (даўжыня 13 км, глыбіня месцамі больш за 20 м) з яго чысцейшай цалюшчаю вадою. Гэта не перабольшанне, а праўда — вада Нарачанскіх крыніц лечыць.

У Нарачы, як і ў іншых азёрах і рэках Балтыйскага басейна, ад Брэста да Асвеі, водзіцца розная рыба. Але найбольш цікавая, вядома, вугор. Доўгі, змеепадобны, тоўсты, ён не проста адна з самых смачных нашых рыб, але і самая незвычайная. Ён можа прапаўзці невялікую адлегласць ад вадаёма да вадаёма, а сяляне і рыбакі з тых мясцін, дзе ён водзіцца, дружна расказваюць, што ў дужа росныя месячныя ночы вугор выпаўзае на палі есці гарох. Калі прыходзіць час класці ікру, вугор плыве са свайго возера ці рэчкі ў вялікую раку, пасля ў Балтыку, адтуль у Атлантычны акіян і ўрэшце дасягае змрочных глыбінь Саргасава мора. Менавіта там з ікры выводзяцца лічынкі, спачатку зусім празрыстыя, і плывуць назад, на радзіму. Некаторую частку дарогі яны робяць з Гальфстрымам. Шлях цягнецца многія месяцы, вугры сталеюць. І ўрэшце, ужо амаль дарослыя, з'яўляюцца ў той рацэ, у тым возеры, адкуль калісьці іхнія бацькі накіраваліся ў свой доўгі шлях.

Водзяцца таксама ў азёрах сігі, сялява (рапушка), сняток (корушка). У рэках — мінога ручайная, гальян, гарчак, быстранка, галец.

І паўсюль: шчупак — рачны тыгр, тоўстая плотка, язь, прагны галавень, чырванапёрка, залаты лін, жэрах, срэбная верхаводка, «гусцяра з Дняпра», ляшчы, рыбцы, залаты карась, лянівы вусаты казак-сом, чорна-ліловы мянтуз, судак, акунь і задзіра-ёрш, якія добра «манціруюцца» з юшкай. Я ўжо не кажу пра непрамысловых: яльца, вярхоўку, нахабнага печкура, які нават за пальцы ног пакусвае, калі вудзіш, стоячы ў рэчцы, шчыпоўку, таго ж уюна і падкаменшчыка.

Ёсць таксама стронга, харыюс, падусты, вусачы, а ў Дняпры, акрамя таго, выразубы, сцерлядзі і асятры (дужа рэдка). Ды хіба ўсіх, аж да ласося і кумжы, пералічыш?

Рыбалоўства на Беларусі існавала спрадвечна.

Пры раскопцы старажытных стаянак чалавека часта знаходзяць рыбіны косткі, касцяныя, а пасля і металічныя, кручкі. Прычым, лавілі не толькі з берага. Самаму старому чаўну, знойдзенаму на Беларусі (ён зараз у Пінскім музеі), 7 тысяч год. Гэта яшчэ новы каменны век, неаліт. Як човен збярогся? Ну, па-першае, дуб толькі мацнее ад вады. А па-другое, човен трапіў у тарфянік, які і закансерваваў яго.

З рыбалоўствам часта бываюць кур'ёзы. Адзін мой знаёмы знайшоў аднойчы ў глеі стары «самовы» кручок. Выкінулі, відаць, за непатрэбнасцю, бо такіх самоў цяпер, мабыць, няма. Кручок быў таўшчынёю ў палец і даўжынёю сантыметраў каля трыццаці. Калісьці на такі насаджвалі цэлую абскубаную качку і кідалі ў вір, дзе запрымецілі сома-гіганта. Дзівіцца тут няма чаго. Нават меншыя самы цягаюць качак, а сярод іх (самоў, а не качак) бывалі волаты. У XVI стагоддзі ля Полацка быў злоўлены сом вагою ў 15 пудоў. Дый мой бацька расказваў, што, калі ён быў маладым чалавекам, у Дняпры, ля Оршы злавілі васьміпудовага сома. Калі яго ўзважылі — спецыяльна быў запрошаны натарыус, які і склаў з гэтага выпадку акт, натарыяльна засведчыў такое дзіва.

Бацька бачыў тую рыбу. Сом быў амаль чорны, і не столькі ад старасці, колькі ад таго, што на ім сям-там аж дробныя ракушкі пасяліліся. Увесь быў нібы ў твані.

...Ловяць рыбу ўсе. Нават «беспарточная пяхота», ледзь навучыўшыся бегаць, сядзіць ужо недзе на беразе пратокі з прутом у руках і ловіць печкуроў. Пасля прыходзіць чарга таптухі, сапраўднай дарослай вуды, а часам і спінінга. Ставяць таксама вершы. Нераты, брэдні і плывуны зараз жыхарамі не прымяняюцца. Па-першае, забарона, а па-другое, самі бачаць, што рыбы стала менш. Умелы спаймае і вудай, хаця і сказана:

> Хоць праўда, хлеб ядуць і з вуды,
> Але не ўсе і не заўсюды.
>
> *(Якуб Колас)*

Таму старымі невадамі цяпер абцягваюць паверсе плот, каб куры ў гарод не залятали.

Сецямі ловяць цяпер, галоўным чынам, арцелі невадніччых і рыбалавецкія вёскі на вялікіх азёрах.

Там існуюць звычайна азрыбгасы. Пры многіх азёрнарыбалавецкіх гаспадарках ёсць свае заводзікі, якія соляць, сушаць, вэндзяць рыбу, робяць з яе кансервы. Гэта Нарачанскі рыбгас, Лепельскі, Лукомльскі, Жыткавіцкі і інш. Ёсць яны і на рэках. У Віцебску, Полацку, Гродне, Брэсце, Пінску, Мазыры, Бабруйску, Гомелі.

Дужа распаўсюджаны сажалкавыя гаспадаркі. Разводзяць карпа, сазана, карася. Весела глядзець, як аранжавымі вечарамі ў люстраных сажалках дзенебудзь ля Волмы-ракі ўсплёскваюць вялізныя рыбы і чырвонае сонца на імгненне загараецца на іхняй лусцэ.

## ЗЯЛЁНЫ ШУМ

...Там, дзе няма ніў,— суцэльная краіна паплавоў і балот. Дзе няма іх — царства лясоў. І маладых і старых, нечапаных, так званых пушчаў. Бярэзінская пушча, Лепячанская, Гродзенская, Налібоцкая на поўнач ад Наваградка, палескія пушчы, Белавежская, якая найбольш уражае чалавека, і многія іншыя. Трэць тэрыторыі Беларусі — лясы. 32 працэнты. На жаль, іх высякаюць больш нормы. Не толькі пасля вайны, калі трэба было аднаўляць вёскі і гарады, але і зараз. Нягледзячы на ўсе стаnrанні, не адноўлена, напрыклад, лясістасць на Міншчыне (35 працэнтаў) і Гомельшчыне (38 працэнтаў). Даставалася гэтым лясам. Іх секлі падчас паўстання 1863—1864 гг., каб паўстанцам не было дзе грамадзіць свае сілы. Іх валілі і сплаўлялі ў Рыгу, а адтуль за мяжу купцы і дваране, якія праматаліся (гэтыя — на караню, бо лес заўсёды адказваў за дзіравую кішэнь уладароў або дзяржавы). Нездарма Адам Міцкевіч пісаў:

Джэва, помнікі нашэ, іле ж цо рок вас пожэра
Купецка люб жондова, москевска секера?[1]

Мікалай І і Аляксандр ІІ так проста і загадвалі валіць лес, хаця не ведалі беларускага падання аб тым, што душа зямлі ходзіць лесам і кажа: «Сячыце, сячыце! Не будзе дрэваў — і мяне не будзе».

...Секлі гандляры, секлі акупанты ў вайну грама-

[1] Дрэвы, помнікі (манументы) нашы, колькі ж кожны год вас пажырае купецкая або ўрадавая маскоўская сякера?

дзянскую. Пасля ў Заходняй Беларусі ішло арганізаванае знішчэнне лясоў не толькі новымі «гаспадарамі», але таксама іншаземнымі фірмамі, якім тыя лясы аддаваліся наводкуп. Белавежу і дагэтуль праразаюць затравелыя насыпы былых вузкакалеек, пабудаваных «культурным замежным капіталам», каб вывозіць лес.

Паэт Максім Танк так пісаў пра гэта ў адным з найлепшых сваіх вершаў:

На захад ідуць цягнікі,
Лён, жыта, сасна і бяроза.
Гляджу і гляджу з-пад рукі,
Як моладасць нашу вывозяць.

Ішоў дзікі рабунак. Знішчана і вывезена была амаль палова беларускіх лясоў.

Усяго знішчыць, аднак, не ўдалося нават шматлікім часовым гаспадарам, хаця кожны з іх і намерваўся асесці тут «навечна», цягнуць драўніну, шкіпінар, каніфолю, дзёгаць, смалу, сажу для хімічнай прамысловасці. І вось стаялі сосны, пасечаныя шнарамі, сплываючы смалістай сваёй крывёй. Як трапна сказаў паэт Васіль Зуёнак:

Рабрыстыя — ў падсочках, нібы здані,—
О сосны, хто прыдумаў вам Майданак?!

Так, Майданак быў не толькі ў людзей. І з хат знікаў смольны дух, і глуха пелі цымбалы з абяскроўленага дрэва.

...Досыць. Пойдзем у лес. Вось толькі была задушлівая спёка, і раптам павеяла жывушчым халадком, затрапяталі сонечныя зайчыкі, разліўся птушыны хор. Поўнач. Хваёвыя лясы. Пераважна сасна і яліна.

Мабыць, галоўныя адрозненні ў псіхіцы беларуса і жыхароў мясцін, дзе мала лясоў склаліся пад уплывам навакольнага пейзажу.

Лес выхаваў характар беларуса, наш чалавек і лес — родныя, і таму беларус любіць яго. Любіць паўночныя сасνякі з імхом, што расшыты каралямі брусніц і чарніц, што ліловеюць верасам, у якім сядзяць сімпатычныя таўстуны — карычнева-чырвоныя і карычнева-чорныя баравікі. Любіць змрочныя яловыя лясы з цэлымі барадамі сівога імху на ства-

лах і з катлавінкамі, напоўненымі празрыстай, але на выгляд чорнай і бліскучай, як лак, вадою. Любіць сонечны россып папараці і зарасці ляшчыны, і больш паўдзённыя лясы, дзе трапляюцца ўжо дубы, грабы, ліпы. І, вядома ж, шырокалістоўныя лясы поўдня з брызглінай, бружмелем, грабам, цісам, рабінай, калінай і магутным разнатраўем ля ступ лясных волатаў.

Нават драбналессе з бялюткімі бярозамі і асінкамі, нават змрочныя і балотныя чорнаальховыя лясы дарагія яму. Лес корміць, лес грэе і дровамі, і сценамі хат, і проста так («уехаў у лес, бы ў кажух улез»), лес бароніць у выпадку небяспекі, нашэсця, вайны.

Менавіта таму пасля рэвалюцыі столькі ўвагі аддаецца захаванню, абароне, развядзенню лясоў. Недахопаў у гэтым сэнсе яшчэ шмат. Многія лесанарыхтоўшчыкі «гоняць план» і нават дабіліся было высечак лесу на Бярэзіне (лес той згніў, бо дажджы не дазволілі яго вывезці, і тады,каму трэба, добра папала, а запаведнік быў адноўлены), ёсць яшчэ браканьеры і людзі, якія жывуць па прынцыпе «хто ў лесе не злодзей, той дома не гаспадар». Аднак праца ляснічых і палясоўшчыкаў, азеляняльнікаў, вучоных батанікаў, заолагаў, паляўніцтвазнаўцаў паступова прыносіць свой плён.

Пад ахову падпалі многія жывёлы, рэліктавыя і іншыя расліны, рыбы, птушкі і звяры, некаторыя геалагічныя абнажэнні, асобныя дрэвы, слаўныя ўзростам, рэдкасцю, выглядам сваім, і цэлыя лясныя масівы. На Беларусі шмат заказнікаў і запаведных зон (як вакол возера Свіцязь). Да нядаўняга часу было два запаведнікі. Бярэзінскі (абараняў увесь жывёльны свет, але асабліва мядзведзя і бабра) і Белавежскі (галоўныя паны тут высакародны алень, бобр, лось і, перш за ўсё, кароль-зубр). Нядаўна быў арганізаваны трэці, Прыпяцкі ландшафтна-гідралагічны запаведнік. Для аховы Палесся, яго раслін, звяроў, птушак, ягоных балот, ягоных вод.

Пра ўсе запаведнікі тут расказаць немагчыма, і таму я спынюся толькі на самым вядомым з іх, на Белавежскай пушчы.

* * *

Тысячу год назад большую частку цэнтральнай і ўсходняй Еўропы пакрываў дзікі і цёмны перша-

бытны лес. На многія і многія сотні кіламетраў шумелі лясныя волаты, з цяжкасцю пракладалі свой шлях праз завалы карычнева-празрыстыя глухія рэкі, звінела камар'ё, паўсюль, як кавалкі мяса, чырванелі мухаморы і бранзавелі «слязніцы»,— вялізныя, вышэй калена, баравікі (на Беларусі іх называюць так таму, што на іх ад старасці выступае сляза і капае на зямлю, яны «плачуць»). Цяпер такія грыбы можна знайсці толькі ў дужа глухіх мясцінах, куды амаль не ходзяць людзі.

...Тысячу год мерна гучала сякера, вёскі ўгрызаліся ў лес, палі наступалі на пушчы, і на трупах павержаных і спаленых волатаў (такое поле называлася «лядо» або «ляда») хваляваўся ячмень.

Беларусь паступова бяднела звярамі. Зубр, які сустракаўся ў Палессі і на поўдні Прыдняпроўя яшчэ ў XVIII ст., быў выбіты і збярогся толькі ў Белавежы, быў знішчаны собаль, балотная рысь, або «лемпарт», чорны заяц, што сустракаўся ля Копыся яшчэ на пачатку XX ст., высакародны алень і многія іншыя. Знік у XVII стагоддзі дзікі бык-тур (некаторыя вучоныя мяркуюць, што гэта ад яго пайшла парода ўкраінскай і палескай шэрай рабочай худобы).

Законы князёў, а пасля каралёў былі жорсткія. Нягледзячы на тое, што падарожнік барон Меерберг, які наведаў Беларусь у XVII ст., казаў, быццам мясцовыя лясы нават багацейшыя на звяроў, чым лясы поўначы і ўсходу Расіі,— дзічы, мабыць, памяншала. «Устава на валокі», прынятая ў 1657 годзе, казала, між іншым: «А ва ўсіх пушчах нашых і агульных, дзе раней сяляне нашы для нас бброў лавілі, там і цяпер... лавіць павінны. А калі б недзе, на рэках і азёрах нашых, бабры з'явіліся зноў, дык і там сяляне лавіць павінны; а за работу браць ім кожнага пятага бабра або падбрушша ад кожнага». Людзям забаранялася трымаць пры лясных лазнях жывёлу, зброю, сабак, сячы лес у тых мясцовасцях, дзе рабіліся аблавы, пад страхам пакарання смерцю не дазвалялася страляць аленяў і зуброў нават на ўласнай зямлі. Забаранялася касіць сена на месцах аблаў, а там, дзе дазвалялася,— забаранялася браць з сабою стрэльбы, сабак і рацішчы (рагаціны). Можна было біць драпежнікаў, а таксама птушак толькі на сваіх «валоках»... Але ў XVIII ст. усё пайшло дагары на-

гамі. Дзяржава, Рэч Паспалітая, саслабела, кароль не азначаў нічога, магнаты і шляхта грызліся. Дзе ўжо тут было сачыць за лесам, за правільным промыслам і падтрымкай звяроў?

...Так і здарылася, што ад першабытных лясоў, асабліва шыракалістоўных, ад старажытных зубрыных дуброў, ад мядзведжых пушчаў над махавымі балотамі і ціхімі бабровымі рэкамі засталіся трычатыры бастыёны.

Адзін з іх на поўначы Украіны і поўдні Беларусі. Палессе. Астатнія — на Беларусі. Лясы ў вярхоўях Бярозы-ракі. Налібокі. І самы стары і цікавы бастыён — Белавежа.

Цяпер той, хто хоча на свае вочы бачыць, які быў Шэрвудскі лес у часы Робін Гуда, Ардэнскі лес у часы рыцараў Круглага Стала і казачных волатаў, Тэўтабургскі лес у часы Армінія, не павінен шукаць такога ў сябе, у Англіі, Францыі, Германіі, а павінен ехаць сюды, у спрадвечны лясны аплот.

Некалькі стагоддзяў назад пушча цягнулася з захаду на ўсход на сто з лішнім кіламетраў, аж да самага Кобрына, а з поўначы на поўдзень — кіламетраў на сто трыццаць — сто пяцьдзесят. Цяпер адлегласць між паўдзённай і паўночнай межамі — 65 км, між заходняй і ўсходняй — да трыццаці. Даўжыня межаў — 500 км, плошча — 79 171 га.

Здаўна ў веснюю повень, калі Брэсцкае і Прыпяцкае Палессе, старадаўняе «мора Герадота», ператваралася ў сапраўднае мора, у якім па шыю стаялі лясы,— усё звяр'ё ратавалася на Мазырскайградзе і на Загароддзі, але пераважна на больш узвышанай, Прыбугскай раўніне, на якой ляжала пушча. У сонечных грабавых і бярозавых лясах звінелі птушкі, над рэкамі было аж цёмна ад качыных чарод, у змрочных ельніках блукалі мядзведзі, у спрадвечных дубровах пасвіліся сотні тысяч дзікоў, аленяў, коз і зуброў. Тады пушчу насяляла дзікае і ваяўнічае балтскае племя ятвягаў. Першая вартавая вежа, узведзеная славянамі ў абарону ад іх, нязвыкла бялела ў нечапаным лесе ашкуранымі, свежаабчасанымі бярвеннямі. Ад гэтай белай вежы, мабыць, пушча і атрымала назву Белавежскай.

Пазней, у XIII ст., князь Уладзімір загадаў вопытнаму мужу, дойліду Алексе, замкнуць ятвягам выхад

з пушчы, пабудаваўшы на ўзгорках ля ракі Лясная «стоўп каменны», вежу ў трыццаць метраў вышыні. Колеру тэракоты, са слядамі позняй пабелкі (нейкі невук пастараўся), яна і дагэтуль ганарліва высіцца над маленькім мястэчкам Камянец. Некаторыя няпраўільна гавораць, што яна і ёсць Белая Вежа, хаця ніхто яе даўней так не называў, дый колер яе зусім іншы.

Беларусы даўно асімілявалі ятвягаў, а Пушча ўсё была месцам паляўнічай забавы, спачатку для мясцовых князёў, а пасля для польскіх каралёў. Але не толькі для гэтага. Кожнай вайне яна плаціла даніну, кормячы беларуска-літоўскае войска. Князь Вітаўт, ідучы пад Грунвальд, учыніў тут вялізнае паляванне. Былі забіты тысячы дзікоў, зуброў і аленяў, каб забяспечыць войска мясам на ўвесь час вайны.

Калі гэта было збольшага патрэбнай мерай, то каралеўскія і царскія паляванні ў пушчы былі вандалізмам. Паляванне Аўгуста III у 1752 годзе, калі звяроў выганялі праз калідор з жэрдак на вытанчанага забойцу і ягоную світу, перапалавініла звярынае насельніцтва Пушчы. На схіле XIX ст. рускі цар Аляксандр (таксама трэці), кат свайго і іншых народаў, арганізаваў тут такую ж самую планамерную і абыякавую бойню. Сотні аленяў, ласёў, дзікоў. Дзесяткі фатаграфій ганарлівых поз сярод трупаў, і за чаркай «паляўнічай гарэлкі», і на ўрачыстым банкеце, і сярод «удзячных» сялян. Раскошна выдадзеная ў памяць аб гэтым подзвігу кніга з малюнкамі лепшых расійскіх ілюстратараў таго часу — шэдэўр паліграфічнага майстэрства.

Пушча аглухла ад стрэлаў. Хрыпелі праз кроў дзікі, біліся ў сутаргах алені і рахманыя даніэлі, цяжка валіліся на зямлю і моўчкі паміралі зубры (зубр заўсёды памірае моўчкі, не прыніжае сябе нават у смяротны час, трымаецца гонару). І так вось Пушча змоўкла і сцішылася перад тым, як зрабіцца нямой Пушчай.

Дапамагалі не толькі «ўладары народаў», але і купцы, якія дзе яўна, а дзе і таемна скуплялі шкуры. Собаля (праўда, гэта было раней, у XVI—XVII стагоддзях) прадавалі ў Мінску і Навагрудку звязкамі па 40 штук, а гарнастая — звязкамі па 100—250 штук. Тысячы такіх звязак ішлі ў глыб краіны і

за мяжу. Напрыклад, у мінулым стагоддзі на Беларусі за адну аблаву нярэдка забівалі да 4 мядзведзяў. Ужо ў XX ст. бабровыя калоніі можна было лёгка пералічыць і ўсё ж іх бязлітасна знішчалі.

Немцы ў першую акупацыю знішчылі чвэрць апошняга «Uhrwald'у» ў Еўропе.

За польскім часам англійская фірма (тая, ад якой засталіся насыпы вузкакалеек) ледзь не даканала астатняе. Бедны лес!

Усё гэта свінства, увесь гэты беспардонны разбой бачыла Камянецкая вежа. З яе адбівалі атакі ятвягаў і крыжаносцаў, на ёй былі царскія ўрадавыя пасты ў часе паўстанняў Касцюшкі і Каліноўскага. Пушча заўсёды хавала сваіх сыноў (між іншым, і партызан у Айчынную вайну), сыноў свабоды. І вось вежа глядзела, як гэты аплот свабоды высякаюць.

У 1921 годзе нехта Барталамей Жпакоўскі забіў апошняга зубра, у 1923 г. на Парыжскім міжнародным кангрэсе аховы прыроды выявілі, што на зямлі засталося 52 зубры, прададзеныя ў свой час з Белавежы ў заапаркі і паркі заходніх арыстакратаў і магнатаў прамысловасці. Некаторых з іх купілі і ў 1929 г. зноў завезлі на радзіму, адкуль калісьці прадалі, у Пушчу.

Зараз на беларускай палове запаведніка (частка Пушчы ляжыць на тэрыторыі ПНР) налічваецца семдзесят (па звестках 1970 г.) зуброў, ды шмат яшчэ перавезлі ў некаторыя другія запаведнікі краіны і за мяжу. Каб разводзіліся. Каб не рызыкаваць «адзіным месцам абітання» каштоўнай жывёлы.

Белавежскія зубры, якія нарадзіліся ў Польшчы, носяць імёны, якія пачынаюцца на літару «п». Тыя, што нарадзіліся на Беларусі, маюць імёны, першая літара якіх — «б» (напрыклад, Борус).

...Зубр дужа цікавы звер. Засведчаны, напрыклад, такі факт з пачатку XIX ст. Нейкі шляхціц вяртаўся дужа п'яны з гулянкі пушчанскай дарогай і, вядома, заснуў у санках, зашыўшыся ў сена. Зубр падышоў, асцярожна паддзеў чалавека рагамі і выкаціў у снег. У таго адразу ж і хмель прапаў. Коні не збаяліся зубра. Як ступалі дагэтуль, так ступалі і далей. Зубр ішоў за санкамі і еў сена. А шляхціц валокся за ім па снезе і гарлаў:

— Жывапіна ты подлая! Карова ты халерная! Ад-

дай, кажу! Апсік (як на ката)! Каб цябе самога так выкаціла, як ты мяне выкаціў...

Зубр, не звяртаючы ўвагі, «уклаў» (з'еў) усё сена і пайшоў у лес.

Раскажу яшчэ некалькі выпадкаў, сведкам якіх быў я сам.

У пушчы зуброў трымаюць па-рознаму. Ля галоўнага будынка (там гасцініца, рэстаран, музей) ёсць нешта накшталт заапарка: вялікія вальеры, у якіх звяры жывуць у максімальна прыбліжаных да натуральнага свайго жыцця ўмовах (калі яны вытапчуць траву, агароджа пераносіцца на новае месца, пакуль старое не зарасце). Тут некалькі зуброў, дзікі, алені, лані і іншыя жывёлы пушчы. Гэта каб людзі маглі паглядзець жывёл, не ад'язджаючы далёка, не забіраючыся ў глыб пушчы. Каб не калясілі, не палохалі звяроў, каб сэрца пушчы засталося нечапаным.

Другі спосаб утрымання зуброў — на вялізных агароджаных участках лесу. Так, у прыватнасці, трымаюць матак з маленькімі лабастымі цялятками, якія так непаразумела глядзяць на цябе, калі ты падыходзіш.

І, урэшце, значная частка зуброў жыве проста на волі. Едзеш і раптам бачыш сярод зялёнай-зялёнай паляны бурую вялізную тушу. Метры тры даўжынёю, высачэнную, вагою да тоны. Магутны, цяжкі, як гара, горб. Рагастая, лабастая і барадатая галава апушчана. Пасвіцца.

...У адзін з першых прыездаў у Пушчу я і мае сябры — мясцовы настаўнік і пісьменнік з Брэста — дужа хацелі ўбачыць зубра на волі. «Дзе мы яго знойдзем? Ходзіць недзе,— сказалі нам.— Куды захацеў — туды і пайшоў. Шукайце. Пашанцуе, то ўбачыце. А лепей ідзіце туды. Там тарпаны!»

Рабіць няма чаго, пайшлі ў нетры глядзець тарпанаў. Маленькія мышастыя конікі з раменьчыкам на хрыбціне. Ідзём уздоўж агароджы вялізнага загона. На дарозе — елка-вываранень. Агромністая. Карані з зямлёю стаяць блінам вышынёю паверхі на два. Падыходзяць тарпаны. Нас дзеліць вузкая агароджа. Ідзём да іх, мінаем елку, галосна клічам, смяёмся. І тут я, азірнуўшыся, аж пахаладзеў. За спіною (з-за елкі не бачылі), метрах у чатырох, мілая ся-

мейка: баця, здаравенны, мама, крыху меншая, і цялятка. Што рабіць? Каб адзін зубр, то хаця вакол дрэва можна было бегаць. А так двох, з двух бакоў дастануць. Скакаць да тарпанаў? Невядома, як яны да гэтага паставяцца. Дый што зубру такая лядаштая загародка?.. На шчасце, звяры не звярнулі на нас увагі. Тады я асмялеў, выйшаў з-за елкі, і сябар сфатаграфаваў мяне і іх. Тыя толькі пакасіліся, аддаляючыся ў гушчу.

Пазней, калі мне давялося памногу бываць там, я заўсёды браў з сабою некалькі газет. Ідзеш, а ён стаіць на паляне, на самай дарозе, і ў вус не дзьме. Адчувае сябе гаспадаром. Адчувае, што галоўны тут ён, а не ты. Запаліш газету і ідзеш, махаеш. Тады ён неахвотна — «ат, не варта звязвацца з рознаю дробяззю» — адыходзіць, дае дарогу...

Да аўтамашыны зубр ставіцца памяркоўна, але матацыклаў цярпець не можа, яны яго нервуюць. Некалькі разоў зубр так гнаўся за матацыклістамі, што няшчасным ледзь удавалася ўцячы.

Вельмі любіць чыстую ваду. Аднойчы студэнтка-практыкантка ўмывалася ля студні, з якой пояць зуброў (каб не хадзілі далёка на вадапой), паклала на зруб мыла, а яно ўзяло ды і ўпала ўніз. Ужо і мыла клятае дасталі, і ваду некалькі разоў да дна вычарпалі, а зубры ўсё адно некалькі тыдняў не пілі з гэтай студні.

Значэнне загарадак вакол вялікіх загонаў, дзе ходзіць частка зуброў, чыста сімвалічнае. Зубр лёгка разбівае лобам іхнія бярвенні дыяметрам у 15—20 см. Егер казаў мне: «Як кінецца на агароджу — не ўцякайце далей. Усё адно не ўцячэце».

І вось які выпадак здарыўся з намі, калі мы здымалі там фільм аб пушчы. Ці то зубра раз'ятрыў стракат «Конваса», ці проста мы яму абрыдлі — кішыць вакол нейкая драбяза! — але ён раптам з цалкам спакойнага стану адразу перайшоў у атаку. Мы, ясна ж, кінуліся хто куды, урассыпную. Добра, што гэта быў проста дэмарш: бык хацеў папалохаць, а не дагнаць. Але рэзультат атрымаўся такі, што мы пасля не маглі апамятацца ад здзіўлення.

Я паспеў скочыць цераз агароджу, асістэнт аператара, уцякаючы, наляцеў на сук і выбіў сабе пярэдні зуб. А аператара доўга не маглі знайсці, і толькі по-

тым, як з неба, даляцеў да нас ягоны голас. А адбылося вось што.

Штатыў нашага апарата важыць нешта каля васьмі кілаграмаў, апарат — таксама некалькі кілаграмаў, ды яшчэ акумулятары. Кідаць казённую маёмасць не рэкамендуецца. Дый дарагая дужа, пасля не расплоцішся. І вось аператар з усім гэтым грузам... узляцеў на вяршыню стога, вышыня якога была некалькі метраў. А стог, як вядома, мае форму яйка, пастаўленага на тупы канец. Значыць, спачатку даводзіцца лезці пад вострым кутам да зямлі, ледзь не спіною ўніз, а гэта немагчыма, і захацеў бы — не ўлезеш. Як гэта атрымалася ў аператара, ён пасля і сам не мог растлумачыць.

...Раскажу яшчэ пра аднаго асабіста мне знаёмага жыхара Пушчы. Аленя па мянушцы Алежка... Некалькі год назад пагранічнікі, абходзячы мяжу, пачулі на земляной паласе падазроны шорах. Уключылі святло. Спалоханая раптоўнай успышкай магутных ліхтароў, рынула ў лес... аленіха. А на ўскапанай зямлі застаўся камячок, нованароджанае алянятка. Пачакалі. Стала ясна, што матка не вернецца. Тады дзіцёнка забралі з сабой на заставу, адпаілі і вырасцілі. Алежка хадзіў за пагранічнікамі, як сабака. У чырвоны куток, у сталоўку, нават кіно глядзець. Пазней ужо я сам пераканаўся: надзенеш зялёную шапку — і ён бяжыць за табой. Шкада толькі, што яго прывучылі басціся. Нагнецца чалавек за нечым, а яму толькі таго і трэба. Наляціць і так нападдасць у тое месца, дзе ногі перастаюць называцца нагамі, што чалавек потырч ляціць галавою ў мох. Няма чаго рабіць, аддалі яго ў запаведнік, а там яго, як ручнога, пасадзілі ў загон для аленяў. Аднак аднапляменнікі яму аж надта не спадабаліся. Ён узяў дый пераскочыў цераз высачэзны плот у суседні загон, да зуброў. Тыя спачатку дзень-два ганялі яго, а пасля прывыклі, плюнулі. Так ён і жыў з імі, у больш арыстакратычнай кампаніі, так бы мовіць. Мы, працуючы ў Пушчы, яго падгадоўвалі. І вось аднойчы прыслалі мне сябры з Далёкага Усходу слоік рэдкага прадукта — чырвонай ікры. Намазалі мы сабе па бутэрброду і тут,— самі ведаеце, што існуе закон паскудстваў, па якім бутэрброд заўсёды падае маслам уніз, а ўжо з ікрой тым больш. Не есці ж з падлогі.

Вырашыў скарміць. Аддаць бы мне яго лісіцы або дзіку нейкаму, словам, усяеднаму або драпежніку. З'елі і дзякуй сказалі б. А я вырашыў пабалаваць Алежку, зусім забыўшыся на тое, што ікра — жывёльны прадукт, а алені гэтага цярпець не могуць. За ўсю гісторыю заапаркаў, запаведнікаў і г. д. была толькі адна самка аленя, якая магла з'есці катлету. На яе глядзелі, як на найвялікшае дзіва... Ну вось, даю. Той узяў, пачаў жаваць. І раптам на мордзе страшэннае неўразуменне, агіда, крыўда. Выплюнуў. Паглядзеў на мяне звысака і пайшоў. Спыніўся, літаральна плюнуў у мой бок некалькі разоў і аддаліўся, нават не аглядаючыся. Два тыдні давялося мне патраціць, перш чым ён забыў крыўду і паміж намі аднавіліся ранейшыя добрасуседскія адносіны.

...Водзяцца ў Пушчы, як і паўсюль на Беларусі, бабры. Да рэвалюцыі іх амаль выбілі, але ўжо ў 1925 годзе спецыяльнай пастановай СНК БССР быў арганізаваны Бярэзінскі запаведнік, шмат заказнікаў. Бброў узялі пад найстражэйшую ахову, і цяпер бабёр для Беларусі досыць звычайны звер. Яго тут болей, чым паўсюль у СССР, таму ён пачынае ўжо набываць прамысловае значэнне. Але пакуль што бброў болей вывозяць з Беларусі і рассяляюць у многіх і многіх мясцінах краіны. У Пушчы я, праўда, не бачыў бабровых паселішчаў, неяк не трапіў у тыя мясціны, дзе яны водзяцца. Затое шмат бачыў іх у басейне Сожа, у прыватнасці ў Чэрыкаўскім заказніку.

...Ідзём з працаўнікамі заказніка па беразе старыцы, зарослым дубамі. Сям-там зрэзаныя бабрамі дубкі, дыяметрам сантыметраў з сорак. Пень і ствол ля яго, як два завостраныя алоўкі. Бабры ўзяліся за такія тоўстыя дрэвы, бо з'елі ля вады шмат вярбы і іншага падлеску. Ім тут цесна, і яны перасяляюцца — ужо самі! — у суседнія вадаёмы. Бабёр есць кару, а таму на зіму зацягвае ствалы дрэў на дно, прытаплівае іх і, калі адчувае голад, нырае, ласуецца проста пад лёдам карою і вяртаецца ў сваю хатку. Хаткі яны робяць урэшце толькі ў топкіх мясцінах. Там жа робяць і грэблі з бярвенняў, замазаных зямлёй і глінай з галінкамі. Вада падымаецца, і выхад з бабровай хаткі заўсёды пад вадой. Але тут, у лясніцтве Лімень, вады шмат, берагі цвёрдыя, і таму бабры проста

робяць у іх норы. Наверх на «дах» нары яны нацягваюць кучу галін, бярвенняў. Гэта каб ніхто не лез. Чалавек — гэта не страшна, яго столь вытрымае. А вось калі ўсцярэбіцца карова або лось!.. І бабёр як ведае, што яны ніколі не палезуць у хаос галін, сукоў і іншага ламачча.

Я стаў на гэтую кучу, паскакаў крыху. І вось ад падводнага хода ў нару пацягнулася ракою вузкая стужачка бурбалак. Далёка, метраў за сто, за бліжэйшы мыс. Ратаваў жыццё, бедалага. Так вось іх і ловяць, падстаўляючы да ўвахода жалезную клетку асаблівай канструкцыі.

Друг мой, пісьменнік, расказаў мне, як калісьці ў іхняй вёсцы злавілі бабра. Усе беглі глядзець, як на дзіва. Бабёр сядзеў у дзежцы з вадой, абапёршыся пярэднімі лапкамі, якія дужа падобны да дзіцячых, на край дзежкі і... плакаў. Гэта праўда. У нас жа, беларусаў, ёсць нават прыказка: «Заплакаў, як бабёр» — значыць горка, нястрымна, з патокамі слёз.

Цяпер ніхто нават асабліва не цікавіцца ловамі. Ну, злавілі, і добра. Баброў садзяць у клеткі, накрываюць зверху, каб не было сонечнага ўдару, а пасля вывозяць партыямі і выпускаюць у розных іншых рэках, аж да Сібіры.

...Так яно ў Пушчы. Усякіх звяроў тут безліч. 55 відаў сысуноў, 204 — птушак, 11 — земнаводных, 7 — паўзуноў. Тут каля 2000 аленяў, 1500 дзікіх козаў, каля тысячы пяцісот дзікоў. Ёсць лісіцы, тарпаны, барсукі, куніцы.

Жыхарам вёсак, што ляжаць у Пушчы, часам даводзіцца даволі цяжка. Палі трэба ахоўваць ад звера: бульбяныя — ад дзікоў, аўсы — ад аленяў. А страляць жа нельга. На ўсіх платах развешваюць бляшанкі, каб звінелі ў выпадку нападу звяроў на поле. Ну, проста хоць плач.

Нямая пушча з парадзелымі дубровамі і амаль выбітым звяр'ём пачала, пасля жахаў апошняй вайны, ажываць. (Дарэчы, у вайну яна была аддадзена ў асабістае валоданне Герынгу. Ён наклаў лапу на яе і навакольныя лясы, бо ведаў іх; яшчэ да 1939 года прыязджаў паляваць у панскую Польшчу.)

Дбаннем лесаводаў і ўсіх працаўнікоў гэтай вялікай навуковай гаспадаркі ўзняліся на грабежніцкіх лесасеках маладыя лясы, старыя (а іх усё яшчэ многа)

напоўніліся птушыным свістам, вясеннім такаваннем глушцоў, трубнымі клікамі лебедзяў, асеннім рыкам аленяў. Зноў скаланаецца зямля ад цяжкага тупату зубрыных чарод. Зноў прыйшлі на пакутную, стагоддзямі пашматаную зямлю Пушчы мір і спакой.

Хай ён будзе давеку. Бо не трэба, каб уставалі ў нетрах слупы дыму, каб гэты (адзіны ў Еўропе) і такі шматпакутны лес аддаваўся на водкуп маршалкам, царкам і герынгам розных масцей, каб бухалі пад яго шатамі стрэльбы браканьераў, а то і аўтаматы, каб пры адным ляманце «чалавек!» усё жывое захлыналася ў чорным адчаі і перадсмяротнай тузе.

Яна была запаведнікам. У 1957 г. стала дзяржаўнай запаведна-паляўнічай гаспадаркай. Чакае Пушча, на наш погляд, ператварэння ў штосьці накшталт нацыянальнага парку. Бо гэта не толькі неацэнны скарб усіх на свеце людзей. Галоўнае тое, што мы звязаны з чацвёраногімі і пёрыстымі братамі нашымі адзінай повяззю еднасці ўсяго жывога на зямлі. Таму задача і гонар чалавека не забіваць, а бараніць і карміць. Ён зараз і робіць гэта, сапраўдны чалавек.

Калі і забівае, то дужа рэдка, каб ведаць пра жывёл усё і каб потым ужо нікога не пазбаўляць жыцця.

У Пушчы вялікі штат вучоных самых розных спецыяльнасцей: тут лесаводы і батанікі, арнітолагі, спецыялісты па насякомых і многія іншыя. Акрамя іх у гаспадарцы шмат егераў і палясоўшчыкаў. Іхняя справа — штодзённа чытаць кнігу лесу, занатоўваць усе змены. Справа навуковых супрацоўнікаў — сістэматызаваць сабраныя палясоўшчыкамі звесткі, рабіць з іх навуковыя высновы і, вядома ж, самім вывучаць жыццё лесу ва ўсім яго віраванні і прыгажосці.

І, вядома ж, берагчы.

У Пушчы — найстражэйшы догляд за пасадкамі і спелымі лясамі, за гнёздамі, норамі, пасавіскамі, вадаёмамі — за ўсім, што складае стракаты калейдаскоп яе жыцця.

Гэта не азначае, вядома, што чалавек ніколі ні ў што не ўмешваецца. На некаторых жывёл (пераважна драпежнікаў, колькасць якіх трэба рэгуляваць — рысяў, напрыклад, у Пушчы ўсяго каля пятнаццаці) дазволена паляванне па ліцэнзіях. Робіцца санітарная высечка лесу. Бо нават запаведнік не можа быць

расаднікам шкоднікаў. І таму Пушча ачышчаецца ад хворых дрэў, каб яны не заразілі караедам і лубаедам здаровыя.

Акрамя таго, запаведніку належыць 11 тыс. га зямлі, на якіх вырошчваюць ячмень, бульбу, авёс, буракі і іншае, што ідзе на падкормку жывёл узімку.

...Замаразкі. Пушчанская позняя восень. Шэранню прыпудрана трава. Апошнія маслюкі і зялёнкі змерзлыя. Аж рыпяць, калі іх зразаеш нажом. А пасля снягі. І вось едуць сані і пакідаюць у пэўных месцах купы сена. І людзі раскідаюць на ўтаптаных пляцоўках бульбу для дзікоў, а тыя ідуць з гушчару цэлым атрадам і чамкаюць, нібы гэта так і трэба.

Звяроў кормяць, дапамаючы ім пераражыць зіму, а пры патрэбе і лечаць. Хвароба зубра лічыцца сапраўдным няшчасцем.

У Пушчы малавата крыніц і рэчак, і таму тут зроблены вялікія і маляўнічыя штучныя азёры для звярыных вадапояў і вадаплаўнай птушкі.

У Пушчы — адзін з найлепшых музеяў прыроды, якія мне калі-небудзь даводзілася бачыць. Дужа сучасная архітэктура, вельмі сучасная экспазіцыя і афармленне. Адразу ясна, што за вокнамі яго — дзіва прыроды, лес, у якім сустрэліся субтропікі (плюшч, скальны дуб) і прысенне Арктыкі (лапландская вярба, карлікавая бяроза). Тут усе жыхары лесу. І звяры і птушкі. Ад арла, ад вялізнай неясыці да дробных і малых. Тысячы экспанатаў. Матылі, жукі, рукакрылыя, гады, рыбы. І ўсё цікава настолькі, што не хочацца выходзіць.

У нетрах жыве адна з найбольш рэдкіх птушак Еўропы — чорны бусел. У адрозненне ад свайго белага брата, ён цярпець не можа блізасці людзей. А белы тут жа, на хатах і на паплавах. Дыбае, шукае жаб. Дарэчы, калі для музея спатрэбілася чучала бусла, паляўнічага прывезлі здалёк. Беларус нізавошта не заб'е бусла.

Птушак тут безліч. Яшчэ ляжыць снег, яшчэ мурашкі не выпаўзлі з мурашнікаў, а ўжо выводзіць птушанят крумкач. Чаму так? У нас ёсць пра гэта легенда. Нібыта калісьці мурашка і крумкач паспрачаліся аб нечым і, паколькі — якая ж у крумкача ці мурашкі маёмасць? — абодва голыя, як бічы, то заклаліся на самае каштоўнае, на дзяцей. Крумкач

прайграў. І вось вымушаны выводзіць дзяцей, пакуль мурашкі яшчэ спяць у сваіх гарадах. Сам мерзне, і дзеці мерзнуць. І правільна! Не спрачайся аб тым, чаго не ведаеш, дурная галава!

Вось прамоіны, доўгачаканая вясна. Калыхаюцца на палянах ліловыя махнатыя «сны». На досвітку «капае» і «шчоўкае» ў цемры яловага лесу першабытны глушэц, і песня яго падобная на вясенні капеж.

І лета прыходзіць, і ўсё мацней птушыная песня, а ў каго яе няма, то крык. Уначы раздзірае цемру вухканне і рогат пугачоў, соваў і сычыкаў. Ляляк (казадой) страсна крычыць сваё «люблю», дудніць удод, свішчуць у вільготных шатах гівал (івалга) і лепшыя ў свеце па колькасці каленцаў салаўі. Так-так, лепшыя. Знаходзіцца недзе пярнаты спявак і стварае сваю «школу», і слава салаўя пераходзіць з мясцовасці ў мясцовасць, як слава лепшага ў краіне тэатра ці футбольнай каманды. Сёння армейцы, заўтра «Дынама», паслязаўтра яшчэ нехта. Дык вось, яшчэ ў XIX ст. славутыя «курскія салаўі» саступілі месца ўральскім, тыя яшчэ камусьці, а цяпер усе арнітолагі свету лічаць (аб гэтым нядаўна пісаў «Огонёк»), што пакуль лепшыя па спевах салаўі — на Беларусі, а лепшыя сярод іх — белавежскія.

Лунаюць над паплавамі і балотамі ястрабы, канюкі, змеяжэры і асаеды, чырвоныя каршукі і беркуты. Лётаюць вясёлкавыя фазаны, скачуць на балотах у малочным тумане, у туманным ранішнім сонцы жоравы. І зязюля лічыць бясконцыя гады ўсім, хто прыйшоў сюды з дабром.

На зары брохаюць падобныя на кракадзілаў шчупакі. А над імі белы дыван лілей-гарлачыкаў, а вышэй — пахучы аер, якім усцілаюць падлогу на сёмуху, а над ім лугавіны з кветкавым разнатраўем, і кіпарысы ядлоўцу, і сонечны падлесак, а яшчэ вышэй павуцінныя ельнікі, бары, падобныя на гатычныя храмы, і высакародныя лясы пяцісотгадовых дубоў і грабаў.

...Сяджу ў квартале трохсотгадовых грабаў. Калоны ствалоў — пад неба. На некаторых дрэўныя «губы»[1] ў метр радыусам. Няма ў беларускіх лясоў адзнатоннай суровасці паўночнага бору ці тайгі. Дзі-

---

[1] Драўнінныя грыбы.

каватасць — ёсць. Змрочнасць — ёсць. Але і разнастайнасць ёсць. Куды ні кінеш позірк — перад табою зусім іншы пейзаж, які кожны раз выклікае захапленне.

Упаў першы жоўты лісток: папярэдзіў, што няхай зараз сярэдзіна лета, але бывае ж і восень, калі пушча будзе палаць рыжым, чырвоным, пурпурным, залатым агнём, калі ліпкія ягады амёлы стануць падобныя на празрыстыя жамчужыны, калі паветра над пушчай стане стагнаць ад клічу жураваў, лебедзяў і дзікіх гусей.

Падымаю вочы. Алень. Усё ж я яго падсцярог. Наваліўся грудзьмі на ствол тонкага і высокага дрэва. Ідзе і гне яго, прапускаючы між нагамі. Дабраўся да лістоты і закусвае, водзіць цёплымі мяккімі губамі. Даеў, выпусціў дрэва і пайшоў прагалінай, нібы паплыў у паветры. Сотні год парахавыя маланкі прыпынялі ў зеніце яго апошні скачок. Але вышэйшай мужнасцю жывога ён упарта цягнуў праз вякі сваё жыццё і сваю прыгажосць. І толькі гэтай прыгажосцю і гэтай ласкавай упартасцю ўратаваў ён на зямлі свой рахманы, свой трывалы, свой вечны народ. Будзем спадзявацца, што, калі мы будзем сапраўднымі людзьмі, ён, з нашай дапамогаю, уратуе яго на векі вякоў.

Ён ідзе да мяне і да друга,
як сцішаны вецер,
галаву падстаўляе,
спадзяецца, што сэрца кране:
«Вы мяне не зачэпіце?
Вы мяне зберажэце?
Пашкадуйце мяне!
Калі ласка...
Пашкадуйце мяне...

Даруй мне, алень, і вы, мае чытачы і сябры, за аўтацытату. Мы ўсё ж пастараемся зберагчы цябе. Мы зберажом. І зубраў, і чалавечнасць, і старыя вежы, і ўсплёскі бабра, і дзіва сонечных палян, і вуркатанне дзікага голуба, і святую гучную цішыню Пушчы.

Тады будзе мір усім. Усяму жывому. Не будзе каменя ў запазусе і прыхаваных стрэльбаў. Настане такі час. І вось тады ўся зямля, паўсюль, дзе ёсць нечапаныя стэпы, горы, першабытныя лясы, уся зямля стане падобная да цябе, Пушча, бо паўсюль будуць

берагчы зямлю, як берагуць яе зараз тут. І прырода адплоціць дабром: неўміручымі дубамі, стронгавымі рэкамі, якія так ласкава мыюць пыльныя ногі, сонцам і крыштальным небам, якое не захмарваюць дым і пыл.

І не будуць хавацца ад чалавека бабёр і алень.

А пакуль я рад, што на хвіліну завёў вас у Пушчу, у гэтыя сонечныя нетры, у гэты самы лепшы куток старажытнай нашай краіны. Каб вы хаця б на хвіліну засталіся там сам-насам з аленямі і зубрамі, з аксамітнымі грабамі і вузлаватымі дубамі, з сумленнем, з чалавечнасцю, з усёй гэтай добрай і адвечнай беларускай зямлёй.

## ЛЮДЗІ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ

Ці думалі вы самі пра беларусаў не як пра сваіх бацькоў, братоў і сёстраў, сяброў або аднавяскоўцаў, а як увогуле пра людзей з асобным характарам, як пра народ з аднолькавай мовай, мінулым, сучасным і будучым?

Ці задумваліся, які ён, беларус? Ну, па-першае, жывуць у Беларусі рускія (іх найбольш у гарадах), літоўцы (іхнія вёскі ёсць у Астравецкім і Радунскім раёнах), яўрэі, латышы (сям-там на паўночным захадзе Віцебшчыны), украінцы (у некаторых вёсках на поўдзень ад Гомеля і невялікімі гнёздамі на Піншчыне і Століншчыне). Акрамя таго, добра ведаючы побыт, дыялектныя асаблівасці мовы, песню Палесся, я, асабіста, выдзеліў бы палешукоў у асобную этнічную групу. Занадта асобны, непадобны іхні фальклор, побыт, нават склад розуму. Ну, ладна, гэта справа вучоных, а не наша.

Ёсць на Беларусі татары. З тых, што калісьці ўзялі ў палон пры Батыі і пасля падчас набегаў пры Вітаўце і пасялілі асобнымі пасяленнямі на тэрыторыі краіны. Да нядаўняга часу яны адрозніваліся толькі рэлігіяй (цяпер і гэтага няма) ды часам імёнамі і прозвішчамі, у якіх, бывала, толькі з цяжкасцю можна было ўлавіць намёк на іхняе паходжанне. Скажам, Ян Мустафавіч Марушкевіч або Іван Багданавіч Асановіч (ад імя «Асан», «Гасан»). Нават іхні этнічны тып стаў падобны на беларускі. Нават свяшчэнныя іхнія кнігі «Аль-Кітабы» гучаць на ста-

рой беларускай мове, хаця і запісаны арабскімі літарамі.

Склад насельніцтва нашай рэспублікі досыць аднастайны. Беларусаў тут 81 працэнт. Ды, акрамя таго, у апошні перапіс беларускую мову назвалі ў якасці роднай 328 тыс. чалавек іншых нацыянальнасцей, а 606 тыс. чалавек назвалі беларускую мову ў якасці другой мовы, якой вольна валодаюць.

...Што гэта за чалавек беларус? Што гэта за народ? Уласна кажучы, адказаць на гэта пытанне дужа цяжка. Гэта задача амаль невырашальная. Як і паўсюль, ёсць сярод беларусаў мяшчане і падзвіжнікі, лайдакі і працаўнікі, «малюскі» і героі (нават у штодзённым змаганні за новае, за лепшае, за вынашаныя ідэі, што, уласна кажучы, і называецца жыццём), дурні і мудрацы. І кожны паступае адпаведна свайму характару, і мудрыя разважаюць мудра і па-свайму, а дурні — як паўсюль.

Так што не трэба абагульненняў.

Аднак, многа паездзіўшы па рэспубліцы, перазнаёміўшыся з тысячамі людзей, я насмелюся назваць некаторыя досыць тыповыя рысы, уласцівыя народнаму беларускаму характару. Гэта пераважна мой погляд (могуць быць і іншыя), хаця многія і многія людзі, і не толькі з беларусаў, падзяляюць яго.

Тыповага беларуса я досыць лёгка адрозню сярод іншых, хаця б ён яшчэ не сказаў ніводнага слова (калі скажа, тады ўжо, нават калі ён гаворыць на іншай мове і без акцэнта, яго лёгка пазнаць па асаблівай будове сказа, па тым, што, колькі паветра набрана ў лёгкія, столькі і аддадзена, шчодра, да апошняга, нават з лішнімі словамі, каб мелодыя сказа была завершана. Ён не скажа: «Чым гэта скончыцца?», а скажа: «Дык чым, мо ўжо вы мне скажаце, скончыцца гэта — а, мо скажаце вы?»).

Гэта тое, што ў абліччы, амаль няўлоўнае. Пераказаць яго цяжка. Яно ў форме носа, вушэй, у вачніцах і разрэзе саміх вачэй, у манеры рухацца, жэстыкуляваць, гаварыць, дый ці мала яшчэ ў чым. Паўночны беларус ростам пераважна высокі (не рэдкасць бамбізы па два метры ростам). На поўдні часцей трапляюцца людзі сярэдняга росту, больш прыземістыя (паўтараю яшчэ раз, што гэта не агульны закон, а толькі найбольш распаўсюджаныя рысы), затое

больш каржакаватыя. У апошні час назіраецца тэндэнцыя да павышэння сярэдняга росту, як і паўсюль.

Чарнявых сярод беларусаў няшмат. Найчасцей яны сустракаюцца ў Палессі, на поўдзень ад Прыпяці і чамусьці пераважна сярод мужчын, ды яшчэ ў некаторых мясцінах на Гродзеншчыне («гродзенцы — гракі»), што частка вучоных тлумачыць рэштка-мі прымесі старажытнай ятвяжскай крыві. Пераважаюць на Беларусі валасы светла-русыя ці нават бялявыя. Цёмна-русых і шатэнаў менш. Адпаведна і колер вачэй часцей за ўсё блакітны, шэры ці сіні.

Рысы аблічча мяккія, склад здаецца, на першы позірк, крыху далікатным, але гэтая далікатнасць падманвае. Праявы знешняй сілы, якая ўразіць на хвіліну дый звяне, замяняе тут вынослівасць, жылаватасць, цягавітасць. Там, дзе другі можа апусціць рукі, беларус будзе цягнуць. Іначай, у старыя часы, чалавек проста не выжыў бы сярод гэтых дрымучых лясоў і неабсяжных балот, на гэтай скупаватай зямлі. І гарт той застаўся ў яго характары на вякі. Нездарма яшчэ ў даўніну беларусы лічыліся незаменнымі на такіх цяжкіх работах, як земляныя (грабарства) і лесасплаўныя. Ды і пазней гэта праяўлялася. Напрыклад, у нясцерпна цяжкіх сітуацыях на вайне і ў партызаншчыне.

Хаця, вядома, сустракаюцца і такія «зубры», што падковы гнуць, сталёвыя пруты звіваюць на руках у другога. Адзін калісьці ў Рагачове, на спрэчку, пазносіў у адно месца дзесяць дванаццаціпудовых якараў з баржаў і пераблытаў іх лапамі так, што пасля куча людзей з гэтых лайбаў ледзь разблыталі, каб кожнаму забраць свой.

Гэта жылаватасць, фізічнае і духоўнае здароўе народа прывялі да таго, што па колькасці жыхароў ва ўзросце больш за сто год на 100 тыс. насельніцтва Беларусь пераўзыходзіць усе іншыя рэспублікі СССР за выключэннем Абхазіі і горных раёнаў Каўказа. На паўночны ўсход ад Нарачы, у раёне Дунілавіч, Шаркоўшчыны, Глыбокага, даўгалетніх больш, чым у Абхазіі, пад Ачамчырамі. Тут, праўда, няма адзіночных асоб, якія дажываюць да 140—150 год, але працэнт стогадовых вышэй, чым там.

Таму беларуса да рэвалюцыі заўсёды абражала думка аб ім, як аб «няшчасненькім». Склалася тая

думка недзе ў трыццатых гадах XIX ст. І вось пайшло! З самым шчырым спачуваннем, з болем, з крывёю сэрца вялікі Герцэн пісаў пра чалавека, які «адвык ад мовы», аб тым, што многія пакаленні прыгонных спарадзілі гэтага парыю з вузкім чэрапам; вялікі Някрасаў пісаў аб маўклівым прыдушаным працай чалавеку. Гэты погляд адбіўся і ў творчасці некаторых беларускіх паэтаў. І ўсё гэта, мякка кажучы, не адпавядала ісціне. Той, хто жыў з гэтымі людзьмі, хто глыбока ведаў ці вывучаў іхняе жыццё, быў іншай думкі. Вось словы публіцыста Грузінскага: «Ходячие представления о типе белорусского крестьянина рисуют его неказистым... тщедушным и придавленным тяжелой жизнью в болотистом бедном краю. Мои личные впечатления были не таковы. Я увидел белоруса крепкого сложения, хотя и худощавым... Но главное, я не заметил и следа угнетенности, забитости. Манера держать себя и говорить, действительно, отличалась от великорусской своей медлительностью, сдержанностью, но в ней виделась скорее степенная важность, я бы сказал, задумчивость, не лишенная достоинства. Выразительные физиономии встречаются очень часто, а среди женщин и девушек много прямо красивых лиц»[1].

Дый Дабралюбаў, гаворачы аб тым самым, казаў, што вось і італьянцаў нібы забілі, пазбавілі волі і так гаварылі да часоў Гарыбальдзі. Тое і жыхары Беларусі: «Так вот целый край взяли да забили. Посмотрим, что еще скажут сами белорусы».

Чаму ж склалася такая несправядлівая думка? Таму што тут да заведамай ідэі і мэты за вушы прыцягваліся факты. Ішла барацьба за душы людзей, і таму царскія служкі хацелі давесці, што вось, маўляў, да чаго давялі людзей польскія паны, а тыя з не меншым запалам даводзілі, што да жывёльнага стану давяла гэты народ царская палітыка і новая дзяржаўная сістэма. І кожны соваў свае казыры. А «даведзенаму да жывёльнага становішча народу» было напляваць і на тых і на другіх. Ён жыў, не збіраючыся ні вымiраць, ні губляць мову.

А тут пусціліся ва ўсе цяжкія «рыдальцы над

---

[1] Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПб, 1905 г., т. IX, стар. 156—157.

меншым братам». І, як ні дзіўна, той жа думкі сталі прытрымлівацца людзі вялікага таленту і вялікай душы. Занадта добры і зручны агітацыйны «прыклад» быў перад вачыма. Усёй душой жадаючы зваліць самадзяржаўе, гвалт і несправядлівасць, яны ўзялі ў якасці зброі заведама няверны тэзіс. І на ім, як гэта ні сумна, сышліся непрыміручыя ворагі: святыя народавольцы — і афіцыйныя ідэёлагі, што жылі «применительно к подлости», чалавек, які адчуваў боль народную так, нібы з яго здзерлі скуру, вялікі Някрасаў — і прайдзісвет «чего изволите» Каткоў.

А між тым гэтаму люду было, як заўсёды, у вышэйшай ступені ўласціва інстынктыўнае адчуванне справядлівасці і несправядлівасці. Галоўнай яго рысай з'яўлялася свабодалюбства. Пра гэта сведчыць іранічная і злая легенда, якая склалася якраз у тыя 30-я гады XIX ст., калі гвалтоўны перагон у праваслаўе, хабары, зверства і жорсткасць сталі нясцерпныя. Вось яна.

«Бог дзяліў між народамі землі. Адным тое, другім — тое. Прыйшлі беларусы... Вельмі ж пану богу спадабаліся. Ён і пачаў нас надзяляць: «Рэкі вам даю поўныя, пушчы — нямераныя, азёры — нялічаныя. Спёкі ў вас ніколі не будзе, але і холаду — пагатоў. Зажэрціся на багатай зямлі не дам, каб былі ўвішныя, кемлівыя, але і голаду ў вас ніколі не будзе. Наадварот, у голад шмат багацейшыя людзі будуць да вас прыходзіць. Не ўродзіць бульба, то ўродзіць жыта ці яшчэ нешта. А яшчэ звяры і дзічына ў пушчах чародамі, рыбы ў рэках — касякамі, пчолы ў борцях — мільёнамі. А травы — як чай. Не будзе голаду. Жанчыны ў вас будуць прыгожыя, дзеці — дужыя, сады — багатыя, грыбоў ды ягад — заваліся. Людзі вы будзеце таленавітыя, на музыку, песні, вершы — здатныя. На дойлідства — таксама. І будзеце вы жыць ды жыць, ну як...» Тут яго Мікола ў бок штурхае: «Пане божа, ды вы падумайце. Гэта ж вы ім рай аддаеце! Гэта ж вы... бо-жа мой! Ды яны пры іхняй языкатасці туды з сапраўднага раю ўсіх перавабяць! Яны ж языком менцяць — дай бог нам з вамі». Бог падумаў, крактануў, але назад адбіраць не будзеш. Сапраўды, ёсць ужо яна, зямля. Лані бягуць — лес варушыцца. Рыба чаўны з вады выціскае. Дрэвы — да сонца. «Добра,— кажа,— зямля будзе —

рай. А каб не занадта вы перад маім раем ганарыліся — дам я вам найгоршае ва ўсім свеце начальства. Яно вам таго раю трохі збавіць дый пыхі трохі-трохі вам саб'е. Гэта вам для раўнавагі».

Наіўным і недалёкім, толькі напалову добрым, выглядае тут «бог», асцярожным бюракратам выглядае Мікола. У гэтай легендзе ёсць толькі адзін герой, народ, які прыдумаў яе. Жывы, разумны і вольналюбівы. Так ён глядзеў на сябе сам, так павінны глядзець на ягоны тагачасны воблік і мы.

Ён давёў гэтае вальналюбства і, хай сабе не заўсёды спалучаную з зухаватасцю, спакойную смеласць і ў бясконцых паўстаннях супраць прыгнятальнікаў, і ў пераможных войнах з татарамі і крыжаносцамі, і ў вялікай мужыцкай вайне XVII ст., і, урэшце, у апошняй вайне з фашызмам.

Як было відаць з той легенды, якую я вам толькі што расказаў, зямляк наш вызначаецца і ўтрапёнай любоўю да працы. Я нават сказаў бы: валовай упартасцю ў ёй. Гэта таксама добра тлумачыцца. Скупая зямля ой як нялёгка давала хлеб. Для новага поля даводзілася (а часам і зараз даводзіцца) карчаваць «ляду». Сячы лес, выдзіраць з зямлі карчы, зносіць на межы камяні.

Упартасць гэтая ва ўсім. У досыць бязлеснай мясцовасці пад Карэлічамі жанчына надумала сама адна насадзіць цэлы лес. І насадзіла. Адусюль цягала саджанцы бярозы, дуба, клёна. Старалася некалькі год. Цяпер на гэтым месцы шуміць густы, досыць ужо высокі, паверхі на чатыры, лес.

Мабыць, з-за гэтага працалюбства і кранальнай сваяцкай, кроўнай любові да зямлі — беларус і дагэтуль пераважна аратай, земляроб. У сельскай гаспадарцы занята 57 працэнтаў насельніцтва. Але агульная урбанізацыя ідзе і ў нас. У 1960 годзе сялян было 68 працэнтаў, у 1965 — 62,8 працэнта, цяпер, як ужо сказана, 57 працэнтаў. Тут трэба ўлічыць яшчэ і тое, што многа сялян з Палесся і іншых мясцін, дзе досыць цесна з зямлёй, выехалі на Алтай, у Барабінскія лесастэп, Хабараўскі край і асабліва Прымор'е, дзе ёсць мноства беларускіх вёсак.

Тая самая няшчодрая зямля прывучыла калісьці беларуса да разліку ў вядзенні гаспадаркі, да ашчаднасці, да таго, што «нішто не прападае», усё ідзе ў

справу, нават падабраны цвік, нават лясіна ці калода, прыплаўленая ракой, і, аднак, дужа памыліўся б той, хто назваў бы яго скупым.

Беларус якраз адрозніваецца шчодрасцю, заўсёднай гатоўнасцю прыйсці на дапамогу ў бядзе. Калі раней у каго на вёсцы здараўся пажар — вёска талакою ішла красці панскі лес, калі не было свайго, за пару дзён ставіла пагарэльцу новую хату, дзялілася з ім жытам: кожны адсыпаў са сваіх засекаў колькі мог, каб чалавек дажыў да вясны і абсеяўся. Потым з кожнай хаты неслі рэчы: хто посцілку, хто падушку, хто палатно, хто гаршкі. Памагалі рабіць тыя рэчы, што селянін звычайна рабіў сам: хадакі, лыжкі, балеі і г. д. Гэта не таму, што былі такія ўжо добрыя. Без гэтага было — не выжыць. Дужа добра сказаў пра гэта адзін з лепшых нашых паэтаў, вялікі Максім Багдановіч:

> Зноў змяшай муку з карой таўчонай,
> Бо памерзла ніва у суседа.

Раней падчас голаду іншым разам людзі з больш багатых мясцін прыходзілі на Беларусь за дапамогай (у нас вымачыць дажджамі жыта — уродзіцца бульба на пяску і авёс, не будзе бульбы — будуць грыбы, рыба, не будзе й таго — паляванне выручыць): сапраўднага голаду не бывала, калі не вымятала ўсяго вайна або ліхі пан ці чыноўнік, дый то заўсёды ўмелі людзі выкруціцца, прыхаваць, скамбінаваць — на гэтыя выпадкі яна і была, беларуская ашчаднасць. То вось я, прынамсі, не чуў, каб галадаючага адпусцілі з хаты з пустымі рукамі.

Часам праходзіла нейкай вёскай па пяцьдзесят на дзень і не бывала так, каб кожнаму не далі хаця вядзерца бульбы, хаця лусты хлеба ці жмені гароху і не пакармілі. Сабе пакідалі толькі, каб самім пратрымацца да вясны, да шчаўя, маладой крапівы, да першай рыбы, да «грыба бедных», майскага смаржка.

Гэта ў час бяды. Але і ў звычайныя добрыя часы ўсе, хто прыязджае да нас, адзначаюць як адну з галоўных рыс — гасціннасць, пачасту досыць цяжкую для госця. «Госць у хаце — бог у хаце» — і ганьба таму дому, дзе не зробяць усяго, нават немагчымага, каб госць быў задаволены. «Белорус отличается гостеприимством, склонностью к веселию и доверчи-

востью, хотя ее можно и не сразу снискать. Отсутствие злопамятности в белорусе резко бросается в глаза всякому, кто с ним сталкивается. Вообще он обладает кроткой натурой»[1].

На гэтую «рахманасць натуры» часта разлічваў вораг нашай зямлі. Ворагі, бо іх за нашу гісторыю бывала досыць. Адзін з членаў нацысцкага ўрада так проста і пісаў, што беларусы, як народ інертны і мяккі, добры, бязвольны і рахманы, павінны быць вынішчаны або выселены раней за ўсіх і што гэта будзе досыць лёгкай акцыяй, бо на якое-небудзь больш-менш арганізаванае і зацятае супраціўленне разлічваць не даводзіцца. Тут ён трохі-трохі памыліўся, крыху недаацаніў рахманага чалавека, які за гады акупацыі забіў цэлую кучу людзей дзейных, прадпрымальных, цвёрдых, жорсткіх, валявых і здатных на ўсё, апранутых у ваенныя мундзіры, у мундзіры СС, фельджандармерыі і гэтак далей, узброеных бязмерна лепшай зброяй. Сярод гэтых «людзей, якія пройдуць паўсюль», было 47 генералаў, шмат вышэйшых чыноў адміністрацыі, нават гаўляйтар Беларусі. Я скажу аб гэтым у другім месцы, а тут дабаўлю толькі, што «інертны» і «бязвольны» мясцовы чалавек пусціў пад адхон 11 128 саставаў з надпісам «Deutsche Reichsbahn». Так што рахманасць беларуса таксама да пары да часу. Пяройдзеш мяжу — і тваім ворагам будзе страшны чалавек. Страшны асабліва тады, калі гнеў яго спакойны і разлічаны.

Што ж датычыцца такіх абставін, калі не чапляюць кіпцем за сэрца, то тут аўтар «Расіі» меў рацыю.

Галоўнае ў нашым характары — гасціннасць добрага да добрых.

Так, многія старыя гасцінныя звычаі пакрысе выміраюць, гарадскі чалавек можа часам не ведаць чалавека з суседняга пад'езда, але і цяпер у нас рэдка знойдзецца хата, у якой не паставілі б рубам апошняга рубля, калі ў доме госць. Часам гэта бывае нават смешна, і беларус кпіць са сваёй «празмернай» гасціннасці досыць злосна: «Госць, як нявольнік: ляжа, хоць і ў пярыну паложаць», «Добра было ў гасцях, толькі прынукі не было» (не прымушалі настой-

[1] Россия. Полное географическое описание нашего отечества. СПб, 1905 г., т. IX, стар. 156.

ліва, ледзь не сілком, піць і есці, а сам саромеўся), «Госць сядзе куды скажуць, хоць на покуць, а гаспадар, як скула, дзе захоча, там і сядзе», «Пры мілым госцю і гаспадар пажывіцца», «Ноч якая месячная! Каб быў госцем, даўно б дахаты пайшоў». «Госць першы тыдзень — золата, другі — серабро, а трэці — медзь, хоць і дадому едзь...»

Гэта, урэшце, жарты. Гасціна ёсць гасціна.

Уласціва нашым людзям знаходлівасць, нават некаторая хітрасць. Вось першы прыклад, які прыйшоў мне ў галаву. Падчас паўстання 1863—1864 гг. за невялічкім атрадам, коннікаў на 40, зраненым, выматляным у баях, знемагаючым — гналася карная ўрадавая часць у 200 шабляў. Дзяліла іх гадзіна адлегласці. Камандзір зразумеў: не ўцячы. Будзе няроўны бой, смерць у ім, а параненым — шыбеніца. І тады ён свядома скараціў гэтую гадзіну. Спыніў атрад у лесе непадалёк ад карчмы, прывязаў коней, загадаўшы аднаму паўстанцу рабіць так, каб тыя зрэдку гігаталі. Астатнія пайшлі ў карчму, узялі ў карчмара ўсе вёдры «паіць коней» і пачалі цягаць ваду са студні ў лес. За палову гадзіны перанеслі каля трохсот вёдраў і вылілі ваду пад дрэвы. Пасля пайшлі далей. Знясіленыя паўстанцы бурчалі на свайго камандзіра, але той ведаў людзей і ведаў, што робіць...

Карная частка спынілася ля карчмы. Афіцэр спытаў, ці не было тут «мяцежнікаў».

— Былі, паночку, коней паілі.

Ужо гэта было нязвыкла: паіць коней, калі табе наступаюць на пяты. Значыць, не баяцца.

— Доўга паілі?

— Доўга. Трыста вёдраў аднеслі ў лес.

Арыфметыка была простая. Вядро на каня, бо рабілася ўсё ж наспех. Значыць, трыста шабляў, стрэльбаў або нават і проста кос. Афіцэр адмовіўся ад пагоні.

Іх аддзяляла тады ад паўстанцаў дзве вярсты, бо коні тых ледзь ішлі... Атрад уліўся ў большы і доўга яшчэ мужна ваяваў.

Або яшчэ. Падчас Айчыннай вайны ў некаторых нашых акупіраваных месцах асірацелыя дзеці арганізоўвалі нешта накшталт арцеляў па нападу. Звалі іх «вераб'і». Чалавек пяцьдзесят дзяцей наляталі на нямецкую машыну, што стаяла недзе ля казар-

мы ці штаба (мелі ўжо вопыт, ведалі, у якой ежа, цыгарэты або абмундзіраванне), хапалі груз і разбягаліся. Ёсць у вартавых крыху сумлення — стрэляць у паветра. Няма — нехта застанецца на зямлі, затое астатнія тыдзень-другі, мяняючы, будуць мець хлеб. «Вераб'ёў» разбіралі па хатах, бралі ў атрады, але іх было дужа многа. І, акрамя таго, у іх быў свой «прафесіянальны» гонар: не браць у сваіх, якія таксама галадалі. І вось адзін мой знаёмы з Рагачова, даўно ўжо дарослы чалавек, расказаў мне, як ён, дзейнічаючы ў той дзень як «вольны паляўнічы-адзіночка» прыгледзеўся да нямецкага шпіталя. Рагачоў не меў буйных прадпрыемстваў, яго не бамбілі, і таму немцы размясцілі ў ім шпіталь для сваіх «асаў». Хлопчык заўважыў, што як толькі настае гадзіна абеду, то ўсе санітары, сёстры, дактары ідуць у сталоўку. Пунктуальнасць нарадзілася раней за немца. І вось падлетак падчас абеду проста ўзяў ды спакойна зайшоў у шпіталь. Адчыніў дзверы — палата на аднаго. Ляжыць «распяты», падвешаны на вяроўках з грузамі, афіцэр (пазней выявілася, што гэта быў палкоўнік, адзін з лепшых асаў імперыі). Пэўна, косткі пераламаў, упаўшы з самалётам, знайшоўся ас і на яго. «Ага, значыць не пагоніцца». А на стале перад ім — багацце. Тады «верабей» узяў і склаў у запазуху і ў кошычак, у якім, відаць, палкоўніку гэта і прынеслі, шэсць каробак шакаладу, некалькі бутэлек каньяку, лікёру і віна, дваццаць пачак цыгарэт. Забяспечыў, словам, сабе хлеб на месяц-другі (бо карміў яшчэ й цалкам бездапаможнага дзеда). Немец спачатку глядзеў на гэта з поўным непаразуменнем, а пасля нешта абурана загергетаў. Тады хлопчык вы салапіў язык, закруціў вачыма, як паміраючая каза, і адказаў:

— Бэ-бэ-бэ-бэ.

І выйшаў. Трывога паднялася праз палову гадзіны, калі скончыўся абед. Як бачыце, гумар не пакідае беларуса нават у самых страшных абставінах. І правільна. Іначай жа — бывалі часы — хоць вешайся ад такога жыцця.

Беларус — вялікі аматар пажартаваць над суседам, але яшчэ больш над самім сабой. Ён назіральны і таму падмячае тыповыя рысы характару людзей. Гэта ў беларускім асяроддзі (сведчанне этнографа

Красава) нарадзіўся славуты анекдот пра размову трох украінцаў. Адзін расказваў пра гарадскі мост, зроблены «без їдного цв'яшка». Другі страшэнна здзіўляўся. «Без їдного?», «Без їдного», «І воли їздять?», «І воли», «І машини?» «І машини», «І начальство дозволяе?» «І начальство». Трэці, які маўчаў, паківаў галавою і сказаў задуменна: «Отак і людина, живе-живе, тай вмре».

Напрыклад, ішоў селянін лесам і ўбачыў, што маланкі нешта б'юць з неба толькі ў адзін корч. Падышоў, прыгледзеўся, аж гэта бог ваюе з чортам і нічога яму не можа зрабіць. Пальне, а той высунецца, і ў неба — дулю. Мужык вырашыў памагчы. Зарадзіў стрэльбу срэбнай, на нячысціка, куляй і забіў чорта на месцы. Тут з неба голас: «Бэндзеш свенты». Бедалага аж за галаву схапіўся: «Бож-жа ж мой, і там палякі!»

...Гэтая рыса здавалася б маласімпатычнай, каб не тое, што над сваімі недахопамі, увогуле над сабой, беларус жартуе куды больш з'едліва і злосна.

Вось начальнік скручвае свякроўцы, што прыйшла скардзіцца на нявестку, з аднаго кулака аж дзве хвігі: «Няхай пасмее па маіх хвігах ударыць. Але помні сабе, што калі па гэтых хвігах ударыць, то падавай у суд, а як раскруціш пальцы ды сама зложыш, то няхай сабе ізноў таўчэ табе пальцы,— я бараніць не буду». І вось баба гэтымі «важнымі хвігамі» тэрарызуе хату і вёску.

Вось чалавек прыйшоў у Вільню, ідзе па мосце і бачыць, што два падлеткі дзеляць на ім чубы.

— Што вам за ліха? Чаго вам не хапае?

— Б'ёмся, праўда, але за цябе. Гэты гіцаль кажа, што ў цябе шэсць пальцаў на назе, а я кажу, што пяць.

— Пакіньце, дзетачкі, бо ў мяне папраўдзе пяць.

— Не, мы так табе, дзядзька, веры не дамо: скінь боты і пакажы.

— Добра, хлопчыкі, супакойцеся.

Пералічылі — пяць.

— Ага, а чаму ж ты, дзядзька, паказаў нам толькі правую нагу? А на левай дык, пэўна,— шэсць пальцаў.

А, хай ім. Разуў і левую. Ну і ясна, не было ўжо каму тых пальцаў лічыць, але й на пальцы не было

чаго нацягнуць. Мараль: «Хітры наш брат, як чорт, але і дурны, як варона».

...Па агульным назіранні беларусам прыродна ўласцівая павага да іншых народаў і памяркоўнасць да таго, хто думае іначай. Бываюць, вядома, сумныя выключэнні, але гэта сапраўды толькі выключэнні.

...Сям'я. І тут не буду гаварыць сам, а звярнуся да той жа «Расіі» (стар. 193):

«...отношения мужа и жены в белорусской семье представляют мало примеров... грубого обращения. В случае взаимных споров народный суд (гэта значыць вясковы суд, суд грамады.— *У. К.*) чаще становится на сторону жены и строже относится к мужу. Даже народные песни говорят только о страданиях жены, выносимых ею от мужа-пьяницы, но в них трудно найти мотивы, в которых воспевалось бы горе жены вследствие ее подчиненного положения».

І гэта так. У гэтым сэнсе змянілася хіба тое, што жанчына цяпер не залежыць толькі ад прыроднай дабрыні і нязлоснасці мужчыны-беларуса, што яна роўная, што на баку яе савецкі закон, што «ты не лайся, дзядзя, пры савецкай уладзе».

Сямейныя адносіны вельмі прыкрашае той самы нязлосны, дужа ўласцівы нашаму чалавеку гумар. Вось сямейнае жыццё ў прыказках. Хлопец доўга ходзіць халасты: «Тады Юзік ажэніцца, як лысы вол ацеліцца...» Але вось «Юзік» закахаўся. І хаця Янка Купала трапна сказаў:

На беларускую дзяўчыну,
Калі тут праўду ёй аддаць,
Ніхто йшчэ каменем не кінуў
І не наважыцца кідаць.

Але і тут сур'ёзнасць справы хаваюць за ўлюбёнай іроніяй: «Улюбіўся, як чорт у сухую грушу», «У каханкі смаляныя лаўкі» (г. зн. прыйшоў і сеў, як прыліп, і сядзіць ледзь не да раніцы). Іранізуюць і з маці: «Матка дачку хваліла, пакуль з рук не звaліла», і з жаніха: «Жаніся, больш старцоў (жабракоў) будзе», або «Ды што з тваёй Ганкай, хіба дзятлоў разводзіць» (намёк, што нібыта ў нявесты доўгі нос). Ну і, ясна ж, з нявесты: «Дзеля дроў замуж пайшла», «Дзеўкаю — поўная вуліца, а жонкай — поўная печ». Маладое пакаленне таксама не застаецца ў даўгу:

«Горкая рэдзька, ды ядуць, кепска замужам, ды ідуць». Скажуць ім: «Ды ён жа ў цябе з лапаць», а ім адкажуць: «Няхай сабе гаспадар з лапаць, абы за ім не плакаць».

Пажаніліся. І тут рэдка гавораць аб гэтым пры чужых усур'ёз: «Ані лыжкі, ані міскі, а павесіў тры калыскі», «Што, браце, не жаніўся — цяры анучы, ажаніўся — цяры анучы» (бо ўсё адно брудныя). Часам нават у літаратуру ўдаюцца, Багдановіча цытуюць:

Як пачаў ён параю
        З мушкай жыць —
Давялося беднаму
        Патужыць.
Не ўмее мушачка
        Працаваць,
Толькі ўмее з хлопцамі
        Жартаваць;
Ані выткаць кросенкі,
        Ані шыць,
Ані стравы хараша
        Наварыць.
Паштурхаў камарычак
        Галаву:
«Як я з гэткай жонкаю
        Пражыву?
Дзе я вочы, брацікі,
        Меў свае,
Як сабе за жоначку
        Браў яе?»

Могуць выдумаць і зусім недарэчнае. Вось чуты мною расказ аднаго веселуна пра дужа харошую, дружную, працавітую сям'ю:

«Янка з Яўгінняю дужа добра жывуць. Дзеўкаю была, то выйдзе на вуліцу — за кулакамі свету не відаць, а цяпер зойдзеш у хату, то не відаць і ў хаце. Ну, я вам скажу, мужчынкі, і ў дзецях ім шчасце. Аднойчы вось так б'юцца, матка малодшага на дапамогу кліча, а старэйшы яго трымае, угаворвае: «Кінь, хай б'юцца. Мы з табой браты родныя, а яны — чэрці зводныя». Старэйшы дык увогуле малайчына. У яго адна песня: «Бацька няхай едзе араць: яго коні знаюць, а я пайду ў карчму: мяне там чакаюць». Адзін раз выцягнуў усё ж абодвух касіць. Ідуць. Канава, вадою налітая. Вось, Іван, Яначка наш разагнаўся і — цыб! — пераскочыў. Тады малодшы гаворыць: «Глянь ты, бацька наш яшчэ які! Стары — стары, а

скача, як сабака». Тут старэйшы абурыўся: «Ты што гэта? Ты як гэта на роднага бацьку? Ну скочыў і скочыў. Ну скочыў, ну і чорт з ім».

«Мужчынкі», што слухаюць веселуна, рагочуць. Тут жа сядзіць сам Яначка, любы Іван, і пахмыквае. З жонкаю лад. Старэйшаму пятнаццаць гадоў, малодшаму дзесяць. Чаму не паслухаць, як менціць языком чалавек?

...Дзяцей увогуле найлепей, як найболей. «З дзеткамі гора толькі да зацiркі, а там — пайшло» (гэта значыць, пакуль сам не пачне есці), «Адзін сын — не сын, два сыны — паўсына, а толькі тры сыны — сын». Таму і люляюць дзяцей прыказкай: «А-а-а, малое, пакуль будзе другое, а-а-а, Несцерка, пакуль будзе шэсцерка». Таму і гавораць: «Адзін рукаў — і той падзяру для сваіх дзяцей». «Дарага не так татава хата, як сам тата».

Біць дзяцей — апошняя справа. «Не біце вяроўкамі, навучайце гаворкамі, не біце дубцамі, навучайце слаўцамі». А ўжо як здарылася нешта з дарослым сынам, то існуе і такое «суцяшэнне»: «Тады трэба было біць, як упоперак лаўкі мог легчы, а цяпер што ж зробіш, калі дарослую доўбню і ўздоўж не пакладзеш». І як апошняе: «Калі не слухаеш бацькоў, паслухаеш сабачае скуры» (сабачаю скураю за Мікалаем І, калі салдацкая служба цягнулася 25 год, абцягвалі барабаны, так што сэнс пагрозы цалкам зразумелы).

Пра дзяцей ёсць вельмі добрая легенда. Жанчына некалі паскардзілася вялікаму чараўніку, што рукі адвальваюцца: дзеці да году не ходзяць, цяляты, ягняты, жарабяты. Усіх на руках насі. Той узяўся памагчы. Кінуў цераз высокі плот жарабя — пабегла, цяля — таксама, ягня — і яно пабегла. «Ну, кажа, давай дзіця». Матка абурылася: «Эге, так я табе і дам дзіця цераз высокі плот кідаць».— «Ну то тады і насі...»

Ёсць, вядома, і іншыя прыказкі: «На нявестку сем год грады брэшуць», «Прымак пятнаццаць гадоў цёшчынага ката на «вы» заве», але значна больш такіх: «За добрым гаспадаром і варона жона, а за кепскім і княгіня загіне», «Злодзей абкрадзе — сцены астануцца, а жонка памрэ — усё з двара звязе». «З кім жыць — таго не гнявіць», «Не дай доля два

разы жаніцца і два разы будавацца», «Не піў, не еў бы, ды на жонку глядзеў бы». І, урэшце, апошняя: «Мілая ты мая, ты на той свет, і я ўслед».

...А тое, што часам старыя бурчаць: «Як правіў бацька, то каты лазілі, як паправіў сын, то і сабакі сталі лазіць» — гэта ўсё жарт.

* * *

Рэаліст у рэальным жыцці, беларус вялікі фантаст, рамантык і летуценнік у марах. Ясна, што цяпер ужо ніхто не верыць у вадзянікаў, лесуноў, лазнікаў і ўсё такое іншае, але раней верылі. І расказвалі такія рэчы ў чаўне на рыбалцы або на начлезе ля вогнішча, што дыбарам уставалі валасы. І пра ваўкалакаў-абертняў, што бегаюць з ваўкамі, і пра тое, як на «дзяды» (дзень памінання продкаў) можна ўбачыць усіх продкаў, аж да Адама, калі два дні не есці і не гаварыць з людзьмі (іронія, праўда, ёсць і тут, бо адзін бачыў іх і, у прыватнасці, свайго «святога жыцця нябожчыка-дзядзьку», які лез праз трубу, а яго не пускала ўкрадзеная пры жыцці барана,— «і папу не выспавядаўся»,— то пляменнік зарагатаў — і ўсё, яны зніклі).

Менавіта таму запісаныя фальклярыстамі беларускія казкі не ўлезлі б і ў сотню тамоў. І, прычым, такія казкі, якія пачасту не маюць адпаведных сюжэтаў у суседзяў. Вось, напрыклад, адна, што адказвае на пытанне, чаму верабей скача адразу дзвюма нагамі, чаму ў савы рознакаляровае пер'е і чаму ледзь толькі птушкі ўбачаць тую саву, дык адразу навальваюцца на яе ўсёй хеўрай і тое пер'е з яе скубуць.

Праштрафіўся верабей. Усе птушкі пагналіся за ім і загналі ў дупло. Але той быў такі хітры, што выбраў дзірку ў дупле якраз па сабе: большы за яго не ўлезе, а меншы калі ўлезе — ён яго выкіне. Вырашылі браць яго, як моцную крэпасць, на змор. Чакалі-чакалі, аж настала ноч і ўсе захацелі спаць. Каго пакінуць на варце? Ясна каго, саву. Яна ўначы не спіць. А сава была ў той час голая, як абшчыканая курыца. Ну і паставіла сваю ўмову: «Усе ў пер'ях, то чаго я маю голая хадзіць? Скідайцеся па перыйку». Ну, усе і скінуліся. Адзін шэрае пер'е даў, другі — рудае, трэці — белае ці карычневае. Стала сава, як і ўсе, толькі што пер'е дужа рознае. Сядзела яна ўсю

ноч, сядзела. А раніцай птушкі заспалі, і яна, начная істота, пачала куняць. Верабей вылез і ўцёк... Урэшце яго ўсё ж спаймалі. І, у знак пакарання, звязалі ногі. Вось ён цяпер і скача адразу дзвюма. А птушкі, як толькі ўбачаць саву, дык адразу кожная сваё пяро дзярэ з яе. З гвалтам: «Аддай мае перыйкі, бо няма чаго было браць, калі ўсцерагчы не магла».

...Гэта казка жартоўная, а ёсць тысячы фантастычных. Як змей абвіўся вакол горада, як хадзіў па свеце каток — залаты лабок, як хітры селянін абпаіў півам чорта і адабраў у яго душы добрых людзей, як зачараваны змяіны кароль пакахаў дзяўчыну... Усіх казак не назавеш, не пералічыш. Іх — безліч! Запісаныя Е. Раманавым, П. Шэйнам, М. Федароўскім, А. Сержпутоўскім — яны і дагэтуль складаюць неацэнны наш скарб, тым больш вялікі, што яны былі народу замест кнігі ў тыя часы, калі кніга беларуская, нават мова беларуская былі забаронены. І тады толькі казка вяла дзяцей у далёкі край, «за сем гор і мораў, трошкі бліжэй ад сонца і трошкі далей ад месяца».

# КАМЯНІЦЫ, І ГМАХІ, І ВЕЖЫ

## ГОРАД НА НЯМІЗЕ

Пра многае мы так і не здолелі сказаць. Пра некаторыя абрады, пра вогнішчы Купалля, пра кветку папараці, якая цвіце ў чароўную тую ноч, прыносячы людзям шчасце. Пра тое, як недзе ў сакавіку моладзь з курганоў і ўзгоркаў «гукае вясну». Ды пра гэта й досыць. Гэта ўсё было ў «свой час», у час «прадзены, тканы». Цяпер трэба гаварыць пра новыя часы. Нягледзячы на тое, што на Беларусі і зараз ледзь не самы вялікі ў СССР працэнт сельскага насельніцтва — павялічваецца няўхільна колькасць гараджан, растуць гарады, фабрыкі, заводы. Пра іх мы зараз і паспрабуем гаварыць. І загадзя намецім сабе межы, бо пра ўсё не скажаш. Ясна, трэба сказаць пра сталіцу, пра абласныя гарады, а далей... далей пра тое, пра што хочацца, пра тыя гарадкі

і мястэчкі, якія найлепей ведаеш і найбольш любіш

...Мінск. Горад-герой. Самы буйны з гарадоў Беларусі. Звыш мільёна насельніцтва. Горад і вобласць даюць 26 працэнтаў усёй прамысловай прадукцыі рэспублікі. Гэта машынабудаванне, хімія, лёгкая і харчовая прамысловасць.

Гораду больш за 900 год. Адзін з самых ранніх успамінаў аб ім — радкі са «Слова аб палку Ігаравым»: «На Нямізе снапы сцелюць галовамі, малоцяць чапамі харалужнымі, на таку жыццё кладуць, веюць душу ад цела». Крывавыя берагі Нямігі даўно забраныя ў падземную трубу. Засталася толькі старая гандлёвая назва горада «Мінск», а ў даўніну «Менеск», «Менск», ад слова «мена», «мяняць». І дужа мала гісторыі. Таму што ў гады апошняй вайны Мінск быў знішчаны ледзь не на сто працэнтаў, пушчан дымам і попелам. У адрозненне, скажам, ад Суздаля або Кіева тут можна паказаць цікаўнаму турысту толькі некалькі старых будынкаў і храмаў XVII—XVIII стагоддзяў ды некалькі будынкаў эпохі класіцызму. Па беларускую старажытнасць трэба выязджаць далей, на правінцыю.

Гмахі вялізных каменных будынкаў, узятыя ў граніт берагі Свіслачы, на ёй у межах Мінска створана вадасховішча — Камсамольскае возера, паркі, бульвары, сады. І, у самым цэнтры, невялічкі драўляны дамок. Гэта музей І з'езда РСДРП, які адбыўся тут ў 1898 годзе. Значэнне гэтага з'езда, які заснаваў РСДРП, ясна ўсім. Тут нарадзілася самае імя той сілы, якая сямю гадамі пазней вылілася ў рэвалюцыю 1905 года, а ў 1917 годзе, праз дзевятнаццаць год, зрынула царызм, той сілы, якая стварыла дзяржаву, у якой мы зараз жывём.

СССР.

БССР.

За нейкіх сто метраў ад гэтага дома — плошча Перамогі з абеліскам у гонар воінаў Савецкай Арміі і беларускіх партызан, з Вечным агнём ля яго.

Мінск займае тэрыторыю ў 143 квадратных кіламетры, куды больш чым да вайны, ужо не кажучы пра дарэвалюцыйны час. Можна прывесці такі прыклад. Месца расстрэлу паўстанцаў 1863—1864 гг. знаходзілася за горадам. Цяпер гэта раён галоўнага паштамта. Менавіта тут зазюля кукавала «гады, якіх

не будзе», аднаму з кіраўнікоў бунту, Міхалу Цюнне дзявіцкаму. Тут сялянскія дзяўчаткі клалі кветкі на яго магілу.

Сённяшні Мінск — гэта, перш за ўсё, машыны. Наша сталіца — адзін з буйнейшых у СССР цэнтраў машынабудавання.

А, між іншым, досыць лёгка ўявіць сабе дзевяностагадовага старога, мінчаніна, які (і гэта толькі калі мы дапусцім, што ён жыў у цэнтры, а не на ўскраіне) не мог нарадзіцца ў радзільным доме (першы такі дом заснаваны ў 1895 годзе, калі нашаму «герою» было 19 год); які ўпершыню ўбачыў тэлефон у 14 год, які ўпершыню праехаўся на концы па цэнтральнай вуліцы горада ў 16 год. А вуліцай гэтай была Захар'еўская, цяпер Ленінскі праспект. У гарадскі тэатр (цяпер у гэтым перабудаваным будынку Беларускі акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) ён пайшоў з бацькамі на адкрыццё, чатырнаццацігадовым хлопчыкам, і першыя пяць год, пакуль не пусцілі першую электрастанцыю, глядзеў спектаклі пры свечках.

Дзівам здавалася яму конка (тройка, што цягне па рэйках вагончыкі), яшчэ большым — пушчаны ў 1929 годзе трамвай.

Ці мог ён прадбачыць тады, які ён будзе, сённяшні Мінск?

300 трактараў кожны дзень, славутыя самазвалы-«зубры», матацыклы, матоты, веласіпеды, радыёпрыёмнікі, тэлевізары, падшыпнікі, станкі, дый ці мала яшчэ чаго. Звыш мільёна гадзіннікаў штогод, звыш 1500 тэлевізараў і прыёмнікаў у дзень. Абутковыя фабрыкі за год абуваюць 10 млн. чалавек.

Чатыры пятых шарсцяных тканін, больш як трэць скуранога абутку рэспублікі. Гэта што датычыцца лёгкай прамысловасці. А будаўнічая прамысловасць з заводамі — гіпсавым і фарфора-фаянсавым, з чатырма заводамі буйнога домабудавання, з двума цагельнымі і двума асфальтабетоннымі заводамі.

Дзевяностагадовы мінчанін, што сядзеў пры свечцы... Зараз праектная магутнасць толькі адной ЦЭЦ-4 — 900 тысяч кілават. Ты, што здзіўляўся концы. Зараз у Мінску даўжыня ліній трамвайных складае 57,6 км, тралейбусных — 136,7 км, аўтобусных — 399,5 км.

Дужа развітая харчовая прамысловасць. Разна-

стайная. Скажу адно. Паколькі вы, асабліва дзяўчаты, любіце цукеркі, то хай вам будзе вядома, што мінскую кандытарскую прамысловасць шмат хто лічыць добрай.

Хочаце скончыць ВНУ? Калі ласка, да нас. У Мінску шмат інстытутаў. Ва універсітэце больш як 10 тыс. студэнтаў. Велізарная бібліятэка імя Леніна, шмат тэатраў і музеяў. Аднаго няма: балета на лёдзе. Нічога, будзе і ён, тым больш што летні лёд ёсць заўсёды. У выключна багатым і прыгожым Палацы спорту.

Акадэмія. Кінастудыя «Беларусьфільм». Выдавецтвы. Паліграфічная база адна з лепшых у Савецкім Саюзе (вы самі, мабыць, заўважылі, што наша Беларусь дужа любіць прыгожа выдадзеныя кніжкі, якія не толькі прачытаць прыемна, але і ў руках патрымаць хораша, як твор мастацтва: многія з беларускіх кніг штогод здабываюць прызы за афармленне на савецкіх і міжнародных кніжных выстаўках).

Мінск — горад зяляніны. Той, хто памятае яго адразу пасля вайны, можа сказаць вам, што ў тыя часы нельга было паверыць у зялёнае мора на яго вуліцах, на яго плошчах, у яго дварах.

А пасля пачалі прывозіць і высаджваць на яшчэ не зусім расчышчаных вуліцах саракагадовыя ліпы, насыпалі, гацілі мокры бераг Свіслачы, на якім зараз шуміць парк і стаіць бронзавы Купала.

Як пракладалі дзіцячую чыгунку па ўскраіне парку Чалюскінцаў, як беглі ў цяні хвояў першыя зялёныя вагоны.

І якім дзівосным стаў наш Мінскі батанічны сад з яго разнастайнасцю дрэў, хмызоў, кветак, з лебедзямі на сажалках.

І, вядома, старажытны парк імя Горкага з атракцыёнамі, планетарыем і ўсім такім у самым цэнтры горада. Для дзяцей. І дзіцячыя тэатры, у тым ліку тэатр лялек.

Не буду нічога вам казаць, калі вы не мінчане, пра цэнтральную вуліцу, Ленінскі праспект даўжынёю ў восем кіламетраў, шырынёю ў пяцьдзесят метраў, пра цудоўныя яго будынкі — прыедзеце, убачыце самі.

Праедзьце па ім. Ад плошчы Леніна з Домам урада і помнікам заснавальніку нашай дзяржавы, праз

Цэнтральную плошчу, дзе авее вас прахалодай са скверыка Янкі Купалы і дзе ўбаку вы ўбачыце тэатр яго імя, гмах ЦК і танк, помнік танкістам, што пер-шыя ўварваліся ў Мінск у ліпені 1944 года. А пасля тралейбус прамчыць вас паўз Свіслач (глядзіце, вунь, злева домік I з'езда), абкружыць ля абеліска Пера-могі. І далей, далей. Ля бронзавага задуменнага Ко-ласа між маладзенькіх бярозак, ля філармоніі. Міма Батанічнага саду і цёмна-хваёвага парку Чалюскін-цаў, дзіцячай чыгункі, кінастудыі. Аж да шырокай шашы, якая бяжыць між лясоў і ўзгоркаў да самай Масквы.

Мінск у вайну змагаўся гераічна. Мінск гераічна ўставаў пасля вайны з попелу. Гораду-герою нале-жыць быць прыўкрасным. І ён прыўкрасны. У кожны час дня і ночы, у кожную пару года. А будзе яшчэ лепшы. І на гэтым пакуль скончым пра Мінск.

Зараз мінскім дзецям ёсць дзе плаваць і з аквалан-гам, і на чаўне, і так. Чатыры вялікія вадасховішчы. Адно з іх, Заслаўскае, на 3400 га, зараз перада мною. Вецер, і па вадзе гуляюць белыя баранчыкі. Нахабна гарлаюць чайкі. Чаўны з рыбаловамі прыткнуліся да шматлікіх зялёных астравоў. І унь, ля самага вобрыю, белыя ветразі. Ідуць гонкі яхтаў.

## ПОЛАЦКІЯ ФРЭСКІ

...Пойдзем далей. Хай не крыўдуюць абласныя гарады, але раней за іх успомнім горад, які заслу-жыў гэтага паважным векам, хай сабе і ходзіць зараз у раённых цэнтрах. Гэта Полацк. У 1962 годзе ён святкаваў сваё 1100-годдзе. Мне даводзілася бываць у ім шмат разоў, але паездка сюды ў сакавіку 1971 года запомнілася асабліва дзякуючы аднаму выпад-ку, які нібы афарбаваў для мяне — і назаўсёды — усе стагоддзі, што прайшлі над гэтымі мурамі.

Уздзьмуты, аж сіні, лёд на Дзвіне. Маленькаю Палотаю плыве на гэты лёд празрыстая, яшчэ снега-вая вада. Над зліццём дзвюх рэк, на замчышчы, белы, з дзвюма званіцамі, сілуэт сабора. Полацкая Сафія. Сястра Кіеўскай і Ноўгарадскай. XI стагоддзе. Моц-на, што, праўда, перабудаваная ў часы уніі. І вось, урэшце, зараз узяліся за святую справу рэстаўрацыі набытку продкаў. Выяўляюць гісторыка-архіўны,

графічны матэрыял, удакладняюць межы старажытнай кладкі, даследуюць сутарэнні. Многае змянілася, за стагоддзі нарасло зямлі, храм нібы «асеў». У склепах ягоных была ў свой час адна з найлепшых нашых старажытных бібліятэк. Яе спалілі ў свой час езуіты. Дзіўна! Якімі б метадамі яны ні карысталіся, як бы мы тыя метады ні ненавідзелі — манахі гэтага ордэна былі аднымі з самых адукаваных людзей сярэдневякоўя. Прафесія абавязвала. Пазней, калі палаў іхні Пінскі калегіум, у агні згарэлі дзесяткі тысяч кніг. «Ніколі не наклікай агонь на чужое — адгукнецца й на тваім».

...І вось сядзяць у прыдзеле сабора, дзе паліцца «буржуйка», два чалавекі ў ватоўках, ды я з прыяцелем. Адзін з тых, каго засталі, брыгадзір. Здорава «паднацягаўся» ў археалагічных і будаўнічых тэрмінах, аперыруе імі вольна і з шыкам. І расчышчаем мы старую плінфу, тонкую, сантыметры ў чатыры, цаглíну памерам прыблізна 35×25 см. І на ёй раптам выступаюць невядомыя значкі, адзін у выглядзе нейкай жывёлы (сабакі?), рысачкі (можа, азначаюць колькасць соцень гэтай самай цэглы?) і выразны надпіс, нібы голас, што яўна і ясна даляцеў з далёкіх вякоў A αβφ θ N√ Я — авфони. І нават ясна, што быў не дужа пісьменны, хацеў сваё імя пісаць праз «ферт» (Ф), а тут ці сам успомніў, ці яму сказалі, што імя грэчаскага паходжання і пісаць трэба яго цераз «фіту» ( θ ). То ён і «ферта» не дапісаў. І даляцеў яго жывы голас да мяне, звычайнага чалавека, і я зразумеў яго на хвіліну, хаця дзевяць стагоддзяў прагрукатала па ягоных, даўно спарахнелых касцях.

А непадалёк спаруда XII стагоддзя — славуты сабор Спас-Ефрасінні з прыгожымі старажытнымі фрэскамі.

Калі сонца праз невялікія вокны трапляе ўнутр сабора, гэтыя фрэскі загараюцца бляклай чырванню і ржавым золатам. Нібы праз залацíста-карычневую празрыстую ваду лясных рэк глядзяць на вас нечалавеча вялікія задумлівыя вочы вашых продкаў.

А выйдзеш, пяройдзеш кладкамі цераз рэчку — вада, зялёныя шаты дрэў і сярод шатаў — ён. Дужа падобны на праслаўлены ва ўсім свеце Пакроў на Нерлі. І як той, улетку гожа адбіваецца ў вадзе сваімі бялюткімі мурамі.

І ўсё тут стаіць на старажытнасці. Упарадкоўваюць вуліцу Карла Маркса — пад асфальтам, зямлёй, бярвеннямі адкрываюць вянцы старажытнага зруба, шахматную фігурку з косці або складзень. На беразе Дзвіны — стары калегіум, у мурах якога калісьці жыў і працаваў Сімяон Полацкі, заснавальнік рускага вершаскладання.

Гэтыя словы так і заставаліся словамі, пакуль некалькі год назад не адкрылі многіх і многіх вершаў Полацкага, напісаных па-старабеларуску...

У Полацку, куды раней за Сімяона, пачынаў сваё жыццё і першадрукар усходніх славян Францішак Скарына; яму нядаўна пастаўлены тут цудоўны помнік.

Ясна, што сівая даўніна — галоўнае, на чым стаіць гэты горад. Але яе не кожны адразу заўважыць. Затое адразу кінуцца ў вочы навічку шырокія зялёныя вуліцы, новыя дамы, карпусы завода шкловалакна і іншых шматлікіх заводаў (камбінат будаўнічых матэрыялаў, аўтарамонтны, ліцейна-механічны, жалезабетонных і пластмасавых вырабаў), будынкі клубаў і кінатэатраў, дамоў фізкультуры і розных навуковых устаноў.

А калі праплысці 20 кіламетраў ніжэй па Дзвіне — трапіш у горад Наваполацк, які куды маладзейшы за свайго старога брата. Плошчы, высокія будынкі, паркі, бібліятэкі, кіно.

І, вядома, магутны Полацкі нафтаперапрацоўчы.

Уначы — гэта зыркае зарыва агнёў. Удзень — многія і многія дзесяткі спаруд, ад установак атмасферна-вакуумнай трубчаткі да цэха змешвання і апрацоўкі поліэтылену (гэта ўжо на хімічным камбінаце, які таксама знаходзіцца ў Наваполацку і вырабляе поліэтылен, нітрон і г. д.).

Нафтаперапрацоўчы дае краіне (гэта толькі асноўная прадукцыя, а ўвогуле тут 46 відаў вырабаў) дызельнае паліва, высокаактанавыя бензіны для аўтамашын, мазут, змазачныя маслы, бітум для дарог.

А вакол лясы з дамамі адпачынку і піянерскімі лагерамі. А побач бяжыць і бяжыць Дзвіна. Тая самая, што абмывае ўзвышша Сафіі.

...Пачнём з горада, які мала чым саступае ва ўзросце Полацку і цяпер абласны цэнтр. Віцебск. У 1974 годзе яму стукнула 1000 год.

Мне давялося пабываць на свяце тысячагоддзя. І рэдка мне яшчэ даводзілася бачыць падобную феерыю. Вянкі ля помнікаў, ідуць праз плошчу Леніна тысячы людзей, праязджаюць даўнія воіны і чырвонаармейцы грамадзянскай. Паўсюль танцы і песні, паўсюль карнавал з дзівоснымі жывёламі, з героямі народных казак. А ўвечары на Дзвіне — воднае свята ў мячах пражэктараў. Вось падплывае ладдзя пад ветразем і выходзіць на бераг заснавальніца, княгіня Вольга, вось плывуць яшчэ караблі, плыве «Аўрора». А пасля на ўсё гэта, як тысячы рознакаляровых знічак, падаюць зоры ракет.

Свята мастацтва, свята агню, песні, выдумкі, таленту, свята майстроў, бо Віцебск — месца майстроў. Я ганаруся, што ў маёй «Кнізе працоўнага ўкладу» таксама занесена пару слоў аб працы на карысць горада і тысячагоддзя.

Горад майстроў, горад-гісторыя. Вечная крэпасць, вечны фарпост на шляху заваёўнікаў. Важны гандлёвы пункт на шляху «з варaг у грэкі». Вялікі культурны цэнтр. Нездарма ў ім знойдзена так многа старажытных берасцяных грамат і надпісных праслiцаў.

Жыхары Віцебска славіліся ўпартай мужнасцю і ваяўнічасцю. Удзельнічалі яны ў бітве на Няве, на Чудскім возеры, грамілі крыжаносцаў у Юр'еве, шмат разоў паўставалі супраць сваіх феадалаў. Вызначаліся яны і страсцю да мастацтва, жывапісу, разьбярства. Яшчэ і зараз па глухіх мясцінах Віцебскай зямлі можна бачыць цудоўнай старой работы абразы і статуі. Менавіта тут зарадзілася сярод усходніх славян майстэрства рэльефнай, шматкаляровай кафлі (так званая «цанінная справа»). Беларускія даўнія майстры неслі яе і да суседзяў. Так, майстра Ігнат сын Максімаў з Копысі разам з сябрам Сцяпанам, сынам Іванавым з Мсціслаўля прынеслі гэтую тонкую штуку нават у Маскву, дзе яны і пабудавалі, упрыгожыўшы цанінаю, такія шэдэўры, як нябесна-сіні Круціцкі церамок, некаторыя крамлёўскія палацы, будынкі ў Тройца-Сер-

гіеўскай лаўры і сабор Нова-Ерусалімскага манастыра.

Віцебск і зараз — месца майстроў. У яго майстравітыя, спрытныя рукі. Гэтыя рукі робяць станкі (высокадакладныя зубаапрацоўчыя, што экспартуюцца ў 11 краін, бясцэнтрава-шліфавальныя высокай і асабліва высокай дакладнасці; заточныя станкі з паўаўтаматычным цыклам работы), радыёдэталі, электравымяральныя прылады.

На першым месцы стаіць у Віцебску лёгкая прамысловасць, гэта ясна. Але хіба не абувае людзей Віцебская абутковая фабрыка або панчошна-трыкатажная фабрыка «КІМ», хіба не апранае іх швейная фабрыка «Сцяг індустрыялізацыі»? Хіба не пераліваюцца ўсімі колерамі вясёлкі ў кватэрах і хатах дываны Віцебскага дывановага камбіната?

І ўжо калі яны адзначаюцца дыпломам у Дамаску, адным з самых старажытных цэнтраў дывановага ткацтва, то гэта штосьці ды значыць.

Шмат разоў спалены, ушчэнт зруйнаваны ў апошнюю вайну. Больш чым 90 працэнтаў тэрыторыі было га горада — кучы бітай цэглы, бетону і скручанай арматуры, попел і хаос. Больш за 100 тысяч жыхароў забіта, астатнія выселены. І на гэтым страшным выгары сустракаюць наша войска… сто васемнаццаць жыхароў. Здавалася, канец. Ніколі не разабраць гэтага пекла і лепей будавацца на новым месцы.

Але зірніце на яго зараз. Устаў з попелу, як уся Беларусь.

Віцебск — гэта цяпер цалкам новы горад. Старых будынкаў засталося мала: некалькі палацаў, ратуша XVII ст. (цяпер у ёй добры гісторыка-краязнаўчы і мастацкі музей з багатай калекцыяй беларускага, рускага, заходняга і мясцовага, віцебскага жывапісу). Віцебск — горад старых мастацкіх традыцый. Працавалі тут, у прыватнасці, Ю. Пэн, М. Дабужынскі, славуты К. Малевіч, не менш славуты цяпер М. Шагал і некалькі год І. Я. Рэпін, маёнтак якога, Здраўнева, быў непадалёку ад Віцебска.

## ГОРАД МАГІЛЫ ЛЬВА

Пойдзем па старажытных волаках продкаў і перабяромся з Дзвінскай, Балтыйскай сістэмы ў сістэму рэк Чарнаморскага басейна. Паплывём уніз па Дняп-

ры і прыбудзем у Магілёў. Горад, таксама вельмі сучасны, размешчаны на правым, высокім, ярамі пасечаным беразе ракі пры ўпадзенні ў яе Дубровенкі. Гэтыя мясціны, былыя ўрочышчы, забудаваныя новымі гмахамі, носяць назвы «Машакоўка», «Дзебры». Тут і сапраўды калісь былі нетры, дзебры на мясцовым дыялекце. Легенда (выдатна апрацаваная Янкам Купалам) кажа, што жыў у гэтых нетрах вялікі разбойнік Машэка. Стаў ён гразой наваколля пасля таго, як, жадаючы зарабіць на вяселле, пагнаў на Украіну плыты, а тым часам князь сілай узяў у замак яго нявесту. Уварвацца ў замак нават такі асілак не мог. Машэка зрабіў сабе ў пушчы, пад каранямі, логава, адзеўся ў воўчыя шкуры, якія так і прысохлі на ім, і хутка ўсе перад ім трапяталі. Аднойчы яму ўдалося перастрэць вазок князя, разагнаць варту, у адзінаборстве забіць уладара, а жанчыну, што ехала з ім, прынесці да сябе. Тая, аднак, за гэты час прывыкла да раскошы і золата, збэсцілася і, калі Машэка заснуў, забіла яго нажом. Над ім насыпалі гару.

Яго высокую магілу —
Дзе лес ды вецер панаваў —
Знаць, што вялікую меў сілу,
«Магілай Льва» народ назваў.
Над ёю з часам дрэвы палі
І горад вырас, як з зямлі,
Яго Магілевам назвалі,
Бо йнакш прыдумаць не маглі.
Пры самым месцы, дзе хаваці
Людцы нябожчыкаў нясуць,
Гару з магілкамі відаці —
Яе Машэкавай завуць.

Магілёў узнік на месцы старога замка ў 1267 годзе. Гісторыя яго бурная і крывавая. Напады войск, змова з казацкімі атаманамі (1590 г.— з Мацюшкам Гультаём, у 1595 г.— з Севярынам Налівайкам). Чатыры гады бунтаваў горад на пачатку XVI ст., і пасля чатыром кіраўнікам адсеклі галовы, а набатным званам выдзерлі языкі.

На Магілёўскім падоле стаіць Мікольская царква, бліскучы ўзор беларускага барока. З ёю звязаны яшчэ адзін эпізод гісторыі. Пры ёй, у «Цярэшка, каторы проскуры заведал», жыў некаторы час у бязведамна-

сці сціплы школьны настаўнік Дзмітр Нагі. Тут зарадзілася яго «ідэя», тут ён пачаў яе выконваць і, магчыма, атрымоўваць інструктаж ад пэўных колаў і грамадзіць паплечнікаў. Каб пасля ўзляцець на адну з вяршынь зямной магутнасці пад імем цара Дзімітрыя, а пасля бясслаўна ўпасці з яе Лжэдзімітрыем II. Былі тут і шведы і іншая навалач — але пра гэта доўга, дый цяжка расказваць. У Вялікую Айчынную вайну горад дужа доўга (25 дзён, з 1-га па 26 ліпеня 1941 г.) трымаўся, быў моцна разбураны, і помнікаў старажытнасці ў ім мала.

Магілёў заўсёды славіўся сваімі майстрамі. Збраяры, ювеліры, ганчары, цаніннікі, ткачы.

Найбольш славяцца магілёўскія прадпрыемствы хімічнай прамысловасці. Гэта завод штучнага валакна (вясёлкавы шоўк, штапель, цэлафан і інш., усяго 14 відаў прадукцыі), камбінат сінтэтычнага валакна (штапельнае валакно камвольнага, шарсцяного, льняного і баваўнянага тыпу і г. д.), хімічны камбінат «Зара», завод ліфтаў, завод «Строммашына» (выпускае тэхнічнае абсталяванне для вытворчасці шыферу і мяккіх дахавых матэрыялаў, цэглы, машыны для асбеставай прамысловасці і інш.), завод электрарухавікоў, аўтамабільны завод, што выпускае цягачы, самаходныя скрэперы, самазвальныя аўтапаязды для работ пад зямлёй і аўтасамазвалы павышанай праходнасці для мясцін, дзе дарогі кепскія або іх зусім няма.

Магілёў заўсёды славіўся і культурай. З XVI ст. тут вёўся летапіс, існавалі школы. І зараз тут выхоўваюць інжынераў, настаўнікаў, тэхнікаў. Тут адзін з найлепшых беларускіх музеяў, шкада, што ў гады вайны менавіта адсюль знік славуты на ўсё славянства ювелірны выраб «Крыж Лазара Богшы» (зроблены быў у Полацку загадам вялікай беларускай асветніцы Ефрасінні Полацкай), музей народнай творчасці, шмат бібліятэк, шмат паркаў. І рака, і паплавы з ляснымі тэрасамі. Прыдняпроўе, яблычная мая радзіма.

### ГОРАД ЗЕЛЯНІНЫ І ВАДЫ

...Ніжэй у Дняпро ўпадае паўнаводны, з зялёнымі дубамі на берагах і чорнымі, моранымі, на дне — Сож. А на Сажы стаіць Гомель, які літаральна пата-

нае ў вільготных, цяністых парках, другі па велічыні беларускі горад. Горад стары (1142 г.) і дужа малады, вельмі гожы.

Бульвары, манументальныя будынкі. І вось, калі звернеш налева ад Савецкай плошчы з яе гмахам тэатра, нібы ўваходзіш за пяць крокаў у іншы клімат. Амаль двухсотгадовы (1780 г.) парк. Сто розных парод дрэў, у тым ліку пірамідальныя дубы, гінкго, коркавае дрэва і г. д. Гроты, аранжарэі, вісячыя масты над ярамі, пераўтворанымі ў лебядзіныя сажалкі. Петрапаўлаўскі сабор пачатку XIX ст., гэткі Ісакій у мініяцюры (цяпер тут планетарый), магільня графаў Паскевічаў, труба яго былога завода, пабудаваная як мінарэт, з якой адкрываецца галавакружны пейзаж. І, нарэшце, класіцыстычны палац XVIII ст. Румянцаў пабудаваў яго пасля падзелу Рэчы Паспалітай, калі Екацярына II падарыла яму значную частку Гомельшчыны... 70 залаў, аздобленых каррарскім мармурам, золатам, каштоўнымі пародамі дрэў, агатам. Тут цяпер Палац піянераў з багатай бібліятэкай, майстэрнямі і гурткамі.

У асобным крыле палаца, упрыгожаным вітражамі, была бібліятэка, якую Румянцаў пасля перавёз у Маскву. Вельмі і вельмі багатая, яна склала там падмурак будучай Румянцаўскай бібліятэкі. Цяпер гэта Дзяржаўная бібліятэка СССР імя Леніна. У 1834 годзе гомельскія землі, гомельскія пляцы і палац адышлі генерал-фельдмаршалу Паскевічу. За «перамогу» ў ганебна-гандлярскай вайне з Персіяй. Усе «трафеі» і кантрыбуцыі гэтай вайны не каштавалі аднаго жыцця А. С. Грыбаедава, які расплаціўся за мір, што ён заключыў. Паскевіч прыбудаваў да палаца каласальную чатырохкутную вежу, у якой быў музей. Кнігі, старыя рукапісы, шэдэўры жывапісу і скульптуры, фарфор, срэбра, нефрыт, бронза, антычныя рэчы. І тут жа музей персідскага паходу. Унікальны па багаццю музей часткова быў разрабаваны падчас апошняй вайны. Багаты ён і сёння, але ранейшага ўжо няма.

Гомель і раней, да рэвалюцыі, быў досыць прамысловы. Шкло, тканіны, запалкавыя фабрыкі, вытворчасць карабельнай парусіны і канатаў на Ветцы, механічныя майстэрні Лібава — Роменскай чыгункі (1200 рабочых). Папяровая фабрыка ў Добрушы (за-

снавана ў 1870 годзе, у 1914 г. працавала на ёй 1276 чалавек).

Пачатак новай індустрыі ў 1930 годзе паклаў беларускі першынец сельскагаспадарчага машынабудавання «Гомсельмаш». У фашысцкую акупацыю быў поўнасцю ператвораны ў руіны. У 1948 годзе адноўлены і цалкам рэканструяваны, насычаны самай сучаснай тэхнікай. «Гомсельмаш» — гэта сіласаўборачныя камбайны, стагакіды, сіласарэзкі.

Мне даводзілася гаварыць аб прадукцыі «Гомсельмаша» з працаўнікамі сельскай гаспадаркі. Хваляць. Але вусную пахвалу не дужа запішаш. Таму замест яе прыкладаю «паслужны спісак» гомельскіх машын. Няпоўны.

1958.— Сусветная выстаўка ў Брусселі.— Камбайн УКСК-2,6 — першая прэмія «Гран-пры» і дыплом гонару.

1966.— Міжнародная выстаўка сельскагаспадарчых машын у Маскве.— Сіласаўборачны камбайн КС-2,6 і трактарны прычэп 2ПТС-4 — залатыя медалі.

1967.— Выстаўка ў Мекленбурзе.— Камбайн КС-2,6 — залаты медаль.

Можа, і досыць.

Тут ёсць яшчэ кабельны, суднарамонтна-суднабудаўнічы (выпуск суднаў на падводных крылах), падшыпнікавы заводы і заводы трактарных пускавых рухавікоў і вымяральных прыбораў. Гомель — буйны рачны порт з прычаламі, складамі, добрай акваторыяй, сліпам для пад'ёму суднаў на бераг, добрымі пад'язднымі шляхамі. З суднаў, што прыходзяць з Украіны, тут выгружаюць соль, збожжа, метал, які ідзе ў Прыбалтыку, Ленінград, сацыялістычныя краіны і Беларусь, хутка будуць выгружаць львоўскую сыравіну для вялізнага завода суперфасфатных угнаенняў. Адсюль на Украіну пойдуць гатовыя ўгнаенні, а ўжо цяпер ідзе ўсё тое, што дае беларускі лес (сыравіна і гатовая прадукцыя) і беларуская прамысловасць. Аж да вопраткі, сусветна вядомых ільняных нашых тканін (ідуць яны і гатовыя вырабы з іх, гожа вышытыя, у іншыя рэспублікі, у сацыялістычныя краіны і ў ФРГ, Швецыю і Нарвегію).

Шмат тут усяго. Фанерна-запалкавы камбінат і

кандытарскі камбінат «Спартак», што ў дзень выпускае 100 т шакаладу, тартоў, цукерак.

Навукова-даследчы інстытут, інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту, малады універсітэт, тэхнікумы.

Цяпер давайце сядзем на «Ракету» і паімчым Сажом, Дняпром, трапім ненадоўга на Украіну, зноў вернемся на плынь беларускай часткі Прыпяці, звернем ля Пінска (да гэтага горада мы яшчэ вернемся) у Піну, пройдзем Днепра-Бугскім каналам у Мухавец і дабяромся ім да Буга пад самым Брэстам. Абганяючы цеплаходы, рудавозы, маторкі. Па Прыпяці, усё яшчэ досыць ціхай, усё яшчэ дужа рыбнай. Я аднойчы прайшоў гэты шлях. Амаль увесь на агітцеплаходзе «Маякоўскі», а пад канец і пешшу.

Ласі пераплываюць раку. Людзі з вёсак, што ляжаць ля ціхіх прыстаняў, вечарамі глядзяць фільмы, што мы ім дэманструем. Плывеш, а зялёныя гарадкі і вёскі ўтульна ляжаць на берагах, глядзяцца ў ваду дужа даўнія, шматвяковыя палацы, храмы і белыя альтанкі. Даяркі на ферме, справіўшыся з работай, спяваюць на беразе цудоўныя палескія песні, і фалькларысты нашай экспедыцыі ўпотай запісваюць іх на магнітафон. «Волга» пераганяе жанчыну ў народным уборы, на якім няма жывога месца ад вышыўкі. І на плячы ў жанчыны з бяросты плеценая «вярэнька», браць ежу ў дарогу. Пінскія велічныя муры. Ганчарныя вёскі, дзе робяць дасканалы посуд і да гэтага напаўжартам гавораць: «Наша прохвесія самая старая. Бо й Адам буў злеплены з гліны, а значыць, не хто-небудзь, а сам бог быў першы ганчар...» І канал. Кобрын з домікам Суворава і помнікам першай перамогі над Напалеонам у 1812 годзе.

## БРАМА КРАІНЫ

І вось Брэст. Брама краіны. Часам, на жаль, рэдка, у яе ўваходзілі нашы сябры, і тады іх сустракалі з беларускай гасціннасцю. Але найбольш ахвотнікаў было ўварвацца ў тую браму сілай. Сведчаннем гэтаму Камянецкая Вежа, царква-крэпасць у Чарнаўчыцах (1583—1585 гг.), у якой жыхарам часта даводзілася трымацца ў аблозе, з якой у 1941 годзе страляў цывільны беларускі чалавек па фашыстах і якая

пасля гэтага была падпалена. Ды ці мала чаго яшчэ. Гэтая зямля спрадвеку ўсыпана магіламі, курганамі, згубленай у баі зброяй. Каго тут толькі не было?! Нават готы ў другім стагоддзі ішлі тут са сваёй туманнай поўначы да Чорнага мора, а потым, калі паўдзённыя плямёны турнулі іх,— зноў каціліся на поўнач. Археолагі выкапалі ў скарбе другога стагоддзя наканечнік дзіды з рунічным надпісам: «Наперад!» А на такім жа наканечніку чацвёртага стагоддзя, тыя ж вуглаватыя суровыя руны: «Назад!»

У тое сваё падарожжа я выйшаў да Мухаўца 22 чэрвеня ў чатыры гадзіны раніцы. І хаця ішоў 1969-ты, я ўспомніў 1941-шы. Гераічную абарону крэпасці.

Дарэчы, крэпасць ляжыць якраз на месцы таго Бярэсця, якое ўжо ў 1019 годзе ўпамінаецца як досыць вялікае пасяленне. Іменна там жылі мастакі-раместнікі і мужныя воіны, якія ў 1241 годзе палеглі да апошняга, а не здаліся манголам і тым далі магчымасць жыхарам Слуцка, Крычава і іншых гарадоў адбіцца, а пасля перайсці ў наступ і не пусціць орды Батыя на тэрыторыю будучай Беларусі. Іменна там жылі тыя, што выставілі свой полк пад Грунвальд, што біліся з Карлам XII, ішлі з косамі пад сцягі Касцюшкі. Якія многа бачылі. І тое, як везлі ў Варшаву паліць сярэдневяковага атэіста і філосафа Казіміра Лышчынскага (родам з вёскі Лышчыцы, кіламетраў за 20 ад Брэста). І ўжо ў XIX ст. бачылі Грыбаедава, Кюхельбекера, Чаадаева.

Толькі ў 1831 годзе жыхароў перасялілі ад Буга на Мухавец, стары горад знеслі, а на яго месцы пабудавалі крэпасць. Цэнтр яе, Цытадэль — кальцавая казарма на 500 казематаў і 12 тыс. чалавек. Пасля крымскага паражэння пабудавалі на адлегласці 3—4 км, па коле, некалькі фартоў. А пагроза першай сусветнай вайны выклікала неабходнасць пабудовы яшчэ некалькіх, аддаленых на 12 км.

Так што, калі шчырыя брэсцкія патрыёты будуць паказваць вам «дом Грыбаедава» — вы ім не дужа верце. Паэт загінуў за сем год да ўзнікнення новага горада, а жыў у старым — за пятнаццаць год да пагібелі. Толькі вы не крыўдуйце на іх. Гэта яны робяць з добрымі намерамі. Хаця ім і без таго ёсць чым ганарыцца. І старажытнымі кнігамі, некалі напісанымі

тут, і чыгуначнай, рабочай славай, і ўпартай барацьбой пасля Рыжскага дагавору 1921 года, калі Заходняя Беларусь, а значыць, і Брэст трапілі пад уладу паноў, сталі калоніяй Польшчы на 18 год.

Барацьба за школу, мову, зямлю і волю ніколі не заціхала тут. Дэманстрацыі і арганізацыя гурткоў і бібліятэк, напады на панскія лясы і забастоўкі, урэшце, адкрытая партызанская барацьба, баі пад Нясвіжам і Бельскам, паўстанне ў Навасёлках, пад Кобрынам. Нарэшце — напад на палескага ваяводу Даўнаровіча. Партызаны спынілі цягнік, абяззброілі варту, выцягнулі ваяводу, які хваліўся, што праз пару год у яго мясцовасці не будзе ніводнага беларуса (ды і ці ён адзін казаў гэта) — і адхвасталі. Пасля гэтага беларусы засталіся, а вось ваяводу — ваяводу прымусілі падаць у адстаўку. Які ж з цябе ваявода, калі цябе адлупцавалі?

КПЗБ (І яе канферэнцыя была ў 1923 годзе) выдавала газеты на беларускай, польскай, яўрэйскай мовах. Людзі тысячамі траплялі ў турмы або ў лагер Картуз-Бяроза, пабудаваны па ўзору нямецкіх тут жа, на Брэстчыне. Але народ быў даведзены да таго, што тэрор ужо нікога не палохаў.

Брэсту ёсць чым ганарыцца. Успомнім хаця б вайну. Эпапея Брэсцкай крэпасці-героя ўсім добра вядома. Таму я і не буду гаварыць пра яе шмат. Лепей за ўдзельнікаў і пазнейшых руплівых даследчыкаў усё адно не скажаш. Трэба толькі памятаць, што гэта не была «лінія Мажыно», нават не паасобныя доты, з якімі можна было ў тую вайну звязаць наша ўяўленне аб крэпасці. Гэта быў комплекс пабудоў, які даўно страціў сваё ваеннае значэнне. Проста валы з састарэлымі фортамі, проста склады, проста пакоі камандзіраў і чырвонаармейскія казармы, проста царква, перабудаваная ў клуб. І яшчэ: амаль усе воінскія часці выехалі на той час у лагеры. А ў гэтым «ваенным гарадку» заставалася каля двух палкоў разам з пагранічнікамі. Па ўсіх законах божых і чалавечых, тым больш што абаронныя рубяжы ля межаў яшчэ не былі скончаны, тут немагчыма было не тое што выстаяць, але і арганізаваць больш-менш працяглае супраціўленне. Любы кадравік, любы ваенны тэарэтык сказаў бы, што гэта «супраціўна натуры», «нерэальна», «немажліва».

Гэтыя нашы людзі стаялі. Супраць артылерыі і бомбаў, супраць выбуховых рэчываў, што сапёры 81-га нямецкага сапёрнага батальёна спускалі з дахаў у вокны падвалаў. Сплаўлялася ў шклопадобную масу цэгла, а людзі стаялі. Насмерць. Бо змаганне было заведама няроўнае. 30 чэрвеня, 10 ліпеня. Стрэлы ўсё радзей. 20 ліпеня. Але ўсё яшчэ гучаць паасобныя стрэлы. З падземных хадоў. Крэпасць не здалася. Крэпасць проста памерла, як паступова, без ежы і вады, памірае чалавек.

Даводзілася мне бываць там скора пасля вайны, калі подзвіг іхні быў яшчэ малавядомы, паўсюль была бітая цэгла, руіны, бочкі з-пад бензіну. Даводзілася і пазней, калі ўсё было расчышчана, паўсюль былі кветкі і працаваў музей. Удзельнічаў я ў абмеркаванні праекта мемарыяла-крэпасці. Быў і цяпер, калі ўжо скончаны работы па ўстанаўленні помніка абаронцам — высачэзнага абеліска, помніка «Смага». І з кожным разам усё мацней здзіўлялі мяне героі абароны.

Між іншым, у час гэтых работ будаўнікі на вялізнай плошчы ўскрылі тэрыторыю «ўласна Брэста», старога горада. Знаходкі тут рэдкасныя. Нібы адкрылі твар старых вякоў. І самкнуліся ў адно век XI і век XX. Зямлянкі і зрубы — з сучаснымі будынкамі, палацамі, бібліятэкамі, буйнейшым чыгуначным вузлом, інжынерна-будаўнічым інстытутам, каменнай набярэжнай, заводам газавай апаратуры (газавыя пліты, клапаны, гарэлкі), дывановым камбінатам, электралямпавым (асвятляльныя лямпы магутнасцю ад 15 да 200 вт і спецыяльныя лямпы для аўтамабіляў, трактараў, камутатараў) і электрапрыборабудаўнічымі заводамі, тэкстыльным камбінатам-гігантам. А панчохі і шкарпэткі? Яны ж таксама патрэбныя людзям. Дык вось, праектная магутнасць панчошнай фабрыкі — 30 млн. вырабаў у год.

Калі думаеш пра тое — якія змены адбыліся ў нашых старых гарадах — хочаш не хочаш, а пачынаеш збівацца. Назваў два прадпрыемствы — а іх на сённяшні дзень дзесяць, назваў пяць — а іх сёння 32. Поступ сучаснай гісторыі нашай не дагоніш ніякай кнігай.

Акрамя таго, Брэст уражае чалавека яшчэ й зелянінай. Гэта, думаю я, досыць паездзіўшы па свеце,

адзін з самых зялёных гарадоў СССР. Прынамсі ўваходзіць у тую ж першую дваццатку, а мо і дзесятку, у якую ўваходзіць, скажам, цудоўны Кіеў.

## ГРОДНА — МЕЧ, І ВОЛЯ, І СЛАВА

І ўрэшце яшчэ адзін, апошні ў нашым спісе абласных гарадоў, Гродна. Далёка не апошні па старажытнасці, па прыгажосці, па тым, што ён з тых гарадоў, якія маюць сваё, адметнае аблічча, якое не зблытаеш ні з якім другім.

Высокі бераг Нёмана. Пры ўпадзенні ў яго Гараднічанкі, на мысе і ўзнік «Гарадзень», або «Гародня». Упершыню яго ўпамінаюць у 1128 годзе, але гэта ўжо быў вялікі горад, што склаўся куды раней, таму што быў сталіцай удзельнага княства Гародзенскага. Проста дзіўная манера ў нашых летапісаў і нашых гісторыкаў. Першае ўпамінанне аб горадзе — гэта абавязкова тое, што яго нехта ўпершыню спаліў, аб царкве — што «згарэла ад шыбення перуну». Словам, «вясёлыя» былі тады часы...

Узнік замак, бо горад быў фарпостам, узнік пасад, пасяліліся, як кажуць раскопкі, умелыя ліцейшчыкі, ганчары, кавалі, рымары, чабатары, цеслі, збраяры, ювеліры, нават майстры дзіцячых цацак. Горад гандляваў з землямі суседніх княстваў, з Кіевам, Прыбалтыкай і захадам. І тут грымнула вялікая, усеславянская бяда. У зарыве закалыхаліся на белакаменных, чырвоных ад агню і крыві, мурах сабораў цені татара-мангольскіх коннікаў. Паў Уладзімір, пала Разань, Кіеў. Орды дакаціліся да Адрыятыкі, да «апошняга мора». Вольным, хаця і абкладзеным данню, бо еў хлеб захопленых княстваў, застаўся Ноўгарад. Апошнім напружаннем сіл адбіліся Полацкая і Турава-Пінская зямля з дробнымі ўдзельнымі княствамі, што ўваходзілі ў іх. Цаною непамерных ахвяр і крыві. Ёсць паданне, што татары закідалі ў Тураве Тур-калодзеж, старую святыню, груднымі дзецьмі, пасля чаго са студні сем год замест вады біла жаночае малако. Батый не чакаў такога супраціўлення і, акрамя таго, баяўся аб'яднання Венгрыі і таму рынуўся туды. Землі на поўнач ад Прыпяці былі ўра-

таваныя. Татары і пазней спрабавалі нападаць, але кожны раз бывалі разбітыя. У прыватнасці ў 1241 годзе і ў 1249 годзе пад мястэчкам Крутагор'е. У апошняй сечы імі камандаваў хан Койдан. Крутагор'е з таго часу называлася Койданавым (цяпер Дзяржынск).

І, ледзь адбіліся, звалілася новая вялікая бяда. У 1230 годзе Конрад Мазавецкі запрасіў на межы сваіх зямель з прусамі Тэўтонскі ордэн. Меч пагражаў цяпер з другога боку. Яшчэ больш жудасны, без літасці і сумлення. У гродзенскім музеі захоўваецца двухручны меч з надпісам па-старанямецку «Drink blut».— «Пі кроў». Прусы паступова гінулі пад ударамі ордэнцаў. Праз некаторы час, калі апошні прускі спявак спяваў перад натоўпам песні на роднай мове,— яго ўжо ніхто не разумеў. Рыцары, рагочучы, далі яму узнагароду: некалькі дзесяткаў арэхаў-свістуноў (з дзіркай, пустых). Такі самы лёс пагражаў і нам — беларусам.

Гродня стаяла «на юру». На яе першую падалі ўдары. У 1284 годзе яна была нават спустошана. Але паходы ордэна ў 1296, 1306 і 1311 былі адбіты, а калі на чале войска стаў ваявода Давід Гродзенскі, сын Даўмонта, ён спярша, у 1314 годзе, разграміў войскі ордэна, а пасля сам перайшоў у наступленне, спустошыўшы тры разы (1318, 1319, 1323 гг.) землі крыжакаў аж да Мальбарга. Урэшце настала расплата, пасля якой ордэн не здолеў ачуняць. Грунвальд. 1410. Удзельнічалі польскія палкі, літоўскія (гэта значыць палкі княства, а сярод іх палкі Берасцейскі, Валкавыскі, Лідскі, Наваградскі, Слонімскі, Гародзенскі і шмат іншых), чэшскія часці і палкі, што ўваходзілі ў сферу Смаленшчыны. Захад яе і ўсходнія беларускія землі: Полацк, Віцебск, Крычаў, Мсціслаў, Магілёў і г. д. Камандаваў імі мсціслаўскі князь Юры. Гэта была бітва неймаверная па колькасці войска. Ордэн меў 83 000 воінаў, славяне з літоўцамі 163 000. Калі мы ўлічым тагачасную маланаселенасць зямлі, калі даведаемся, што ў «лядовым пабоішчы» рыцараў было забіта 500, а ў палон узята 50 чалавек і, значыць, іх аніяк не магло быць больш як тысяча — паўтары ды пару тысяч кнехтаў — «чудзі». Калі ўлічыць, што ноўгарадцы выставілі супраць Васіля Цёмнага 5000 чалавек («раць веліка вельмі» — сказаў летапісец).

Калі ведаць, што ў Суздальскім бai з Васілём Цёмным было толькі паўтары тысячы войск, хаця з ім былі князі Мажайскі, Вярэйскі і Серпухаўскі, практычна ўсе сілы Маскоўскага княства, без Шамякі,— тады Грунвальд не можа не здзіўляць. Перавага нямецкіх сіл,— так, перавага, не здзіўляйцеся, бо рыцар у сваіх міланскіх ці нюрнбергскіх даспехах быў практычна недасяжны[1] і каштаваў трох воінаў, а многія з нашага боку былі ў скураных панцырах, узброеныя дзідамі, доўбнямі, цапамі і рагацінамі, нават у вяровачных шлемах, якія баранілі ад мяча, а не ад стралы і пікі — не памагла ім. 15 000 узялі ў палон, больш 40 000 разам з вялікім магістрам Юнгінгенам забілі.

У сечы гэтай Гродзенскі полк быў большы за ўсе беларускія палкі.

...Кароль Стэфан Баторый пабудаваў тут новы замак, які, перабудаваны, збярогся і сёння. У ім выключны па багацці і пазнавальнасці, вельмі ўмела пабудаваны музей. Будавалі замак мясцовыя майстры. Гродзенскія будаўнікі цаніліся высока. Яны працавалі нават у Вільні, Варшаве, Маскве. Існавалі багатыя цэхі збраяроў, кавалёў, разьбяроў, мечнікаў і інш.

Гады рэлігійнай барацьбы (я яшчэ раскажу пра гэта) шмат пашкодзілі гораду. Магнаты і духавенства захаплялі землі, капілі майно, узводзілі царкоўныя будынкі (шмат іх засталося і цяпер), выцяснялі рамеснікаў і гандляроў. Народ глуха бурліў. Гродня была цэнтрам вальнадумства і гуманізму. Выдаваліся (1567 г.) брашуры, у якіх адмаўлялася ўлада, усхвалялася свабода веры, агульнасць маёмасці, прапаведавалася аддзяленне касцёла ад дзяржавы, гаварылася, што розніцы не павінна быць між каралём і народам, шляхтай і плебеямі... У Гродні жыў беларускі філосаф атэіст Кашпар Бекеш. Царкоўнікі адмовіліся яго хаваць (памёр у 1530 г.), і сябры яго пахавалі ў Вільні і напісалі на камені яго ж словы: «Не хачу прызнаваць бога, пекла не баюся... не непакоюся аб целе і не болей аб душы, яна разам са мною памерла».

---

[1] Падчас адной бітвы ў Ламбардыі дзве арміі рыцараў, чалавек па 300 кожная, ад усходу да заходу сякліся мячамі. Загінуў адзін. Упаў з каня, і яго затапталі. Порах пасля, вядома, змяніў справу.

Народ адкрыта бунтаваў, аж да вольных узброеных атрадаў... А потым, як паўсюль: упадак феадалізму, капітал, паўстанне 1863 года, якое грымела на Гродзеншчыне асабліва моцна, рэвалюцыя і акупацыйны рэжым, зноў барацьба, зноў рабунак з боку паноў, беспрацоўе і адмаўленне нават у праве на мову. Забастоўкі ўспыхвалі і ў Гродні. У 1936 г.— на ўсіх прадпрыемствах.

І 1939 год... А пасля зноў вайна, партызаншчына, падполле. Звычайная гісторыя незвычайнага беларускага горада, па вуліцах якога мы зараз і пойдзем.

Давайце на гэты раз пачнём ад сучаснай прамысловасці. На правым беразе Нёмана, блізка да цэнтра горада, высяцца карпусы тонкасуконнага камбіната. У іншыя рэспублікі адсюль адпраўляюць амаль дваццаць відаў ваўняных тканін.

Гродзенская бавоўнапрадзільная фабрыка — гэта бавоўняная пража для трыкатажных і ткацкіх фабрык (у 1969 г. дасягнула праектнай магутнасці — 11 250 т). Ёсць у Гродні два скураныя заводы і абутковая фабрыка. Шмат харчовых прадпрыемстваў. Цыгарэты і папяросы адпраўляюць адсюль амаль у сто сорак гарадоў СССР. Робяць тут добрую мэблю, шкло і іншыя тавары.

Нітка Дашаўскага газаправода прыводзіць урэшце да самага галоўнага гродзенскага прадпрыемства, Гродзенскага хімічнага камбіната, створанага ў 1970 г. на базе азотнатукавага і капралактамавага заводаў. Калі вы ўгнойваеце аміячнай салетрай калгасны лён, кветнік пад сваімі вокнамі — магчыма, што яна гродзенская. Калі бацькі вашы на ферме падгадоўваюць худобу карбамідам (мачавінай), сінтэтычным рэчывам, што змяшчае азот,— карбамід можа быць гродзенскай вытворчасці. Ну, і яшчэ аміячная вада, таксама ўгнаенне, толькі вадкае, і серная кіслата, і азотная кіслата, і капралактам, з якога робяць капронавае валакно.

Існуе тут завод карданных валаў. Калі ёсць у вас знаёмы шафёр вялікагрузнай машыны тыпу МАЗ, КрАЗ, ЗІЛ і ў яго здарылася няшчасце — «паляцеў» карданны вал — можаце быць амаль упэўнены, што ваш вадзіцель заменіць яго валам з горада на Нёмане.

Што яшчэ? Ну, скажам, заводы аўтамабільных агрэгатаў, гандлёвага машынабудавання.

Горад бурна расце. А значыць яму неабходна вытворчасць будаўнічых матэрыялаў. Таму ўзнікаюць заводы зборнага жалезабетону, жалезабетонных канструкцый, буйны домабудаўнічы камбінат.

Або давайце прагледзім шлях ствала дрэва. Вось яго прывезлі на Гродзенскі дрэваапрацоўчы камбінат, пасля прадукцыю камбіната — на мэблевую фабрыку. І ў новым доме з'яўляецца гродзенская мэбля, а ў дзіцячым кутку — цацкі з гродзенскай фабрыкі.

Як бачыце, амаль усё сваё.

У горадзе добра зберaглася старая частка з вузкімі вуліцамі і сівымі мурамі.

Горад зялёны. Тут больш чым ва ўсіх беларускіх гарадах плюшчу і вінаграду на сценах. Вуліцы старога горада разбягаюцца радыусамі, з-за муроў глядзяць купы дрэў, і ў іхняй зелені вельмі прыгожа выглядае чырвоная чарапіца, абмытая дажджом.

Тут ёсць што паглядзець. Ад доміка, дзе жыла славутая польская пісьменніца Эліза Ажэшка, і да старажытных будынін.

У горадзе адзіны ў рэспубліцы заапарк (пабудову вялізнага сучаснага парку ў Мінску яшчэ толькі праектуюць), якому каля 50 год. Заснаваў яго фактычна гродзенскі аматар прыроды Каханоўскі. Зараз у ім каля ста пяцідзесяці відаў жывёл.

Ну і давайце паблукаем па старым горадзе, бо тут, як нідзе, збеглася гэтая самая старажытнасць, геній нашых продкаў. У цэнтры горада, як я казаў, будынак не самы стары. Гэта замак Баторыя, у якім зараз музей. Больш як 100 тыс. экспанатаў. У бібліятэцы — больш за 25 тыс. кніг. У экспазіцыі — працы даўніх майстроў, побыт нашых продкаў, старыя кнігі, манеты XVI—XVII стст., граматы XVI—XVIII стст., зброя XIV—XIX стст., унікальная мэбля, партрэты, этнаграфія, археалагічныя экспанаты. Тут можна хадзіць гадзінамі і глядзець то на трохсотгадовае крэсла з рэльефам — крыху карыкатурным — панскай п'янкі, выразанай на спінцы; то на прадметы побыту першанасельнікаў, то нават на кубак М. Агінскага, дзядзькі славутага аўтара «Паланезу», які таксама быў кампазітарам і, у дадатак да таго — вялікім літоўскім гетманам.

На ганку музея — гарматы, у свой час патопленыя Пятром I, калі ён вымушан быў адступаць ад Гродна.

Іх паднялі з дна Нёмана. Але цікавей за ўсё сам двор. Яго і замак абкружае яр, зарослы волатамі-дрэвамі. Праз яр у браму вядзе скляпеністы мост. Па краі стромы, што аддзяляе двор ад Нёмана,— рэшткі муроў старога, яшчэ Вітаўтавага замка. Цяжкія брылы нічым не ўпрыгожанага каменя. І тут жа, пад каўпакамі, два збудаванні, якія наводзяць на роздум. Рэшткі Прыдворнай, Ніжняй царквы, першай каменнай пабудовы Гародні, цёмныя, глыбока пагружаныя ў зямлю. І... курная хата, якую руплівым працаўнікам музея ўдалося недзе адшукаць і перавезці сюды. Закуранае чорнае бярвенне, малыя вокны. Бярлог, а не хата.

Дзівіцца тут, урэшце, няма чаго. Бываюць сем'і, у якіх нібы адвеку закладзена кансерватыўнасць. Дырэктар саўгаса «Мала-Мажэйкава» калісьці расказваў мне, што ў іх сяле была такая хата і ў ёй... жыў чалавек. Саўгас вельмі багаты, з развітай эканомікай. Усе хаты, як званы, набудавана шмат новых цагляных дамоў, і адна- і двухпавярховых. А тут жыве стары дзед у ледзь не двухсотгадовай хаце, прычым курнай, і не хоча нікуды ісці. Хата новая яму пабудавана — ну, псуе ж твар вёскі тая халупа, хай сабе і з моцнага калісь дрэва! — амаль кожны дзень яго ледзь не на каленях моляць, сын, палкоўнік, і лісты пісаў, і прыязджаў.

Але — адзін адказ: «Тут здаравей, прывык за свой век, а як толькі заходжу ў новую, у мяне адразу галава пачынае балець».

Тады дырэктар у глыбокай тайне дамовіўся з трактарыстам, каб той, у час, калі дзеда не будзе ў хаце, «незнарок» зачапіў трактарам рог. Той і зачапіў: «Ненаўмысна, дзед, дальбог, выпадкова, каб мне вочы вылезлі, незнарок — ну вось грошы на!» (Грошы, ясна, былі дырэктаравы.)

Дзед кляў так, што палова вёскі сабралася: «Зачапіў, каб цябе так за рэбры чаплялі; знёс, каб цябе так з машынай тваёй з моста знесла; села хата на кут, каб цябе так на покуць ніколі не садзілі і толькі раз галавою паклалі»[1] — ну і г. д. Таямніцу яму адкрылі толькі тады, калі ён не толькі прывык да но-

---

[1] Г. зн., каб ніколі не садзілі, як ганаровага госця, а толькі раз паклалі ў кут галавою, як памрэ.

вай хаты, але і нахваліцца ёю не мог. Тут трэба, дарэчы, заўважыць, што яшчэ да параўнальна нядаўняга часу на Беларусі лаянкі амаль не ведалі, а замест яе існавалі вось такія «кленічы». Бывалі такія майстры-імправізатары, што і не хацеў бы, а спынішся паслухаць сварку. Вынаходлівасць у параўнаннях — незвычайная.

...Калі глянуць з замчышча ўніз па плыні Нёмана — убачыш за Гараднічанкай, над стромай, маленькую цэркаўку ў шатах векавых дрэў. Тры сценкі яе каменныя, а тая, што над Нёманам,— драўляная. Чацвёртая сцяна была пашкоджана ў войнах сярэдневякоўя, пасля — у Шведскую вайну, а пасля, у час небывала высокай паводкі, упала з падмытым берагам у раку. Бераг умацавалі, а сцяну зрабілі драўляную.

Гэты будынак — адзін з найвялікшых шэдэўраў дойлідства старажытных славян. Каложская царква (XII ст.).

Мы здымалі фільм. Увайшлі ўнутр. Нічога. Цесны ход на неіснуючыя хоры. Белыя муры і ў іх плямы галаснікоў-збаноў, умураваных у кладку. Для рэзанансу. Я ўспомніў летапісны факт, што, калі царкву пабудавалі, гародзенцы папрасілі дазволу «пагукаць і пасвістаць» у ёй, «ці галасна́?». Свістаць я не стаў, бо свістаць у васьмісотгадовых будынках — гэта забыцца на сумленне. Вырашыў праспяваць нешта старое. І заспяваў «На цвярдыню тваю мы ўпаваем». У мяне звычайны голас, як кажуць — «някепскі для сярэдняга». Больш-менш верны хіба што. Але тут ён гучаў так, што ва ўсіх аж мурашкі па спіне пабеглі. Нібы той Шаляпін! А што было б, каб тут заспяваў ён?

«Галасна́», ой, «галасна́»!

Здымаць было цяжка. Бо з дрэва якраз «сонечны» бок будынка, а на каменныя бакі сонца падае толькі ў доўгія дні, на захадзе. Кладка муроў тут незвычайна раскошная. У іх устаўлены плоскай формы рознакаляровыя валуны, зялёныя, чырвоныя з паласамі, густа карычневыя, сінія, усякія. І яшчэ ромбы, квадраты, крыжы з маёлікі. Каб змыць пыл і зрабіць больш бліскучай паверхню, мы аблілі муры вадой. І тут на іх упала сонца! Што тут было! На маёліцы і валунах успыхнулі аранжавыя, ружовыя, чырвоныя, зеленавата-сінія туманныя вясёлкі. Перад намі стаяла нешта, што было стократ яскравей паўліна.

Каменная райская птушка! І ўся яна нібы зыбілася, зіхацела, плыла ў паветры, выцягвалася ў неба.

У XVII—XVIII стст. магутна ўскінула каменныя хвалі франтонаў і мачты сваіх званіц барока. Той, хто не бачыў Гродзенскага фарнага, комплекса манастыра Брыгітак або францысканскага касцёла за Нёманам — уяўленне таго ад нашага захаду заўсёды будзе няпоўнае. А «лямус» — драўляны будынак з XVII ст. у двары Брыгітак. Першы паверх для маёмасці, другі — інтэрнат. І вакол арачныя галерэі. І паўсюль — ніводнага цвіка, толькі ўсечкі і драўляныя кліны. Той, хто прыедзе сюды,— не пашкадуе.

## «ВЯЛІКІЯ» МАЛЫЯ ГАРАДКІ

...А што ж мне расказаць вам пра невялікія, а то і проста малыя гарады і гарадкі Беларусі. Іх жа сотні, а расказаць, хоць пра некаторыя, трэба: тут жыве вялікі працэнт насельніцтва. Таму выбіраю самыя, на мой погляд, цікавыя і рамантычныя, і тыя, што маюць сваё непаўторнае, ні на што іншае не падобнае аблічча. Ну і яшчэ тыя, што чамусьці мацней за ўсё ўразілі мяне і таму зараз асабліва дарагія мне. Таму выбіраю, што проста здолею лепей пра іх расказаць.

Навагрудак, як яго чамусьці, на польскі манер, называюць (а мясцовыя людзі кіламетраў на семдзесят у наваколлі называюць Наваградак, і гэта бліжэй да старадаўняга Ноўгарадка), ляжыць на Навагрудскім узвышшы. Хвалістая зямля, узгоркі і розкаляровыя палі на іх. Там, дзе ўзвышша рэзка спадае да Нёмана, яно пасечана ярамі. Вышыні Навагрудскія адны з самых высокіх на Беларусі. Таму тут заўсёды на некалькі градусаў халадней. Наша экспедыцыя была аднойчы здзіўлена, калі, прыехаўшы з Баранавіч у Навагрудак (нейкія кіламетраў 70—80), «трапілі ў восень»: сапсавалася надвор'е і жоўтай лістоты было разы ў чатыры болей, чым у наваколлі.

Гэты горад быў калісьці сталіцай княства Літоўскага.

Яшчэ здалёк відаць Навагрудскае гарадзішча, а на ім два «зубы», абгрызеныя часам вежы. Чорныя, злёгку ў чырвонае, як прыпалены чыгун. Ад княскага замка засталося мала. Вежы моцна пашкоджаны стагоддзямі. А іх мінула ажно сем. І ўсё адно здзіўляюць

фрагменты жылой вежы (12 м па фасадзе, нізкая брама, і, на вока, метраў 20 вышыні). Калі залезці наверх, вядома, з вяроўкамі і рызыкай — відаць на многія і многія кіламетры вакол. Але і знізу, у ясную пагоду відаць званіцу ў вёсцы Турэц (30 км). А унь азярцо Літоўка. Згодна паданню, тут разбілі крыжакаў, і гэта гісторыя легла ў аснову паэмы Міцкевіча «Гражына». А унь злева «Курган Міцкевіча». Сем год прысылалі на яго зямлю з усіх куткоў Заходняй Беларусі, Польшчы і Заходняй Украіны (1924—1931 гг.). І насыпалі. Па жменьцы, без усякай механізацыі.

Паглядзіш уніз — галава закружыцца,— а там дужа стары касцёл, у якім вянчаўся князь Літоўскі, а потым польскі кароль Ягайла і ў якім хрысцілі Міцкевіча. Назад глянеш — а там домік — музей Міцкевіча, адноўлены з руін. Увогуле, тут усё-ўсё звязана з імем вялікага паэта gente albarutenus natione polonus[1]. Непадалёк адсюль, у фальварку Завоссе, стаіць яму абеліск, тут ён правёў дзяцінства і юнацтва, тут стрэў першае каханне. І дагэтуль шуміць у Туганавічах альтанка з ліп над няшчасным гэтым каханнем. Тут ляжыць у лесе велічэзны валун. «Камень філарэтаў», ля якога паэт сядзеў сярод членаў вальналюбнай грамады. І гэта мясцовыя песні, казанні, паданні нарадзілі на свет яго паэзію, сюжэты, рытм, песеннасць. Сюды ён увесь час цягнуўся з чужыны: «Нёман, рэчка мая радзінная, празрыстаю плынню ты абмываў мне, маломý, далоні», «Айчына мілая, Літва, ты як здароўе. Той табою даражыць, як сваёй крывёю, хто страціў цябе». Тут жылі яго героі: князь Мешка і Гражына і пан Тадэвуш.

І тут ляжыць возера Свіцязь, апетае ім. Векавыя дубы вакол, рэдкія сітнягі, вада невераемнай чысціні, пясчанае дно з рэдкімі рознакаляровымі каменьчыкамі. У возера дзве галоўныя загадкі.

Першая — гістарычна-казачная. У горадзе, што стаяў тут, засталіся адны жанчыны. Скарыстаўшыся адсутнасцю мужчын, на горад напалі шматлікія ворагі. Жанчыны секліся смела, але сталі знемагаць. І тады яны пачалі маліцца, і горад праваліўся, і зрабілася возера. Другая загадка — рэальная. Ёсць во-

[1] Паходжання беларускага, нацыі польскай *(лац.)*.

дарасць тэтрадынiюм яванiкум. То вось, расце яна, акрамя трапiчных азёр Явы i Суматры, толькi... у Свiцязi, на другiм канцы зямлi. Чаму? А хто ведае! Акадэмii свету, мабыць, далi б вялiкую ўзнагароду таму, хто вырашыў бы гэтае складанае пытанне. Немцы ў час вайны выдзiралi яе кошкамi для сваiх шпiталяў. Раны, кажуць, зажывалi намнога хутчэй. Трэба было б зрабiць аналiзы... Цяпер Свiцязь — ландшафтны запаведнiк. Рыбу, калi ласка, лавi, але толькi вудай. I добра!

Чаму ў нас так многа «гарадоў на дне азёр»? Ну што ж, на Беларусi, як i ўсюды, ёсць вапнякi, а значыць, яны вымываюцца вадой, а значыць, магчымы i карставыя з'явы, правалы. Можа, некаторыя з азёр i атрымалiся так, можа, на месцы некаторых i стаялi будовы. Астатняе зрабiла неўтаймаваная народная фантазiя. Ва ўсякiм разе, гэта вельмi прыгожа.

...Цiхая далiна Шчары. Песцяць вока зялёныя лагi, узгоркi, лясы. I на беразе, як цацка, Слонiм. Сямiсотгадовы юнак. Чыстая вада з зялёнымi касамi водарасцяў, што звiваюцца ад хуткасцi плынi, амывае яго, бягуць угору i ўнiз маляўнiчыя вулачкi, бялеюць вежы. Галоўным чынам беларускае барока XVI — XVII стст., але не вычварнае i раскошнае, а простае i строгае. Мясцовы густ.

Тут найлепшы мясцовы музей ва ўсёй Беларусi, музей, якi не саступiць i абласному. Прынамсi, ён быў такi, пакуль жыў яго заснавальнiк i дырэктар на працягу дзесяткаў год М. Стаброўскi. Пры апошнiм наведваннi музей мне спадабаўся менш. Экспазiцыя горшая, некаторыя вельмi цiкавыя рэчы ў запаснiку, а менш цiкавыя занялi iх месца.

Прамысловасць тут, галоўным чынам, харчовая, лёгкая (iльнозавод, фабрыкi тэкстыльная i мастацкiх вырабаў) i металаапрацоўчая.

А вакол колькi ўсяго! Канал, пабудаваны дзядзькам кампазiтара Агiнскага, цiкавы папярова-кардонны камбiнат у Альберцiне, унiкальная ў сваёй прыгажосцi i суровасцi не толькi на Беларусi, але i ва ўсёй Еўропе царква-крэпасць у Сынкавiчах, такая сумна-адлучаная ад усяго сярод масiваў яблыневых садоў. I комплекс былога унiяцкага манастыра ў Жыровiчах (XVII ст.) з неацэнным сваiм жывапiсам.

...Або Нясвiж. Славуты тым, што гэта горад-по-

мнік. Уявіце сабе цяністыя вуліцы, на якіх не рэдкасць барочныя дамы XVII—XVIII стст., будынак друкарні, у якой славуты беларускі асветнік Сымон Будны выдаў у 1562 годзе свой «Катэхізіс», плошчу, на якой стаіць велічная ратуша, абкружаная гандлёвымі радамі, іншыя комплексы старажытных будынкаў. Горад быў рэзідэнцыяй акаталічанага (а затым, значыць, і апалячанага[1]) старажытнага беларуска-літоўскага роду князёў Радзівілаў. Шмат тут было (калі забыць аб горшым) набудавана, выдадзена кніг, напісана карцін, сабрана археалагічных і гістарычных матэрыялаў! Розныя яны былі людзі — князі: і тыраны-самадуры, якія маглі даваць свайму гайдуку словы накшталт: «Князь сёння п'яны, як свіння, з'явіўся, а каб напіўся ягоны чалавек, то яго б павесіў» — даваць таму, што «праўда», і прызначыць яго сяржантам — і, адначасова, павесіць слугу, бо той хацеў быць заўсёды на віду ў князя. Былі й дзівакі. Адзін захацеў пракаціцца ўлетку на санках, і вось з солі была насыпана дарога, па якой імчалі сані, запрэжаныя мядзведзямі. Гэта прыводзяць як прыклад жудаснага марнатраўства сродкаў сялянскіх. Але, праўда, пасля панскае пацехі ўсё наваколле запаслося дарагой соллю на шмат год. Сваіх саляных капальняў на Беларусі тады не было, соль прывозілі з Польшчы, з Вялічкі, і выдавалі нават здабытчыкам па два з паловай фунты на месяц.

Сустракаліся і такія, што з'яўляючыся людзьмі сярэдневякоўя, для якіх катоўня і шыбеніца — звыклая справа, у той жа час рабілі карыснае: адкрывалі друкарні, школы, калегіумы. Мікалай Сіротка аддаў нясвіжскім мяшчанам бясплатна сядзібы, вінакурні, піўныя заводы і г. д. пры ўмове штогадовага ўзносу на бальніцу і школы (1586 г.).

Я расказаў вам аб гэтым проста таму, што хацеў на жывым прыкладзе паказаць, якія формы меў часам на Беларусі феадалізм. Вось такі ён быў, з самадурствам, з натурамі, якія ўпыну не мелі, якіх разбэсціла неабмежаваная ўлада.

У замку была багатая кунсткамера з рэдкімі тво-

---

[1] Беларускіх сялян-каталікоў такое не датычылася. Яны зберагалі і мову, і звычкі, хаця, вядома, касцёл накладаў свой адбітак на ўсё гэта.

рамі мастацтва, арсенал з калекцыяй шчытоў, рыцарскіх даспехаў, стрэльбаў і іншага, былі масіўныя і вялізныя статуі апосталаў са срэбра, злiткі срэбра і золата, каштоўныя каменні, якім не было цаны, калекцыі манет, бібліятэка з 20 000 тамоў на розных мовах (у тым ліку і на беларускай), партрэтны зал з партрэтамі, абразамі і карцінамі, архіў з незлічонай колькасцю гістарычных дакументаў па Беларусі і Польшчы. Усё гэта, амаль усё, было вывезена за межы Беларусі: часткова яшчэ пры падзеле Польшчы, часткова падчас шматлікіх пераваротаў, акупацый і войнаў.

Замак Радзівілаў ляжыць у баку ад горада, між азёр. Да яго вядзе дамба, і ўваход на гэтую дамбу запірае фарны касцёл (XVI ст., дойлід Бернардоні) з прыгожымі роспісамі ўнутры. І сам замак з унутраным дваром, брамай, гожымі фасадамі, вежамі і вялікім паркам — адзін з лепшых палацава-замкавых комплексаў і шэдэўр беларускага паркабудаўніцтва.

Але я загаварыўся. А пра ўсе вартыя слова беларускія гарады не раскажаш. Што выбраць? Аб чым сказаць? Аб Пінску з яго велічным сярэдневяковым гмахам калегіума, з яго багатай гісторыяй; аб тым, як біліся тут пінскія гараджане і сяляне — а на чале іх стаяў Нябаба, эмісар Багдана Хмяльніцкага — з панамі, біліся да апошняга чалавека, так што згарэла 5000 дамоў і загінула 14 000 чалавек. Аб пінскіх зялёных набярэжных, ці аб яго старажытных барокавых шэдэўрах, роўных якім цяжка знайсці. Мур ля вуліцы. Звешваюцца праз яго кроны ліпаў, а ўнізе мура кладка XII ст. Адкуль? А хто яго ведае, што тут было?

Ці пра «міні-Кіеў» Мазыр вам расказаць? Ці пра Оршу з яе легендамі, з парогамі на Дняпры і ільнокамбінатам, які выпускае адны з найлепшых ільняных тканін у свеце? Пра Оршу, дзе стаіць помнік «кацюшам», якія ў вайну далі тут першы залп.

Ці, можа, пра Рагачоў, дзе зелень і гарадзішчы, і галаваломныя ўрвішчы над Дняпром, і вісяць на іх кронамі ўніз скурчаныя сосны, і дрэмле шыпшына на курганах, і ззяюць тэрыконы ракушак?

Або пра Гальшаны на Ашмяншчыне з замкам XVI ст. і касцёлам 1618 г. І як я, распрануўшыся, каб вопратка, збіўшыся на шыю, не задушыла, сліз-

гаў падземным лазам і знайшоў яйкападобную цямніцу (пасля мы расчысцілі ход у яе, і цяпер туды можа зайсці кожны).

Ці пра малыя Варняны Астравецкага раёна — адзін з першых узораў вясковай забудовы па плану. Будавалі ў XVIII ст. Дужа тут прыгожа. Асабліва чырвоная вежа на востраве, увянчаная буслінымі гнёздамі.

Або маленькі Мір, такі маленькі, што замак XVI ст., крывава-белы, з вежамі, як скалы, здаецца большы за яго, асабліва калі падвойваецца ў вадзе става. Адзін з самых гожых замкаў, якія мне даводзілася бачыць. Мір, дзе калісь адбываліся выбары цыганскага караля, які і жыў тут. Пасля «каралі» абралі «рэзідэнцыю» на паўночным захадзе Беларусі. Цяпер кароль усіх цыганоў жыве, здаецца, у Венгрыі (да вайны, прынамсі, жыў), але вярхоўны цыганскі суддзя (для вырашэння спрэчак між цыганамі) і дагэтуль стала жыве ў Беларусі. У чэрвені 1969 года мне давялося бачыць тое, што, мабыць, не бачыў ніхто з пісьменнікаў. Шляхі завялі мяне ў маленькае мястэчка Давыд-Гарадок, што над ракой Гарынню, на Палессі. Цудоўнае, дарэчы, мястэчка. Занятак жыхароў — кветкі. Зямлі няшмат, бо летнія повені часта заліваюць наваколле. Таму кожны сухі лапік — пад ружы, ляўконі, мацыёлу, пахучы гарошак, вяргіні, маканы, кручаныя панічы (грамафончыкі), астры, махровую шыпшыну і тысячы-тысячы іншых гатункаў. Насеннем, клубнямі, кветкамі гандлююць аж да Сібіры, і таму на кожнай хаце знак сонца, а самыя хаты шалеюць, задыхаюцца ў акіяне красак.

То вось там бачыў я «гадавую» па вярхоўным цыганскім суддзі. Прыехаў ён сюды разбіраць нейкую справу, кінуўся ратаваць тонучую беларускую дзяўчыну-падлетка і ўтапіўся сам. Сабраліся з усіх канцоў Беларусі: і вучоныя, і майстры з заводаў, і вандроўныя цыганы. Трызну загадзя падрыхтавалі на могілках, у баку ад магіл, ад той, з надпісам: «Базылевіч Гарасім Ігнатавіч 1928—1968» (у нашых цыганоў беларускія прозвішчы). Купілі шмат бараноў, трох свіней, дзвесце штук курэй ну і іншае да таго.

І вось ішлі. Цэлая гурма. Намісты, хвалі сукенак. Усё яркае, як крыху прыглушаны попелам жар.

Мора медзі, мора чырвані і сіні. А над усім гэтым — мора сонца, так што аж не верылася ў канец жыцця. Вялі гладкага, як змяя, гнядога каня.

— З канём сфатаграфуй. Яго конь. Калі ласка, з канём.

І як праводзілі суддзю пад шатром. Бо ў якой бы хаце ці нават кватэры цыган ні жыў, а праводзяць яго ў краіну Цыганію пад шатром.

І на гэтым я скончу, не паспеўшы расказаць і тысячнай часткі таго дзіўнага, што бачылі мае вочы на беларускіх дарогах і ў беларускіх гарадах.

# ПРАЗ ДЫМ СТАГОДДЗЯЎ

## НАЗАД ДА КІЕЎСКАЙ РУСІ

Старажытныя грэкі лічылі, што спачатку быў залаты век — і ўсё было добра, нават бяссмерце існавала, пасля наступіў срэбны — трохі горшы, пасля медны — яшчэ горай, а пасля надыдзе жалезны — і вось ужо тады зусім дрэнь справа.

На Беларусі чамусьці было не так: палеаліт (старажытнакаменны век), неаліт (новы каменны), бронзавы век і ўрэшце век жалезны. Ды, здаецца, так яно было і на ўсім свеце, калі не верыць, вядома, у Атлантыду.

І самы горшы з іх быў самы першы.

На Беларусі паўсюль — сляды гэтых вякоў.

Калісьці ў дзяцінстве я зрабіў злачын — вінаваты, але, па маладосці, заслугоўваю спагады — з такімі ж шыбайгаловамі раскапаў па Дняпры курган. Шкілет быў чырвонага колеру, ляжаў скурчаны на баку. Пры каленях стаяў гаршчок і ляжаў пярсцёнак з нейкіх металічных зёрнаў. Чэрап быў на чатыры маіх галавы, а сківіца належала далёка на вушы. Пасля, каму я ні расказваў, усе казалі, што гэта археалагічнае адкрыццё. Пахавальнае месца кагосьці, хто раней на тэрыторыі тутэйшай заўважаны не быў. Адкрыццё тое загінула з-за мяне, дурня. Менавіта таму і не трэба нікому, акрамя вучоных, капаць курганы. Я дагэтуль невук у археалогіі і таму раскажу пра археалогію толькі ў самых агульных рысах, ды раскажу сёе-тое,

што мне ўдалося бачыць на ўласныя вочы. А гэта нямала. Бо куды б тут ні пайшоў — паўсюль сляды. Курганы над Дняпром і Свіцяззю, дробны россып чарапкоў выступае пасля дажджу на паверхні гарадзішчаў. Едзеш на Ушачы, сядае сонца, і раптам заўважаеш тысячы паўкруглых ценяў. Іх кідаюць напаўсцёртыя курганы, парослыя мачтавымі соснамі. І цягнуцца гэтыя могілкі на кіламетры. І нават на цяністых ушацкіх могілках свежыя магілы часам выкапаны на верхавінах вялізных былых курганоў. Іх называюць капцамі, часам валатоўкамі, бо паўсюль у нас існавала паданне аб волатах, якія загінулі, баронячы гэтую зямлю. А некаторыя проста спяць пад гэтымі валатоўкамі, пакуль не прыйдзе час вялікай бяды і іх не паклічуць.

Мяркуюць, з вялікай доляй пэўнасці, што чалавек жыў у нас ужо ў сярэдні палеаліт, у эпоху мусцье. У той час ледавік праходзіў па вярхоўях Дняпра, а Беларусь была суцэльнай тундрай, па якой блукалі зарослыя поўсцю насарогі, крочылі маманты, і пячорныя леў і мядзведзь палявалі за дзікімі коньмі. У чалавека (неандэртальца) быў супраць іх востраканечнік з крэменя і агонь, дар лёсу, бо жытла, якое ратуе ад холаду, тады яшчэ будаваць не ўмелі, а прыдатных натуральных пячор у нас на Беларусі няма.

Верхні палеаліт (40 тыс. г.—10 тыс. г. да н. э.) прынёс аседласць, штучныя жыллёвыя пабудовы і аб'яднанне людзей у вялікія орды. Іначай нельга было, скажам, загнаць маманта ў яр. Поўнасцю вывучаны дзве стаянкі гэтых людзей, абедзве на Гомельшчыне. Знайшлі вуголле, расшчэпленыя крамяні, косці маманта (тут іх забілі 40—45 галоў), а таксама дзікага каня, быка, насарога, мядзведзя, ваўка, вадзянога пацука, сусліка, пугача. Елі тады ўсё. Знайшлі унікальнае жыллё, збудаванае з чарапоў, костак і біўняў маманта. Унутры быў ачаг і нават ямы-сховішчы.

Сярэдні каменны век, мезаліт, гэта перш за ўсё лук і стрэлы. Ранейшыя жывёлы ці вымерлі, ці былі выбіты, ці адступілі за ледавіком. З'явіліся сучасныя: зубр, алень, лось, дзік, буры мядзведзь, бабёр. Каб паляваць на іх, не патрэбна была арда, і яна распалася на дробныя групы, а то і на сем'і. Хто пайшоў за мамантам, які адступаў за тундраю на поўнач, хто застаўся. Менавіта ў мезаліце тэрыторыя Беларусі

была спрэс заселеная. Стаянак таго часу дужа многа.

А пасля быў неаліт. Гэта значыць, жывёлагадоўля і земляробства. І пачынаюць ужо шліфаваць краі сякер, і ўжо на драўляны човен, выдлубаны з бервяна, трэба толькі 10—12 дзён. Расцём, чалавецтва! І замест прымітыўнага абгарэлага «шашлыка»—«суп» у гліняным посудзе. І жывём не як-небудзь, а ва ўтульнай зямлянцы ці нават у надземным жытле.

Але праслаўляць за гэткі прагрэс чалавека, біць у яго гонар у барабаны лёгка на паперы. Увесь гэты шлях мы апісалі на адной старонцы. Продку нашаму на гэты шлях спатрэбілася 25 тысяч год.

Калі весці размову аб прамысловасці, то яна таксама нарадзілася ў той час. І гэта не перабольшанне. Ля Ваўкавыска, пад мястэчкам Рось ёсць пасёлак Краснасельскі. Год пяцьдзесят назад у мясцовых крэйдавых горах архітэктар і археолаг З. Шміт выявіў і налічыў каля тысячы шахт. Канец неаліта. Значыць, шахтам па здабычы крэменю пяць тысяч год! Касцянымі матыкамі, рагавымі капалкамі капалі ствалы шахт. Знаходзілі жылу — пачыналі дзяўбці штрэк. Вузкі — 0,5—1 м. І паўзлі, працуючы. Часам на 20 м у даўжыню. Задыхаючыся ад дыму, бо святло было ад вогнішчаў. З дня ў дзень, бо гэта быў іх хлеб і той хлеб, які ўсё Панямонне здабывала прыладамі, зробленымі з Краснасельскага крэменю.

Прыйшла бронза, але крэменю не выціснула з ужытку і яна. Ён быў заўжды пад нагамі, а волава і медзі на Беларусі няма. Каменная сякера ў гэты час робіцца больш дасканалая, паліраваная. Вось такая, як зараз перада мной — шэра-белая, гладкая, насаджаная на, вядома, сучасную рукаяць. Як цацка.

Не буду чытаць вам лекцый аб сярэднедняпроўскай, сасніцкай, тшынецкай палескай культуры, культуры шнуравой керамікі. Як і аб культуры наступнага, жалезнага веку, які паставіў плямёны беларускай тэрыторыі ў роўныя правы з іншымі, бо ўжо чаго-чаго, а балотнай руды тут хапала. Значную частку ядраў для Крымскай кампаніі нават у сярэдзіне XIX ст. паставіў завод Храптовіча ў Вішневе.

Жалезны век — гэта рала, запрэжаная двума быкамі саха, серп, сякера, а значыць, і лясное, падсечнае земляробства. Гэта жыта, проса, пшаніца, гарох, авёс, віка, а калі так, то і развіццё жывёлагадоўлі.

І, адначасова, гэта накапленне багацця, гэта сутычкі між групамі, радамі, плямёнамі. Бедная роўнасць памірала. Нараджалася царства несправядлівасці. На тысячы і тысячы год. Гэтая чума ўкрыла зямлю восыпкай гарадзішч. Набегі, пажары, войны, свары з-за пашаў.

І потым брат на брата, сват на свата, сын на бацьку... «І род на род і племя паўста». Жалеза перш за ўсё ўжылі як меч, а не як серп. Што ж дзіўнага? Хірасіма таксама была раней за першую атамную электрастанцыю.

Плямёны, культуры, роды зноў аб'ядноўваліся, асімілявалі суседнія, узбуйняліся. Яны цяснілі, змянялі адны адных на будучай беларускай зямлі. Культуры: лужыцкая, паморская, мілаградская. Штрыхаванай керамікі, зарубінецкая, днепрадзвінская. Хто яны былі, гэтыя людзі,—цяжка сказаць. Тут прыходзіць на дапамогу такі аддзел навукі аб мове, як гідраніміка, навука аб назвах рэк і азёр. Ясна, што прышэльцы не будуць прыдумваць для ракі сваёй назвы (часцей за ўсё). Яны спытаюць аб ёй у мясцовых плямён і пакінуць іхнюю назву, нават калі яна незразумелая. Таму мы часта і не можам растлумачыць назвы нашых рэк. Што такое, сапраўды, «Волга», «Дняпро», «Нёман»? Толькі ў сярэдзіне 1 тыс. н. э. пачынаюць з'яўляцца гідронімы славянскія. Значыць, славяне прыйшлі. А хто быў да іх? Аналіз назваў і археалогія паказалі, напрыклад, што на значнай частцы тых земляў, дзе пасля стварылася руская галіна славян, сядзелі, асіміляваныя славянамі, угра-фіны. Астраўкі іх засталіся і зараз сярод рускага насельніцтва. На самай справе, нават рака Масква, на якой узнік вялікі горад, па адным з тлумачэнняў азначае «цёмная вада» (ад ляснога ценю і ад таго, што цячэ з лясных азёр і балот). Адзін комі, дачуўшыся пра гэту тэорыю, прывёў мне і свой прыклад — пельмені. І праўда, улюбёнае блюда рускіх людзей перакладаецца з пярмяцкага: пель — вуха і нянь — хлеб, «вушны хлеб». Толькі прыклад быў няўдалы. У часы прыходу славян аб пельменях, мабыць, і чуткі не было. Гэта куды больш позняе запазычанне, хаця таксама з угра-фінскай мовы.

А тэрыторыя Беларусі да сярэдзіны 1 тыс. н. э. была этнічна дужа аднародная. Тут сядзелі балты,

плямёны, блізкія сучасным літоўцам. Яны і пакінулі ў спадчыну нам свае гідранімы, а самі не пайшлі і не былі выбіты, а проста змяшаліся з прышэльцамі. І формы чарапоў ужо ў курганах XI—XIII стст.— славянскіх, даўніх — пацвердзілі гэта.

«Не ідзі да паноў на гулянку — косткамі закідаюць». Таму я і не стану гаварыць пра ўсе культуры, што мяняліся тут, пра іхнюю кераміку (хаця, на мой погляд, самая прыгожая — чорная, нібы закураная і адлакіраваная,— кераміка паморская), пра тое, ці продкі славян людзі зарубінецкай культуры і, адсюль, ці не з'яўляюцца прарадзімай славян мясцовасці па Верхняму і Сярэдняму Прыдняпроўю (дзе зараз поўдзень Віцебскай, Магілёўская, Гомельская і Кіеўская вобласці, Парэчча Прыпяці з яе прытокамі і мясцовасці па Дзясне). «Паны»— археолагі і самі спрачаюцца аж да чубоў, а ўжо чужога закідаюць косткамі, хай сабе і курганнымі. Ад іх таксама баліць.

Ва ўсякім разе, пятнаццаць стагоддзяў назад тут, на нашай зямлі, ужо сядзелі славяне.

Самым раннім славянскім гарадзішчам на тэрыторыі Беларусі лічыцца Хатомель, што пад Столінам (VI—XII стст.). На Украіне ёсць таксама тагачасныя славянскія пасяленні (на цяперашнюю тэрыторыю РСФСР славяне прыйшлі і аселі на ёй значна пазней). Мне пашчасціла пабываць на Хатомельскім гарадзішчы.

Рэдкія там вёскі, але, як кажуць, меткія. У вёсцы Рубель 1800 двароў —«Гэто ж наш Кітай» (мясцовы жарт). Ад гэтай вёскі я спачатку ехаў машынай, пасля ішоў пешшу праз мокры луг і балота. Летнія аблокі, гарачыня, грузнуць ногі — ясна, што ў часы першых славян тут была непраходная дрыгва. Падплысці можна было толькі Гарынню, а цяпер і яна пайшла адсюль, пакінуўшы ля ўзвышша старыцу. Там, дзе балота і ракі няма,— падвойныя валы і рвы. Тады на валах былі драўляныя клеці, засыпаныя пяском. Цяпер — нічога. Валы параслі хмызамі, на месцы селішча — жыта. Сіне-зялёны лес на гарызонце, ды ямы на месцы раскопаў. Бязлюддзе. Усё аплыло. А якое вірлівае, буянае жыццё кіпела тут калісь...

Ішоў адтуль па кладках і праваліўся. Праз пару кіламетраў мужыкі перасцілаюць мост. Адзін:

— О, цяпер саўсем як нашы людэ па нагах.
— І нашае гразі з сабой крыху ўвязэце,— смяецца баба.

І я смяюся ў адказ. Спрадвечныя тутэйшыя людзі. Нашчадкі тых... І значыць, нішто марна не прапала на зямлі.

І ненавідзелі яны, як мы, і кахалі, і ставілі добрым бацькам каменныя надмагільныя піраміды на берагах возера Бяздоннага. І нам пакінулі сваю справу.

Плямёны тыя пад уплывам старонняй небяспекі ператвараюцца ў той даўні час у племянныя саюзы. Некалькі такіх саюзаў склаліся на тэрыторыі Беларусі: крывічы, дрыгавічы, радзімічы і драўляне (паўночная галіна гэтага племя). Плямёны і сапраўды былі дужа адасобленыя. Палянін лічыў, што драўляне «жывуць, як дзікія звяры», і наадварот. Трэба думаць, што аб'ядноўвала іх агульнасць мовы (з нязначнымі дыялектнымі адхіленнямі, скажам, як цяпер у жыхара Піншчыны і жыхара Полаччыны), агульнасць гандлёвых мясцін і агульнасць асноўных багоў, а напэўна, і агульнасць свяцілішчаў. Ідалаў знаходзяць досыць рэдка. Каменных. А яны пераважна былі драўляныя. Дый знішчылі іх многа. Самы славуты, з-пад Супрасля, быў вывезены. Але і зараз у многіх музеях глядзяць на нас іх каменныя вочы.

## ПРАДЗЯРЖАВА І ЯЕ ЛЮД

Усё цягнула плямёны да яднання. І ворагі, і мова, і нават галоўная гандлёвая артэрыя — шлях «з варагаў у грэкі». Таму пачатак свядомай гісторыі будучых украінцаў, рускіх, беларусаў — адзіная дзяржава, Кіеўская Русь. Таму не буду я асабліва гаварыць пра гэты перыяд. Вучылі ж вы гісторыю СССР. Ведаеце, што тры Сафіі, тры сястры стаялі ў зямлі палян (Кіеў), зямлі крывічоў (Полацк) і зямлі славенаў (Ноўгарад), ведаеце, якія былі князі, як і з кім ваявалі. Ведаеце нават, што ў нас агульныя помнікі літаратуры, напрыклад, «Слова аб палку Ігаравым», і хто скажа, дзе нарадзіўся ягоны аўтар? У Ноўгарадзе? Але яшчэ А. Кіркор і У. Сыракомля ў мінулым стагоддзі спрачаліся наконт крывіцкіх і дрыгавічанскіх элементаў у «Слове». Ясна адно, што аўтар «Слова» быў чалавек

дужа бывалы. Да дробязяў ведаў тапаграфію ўсёй Кіеўскай Русі, аж да таго, што маці Божая Пірагошчая ў Кіеве стаіць над Борычавым узвозам і што ў Мінску цячэ невялічкая рэчка Няміга.

Для абароны ад сквапнага чужынца складалася гэтая агульная наша прадзяржава. І яшчэ больш умацавала яе прыняцце хрысціянства, а з ім і пашырэнне пісьменнасці, прычым не толькі сярод знаці, а і сярод народа. Калі раскопвалі Бярэсце (я ўжо казаў аб гэтым), знайшлі не толькі зрубы, маставыя з бярвення і іншае — прычым зберагліся яны куды лепей, нават чым у Ноўгарадзе,— а і такую, напрыклад, рэч, як грабеньчык, на якім былі выразаны літары кірылаўскай азбукі. Або ўспомнім берасцяную віцебскую грамату.

І, аднак, хрысціянства на тэрыторыі Беларусі доўга і ўпарта не прымалі. Магчыма, ненавідзячы асабіста князя Уладзіміра, што спаліў Полацк, забіў князя Рагвалода з сям'ёю, дачку ягоную ўзяў за сябе, а пасля, калі прывёз нявесту з Візантыі (з высокіх дзяржаўных меркаванняў), выселіў Рагнеду ў Ізяслаўль («вал Рагнеды», або «Гарыславы» паказваюць у Заслаўі і сёння). А можа, змагаліся за незалежнасць хатніх ачагоў, памяталі, што ваявода Воўчы Хвост учыніў разню ў зямлі радзімічаў; след гэтай разні збярогся ў бессэнсоўнай, на першы погляд, дражнілцы: «мсціслаўцы-недасекі (нашчадкі тых, каго не засеклі) ваўчынага хваста баяцца». А можа, праяўляўся і кансерватызм. Рэшткі язычаскіх вераванняў былі на Беларусі жывучыя, як нідзе. Нават у канцы XVIII ст. адзін святар даносіў у кансісторыю, што сяляне адной вёскі таемна трымаюць нейкага ідала.

І ўсё ж паўсюль пачалі трапляцца карчагі з надпісамі на баках, вераценныя праслі́цы,— надпісы тут часам не дужа пісьменныя, напрыклад: «бабино прясльнец» замест «прясльице»,— каменныя надпісныя крыжы і іконы, а то і камяні — помнікі эпіграфікі. Проста ў вадзе Дзвіны ля Полацка ляжыць камень з надпісам: «Господі помозі рабу своему Борісу». Або на камені, што ляжыць на полі ля Коханава: «В лето 6679 (1171 г.) месяца мая в 7 день доспен (высечаны) крест сий; господи помози рабу своему Василию в крещении именем Рогволоду, сыну Борису». Бачыў я та-

кія камяні. Дзіўны настрой ахоплівае ля іх чалавека, пачуццё прыналежнасці да гісторыі.

І ўсё ж дарэмна некаторыя лічаць, што пісьменнасць распаўсюджана была шырока. Спасылаюцца на бяросту «От Степана къ Нежилови. Оже еси продал порты (адзенне), а купи ми жита за 6 гривенъ. А ли цего еси не продалъ, а посли мне лицемь (гатоўкаю). А ли еси продалъ, а добро сътворя у купи ми жита». Кажуць, вось мужык, вось недарод, бедны, а пісьменны. Нішто сабе бедны, калі мае адзення на продаж больш як на 6 грыўняў. На 6 грыўняў тады можна было наняць чатырох наймічак тэрмінам на 6 год. Усё ж, мабыць, пісьменныя былі найбольш людзі грашавітыя.

Бяднейшыя жылі ў маладых яшчэ гарадах ці па вёсках, займаліся рамяством або аралі зямлю. Сеялі жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, грэчку (глупства гэта, што завезлі яе ў Еўропу арабы ў XV ст.; знаходзяць на Беларусі, скажам, у Гродні, зерні грэчкі значна ранейшага часу, дый сама назва звязана з «грэцкім жытам», з Візантыяй), боб, лён, гарох, каноплі. Палявалі, лавілі рыбу, выдзіралі пчаліныя борці. А вярхушка, вядома, ваявала, правіла, чыніла суд, жыла на дзядзінцы ў дамах, дзе муры распісаны былі шматкаляровымі фрэскамі, піла з прывазнога іранскага фаянсавага посуду ці са свайго, шклянога, гуляла ў шахматы (знойдзены фігуры), мела нават забаўкі, якія проста прыкрашалі дом.

У гэты час з'явіліся першыя пісьменнікі. Літаратура, створаная імі, гэта яшчэ рэлігійная, царкоўная літаратура: жыцця святых, паломніцкія падарожжы, царкоўныя казані. Але паглядзіце, як жыва гучыць, напрыклад, апісанне вясны ў Кірылы Тураўскага (XII ст.): «Сёння сонца красуяся да вышыні ўсходзіць і красуяся зямлю аграваe... Сёння... скончылася зіма і лёд... растаяў... Цяпер вясна красуецца, ажыўляючы прыроду зямную; бурныя ветры, ціха павяваючы, плады цалуюць, і зямля, гадуючы насенне, нараджае зялёную траву... Сёння навароджаныя ягняты... скачуць і, хутка да матак сваіх вяртаючыся, весяляцца. Сёння дрэвы парасткі выпускаюць і кветкі водарныя працвітаюць, і вось ужо сады струменяць салодкі пах... Сёння ўсе добрагалосныя птушкі... весяляцца... і, сваю кожная спя-

ваючы песню, славяць бога нямоўчнымі галасамі». Праўда, зусім як майскі вечар, калі адпачываюць людзі на прызбе ля хаты. Сады цвітуць. Дзеці бегаюць і кідаюць шапкамі ў хрушчоў або калоцяць іх з дрэў. Гэта і тады было так.

## І ПАЎСТАЎ РОД НА РОД І ПЛЕМЯ НА ПЛЕМЯ

Жукі і кветкі і дзеці былі такія самыя. Не такі быў толькі час. Час, калі дзяліліся людзі на смердаў і лепшых людзей, калі асветніца і, магчыма, самая разумная жанчына эпохі, Ефрасіння Полацкая, радасна, не бачачы ў гэтым ахвяры, ішла ў манастыр, калі, урэшце, пачаўся феадальны разброд, войны, у якіх адзін славянін павінен быў забіваць другога славяніна...

Страшна чытаць тагачасныя летапісы. Няма сваяка, бацькі, друга, брата — ёсць прэтэндэнты на ўладу. Князі грызуцца, як псы. Гэтым карыстаюцца ворагі. Міцкевіч піша пра гэты час:

Тым часам Мешка ў княскім замку седзеў:
Рвуць край правадыры,
а з-за мяжы — суседзі.
. . . . . . . . . . . . . . .
І адбіваўся стогн, што енчыў люд падданы,
Ад гарадскіх муроў, ад вежаў, ад паркана,
Калі ж і далятаў да княжаскага вуха,
То князь ім пагарджаў ці краем вуха слухаў.

*(«Мешка, князь Наваградскі».— пераклад мой.— Ул. К.)*

Былі ў гэтай барацьбе, што праўда, і свае героі, свае рыцары. Пра двух, што дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, гаворыць аўтар «Слова». Адзін — Ізяслаў сын Васількоў, які, пазваніўшы мячамі аб літоўскія шаломы, нерухома ўлёгся на крывавай траве, і па якім так сумна плакалі гародзенскія трубы.

Другі і ўвогуле асоба фантастычная, асоба-міф. Па дзёрзкасці, па здатнасці ўладна ўзяць рукамі ўдачу і не адпускасць яе. І вось што дзіўна. Усяслаў Полацкі шмат разоў ваяваў і з Ноўгарадам і з Кіевам, а аўтар «Слова» чамусьці не асуджае яго і толькі моліць яго нашчадкаў кінуць сваркі і ўсобіцы, каб вярнулася магутная слава Усяслава. Чаму? Можа, таму, што людзям заўсёды быў па сэрцы смелы, удатны, вя-

сёлы, сказаў бы я, авантурызм добрага толку. Той, калі ў прыгодах не шукаюць для сябе асабістай выгады, калі чалавек таленавіты нават у недахопах. Паздрадніцку ўзялі ў палон, кінулі ў цямніцу, а кіяўляне падчас паўстання вызвалілі яго, пасадзілі на «стол». Здавалася б, веліч, слава, сіла, ды яшчэ ў спалучэнні з мужнасцю, з талентам не абы-якога дзяржаўнага дзеяча. А ён у гэтай славе, у бязмерна багатым Кіеве... чуе, як ударылі званы Сафіі Полацкай. Мабыць, бачыць лясы, занесены снегам пасад, чуе ваўчынае выццё за весніцамі вёсак, лёд у вёдрах і калматы цень, што калыхаецца на сцяне.

І нічога ўжо яму не трэба. І ён скача лютым зверам «в плъночи из Белаграда... отвори врата Новуграду, разшибе славу Ярославу, скочи влъком до Немиги...».

Чарадзей. У ваўка можа ператварацца. З яго, мабыць, і пайшла цалкам даставерная («усё праўда») здольнасць найбольш спрытных і здольных беларусаў нібыта перакідацца ў ваўкалакаў, па сваёй ахвоце ператварацца з чалавека ў ваўка і наадварот.

## ЛІТВА.
## БЕЛАЯ РУСЬ

Насоўвалася бяда. З аднаго боку крыжакі, з другога — татара-мангольская навала.

І што з таго, што ад татар паўночна-заходнім, беларускім княствам удалося адбіцца, што ў першай бітве пад Крутагор'ем татарская цьма пабегла ад мячоў войска, якім кіравалі Скірмунт і Ракутовіч, што ад Слуцка іх адбіў Слуцкі князь, ад Крычава бязвеедамны Іванка, хутчэй за ўсё нават просталюдзін. Краіна знемагла. Вядома, на баку літоўцаў, па гэтай прычыне, была ваенная сіла, але затое яны і княствы беларускай тэрыторыі былі добра азнаёмлены адзін з адным.

Яднанне ўласна літоўскіх земляў (Жэмайцііі і Аўкштайцііі) з землямі беларускімі стала гістарычнай неабходнасцю. Рускія княствы былі захоплены татарамі, якія былі страшнай пагрозай для княстваў паўночна-заходняй Русі. З поўначы і Беларусі і Літве пагражаў Лівонскі ордэн, з захаду пагражаў тэўтон-

скі — страшная пагроза самаму існаванню як літоўцаў, так і славян.

Без яднання было не жыць. Без яднання заставалася толькі адно: знікнуць, згінуць, не пакінуўшы нават імя на твары зямным.

Дальнабачлівыя людзі з Беларусі, якія прагнулі спакою і парадку для пашматаванай, абяскроўленай роднай зямлі, не памыліліся. Нічога новага літоўцы не ўнеслі, акрамя жыццёва патрэбнай моцнай вярхоўнай улады, нічога не змянілі. Наадварот, праводзілі палітыку цярпімасці, асядалі на новай зямлі, жаніліся на славянках, прымалі хрысціянства. Ужо ў другім-трэцім пакаленні старабеларуская мова стала іхняй мовай, мовай суда, мовай дзяржаўных актаў. Як пазней мова стараўкраінская стала на поўную моц гучаць у актах, складзеных дзе-небудзь пад Кіевам. Урэшце, дзяліць адну ад другой у той час яшчэ цяжкавата. Была, праўда, розніца ў гаворках, але, мабыць, і не болей.

Яны, нешматлікія, растварыліся ў славянскім моры ва ўсіх мясцінах, куды прыйшлі. І толькі на землях, адкуль яны былі родам (у Жэмайціі і Аўкштайціі) засталася (і то пераважна сярод сялян, мяшчан і часткі дробнай шляхты) жывая літоўская мова. Як балгары прынеслі склавінам і антам толькі назву будучай дзяржавы, так і літоўцы: «Літва», «Вялікае княства Літоўскае».

На стварэнні Вялікага княства Літоўскага беларусы нічога не страцілі, хутчэй прыдбалі. Прынамсі, на першы час, да уніі. Пазбавіліся жудаснага татарскага і крыжацкага рабства, якое сушыла самы дух, зберагглі кнігу, навуку, родную мову ў судзе і дзяржаўных установах, законы на роднай мове і, прытым, больш дасканалыя, чым у многіх суседзяў.

Стварыўся баявы саюз, федэрацыя розных народаў.

У гэтай федэрацыі пачала складвацца ў XIII ст. асобная беларуская мова і сам беларускі народ.

Па тагачасных кнігах пра гэта не заўсёды скажаш. Чаму? Бо людзі тады пісалі па традыцыі, і таму на пісьме гэтыя новыя асаблівасці нашай мовы амаль не праяўляліся. Кніга не адлюстроўвала праўдзівага стану мовы. Мы ведаем, што людзі ўжо так гаварылі — толькі па іх досыць частых апісках ды па свя-

шчэнных кнігах беларускіх татар «Аль-Кітабах», якія пісаліся па-старабеларуску, але арабскім шрыфтам. А арабскі шрыфт мае літары *дз* і мяккае *ц* і іншае, і таму дае магчымасць аднавіць фанетыку беларускай мовы ў тыя часы, дае ключ да чытання кніг і рукапісаў, пісаных кірыліцай.

Увогуле ж усходнеславянскія народы пісалі тады амаль аднолькава, хаця гаварылі па-рознаму. Таму аддзяліць нашы тагачасныя літаратуры вельмі цяжка. Хто такія былі славутыя друкары браты Мамонічы, што выдалі ў XVI ст. столькі кніг і для Беларусі і для Украіны? Хто быў Мялеці Сматрыцкі, пісьменнік і грамадскі дзеяч (1572—1630 гг.), што нарадзіўся на Падоллі, а вучыўся і працаваў у Вільні? Гэтага амаль немагчыма вызначыць. Гэта толькі зрэдку ў тыя гады і нават часам пазней можна было вызначыць, што вось друкар-асветнік Францішак Скарына і паэт Сімяон Полацкі — беларусы, а, скажам, Іван Вішанскі — украінец, Пятро Мсціславец — беларус, і, хутчэй за ўсё, або вучань, або вучань вучня Скарыны, а Іван Фёдараў — рускі. Хіба друк з Беларусі не перакінуўся ў дзяржаву Маскоўскую, а адтуль — калі фанатыкі спалілі друкарню Фёдарава і Мсціслаўца — назад, на Беларусь, разам з уцекачамі, а пасля — на Украіну. Хіба палымяная публіцыстыка Вішанскага, яго пякучы сарказм не далятаў на Беларусь, хіба яго тут прагна не чыталі? А хіба Сімяон Полацкі не вучыўся ў Кіева-Магілянскай Акадэміі? Хіба кнігі Скарыны не ведалі на Украіне і ў Расіі?

## НЯЗМЕРНА ЦЯЖКІЯ ЧАСЫ

З цягам часу ўсё больш і больш праяўляюцца дзве плыні. Першая — рост феадальных павіннасцяў і ўрэшце канчатковае заняволенне значнай часткі беларускага сялянства. Другая — узмацненне барацьбы між каталіцызмам і праваслаўем на землях беларускіх.

Першае ішло ад таго, што дзяржава рабілася гандлёвай, што ў Заходняй Еўропе бурна развівалася прамысловасць, і там узрастаў попыт на пяньку, лён, хлеб, лес. Магнаты павялічвалі плошчу палёў, патрэбны былі рукі. У 1557 годзе была праведзена рэформа так званай «валочнай памеры». Зямлю падзялілі на

«валокі» (21,3 га), за кожнай валокай замацавалі «дым», адну гаспадарку. За карыстанне валокай, адпаведна якасці і колькасці (можна было мець і больш за валоку зямлі, «дым» адрабляў пэўныя павіннасці. На захад пацягнуліся абозы, паплылі караблі з плёнам сялянскіх рук. Раскоша пануючых усё ўзрастала. Ніводны сучасны чалавек не згадзіўся б жыць так, як жыў нейкі там Наваградскі князь у пачатку XIII ст. Вільготныя голыя муры, камяніцы, лавы, укрытыя шкурамі, ложак — рэдкасць, грубыя сталы, некалькі крэслаў, іконы, пара скрыняў,— і што з таго, што на стайні шмат коней, што ў куфрах трапляюцца срэбныя рэчы, што вопратка з каштоўных футраў... А пасля — унутры муроў і веж — палац, у якім сцены абабіты шоўкам, мэбля — аксамітам, вярхі веж — ліставым золатам. На чалавеку парча, пярсцёнкі коштам у гадавую працу вёскі, залатыя ланцугі з медальёнамі, зброя, усыпаная каменнямі, якім няма цаны. За прамысловасць, за ўзбагачэнне, за раскошу плаціць мужык. Але не толькі плаціць, але і паўстае.

...У той жа час пачаліся сутычкі паміж каталікамі і праваслаўнымі. Тэўтонскі ордэн усё яшчэ пагражаў, рабіўся мацнейшы. Трэба было шукаць з кімсьці саюзу. Народ, мяшчане, купецтва былі за саюз з Масквой. Блізкія мовы, адна вера. Але Масква ў той час яшчэ плаціла дань татарам. Нават пасля Кулікова поля, аж да «стаяння на Угры» (1480 г.), калі да Івана III падыходзілі падмацаванні, а да хана Ахмата не падышла падмога ад караля Літвы і Польшчы Казіміра IV, не падышла, дарэчы, таму, што супраць караля ўзняўся бунт беларускіх праваслаўных князёў: дапамогшы Маскве, самі яны паплаціліся галовамі, а край яшчэ больш падпаў пад уплыў каталіцызму.

Дык вось, значная частка магнацтва лічыла, што Масква далёка, а ордэн блізка, і трэба заключыць саюз з Польшчай, а значыць, і прымаць тую самую веру, што там. А тут яшчэ й бунты, змовы, нават буйныя, беларускіх праваслаўных феадалаў (змова М. Глінскага, з узяццем Турава і Мазыра, нападам на Слуцкія і Капыльскія землі —1506 г.).

Так з Польшчай у замку Крэва ў 1385 г. была заключана унія. Папа падтрымліваў караля Ягайлу і ўзяў з яго слова перавесці ў каталіцтва беларусаў і ўкраінцаў. Унія дапамагла зваліць крыжакаў, але

яна ж нарадзіла стагоддзі барацьбы ўкраінцаў і беларусаў з акаталічваннем і была адной з прычын, якая ўрэшце прывяла да заняпаду, а пасля і да падзення Польшчы. Бачыце, як яно ў гісторыі — торгні нават за самую нязначную, здавалася б, нітку, і неадменна яно адгукнецца. Не сёння, дык праз трыста год.

Думка аб уніі, як на добрых людзей, дык была і някепская. Нашто, сапраўды, рэзаць адзін аднаго за тое, што казак Підапрыгара і магілёўскі мешчанін Раман Дзевачка хрысцяцца двума пальцамі, а шляхцюк Пшыпшэцкі — пяццю. Глупства! Але за вонкава добрай ідэяй рэлігійнага міру,— дбаннем ваўкоў, што стаялі над народамі,— людзей паўсюль чакала рабства, зняверанне, страта мовы, прагная лютасць блізкіх і далёкіх суседзяў.

Змаганне было лютае з абодвух бакоў і часам ледзь не пераходзіла ў рэлігійную вайну. І гэта не быў фанатызм. Беларус не фанатык, і нават у той час яго адносіны з небам былі досыць фамільярнымі і іранічна сяброўскімі. Вось дужа старая легенда. Сустрэліся дзве бабы:

— Куды ідзеш, кума?

— Іду ў касцёл закупіць імшу (абедню) на свайго лютара (аспіда, змея, каіна,— маецца на ўвазе муж).

— Ды ты, кума, глядзі не памыліся, не закупі імшы ў пана Езуса; яны мужыкі, гады, усе аднолькавыя — адзін за аднаго, як цыган за цыгана, цягнуць. Глядзі не памыліся ды закупі імшу ў маці боскай. Яна баба, яна ўсё зразумее.

Гэта быў не фанатызм, гэтыя сутычкі і гарадскія бойкі, а абарона чалавечай годнасці.

Грунвальд знішчыў агульнага ворага славян, але ў княстве ўсё і далей ішло па-ранейшаму. Занадта далёка зайшлі. Панства было на тры чвэрці акаталічана, ганарылася «вышэйшай культурай» (а між тым, судзілася, нават у Польшчы, законамі, пісанымі пабеларуску), звала сялян быдлам. Барацьба цягнулася.

Кіраўніцтва гэтай барацьбой узялі на сябе брацтвы. У брацтва плацілі ўзносы і шляхціц і селянін (прычым, унутры брацтва першы не быў вышэй за другога). Яны будавалі друкарні, клапаціліся аб асвеце, заводзілі для дзяцей школы на роднай мове, падтрымлівалі прапаведнікаў і пісьменнікаў, якія

стаялі за іх. Так спляліся ў адно эканоміка, рэлігія, мовы (шляхціц-эксплуататар, каталік, найчасцей «памяк»; селянін і гараджанін — прыгнечаны, праваслаўны, «беларус»). Але былі праваслаўныя шляхціцы і каталікі-сяляне.

І вось народ, раздзёрты на дзве паловы, зубамі рваў брата па крыві.

Адны марылі голадам — другія паўставалі. У тыя гады асабліва ўзмацнела дружба між Украінай і Беларуссю. Нашы сяляне тысячамі ўцякалі на Сеч. Усім вядома, што нянавісць просталюдзіна да чужынца-пана вылілася на Украіне ў такі заядлы рух, як казацкі, што скончыўся патрасеннем Рэчы Паспалітай і адпадзеннем Украіны. На Беларусі такога не было. Не было такой вайсковай арганізацыі, як Сеч, што «трэніравалася» валодаць шабляй, рушніцай, воінскім строем на крымчаках, што заўсёды была пры зброі, заўсёды магла выбухнуць бунтам — паспрабуй толькі яе зачапі. Беларус быў у той час звычайны «грэчкасей», рамеснік ці купец. Яму не было куды ўцячы і гадамі рыхтавацца да воінскай прафесіі, да сур'ёзнай барацьбы. Але гэтыя тысячы ўцекачоў на Запарожжа ўлівалі ў жылы казацтва нямала свежай крыві, ваявалі смела, часта выслугоўваліся да палкоўнікаў (Міхал Крычаўскі і інш.). Але як толькі на Беларусі пачыналася паўстанне — казацкія загоны прыходзілі на дапамогу. І любы выбух на Украіне аддаваўся пажарам на Беларусі. Кінуць сілы, а ў тыле панскіх войск успыхвае сялянскі рух. Вось некалькі прыкладаў.

1590 г. Атаман Мацюшка Гультай напаў на Магілёў. Ягоны загон аброс сялянамі, як снежны камяк. Маёнткі і палацы былі выпалены. Атрад узяў Быхаў і выбіў там растаўшчыкоў, арандатараў і шляхту.

1595 г., кастрычнік. Тысяча Севярына Налівайкі прыходзіць на Беларусь, знянацку бярэ Слуцк, а ў ім здабычу, зброю і 12 гармат. Праз некалькі дзён у Налівайкі ўжо дзве тысячы коннікаў і пяхоты. Каля Слуцка яны рассейваюць гарматным агнём шляхецкае войска. Прыціхлыя было пасля «Мацюшынай вайны», сялянскія бунты зноў успыхваюць «аж да Мінска». 30 лістапада 1595 г. узяты Магілёў, пабіты «баяры і ўчцівыя людзі», выпалены «крамы з вялікімі скарбамі».

У сярэдзіне снежня падыходзіць гетман літоўскі, у яго 18 000 войска. Паўстанцы адбіваюцца. З лагера, пасля, агрызаючыся, адыходзяць. Ім няма чаго губляць, б'юцца яны шалёна. Ясна, што ісці за паўстанцамі няма карысці. Налівайка бярэ Рэчыцу, ідзе на Пінск і з дзвюма тысячамі войска адыходзіць на Украіну.

1601—1602 гг. Тое самае з атрадам Дубіны. Напад на Віцебск. Шляхце і гарадскім «лепшым людзям» удаецца захапіць у палон Дубіну і яго паплечнікаў — казакаў і сялян,— вывесці на «Заручайскія валатоўкі» і там пасадзіць на кол.

Бунт за бунтам. 1584 год — паўстанне ў Полацку. Не хацелі грэгарыянскага календара, па якім зараз жывём мы, «бо ён каталіцкі». Грамілі панскія дамы.

1606 г. Польская інтэрвенцыя ў Масковіі. Патрэбны грошы. Прэс падаткаў цісне, як ніколі. Гарадская рада Магілёва так злоўжывала сваім становішчам, так крыўдзіла народ, што горад паўстаў, разагнаў раду і заняў ратушу. Кіраваў паўстанцамі рамеснік Стахор Мітковіч. Новыя раднікі — каваль, кравец, збраяр, ганчар, чабатар, калачнік. Чатыры гады цягнулася барацьба. У 1610 годзе Сігізмунд III задушыў паўстанне. Кіраўнікоў павесілі на Ільінскай гары.

1616 — пад Глускам сяляне разбілі полк пана Сянкевіча.

1623 — паўстаў Віцебск. Біскуп Іясафат Кунцэвіч, сілком насаджаючы «унію», кідаў людзей у турмы, выкопваў трупы праваслаўных з магіл і кідаў сабакам, рабаваў, ездзіў па ўсім наваколлі, зачыняючы цэрквы. Аршанцы не пусцілі яго, ледзь не ўтапілі ў Дняпры. Магілёў запёр брамы, выцягнуў на вал гарматы і сказаў, каб «душахват» каціўся адсюль, калі не хоча атрымаць пяціфунтовае ядро ніжэй спіны. Асаблівай патрэбы ў такім набытку біскуп, па ўсяму відаць, не адчуваў, бо зматаў вуды.

12 лістапада 1623 года чаша перапоўнілася. Ударыў набат. Жыхары Віцебска і добраахвотнікі з Оршы, Полацка, Вільні і Магілёва, а таксама сяляне навакольных вёсак перабілі біскупскую гвардыю, уварваліся ў дом Кунцэвіча, знявечылі і забілі біскупа, працягнулі труп за ногі па горадзе і кінулі ў Дзвіну. Прыйшло войска. Паляцелі галовы ў дваццаці ўдзельнікаў паўстання.

Як вы заўважылі, паўставалі пераважна гарады. Горад, «паветра якога робіць вольным», асабліва адчуваў на сабе феадальныя ланцугі. Менавіта ў ім нараджалася беларускае Адраджэнне, гуманізм, пісьменнасць, філасофія, літаратура.

Самай выдатнай фігурай Адраджэння быў Франциск Скарына (каля 1490— і каля 1550 гг.), сын купца з Полацка. У чатырнаццаць год ён, дабраўшыся да Кракава, паступае там ва універсітэт. У 1506 г. атрымлівае ступень бакалаўра. Пасля няўтомны беларус дабіраецца да Італіі і там, у Падуанскім універсітэце, атрымоўвае ступень «у лекарскіх навуках доктара». У 1517 годзе Скарына ў Празе. Там ён пачынае сваю друкарскую дзейнасць: за тры гады выдае 22 кнігі «Бібліі», перакладзенай ім на беларускую мову. Гэта першы пераклад гэтай кнігі на жывую мову жывога народа. Пераклад Лютара на нямецкую мову дарэмна карыстаецца славай першага. Яго «Новы запавет» з'явіўся толькі ў верасні 1522 года, а ўся «Біблія»— у 1534 годзе.

З 1525 года Скарына друкуе кнігі ў Вільні, якая на працягу многіх стагоддзяў была культурнай сталіцай Беларусі і Літвы. Тут выйшлі яго «Апостал» і «Малая падарожная кніжыца».

Гэтыя кнігі былі сродкам для пашырэння пісьменнасці, асветы, культуры. Яны даводзілі, што наша родная мова не горшая за іншыя. Скарына верна і аддана служыў свайму народу, быў гуманістам, адукаванейшым чалавекам свайго часу і змагаром за родную культуру і мову, мастаком (ёсць меркаванне, што гравюры для сваіх кніг ён рабіў сам, і гэтыя гравюры паказваюць славянскія сцэны, тыпы, вопратку, архітэктуру). У прадмовах да кожнай кнігі ён не стамляўся клікаць да ведаў, казаў, што нельга выкупіць грахі, ахвяруючы царкве, што не той хрысціянін, хто так завецца, а той, хто любіць людзей. Казаў, што трэба быць памяркоўным да ўсіх народаў і вер, бо ўсе маюць права на месца пад сонцам, а таму і мова беларуская нічым не горшая за латынь. У «Бібліі» Скарына бачыў крыніцу свецкіх ведаў, а пераклад яе стаў узорам беларускай літаратурнай мовы XVI ст. Прадмовы ягоныя і зараз чытаць дужа цікава. Аб мудрасці,

якая ў кнізе «як ядро ўв арэху». Аб любві да радзімы: «Пакольку ад нараджэння звяры, хадзячыя ў пустыні, знаюць ямы свая, птушкі, лятаючыя па паветры, ведаюць гнёзды свая, рыбы, плаваючыя па моры і ў рэках, чуюць віры свая, пчолы і тым падобныя бароняць вулляў сваіх, такаж і людзі, ігдзе зрадзіліся і ўскормленыя суць па бозе,— да таго месца вялікую ласку імаюць».

Скарынава «Біблія» была на ўзбраенні брацтваў на Беларусі і Украіне. Нядаўна, напрыклад, адзін экземпляр яе знайшлі ў Ужгарадзе. Ясна, што чыталі.

Паслядоўнік Скарыны, беларус Пётр Мсціславец, разам з дзякам Іванам Фёдаравым праз некалькі дзесяткаў год выдаў у Маскве «Апостал». У 1574 г.— «Апостал» выходзіць у Львове. Выдаюцца кнігі ў Заблудаве, у Вільні ў друкарні Мамонічаў.

...З'яўляюцца новыя асветнікі, перакладчыкі кніг на родную мову, пісьменнікі, філосафы.

Такія, як Сымон Будны (1530—1593 гг.), аўтар асветніцкага беларускага «Катэхізіса», выкрывальнік распусты паноў і духавенства. Вось урыўкі з яго другога, парадыйнага «арыянскага катэхізма».

Пытанне. Яко мае жыці чалавек?

Адказ. Жыві, яка хочаш... А калі трапіш у пекла, дык не сам адзін, а з вялікім гуфам (атрадам), і будзе табе весела.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Пытанне. Што то ест імша?

Адказ. Імша ест то амерзлы богу парадак, у каторым папы другі раз Ісуса Хрыста крыжуюць.

Пытанне. Што то ест папеж (папа рымскі)?

Адказ. Папеж ест то антыхрыст белы; чорны бо ведае пекла, а гэты на сорам наш царквою правіць.

Буднага праследавалі, катавалі, здаралася яму і адракацца, як Галілею. Але і пасля адрачэння ён выдаў шмат кніг, перакладных і ўласных, у тым ліку гнеўную кнігу-пратэст супраць Варфаламееўскай ночы ў Францыі.

Васіль Цяпінскі (1540—1603 гг.), які адмаўляў тройцу і лічыў Хрыста звычайным чалавекам, казаў, што смяротны не мае права на ўладу над другім смяротным. Адмаўляў дзяржаўную ўладу і ўдзел у вайне (акрамя справядлівай, абарончай).

Цяпінскі пераклаў на беларускую мову і надрукаваў «Евангелле». Уклаў усю сваю ўбогую маетнасць на ўратаванне народа ад невуцтва, забабонаў, цемры.

Пісаліся сатырычныя «прамовы», якія парадзіравалі прамовы на сеймах («Прамова Мялешкі»), перакладныя аповесці і сказанні («Кніга аб Таўдалерыцары», «Аповесць аб Троі», «Александрыя», «Тры шчан і Ізота», «Гісторыя спраў Атылы»), пісаліся цікавыя хронікі. Ствараліся студэнтамі драмы з камічнымі народнымі ўстаўкамі, у якіх дзейнічае селянін, яго жонка, студыёзусы, лекар-шарлатан, маскаль, лях, яўрэй, чорт. Мужык заўсёды выходзіць тут сухі з вады, нават калі звяжацца з чортам.

З'явілася і паэзія свецкая. Вось верш Яна Пашкевіча аб «русчізне» — беларускай мове.

Полска квітнет лаціною,
Літва квітнет русчізною.
Без той в Полсце не пребудзеш,
Без сей в Літве блазном будзеш.

. . . . . . . . .

Веселі ж се ты, Русіне,
Тва слава нікгды не згіне!

*22.VIII 1621 г.*

І, вядома, вяршыня старабеларускай паэзіі, Сімяон Полацкі (Самуіл Емяльянавіч Пятроўскі-Сітніяновіч — 1629 — 1680 гг.), паэт, публіцыст, драматург.

Вучыўся ён (з 1640 г. па 1650 г.) у Кіева-Магілянскай Акадэміі, пісаў вершы спачатку па-беларуску, «пісах вначале по языку тому, і же свойственный бе моему дому», часам па-польску і ўдзельнічаў у напісанні школьных драм у Кіеве. Пасля таго як вымушан быў пераехаць у Маскву — стаў роданачальнікам рускай паэзіі. Быў там выдатным асветнікам і педагогам. Заклаў асновы рускага вершаскладання, выпеставаў школу рускіх паэтаў (К. Істомін, П. Буслаеў, С. Мядзведзеў). Увёў у Маскве само паняцце «тэатр», пісаў п'есы. Ад іх пачынае хутка набіраць сілу руская драматургія. Спачатку, пры цары Аляксеі, пастаноўка асобных п'ес, а пры Пятру I — тэатр як такі. Гарачы паборнік свецкіх навук і зблiжэння з прагрэсіўнымі сіламі Еўропы, ён падрыхта-

ваў глебу, на якой ужо не такімі дзіўнымі з'яўляліся спачатку думкі В. Галіцына аб тым, што нельга жыць, адгарадзіўшыся ад свету, а пасля і рэформы Пятра.

«Заходняя Русь,— як кажа вядомы вучоны І. М. Галянішчаў-Кутузаў[1],— была месцам канцэнтрацыі ...перадатчыцай заходняй літаратуры (на Маскоўскую Русь.— *У. К.*) на працягу доўгага часу; яна была таксама лабараторыяй расійскага верша».

...Літаратура таго часу была сінкрэтычнай, непадзельнай ад грамадскай справы. І гістарычная літаратура, і допісы (г. зн. данясенні) памежных ваявод і старостаў, і летапісы, палемічная літаратура. І, ясна, што аўтары за тое, што занадта рэзка змешвалі пытанні рэлігіі, літаратуры і палітыкі, часта зазнавалі катаванняў, а то і смерці. Напрыклад, Афанасій Філіповіч (каля 1597—1648 гг.), палеміст, вораг магнатаў і абаронца простага люду, быў па абвінавачанні ў «пасыланне якіхось лістоў і порах да казакаў» Хмяльніцкага расстраляны гайдукамі ваяводы Масальскага ў лесе ля вёскі Гершоны. У ноч на 5 верасня 1648 года.

Усё гэта, усе гэтыя спрэчкі і нянавісць ясна казалі аб тым, што набліжаецца выбух.

## СЯЛЯНСКАЯ ВАЙНА

...Так, ужо і сапраўды набліжаўся выбух, набліжалася Хмяльніччына. Яшчэ да яе зямля беларуская глуха здрыгалася. Бунты ішлі адзін за адным. Калі пасля бітвы пры Жоўтых Водах (6 мая 1648 г.) устала не толькі казацтва, але і ўкраінскае сялянства, украінскія гараджане — выбух адразу перакінуўся на Беларусь. Зямля запалала. Першы, летам 1648 г., нібы на разведку, прыбыў атрад шляхціца Галавацкага са Старадубскім апалчэннем. Загон гэты за колькі там дзён павялічыўся ў некалькі разоў, расшматаў панскае войска пад Гомелем і Брагінам і адышоў да Старадуба. Казакам стала ясна: ідзіце. Не толькі не будзе ніякага супраціўлення з боку

[1] И. Н. Голенищев-Кутузов. Гуманизм у восточных славян. М., 1963.

беларускага народа. Наадварот. Кінцe ў гэтую атмасферу гневу і нянавісці адзін, хай сабе маленькі атрад — устануць палкі.

І пайшло. Праз пару месяцаў пачалі прыходзіць атрады. Нябаба, Міхненка, Крывашапка, Гаркуша, Мікуліцкі, Паддубскі і іншыя. Няма сумнення, што як сярод казакаў, так і сярод ватажкоў былі колішнія беларусы-ўцекачы, якіх цягнула на паняволеную радзіму.

Пад восень 1648 г. паўстала дзевяць дзесятых тэрыторыі Беларусі. Узніклі і чыста сялянскія мясцовыя войскі. Напрыклад, Мурашкі — на Міншчыне, дзе сяляне пабілі і разагналі войска Паца. Паны ўцякалі ў замкі і гарады, у Польшчу. Перад паўстанцамі адкрылі брамы Пінск, Брагін, Гомель, Лоеў. Вайна стала агульнанароднай, бо на тым раннім яе этапе ў шэрагі паўстанцаў уліліся праваслаўныя феадалы Беларусі, духавенства, гарадскія раднікі. Беларусь вызвалілася. І тут на лёсе паўстання адбілася тое, што ў яго не было галавы, якая б думала, што трэба ісці далей, дабіваць. Выгналі — і ладна. Панству ўдалося сабраць войска. Даведзеныя да поўнага адчаю і ярасці стратай улады і маёмасці, магчымасцю страціць жыццё, жахам і нянавісцю да гэтага народнага мора, яны былі вымушаны цяпер біцца, як ніколі датуль. На чале іх стаў польны гетман Януш Радзівіл, аб якім польскія гісторыкі кажуць, што ён «укрыў плямамі род Радзівілаў», дабаўляючы ў якасці няпоўнага суцяшэння «Ale nie tylko jeden Janusz» (але не толькі адзін Януш). Фарміруюць войскі. Наймаюць атрады шведаў, немцаў, венгерскую конніцу, швейцарскую пяхоту. Пачынаецца зацятая, апошняя барацьба. Разбіты Пац і Горскі, але казакаў і сялян адкінулі ад Слуцкай крэпасці. Паўсталі рамеснікі Пінска, перабіўшы паноў. Войска пад началам Мірскага рушыла на іх, і тады жыхары паклікалі на дапамогу навакольных мужыкоў і атрад Нябабы. Уцякач, войт Ельскі, паспрабаваў узяць горад сам, але паўстанцы, адступаючы, завабілі яго войска ў засаду, пад муры езуіцкага касцёла, расстралялі з байніц, ударылі ў тыл, сцёрлі ў парашок. Узніклі завалы, барыкады. Жыхарам абяцалі літасць, калі яны выдадуць казакаў. «Згінем, але не выдадзім» — быў адказ. Пачаўся штурм, страшны сваёй

лютасцю і бязлітаснасцю. Біліся муры, пасля — вуліцы, пасля — асобныя дамы. Горад тады падпалілі. Нябаба вырваўся з яго, але быў прыпёрты да дрыгвы. Загон ягоны біўся цэлы дзень і згінуў да апошняга чалавека.

А ў Пінску ўсё яшчэ ішлі сеча, разня і забойства, якое не літавала нікога. Згарэла 5000 дамоў, загінула больш за 3000 чалавек.

Панскае войска яшчэ раней разбілі пад Рэчыцай і Рагачовам, Гаркуша штурмаваў Быхаў. Палкі Паца былі разгромлены пад Ігуменам. У студзені жыхары Смалявіч біліся з двума нямецкімі палкамі Данавая і загінулі ў бітве. Але пасля сяляне і казакі знішчылі ля Мінска абодва палкі. Уцякло 20 наймітаў і Данавай з сынам. Не больш.

Усё войска Радзівіла рушыла на Тураў — Мазыр — Рэчыцу. Ім трэба было раздушыць Беларусь і пасля нанесці ўздоўж Дняпра ўдар у фланг і тыл Хмяльніцкага. Першы, пасля лютага супраціўлення, загінуў Тураў (ён і зараз невялічкае мястэчка, амаль вёска). Жыхары Мазыра не збаяліся і вырашылі стаяць насмерць: аблілі вадою валы і ператварылі іх у лёд, пабудавалі за мурамі яшчэ і ледзяныя барыкады. Доўга ішоў абстрэл горада. Ён запалаў. З усіх бакоў пайшлі на прыступ карнікі. Невялікі атрад Міхненкі і гараджане біліся з нязломнай мужнасцю, адбілі некалькі прыступаў. Але сілы былі няроўныя. Найміты і паны ўварваліся ў Мазыр. Зраненага Міхненку скінулі з самай высокай вежы на абледзянелыя камяні вала. Туды ж пайшлі тыя, хто прыдумаў «ледзяную крэпасць», мясцовыя верхаводы. Астатніх пасеклі шаблямі.

Баловіч быў разбіт казацкім і сялянскім атрадам Паддубскага пад Бабруйскам. Радзівіл папрасіў караля аб дапамозе і атрымаў ад яго 10 000 конніцы і пяхоты, а тады прыйшоў на дапамогу Валовічу. Здрада крочыць нават праз самыя высокія муры. Гарадская вярхушка ўпотай адкрыла браму. Абаронцы загінулі ў баі. Паддубскі быў пасаджаны на кол.

А пасля было перамір'е, якое панства выкарыстала для расправы. І, аднак, калі ў 1649 г. прыйшоў з казакамі Ілля Галота (у яго было 10 000 чалавек, а праз пару тыдняў ужо 30 000), разбіў Радзівіла — краіна зноў узнялася. Пасля прыйшоў Сцяпан Пад-

байла. А пасля на дапамогу яму рушыў з Украіны 15-тысячны атрад казакаў і беглых сялян, на чале якога стаяў асабісты сябар Багдана, адзін з лепшых яго военачальнікаў і блізкіх саратнікаў, беларус Міхал Крычаўскі, у той час пераяслаўскі і кіеўскі палкоўнік. Пачалася шматдзённая сеча. Спачатку ў полі, пасля за ляснымі засекамі. Прыкры выпадак дапамог амаль разбітаму Радзівілу: кавалерыя, пасланая ім адрэзаць Крычаўскаму шлях з Украіны (палкоўнік падмануў іх і абышоў), не знайшла яго, заблукала і... выйшла невядома як у левы фланг ватажка. Падбайлу, які спяшаўся на дапамогу, адкінулі да Дняпра. Уначы паўстанцам удалося таемна вылезці з завалаў і знікнуць праз лясы і балоты. Адзін маленькі атрад панству ўсё ж удалося дагнаць: тыя не маглі бегчы, везлі на возе ўсяго зраненага ва ўчарашняй сечы пераяслаўскага палкоўніка. Супраціўляліся шалёна. Крычаўскі, лежачы, страляў па нападаючых. Пасля выйшлі набоі, а казакі і сяляне, што біліся да апошняга, ляжалі вакол, паселяныя. Здзіўлены смеласцю Міхала, Радзівіл прапанаваў яму пераход на службу. Крычаўскі плюнуў і раструшчыў сабе галаву ўдарам аб куты жалезам задок воза.

Яшчэ год, патанаючы ў крыві, успыхвалі паўстанні. Жыхары Гомеля, Мсціслаўля, Чачэрска, Прапойска і іншых гарадоў і ў 1651 годзе не далі Радзівілу прарвацца ў тыл Хмяльніцкаму, які наступаў. У ярасці гетман Літвы Януш Кішка сказаў: «Усіх беларусцаў і з існымі людзьмі перабіць». Запусцелі цэлыя вобласці, і толькі тады ўлетку Радзівілу, нарэшце, удалося ўварвацца на Украіну.

А пасля Берасцечка, Белацаркоўская ўмова, а потым вайна войск цара Аляксея з Польшчай. І ўсякае ліха, і шведскі патоп, і мір з Польшчай.

Гераізм гэтай сялянскай вайны і дагэтуль захапляе нас, але быў і адваротны бок медаля: спусташэнне, захірэнне гарадоў, здратаваныя палі. Што зробіш, па нашай прыказцы «бяда толькі рака красіць».

...Калі вы прыйдзеце ў Кіеве на плошчу перад Сафіяй і станеце перад помнікам Хмяльніцкаму — успомніце, дарэчы, не толькі тыя часы, але і тое, што помнік той рабіў беларус, Міхал Мікешын. Аўтарскі праект, які палічылі дарагім (літая мадэль яго ёсць у

мінскім мастацкім музеі), прадугледжваў пад капытамі гетманскага каня пана і езуіта, а вакол п'едэстала постаці кабзара, рускага мужыка, казака і беларускага селяніна.

Па-мойму, усе яны заслужылі гэта права сваім гераізмам.

## НАВАЛА. АБНАЎЛЕННЕ. ПАЎСТАННІ

Сувязі народаў не губляліся і праз мяжу, што падзяліла іх пасля Пераяслаўскай рады. Беларусь была прыдушана, але па-ранейшаму яе майстры высока цаніліся на будоўлях Масквы і Варшавы.

Па-ранейшаму здабывалі ў Кіеве асвету беларускія хлопцы, а напрыклад, такі з іх, як Тарасевіч, чалавек родам з-пад Глуска, пастрыгшыся на Украіне ў манахі, стаў у XVII ст. заснавальнікам украінскай графікі.

А Шведская вайна! Бітву пад Лясной, на Магілёўшчыне, дзе разбілі корпус Левенгаўпта, Пётр назваў «маці Палтаўскай перамогі». Мне давялося адным летам пабываць і там і там. І хаця зусім непадобныя былі маленькая лясная вёска і Палтава з велічнымі яе дамамі, зялёнымі вуліцамі і лілова-чорнымі ад раздушанай шаўковіцы тратуарамі. І хаця сціплае поле пад Лясной з невялікай капліцай і каменем на брацкіх могілках нічым не падобна да Палтаўскага поля з безліччу яго помнікаў — было тут і агульнае: успамін аб вялікай бядзе, кроў самаахвярнасці, уздых палёгкі, што бяду гэтую ўсё ж звалілі. Ідзеш па нашых землях, і вось паўсюль «шведскія камяні», «шведскія сосны» пад Любчай, сапраўдныя сведкі колішняй бітвы. І там жа ўрочышча «Калюгі» (калоліся штыкамі) і «Пярэстань» (бо зрабілі перамір'е).

...Спустошаная зямля паступова ажывала працаю простых людзей. Хаты, вядома, не прыкрашаліся, прыкрашаліся маёнткі. Узнікалі выключныя па прыгажосці палацавыя комплексы. Але ўжо і каля іх з'яўляліся мануфактуры і заводы, пакуль што яшчэ панскія, на прыгоннай працы. Мануфактуры Тызенгаўза ў Гродні, ліцейны завод Храптовіча ў Вішневе, суконныя і шкляныя фабрыкі, выганка дзёгцю,

смалы, шкіпінару, выдатнае Урэцкае і Налібоцкае шкло, посуд з якога зараз цэніцца ледзь не на вагу золата. Мастацкае ткацтва, выраб дываноў, кераміка, мастацкія кафлі, неацэнны Целяханскі фаянс. І, вядома, вяршыня ўсяго: слуцкія тканыя паясы, шырокія, «літыя», с залатых, срэбных і шаўковых ніцяў. Затканыя ўзорам «пад персідскі», але ва ўзор гэты ўплятаюцца звычайныя нашы лісты і кветкі: валошкі, рамонкі, званочкі. Зараз такіх паясоў, зробленых у Слуцку, мала. Яны цэняцца на сантыметры. Кожны сантыметр каштуе шмат рублёў. Але справа не ў рублях. Золата гэтых паясоў — гэта золата рук сялянскіх ткачоў і ткачых. Паэт Багдановіч напісаў верш пра слуцкіх прыгонных ткачых.

Ад родных ніў, ад роднай хаты
У панскі двор дзеля красы
Яны, бяздольныя, узяты
Ткаць залатыя паясы.
І цягам доўгія часіны,
Дзявочыя забыўшы сны,
Свае шырокія тканіны
На лад персідскі ткуць яны.
А за сцяной смяецца поле,
Зіяе неба з-за акна,—
І думкі мкнуцца мімаволі
Туды, дзе расцвіла вясна;
Дзе блішча збожжа ў яснай далі,
Сінеюць міла васількі,
Халодным срэбрам ззяюць хвалі
Між гор ліючайся ракі;
Цямнее край зубчаты бора...
І тчэ, забыўшыся, рука,
Заміж персідскага узора,
Цвяток радзімы васілька.

Цягнуцца да неба гарадскія ратушы, бо нараджаецца новая сіла. Узнікаюць палацы, такія комплексы, як палац у Ружанах, будынак, лепшы за які цяжка сабе ўявіць, калі глядзіш на яго, бо аб астатніх у гэты момант забываеш. З'яўляецца свецкі жывапіс, высокага майстэрства гравюры. Некалькі жывапісных школ (самая славутая — магілёўская). Агінскі канал злучае Чорнае мора з Балтыкай.

І, аднак, усё гэта на знемагаючых спінах народа. Пачашчаюцца зноў паўстанні. Самае вялікае — у Крычаўскім старостве. 1740—1744 гг. Так, чатыры гады цягнулася яно. На чале — гандляр воскам Васіль

Вашчыла, брат яго, гараджане Карпач і Вецер, бацька Карпача, былы бурмістр Крычава.

Еранім Радзівіл аддаў староства ў арэнду: «Ты мне адразу давай грошы, а падатак пасля выбірай сам. Колькі выб'еш, мяне не датычыцца». Адкупшчыкі, браты Іцковічы, разарылі наваколле горш за арду. Убачыўшы, што ідзе галодная смерць, рамеснікі і сяляне паўсталі. Пабілі арандатараў, спалілі кабальныя паперы, пусцілі «чырвонага пеўня» ў фальваркі. Некалькі разоў білі войска, раскалашмацілі полк нямецкіх наймітаў. Войска палкоўніка Пястрыцкага (пры ім быў сам Радзівіл) прыйшло з гарматамі. У дзвюх лютых бітвах, пад Крычавам і пад вёскай Царковішчы, мужыцкае войска было разбіта. Васілю Вашчыле ўдалося ўцячы на Украіну. Карпач, Вецер, Мікіта з Бараўкоў, Стэсь Бачко і сын яго, пісар паўстання, Іван Трус, Навум Буян і многія іншыя трапілі ў палон, многія загінулі. Садзілі на калы і ў пячныя коміны, вешалі, некаторых зашылі ў мядзведжыя шкуры і кінулі абвучаным сабакам-«мядзведнікам», гэта значыць прывучаным браць мядзведзя.

## У НОВЫМ РЭЧЫШЧЫ

Глыбока няправільны погляд некаторых вучоных, што Польшча перад падзелам знаходзілася ў стане смяротна хворай краіны. Наадварот, у другой палове XVIII ст. яна пачынала выбірацца з таго палітычнага эканамічнага і духоўнага крызісу, які страшным цяжарам ляжаў на ёй у першую палову стагоддзя.

Як сказана, будаваліся мануфактуры і заводы. На тэрыторыі Беларусі з'яўляецца мноства школ. Скажам, у адной толькі Гродні ўзнікла медыцынская школа з аддзяленнямі гарадскіх і вясковых лекараў і хірургаў, школа землямераў, школа бухгалтэрыі і рахункаводства, будаўнічая школа, корпус кадэтаў. Існаваў батанічны сад з дзвюма тысячамі відаў раслін (1500 — экзатычных). Тут жылі матэматыкі і астраномы, выдавалася газета і календары. Быў тэатр з операй, балетам.

У 1773 г. быў знішчаны ордэн езуітаў і адукацыя аддадзена ў рукі вучоных. Былі рэарганізаваны акадэміі, узмацнілі выкладанне фізікі і прырода-

знаўчых навук. Усё больш галасоў уздымаецца на роўнасці, адмены прыгону, знішчэння сабарону слоўяў, удзелу сялян і мяшчан у соймах. 3 мая 1791 г. была ўведзена хаця і палавінчатая, але канстытуцыя. Рэч Паспалітая пакрысе выбіралася з крызісу. Але не паспела. Прыгнёт мінулых стагоддзяў быў занадта цяжкі, каб украінец і беларус, нават атрымаўшы некаторую палёгку, маглі бачыць у гэтай дзяржаве сваю радзіму. Патаптаны былі мова, вера, годнасць. А побач усё ўзмацняўся і без таго моцны сусед. Першы падзел Польшчы (1772 г.) між Аўстрыяй, Прусіяй і Расіяй уключыў у склад апошняй усходнебеларускія землі. Другі (1783 г.) — цэнтр Беларусі. Трэці (1795 г.) — захад яе. Спроба Касцюшкі паўстаннем вярнуць незалежнасць Рэчы Паспалітай (1794 г.) скончылася, пасля некалькіх перамог, разгромам, бо шляхта была глыбока расчаравана яго дэмакратызмам, а асабліва «Універсалам», у якім гэты вялікі чалавек абяцаў сялянам асабістую свабоду, максімальнае змяншэнне рабочых дзён і суд над тымі, хто прыгнятае сялян, бо такія прыгнятальнікі — ворагі радзімы і паўстання. Шляхце даражэй была ўласная кішэнь. Паўмёртвы ад ран, атрыманых у бітве пад Мацеявіцамі, Касцюшка быў пасаджаны ў Петрапаўлаўскую крэпасць, адкуль яго вызваліў толькі Павел І. Тадэвуш Касцюшка нарадзіўся пад Косавым, непадалёку ад Слоніма. Дома ягонага зараз няма, але й дагэтуль высіцца над узгоркавымі палеткамі Марачоўшчыны старадаўняя таполя, якая памятае яго. А сям-там можна сустрэць і іншых сведкаў памяці народнай. Скажам, камень у Залессі, на якім кампазітарам М. К. Агінскім выбіты словы «Ценям Касцюшкі».

Што даў падзел беларускаму народу? Трэба сказаць, што простаму селяніну ён даў няшмат. У Расіі ў той час яшчэ ўзмацнялася прыгоннае права, эканамічны стан быў нездавальняючы, формы грамадскага жыцця былі таксама несправядлівыя (абсалютная манархія). Вядома, стала лягчэй праваслаўным, таму што праваслаўе было афіцыйнай рэлігіяй Расійскай імперыі. Затое пачалі ціснуць уніятаў. Прымяняліся тыя ж метады, якімі нядаўна уніяты заганялі ў унію праваслаўных.

А два наступныя пасля Кацярыны цары і ўвогуле

лічылі, што Беларусь — край польскі, рабілі ўступкі каталіцызму, кепска ведалі Беларусь. І не толькі яны, але й вучоныя. Акадэмік Севяргін лічыў праваслаўных беларусаў «схізматамі» і, прысутнічаючы на малебнах, здзіўляўся, што і абрады і адзенне папоў «дужа падобныя» на пецярбургскія ці ўладзімірскія. Зноў быў дазволены (да 1820 г.) ордэн езуітаў.

Па-ранейшаму паншчына, грашовы чынш, згоны і падушная дзяржаўная подаць. І яшчэ рэкрутчына, 25 год у салдатах (да раздзелу Рэчы Паспалітай селянін у войску не служыў, а калі ішоў на вайну сваёй ахвотай — аўтаматычна, пасля зацвярджэння на сейме, пераводзіўся ў вольныя, у «лапцявую шляхту»).

Праўда, беларус аб'яднаўся з братнім рускім народам, разам з якім яму цяпер належала жыць і змагацца, але абодвум братам было нясцерпна жыць, аднаму ў сваёй старой, а другому ў сваёй новай турме. Дзесяць тысяч беларускіх сялян былі раздадзены фаварытам царыцы (Румянцаву, напрыклад, Кацярына падарыла больш за 11 000 сялян. Пацёмкін атрымаў землі з 14 274 прыгоннымі). Заступнікі за гэты прыгонны, прыгнечаны народканчалі кепска. Калі раней славутыя С. Сташыц і Г. Калантай лямантавалі супраць прыгону, выкрывалі памешчыкаў і нічога ім за гэта не было, то вялікі Радзішчаў паплаціўся за сваю кнігу Ілімскім астрогам.

Назіралася, праўда, эканамічнае ажыўленне. Павялічылася плошча збожжавых, узнікла шмат новых заводаў, на якіх была і вольнанаёмная праца. Узрос гандаль з Прыбалтыкай, а праз яе і з Заходняй Еўропай (цяпер многія рускія і ўкраінскія купцы везлі туды свае тавары па Беларускай зямлі), з Расіяй і Украінай. Пракладаліся дарогі, па-новаму планіраваліся гарады. Да 1863 г. насельніцтва іх узрасло амаль у тры разы. Тавараабарот, скажам, кірмашу ў мястэчку Зэльва даходзіў да 2 млн. рублёў, і сюды прыязджалі гандляры нават з Германіі. Але гэты гандлёвы пад'ём узбагачаў пана, які павялічваў засевак, заводчыка і купца. Вось што пісаў у 1885 г. адзін царскі саноўнік: «Нищета страшная, а рядом роскошь помещиков; жизненные силы края совершенно истощились в нравственном и физическом отношении; расслабление достигло крайних пределов».

«Дапамагла» разарэнню краіны і вайна 1812 года. Беларусь, захопленая ворагам, была выпалена. Сяляне ўзнімаліся на партызанскую барацьбу. Так сяляне вёскі Жарцы разбілі французскі атрад, удзельнічалі ў дзвюх бітвах за Полацк. Гэта была радзіма, хай жабрачая і рабская, але свая зямля... Дый войска расійскае нанесла першыя паражэнні французам менавіта на Беларускай зямлі (пад Кобрынам, ля муроў Мірскага замка, ля вёскі Салтанаўка). А пасля на дапамогу гераічнай арміі і партызанам, якія 7 кастрычніка вызвалілі Полацк, прыйшоў іх вялікасць беларускі мароз. Адступаючая армія французская ратавала на вачах. Няшчасныя людзі, сагнаныя «вялікім чалавекам» пад ружжо, кінутыя на захопніцкую вайну ў чужы край, елі трупы і, звар'яцеўшы ад холаду, кідаліся «пагрэцца» ў палаючыя хаты. 20 000 чалавек загінула пры пераправе цераз Бярозу-раку ля вёскі Студзёнка.

Мне давялося пабываць там у тую ж самую пару, калі адбывалася і тая злашчасная для французаў пераправа. У сярэдзіне лістапада. Снег, мёртвая чорная вада, ад аднаго позірку на якую б'е холадам, плывуць асеннія крыгі. Страшна было і ўявіць сабе, як па мастах б'е артылерыя, як на іх ідзе звалка, як яны рвуццца і тысячы людзей тонуць у гэтым вадкім свінцы. Ясна, ніхто іх не зваў, ясна, наша справа была святой справай, і ўсё ж, хай яны будуць праклятыя, вайна, уварванне, пагібель людзей, сілком, дзеля нейкіх там «вышэйшых меркаванняў» сагнаных уладарамі душ і імперый пад сцягі.

Дый што змянілася? Ваенныя пасяленні, аракчэеўшчына, голад. Памешчык тых самых Жарцаў уласнаручна хвастаў да паўсмерці былых партызан (а яны ў вайну насілі на шапках крыжы, прысвоеныя апалчэнцам) з прыгаворкаю: «Вот вам французы, вот вам вольность, вот вам крест».

Нават уладары бачылі сілу прыгнёту. У цыркуляры мінскага губернатара Допельмаера (1842 г.) пісалася: «...владельцы предают крестьян своих в руки жестокосердных, грубых и корыстолюбивых управителей... которые обременяют их чрезмерными работами, истязают бесчеловечно наказаниями, невзирая

ни на возраст, ни на пол, ни на болезненное состояние... В таком положении дел... неоднократно повторенные убийства владельцев своими крестьянами і... донесения, что такой-то крестьянин умер... вследствие жестокого наказания за маловажные проступки,— обратили на себя внимание...»

Сялянскія хваляванні ахапілі ўсе губерні. З набатам, з доўбнямі, з увядзеннем воінскіх каманд, стрэламі і смяротнымі прысудамі. Нясцерпнасць становішча разумелі і лепшыя прадстаўнікі дваранства. Многія дзекабрысты жылі на Беларусі, некаторыя былі адсюль родам. Былі тут і свае арганізацыі. Грамада «Ваенных сяброў», напрыклад. Яны сарвалі прысягу Мікалаю I у часцях Асобнага Літоўскага корпуса. Зрабілі спробу сіламі Палтаўскага палка захапіць Бабруйскую крэпасць. Верхаводы К. Ігельстром, А. Грынявіцкі, шляхціцы Вронскі і Высоцкі, афіцэры Трусаў і Троіцкі былі прысуджаны да Сібіры, многія «да вечнакатаржнай працы». Беларусь хавала некаторых з іх. Кюхельбекера, скажам, які даўжэй за ўсіх унікаў арышту на бясконцых беларускіх дарогах.

Яшчэ да дзекабрыстаў склалася таемнае таварыства філаматаў у Віленскім універсітэце (1817 г.). У грамаду ўваходзілі беларуска-польскі паэт і фалькларыст Ян Чачот, Адам Міцкевіч, будучы славуты падарожнік Ігнат Дамейка, адзін з першых паэтаў-рамантыкаў Томаш Зан і многія іншыя. Філаматы спачатку толькі чыталі французскіх асветнікаў XVIII стагоддзя, вывучалі побыт селяніна і яго фальклор. Тайныя пасяджэнні яны праводзілі на прыродзе. Ледзь не ўсе яны мелі талент паэтаў. Паступова члены згуртавання зразумелі, што галоўны вораг не цемра і неадукаванасць, а царызм. Яны пачалі рыхтаваць сябе да нацыянальна-вызваленчай барацьбы. 1821 год. Таварыства філаматаў ператворана ў таварыства філарэтаў. Юнакі гарадзь нянавісцю да царызму, патрыятызм іхніх вершаў і прамоў даходзіць да кіпення. Але, нягледзячы на строгую канспірацыю, таварыства выкрыта. Чачот, Міцкевіч, Зан, іхнія сябры кінуты ў турму, у былы уніяцкі кляштар. Допыт вёў езуіцкімі прыёмамі рэдкі мярзотнік, сенатар Навасільцаў, прыбіты пазней Міцкевічам да ганебнага слупа ў трэцяй частцы паэмы «Дзяды». Юнакі вялі сябе

годна. Спявалі ў камерах, чыталі патрыятычныя вершы. Чачот спяваў аднойчы беларускую песню ўласнага сачынення:

Да лятуць, лятуць да дзікія гусі,
Да нас павязуць да далёкай Русі.

Іх і павезлі. Саслалі ў далёкія губерні. Але і праз шмат год Міцкевіч, мабыць, успамінаў, як ён і сябры збіралі легенды і пісалі па іх сюжэтах балады, як для іх «народнасць» азначала, між іншым, і тую мову, на якой гаварыў народ, сярод якога яны жылі, і якой яны цудоўна валодалі — беларускую мову, як стваралісь на гэтай мове сцэнкі і хоры, як ён прыехаў у Вільню на свае імяніны і яго сустрэлі словамі:

Едзе міленькі Адам,
Глядзіце, а онь, а онь,
Ды ён харашэнькі сам,
Пад ім вараненькі конь.

І ўсё гэта ўспомніўшы, вялікі паляк, да труны ўдзячны Беларусі і закаханы ў яе таксама да труны, сказаў пра занядбаную мову, пра наш і свой народ высокія словы, хаця сам і пісаў на мове польскай.

«...З усіх славянскіх народаў русіны, гэта значыць, сяляне Пінскай, часткова Мінскай і Гродзенскай губерняў, захавалі найбольшую колькасць агульнаславянскіх рыс. У іх казках і песнях ёсць усё. Пісьмовых помнікаў у іх мала, толькі Літоўскі Статут напісаны іх мовай, самай гарманічнай і з усіх славянскіх моў найменш зමененай». І яшчэ: «На беларускай мове, якую называюць русінскай альбо літоўска-русінскай... гаворыць каля дзесяці мільёнаў чалавек; гэта самая багатая і самая чыстая гаворка, яна ўзнікла даўно і цудоўна распрацавана. У перыяд незалежнасці Літвы вялікія князі карысталіся ёю для сваёй дыпламатычнай перапіскі».

Гэта з лекцый, чытаных Міцкевічам у Калеж дэ Франс, у Парыжы.

## ПЕРШЫЯ ЛАСТАЎКІ, АБО ПАДАРОЖЖА ЭНЕЯ

...А між тым прыляцелі ўжо і першыя ластаўкі новай літаратуры. У першай палове XIX ст. з'явілася ананімная паэма «Энеіда навыварат». У сярэдзіне

стагоддзя — паэма «Тарас на Парнасе». Таксама ананімная. Яны сведчылі аб тым, што літаратура ажывае ад летаргіі. Праз некалькі год пасля ўкраінскай «Энеіды» Катлярэўскага з'явілася «Энеіда» беларуская, твор навеяны «Энеідай» Вергілія і травестыйнымі паэмамі Катлярэўскага і Осіпава. Але гэта самастойны, глыбока беларускі твор. Аўтарам яго цяпер многія даследчыкі лічаць В. П. Равінскага (каля 1765—1831 гг.). Ураджэнец Духаўшчынскай акругі Смаленскай губерні, удзельнік войнаў 1805 і 1812 гг. За Барадзіно ўзнагароджаны залатой шпагай «За храбрость». Адстаўны палкоўнік. Напісаў камедыю «Шлюб між волі», шмат вершаў «на выпадак».

А некаторыя схіляюцца да думкі аб віцебскім паходжанні паэмы і аўтарам называюць мясцовага чыноўніка І. А. Манькоўскага.

Паэма жывая, гарэзлівая, дзёрзкая, вельмі народная і па-сапраўднаму смешная.

А другая паэма «Тарас на Парнасе»— новая, вышэйшая ступень беларускай паэзіі.

Герой, палясоўшчык Тарас, служака, якога і пан шануе і пані любіць, ідзе з першымі пеўнямі біць цецярукоў і, уцякаючы ад мядзведзя — дубальтоўка дала асечку,— падае ў яму і трапляе ці то ў рай, ці то ў шчаслівую Аркадыю. «Хлапчына нейкі круглалікі, увесь кучаравы, як баран», з лукам і калчанам (Амур) кажа яму, што гэтая дарога з таго свету і вядзе на Парнас. Тарас ідзе. Бачыць гару, а пад ёй — цэлы кірмаш народу.

Прыйшоў я бліжэй, што за ліха,
Народ не просты, ўсе паны.
Хто дужа шпарка, хто паціху
Ўсе лезуць на гару яны.

Аж кішкі выціскаюць адзін аднаму. І вось з натоўпу піск:

«Памалу, братцы, не душыце
Мой фельетон вы і «Пчалу»,
Мяне ж самога прапусціце
І не дзяржыце за палу!
А не, дык дадушы, ў газеце
Я вас аблаю на ўвесь свет,
Як Гогаля у прошлым леце,—
Я ж сам рэдактар ўсіх газет!»

Гэта Булгарын, літаратар-даносчык, асабісты во-

раг Пушкіна, правакатар, агент III аддзялення імперскай яго вялікасці канцылярыі.

Гляджу сабе — аж гэта сівы,
Кароткі, тоўсты, як чурбан,
Плюгавы, дужа некрасівы,
Крычыць, як ашалелы пан.
. . . . . . . . . . . .
Во нешта разам зашумелі,
Народ раздаўся на канцы,
І, як бы птушкі, праляцелі
Чатыры добрых малайцы.
Народ то быў ўжо не такоўскі:
Сам Пушкін, Лермантаў, Жукоўскі
І Гогаль шпарка каля нас
Прайшлі, як павы, на Парнас.

Тарас праштурхаўся праз натоўп і ўбачыў заможны двор, абнесены плотам.

А на дварэ там свінні ходзяць,
Каровы, козы, бараны...
Знаць, і багі хазяйства водзяць,
Калі свіней дзяржаць яны.

Двор, пабудовы, хаты — багацюшчыя. Ну, мара селяніна! І багі, як адна непадзеленая патрыярхальная сям'я. «Як у казарме там салдатаў — багоў — не можна пашчытаць!» Хто з багоў хадакі багіням шые, а багіні мыюць багам кашулі і парткі.

Вось б'юцца Марс ды з Геркулесам,
А Геркулес, як той мядзведзь,—
Каб цешыць старага Зевеса,
Хахол ён Марсу добра мнець.

. . . . . . . . . . . . . .

Амур жа з дзеўкамі жартуе,
Ну, проста смех ажно бярэ!
То ён знянацку пацалуе,
То хустку з галавы здзярэ.

Ядуць. Таксама ідылія. Таксама мара — аб сытасці.

Бах сп'яну пеў такі прыпеўкі,
Што аж няможна гаварыць,
Аж засароміліся дзеўкі,
Так стаў ён брыдка развадзіць.
А Зеўс тым часам насцябаўся,
Што носам чуць зямлю не рыў,—
Ён вочы плюшчыў іківаўся
Ды быццам нешта гаварыў.

Хоць не маё, то, праўда, дзела,
Не след мне, можа, і казаць,
Любіў ён цешыць грэшна цела
Ды часам лоўка падгуляць.

Пачынаецца гулянка, скокі. Увесь задор агнявога беларускага танца. Пад відам багоў і багінь маладыя хлопцы і дзяўчаты, здаровыя, прыгожыя, сытыя, працавітыя... вольныя.

Узяўшы хустачку, Венера
Пайшла «мяцеліцу» скакаць.
Прыгожа, стройна цераз меру,
Пяром не можна апісаць.
Чырвона, тоўста, круглаліца
І вочы, як на калясе,
Як жар, гарыць яе спадніца,
Істужкі ўплецены ў касе.

Мара аб ідэале жыцця, аб ідэале прыгажосці, аб селяніне, які скакаў нават лепей за багоў і прымусіў іх здзіўляцца. «Тарас на Парнасе» і дасюль улюбёны твор беларусаў. Дзесяткі тысяч людзей ведаюць яго на памяць.

Побач з ананімнай з'яўляецца і літаратура аўтарская. У 1828 годзе паўстала супраць пана мястэчка Крошын ля Баранавіч. Прыйшло войска. У ліку іншых быў пакараны каваль. Сын яго, парабак, што скончыў пачатковую школу, быў здадзены ў салдаты. За некалькі сшыткаў патрыятычных антыпрыгонных вершаў, якія і дагэтуль не знойдзены. Звалі прыгоннага паэта Паўлюк Багрым (1813 — каля 1891 гг.). Лёс быў да яго бязлітасны. Не дзесяць, як Шаўчэнка, а поўныя дцаццаць пяць год адмучыўся ён у казармах. Без усякіх паблажак і заступніцтва, бо Шаўчэнку ведалі многія ўплывовыя людзі і рабілі спробы заступацца, а хто ведаў Багрыма, звычайнага мужыка. Вярнуўшыся на вёску, працаваў у Крошыне кавалём. Меў залатыя рукі. У Крошынскім касцёле ёсць каваная люстра яго работы: перапляценне кветкавых бутонаў і жаўрукоў у палёце. Ад Багрыма дайшоў да нас адзіны верш «Заграй, заграй, хлопча малы» — верш гнеўнага бунту супраць прыгону, шчымлівай журбы і глыбокай чалавечнасці. І вось загінуў паэт, як тысячы такіх звялося і да яго і пасля. Згінулі і ляжаць, нікім не аплаканыя, акрамя, можа, палявых вятроў.

Дый што дзівіцца? Указам ад 18 ліпеня 1840 г. Мікалай I забараніў слова «Беларусь». Пасля 1863 года было забаронена і выданне кніг па-беларуску. Кнігашы, якія кантрабандай, у корабах, праносілі на Беларусь беларускія кнігі, выдадзеныя за мяжой, часта гінулі. У іх загадана было страляць, і ўсё ж яны насілі, хаваючыся, рызыкуючы на кожным кроку. Склалася становішча, аб якім добра сказаў беларускі апокрыф: «Ісцінна кажу вам: шчаслівы, хто мае ў дамах сваю кнігу славясы сваімі. І ісцінна яшчэ тое, што хто мае — не цэніць, а хто не мае — точыць кроў сваю за слова адзінае».

## ГОЛАС ЗАБАРОНЕНАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

Ян Баршчэўскі (1794—1851 гг.) таксама вельмі цікавая асоба. Чалавек, які пісаў вершы, балады і паэмы па-польску. Шмат. І нічым з гэтага не ўвайшоў у вялікую літаратуру. Горача любіў родны край, але ведаў, што надрукавацца па-беларуску не дадуць, лічыў, што роднай мовай пакуль што нельга выказаць складаныя пачуцці і абстрактныя думкі. І... застаўся ў літаратуры... трыма (было болей, але дайшло тры) вершамі па-беларуску, дзе і пачуццё, і гістарызм, ды яшчэ чатырохтомным зборнікам, дзе пад кожным творам бруіць, звініць, льецца беларускі фальклор, беларуская песня, беларускі спосаб мыслення, фантазія беларуская, гора і шчасце беларуса: «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». Гэта напісана таксама па-польску (сям-там з беларускімі дыялогамі), але важна тое, што за кожным радком тут стаіць беларус і яго зямля.

Паходзіў будучы паэт з фальварка Мурагі ля возера Няшчэрда на поўначы Беларусі (Расонскі раён). Любіў гасціць у свайго дзядзькі, шляхціца з тых, чый побыт быў амаль сялянскі, як і ў бацькоў Яна. Узімку возерам ішлі абозы, на вялізнай яго паверхні гуляла завіруха. Дзядзька ставіў на акно доміка свечку, каб падарожныя сяляне, перакупшчыкі і купцы, шляхта і вандроўнікі цягнуліся праз завею на агеньчык, як матылі ўлетку. Прасіліся пераначаваць. Размотвалі башлыкі, скідалі каляныя буркі і кажухі, сядалі на драўляныя шляхецкія «канапы» (Векаўшчына! Год

па сто! Такія і зараз сям-там стаяць па хатах нашчадкаў былой «лапцявой» шляхты, і сядзець на іх — пакута), пілі чай, а то і нешта мацнейшае. Адзінаю платай за гэта былі апавяданні і легенды, выпадкі рэальныя і несусветныя, але цікавая брахня, і смешныя выдумкі і выгадкі, ад якіх кроў ледзянее, як ад гогалеўскага «Вія». А хлопец слухаў гэта і пазней, разам з тым, што чуў падчас бясконцых бадзянняў па Беларусі — уставіў у «Завальню». Паколькі расказваў гэта просты народ — ён быў і героем. Адзін супраць паноў, крывасмокаў-арандатараў, чужынцаў-чыноўнікаў, чарнакніжнікаў і самой нячыстай сілы, такі самотны і бедны, але заўсёды пераможца, бо ён — Народ, бо пакуль ён арэ і цяслярыць, пакуль стаіць з чапялою ля печы сялянская баба, датуль не загіне ні мова, ні праўда, ні чалавечнасць, ні сам чалавек.

І вось з гэтага і ўзнікла «Адысея беларуская» з тысячамі прыгод або лепей нешта накшталт беларускай «1001 ночы», дзе адна казка пераходзіць у другую і ўсе звязаны адной і той жа фігурай, прывабнай фігурай Завальні, у доме якога выпадковыя госці расказваюць розныя дзівосныя здарэнні. Што ж, яшчэ ў мінулым стагоддзі Р. Падбярэзскі казаў, што «Ва ўсіх заможнейшых дамах Беларусі і Інфляптаў не знойдзеш столькі паданняў, столькі народнай стыхіі, што маецца ў адной хатцы такога хутарскога шляхціца».

Па такіх хадзіў і Баршчэўскі, будучы полацкім шкаляром. Бурсака любілі, ірвалі з рук у рукі, бо з ім весялей, пацешней, паэтычней было жыць. Узнагароджвалі па дастатку: меркай пшаніцы, гароху, грэчкі, бобу. Гэта і давала яму магчымасць вучыцца. Ён і не думаў друкавацца. Пісаў, бо гэта цешыла людзей, яны развозілі вершы па кірмашах, хвалілі і смяяліся. Пасля быў Пецярбург, паездкі па чужых справах у Англію і Францыю, урокі латыні і грэчаскага ў знатных сем'ях, але... «Зімой вучыўся сам і вучыў другіх, а вясной, як жаваранка, паэзія гнала яго да роднага краю. Рабіў тыя падарожжы пешшу, з кіем вандроўніка ў руках».

І вось «Завальня». «Тое, што піша Баршчэўскі прозай,— гаворыць Падбярэзскі,— не датычыцца непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але важнейшай рэчы — духу і паэзіі народа, адкуль выцякаюць і гісторыя, і літаратура, і мова. Ён... выра-

шыў даць вялікую мастацкую панараму нацыянальнага жыцця... Ён бачыць перад сабой народ, часта з усёй чароўнасцю паганскай фантазіі, якую ён апраменьвае сваім, так сказаць, беларускім гафманізмам... усё жыццё яго — адно суцэльнае адступніцтва ад самога сябе ў імя паэзіі. Каб зразумець добра, што я гавару, трэба ведаць яго асабіста, трэба яго бачыць з кіем падарожніка ў руцэ, так, як я спатыкаў яго ў маіх падарожжах, пешкі, сярод беларускага люду, на плытах Дзвіны, у прыдарожных корчмах, на сцежках у лесе і на вялікіх гасцінцах!.. Гэты чалавек не мае парожніх слоў... ён — сама сутнасць... як ні кажы, адкрывае ён новую краіну».

М. Грабоўскі ў польскім часопісе «Пельгжым» піша ў 1843 г.: «Не толькі цяпер, але і з самага дзяцінства, палымяны беларус, ён правёў з народам усё жыццё: яго загарэлы, далёка не кабінетны твар даводзіць, што ён з'яўляецца чалавекам справы... Ён дасканала ведае ўсю Беларусь, бо разоў з трыццаць абышоў пешшу і штогодна наведвае яе з Пецярбурга, а ўсюды там пажаданы і сустракаецца з радасцю, бо, як бард той старонкі, ён сыпле, бы з рукава, апавяданнямі і анекдотамі. Дзівосны ў яго інстынкт у апрацоўцы паданняў: не дадае амаль нічога свайго, а між тым усё становіцца яго ўласным».

І вось на старонках «Завальні» ідзе Беларусь, якая яна ёсць і якой яна ўяўляе сябе. Чорны певень нясе мужыку Карпу яйка, з якога выводзіцца крылаты змей,— і вось Карп ужо кулак, глытай, які ўсіх ставіць у нішто, якому смешныя вясковыя звычкі. І гіне ахвярай сквапнасці... Уладарка-чараўніца, што перакідваецца ў белую сароку, прылятае да пана Скамарохі, хцівага і пыхатага крыўдзіцеля бедных, удоў і сірот, заводзіць сяброўства з ім і іншымі панамі азёрнага краю,— і пачынаецца няшчасце: сохнуць вымі ў кароў, мядзведзі нападаюць на вуллі, з хаты чараўніцы плыве малочная рака. Мужыкі са стрэльбамі чакаюць на Сароку, тая адлятае, але зло засталося: «Паны, што пілі за яе здароўе, п'юць слёзы няшчаснага народу». Фантазія ўсё нястрымней, аж да таго, што ў Віцебскага мярзотніка Генрыха — аж да вар'яцтва — пачынаюць крычаць валасы на галаве. І ўсе гэтыя незвычайныя рэчы — на фоне простай, мілай прыроды нашай поў-

начы, на рэальным фоне тагачасных вёсак, гарадоў, маёнткаў, сярод звычайных прыгонных людзей, страшных паноў, прадажных суддзяў.

Баршчэўскі адкрыў славянскаму свету Беларусь.

Што з таго, што ён вымушан быў пісаць па-польску. Неласкавы і страшны наш лёс многім судзіў такое. Дзесяткі людзей нараджаліся і адыходзілі ў суседнія культуры, абагачаючы і часам узвялічваючы іх.

Апошнія гады свайго вандроўнага нялёгкага жыцця Ян Баршчэўскі правёў на Украіне. Пісаў у Адэсе санеты, выдаў у Кіеве кніжку паэзіі і прозы і памёр у чужым доме магната Ржэвускага ў Цуднове на Валыні, дзе і пахаваны.

...Увогуле многія беларусы паходжаннем і продкамі адыходзілі тады ў суседнія культуры.

Я казаў ужо пра Міцкевіча. Але вось мінулым летам лёс закінуў нашу экспедыцыю ў вёску Дастоева, на поўнач ад Янава Палескага, Глыбінка! Жоўтыя, аж залатыя ад лісічак, бронзавыя ад баравікоў лясы. Вільготная пойма багатай Ясельды. Я неяк не думаў пра назву вёскі, аж пакуль нехта з хлопцаў не сказаў: «А мы з нашчадкамі пісьменніка «Дастаеўскага перапісваемся. Ім цікава ведаць, як тут, на радзіме продкаў». Тады і я ўспомніў, што гэта сапраўды здаўна-давён гняздо гэтага рода. Старога рода, які належаў да беларускага герба «Радван».

...Так многія адыходзілі да суседзяў. Калі беларус слухае оперу «Галька» С. Манюшкі, ён адчувае ў ёй і ў оперы «Страшны двор» выразную беларускую песенную аснову. І праўда, вялікі кампазітар нарадзіўся ў Убелі пад Мінскам, выхоўваўся на народнай песні, напісаў аперэту «Ідылія» (тэкст да яе склаў адзін з заснавальнікаў беларускай літаратуры В. Дунін-Марцінкевіч), у якой паны гаварылі па-польску, а сяляне па-беларуску. Ён увогуле напісаў на словы Марцінкевіча чатыры творы, і гэта, уласна, пачатак оперы беларускай.

А Уладзіслаў Сыракомля (1823—1862 гг.), які таксама большую частку сваёй творчасці аддаў Польшчы, а вершы якога па-беларуску, відаць, згарэлі ў апошнюю вайну ў Варшаве. Згарэлі ў рукапісах. Засталося толькі некалькі рэчаў. Страту гэтую нічым не кампенсуеш.

Дзіўныя бываюць пуцявіны ў людзей і твораў. Вось пачатак і канец верша Сыракомлі «Паштальён»:

На пошту я трапіў зусім малады,
Фурман з мяне ўдаўся зухвалы,
А волі не меў — дый ганялі тады:
Хоць свята, хоць ноч — усё мала.
. . . . . . . . . . . . . . .
Конь чмыхнуў пры слупе.
Спыніўся наўзбоч:
У снезе пад плахаю белай,
Жанчыну я згледзеў, яна ўжо за ноч,
Як дрэва, уся скасцянела.
Я снежную намець атрос з яе шат
І труп падцягнуў да дарогі...
Абцёр ёй аблічча... Была гэта, брат...
Дай чарку... Не маю больш змогі!

*(Пераклад М. Лужаніна)*

Што гэта? Ну ясна ж, што вы адразу пачулі голас спевака Лемешава. У перакладзе гэты верш стаў рускай народнай песняй «Когда я на почте служил ямщиком».

Манюшка калісьці пісаў з прычыны таго, што нехта ў Мінску пажартаваў з беларускага паэта і драматурга В. Дуніна-Марцінкевіча, замовіўшы па ім «пахавальны звон за спакой душы» і, вядома, не паставіўшы на пасылцы свайго імя, даслаў яму ў дом саван і падсвечнікі: «Напэўна, Жулкоўскі[1] быў родам з гэтага горада. А што датычыцца Вальтэра, то няма чаго і сумнявацца, што ён мінчанін. Не ведаю, чаму Мальер лічыў сябе французам, калі ў Мінску ледзь не паказваюць вуліцу, дзе ён нарадзіўся...»

Не лічыце мяне за таго мінчаніна, але... Вальтэр як Вальтэр, Мальер як Мальер, тут я нічога не скажу, а вось вялікі французскі паэт Гіём Апалінэр быў... беларусам па крыві. Дзед ягоны, Міхал-Апалінарый Кастравіцкі, уцёк з Навагрудчыны за мяжу пасля паўстання 1863 г. Ствараючы першую кнігу сваіх вершаў, Апалінэр не ведаў, што ў гэты час (1910 г.) на беларускіх вандроўных сцэнах ідзе «Модны шляхцюк», беларуская камедыя яго стрыечнага брата, Казіміра Кастравіцкага, які выступаў пад псеўданімам Карусь Каганец.

Ці мала хто вымушан быў уцякаць ад пятлі, ад ку-

---

[1] Славуты польскі акцёр-комік.

лі ці нават проста ад немагчымасці выявіць сябе на радзіме. Вось некалькі прыкладаў.

Чылі. Хрыбет Дамейка, горад Дамейка, у гарах — мінерал дамейкіт, у акіяне — ракушка навуцілус дамейкус, на зямлі — фіялка дамейкіяна. Гэта ў гонар Ігната Дамейкі (1801—1889 гг.), ураджэнца маёнтка Нядзведка, што пад Мірам. Сябар Чачота, Міцкевіча, Зана, стрыечны брат Марылі Верашчакі, першага кахання Міцкевіча, філарэт, вязень турмы ў Базыльянскім кляштары, ён пасля разгрому паўстання 1830 г. вымушан быў уцячы за мяжу. Парыж. Кантракт з Чылі. Лекцыі па хіміі і мінералогіі ў г. Какімба. Адкрыў жыхарам Чылі, што такое салетра, для чаго яна прыдатна, адкрыў залежы медзі і срэбра. Пасля ён прафесар у Сант'яга. Распрацоўвае і ажыццяўляе школьную рэформу, падарожнічае сярод напаўдзікіх араўканцаў, робіцца іх другам, бароніць іх. Чатыры тэрміны Дамейка перавыбіраецца рэктарам універсітэта. Ён бацька чылійскай навукі, рэарганізатар прамысловасці, навучання. Пасля смерці ён абвешчаны нацыянальным героем Чылі.

Бенедыкт Дыбоўскі (1833, Мінскі павет — 1930 г., Львоў), сасланы пасля паўстання 1863 г. у Сібір, пакінуў апісанні Сібіры і Далёкага Усходу, якія дагэтуль лічацца класічнымі. Ён першы даследчык Байкала, аўтар слоўнікаў камчадальскай, бурацкай і іншых моў.

Канстанцін Ельскі, які пасля паўстання даследаваў трапічныя джунглі Гвіяны і землі Перу. Альбо Мікалай Судзілоўскі, родам з Магілёўшчыны, які перад амерыканскай анексіяй быў прэзідэнтам Гавайскіх астравоў і змагаўся з амерыканскімі купцамі і прамыслоўцамі за жыццё, шчасце і поступ канакаў.

І, урэшце, пазней, Б. А. Вількіцкі, што адкрыў Паўночную Зямлю, а таксама першы прайшоў паўночным марскім шляхам з Уладзівастока ў Архангельск, і славуты М. М. Пржавальскі (род гэты пад імем Перавальскіх — старадаўні, віцебскі род). Словам, многія ішлі ў розныя бакі, рабіліся героямі розных народаў на розных кантынентах.

Яшчэ адно імя — Франц Савіч (1815— каля 1845 гг.), арганізатар тайнага таварыства, якое пазней улілося ў арганізацыю Ш. Канарскага. Няўмольны вораг паноў, прыгону, прыхільнік рэвалюцыі. Беларус-па-

ляшук у яго вершы звяртаецца да ліцвіна і валынца:

Ліцвін, валынец, падайце ж мне рукі,
Так — прысягаем на госпада-бога,
Царам на згубу, панам — для навукі.

Яго арыштавалі ў 1838 годзе, саслалі ў салдаты на Каўказ. Некалькі разоў ён спрабаваў уцячы за граніцу — не ўдалося. Тады ён таемна асеў на Украіне, лячыў украінскіх сялян (быў медык). Падчас эпідэміі халеры ў 1845—1847 гг. ратаваў мужыкоў, заразіўся і памёр.

...Ну, пра дзеячаў літаратуры, пра змагароў, пра географаў і вучоных XIX ст., мабыць, досыць. Цяпер пра мастацтва ў тыя часы.

Шкада, што мала месца дзеля таго, каб расказаць вам пра цудоўную беларускую архітэктуру XVIII—XIX стст. А тут ёсць на што паглядзець. На драўляныя, каменныя будынкі фальваркаў, на дворныя пабудовы, на палац у Валожыне і бялюткі — аж здаецца празрыстым,— класіцыстычны палац у Жылічах. Што ж, проста трэба паездзіць і паглядзець. Як зробіцеся сталымі, вядома.

Развіваўся і жывапіс. Вялікі ўзлёт пачаўся яшчэ ў канцы XVIII ст.

Імёны Ф. Смуглевіча, Я. Рустэма, В. Ваньковіча (славутага партрэтыста, аўтара «Міцкевіча на Аю-Дагу»), І. Хруцкага (партрэтыста і аўтара нацюрмортаў, у прыватнасці славутых «Кветак і садавіны», якія так палюбіліся, што копіі з іх, у пераважнай большасці дрэнныя, паскудзяць сцены ўсіх чайных, побач з шышкінскімі «Мядзведзямі», а мастак рэдкасна таленавіты). І. Аляшкевіча, аўтара дзіўных па тонкасці і светаценю партрэтаў, К. Альхімовіча, аўтара таленавітых гістарычных кампазіцый, згаданага ўжо скульптара М. Мікешына (помнікі Хмяльніцкаму ў Кіеве і тысячагоддзю Расіі ў Ноўгарадзе), пейзажыста А. Гараўскага, Н. Сілівановіча, з яго сцэнамі народнага быту.

Дайшлі да нас, вядома ж, не ўсе іхнія творы. Што загінула, што знаходзіцца невядома дзе, у Мінску іхніх карцін мала. Затое вельмі многа ў польскіх музеях і асабліва ў мастацкім музеі Вільнюса і іншых музеях Літвы.

І, урэшце, калі пераходзіць ужо часткова ў

XX ст.,— вялікі мастак Ф. Рушчыц, карціны якога можна разглядаць гадзінамі. Уся зямля Беларусі — у іх. Тая ж «Зямля» і шэрыя камяні замка ў Крэве, і бялюткія, каравыя ад старасці яблыні на ільснянай чорнай раллі. І млыны над чорнай вадою лясных ручаін, і натоўп, што вясною прысеў ля касцёла пад сінім-сінім прамытым небам, і бледнае асенняе сонца на дошках тэрасы. Гэта — здорава! Калі давядзецца быць у Вішневе ля Валожына — паглядзіце роспісы ў тамтэйшым касцёле. Гэта таксама Рушчыц.

Або Генрых Вейсенгоф з яго зімовымі, заінелымі, ружовымі ад сонца пейзажамі, з яго старымі дварамі, што тонуць у бэзе, і замшэлымі крыжамі сялянскіх могілак. Ці С. Жукоўскі, таксама забытыя інтэр'еры старых маёнткаў, апусцелыя асеннія лясы. І, вядома, усе ведаюць В. Бялыніцкага-Бірулю з яго празрыстатуманнымі, нібы злёгку бляклымі, дужа «настраёвымі» пейзажамі. Ну і Г. Ніскі, таксама беларус, сын чыгуначніка, з яго пейзажамі, на якіх дарогі, дэбаркадэры, прадмесці, сцены далёкіх лясоў, з яго маладымі, здаровымі целамі атлетаў. З гэтым жывапісам (а пейзажы і тыпы беларускія пісалі і Рэпін, і Шышкін, і Крамской, і іншыя) я ўжо апынуўся ў XX ст. А нам трэба вярнуцца ў XIX, да пачатку новай беларускай літаратуры, да зараджэння нацыі беларускай.

Пачалося з фальклору. Таму што пасля таго як выйшлі першыя кніжкі В. Дуніна-Марцінкевіча (1807—1884 гг.) ды яшчэ некалькі кніжак — пасля 1863 года друкаванае слова было забаронена. Пасля паўстання 1863 г. паўтарылі яшчэ раз і забарону слова «Беларусь». Новыя вершы паэта, напісаныя пасля гэтага, засталіся ў рукапісах. Смешная, злая, з'едлівая камедыя «Пінская шляхта», камедыя, што бічавала мяшчанства, тупасць, прадажнасць суда, подласць чыноўнікаў,— камедыя гэтая, напісаная ў 1866 г., убачыла свет толькі ў 1918 г. На працягу бітых дваццаці год — як чорная пустыня, за выключэннем рукапісаў, што хадзілі па руках, ды патаемных, нелегальных выданняў. І гэта якраз у часы, калі складалася нацыя. Невядома яшчэ, колькі шкоды прынёс душам людскім гэты самадзяржаўнады праваслаўна-адзіна-недзялімы смурод! Аднак людзі знайшлі выхад і тут. Нельга ж было ім забараніць збіраць і выдаваць зборнікі фальклору, пісаць этна-

графічныя і гістарычныя кнігі, складаць слоўнікі. А фальклорны запіс, скажам, мае сваёй перадумовай: «Запісвай, як чуеш». І вось такім чынам забароненая беларуская мова ўсё ж трапляла на друкаваныя старонкі. Нібыта з чорнага ходу, але ўсё ж трапляла. Вось яны і ўзяліся, «дзеля чыстай навукі». І хаця й дагэтуль выдаваліся старажытныя акты і граматы, запісваліся казкі і песні (І. Грыгаровіч, П. Шпілеўскі) — усё ж сапраўдную шырыню справа набыла толькі ў тыя гады, пасля паўстання 1863 г. У 1870 г. выйшаў першы слоўнік сучаснай беларускай мовы («Наречия») І. Насовіча, які ўключаў больш 30 000 арыгінальных слоў.

Выдадзеныя былі «Акты, што датычацца гісторыі Паўднёвай і Заходняй Расіі» (15 тамоў, 1861—1892 гг.), «Акты», што выдаюцца Віленскай археаграфічнай камісіяй (39 тамоў, 1865—1915 гг.), і шмат-шмат іншых. З'яўляліся працы такіх гісторыкаў, як А. Кіркор, М. Доўнар-Запольскі, і такіх было многа. Расла цікавасць да роднай мовы, да народнага быту. З'яўляюцца выключныя па паўнаце, часта шматтомныя працы тых жа І. Насовіча, П. Шэйна (трохтомны запіс фальклору і этнаграфіі), М. Федароўскага, Е. Раманава, М. Нікіфароўскага, працы акад. Я. Карскага па мове, гісторыі літаратуры і фальклору Беларусі. І цікавейшыя палескія запісы А. Сержпутоўскага, дзе кожная казка — дыямент, так што, чытаючы, і наплачашся і нарагочашся.

Было ясна, што нацыя намагаецца стаць на ногі. Мы цяпер ведаем, што па многіх прычынах народная, нацыянальная самасвядомасць магла праяўляцца ў фальклорных, этнаграфічных, гістарычных кнігах, але не мела магчымасці праявіцца ў літаратуры. А што ж гэта за самасвядомасць, што ж гэта за народ, калі ў яго няма сваёй літаратуры. Патрэбны былі пісьменнікі. Мала таго, пісьменнікі, якія адчувалі б свой час, свой народ і яго патрэбы. Быў патрэбен паэт зусім новага тыпу, і ён з'явіўся. Імя яму было Францішак Багушэвіч (1840—1900 гг.). Нарадзіўся ён у сям'і дробнага шляхціца ў фальварку Свіраны на Віленшчыне. Скончыў у Вільні гімназію, паступіў у Пецярбургскі універсітэт, але адтуль яго выключылі за «нядобранадзейнасць». Настаўнічаў.

## МУЖЫЦКІ АДВАКАТ

У 1863 годзе Польшча, Беларусь, Літва і некаторыя раёны Украіны (там рух быў слабейшы) паўсталі. Сялянская рэформа, «вызваленне» было падманам, рабункам пад маскай дабрачыннасці. Сацыяльны і нацыянальны прыгнёт сталі нясцерпныя. А тут яшчэ ўрад вырашыў аб'явіць агульны набор у салдаты, каб выдаліць рэвалюцыйную моладзь са сваіх ваколіц. У адказ паўстала Польшча, а яе падтрымалі бліжэйшыя суседзі, і сярод іх Беларусь. Паўсюль арганізоўваюцца гурткі, людзі здабываюць зброю, куюць косы, ідуць у лес і ствараюць там атрады, сапраўдныя паўстанцкія арміі. Ідзе ў лес і малады настаўнік з вёскі Доцішкі Францішак Багушэвіч.

На чале дэмакратычнага крыла паўстання стаў рэвалюцыйны дэмакрат, палкі патрыёт, публіцыст, выдавец падпольнай беларускай газеты «Мужыцкая праўда», паэт Кастусь Каліноўскі (1838 г., Мастаўляны — 10 сакавіка 1864 г., Вільня).

Пачаліся рэйды, бітвы, сутычкі. Запалалі даўгавыя распіскі ў маёнтках. Паўстанцы напалі на мястэчка Сураж, вызвалілі Пружаны, узялі Горкі. Адбылося мноства бітваў. Пад Сямяцічамі, пад Хацінічамі, пад Барысавам, пад Мілавідамі. Біліся адчайна і зацята. Той, хто едзе старым баранавіцкім шляхам, не можа не звярнуць увагу ля гэтых Мілавідаў на капліцу над загіблымі паўстанцамі, а праз дарогу — крыж над забітымі салдатамі.

І, аднак, сілы былі няроўныя. Шмат людзей было павешана і расстраляна, шмат тысяч выселена ў Сібір і на Туркестанскую лінію, на згубу. Душыцелю паўстання, графу Мураўёву, які любіў казаць: «Я не з тых Мураўёвых, якіх вешаюць, а я з тых, якія вешаюць», удалося распусціць правакацыйную чутку, што паўстанцы — паны, якія паўсталі, каб вярнуць прыгон. Таму ў многіх месцах сяляне не падтрымлівалі паўстанне, трымаліся ўбаку, а часам і дапамагалі страляць у паўстанцаў і вязаць іх. Не было такой подласці, на якую не пайшоў бы царызм у барацьбе з мяцежнікамі. Заліць магілы расстраляных, дзе адбываліся маўклівыя маніфестацыі, слоем гною, каб «зрабіць наведванні фізічна немагчымымі»,— гэта было яшчэ мала. Спецыяльна падкідалі непажа-

даным людзям у хату ці дом зброю, вешалі мужчын на вачах у жанчын. Падмануты селянін, які верыў цару, збольшага глядзеў на гэта збоку. «Дзеці-дэмакраты,— як сказаў Герцэн,— пачалі жудасны пасеў прыгоннікаў-бацькоў».

Здраднік выдаў Каліноўскага. Квартал, заняты універсітэцкімі будынкамі ў Вільні, т. зв. «Святаянскія муры», быў ачэплены некалькімі ротамі салдат і паліцыі. Кастусь не ведаў, што жандарам вядома яго канспіратыўная клічка, выйшаў насустрач салдатам са свечкай і быў схоплены. Нікога не выдаў: «Грамадская шчырасць — добрая якасць, а шпіёнства апаганьвае чалавека, так мяне выхавалі». І 10 сакавіка 1864 года быў павешаны ў Вільні. На словы прысуду «дваранін Каліноўскі» адказаў: «У нас няма дваран. Усе роўныя». Перадсмяротны яго верш абляцеў усю краіну.

. . . . . . . . . . . . . . .
Бывай здаровы, мужыцкі народзе,
Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе
І часам спамяні пра Яську свайго,
Што загінуў за праўду для дабра твайго.
А калі слова пяройдзе ў дзела,
Тады за праўду станавіся смела,
Бо адно з праўдай у грамадзе згодна
Дажджэш, народзе, старасці свабодна.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

«Горка пакінуць зямельку родную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, но не жаль згінуць за тваю праўду... Для таго то, народзе... ухапіўшы за што зможаш, за касу, сякеру, і цэлай грамадой ідзі ваяваць за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную. Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, народзе, што тады толькі зажывеш шчасліва...

Твой слуга Яська — гаспадар з-пад Вільні».

...Багушэвіч быў паранены ў нагу падчас бітвы пад Сувалкамі, адляжаўся ў спачуваючых і схаваўся на Украіне. Ясна, што ехаў не ў белы свет, што там былі сябры. Вучыўся ў Нежынскім юрыдычным ліцэі, пасля працаваў следчым у Краляўцы, Борзне, Канатопе. Калі памяць аб паўстанні прыглухла (а атрад, у якім быў Багушэвіч, біўся наводдаль ад родных мясцін, і таму аб удзеле Францішка ў паўстанні на Віленшчыне, скажам, маглі і не ведаць), у 1884 г. пераехаў у Вільню і працаваў адвакатам.

Быў нястомны абаронца народа, «мужыцкі адвакат». Яго любілі і хацелі бачыць абаронцам. Селянін М. Вольскі так прасіў старшыню суда: «Прысяжны паверaны п. Багушэвіч, тутэйшы ўраджэнец, хаця і не ведае мяне, але вядомы мне сваёй цярплівасцю і сваёй спагадлівасцю выслухоўваць на роднай беларускай гаворцы тых, хто звяртаецца да яго дапамогі... я... быў бы ўпаўне шчаслівы, калі б выбар выпаў на яго».

Паколькі мова была забаронена — паэт выдаў дзве свае кніжкі за мяжой. «Дудку беларускую» ў Кракаве, у 1891 г., «Смык беларускі» дзесьці за мяжой (Познань была пастаўлена, мабыць, для цэнзуры) у 1894 г. Падрыхтаваныя ўжо зборнікі «Беларускія апавяданні» і «Скрыпачка беларуская» не ўбачылі свету — першы зарэзаны цэнзурай, а другі згубіўся пасля смерці Багушэвіча.

Вось урывак з яго прадмовы да «Дудкі беларускай»: «Братцы мілыя, дзеці Зямлі — маткі маёй! Вам ахвяруючы працу сваю, мушу з вамі пагаварыць трохі... аб нашай бацькавай спрадвечнай мове». І далей, як сам ён думаў, што мова наша «мужыцкая», але, пахадзіўшы па свеце, пераканаўся, «што мова нашая ёсць такая ж людская і панская, як і французская альбо нямецкая... Харваты, чэхі, маларосы і другія пабратымцы нашыя... маюць па-свойму пісаныя і друкаваныя ксёнжачкі... і дзеткі іх чытаюць так, як і гавораць... Наша мова для нас святая, бо яна нам ад бога даная... Шмат было такіх народаў, што страцілі наперш мову сваю, так як той чалавек прад скананнем, катораму мову займе, а потым і зусім замёрлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Як шкада, што нельга шмат расказаць вам аб гэтым вялікім народалюбцы, аб чалавеку, які ўсё жыццё сваё паклаў за народ, за тое, каб праўда жыла ў сялянскай хаце, тая праўда, якая «змерла, а людцы схавалі, каменем накрылі, зямлю пааралі, каб не чуць, не ведаць аб ёй ані весці, ды цяпер і кажуць: «Праўда ў небе гдзесьці!» Аб чалавеку, які над усё ненавідзеў прыгнёт, зацісканне рота, тое, што ягоны народ пазбаўлены ўсіх правоў, якія павінен мець кожны народ на Зямлі. Нават сваёй кнігі на сваёй мове.

А ён ведаў, што гэты народ варты ўсяго гэтага.

Даець мне грошы, такі салодкі:
Усё гавора, радзе, пытае,
Жонку цалуе, дзяцей гайдае.
«Ну што ж, надумаўся, гатоў?..»
«Надумаўсь,— кажу,— каб сто катаў
Дралі мне скуру, пяклі на агню,
Я веры сваёй тыкі не змяню!»

Увесь народ, цёмны, прыгнечаны, але горды і вялікі ўстае перад намі ў яго радках. Народ у астрозе, народ, які, нават спусціўшыся ў чысцец, застаецца сабою, які моліцца аб адным, каб ніколі яму не быць панам, які добра ведае цану новай уладзе, бо хаця ў прыгонны час быў

...аканом, камісар і цівун,
Наместнік, ляснічы, хмістрыня, паны.
І кожны меў права узяць за бізун,
І кожны меў права да нашай спіны...

Але цяпер таксама «не надта свабодна ў гэтай свабодзе».

Стараста, соцкі, пісар, старшына,
Пасрэднік, ураднік, асэсар і суд,
З'езд міравы, прысуцтва і сход...
Аж паднялася са страху чупрына,
Аж пальцаў не стала на весь гэты шчот,
А пальцамі ж трэба карміць гэты люд!..

Калі ён памёр, за труною неслі вянкі з сялянскімі вышыванымі ручнікамі замест істужак. Адзін надпіс быў такі: «Змоўклі песні тыя, што іграў на дудцы». У памяць аб «Мацею Бурачку» (псеўданім паэта) з'явіўся верш, на мой погляд, сялянскі.

Не скончыў, бедны, ён песняў сваіх,
Што нашай гутаркай усё нам спяваў
Аб нашай долі, аб долі ўсіх.
Ён нашы слёзы песняй абціраў.
Калі ў бядзе прыйдзеш да яго,
Бывала, скажаш, што на душы маеш,
Казаў бы гэта да бацькі свайго,
Крыўду і праўду — усё, брат, пазнаеш.
А калі прыйдзеш падчас вінаваты,
То такой споведзі зроду не мецы!
Ці ты там бедны, ці ты багаты,
Ён лепш, як пробашч, цябе прабярэць...
Вечны ж яму пакой, вечна адпачыненне.
«Анёл панскі звеставаў»,— гаварыце, людзі,
Каб бог найвышшы даў яму збавенне,
Няхай яго душачка сярод святых будзе.

Селянін верыў. Ну, у святыя не ў святыя — быў Багушэвіч грэшны харошы чалавек — а вось у сэрцах беларускі паэт застаўся сярод самых дарагіх людзей. І дагэтуль ляжыць ля дома, дзе ён жыў, у Кушлянах, вялікі валун, прывезены сюды мужыкамі, а на валуне сялянскай рукою выбіты словы «Памяці Мацея Бурачка».

## АБУДЖЭННЕ

Капітал, «его препохабие», усё больш уладна ўсталёўваецца на беларускай, або «паўночна-заходняй зямлі», як яе тады называлі. Бо назва «Беларусь» забаронена нават яшчэ стражэй, чым у саракавых гадах. Нягледзячы на тое, што пераважаюць буйныя маёнткі (у Вітгенштэйна, напрыклад, 1 млн. дзесяцін, у Радзівіла 4 млн.), а можа, і менавіта таму павялічваецца прыток сялян на заводы, адыход іх у горад. Сялянства «рассяляньваецца» па словах У. І. Леніна.

Распаўзаюцца па краіне ніці чыгунак: Беларусь ледзь не на першым пасля Польшчы месцы па даўжыні сталёвых шляхоў. Аграрны крызіс 70—90-х гг. разарыў большасць памешчыцкіх гаспадарак, і землі іхнія перайшлі ў рукі «шэрых князёў», вясковай нацыянальнай буржуазіі. А тыя былі людзі хаця і хамаватыя, але ўчэпістыя: маглі, частуючы прыстава, пасадзіць за стол дзяцей, каб яны лупілі для дарагога госця бульбу ў мундзірах, але адначасова маглі мець стайні ледзь не з вярсту даўжынёю. Вінакурэнне з бульбы, цукровыя заводы, лён, каноплі, запалкавыя і тытунёвыя фабрыкі, верфі і пільні. І разарэнне асноўнай масы сялянства. І амаль поўная адсутнасць цяжкай прамысловасці. Лёгкая прамысловасць, праўда, была. Сям-там і вельмі моцная. Мне даводзілася бываць на некаторых старых заводах. Скажам, у Парэччы, над імклівай Ясельдай, на былой суконнай фабрыцы Скірмунтаў. Трэба сказаць, што яны і зараз уражаюць, гэтыя шматпавярховыя гмахі з пачарнелай чырвонай цэглы. Што ўжо казаць пра тыя часы.

Але жыццё ад гэтага поступу прамысловасці не стала лягчэйшае. Ні ў вёсцы, якая была разорана, ні на фабрыках, дзе панавала нечалавечая праца па 13—14 гадзін, а на броварах — да 18-ці. І гэта за

сярэдні заробак у 8 рублёў месячна. Сяляне тысячамі пакідаюць радзіму, перасяляюцца ў Сібір і на Далёкі Усход. У нашчадкаў гэтых перасяленцаў мне давялося пабываць некалькі год назад, у час вандраванняў па Прыморскім краі. Дзесяткі вёсак, дзе дагэтуль, як недзе на Магілёўшчыне, побач з рускай і ўкраінскай гучыць беларуская мова і вісяць беларускія ручнікі. Тут жа, побач з нейкай там Палтаўкай (заснавалі палтаўскія перасяленцы) — Магілёўка, Слонімка ці яшчэ нешта.

Фарміруецца пралетарыят. У 60-х гадах яго тысячы 3, на рубяжы стагоддзя — 25 тысяч плюс 10 тысяч чыгуначнікаў, 40 тысяч сезонных рабочых, 70 тысяч саматужнікаў, 150 тысяч рабочых сельскагаспадарчых, 50 тысяч адыходнікаў.

Але да марксістаў былі народнікі. Іхнія гурткі, іхняя прапаганда, іхнія лістоўкі і брашуры. «Пасланне да землякоў-беларусаў» Шчырага Беларуса. «Лісты пра Беларусь» Данілы Баравіка.

У Баравіка ўжо гаворыцца аб працах Маркса — «гэтага прызнанага главы навуковага сацыялізма», аб «усведамленні неабходнасці нанесці ўдар гэтаму анахранізму (рускай манархіі.— *У. К.*), г. зн. ажыццявіць палітычны пераварот». Выдаецца нелегальны часопіс «Гоман», орган беларусаў з «Народнай волі».

І, урэшце, беларус Ігнат Грынявіцкі (паходжаннем з беларускай беднай шляхты, а ніякі не «польскі дваранін», як пра гэта часам пішуць) 1 сакавіка 1881 г. кінуў бомбу, якой забіў цара Аляксандра II і смяротна параніў сябе. Памёр, нікога не выдаўшы, не назваўшы свайго прозвішча. Яго адрэзаную галаву, заспіртаваную ў вялізным слоіку, пасля паказвалі арыштаваным і сведкам для апазнання.

...Пазней рабочы рух нарадзіў і першыя арганізацыі рабочага класа. Пашыраецца забастовачны і стачачны рух. У 1886 г. забаставалі майстэрні Лібава-Роменскай чыгункі ў Гомелі, у 1887 — рабочыя кавальскіх майстэрняў Мінска. Марксісцкія гурткі з'явіліся ў Гродне, Мінску, Віцебску і іншых гарадах. Народніцтва канчаткова было разгромлена ў працах У. І. Леніна.

І, урэшце, у сакавіку 1898 года адбыўся ў Мінску І з'езд РСДРП. І хаця члены выбранага ім ЦК хутка былі арыштаваны, хаця спатрэбіліся яшчэ гады

працы Леніна і яго паплечнікаў — пачатак быў зроблены.

Сярод сучасных гмахаў новай плошчы Перамогі стаіць на беразе Свіслачы зялёненькі драўляны дамок, адкуль усё і пачалося. Дамок, дарагі нам яшчэ і таму, што пазней у ім жыў, ствараючы свае вершы, Янка Купала, што менавіта ў гэтых сценах ён перакладаў на беларускую мову «Інтэрнацыянал».

Гэта бой наш астатні
За працоўны народ.

Беларусы дзейнічалі ў рабочым руху не толькі на Беларусі. Напрыклад, адзін з арганізатараў беларускіх сацыялістаў, Сяргей Мяржынскі, быў і адным з арганізатараў «Кіеўскага саюза барацьбы за вызваленне рабочага класа».

Чым была Беларусь напярэдадні рэвалюцыйнага выбуху? Гэта была зямля, на якой падымалася на ногі і ўжо досыць трывала стаяла на іх беларуская нацыя. Пачаўся гэты працэс за стагоддзе з лішнім да таго. А становішча, якое пазней прывяло да рэвалюцыі 1905 года, нарадзіла асабліва моцны культурны рух. Прадчуванне 1905 года было як каталізатар. Сілы збіраліся адусюль, згуртоўваліся. І на хвалі гэтай навальніцы высока ўзляцелі Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Алаіза Пашкевіч — Цётка.

Беларуская нацыянальная інтэлігенцыя паступова ламала рамкі, у якія загналі школу пасля паўстання 1863 г. «Разнообразных книг, журналов и газет для крестьян теперь не надо... Вот наш каталог: евангелье, молитвослов, псалтирь, священная история». Гэта пісаў не душыцель асветы, як можа здацца, а папячыцель Віленскай вучэбнай акругі. То што здзіўляцца, калі працэнт непісьменных за стагоддзе вырас (да 1897 г.) з сарака да сямідзесяці сямі. Акультурыліся людзі!

А тут яшчэ прамысловы крызіс 1900—1903 гг., ганебная японская вайна, засілле буйных кампаній. Даходзіла да анекдатызму: ільнопрадзільная фабрыка ў Віцебску і віцебскі трамвай, напрыклад, належалі бельгійскаму акцыянернаму таварыству.

Дэманстрацыі, палітычныя стачкі і забастоўкі аж калоцяць беларускую зямлю. Стачка дваццаці гар-

барных заводаў у Смаргоні (1901 г.), забастоўкі слесараў і сталяроў у Мінску (дабіліся рабочага дня ў 12 гадзін) і дзесяткі іншых. Чырвоныя сцягі на першамайскіх вуліцах. Сацыял-дэмакратычныя групы ахапілі сваім уплывам рабочы рух нават у невялікіх гарадках. Ленінская «Іскра» шырока распаўсюджвалася на Беларусі. Групы «Іскры» працавалі ў Мінску, Гомелі, Пінску, Гродна, Віцебску, Магілёве, Бабруйску, Смаргоні, Копысі і ў дзесятках іншых гарадоў. Там жа ўзнікалі групы РСДРП.

Надышоў 1905 год. Сутычкі з паліцыяй, хваляванні сялян. 18 кастрычніка на прывакзальнай плошчы Мінска тысячы людзей сабраліся на мітынг. Губернатар Курлоў нехаця вызваліў палітзняволеных. Але адначасова да вакзала сцягнулі войска. Пачаўся «курлоўскі расстрэл». Уцекачоў расстрэльвалі ля паліцэйскага ўчастка на Міхайлаўскай вуліцы. 80 чалавек забіта, 300 паранена. У адказ — стачка пратэсту.

Барацьба вялася па-рознаму. Акрамя ўзброеных выступленняў, забастовак, аграрных беспарадкаў, хваляванняў у гарнізонах (Магілёўскі гарнізон, паўстанне салдат у Брэсцкай крэпасці і г. д.), раззбраенні рабочымі верных царызму часцей (у Баранавічах збілі генерала Арцём'ева, які загадаў страляць, здзерлі з яго пагоны), абурэнне прымала самыя розныя формы. Рэвалюцыянер Пуліхаў кінуў у ката Курлова бомбу. Яна не выбухнула. Як выявілася, у арганізацыі быў правакатар, і бомбу, перш чым аднесці Пуліхаву, сапсавалі ў паліцэйскім участку. Рэвалюцыянер быў павешаны.

З'явіліся і «добраахвотнікі свабоды». Сярод іх асабліва цікавай асобай быў Аляксандр Савіцкі (1888—1909 гг.). Быў выключаны з рэальнага вучылішча за рэвалюцыйныя погляды. У час 1905 года ўдзельнічаў у рэвалюцыі, агітаваў, распаўсюджваў літаратуру, агітаваў у Магілёве ісці на гарадскую турму, удзельнічаў у Мінску ў дэманстрацыі, у Чарнігаве арганізаваў рабочы клуб. Калі рэвалюцыя была разгромлена, калі рэвалюцыянеры адступілі ў падполле, забастоўкі пачалі спыняцца, а сялянскі рух быў прыдушаны, і наступіла сталыпінская рэакцыя, Савіцкі, стыхійны бунтар-народалюбца, стаў на шлях «партызанскай» барацьбы. Яшчэ ў вучылішчы

ён славіўся як таленавіты акцёр, які мог пераўвасобіцца ў любога чалавека: мужыка, пана, гандляра-яўрэя (акрамя беларускай і некалькіх заходніх моў, цудоўна ведаў польскую, яўрэйскую, рускую, украінскую. Увогуле быў таленавіты ўсебакова: цудоўны мастак, паэт, аўтар паэмы «Фея вясны», але перш за ўсё, як ужо сказана, артыст).

Сабраў атрад у 200 чалавек, падзяліў яго на некалькі невялікіх дысцыплінаваных груп: «Усе за аднаго... Ніколі не здавацца ў палон... Калі нехта трапіў — усім загінуць, а выручыць... Ніколі не выдаваць ні сяброў, ні свайго сапраўднага прозвішча... Ісці на шыбеніцу са знявагай да ворага... Ніколі не ліць задарма кроў»,— вось такія былі некаторыя пункты статута гэтага атрада. Статута, напісанага Савіцкім.

У яго ўсюды былі сябры. Пра кожную аблаву і экспедыцыю ён ведаў загадзя. Нападаў на маёнткі і банкі, а грошы раздаваў бедным сялянам, беспрацоўным, пагарэльцам, нядоімшчыкам, бясконным. Да жорсткіх прыгнятальнікаў народа пісаліся лісты, і, калі тыя не адумваліся, расправа не прымушала доўга чакаць. Але пасля пары такіх папярэджанняў не было чалавека, які не стаў бы да беднага ласкавы, хоць да раны прыкладай.

Дзейнічаў Савіцкі ў Магілёўскай губерні (паветы Чэрыкаўскі, Чавускі, Горацкі, Клімавіцкі, Гомельскі і інш.), пад Навазыбкавам, Мглінам, Старадубам, на поўначы Чарнігаўшчыны. З'яўляўся ў касцюме спраўніка на балы, пераапрануты ў бабулю, дапамагаў паліцыі лавіць сябе на рынку ў Гомелі. Праязджаў чыгункаю ў выглядзе архірэя па Палессі, благаслаўляючы шэфа жандараў, генерала і чыноўнікаў. Мог памагчы ўдаве стражніка, забітага ў бітве з яго атрадам, бо ўдаву сяляне хацелі сагнаць з зямлі.

Акруга на трыста вёрст, ад Оршы да Украіны, калацілася ад яго імя і благаслаўляла гэтае імя чатыры гады. Ні памешчык, ні стражнік, ніхто не смеў пакрыўдзіць беднага. У Дзяржаўнай Думе цару было зроблена запытанне: «Когда Он соблаговолит утихомирить белорусского Зелим-хана?» Але мясцовая паліцыя і войска не хацелі яго лавіць. Ён стаў легендай, рыцарам новых часоў. Тады за ўказанне яго

сховаў прызначылі ўзнагароду ў 1000 рублёў, і адначасова з Каўказа выклікалі на ловы «дзікую дывізію».

Хворы на малярыю Савіцкі (а з ім два сябры) спыніўся ў пуні селяніна ў вёсцы Краснае (10 км ад Гомеля). Хтосьці выдаў гэтае месца. Салдаты «дзікай» дывізіі абкружылі пуню. Усю ноч ішла перастрэлка, раніцай прыйшло падмацаванне. Тады сябры вырашылі прабіцца. І прабіліся былі, але ўжо на самым узлессі памочнік Савіцкага, рабочы Калугін, быў забіты. Таварышы замарудзілі, цягнучы яго, і іх зрашэцілі кулямі. Было гэта 25 красавіка 1909 года.

## НОВЫЯ ПЕСНІ НОВАГА ДНЯ

На хвалі рэвалюцыі ўзнялася нацыянальная беларуская культура. І хаця клубы, чытальні, гурткі, што паўсюдна ўзнікалі тады, былі забаронены ў 1907 годзе,— спыніць ужо нічога нельга было. Нават у гады адступлення і рэакцыі.

Сярод паэтаў, што з'явіліся тады, пачэснае месца належыць Цётцы — Алаізе Пашкевіч-Кейрыс (1876—1916 гг.). Педагог, сацыялістка, аўтар палкіх вершаў у абарону простага народа, можа, яшчэ часам занадта дэкларатыўных, але шчырых, баявых, сумленных. Усё жыццё яе аддадзена барацьбе з вялікай несправядлівасцю. І песняй, і прапагандай:

Ах, браце родны, нясуцца весці,
Ўжо граюць маршы там на ўсходзе;
Над кожнай хатай, у кожным месцы
Шчабечуць птушкі нам аб свабодзе.
Усіх злучыла чароўна слова;
Жалезны вобруч скуў нам далонь,
І матка сына даць нам гатова,
І жонка мужа вышле ў агонь.

Хаваючыся ад жандараў, яна выязджае ў Львоў (тады Аўстра-Венгрыя) і там, у Жоўкве, выдае два зборнікі вершаў — «Хрэст на свабоду» і «Скрыпка беларуская», а затым «Першае чытанне для дзетак беларусаў», першую беларускую хрэстаматыю на народнай мове. Памерла паэтэса, нечакана захварэўшы, у росквіце сіл.

1905 год даў паэтам магчымасць друкавацца.

З'явіліся газеты «Наша доля», «Наша ніва», пачалі выдавацца кніжкі, альманахі і календары.

Узмужненне літаратуры, выхад яе карабля ў шырокае мора звязаны, перш за ўсё, з імёнамі Янкі Купалы (1882—1942 гг.) і Якуба Коласа (1882—1956 гг.). І хаця вы з самых першых год у школе цудоўна ведаеце іх творчасць — не сказаць пра іх, хаця б некалькіх слоў, немагчыма.

Купала — адна з вяршынь беларускай паэзіі. Не толькі дзякуючы яго генію, а і таму, што, як і Багушэвіч, заўсёды быў з народам, найбольш поўна выказаў дух, характар, спадзяванні гэтага народа, сам быў з народа і ўсёй творчасцю пайшоў у народ.

Галоўнае, што ўплывала на творчасць Купалы,— гэта была песня беларуская, легенда беларуская, жывое жыццё беларускае. Бацька — бедны шляхціц-арандатар, хата непадалёку ад Мінска, звычайная хата з посцілкамі, ручнікамі, тая, што рэканструявана ў Вязынцы, кніга, бо быў амаль самавук. І першы верш «Мужык» — праграма на ўсё жыццё. І першы зборнік «Жалейка», праўдзівы і трагічны, за што і канфіскаваны ўладамі.

Ці завылі ваўкі, ці заенчыў віхор,
Ці запеў салавей, ці загагала гусь,—
Я тут бачу свой край, поле, рэчку і бор,
Сваю матку-зямлю — Беларусь.

Тую зямлю, па якой ідуць людзі, несучы на свет белы сваю крыўду, бо ім захацелася «людзьмі звацца». Для гэтых людзей і складае сваю песню паэт:

Песня мая не ўзышла сярод кветак,
Кветак цвітучага вечна паўдня...
Поўначы сумнай забыты палетак
Даў ёй жыццё пасярод палыння.

. . . . . . . . . . . . . . .

Песня мая не шукае чырвонцаў,—
Будучнасць гэткіх не знойдзе ў ёй плям,—
Жыць толькі хоча ў радзімай старонцы,
Пецці па сэрцу ўсім добрым людзям.
Пецці, і з часам, у добрую пору,
Выклікаць водклік у сонным сяле...
Ўсю Беларусь — неаб'ятну, як мора,
Убачыць у ясным, як сонца, святле.

Нянавісць да прыгнятальнікаў народа, ад апошняга стражніка да цара...

Паўстаньце, покуль цар звыродны
Крыві усёй не выссаў з вас!
Паўстаньце! Край ваш стогне родны,
Заве збаўляць, як зваў не раз.

...Глыбокае і непадробленае народалюбства былі ўласцівыя паэту. Выключнае і ў майстэрстве такой паэмы, як «Курган», у якой гусляр спявае вылюдку-князю жорсткую праўду аб ім, і за гэта жыўцом кладзецца ў зямлю. І ў адной з самых славянскіх рэчаў на свеце, па-язычаску дзёрзкай і радаснай паэме «Яна і я»... І здзеклівая, дасціпная, дужа смешная камедыя «Паўлінка» або мудрая, складаная драма аб сялянах, якіх сагналі з зямлі,— «Раскіданае гняздо».

Купала, услед за Багушэвічам, зрабіў самую важную справу: уліў у жылы народнай паэзіі свежую кроў. Сваю.

Мне асабіста давялося бачыць яго толькі раз, дзіцем, але ўсё сваё жыццё бачу я людзей, якія яго блізка ведалі, якіх ён літаральна стварыў сваёй паэзіяй. Сваім асабістым прыкладам ён нібы прыбавіў высакароднасці свайму часу. Гаворыш з настаўнікам, які яго ведаў, з селянінам, якому ён дапамог, і не можаш не думаць, якія гэта чыстыя і высокія людзі.

Дзе п'есы, там і тэатр. У гэтыя часы з'яўляюцца вандроўныя і аседлыя, аматарскія па складзе, але прафесійныя па мастацтву трупы. Заснавальнікам найлепшай з іх быў Ігнат Буйніцкі, што аб'ездзіў з невялікім сваім тэатрам усю Беларусь, яе гарады, мястэчкі і вёскі. Далейшае развіццё атрымліваюць жывапіс і музыка.

Сябрам, паплечнікам Купалы быў і другі паэт-барацьбіт, Якуб Колас. Сын палясоўшчыка, ён адолеў вышыні асветы, бо ў той сялянскай сям'і кнігу, песню і паданне народнае любілі болей, чым дзе. Паэт стварыў мноства цудоўных вершаў аб лёсе беларуса, а пазней дзве эпічныя паэмы — «Новую зямлю», дзе побыт селяніна, яго імкненне да зямлі, гадавы кругазварот працы, беларуская прырода, людзі, свабодалюбства мужыка пададзены з незвычайнай глыбінёй, і вельмі складаную, тонкую і паэтычную паэму «Сымон-музыка», пра лёс талентаў з народа ў краіне, дзе бедныя хаты і дымныя корчмы, крыжы на ростанях і курганы суседзяць са змрочнымі стара-

даўнімі замкамі, у якіх, што вампіры, сядзяць у раскошы лютыя паны. Калі «Новая зямля» — чыстая, нічым не прыкрытая праўда, то «Сымон-музыка» — праўда, пададзеная праз змрочную, велічную і прыўкрасную легенду.

Паэт быў барацьбітом не толькі ў паэзіі. Будучы настаўнікам, ён удзельнічаў у сялянскіх хваляваннях супраць памешчыка Скірмунта, арганізоўваў нелегальны настаўніцкі з'езд, напісаў падручнік на роднай мове «Другое чытанне для дзяцей-беларусаў», сядзеў за ўсё гэта ў мінскім турэмным замку. Але і за кратамі з'яўляліся вось такія вершы:

Я — мужык, а гонар маю,
Гнуся, але да пары.
Я маўчу, маўчу, трываю,
Але скора загукаю:
«Стрэльбы, хлопчыкі, бяры!»

Усё гэта, і хваляванні, і жыццё беларускай правінцыі, і турму, і нараджэнне інтэлігенцыі, пісьменнік пазней апісаў у выдатнай сваёй трылогіі «На ростанях».

Паэты былі патрэбны — і паэты з'явіліся.

Адзін з пачынальнікаў прозы, аўтар цудоўных алегорый і мудры сатырык-гуманіст Ядвігін Ш. (1868—1924 гг.), некаторыя апавяданні якога і дагэтуль — вяршыня беларускага гумару. Выдатны лірык і аўтар апавяданняў з народнага быту Змітрок Бядуля (1886—1941 гг.); пісьменнік і грамадскі дзеяч (быў першым Старшынёй Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада Беларусі), заснавальнік рабочай паэзіі Цішка Гартны (1887—1937 гг.); Максім Гарэцкі (1893—1939 гг.), дужа самабытны празаік-філосаф,— дый ці мала яшчэ хто?!

І, урэшце, паэт выключны па разнастайнасці вершаў, па форме іх, па адметнасці генія,— не пабаімся сказаць гэта,— Максім Багдановіч (1891—1917 гг.).

Багдановіч памёр у 25 год ад сухотаў у Ялце і пахаваны там, але тым не менш паспеў даць узор самай мужнай і высокай паэзіі ў нашай літаратуры. Мала таго, узняў нашу літаратуру да сусветнага ўзроўню. Вершы ягоныя, пры ўсёй нацыянальнай стыхіі, цікавыя для ўсіх людзей Зямлі.

Арыгінальная яго паэзія — з'ява выключная. Гэта і свет казкі з Лесунамі, Падвеямі і Вадзянікамі, і рэальны боль за народ, і песня народная, і складаныя класічныя формы, і вершы аб старажытнасці.

Але што там казаць? Вазьміце томік яго лірыкі і паспрабуйце прачытаць некалькі вершаў, хай сабе спачатку і самых простых. Бо лепей за генія ўсё роўна не скажаш.

І вы палюбіце яго самай моцнай любоўю.

Колькі яшчэ наперадзе на вашым шляху радасці! Усё вас яшчэ чакае!

## «БЕЛАРУСЬ НА КУЦЕ Ў ХАЦЕ СВАЁЙ СЕЛА...»

### ВАЙНА І РЭВАЛЮЦЫЯ

Першая сусветная вайна кінула Беларусь на чарговыя выпрабаванні. Пякельныя пакуты людзей, спаленыя вёскі, голад, бежанства, стаптаныя нівы, пасечаныя сады, разабраныя на ўмацаванне акопаў дзівосныя палацы, стварэнні народнага генія. Дагэтуль яшчэ сляды: скруткі праіржавелага дроту на дне азёраў, развалены напалам «камень філарэтаў», сляды акопаў і бетонныя капаніры над Шчарай і Сервеччу. Нязмерныя былі людскія пакуты.

...Непадрыхтаванасць да вайны, крадзеж, неразбярыха, прамая здрада, голад у тыле, разруха,— што здзіўляцца, што спачатку прыйшоў рэвалюцыйны крызіс, затым — лютаўскі, а пасля і кастрычніцкі выбух. На Беларусі гэта адбывалася, як і паўсюль — аднаўленне бальшавіцкіх арганізацый, саветы, рабочыя дружыны, стварэнне прафсаюзаў, разгром маёнткаў і г. д. На працягу нейкіх 20 дзён улада па ўсёй усходняй Беларусі перайшла ў рукі бальшавіцкіх Саветаў. Стаўку ў Магілёве разагналі. Галоўнакамандуючы Духонін быў забіты салдатамі.

У лютай барацьбе з войскам Доўбар-Мусніцкага, з контррэвалюцыяй нараджалася новая рэспубліка. Дэкрэты аб зямлі, аб міры, закон аб рабочым

кантролі — улада пераходзіла ў рукі працоўных людзей.

Але тут жа вайна грамадзянская. Напад Германіі, шалёныя рабункі, пасля белапалякі, мяцеж Стракапытава ў Гомелі. Словам, усяго хапіла. Толькі народ, які пакаштаваў волі, нялёгка загнаць у ярмо.

Вось, па-мойму, дужа цікавая быль з запісаў пісьменніка Янкі Брыля пра тое, як немцы ў 1918 г. прымушалі вёску падпісвацца, што людзі хочуць быць пад Германіяй.

«— А то гавораць: Скаціну ўсю пабяром!..» Дык Іван Рыгораў і кажа ім: «Хоць і дзяцей у нас пабярэце — і то не падпішамся».

Шырока разгарнулася партызанская і падпольная барацьба: знішчэнне мастоў, умацаванняў, вадакачак, разабраныя рэйкі. І, урэшце, пад ударамі арміі і партызан, з рэвалюцыяй у тыле, нямецкая ваенная машына пачала развальвацца. Немцы пайшлі прэч.

Пасля вызвалення, 1 студзеня 1919 года, Часовы рэвалюцыйны рабоча-сялянскі ўрад Беларусі апублікаваў Маніфест аб абвяшчэнні БССР. Рэспубліка была ўтворана. Пасля цэлых стагоддзяў Беларусь атрымала дзяржаўнасць, і прытым у якасці дзяржавы рабочых, сялян, працоўнай інтэлігенцыі.

Дужа ўсур'ёз ставіўся да стварэння рэспублікі У. І. Ленін. Работу па яе ўтварэнні на месцах вялі З. Жылуновіч (Цішка Гартны), А. Чарвякоў і іншыя. На І з'ездзе Саветаў Беларусі (2—3 лютага 1919 г.) выступіў Старшыня ВЦВК Я. Свярдлоў.

...І, аднак, па ўмовах Рыжскага міру 1922 г., заходняя частка Беларусі засталася за буржуазнай Польшчай.

Савецкі ўрад адразу надзяліў зямлёю 30 тыс. беззямельных сялян, 9 тыс. парабкаў. Разбуранай, выпаленай краіне быў дадзен крэдыт у 1 млрд. рублёў. Паступова, хай з неймавернай цяжкасцю, адкрылі ў 1921 годзе чыгуналіцейны завод «Энергія» ў Мінску, 4 шклозаводы, завод запалак у Барысаве. Разгарнулася будаўніцтва школ, бібліятэк, чытальняў. У кастрычніку 1921 года быў адкрыты Беларускі універсітэт, а колькасць школ праз год дасягнула тысячы (і гэта толькі ў той яе частцы, што складала тады БССР, 6 паветаў Мінскай губерні). У 1926 годзе прамысловасць была поўнасцю адноў-

лена, а ў першыя ж гады сацыялістычнай індустрыялізацыі з'явіўся завод сельскагаспадарчых машын у Гомелі, заводы металаапрацоўчых станкоў, дрэваапрацоўчыя камбінаты, торфапрадпрыемства «Асінторф», і на яго базе пачалося будаўніцтва буйнейшай электрастанцыі БелДРЭС. Цяпер крыху смешныя і тагачасныя тэмпы і тое, як людзі выбягалі на вуліцу глянуць на нясцерпна брынклівы гусенічны трактар «Камунар», і электрыфікаваная карта на плошчы ў Оршы, дзе «тэрыторыя» была амаль цьмяная і толькі макет БелДРЭСа ззяў на палову гэтай плошчы. Але ўсё залежыць ад параўнання. І наша сённяшняя тэхніка здасца кранальна-смешнай недзе ў 2100 годзе. А тут... я зусім яшчэ не стары чалавек, які толькі пераступіў парог сярэдняга ўзросту, а памятаю рамізнікаў на вуліцах і тое, як уначы падковы рамізніцкіх коней выбівалі з бруку іскры.

## РАЗ'ЯДНАНАЯ ЗЯМЛЯ

А заходняя частка Беларусі так і засталася спрэс кавясковай, сялянскай. Драпежна рабаваўся лес, карысныя выкапні не выкарыстоўваліся. Кожны дзень, кожную гадзіну народ вымушаны быў весці барацьбу за ўласнае існаванне. Адчуваць роўнасць з братнім польскім народам, але кожны дзень чуць у школе, пазбаўленай роднай мовы, як уладары гэтага народа, нібы цвік забіваюць і таўкуць табе ў галаву:

Хто ты естэсь? Поляк малы.
Які знак твуй? Ожэл бялы.
Гдзе ты мешкаш? Мендзы свымі.
В якім краю? В польскай земі[1].

Калі для малога паляка словы гэтыя мелі горды сэнс, для малога беларуса, ды яшчэ на сваёй зямлі — гэта было штодзённае прыніжэнне. Тут і брату, калі ён будзе такое талдычыць штодня — дасі па галаве.

І давалі. І партызанкай і сабатажам у панскіх маёнтках (а ім належала палова зямлі, хаця абшарнікі складалі ўсяго 0,9 % насельніцтва). Натхняла

[1] Хто ты такі? Малы паляк.
Які знак твой? Белы арол.
Дзе ты жывеш? Паміж сваіх.
У якім краю? У польскай зямлі.

тую барацьбу КПЗБ, арганізаваная ў 1923 годзе, і створаны ў 1924 годзе камсамол Заходняй Беларусі. З 1921 па 1925 год цягнулася партызанская барацьба, палалі маёнткі, людзі нападалі на паліцэйскія пастарункі. Амаль уся краіна была аб'яўлена на ваенным становішчы. Паны ўвялі войска. КПЗБ вырашыла спыніць узброеную барацьбу, каб не было залішніх ахвяр сярод мірнага насельніцтва, каб зберагчы патрэбных людзей для іншых метадаў барацьбы. Пакуль не настане рашучы час уз'яднання з СССР.

У 1925 годзе была арганізавана Беларуская сялянска-рабочая Грамада. Гэтая масавая арганізацыя патрабавала самавызначэння, аб'яднання ўсіх беларускіх земляў у адной дзяржаве, школы на роднай мове, утварэння ўрада працоўных, перадачы зямлі сялянам без выкупу. На чале Грамады стаяў беларускі пасол у сейм, публіцыст і прамоўца, выдатны дзяржаўны дзеяч і паэт, аўтар першай навуковай беларускай граматыкі Браніслаў Тарашкевіч (1892—1937 гг.).

На пачатак 1927 года Беларуская Грамада налічвала больш за 100 тыс. чалавек, стала ледзь не самай уплывовай арганізацыяй сярод раместнікаў, сялян і рабочых.

У студзені 1927 г. войска і паліцыя напалі на арганізацыі Грамады. Арыштавалі і кінулі за краты многія тысячы людзей. Учынялі пагромы клубаў і бібліятэк. Хапалі і збівалі найбольш актыўных членаў...

Людзі не хацелі больш цярпець. Ды цярпець было й немагчыма. Адбыліся дэманстрацыі пратэсту.

З лютага 1927 г. у гарадку Косава ўлады адкрылі агонь па дэманстрацыі, якая ішла з лозунгамі: «Мовы!», «Прэч рукі ад СССР!», «Прэч урад Пілсудскага!». Забітых было 5, параненых — за 30. Пачаліся падпалы хат, напады паліцыі і войска на сёлы. Па ўсёй краіне залютаваў тэрор.

### А НА ЗЕМЛЯХ ВОЛЬНАЙ БЕЛАРУСІ...

...На фоне ўсяго гэтага асабліва значныя былі поспехі культуры ў Беларускай ССР. Інстытут беларускай культуры (Інбелкульт) у 1928 г. быў ператво-

раны ў Акадэмію навук БССР, урачыстае адкрыццё якой адбылося 1 студзеня 1929 г. У 1920 годзе ў Мінску быў арганізаваны Першы Беларускі дзяржаўны драматычны тэатр (з 1945 г.— Беларускі дзяржаўны тэатр імя Янкі Купалы) — сапраўды першы, які меў сталае памяшканне, сталую трупу і рэжысёраў. Кіраваў тэатрам таленавіты драматург, рэжысёр і акцёр Е. Міровіч. Стрыжнем трупы былі такія акцёры, як У. Крыловіч, Б. Платонаў, Г. Глебаў. З'яўляюцца на сцэне, акрамя класічных беларускіх п'ес, новыя, такія, як «На Купалле» М. Чарота, «Каваль-ваявода», «Машэка», «Кастусь Каліноўскі» і «Кар'ера таварыша Брызгаліна» Е. Міровіча, пазней — «Бацькаўшчына» К. Чорнага, «Пагібель воўка» Э. Самуйлёнка, «Партызаны» і «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы. Ставяцца п'есы Горкага і Кальдэрона, Мальера і Шоў. І гэта сапраўды глыбокі, бязмерна таленавіты тэатр. Часам гэта глыбокая трагедыя, часам узлёт, часам яркае відовішча. Ён і пазней быў адным з лепшых тэатраў СССР. Мне пашэнціла бачыць рэакцыю на яго пастаноўкі патрабавальнага ўкраінскага, кіеўскага гледача. Гастролі адбываліся ў жніўні 1953 г. у памяшканні тэатра імя Лесі Украінкі. Штопраўды ў нас жывыя яшчэ былі Б. Платонаў і Г. Глебаў, але ж і ў Кіеве жыў яшчэ А. Бучма, грымела слова Г. Юры, спявалі, прынамсі, у «Запарожцы...» Патаржынскі і Літвіненка-Вольгемут, слынныя былі Белавусаў і найлепшы ў свеце Федзя Пратасаў — Раманаў. Здзівіць гледача песняй, танцам, драматычнай ігрой было амаль немагчыма. І, аднак, калі апляваны, замучаны даносамі Туляга ў «Хто смяецца апошнім» (Глебаў) кажа сваё «Не верце. Нізавошта не верце» — у зале на хвіліну запаноўвала такая мёртвая цішыня, што рабілася страшна, а пасля апладысменты ледзь не ламалі столь. А калі ў «Дні цудоўных падманаў» ён, уцякаючы, забіраўся ў нішу і ўдаваў статую — зал стагнаў ад рогату і спаўзаў пад крэслы. У антрактах увесь час можна было чуць:

— Чорт ведае што яны вырабляюць. Я два разы на гэты спектакль хадзіў.

— А я тры. І яшчэ раз пайду, як білет дастану. А што рабілася ў час гастроляў у Маскве!

...На Беларусі была багатая традыцыя вандроўных

тэатраў. Спачатку, з XVII ст., гэта былі батлеечныя трупы, пасля трупы такіх энтузіястаў, як Буйніцкі. Дык вось і тут, адразу за першым, узнік перасоўны тэатр пад кіраўніцтвам У. Галубка, аўтара каля 50 п'ес. Узнік БДТ-ІІ у Віцебску (цяпер тэатр імя Я. Коласа). Тэатры і тэатры рабочай моладзі ўзніклі ва ўсіх хоць крыху буйных гарадах.

Узнікла свая кінематаграфія, у якой працавалі Ю. Тарыч і У. Гардзін.

З'яўляюцца оперы (наш тэатр оперы і балета створан у 1933 г.), сімфоніі, камерная музыка. Зачынальнікі музычнага мастацтва — М. Аладаў, М. Чуркін (опера «Вызваленая праца», сімфаньета «Беларускія малюнкі», мноства рамансаў), Я. Цікоцкі (опера «Міхась Падгорны») і іншыя. У 1932 годзе створана Беларуская кансерваторыя.

Крыху пазней напісана А. Багатыровым опера «У пушчах Палесся» пра партызан грамадзянскай вайны і балет М. Крошнера «Салавей», напісаны па славутай аповесці З. Бядулі аб паўстанні прыгонных супраць панства і аб важаку паўстання Сымоне, які валодаў усімі гукамі зямлі, умеў спяваць салаўём, выць воўкам так, што кідаліся панскія коні, словам, падрабляць галасы ўсіх людзей, птушак і жывёл зямлі.

Шмат рабілі і архітэктары.

Гарады аздабляліся новымі жылымі дамамі, грамадскімі будынкамі. Такія выдатныя помнікі, як Дом урада, Акадэмія, Тэатр оперы і балета (архітэктары І. Лангбард, А. Воінаў, У. Вараксін і іншыя), створаны менавіта ў тыя гады.

Працавалі скульптары і мастакі. Такія рэчы, як «Партрэт М. Багдановіча», «Праца», «Лірнік» А. Грубэ, пейзажы У. Дучыца і У. Кудрэвіча, партрэты М. Станюты, палотны Ю. Пэна — гэта залаты нацыянальны фонд. І, вядома, такія цудоўныя творы Міхася Філіповіча, як «На Купалле», «Дудар», «Вясковы хлопец», як афармленне ім оперы «Кветка шчасця» выдатнага кампазітара Беларусі А. Туранкова. А Я. Красоўскі? А графік А. Тычына?

Пачаўся масавы прыход людзей у літаратуру. Раней былі адзінкі, а тут толькі ў адной арганізацыі «Маладняк» было каля 500 чалавек. Не ўсе з іх засталіся ў літаратуры, сёй-той стаў проста прапаган-

дыстам або аматарам яе, але многія з тых, што вызначаліся або вызначаюцца і зараз, пачыналі з «Маладняка». А былі ж яшчэ «Узвышша», «Полымя».

Тварылі такія паэты, як аўтар паэмы «Босыя на вогнішчы» Міхась Чарот (1896—1937 гг.), рамантычны паэт рэвалюцыі. Пісаў свае байкі, поўныя гумару апавяданні і п'есы Кандрат Крапіва (нар. у 1896 г.). Кнігу за кнігай выпускае непараўнальны майстар беларускай мовы, празаік-класік Кузьма Чорны (1900—1944 гг.) — пісьменнік і чалавек вялікай душы, кнігі якога («Трэцяе пакаленне», «Бацькаўшчына» і інш.) яшчэ доўга-доўга будуць уплываць на перадавую беларускую прозу. І піша яшчэ М. Гарэцкі (1893—1939 гг.), ствараючы «Віленскіх камунараў», і аўтар «Сцежак-дарожак» М. Зарэцкі (1901—1937 гг.).

Дужа рана, на жаль, памірае вельмі таленавіты паэт Паўлюк Трус (1904—1929 гг.), пясняр краю, які павінен стаць «Краем фабрык дымных і машын», і тонкі пранікнёны лірык... У той жа час прыходзяць у паэзію складаны Ул. Дубоўка, трагічна-філасофскі Ул. Жылка, Пятрусь Броўка, Пятро Глебка, такі ўдумлівы, высокакультурны паэт, як М. Лужанін. Пазней з'явіліся юнацкія яшчэ, дужа смелыя вершы Пімена Панчанкі і Аркадзя Куляшова.

Твораць далей і карыфеі. Купала піша мноства вершаў і паэму «Над ракой Арэсай» (1933 г.) — аб асушэнні балот дэмабілізаванымі чырвонаармейцамі, што калісьці штурмавалі Перакоп і Чангар, а цяпер, як багі, стварылі з багны зямлю.

Якраз у гэтыя гады Якуб Колас канчае свае «Новую зямлю» і «Сымона-музыку». Піша такія празаічныя творы, як «Дрыгва», «Адшчапенец», «На прасторах жыцця».

Ну, і ўрэшце якраз у гэты час складаецца дзіцячая літаратура. Мелася яна і да рэвалюцыі, але толькі тут дзеці і падлеткі атрымалі цэлую бібліятэку. У дзіцячых часопісах «Зорка», «Беларускі піянер», «Іскры Ільіча», а пасля і асобнымі кнігамі выходзяць вершы і казкі Купалы, Коласа, Бядулі, аповесці любімага вамі Міхася Лынькова «Міколка-паравоз», «Пра смелага ваяку Мішку і яго слаўных таварышаў» (аб незвычайных прыгодах на вайне трох сяброў, мядзведзіка, сабакі і палкавога казла). І, урэшце,

выключную папулярнасць набываюць прыгодніцкія творы Янкі Маўра: «Сын вады» (пра жыхароў Вогненнай зямлі), «Чалавек ідзе» ( з жыцця першабытных людзей), «У краіне райскай птушкі» (прыгоды экспедыцыі шукальнікаў золата ў нетрах Новай Гвінеі), «Амок» (вялікі і дужа цікавы раман аб паўстанні яванцаў супраць галандскіх каланізатараў — аб тым, як быў захоплены параход «Саардам», аб патаемных падземных капішчах і незвычайных звярах), і ўрэшце «Палескія рабінзоны» — пра хлопцаў, якія трапілі на выспу сярод палескіх балот і жылі там некалькі месяцаў. І не прапалі, не толькі выбраліся, але й злавілі небяспечную банду. У тыя часы шматлікія банды гойсалі на Беларусі, пакуль з імі не справіліся, перабіўшы або палавіўшы.

Урэшце, Янку Маўра вы, вядома ж, чыталі. І не толькі яго, але і іншых.

## ПА ЭТАПАХ

27 студзеня 1936 г. у зале Віленскага акруговага суда Сяргей Прытыцкі (1913—1971 гг.) страляў у правакатара Я. Стральчука ў час, калі той даваў паказанні супраць дзеячаў заходнебеларускага руху, камуністаў і камсамольцаў. Цяжка параніў яго, сам атрымаў некалькі раненняў, быў схоплены і асуджаны на смерць. Але паўсюль пракацілася такая хваля абурэння, што смерць замянілі пажыццёвым зняволеннем.

Заходняя Беларусь віравала. Ледзь не кожны год адбываліся розныя працэсы: «48-мі», «51-го», «75-ці». Пасля разгрому Грамады масы пайшлі ў Таварыства беларускай школы. Паўстанне многіх соцень сялян-рыбакоў з Нарачы за тое, каб ім вярнулі роднае возера, іхнюю любоў і іхні хлеб, прагрымела па ўсёй краіне.

Аб'ядналіся сілы ўсіх прыгнечаных народаў панскай Польшчы. У 1936 годзе ў Львове адбыўся Кангрэс у абарону культуры, на якім выступаў ад імя беларусаў таленавіты філосаф, публіцыст, польскі крытык у эпоху між першай і другой сусветнымі войнамі Генрых Дэмбінскі. Той, што належаў да клерыкальных колаў, быў імі накіраваны ў Італію, каб пераканаўся там у перамозе і велічы фашызму.

І ён наглядзеўся, пераканаўся ў гэтай «велічы» і... вярнуўся камуністам. Той, што выдаваў левую антыфашысцкую газету «Папросту» і якога пасля расстралялі фашысты ў Ганцавічах у 1941 г.

Нягледзячы на страшны лагер Бярозу-Картузскую, на турмы ў Лукішках і Гродні (дарэчы, ва ўсіх іх паспеў пасядзець наш таленавіты празаік Піліп Пястрак) рух вызвалення шырыўся. Вільня па-ранейшаму была культурным цэнтрам беларусаў, палякаў і літоўцаў. І нічога з усім гэтым ніхто не мог зрабіць. У Брэсце падпольная друкарня ЦК КПЗБ выдавала літаратуру на пяці мовах.

Самымі значнымі паэтамі ў Заходняй Беларусі былі Валянцін Таўлай (1914—1947 гг.), аўтар высокай грамадзянскай лірыкі і «турэмнай» паэмы «Таварыш»:

Панове, скончыў я. Чарга — за прыгаворам.
Пайду ў турму і веру — будзе год,
Калі маю прамову дагаворыць
Натхнёны барыкадны кулямёт!

...І перш за ўсё, Максім Танк (нар. у 1912 г.). Такія яго вершы, як «Песня кулікоў», «Павязлі цягнікі», «На пероне», такія паэмы, як «Нарач», «Каліноўскі», сталі народнымі. Лаканізм, паэтычнасць, непарыўная сувязь з народнай паэзіяй вызначаюць яго высокую творчасць.

Паслухайце, вясна ідзе.
Звініць ў маім акне жалеза.
З вінтоўкай стражнік ноч і дзень
Пільнуе куст пахучы бэзу.
А ён расцвіў, агнём гарыць,
Такім пахучым, мяккім, сінім;
На дрот калючы, на муры,
Як хустку, полымя ускінуў.
Я ціха разбудзіў другіх,
Ад слёз сінелі вочы бэзам,
І недзе хруснула ў худых
Руках іржавае жалеза.

Побач з паэзіяй нянавісці, Танк ствараў чысцейшай вады лірычныя дыяменты. Пра лірніка, які памёр у нетрах, пра сінякрылага матыля над жытам, пра стагі, што ржавеюць пад дажджом, і ласёў, што прыходзяць да іх у снежную сінь, скубуць сена і ўяўляюць цёплае лета і белых чаек над балотам.

Яны не чуюць завірухі,
Ціш першабытная кругом...
І выстрал, што ударыць глуха,
Ім прагучыць, як першы гром.

...Не гінула і іншае. Упарта існавалі народныя клубы з п'есамі і песнямі, народныя хоры, спевакі, кампазітары, хармайстры.

Напрыклад, дасканалы хармайстар Рыгор Шырма, шматгадовы кіраўнік беларускай харавой капэлы. Вось я ўяўляю сабе яго разумнае, добрае аблічча, сівыя валасы і бародку, чую голас з такім характэрным, пявучым акцэнтам:

— У сэнсе апрацоўкі беларускай народнай песні шмат было людзьмі зроблена. Часам шэдэўры. Як мы любілі творчасць нашага народа!

— Рыгор Раманавіч, вось вы на свае грошы надрукавалі першую кніжку Танка. 700 злотых... Гэта значыць, 350 пудоў хлеба?

— Выходзіць, так... Або... шэсць кароў.

Ну што ты з імі, з такімі, зробіш. Нават усю сістэму прыгнёту на іх наваліўшы.

...Нічога і не зрабілі. У 1939 г. Заходняя Беларусь уз'ядналася з Усходняй. І зямля стала народнай, і гаспадарку з прамысловасцю досыць хутка ўзнялі.

Толькі... мала часу было дадзена людзям на гэтую спакойную працу, на творчасць, на песню.

Дужа мала.

## ЧАС ВЯЛІКАЙ БЯДЫ

22 чэрвеня 1941 г.

Я ўжо расказваў вам пра Брэст. Засталося крыху сказаць пра пагранічныя заставы. Сказаць пра іх можна двума словамі: загінулі ўсе. Ніхто не адступіў.

Ішлі баі пад Ваўкавыскам і Гродна, пад Астрашыцкім Гарадком. Але сілы былі няроўныя. Армія адступала, нягледзячы на ўвесь гераізм салдат... Некалькі год назад еду па Навагрудчыне. Вёска Плужыны непадалёк ад Свіцязі.

— Што гэта ў вас, дзядзька, на могілках ледзь не адно прозвішча?

— А так, адно. Гасціла. Шмат у нас Гасцілаў. Гэта ж і Мікола Гасціла адсюль. Гэта ўжо там недзе,

у Расіі, яму ці ягонаму бацьку прозвішча на Гастэла перарабілі. Ужо не ведаю, ці пісар ваенны, ці хто.

26 чэрвеня ля Радашковіч Мікалай Гастэла кінуў свой, ахоплены агнём самалёт на калону нямецкіх танкаў і бензацыстэрнаў. Такіх людзей было нямала. І ўсё ж 28 чэрвеня быў захоплены Мінск. Да 11 ліпеня ішлі баі за Віцебск, з 1 да 26 ліпеня змагаліся абаронцы Магілёва. Да пачатку верасня 1941 года гітлераўскія захопнікі акупіравалі ўсю Беларусь.

Частка прамысловага абсталявання, маёмасці саўгасаў і калгасаў была эвакуіравана. Астатняе схавалі на месцы або знішчылі.

Прычыны нашых няўдач на пачатку вайны вядомыя ўсім. Але ўжо ў гэтых няшчасцях кавалася тое, што прывяло да ганебнага краху «тысячагадовы рейх».

Хутар над Сервеччу. Побач з вадзяным млынам. Пажылы падпалкоўнік Яўген Крамко расказвае мне:

— З Гродна не паспеў пайсці. Я тады быў цывільны хлопец, у школе працаваў. Ішоў з групай такіх самых — адна вінтоўка ў нас была — дадому, пад Карэлічы. Раз банда нейкая нас абстраляла. Ну, стрэліў у адказ разы тры, змоўклі... Неба ад самалётаў было аж чорнае: гэта яны кідалі дэсант пад Мінск... За тры дні (і яшчэ дзень быў днёўкі) прайшлі каля ста пяцідзесяці кіламетраў. На вёсцы пасля суткі спаў. І тут пацягнуліся акружэнцы. Усё ім аддавалі. І вось заходзіць чалавек у форме. Убачыў часопіс «Полымя рэвалюцыі», прысвечаны Купалу. «Камсамолец?» — пытае. «Так».— «Тады збяры штонебудзь. І прыгані ніжэй вёскі чайку» (човен). Сабралі, што засталося: сала кавалак, бульбы халоднай, пяток яек. Аж там у ляску група ваенных. У аднаго аблічча значнае такое, валявое. І чатыры шпалы ў пятліцах. Камандзір палка. Перавёз я іх цераз Нёман. А на дарогах машыны грукочуць. Павёў поплавам. Адну вінтоўку падабраў, з поўнай абоймай. Той, што прыходзіў, кажа: «Кінь». Тады камандзір кажа: «Гэта ты кінь. Нясі, хлопец». Я іх прашу: «Вазьміце і мяне з сабой». Палкоўнік кажа: «Вось што, хлопец. Гледзячы па ўсім, табе і тут справы хопіць. Збірай вось так зброю і хавай. Прыдасца.

А мы... невядома яшчэ ці выйдзем». Пайшоў я назад бродам. Гляджу, на дне пішучая машынка. Узяў яе і ледзь на смерць не наляцеў. Бандыт на беразе. Але ўгаварылі яго «дружкі», каб не страляў. Загадалі толькі кінуць... Ну, пасля я яе ўсё адно з дна выбраў. На ёй партызанскія загады і лістоўкі друкаваліся. Прыдаліся, вядома, і вінтоўкі.

Яўген Крамко стаў адным з першых партызан у наваколлі.

Не ўзяцца за зброю было нельга. Савецкі патрыятызм і чалавечая годнасць загадвалі ісці ў бой супраць тых, хто зацягнуў край калючым дротам. Катарга, рабунак, знішчэнне мірных людзей, турмы і канцлагеры. У лагеры Трасцянец, пад Мінскам, тры гады знішчалі па 137 чалавек у дзень. Значыць, 6 чалавек у гадзіну. Значыць, кожныя дзесяць хвілін тут навекі паміралі зямля і неба, увесь сусвет. За гады акупацыі фашысты знішчылі ў Трасцянцы 206 тысяч 500 чалавек.

У некаторых мясцінах не ступала нага немца. Не пусцілі. Там працавалі нашы ўстановы, саўгасы, ішлі заняткі ў школах. Пра ўсіх расказаць немагчыма. Вось толькі некаторыя. Канстанцін Заслонаў, які арганізаваў дыверсіі на Аршанскім вузле: выбухі цягнікоў з дапамогай вугальных мін, замарожванне вадакачак, сігналы нашым лётчыкам падчас бамбёжак. Пасля — партызанскі атрад і гераічная гібель 14 лістапада 1942 года ў баі пад Купаваццю.

А. М. Шмыроў, Ф. Паўлоўскі, стогадовы партызан дзед Талаш. А 14-гадовы Марат Казей, сувязны, разведчык, баец, што загінуў у маі 1944 г. Яму зараз стаіць у Мінску помнік. А обальскія юнакі-падпольшчыкі! Яны ўзарвалі на станцыі Обаль некалькі эшалонаў з танкамі і авіябомбамі, узарвалі льнозавод, электрастанцыю, некалькі складаў і мастоў, цагельню, тры матавозы, экскаватар, дзесяць аўтамашын з салдатамі, зрабілі дыверсію ў нямецкай афіцэрскай сталовай (загінула звыш ста чалавек). Правакатар выдаў іх, але схоплены былі не ўсе, частка пайшла ў партызаны.

...А Мінскае падполле, што няспынна вяло барацьбу, кульмінацыяй якой было забойства гаўляйтара Беларусі сатрапа Кубэ. Міна, прынесеная патрыёткамі А. Мазанік, М. Осіпавай, Н. Траян, разнесла

Вільгельма Кубэ ў шматкі. Калі вы глядзелі фільм «Гадзіннік спыніўся апоўначы», вы прыблізна ведаеце, як гэта адбылося.

А ў ноч з 2 на 3 жніўня 1943 г. пачалася на Беларусі першая «рэйкавая вайна». За 12 дзён аперацыі партызаны ўзарвалі 95 тысяч рэек. Чыгункі сталі прапускаць на 40 % меней ваенных грузаў. І гэта было ў час бітвы пад Курскам.

А славутая Ушацкая блакада ці спробы немцаў блакіраваць партызан у Налібоцкай пушчы? Нічога з гэтага не атрымалася. Хай цаною страт і нечуванага гераізму, але партызанскія брыгады выйшлі з кальца (а ў Налібокі фашысты кінулі дзесяткі тысяч салдат рэгулярнага войска з самалётамі, браневікамі, артылерыяй, эсэсаўскімі часцямі, аўчаркамі) і зноў пачалі наносіць удары ворагу. За іх былі беларускі народ і беларускі лес.

Я ўжо казаў вам, якія ахвяры панёс наш народ. Кожны чацвёрты загінуў. Французы шануюць памяць спаленага Арадур сюр Глана, чэхі — памяць Ліdзіцэ. У нас былі тысячы Арадураў. Жмені зямлі з іх звезены ў вёску Хатынь, што так і не адрадзілася. На месцы гумна, куды загналі людзей і спалілі іх,— помнік. На месцы кожнай хаты — комін са звонам. У летні дзень і ў асеннюю туманную ноч б'юць, б'юць, б'юць над Беларуссю хатынскія званы.

Помсцілі ворагу разам з усімі народамі беларусы-франтавікі. Такія, як Ф. Смалячкоў, што знішчыў 125 гітлераўцаў, такія, як генерал Л. Даватар, кіраўнік коннага рэйда па тылах фашыстаў, як лётчык А. Гаравец, які ў адным толькі баі 6 ліпеня 1943 г. збіў 9 самалётаў ворага і загінуў у гэтым баі. Пералічыць усіх зноў-такі немагчыма.

Здавалася б, у такія страшныя часы не да літаратуры, не да паэзіі. І, аднак, літаратура, наадварот, узнялася да незвычайных вышынь. Нават хадзіла ў лістоўках, як верш Купалы «Беларускім партызанам». У партызанскай друкарні выйшаў зборнік паэта-партызана А. Астрэйкі «Слуцкі пояс». Будучы адначасова разведчыкам, рэдагаваў партызанскую газету беларускі пісьменнік Янка Брыль. Створана была А. Куляшовым таленавітая паэма «Сцяг брыгады». Нельга без хвалявання чытаць ваенныя вершы П. Броўкі. Новымі гранямі творчасці бліснуў Мак-

сім Танк. Асабліва разгарнуўся адменны, дужа самабытны і высокі талент Пімена Панчанкі. Тужачы па роднай зямлі, успамінаючы бор з залатымі суніцамі, сінія касачы ля хаты маці, бачачы гераізм салдат, якія кладуцца на калючы дрот, каб сотні салдацкіх ботаў прайшлі па іх спіне, і журбу пакінутых хат, што закрылі драўлянымі пальцамі вочы, каб не бачыць гора гаспадароў, паэт знаходзіць радкі нясцерпнай пакуты...

Краіна мая! Радасць мая!
Песня мая маладая!
Па нівах тваіх, па тваіх гаях
Сынава сэрца рыдае.

...але і радкі высокай веры:

Веру цвёрда: сканае бязлітасны вораг
і штандар перамогі
над краем запаліць зару.
Пакуль сонца не згасне,
пакуль свецяцца зоры,
Беларусь не загіне! Будзе жыць Беларусь!

Нават смех беларускі тады не загінуў. Гаворыш са старымі партызанамі, і яны чамусьці ахвотней за ўсё ўспамінаюць смешныя выпадкі тых часоў. Як млынар, аддаўшы партызанам муку, просіць, каб яго набілі і звязалі. Як падпольшчык, увесь абкручаны бікфордавым шнурам (нясе яго ў лес), вымушаны па загаду немцаў пераносіць цераз рэчку па сплаўных бярвеннях нямецкіх паненак, і тыя вішчаць і хапаюцца за яго, а немец пасля дае гэтаму падпольшчыку тры маркі, і той, успацелы ад работы і хвалявання, думае: «Пачакайце, залью я вам яшчэ сала за шкуру». Ясна, ад такога смеху мароз па скуры, гэта смех пад шыбеніцай, але, з другога боку, каб не гумар — чалавеку трэба было б самому павесіцца ад пакут і гора, не чакаючы, пакуль гэта зробяць эсэсаўцы.

Вось яшчэ некалькі слоў пра чалавека, з якім быў я асабіста знаёмы. Вясною 1971 года мы спецыяльна прыехалі ў Карэлічы, каб пагаварыць з былым сакратаром Карэліцкага райкома партыі Паўлам Арсеньевічам Жалезняковічам.

Сядзім у цяністым садку. Спеюць парэчкі, адцвітаюць белыя півоні. Кошка гуляе ў траве з двума

кацянятамі. Гаспадар мажны, сівы і бледны. Мыліцы, якімі ён цяпер карыстаецца, адстаўлены да сценкі доміка. Вакол мірны спакой, і гаспадар гаворыць спакойна. А між тым гэта адзін з самых неспакойных і цікавых людзей у рэспубліцы.

Сорак з лішнім год назад быў ён тут, у Заходняй Беларусі, падручным у печніка, будаваў панскі млын, працаваў на пільні. Але і чытаў, і ўдзельнічаў у вясковай самадзейнасці, і працаваў у падполлі, распаўсюджваў камуністычную літаратуру. Арыштоўваўся дэфензівай, а ў 1926 годзе быў узяты па справе забойства правакатара. Пайшлі катаванні, пасля турма ў Навагрудку. Праз год адбыўся суд. Жалезняковіча і яго сяброў, Валодзю і Міколу Царукоў, Сеню Носа прысудзілі да пажыццёвага зняволення. Пасля Навагрудка была гродзенская турма, турма ў Плоцку, вязніца ў Равічы, карцэры, голад, адзіночкі, галадоўкі. Ногі і рукі ад раматусу адмаўляюцца служыць, але чалавек і сябры яго не здаюцца. Настаў 1939 год — і вязні выйшлі на волю. Добраахвотны ўдзел былых вязняў у абароне Варшавы, адступленне на ўсход. Праца, спачатку ў мястэчку Турэц, пасля — сакратаром райвыканкома ў Міры. 1941 г. Фронт. Па загаду ЦК КПБ Жалезняковіч праходзіць «Віцебскім калідорам» у тыл ворага, у Налібоцкую пушчу. Атрад «Камсамольскі». Працуе падрыўніком, а пасля (халодная зіма, сырасць, снег зноў абвастрылі турэмны раматус) — інструктарам падрыўной справы.

Налібоцкая блакада, з якой партызаны ўсё ж прабіліся. Цяжкае аднаўленне знішчанай гаспадаркі, калектывізацыя, будаўніцтва. Сакратар Любчанскага райкома. Пасля — першы сакратар Карэліцкага райкома партыі. І вось — персанальны пенсіянер. Крыху раней чым трэба, па прычыне здароўя, падарванага турмамі, ваеннымі выпрабаваннямі і тым, што гэты чалавек ніколі не шкадаваў сябе.

Гаспадар ажывіўся. Мы відавочна ўзрадавалі яго сваім прыходам. Жартуем, смяёмся, і так непрыкметна праходзіць дзве гадзіны. А пасля адыходзім, бачым купы яблынь, снежныя шары апошніх півоняў і гаспадара, што махае нам рукой. Трывалага чалавека. Проста добрага і сардэчнага чалавека.

Нядаўна ён памёр. І мне шкада, што ён не пачуе гэтых слоў павагі яшчэ аднаго чалавека да яго.

# БУДОЎЛІ, БУДОЎЛІ, БУДОЎЛІ

## З ПАПЯЛІШЧАЎ, ЯК ФЕНІКС

Улетку 1944 г. пачалася аперацыя «Баграціён», бітва за Беларусь (хаця яшчэ ў 43-м г. быў вызвалены Гомель, а ў студзені 44-га г.— Мазыр і некаторыя раёны Магілёўскай і Віцебскай вобласцей). 23 чэрвеня перайшлі ў наступленне войскі 1-га Прыбалтыйскага, 2-га і 3-га Беларускіх франтоў. На другі дзень уступіў у бой 1-шы Беларускі фронт. Нямецкая абарона была прарвана. 26 чэрвеня вызвалілі Оршу, 28-га — Магілёў, Шклоў і Быхаў. 3 ліпеня — Мінск, шматпакутную сталіцу нашу. Немцы траплялі ды траплялі ў «катлы». Мужнасць салдат і партызан была невераемная. Падчас баёў у Беларусі фашысты страцілі жывой сілы ў паўтара раза больш, чым пад Сталінградам. Партызаны захоплівалі гарады, масты, пераправы, чыгункі. У канцы ліпеня тэрыторыя Беларусі была поўнасцю ачышчана ад акупантаў.

Пасля быў Берлін і перамога над Японіяй.

А потым, калі прыйшоў мір,— засталася зямля, якую немцы зрабілі зонай пустыні. Цяжка ў некалькіх словах расказаць, як вялося яе адраджэнне,ператварэнне ў тую сонечную і зялёную зямлю, якую мы ведаем. Скажу толькі, што цяжкасці былі дужа вялікія, што нястомнай працай людзей рэспублікі былі пабудаваны новыя гарады, такія, як Наваполацк і Салігорск, Светлагорск і Белаазёрск, Новалукомль і Жодзіна, пастаўлены Бярозаўская ДРЭС і Лукомльская ДРЭС, самая буйная ў еўрапейскай часткі Саюза (працуе і на братнія рэспублікі), пабудаваны Гродзенскі азотнатукавы, Магілёўскі лаўсанавы, Пінскі трыкатажны, Баранавіцкі баваўняны, самы буйны ў СССР, і іншыя заводы.

Знойдзена нафта — на паўднёвым усходзе, ля вёскі Гарывада, дзе даўно заўважаны былі прыкметы «зямнога тлушчу». Знойдзены за апошні час прамысловыя запасы жалезнай руды. Ну і, ясна, Салігорск, магутныя камбінаты па здабычы калійнай солі.

Я памятаю яшчэ малады, слаба забрукаваны горад, а пад ім — палацы! — іначай не скажаш. Гладкія тунелі — чырвоныя, сіняватыя, з пражылкамі, бліскучымі плямамі і разводамі. Гэта было цікавей і

жывапісней, чым у Маскоўскім і Кіеўскім метро. І ў перапынак чалавек — ёсць такі верш у паэта Міколы Аўрамчыка — бярэ проста са столі соль і падсольвае ёй памідор. Назнарок не прыдумаеш! Асабліва калі ўлічыць, як цяжка было ў вайну беларускаму партызану і проста селяніну без солі. Людзі хварэлі, нават часова слепнулі.

...Ну а цяпер успомніце, што немцы разбурылі больш як 200 гарадоў і 1200 сёлаў, і вам стане лёгка ўявіць, што гэта было — праца па аднаўленні. Бывала, што падчас працы на полі ці па разборцы руін так намерзнешся, што здаецца, памёр бы, абы толькі пахавалі ў печцы.

І вось што ўдалося пабудаваць на месцы попелу і руін.

Новая беларуская вёска?

Возьмем хаця б Верцялішкі ў Гродзенскай вобласці (калгас «Прагрэс»). Гэта эксперыментальны пасёлак. Будаўніцтва такіх паселішчаў пачалося з 1967 г. На іх правяраюцца прагрэсіўныя прыёмы планіроўкі і забудовы калгасаў і саўгасаў, правяраюцца тыпавыя праекты жылых і грамадскіх будынкаў (ці зручна жыць і працаваць). Пасля праверкі ўсё ўдалае бяруць ад іх іншыя пасёлкі, што будуюцца па Беларусі і за яе межамі.

Верцялішкі (гэты пасёлак і пасёлак саўгаса «Леніна» на Магілёўшчыне адзначаны залатымі медалямі ВДНХ) здзіўляюць. Усё ўлічана пры праектаванні: рэльеф, вадаёмы, зялёныя масівы. Высокая якасць праектаў і выдатная якасць будаўнічых работ і добраўпарадкавання. Тэрыторыя дзеліцца на жылую, грамадскую і вытворчую зоны. Цэнтр — грамадская плошча, а на ёй клуб з залай на 360 месцаў і спартыўнай залай. Тут жа праўленне калгаса, сельсавет, гандлёвы цэнтр, пры якім гасцініца і камбінат бытавога абслугоўвання.

Колькасць паверхаў у дамах розная, і ў кожнага будынка свой цікавы архітэктурны воблік. Усё гэта арыгінальна і прыгожа.

За клубам парк з танцпляцоўкай і спортпляцоўкай (стадыён крыху наводдаль). Ля парку дзіцячы садяслі. Ёсць дамы для маласямейных і адна-, двухкватэрныя дамы з балконамі і лоджыямі. Перад адміністрацыйным будынкам — вадаём з фантанамі.

Прыемна і прыгожа жыць у такім пасёлку. Нездарма тым, хто яго праектаваў, архітэктарам В. Емяльянаву і Г. Заборскаму і старшыні калгаса Ф. Сянько ў 1971 г. прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР.

Такіх эксперыментальных пасёлкаў пакуль што не вельмі многа. Справа ж толькі нядаўна пачалася. Нічога, з часам так будуць жыць усе на вёсцы.

Але і «неэксперыментальную» вёску сёння не пазнаць.

Возьмем хаця б адзін досыць тыповы калгас. «Зара» Карэліцкага раёна. Бяру яго не таму, што ён адзін такі. У тым жа наваколлі і калгас імя Шчорса і «Рассвет», у іх гаспадарка і клубы і ўсё іншае няшмат адрозніваецца. Ёсць у нас і лепшыя і горшыя. Проста з былым старшынёй гэтага калгаса, а цяпер старшынёй сельсавета Пятром Майсеевічам Шчарбаковым я асабіста знаёмы, хаця ў першы раз пішу аб ім.

Ёсць, першы пакуль, маршрут, які злучае Мінск непасрэдна з вёскай. Гэта аўтобус «Мінск — Кайшоўка». Шчарбакоў дабіўся гэтага, абабіўшы парогі невядома колькіх кабінетаў. У калгасе свае дарогі, добры выхад на шашу, спрэс асфальтаваныя вуліцы. Яна своеасаблівa прыгожая, Кайшоўка, са сваёй зелянінай, з палямі белай і чырвонай канюшыны. У вайну яна, праўда, не была разбурана — бамбілі толькі — бо тут былі партызаны, але ўсё адно: колькі ж у гэтай вёсцы было мёртвых! У памяць іх устаноўлена ў скверы ля праўлення гранітная стэла. Яна ўся спісана зверху данізу.

Мала людзей, здавалася, не ўзняць нічога, не справіцца, захірэе Кайшоўка. А зараз тут клуб, якому стаяць бы ў горадзе, з дужа багатай і па колькасці і па густу бібліятэкай (старшыня раней быў настаўнікам, а пасля дырэктарам школы), з пакоямі гурткоў, з глядзельнай залай, якой бы й тэатр пазайздросціў. У размове са мной П. М. Шчарбакоў скардзіўся толькі на тое, што ніяк не можа выцягнуць з горада — нават за харошую зарплату — добрага кіраўніка аркестра і драматычнага калектыву.

У кайшоўцаў наладжаны таксама побыт: лазня, газавыя пліты, тэлевізары, пральныя машыны.

Людзі тут дзівосныя. Гэта галоўнае.

Перспектывы, якія стаяць перад рэспублікай,

вельмі шырокія. Будуць развівацца малыя гарады, будзе 36 тыс. грузавых аўтамабіляў у год, будуць мільёны тон нафты, будзе 143 тыс. тон ільновалакна. Будуць прыбраны камяні з палёў, і з часам зямля наша стане зямлёй, дзе паўсюль можна прайсці босым, не параніўшы ног. Да гэтага ідзе.

## СЁННЯШНІ ДЗЕНЬ

За апошнія гады Беларусь па колькасці навучэнцаў на 10 тыс. насельніцтва апярэдзіла Англію, Францыю, Японію, Італію і ФРГ. Тут у 1975 годзе працавала 9442 агульнаадукацыйныя школы, 131 сярэдняя навучальная ўстанова, 31 вышэйшая навучальная ўстанова.

Магчыма, нехта з вас, скончыўшы школу, паступіць ва універсітэт ці ў політэхнічны інстытут, такі вялікі, што ўсе карпусы і лабараторыі яго не абыдзеш і за тыдзень, або ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію з яе надзіва дагледжанымі палямі, старажытным паркам, батанічным садам і аранжарэямі, у якіх вечныя тропікі.

На Беларусі зараз працуе больш за 490 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй.

А ўвогуле ва ўсім СССР працуе 16 358 вучоных беларускай нацыянальнасці.

У нас цяпер два універсітэты. Другі — у Гомелі. Там зараз будуюць для яго новы комплекс, дзе чаго толькі не будзе, аж да палаца спорту і вялізных будынкаў, якія некалькімі паверхамі ўходзяць пад зямлю. А ўвогуле ў рэспубліцы шмат навукова-даследчых устаноў.

Ёсць даследчыя інстытуты ў тых мясцінах, дзе раней іх не было. Беларускія атамшчыкі, кібернетыкі, працаўнікі вылічальнага цэнтра высока цэняцца людзьмі навукі ўсяго СССР.

Акадэмія навук аб'ядноўвае звыш трыццаці навукова-даследчых інстытутаў. Упершыню выдадзена «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя». Кіраваў гэтым выданнем лаўрэат Ленінскай прэміі, народны паэт БССР Пятрусь Броўка. Рыхтуецца да выхаду сямітомная праца «Помнікі Савецкай Беларусі», у якой будуць апісаны і пададзены ў фатаграфіях і планах усе каштоўныя помнікі: ад старых курганаў і

гарадзішч, ад самых даўніх вежаў да новых гмахаў са шкла і бетону, да помнікаў на магілах салдат і знішчаных фашыстамі людзей. Бо народ павінен помніць усё ў сваёй гісторыі, а хто згубіў памяць — згубіў усё. І ўсе тыя помнікі, што ўвойдуць у «Помнікі», будуць аўтаматычна знаходзіцца пад аховай дзяржавы. Мне пашчасціла ездзіць не з адной экспедыцыяй «Помнікаў», удзельнічаць у абмерах і фатаграфаванні старых палацаў, веж і званіц, і гэта было так цікава, што я, пэўна, яшчэ не раз паеду з гэтымі людзьмі.

За апошнія гады вялікі рывок наперад зрабіла наша літаратура, многа па-ранейшаму твораць Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка.

Многія з вас чыталі раманы Івана Мележа. «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Глыбокая хроніка народнага жыцця, дзе не ведаеш, чаму болей здзіўляцца: высокаму майстэрству аўтара, глыбіні яго думкі ці цудоўнай народнай мове.

Або цудоўныя апавяданні выдатнага майстра Янкі Брыля ці яго раман «Птушкі і гнёзды». Пра цяжкі лёс заходнебеларускага хлопца, якога ўзялі ў польскую армію, а потым у бітве з немцамі пры абароне ўзбярэжжа ён трапіў у палон. А пасля ўцякаў з палону: адзін раз няўдала (быў выдадзены жандарам і трапіў у турэмную камеру), а пасля ўдала. І прыйшоў на радзіму, таксама ўжо захопленую ворагам, каб узяць зброю ў рукі.

Ці аповесці і раманы Івана Шамякіна, пісьменніка, які жыве з народам, аддаючы яму ўсе свае здольнасці, аўтара «Крыніц», «Трывожнага шчасця», «Сэрца на далоні» і іншых вядомых твораў.

Ну і Васіль Быкаў, творы якога перакладзены на многія мовы свету, пісьменнік суровы і бязмежна праўдзівы, які піша пераважна пра вайну і сам прайшоў усю вайну артылерыстам. Вы, мабыць, чыталі такія яго кнігі, як «Жураўліны крык», «Абеліск», «Сотнікаў», «Воўчая зграя» і многія іншыя. А можа, бачылі фільмы, знятыя па яго аповесцях,— «Трэцяя ракета» або «Альпійская балада». І вам, натуральна ж, спадабаліся поўныя трывог і, урэшце, шчасця, уцёкі з лагера ваеннапалонных беларускага хлопца Івана і італьянкі Джуліі. І тое, як, урэшце, яны пакахалі адно аднаго. А потым быў подзвіг і смерць

Івана, які, ратуючы дзяўчыну, загінуў сам. І прыйшла вечная памяць аб ім.

Або такія раманы, як «Векапомныя дні» Лынькова, вялікая эпапея партызанскай барацьбы.

Ці камедыі і трагікамедыі А. Макаёнка «Выбачайце, калі ласка», «Трыбунал», «Зацюканы апостал», «Таблетка пад язык», «Святая прастата». Гэта вельмі цікавы майстар са сваім камедыйным почыркам.

А за імі ішлі ўсё новыя і новыя прылівы ў літаратуру вельмі таленавітых паэтаў і празаікаў. Хваля за хваляй, няспынна, яны рабілі нашу літаратуру больш багатай, яскравай, шматграннай. Як назваць іх усіх? Гэта вытанчаны майстра верша Р. Барадулін, глыбінны знаўца чалавечай псіхалогіі В. Адамчык, Я. Сіпакоў з яго гістарычным мысленнем, мініяцюрыст нават у аповесцях Б. Сачанка, М. Стральцоў з яго ўвагай да дэталі, суровы і пяшчотны А. Пысін, жарсткавата-гуманны І. Чыгрынаў, назіральнік душы чалавека І. Пташнікаў, Г. Бураўкін з яго грамадзянскасцю, просты і шчыры ў кожным слове У. Дамашэвіч, тонкі лірык В. Зуёнак.

Усіх не пералічыш, на жаль, хоць кожны варты ўпамінання. Бо пісьменнікаў у нас больш як 300. Акрамя таго, баюся даць волю сваім сімпатыям ды каго-небудзь з гэтых людзей пакрыўдзіць. А вы вось дастаньце ды чытайце. Вершамі, апавяданнямі, раманамі многіх і многіх будзеце задаволены.

Людзі, што прыязджаюць да нас, часта могуць трапіць на мастацкія выстаўкі. Цяпер пабудаваны Палац мастацтваў, і выстаўкі тыя будуць пастаянныя. У нас шмат мастакоў, якія адлюстроўваюць чароўную прыроду Беларусі, гераічнае яе мінулае і не менш гераічнае сучаснае. Імёны Я. Зайцава, В. Цвіркі, В. Волкава, К. Красоўскага, А. Кішчанкі, М. Савіцкага, М. Данцыга, Г. Вашчанкі і многіх-многіх іншых вядомы далёка за межамі рэспублікі. У нас цудоўныя афарміцелі кніг, яны ж і першакласныя графікі. Назаву толькі А. Кашкурэвіча, В. Шаранговіча, Н. Паплаўскую, А. Паслядовіч, А. Лось, Э. Агуновіча, Б. Заборава, У. і М. Басалыгаў, І. Капеляна.

Імя ім — легіён. Як і архітэктарам, музыкантам, паэтам, мастакам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Такая ўжо наша зямля. Шмат беларускіх кніг, што выдадзены цяпер, можна лічыць творамі мастац-

тва. Іх хочацца не толькі чытаць, але і глядзець.

Поспехі скульптуры таксама значныя. Не кажучы пра старэйшых — А. Бембеля (аднаго з аўтараў Брэсцкага мемарыяла), З. Азгура (помнік Я. Коласу яго работы пастаўлены ў Мінску), працуюць маладзейшыя, такія, як І. Міско (помнік І. Буйніцкаму ў Празароках) і С. Вакар. Хутка перад тэатрам оперы і балета стане яго выразны, дужа паэтычны помнік Максіму Багдановічу.

А глыбока рамантычны помнік Янку Купалу А. Анікейчыка?

Пра Купалаўскі тэатр я вам ужо расказваў. Яму нядаўна споўнілася 50 год. Таленавіты калектыў працуе і ў Віцебску ў тэатры Якуба Коласа. Калі першыя пачастуюць агнявой і вясёлай «Паўлінкай», то другія хітраватым і гарэзлівым «Несцеркам». Ёсць у нас тэатр юнага гледача і свой, беларускі цырк. Узнікаюць новыя тэатры — і прафесійныя і народныя.

Што ўласціва нашаму тэатру апошніх год? Чым ён адметны?

Вось чым. З 60-х гадоў на нашай сцэне нібы нейкім жывушчым ветрам павеяла. Вялізная ўвага да глыбінь чалавечай душы, вострыя сацыяльныя праблемы, бязлітасная праўдзівасць у лепшых спектаклях, развіццё лепшых нацыянальных традыцый.

І пры гэтым адмаўленне ад штампаў, пошукі рэжысёраў і акцёраў. І, што, можа, самае галоўнае, зусім іншая па якасці, існа нацыянальная, беларуская драматургія.

Гэта творы К. Крапівы («Брама неўміручасці»), А. Макаёнка, А. Дзялендзіка, М. Матукоўскага, А. Петрашкевіча.

А колькі выключных па сіле таленту і шчырасці акцёраў прыйшло за апошнія гады ў нашы тэатры!

Кіно... У нас вялікая новая студыя, якая можа выпускаць шмат фільмаў у год. Вы бачылі «Чырвонае лісце», прысвечанае замаху С. Прытыцкага на правакатара. «Альпійскую баладу» і глыбока трагічны фільм «Праз могілкі» пра першыя гады акупацыі, пра гераізм і боль беларускі. Бачылі, мабыць, двухсерыйны фільм па раману А. Адамовіча «Партызаны». Або больш новыя: «Полымя», «Руіны страляюць ва ўпор». Працуе ў нас група таленавітых сцэнарыстаў, рэжысёраў, аператараў і акцёраў, у тым ліку

дзяцей (бачылі, пэўна, фільмы: «Дзяўчынка шукае бацьку» і «Пушчык едзе ў Прагу». У апошнім удзельнічалі і мядзведзі).

Некалькі год назад даганяем мы гэтую кінаэкспедыцыю пад Мазыром, бачу — Пушчык залез у рэфрыджэратар і там лёдам храбошча, ды з такім апетытам: гэта для яго ў спёку, як марожанае для нас. А вечарам, пасля работы, ён атрымоўваў і «прэміяльныя» — мёд.

Развіваецца і музыка беларуская. Шмат створана папулярных песень, опер, сімфоній, камернай музыкі. Твораць вядомыя старэйшыя кампазітары: А. Багатыроў, аўтар «У пушчах Палесся», Ул. Алоўнікаў, першыя такты песні якога «Радзіма мая дарагая» сталі пазыўнымі беларускага радыё, гучаць надзіва меладычныя рамансы і песні А. Туранкова, оперы Ю. Семянякі, балеты Г. Вагнера. А больш маладое пакаленне — Д. Смольскі, С. Картэс і вельмі таленавіты аўтар opernай і балетнай музыкі Я. Глебаў. Або І. Лучанок, песні якога ўсе вы ведаеце, ці адзін з лепшых арганістаў Саюза, кампазітар, музыка якога дзейнічае на слухача вельмі моцна, А. Янчанка.

А хто не ведае ансамбль «Песняры»?

І пошукі ўсіх творцаў нашай музыкі вельмі-вельмі плённыя.

Пра архітэктуру не кажу. Проста, калі вы не мінчане, прыязджайце і пройдзем Ленінскім праспектам, галоўнай вуліцай Мінска, праспектам, праект якога ўдастоены Дзяржаўнай прэміі БССР. Не ўсё, вядома, і тут добра. Але ўсё ж, у асноўным, велічныя новыя гмахі, купалы, шпілі, забраная ў граніт стужка Свіслачы, магутная дуга акадэміі, а на іншых вуліцах і праспектах суцэльныя вертыкалі бетону і шкла.

На жаль, у сталіцы і іншых гарадах Беларусі мала засталося будынкаў 20—30-х гадоў. У Мінску гэта Дом урада, манументальны і, адначасова, скульптурны, лаканічны будынак ЦК КПБ, оперны тэатр, які надае цэнтральнай частцы горада такую адметнасць і г. д.

Пасля вайны на месцы амаль знішчанага горада ўзнік новы з яго цікавымі ансамблямі, з сістэмай паркаў у пойме Свіслачы, сістэмай, што так удала пераходзіць у масіў лясоў вакол Заслаўскага вадасховішча.

Не, гэта сапраўды прыгожа! І мастацкі музей, і політэхнічны інстытут у Мінску, і ансамблі Віцебска. А сучаснае будаўніцтва. Жылыя дамы па бульвару Талбухіна ў Мінску і праект забудовы Волатава ў Гомелі, будоўлі на беразе Мухаўца ў Брэсце і жылыя дамы крывалінейнай канфігурацыі ў мікраараёне «Усход-1», Палац спорту ў Мінску і пансіянат (а таксама і гасцініца «Юнацтва») на беразе Мінскага мора. А паглядзіце, як зручна дзецям у дзіцячым садзе па Слясарнай вуліцы (Мінск). Тут табе і светлыя пакоі, і веранды, і нешта накшталт старадаўняй крэпасці для гульняў. А кінатэатры («Кастрычнік», «Партызан» і «Піянер» у Мінску, «Кастрычнік» у Магілёве-2, «Імя Калініна» у Гомелі)! А смелы будынак гомельскага цырка!

Калі вы станеце дарослыя — яны будуць яшчэ прыгажэйшыя, нашы вёскі і гарады. Вы пройдзеце па іх вуліцах, і вам самім захочацца прыкласці свае рукі, веды і ўмельства да таго, каб зрабіць іх дзівам дасканаласці, а зямлю нашу — найлепшай у свеце зямлёй.

І трэба многа, вельмі многа ездзіць, сябры. Вы маладыя, і калі будзеце часта жыць «на колах», шмат хадзіць і падарожнічаць, вы паглядзіце многае ў свеце. Але перш за ўсё вам трэба ведаць свой, самы для нас прыгожы край. Ездзіце. З экскурсіямі, да сваякоў або да сяброў. Вы ўбачыце ўсе канцы нашай мілай, ласкавай няяркай краіны, якая, аднак, зачаруе вас сваёй няўлоўнай прыгажосцю. Убачыце Прыдняпроўе і Прынямонне, роўных якім па прыгажосці мала знойдзецца мясцін на зямлі. Убачыце далёкія агні новабудоўляў і цёмныя волаты замкаў, партызанскія зямлянкі і вясёлку Каложы. І азёры з белымі грабянцамі на сіняй вадзе, і старыя каменныя млыны над рэчкамі, што зараслі белай лілеяй, поўню ў азёрнай вадзе і водсвет яе на мокрых тратуарах гарадкоў. Будзеце слухаць музыку нашай пявучай мовы і нашы пяшчотныя песні. І ўбачыце зуброў і аленяў. Пройдзеце па зажураных пушчах Палесся. І, галоўнае, пазнаеце свой гасцінны, добры, горды і таленавіты народ.

Я не мог напісаць аб усім і ўсіх, і хай яны мне прабачаць.

І вы прабачце мне за доўгую размову. Калі пачнеш

прызнавацца ў любові да самага дарагога — скончыць тое прызнанне амаль немагчыма.

Вы самі ўсё зведаеце, самі перамераеце яе дарогі і сцежкі. Зведаеце больш за мяне, перад вамі куды больш доўгая дарога.

Любіце гэтую сваю святую зямлю аддана і да канца. Іншай вам не дадзена, дый непатрэбна.

Але калі вам, дарагія мае дзяўчаты і хлопцы, захацелася пасля прачытанай кнігі прайсці па шляхах нашай Беларусі, нашай зямлі пад белымі буслінымі крыламі, пахадзіць гэтымі дрымучымі дубровамі, праплысці гэтымі поўнымі рэкамі,— буду лічыць, што работа мая зроблена. Буду шчаслівы.

Бывайце ж шчаслівыя і вы.

*1971 г.*

# КАМЕНТАРЫ

II

У восьмы том Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ўваходзяць п'есы «Кастусь Каліноўскі», «Званы Віцебска», «Калыска чатырох чараўніц», «Маці ўрагану», «Млын на Сініх Вірах» і нарыс «Зямля пад белымі крыламі».

Драматургія і мастацкая нарысістыка — такая ж арганічная старонка творчасці пісьменніка, як яго паэзія і проза. І ў гэтай сваёй іпастасі Караткевіч надзвычай таленавіты як мастак, як філосаф і гісторык. І тут, у п'есах і нарысе, маштаб творчага мыслення звязаны з глыбокім пранікненнем пісьменніка ў дыялектыку часу. І тут зброя яго — праўда і гуманізм.

П'есы У. Караткевіча — гэта цэласнае эпічнае палатно, у цэнтры якога намаляваны вобраз роднай Беларусі, цяжкі лёс народа. Вобраз гэты абуджае да роздуму, не пакідае чытача абыякавым, бо створаны вялікай сілай мастакоўскай фантазіі.

З асаблівай любоўю аўтар апавядае пра лепшых сыноў Беларусі Кастуся Каліноўскага і Васіля Вашчылу. Рэдкі дар творчага пераўвасаблення, якім валодаў У. Караткевіч, даў яму магчымасць раскрыць глыбіні ўнутранага свету герояў, перадаць найтанчэйшыя адценні іх пачуццяў і думак. Аўтар здолеў паказаць іх і як людзей таленавітых, разумных, герояў-рамантыкаў свайго часу.

У п'есах выявіўся глыбокі талент Караткевіча тонка адчуваць дух, настрой эпохі, разумець жывое жыццё людзей сівой даўніны.

На жаль, абмежаваны аб'ём тома не дазволіў уключыць яшчэ адну п'есу У. Караткевіча, якая называецца «Трошкі далей ад месяца» (не друкавалася).

Нельга не згадаць тут і пра нязДзейсненыя драматургічныя планы пісьменніка, у прыватнасці, пра вельмі асабістую, запаветную для яго задуму — п'есу, прысвечаную Максіму Багдановічу. Захопленасць аўтара гэтай тэмай, вобразам вялікага ў паэзіі і трагічнага ў жыцці Багдановіча, яскрава выявілася ў яго «Запісцы аб задуме п'есы «Максім, Магдалена і лебедзь», урывак з якой ніжэй прапануецца чытачу (рукапіс захоўваецца ў асабістым архіве У. Караткевіча, друкуецца ўпершыню).

«...Размова ідзе, вядома, не пра інсцэніраваную біяграфію, а пра арыгінальны спектакль, глыбокі па змесце і думцы, рамантычны па настроі, жыццесцвярджальны, нягледзячы на трагізм.

Рэальнае жыццё Багдановіча дае шмат магчымасцей для стварэння такога спектакля. Паэт, які памёр у дваццаць шэсць год, не

паспеўшы сказаць і сотай часткі таго, што мог, але паспеў стаць любоўю народнай: знічка, якая прарэзала на імгненне неба, а апаўшы на зямлю, запаліла зніч. Паэт, які задыхаўся ў атмасферы тагачаснай дзейнасці, але ўсё ж здолеў пакінуць нам песні гневу і пяшчоты, болю і радасці, творы глыбока лірычныя, змрочныя або светлыя, улюбёныя ў жыццё і ў чалавека, незвычайныя, яскравыя, дзеці магутнага розуму і шчодралюбівага сэрца.

Гісторыю гэтага незвычайнага жыцця і павінна перадаць п'еса. Нянавісць паэта да няпраўды і рабства, вечная яго вайна з імі, у якой паэт, нягледзячы на смерць, перамог коршакі, якія ўсё жыццё шматавалі яго, павуцінне, у якім ён біўся, гісторыя яго нязмернай і трагічнай любові — будуць сюжэтам п'есы.

Гэта будзе п'еса-паэма, п'еса-балада, п'еса-легенда. І таму ў тканіну звычайнага апавядання аб апошніх пяцёх гадах жыцця Багдановіча мною будзе ўплецена некалькі найбольш славутых ягоных балад і легенд, напружаных і драматычных па дзеянні, разнастайных па месцы і часу дзеяння, шматкаляровых па страсцях і адзеннях («Максім і Магдалена», «Слуцкія ткачыхі», «Агата», «Страцім-лебедзь» і іншыя).

Паколькі ў кожным творы паэт раскрывае сябе і час, гэтыя ўстаўкі будуць своеасаблівым раскрыццём рэальных падзей жыцця. У іх будуць удзельнічаць тыя самыя героі, што і ў бытавых сцэнах, толькі ў іншых касцюмах. У іх будзе той самы канфлікт, толькі вырашаны больш рамантычна. Напрыклад, крах кахання Багдановіча да Веранікі будзе вырашаны праз славутую баладу «Максім і Магдалена», дзе герояў будуць іграць тыя ж акцёры. Гэта дасць магчымасць паказаць больш яскрава тое, што (на самай справе) звычайная жыццёвая гісторыя была для паэта эшафотам.

Неабходнасць гэтага тлумачыцца тым, што не заўсёды мы можам меркаваць аб паэце па абставінах яго жыцця. (Магутны розум Гётэ хаваўся за лічынай царадворца, Шэкспір быў акцёрам, які так і не ўзняўся вышэй «ценю бацькі Гамлета».)

За вонкавасцю Багдановіча, вонкавасцю смяротна хворага, зусім маладога, вельмі мяккага і добрага чалавека хаваўся леў, тытан, які ўзрывае ўсе і ўсялякія нормы, груваcціць Пелеон на Осу, гару на гару, правадыр магутнай коннай арміі, лебедзь, які кінуў выклік самому богу.

І таму вось так, праз ягоныя творы, спалучаныя з абставінамі яго жыцця, мы толькі і можам вырашыць вобраз паэта».

## Тэксталагічная даведка да тома

П'есы «Кастусь Каліноўскі», «Званы Віцебска», «Маці ўрагану» і «Калыска чатырох чараўніц», друкуюцца па тэксце кнігі «Старыя беларускія хронікі».— Мн.: Маст. літ., 1988. П'еса «Млын на Сініх Вірах» — па аўтарызаваным машынапісе (машынапіс з аўтарскімі папраўкамі), які захоўваецца ў ЦДАМЛіМ БССР, ф. 129, в. 1, адз. зах. 12, хоць таксама друкавалася ў «Старых беларускіх хроніках».

Чаму так? Паводле сведчання Н. С. Кучкоўскай — сястры У. Караткевіча, — першыя чатыры з прыгаданых п'ес былі падрыхтаваны да друку самім аўтарам. П'еса «Млын на Сініх Вірах» падрыхтавана да друку пасля смерці пісьменніка. З гэтай прычы-

ны найбольш аўтарытэтным яе тэкстам з'яўляецца тэкст машынапісу.

### *Кастусь Каліноўскі* (с. 5)

Смерць і неўміручасць

Упершыню — Полымя, 1980, № 6.

Датуецца 16 лютым — 30 жніўнем 1963 г. паводле аўтарскай паметы на рукапісе, які захоўваецца ў бібліятэцы АН БССР, ф. 11, в. 1, адз. зах. 135.

Пастаўлена тэатрам імя Я. Коласа ў 1978 г. (рэж. В. Мазынскі). Мела поспех у гледача. Гл. рэцэнзіі: Н. Первякова. Галоўны герой — Беларусь.— Тэатральны Мінск, 1978, № 1; Т. Сцефаненка. На сцэне — «Кастусь Каліноўскі».— Віцебскі рабочы, 1978, 19 снежня.

Творчая гісторыя п'есы няпростая, пра што сведчаць каля дзесяці яе варыянтаў. Тэксты іх захоўваюцца ў асабістым архіве У. Караткевіча, якім ведае Н. С. Кучкоўская, у бібліятэцы АН БССР, ЦДАМЛіМ БССР. Адзін з ранніх варыянтаў п'есы вядомы пад назвай «Руна пра Кастуся». Гэты варыянт мае «Заўвагі для акцёраў» — своеасаблівы аўтакаментарый да п'есы. «Заўвагі...» дапамагаюць глыбей зразумець аўтарскае бачанне герояў. А па сутнасці, тут выкладзена і эстэтычнае крэда Караткевіча-драматурга. Асаблівую каштоўнасць уяўляюць аўтарскія выказванні наконт жанравай спецыфікі руны, наконт характару Кастуся («крый божа даць... нешта ад правадыра») і аўтарскае разуменне характару станоўчых і адмоўных герояў («...усе ў п'есе павінны быць людзьмі»). «Заўвагі...» сведчаць пра рэжысёрскія здольнасці У. Караткевіча, добрае веданне ім сцэнічнай справы. Друкуюцца ўпершыню (па машынапісе, які захоўваецца ў бібліятэцы АН БССР, ф. 11, в. 1, адз. зах. 138).

#### ЗАЎВАГІ ДЛЯ АКЦЁРАЎ

Нягледзячы на тое, што гэта — «трагедыя» — «рвать страсть в клочки» не рэкамендуецца. Гэта руна, то бок паданне, песня, а людзі паданняў павінны быць значна цішэйшыя, чым жывыя, больш задушэўныя і стрымана рамантычныя. Гэта асабліва датычыцца сімвалічных сцэн, героі якіх нават рухаюцца запаволена, нават гавораць глухавата, нават жэстыкулююць амаль аднымі скупымі і выразнымі рухамі рук. Шумнымі і гарластымі, салёнымі і нястрыманымі павінны быць толькі «народныя» сцэны. Іхнія героі павінны напінацца і напівацца, гарланіць і рагатаць, жартаваць, пляваца, лаяцца і ўчыняць усялякія іншыя дзеянні, прынамсі, як цэлы дзесятак Гарганцюа. Непрыкрытая буфанада, фарс, рогат ва ўсю глотку — тут ніколі не перашкодзяць. Біць дык біць, секчы галовы дык секчы, скакаць у магіле дык скакаць. І, аднак, за ўсім гэтым павінна цвёрда праглядацца веліч, бо гэта яны героі трагедыі, *хаця самі і не разумеюць гэтага.* Характар астатніх сцэн падкрэсліваецца нават дэкарацыямі. Змрок і блытаніна вуліц старой Вільні, гмахі яе касцёлаў — самі павінны выклікаць у акцёра адпаведны настрой. Калі да подыху стагоддзяў дадаць яшчэ тое, што паўстанне асуджана на смерць з самага пачатку, дык гэтае наканаванне, якога ніхто не разумее, але адчувае кожны, павінна прыдаць паводзінам людзей горкае, страшнае і ад гэтага яшчэ больш чалавечае, велічнае і горкае адценне.

І менавіта таму крый божа даць у характары Кастуся нешта ад «правадыра», а ў характары, скажам, Вастравуха — нешта ад палкаводца, ад Напалеона. Правадыроў і напалеонаў робіць удача (і то не з такіх людзей, як нашы героі), а ў нас — апошнія месяцы мяцяжу.

Мятеж не может кончиться удачей.
В противном случае его зовут иначе.

Нашы героі проста людзі, выключныя людзі, вельмі страсныя, добрыя і чалавечныя. Яны робяць тысячы памылак, але з гэтай прычыны яшчэ больш дарагія нам, бо іхнія памылкі таксама *ад любові.* Ад галоўных станоўчых герояў хацелася б вялікай высакароднасці, асаблівай, глыбокай і, вядома, не той, што ходзіць на катурнах, а той, што прымушае выключна высокага чалавека заўсёды сутуліцца, каб не падкрэсліваць свайго росту. А рост гэты ўсё адно прыкметны.

І яшчэ адно: крый божа рабіць дурнямі ворагаў. Мураўёў, магчыма, нават разумнейшы за Кастуся (іначай перамога не дамагласся б яму так параўнаўча лёгка), але гэта ганебны розум блiскучага адміністратара дзяржавы катаў, розум, не сагрэты ні дабрынёю, ні вераю ў людзей. І, аднак, Мураўёў *чалавек.* Яму нельга *дараваць*, але яго можна *зразумець.*

Наогул, усё ў п'есе павінны быць *людзьмі.* І дэ Сальe зусім не легкаважная распуста і не дурніца, а проста жанчына, што шукае кахання, не думаючы аб тым, ці вартая яна яго цяпер. І Парафіяновіч — не той здраднік, што скуголіць і качаецца ў нагах: «А браточкі вы мае: ручкі-ножкі пацалую, а я ж не сам да немцаў пайшоў». Такі стандарт набіў аскому, такі лямант ганебна чуць са сцэны і экрана, бо гэта хлусня, бо нават здрада *для самога здрадніка* з'ява заўсёды абгрунтаваная. І вось гэтую *логіку* кожнага характара, карані яго, павінен паказваць кожны, не думаючы аб тым, хто ён: герой у плашчы, ці нягоднік у шортах. І тады ўсё астатняе прыкладзецца, але характары будуць жывыя, і нам будзе не смешна, а страшна.

У гэтым, у характарах,— галоўнае, а зусім не ў тым, урэшце, малаважным факце, што Беларусь і Літва паўсталі, а потым іх скарылі, што Мураўёў быў вешацель і спавядаў фаталізм, а Каліноўскі быў харошы і навучыўся дэмакратызму, чытаючы артыкулы Чарнышэўскага. Людзі, вось што галоўнае. Розныя: дрэнныя, добрыя або проста цёпленькія, дурныя ці разумныя, людзі, скутыя адным ланцугом.

Праблемы шавінізму, сенсіманізму і г. д. нас не павінны тут цікавіць. Руну, песню гэта не цікавіць ніколі. Яна не думае, што гістарычны гетман Сагайдачны быў не вельмі і варты захаплення чалавек. Яна проста памятае, што ён «обміняв жінку на тютюн та люльку», і, у захапленні ад заліхвацкай гультайскай прыгажосці гэтага ўчынку, гарланіць ва ўсё горла: «Ой, на горі тай женці жнуць». Так і нам. Проста перад намі ўстаюць людзі, якія жылі сто год назад, але якіх мы разумеем, магчыма, лепей, чым сучаснікаў. Устаюць, кахаюць, сварацца, гінуць. Адных з іх катуюць і ганяць — а значыць, яны маюць права на наша спачуванне, на наша сэрца. Вось і ўсё. Адны з іх больш любяць *людзей* (а значыць, і мы любім іх), другія — фальшывую *ідэю велічы*, якая — не веліч *дзяржавы*, якая даўно не дзяржава, а турма,

і *спакою*, якi не спакой, а застой. Таму першых мы любім, а другіх ненавідзім, але разумеем.

Я магу расказаць кожнаму акцёру, які захоча падрабязную біяграфію кожнага з герояў (тым больш што цалкам выдуманых сярод іх амаль няма, і толькі некаторым я, каб мець прастору для выдумкі, змяніў прозвішчы: скажам, Юзэфа Яневіч — Юзэфа Баневіч,— мне не падыходзіў яе ўзрост, трэба было прыбавіць некалькі год). Магу расказаць, як яны апраналіся, якія кнігі чыталі, якія ў іх былі валасы, жэсты, вочы, паходкі — але я думаю, што запісваць гэта не варта. Матэрыял для гэтага — у дыялогу, а жэсты і іншае прыдумаюць самі творцы, і аўтару менш на ўсё варта шчаміцца ў гэты працэс. Таму я скажу толькі пра некаторых, каб акцёры пазбавіліся грубых памылак. І яшчэ, каб яны ведалі, чаго *нельга* рабіць *ні ў якім разе,* бо гэта не адпавядае характару, задуманаму аўтарам. Дык вось:

*Каліноўскі* — на пачатку п'есы яму 25 год. У жыцці ён быў сярэдняга росту, але ў нас не трактат, а руна, таму нам важна *ўяўленне* аб ім. А героя ўяўляюць высокім і гожым. Няхай будзе так. Я казаў ужо, што ён ваявода, герой, талент, але ніяк не правадыр, не манумент. Проста чалавек, страсны, гарачы, нястрыманы чалавек, любоў якога да народа (абстрактная спачатку) запаліла ўрэшце невялікую, найбольш чуткую да праўды, частку гэтага народа і стала ў канцы асэнсаванай любоўю. Ён чалавек жывы і разнастайны, але недзе, падтэкстам, мы павінны ўвесь час адчуваць, што гэта пра такіх, як ён, сказаў паэт: «Твой сын живет, чтоб пасть в неравном бою, всю горечь мук принять без воскресенья».

*Станевіч* — яго сябар, гэтым сказана шмат. Ён толькі трохі больш просталінейны, бо не адчувае такой адказнасці, як Кастусь.

*Вастравух* — чалавек тыповы для паўстанцаў 1863 г. Лічыў, што мужык сустрэне яго абдымкамі, а мужык, на жаль, сустрэў у многіх мясцінах доўбняй. Гэта пра такіх пісаў Жэромскі: «Всё проиграно, беспутно спущено до последней нитки... Вот сейчас выползет страх...» Цікава паказаць адраджэнне гэтага чалавека. Ад шляхецкага рамантызму да ўсведамлення таго, што ў паражэнні трэба быць больш мужным, чым у перамозе.

*Юзэфа Яневіч* — божая маці паўстання, Марозава паўстання. Уладнасць да закасцянеласці, калі справа ідзе аб праўдзе паўстання. І, непрыкметна, вялікая дабрыня. Яе гумар павінен быць заўсёды нечаканым: сярод суровых іранічных сказаў раптам выскачыць, як чарцяня з бутэлькі, жарт.

*Яўхіміха* — баба з тых, ідэйныя продкі якіх адны, без мужыкоў, разграмілі калісьці аглоблямі пад Масквою нагайскую арду. Мужыкі былі ці то ў паходзе, ці то п'яныя. Усе як адзін. Так што кіравалі пабоішчам таксама бабы. Яўхіміхі.

*Барданос* — па жонцы і муж. Трошкі больш лянівы, бо жончынай энергіі хапае на дваіх. Васіль Вашчыла, якому не далі разгарнуцца, Пугачоў з невялікай арміяй. Такія, як ён, спачатку, па цемнаце, могуць порах падпаліць у роце пана-настаўніка («усё адно пан»), а потым робяцца героямі. Дзіўна, але ён добры.

*Лосей* — ні ў якім разе не дурань. Чалавек, магчыма, і не бліскуча адукаваны, але прыродна разумны. Хітрая і небяспечная асоба, сышчык па самай натуры сваёй.

*Мураўёў* — аб гэтым пісаў ужо. Трэба памятаць толькі, што і ён — чалавек з трагедыяй, што ён увесь час вымушаны (і не без поспеху) змагацца з самім сабою, з рудыментамі пакут сумлення. Выключна разумны, жорсткі. Як вораг — страшны. Як разбэшчвальнік душ — жахлівы. Як чалавек — увасабленне той смяротнай сілы, якая ва ўсе вякі гняла людзей. Сімвал адвечнай іерархіі насільства. Перст лёсу з мяса і крыві, які нібы забыў, што ён памрэ, як усе.

*Парафіяновіч* — аб гэтым паўтару толькі тое, што гаварыў ужо. Хай ён, чорны здраднік *для нас*, будзе ва ўсім мець рацыю *для сябе*. І таму акцёр павінен паважаць сябе ў гэтай ролі і не абражаць яе віскам і дрыжэннем каленак. Проста дзевятнаццацігадовы няўдачнік. Камісар без ваяводства, разбіты без адзінага бою палкаводзец, каханак без каханай, паўстанец без мужнасці, аплецены хітрым і страшным ворагам. У подласці ягонай прысутнічае нават нейкая веліч адчаю.

*Пасланец жонду* — зародыш Цэзара без задаткаў Цэзара. Чалавек, які пайшоў у бунт, бо лічыў яго пачаткам кар'еры, а цяпер не кідае толькі таму, што амністыі няма і яго павесяць. Падман лічыць падмуркам палітыкі. З такіх, калі бог дае ім рогі, вырастаюць дыктатары.

*Гогель* — роля не такая простая, як здаецца. Гэта не проста нягоднік. Гэта нягоднік з прэтэнзіямі. Праз некалькі год яго пачне рваць друкаваным словам, і тады ён выпусціць кніжку, у якой будзе паклёпнічаць на Кастуся.

*Панцялееў* — вобраз важлівы таму, што гэта апошняя перамога Кастуся. Капітан Панцялееў стане з часам рускім рэвалюцыянерам, актыўным дзеячам «Зямлі і волі». Таму нават у памылках і зманных выказваннях ён павінен быць вельмі абаяльным, як кожны сумленны і чысты чалавек (пазней абзац быў закрэслены аўтарам).

Караткевічаў вобраз Кастуся Каліноўскага — гэта, бадай, самае глыбокае, шматграннае і аб'ёмнае яго ўвасабленне ў савецкай літаратуры. Бо ён прайшоў праз паэзію, прозу і драму пісьменніка. Ад верша, рамана да п'есы ён даследваўся аўтарам на розных узроўнях. І ў выніку вобраз атрымаўся цэласным, успрымаецца жывым, запамінаецца.

Але поўнае ўяўленне пра Караткевічаў вобраз Каліноўскага чытач будзе мець толькі пасля таго, як пазнаёміцца з яшчэ адной яго іпастассю, увасобленай у лібрэта балета «Кастусь Каліноўскі», якое ніжэй прапануецца чытачу. (Друкуецца ўпершыню, па аўтографе, які захоўваецца ў асабістым архіве У. Караткевіча.)

*Кастусь Калиновский*

*Либретто балета в трёх частях, десяти картинах*

ЛИЦА

Кастусь Калиновский — (в символических сценах — Свет).
Марыська.
Царь — (в символических сценах — Князь Тьмы).
Мать.
Геленка.
Епископ.
Прочие.

— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!
— То ўзаемна.

*(Пароль повстанцев 1863—1864 гг.)*

## Вступление к либретто

Восстание 1863—1864 гг. против царизма. Вождь самого демократичного его крыла, «красных», Кастусь Калиновский. Жизнь его, отданная за счастье белорусов и вообще всех простых и угнетенных земли.

Край с богатым прошлым, лишенный в этот момент даже названия. Сложнейшее сплетение чаяний, страстей, самолюбий. Царизм, лишающий даже права дышать, «белые» магнаты, думающие только о своем кармане, и «красные», искренне болеющие за свободу, демократию, социализм, кровью платящие за свои убеждения. На поле боя, в тюрьмах, на виселицах. «Красные», впитавшие в себя идеи французской революции, польских демократов, идеи Герцена и Чернышевского. И «самый красный», подпольная кличка которого — *Хамович* — великий сын Белоруссии, Калиновский.

Главное действующее лицо балета — он. И народ. Доведенный до крайней степени отчаяния, обманутый, выступающий зачастую против своих же лучших друзей и заступников. Сложность обстановки была в том, что муравьевыми всех мастей был пущен слух: повстанцы — это господа, восставшие, чтобы вернуть крепостное право. Случалось, что мужики даже обращали против них оружие. Однако Калиновский, Врублевский, Траугутт и подобные им своей кровью купили этому народу-царисту *понимание*. И, мало того, *будущее*.

*Потому что именно в память о них, жертвах восстания, был провозглашен 28 сентября 1864 года в Лондоне, в Сент-Мартинс-Холле I Интернационал.*

Эти люди хорошо прожили и хорошо, пусть трагически, умерли. За народ, за его хаты, за его право дышать.

Сюжетом балета будет являться их борьба против царизма, против всех угнетателей. Борьба Кастуся. И его любовь к Марыське.

Мы мало знаем о ней. Скорей только по слухам. По кресту, воздвигнутому ею в память Кастуся неподалеку от хутора Анялин. Ну и еще из стихов Калиновского.

Марыська, чарнаброва галубка мая,
Гдзе ж ся падзела шчасце і ясна доля твая;
Усё прайшло-прайшло, як бы не бывала,
Адна страшэнна горыч у грудзях застала.
. . . . . . . . . . . . . . . . .
Калі за нашу праўду бог нас стаў караці
Дый у прадвечнага саду вялеў прападаці,
То мы прападзем марна, но праўды не кінем.
Хутчэй неба і шчасце, як праўду, абмінем.

Они «прапалі не марна». Утверждение их бессмертия и величия — вот основа балета.

